АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ІНСТЫТУТ МОВАЗНАЎСТВА ІМЯ ЯКУБА КОЛАСА

Л. Ф. ШАТАЛАВА

# БЕЛАРУСКАЕ ДЫЯЛЕКТНАЕ СЛОВА

ВЫДАВЕЦТВА «НАВУКА І ТЭХНІКА»
МІНСК 1975

4С(Бел)
Ш28

Навуковы рэдактар
Г. У. АРАШОНКАВА

Рэцэнзенты:
дактары філалагічных навук
С. Б. Бернштэйн, І. С. Козараў, Н. І. Талстой,
кандыдаты філалагічных навук
Г. П. Клепікава, В. Н. Тапароў

**Л. Ф. Шаталава**

Ш28 Беларускае дыялектнае слова. Рэд. Г. У. Арашонкава. Мн., «Навука і тэхніка», 1975.

208 с. (АН БССР. Ін-т моваазнаўства імя Якуба Коласа). У перапл.

У кнізе прадстаўлена дыялектная лексіка, сабраная аўтарам у многіх раёнах Беларусі. Гэта ў асноўным словы, якія не зарэгістраваны ў «Беларуска-рускім слоўніку» (1962), і словы, якія адрозніваюцца ад літаратурных семантыкай, словаўтваральнымі афіксамі, формай роду, месцам націску, нерэгулярнымі фанетычнымі змяненнямі.

Ш $\frac{70105-123}{M316-75}$ 69—75 4С(Бел)



# ПРАДМОВА

Беларуская дыялектная лексікаграфія налічвае ўжо шмат цікавых і змястоўных слоўнікаў, але патрэба ў далейшым зборы і вывучэнні абласной лексікі яшчэ вялікая. У дадзеным слоўніку змешчана лексіка, якая збіралася аўтарам у многіх раёнах Беларусі ў час дыялекталагічных экспедыцый з 1953 па 1973 г. Тут падаюцца словы, якія адсутнічаюць у «Беларуска-рускім слоўніку» (1962), за выключэннем тых, што маюць паметы *абласное, устарэлае,* а таксама словы, якія адрозніваюцца ад літаратурных значэннем ці адценнем значэння, словаўтваральнымі афіксамі або іх адсутнасцю, формай роду, месцам націску, і словы, якія характарызуюцца нерэгулярнымі фанетычнымі змяненнямі.

Слоўнікавыя артыкулы падаюцца ў алфавітным парадку. Загалоўнае слова прыводзіцца ва ўмоўным арфаграфічным напісанні, а ў дужках пасля яго — фанетычныя варыянты. У сувязі з тым, што ў слоўніку прадстаўлена лексіка з розных раёнаў Беларусі, гаворкі якіх адрозніваюцца паміж сабой не толькі фанетычнымі, але і граматычнымі рысамі, некаторыя граматычныя асаблівасці адлюстроўваюцца не ў загалоўным слове, а ў фанетычных варыянтах. Гэта датычыць формы множнага ліку назоўнікаў на *-е (-э), -а,* а таксама дзеясловаў на *-ті (-ты), -те (-тэ).* Націск ставіцца на загалоўным слове і на фанетычных варыянтах. Пасля прыводзяцца граматычныя (для назоўнікаў — род, для дзеясловаў — трыванне, для астатніх часцін мовы — лексіка-граматычны разрад) і, калі неабходна, стылістычныя паметы. Пры назоўніках, якія ўжываюцца толькі ў множным ліку, даецца памета *толькі мн.* У тым выпадку, калі ў матэрыялах зафіксавана форма множнага ліку, хаця магчыма ўжыванне гэтага слова і ў адзіночным ліку, загалоўнае слова даецца ў форме множнага ліку з паметай *мн.* Выбухное *г* вылучаецца шрыфтам: **г**.

Значэнне слова тлумачыцца па-рознаму: пры дапамозе літаратурнага сіноніма-эквівалента (*абмылак* — змылак, *адвона* — някрута, *аселенец* — селядзец, *бубны* — шамкі, *галаплечка* — майка, *глюмка* — дзюба); апісальным шляхам (*абруч* — тупы край касы, *адціраць* — мыць бялізну, *блізна* — памылка пры тканні палатна, незатканае месца, *вобліца* — частка рукі ад далоні да локця); адсылкай да слова, якое тлумачылася раней (*аднацэпы* — тое, што і аднацэпіца, *венца* — тое, што і вена, *драчка* — тое, што і драч II).

Матэрыялы для ілюстрацыі значэння слова прыводзяцца ў спрошчанай транскрыпцыі. Націск ў ілюстрацыйным матэрыяле ставіцца толькі ў тым выпадку, калі можа быць розначытанне. Пасля кожнага прыкладу ўказваецца населены пункт, у якім запісаны матэрыялы. Калі ілюстрацыйны матэрыял не прыводзіцца, ўказваюцца толькі населеныя пункты, дзе зафіксавана слова.

# ПРЫНЯТЫЯ СКАРАЧЭННІ

## РАЁНЫ

Арш. — Аршанскі
Асіп. — Асіповіцкі
Баран. — Баранавіцкі
Барыс.— Барысаўскі
Браг. — Брагінскі
Брэсц. — Брэсцкі
Бяроз. — Бярозаўскі
Бярэз. — Бярэзінскі
Ваўк. — Ваўкавыскі
В.-Дзв.— Верхнядзвінскі
Віл. — Вілейскі
Віц. — Віцебскі
Вор. — Воранаўскі
Гродз. — Гродзенскі
Докш. — Докшыцкі
Драг. — Драгічынскі
Жлоб. — Жлобінскі
Жыт. — Жыткавіцкі
Зэльв. — Зэльвенскі
Іван. — Іванаўскі
Івац. — Івацэвіцкі
Калінк. — Калінкавіцкі
Кам. — Камянецкі
Кап. — Капыльскі
Кар. — Карэліцкі
Клецк. — Клецкі
Клім. — Клімавіцкі
Краснап. — Краснапольскі
Лаг. — Лагойскі
Лельч.— Лельчыцкі
Лун.— Лунінецкі
Люб. — Любанскі
Лях. — Ляхавіцкі
Маз. — Мазырскі
Маладз. — Маладзечанскі
Маст. — Мастоўскі
Міёр.— Міёрскі
Мін. — Мінскі
Мядз. — Мядзельскі
Навагр. — Навагрудскі
Нар. — Нараўлянскі
Нясв. — Нясвіжскі
Паст. — Пастаўскі
Петр. — Петрыкаўскі
Пін. — Пінскі
Пол. — Полацкі
Пух. — Пухавіцкі
Рас. — Расонскі
Свісл. — Свіслацкі
Смарг. — Смаргонскі
Стаўбц. — Стаўбцоўскі
Тал. — Талачынскі
Уздз. — Уздзенскі
Уш. — Ушацкі
Хойн. — Хойніцкі
Хоц. — Хоцімскі
Чэрв. — Чэрвеньскі

## ІНШЫЯ СКАРАЧЭННІ

абразл.— абразлівае
асудж. — асуджальнае
безас.— безасабовы
выказ. — выказнік
выкл. — выклічнік
груб. — грубае
дзеепрым. — дзеепрыметнік
дзіц. — дзіцячае
ж. — жаночы род
займ. — займеннік
зак. — закончанае трыванне
зборн. — зборны
злучн. — злучнік
знач. — значэнне
зневаж. — зневажальнае
іран. — іранічнае
м. — мужчынскі род
мн. — множны лік
н. — ніякі род
наз. — назоўнік
незак. — незакончанае трыванне
пабочн. — пабочнае слова
памянш. — памяншальнае
прым. — прыметнік
прыназ. — прыназоўнік
прысл. — прыслоўе
устар. — устарэлае
часц. — часціца
экспр. — экспрэсіўнае

# А

АБАДЗЁН *м.* Авадзень. *Абадзён дужа кусае кароў.* Старае Сяло Зэльв.

АБАЛО'НІСТЫЙ (оболо'ністый) *прым.* З абалонню. *Оболоністый хвэйнік, бо стегаецца смола.* Бастынь Лун.

АБАЛО'НЬ (оболо'нь) *ж.* Слой драўніны з гадавымі кольцамі. *Зрэзаў хвэйку і можна узнать, сколькі ёй год по оболоні.* Бастынь Лун.

АБАПНУ'ЦЦА *зак.* Завязаць фартух. *Абапніся хвартухом, а то плаццяя зымажыш.* Моханава В.-Дзв.

АБВА'РАНІКІ *мн.* Бульба, звараная ў лупінах. *Ля, маму, звары на абет абваранікаў, і будзім есці с кіслым малаком.* Навасёлкі Свісл.

АБДА'ШАК *м.* Застрэшак у нізе франтона. *Зрабіў шчыт у канцы хаты і зрабіў абдашак.* Альхоўка Навагр.

АБДЗЁРАК *м.* Кавалачак бульбы, які застаецца пасля здзірання яе на тарцы. *Дзяры бульбу ўсю і ні кідай бальшэя абдзёркі. О, які абдзёрак ты пакінула.* Ваўкавічы Тал.

АБДЗЁРКА *ж.* Тое, што і абдзёрак. *Мама, я ўсе рукі падрала, маленькую абдзёрку пакідала.* Варонавічы Пух.

АБДЗІ'РКІ (обді'ркі) *толькі мн.* Зрэб'е. *Обдіркі із ылну называюцца верхов'е.* Азарычы Пін. *Абдзірала лён на грэбень і сабрала многа абдзірак.* Шкураты Браг.

АБЕРЛЮ'ХТА (обэрлю'хта) *ж.* Фрамуга. *У вокновы зробыв у вэрху обэрлюхту. Вона одчыняецца увэрх.* Горск Бяроз.

АБЕ'РНІЦЫ *мн.* Дошкі, што ставяцца на калёсы замест драбін пры перавозцы сена, снапоў. *Калі трэба вазіць сена або снапы, тады кладуць аберніцы. Гэта такія дошкі, якія кладуцца па бакох цялегі.* Навасёлкі Свісл.

АБЕ'РТКА (обе'ртка) *ж.* Скіба (хлеба). *Гэ, з'еў цэлу обертку хлеба. На ўсю кулідку обертку одрэзаў.* Бобрыкі Петр.

АБЕ'ЧКА I *ж.* Прыстасаванне, на якое матаюць ніткі. *Змытала дзьве шпулі пражы на абечку.* Моханава В.-Дзв.

АБЕ'ЧКА II (обе'чка) *ж.* Абечак (у рэшаце). *Зделав обечку для сіта.* Бастынь Лун. *Абыдраў старую ліпіну і здзелаў абечку ў рэшата.* Моханава В.-Дзв.

АБЖЫ'РНЫЙ (обжы'рный) *прым.* Пражэрлівы. *Обжырный вэн, богато есть.* Бастынь Лун.

АБЗО'ЛЫ (обзэ'лы) *мн.* Першы, знадворны слой дрэва. *Чому ты дэрэво нэ обрэзов, порэзов, а обзэлы оставів.* Горск Бяроз.

АБІРЫ'ЧЫЦЬ *зак.* Ацэрабіць (пра капусту, бурачкі, бручку). *Выкапала бручку і буракі, а ціпер трэба іх абірычыць.* Сімакава Кар.

АБЛАТО'ШЫЦЬ *зак.* Абтрэсці, абабраць, абабіць. *Сягодня ноччу ўсе яблакі аблатошалі і сукі пылымалі.* Моханава В.-Дзв.
АБЛЕ'ТАК *м.* Дровы, якія пералетавалі. *На зіму загатоўленый аблетак паліць у печы. Ета дровы, якія пералетаваюць і перазімуюць.* Шкураты Браг.
АБЛЕ'ТКАВЫ *прым.* Які мае адносіны да аблетка. *Трэба зрабіць скітку, злажыць аблеткавыя дровы ў скірту.* Шкураты Браг.
АБЛІ'ПКІ *толькі мн.* *Шалёўка* (у дзвярах і вокнах). *Нада прыбіць к ушыкам абліпкі.* Якубова Рас. *У адным акне ёсць абліпкі, а ў другім нет. Прыбі к акну абліпкі.* Вароніна Рас.
АБЛІТУ'РА *ж.* Шалёўка. *Зрабі мне вокны с аблітурай. Аблітура прыбіваецца да ушакоў.* Паляцкішкі Вор.
АБМА'НКА (обма'нка) *ж.* Пустышка. *Дай дітяті обманку і буде спать.* Бастынь Лун.
АБМЕ'ШКА *ж.* Мука для абмешвання корму свінням. *Намалоў абмешкі мех, цяпер будзіць надоўга свіням абмешваць. Абмешка добра вышла еты рас.* Моханава В.-Дзв.
АБМЫ'ЛАК *м.* Змылак. *Абмылак ляжыць на брылю, вазьмі і памый ногі.* Моханава В.-Дзв.
АБМЫ'ЛКІ *толькі мн.* Мыльная вада, у якой мылі бялізну. *У абмылках памый атнімку.* Моханава В.-Дзв.
АБНО'ГА (обно'га) *ж.* Пылок, які збірае і нясе пчолка на лапках. *Пчолка собірае з квятков пылок і на лапках несёт обногу.* Бастынь Лун.
АБНО'ЖКА (абно'шка) *ж.* Тое, што і абнога. *Пчыла нясецъ абношку на ношках.* Сляяўшчына Рас.
АБО'ЛТУС *м.* Асталоп. *Аболтус еты нічога не дзелаіць, а толькі ляжыць і спіць.* Моханава В.-Дзв.
АБО'РАГ (обо'рог) *м.* Прыстасаванне з чатырох слупоў і пад'ёмнай стрэшкі для сена. *Зробыв оборога на сено, кэб нэ замокало. Оборог мает толькі стрэху, а стэн нэма.* Горск Бяроз.
АБО'РНІК *м.* Вушка ў лапці. *Нада вітушкі ўцягнуць у аборнік і абуць лапці. Пырваўся адзін аборнік у лапці.* Даўгабор'е Рас. *Уцягнула вітушкі ў аборнікі лапцей і абула лапці.* Сляяўшчына Рас.
АБРА'ДЗІЦЦА (обра'діцца) *зак.* Адзецца прыгожа. *О, вэй, вэй, ак вэна обраділаса хорошэ, хорошэ платье наложыла.* Бастынь Лун.
АБРО'ТНІК (обру'тнік) *м.* Повад пры аброці. *Прыв'яжы ік оброці обрутнік. Возьміце обрутнік у рукі, дай ведзіце коня.* Бобрыкі Петр.
АБРУ'ЗГНУЦЬ *зак.* Апухнуць, ацячы (пра твар, ногі). *У міне ногі абрузглі дужа.* Моханава В.-Дзв.
АБРУ'Ч *м.* Тупы край касы. Парэчча, Асёткі, Якубова Рас. *Палатно лопнула аш ды самага абруча ў касе. Абруч у касе тоўшчы за палатно.* Міратычы Кар. *Кыса скасілася аш да абруча.* Булыніна Рас.
АБРЫ'Д (абры'т) *м.* Утора. *Дзешка складаецца с клёпак, у клёпках вырызаюцца абрыды, а ў абрыт устаўляецца дно. Абрыт дрэнна вырызаў.* Якубова Рас.
АБРЭ'ЗГЛЫЙ (обрэ'зглый) *прым.* Апухлы. *Вон обрэзглый, у его тэло обрэзглое, як пальцэм ткнув у тэло, то получаецца бо мысочка маленька.* Горск Бяроз.
АБСА'ДА (апса'да) *ж.* Аправа (для вакон і дзвярэй). *Прыгытываў апсаду для дзьвярэй і вокан.* Моханава В.-Дзв.



АБСКАБЛІ'ЦЬ (апскаблі'ць) *зак.* Акарыць. *Пайду апскаблю брвеньня, а то стала порціцца.* Моханава В.-Дзв.
АБСТРАКІ'ВІЦЬ (апстракі'віць) *зак.* Апячы (крапівой). *Усе лыткі апстраківіла страківой.* Сляяўшчына Рас.
АБУЛО'НКА *ж.* Шыба. *У вакне пабілася абулонка, нада засцякліць.* Моханава В.-Дзв.
АБУ'РАНЫ *толькі мн.* Дробныя каласкі, саломка, якія астаюцца пры арфаванні збожжа. *Калі жыта веюць ці арфуюць, пух лажыцца зразу, а за пухам лажацца абураны, а за абуранамі лажыцца пазадьдзя, а за пазадьдзям лажыцца чалавое жыта.* Шкураты Браг.
АБХАДЗІ'ЦЦА (апхадзі'цца) *незак.* Упраўляцца па гаспадарцы. *Трэба іці апхадзіцца каля скаціны.* Ністанішкі Смарг.
АБЦЭ'НГІ (обцэ'нгі) *толькі мн.* Абцугі. *Дай обцэнгі вырваті гоздь.* Бастынь Лун.
АБЦЯ'ЖКІ (апця'шкі) *толькі мн.* Адходы пры трапанні лёну. *Лён трыпалі і апцягвалі апцяшкі, а с апцяшкаў вілі вяроўкі.* Сляяўшчына Рас.
АБЧО'СКІ (апчо'скі) *толькі мн.* Пачассе. *Калі чысалі лён сьвінэю шчоткаю, у руках астываўся кужаль, а на шчоткі апчоскі.* Ваўкавічы Тал.
АБШЛО'Г (апшло'х) *м.* Манжэта. *У каптане ў рукаве ў нізу апшлох прышы. Ушы ў апшлох гузіка.* Міратычы Кар.
АБШЛУКАТО'ВАЦЬ (обшлукото'ваць) *незак.* Абабіваць. *Просо обшлукотовалі, сушылі, тоўклі і варылі.* Бобрыкі Петр.
АБШЫ'ЎКА (обшы'вка) *ж.* Пояс у фартуху. *Уврсэ хвартух обшыты обшывкою.* Азарычы Пін.
АБЫЙСЦІ'СЯ *зак.* Пабегаць (пра карову). *Карова мыя абыйшлася, цельная.* Даўгабор'е Рас.
АБЯЧЭ'ЙКА I (абічэ'йка) *ж.* Прыстасаванне, на якое матаюць ніткі. *Ныпрала рукуятку і змытала на абічэйку.* Сляяўшчына Рас.
АБЯЧЭ'ЙКА II (абічэ'йка) *ж.* Біч (у цэпе). *Угорынай прывізаў абічэйку да цапавіліна.* Сляяўшчына Рас.
АБЯЧЭ'ЙКА III *ж.* Павека. *Яна ўжо закрыла свае абячэйкі — спіць. Не, адна абячэйка аткрыта, муся не спіць.* Стайкі Барыс.
АБЯЧЭ'ЙКА IV (абічэ'йка) *ж.* 1. Абечак (у рэшаце). *Здзелаў абічэйку на рэшата.* Вароніна Рас. 2. Абруч у жорнах. *У жорнах на верхні камень набіваюць абічэйку.* Якубова Рас.
АВАДЗЁН *м.* Авадзень. *Карову ўкусіў авадзён. Авадзён дужа кусаецца.* Навасёлкі Свісл.
АВЕ'ЧАЧКІ *мн.* Коцікі вярбы. *На краснай вярбе авечачкі ўжо параслі. Якія жоўтыя авечачкі на галінцы вярбы.* Шкураты Браг.
АВО' *часц.* Вось. *Во ён тут ляжыць, а я вярчусю, ішчу тапор.* Моханава В.-Дзв.
АВО'Й *выкл.* Выражае здзіўленне. *Авой, які ён прыгожы, я такіх не відзела.* Моханава В.-Дзв.
АВО'Й-ВОЙ *выкл.* Тое, што і авой. *Авой-вой, што ён тут нарабіў, што мы будзім дзелаць!* Моханава В.-Дзв.
АВУ'ЦЬ *выкл.* Ужываецца, калі адганяюць качак. Мнюхі, Казлы, Якубовічы, Пацеенкі Міёр., Раўбічы Мін.
АГА'РТАЦЬ (агы'ртаць) *незак.* Абмятаць (муку ў жорнах). *Агыртаць муку ў жорнах у дзірку.* Ваўкавічы Тал.
АГА'ТКІ *толькі мн.* Бяссмертнік. *Агаткі растуць на сухом месцы і дзе пясок е. Агаткі трэба піць, калі пячонка баліць.* Навасёлкі Свісл.

АГІ′ЛЬ *выкл.* Ужываецца, калі адганяюць гусей. *Агіль атселя!* Барыскі Лаг. *Агіль, пашлі!* Моханава В.-Дзв. *Агіль, куды вы!* Мнюхі Міёр.

АГІ′ЛЯ *выкл.* Тое, што і агіль. Моханава В.-Дзв.

АГЛАБІНА′ *ж.* Аглобля. *Паламалася аглабіна, ды яшчэ ў дарозі. Клямар прыбіты да аглабіны, на які адзяваюць атосы.* Міратычы Кар.

АГЛАБНЯ′ *ж.* Тое, што і аглабіна. *Я сабе зрабіў добрую бярозавую аглабню.* Барыскі Лаг.

АГЛА′ДКА *ж.* Аладка. *Купыла вэртяжку, кэб було у чом колотыты огладкы.* Горск Бяроз.

АГЛЕ′ДЗЕЦЬ *зак.* Угледзець. *Схывала добра грошы, не, іна ш агледзела і ўзіла.* Моханава В.-Дзв.

АГЛО′БНЯ *ж.* Тое, што і аглабіна. *Отэсные зубкы прыбываемо до аглобні.* Горск Бяроз. *Паламалася аглобня, трэба зрабіць новую.* Заазер'е Віл. *Я яшчэ летам загатовіў аглобні ў возі.* Стайкі Барыс.

АГНЁВІСКА (огнёвыско) *н.* Вогнішча. *Пастухы разложылі огнёвыско.* Горск Бяроз.

АГНІ′СКА *н.* Тое, што і агнёвіска. *Пастушкі кінулі агніска, трэба патушыць.* Паляцкішкі Вор.

АГНО′ЕК (огно′ек) *м.* Гніляк. *Добрэ була дэрэвына, лэжала покы зогныла, і лэжыт огноек.* Горск Бяроз.

АГНЯВІ′СКА *н.* Пажарышча. *Хата згарэла, а засталося толькі агнявіска.* Паляцкішкі Вор.

АГРЫ′ЗАК (огры′зок) *м.* Кавалачак бульбіны, які застаецца пасля здзірання яе на тарцы. *Во добрэ дэрэ бульбу, шчо і огрызков нэма.* Паплавы Бяроз. *Драла на тарку бульбу, а агрызкі кідала ў рашку.* Калюга Лаг.

АГРЭ′БАЦЬ (огрэ′бацъ) *незак.* Папраўляць бульбу пасля абганяння. *Картоплі обогнаў, а цепер трэбо іці огрэбаць.* Бобрыкі Петр.

АДАПХНУ′ЦЦА *зак.* Расплаціцца, разлічыцца з вялікімі цяжкасцямі. *Пазыч у яго грошы, дык тады і не адапхнесся і каровай.* Моханава В.-Дзв.

АДАРО′БКА (адаро′пка) *ж.* Прыстасаванне, на якое матаюць ніткі. *Адаропка робіцца с кары. На адаропку мытаім прадзіныя ніткі.* Якубова Рас. *Раней ніткі мыталі юрком на адаропку.* Вароніна Рас. *Пачынак бальшый, і яго мыталі на адаропку.* Сяляўшчына Рас.

АДБІРА′ЦЬ *незак.* Выразаць пазы. *Адборнікам адбіраюць чэцьверць на раму, на дзьверы.* Шкураты Браг.

АДБІ′ЎКА *ж.* Перагародка. *Адбілі адбійку на кухні.* Ністанішкі Смарг.

АДБРО′ДЗІЦЬ (одбро′дыты) *зак.* Адбрадзіць. *Трэбо ногамы одбродыты, а тоды косыты, кэб чужого нэ зохвотыты.* Горск Бяроз.

АДВАРО′ТКА I *ж.* Лішак асновы ў шырыну пры накіданні ў ніты і бёрда, які ідзе назад. *Пераснавала кросны, бёрда дванаццаць пасмаў, а я наснавала трынаццаць, вот і ідзе адваротка назад.* Жахавічы Маз.

АДВАРО′ТКА II *ж.* Борт пінжака. *Зрабіў у піджаку адваротні няроўныя, адна адваротка большая, а другая меншая.* Шкураты Браг.

АДВЕ′ДКІ (атве′ткі) *толькі мн.* Адведзіны. *Хведараха радзіла сына, заўтра пайду ў атветкі.* Моханава В.-Дзв.

АДВО′НА (атво′на) *прысл.* Някрута. *Прадзі кужаль атвона, а не крута.* Сяляўшчына Рас.



АДВО′ННА (атво′нна) *прысл.* Тое, што і адвона. *Спрадзі мне воўну атвонна і нікрута.* Вароніна Рас.

АДВО′НЫ (атво′ны) *прым.* Адхонны. *У пуні дужа атвоная стрыха.* Сяляўшчына Рас.

АДГУ′СТАК (одгу′стак) *м.* Ніжняя частка снапа. *В одгустках много колост'я е.* Дзмітравічы Кам.

АД′Е′ДКІ (од′е′дкі) *толькі мн.* Аб'едкі. *Осталоса много од'едкэв на столе.* Бастынь Лун.

АДЗЁР (одёр) *м.* Памост на дрэве, дзе стаяць вуллі. *Прыготовів одёр на стэйло, буду засмыкаті вулей на дэрэвіну.* Бастынь Лун.

АДКАЛАЦІ′ЦЬ (одколоті′ті) *зак.* Аддзяліць, вылучыць частку з гаспадаркі. *Мачыха і батько одколотілі его, нэ захотелі жыті з ім і далі малую частку хозяйства.* Азарычы Пін.

АДКАЛЬКАВА′ЦЬ (аткалькава′ць) *зак.* Перазняць малюнак праз капірку. *Трэба мне гэты рысунак аткалькаваць і вышыць макатку.* Навасёлкі Свісл.

АДКАСНУ′ЦЦА (аткасну′цца) *зак.* Адрачыся. *Я стала бедная, дык ат міне ўсе аткаснуліся і ніколі воч не пыкажуць ка мне.* Моханава В.-Дзв.

АДКІ′ДКА (одкі′дка) *ж.* Верацяно пражы. *Прадэмо на вэрэтэно, напралі однэ вэрэтэно — одна одкідка, другэе — другая одкідка.* Азарычы Пін.

АДКРУЦІ′ЦЬ (одкруты′ты) *зак.* Адламаць. *Одкрутыла осушка от бохана і ідучы з'ела.* Горск Бяроз.

АДЛІ′Ў (атлі′ў, одлі′ў) *м.* 1. Стрэшка ў нізе франтона для сцёку вады. *Для ісцёку вады ўкладаюцца адліву па шалёўцы церас усю сцяну.* Шкураты Браг. *Забіў закот і зрабіў атліў, кап выда ні зылівала сцяну.* Сяляўшчына Рас. 2. Драўляны жалабок для сцёку вады. *Зделав одлів, кэб вода стэкала.* Бастынь Лун.

АДНАЗІ′МАК *м.* Аднагадовае жарабя. *Жарабочак, які адну зіму гыдываўся,— завём адназімак.* Сяляўшчына Рас.

АДНАЦЭ′ПІЦА (одноцэ′піца) *ж.* Памылка пры ўкіданні асновы ў ніты, калі замест адной ніткі ўкінулі ў ніт дзве. *Праз усё палатно ідзе одноцэпіца. От кідала ў ніты і не ўкінула одну нітку ў ніт, а дзьве.* Бобрыкі Петр.

АДНАЦЭ′ПЫ (одноцэ′пы) *мн.* Тое, што і аднацэпіца. *Основала лішнія ніткі, і трэбо ўсмыкаты ў одын цэпок дзьве ніткі. Вось гэто і е одноцэпы.* Азарычы Пін.

АДНІ′МКА (атні′мка) *ж.* Ануча, якой вымаюць гаршкі з печы. *Атнімка — катлы атнімаць с печы.* Сяляўшчына Рас. *Вазьмі атнімку і зьнімі кацялок з прыпічка.* Моханава В.-Дзв.

АДНО′ЧАПКА *ж.* Тое, што і аднацэпіца. *Прас усе палатно ідзе адночапка.* Шкураты Браг.

АДПЯЧЫ′ (отпечы′) *зак.* Аддубасіць. *Возьмі дзягу і добро ему отпечы, коб ён знаў.* Бобрыкі Петр.

АДРЭ′ЗКІ (атрэ′зкі) *мн.* Старыя боты з адрэзанымі халявамі. *Знасіла боты, атрэзала хылявы, а цяпер атрэскі нашу.* Вароніна Рас.

АДСВЯНЦІ′ЦЬ (атсвянці′ць) *зак.* Аддубасіць. *Вот я атсвянцію яму пы мяккаму месту, што болей не будзіць мянціць языком, як лыпатай.* Моханава В.-Дзв.

АДСКО′ЧЫЦЬ (атско′чыць) *зак.* Сесці на ніжняй скарынцы (пра хлеб). *Мой хлеб адскочыў, бо ён салодкі, а не кіслы.* Шкураты Браг.

АДСМЫ'КАЦЬ (одсмы'каты) *зак.* Адсунуць. *Вы нэ сядэтэ, трэбо стэл отсмыкаты, тоды вы сядэтэ.* Азарычы Пін.
АДСТО'ЙНІК (атсто'йнік) *м.* Бляшаная банка для адстойвання малака. *Нацадзіла малака ў адстойнік і паставіла ў калодзеш отстаяцца.* Барыскі Лаг.
АДХА'ІЦЬ (атха'іць) *зак.* Адхадзіць, вылечыць. *Ён дужа хворы, а я яго чуць-чуць атхаіла.* Моханава В.-Дзв.
АДХА'КАЦЦА (атха'кацца) *зак.* Аддыхацца. *Стары так зайшоўся, што чуць атхакаўся.* Моханава В.-Дзв.
АДХО'НАВАТА (атхо'навата) *прысл.* Някрута. *Добра спрала вайну, атхонавата, някрута.* Моханава В.-Дзв.
АДЦІРА'ЦЬ (ацьціра'ць) *незак.* Мыць бялізну. *Намачыла ў цэбары плацьця, а цяпер буду ацьціраць і пайду на проламку пылыскаць.* Ваўкавічы Тал. *Я цепер ацьціраю плацьце, а тогды пойду муць на копанку.* Бобрыкі Петр.
АДЫХО'Д (адыхо'т) *м.* Лішак асновы ў шырыну пры накіданні ў бёрда, які ідзе назад. *Снавала-снавала і наснавала лішку, от цяпер і ідзе адыхот у кроснах.* Каралёў Стан Мін. *У краснах ідзе адыхот, нада ш во, піраснавала.* Стайкі Барыс.
АЖАРГА'ЦЬ (ажырга'ць) *зак.* Сесці вярхом. *Ажыргаў услон і сядзіць, як барын.* Моханава В.-Дзв.
АЖМЕ'НІЦЬ (ожме'ніть) *зак.* Натрудзіць руку ў час жніва. *Я жала жыто і ожменіла руку.* Бастынь Лун.
АЖУ'ЛЬ *выкл.* Ужываецца, калі адганяюць гусей. *Ажуль, пашлі!* Мнюхі Міёр.
АЗЯ'ЦЬ *зак.* Узяць. *Азіла молока солодкого, туды накрышыла хлеба, от я і зробіла собе потопцы смачные.* Бобрыкі Петр. *Азьмі капіцу і прыв'яжы біча ік цапілну.* Шкураты Браг.
АК *злучн., часц.* Як. *От ак жарко, гэ. Ак залезла ў дрыгву, дак і вулізьці не могу, зямля дрожыць. Не наелаcа корова, хлябой ідзе, ак бо хлябою.* Бобрыкі Петр.
АКАМЁЛАК (акамёлык) *м.* Дзяркач. *Венік зьмёўся, астаўся акамёлак.* Якубова Рас.
АКАРПЕ'ШВАЦЬ *незак.* Апрацоўваць. *Як свой агарод, так акарпешвая, а ка мне не пашла, хворая.* Шкураты Браг.
АКАЧАНЕ'ЦЬ I *зак.* Здохнуць (аб жывёле). *Мыя свіня акачанела за ноч.* Моханава В.-Дзв.
АКАЧАНЕ'ЦЬ II *зак.* Змерзнуць. *Бальшы марос, я надзеў боты, дык у мяне ногі акачанелі, чуць аьцэёр.* Моханава В.-Дзв.
АКЕ'НЦА (оке'нцэ) *н.* Адтуліна для выграбання мукі з жорнаў. *У жорнах зроблено окенцэ, праз ето окенцэ высыпаем муку з жорон.* Бастынь Лун. *Зрабіў у жорнах скрыню, а ў скрыні зрабіў акенца, кап лепей было выграбаць муку.* Альхоўка Навагр.
АКІ' *займ.* Які. *О, акі грубы ву прынеслі шупуль.* Бобрыкі Петр.
АКЛА'ДНІЦА *ж.* Дошка, якая кладзецца на калёсы пры вывазцы гною. *Калі трэба вазіць гной, кладуць на вос акладніцы. Прынясі акладніцу і палажы на калёсы.* Навасёлкі Свісл.
АКЛА'ДЫЧ *м.* Абруч (у рэшаце). *Пляцёнка ў рэшаце нацягваяцца на абечку і абіваяцца акладычам.* Навасёлкі Свісл.
АКНО' *н.* 1. Лаз у склеп. *Замалое зрабіў акно ў склепе, што каша ні ўсадзіць.* Навасёлкі Свісл. 2. Тое, што і акенца. *Здзелаў у жорнах яшчык, а ў яшчыку здзелаў акно для ссыпу мукі.* Барыскі Лаг. 3. Прамежак у кашы паміж рэбрамі. *У кошэліско есть дужка, тоды устовляюцца вокна з дубцэв, а сілегою заплетуюць, дай кэш.* Бастынь Лун.
АКО'ЛУШАК (око'лушак) *м.* Акраец. *Я одрэзала ад бохана хлеба околушка і положыла на торэлку.* Азарычы Пін.
АКО'НІЦА (око'ныца) *ж.* Аканіца. *Оконыцы от хорошы пороблены до окон. От оконыца, дык оконыца.* Горск Бяроз.
АКО'НЦА *н.* Тое, што і акенца. *У жорнах — скрыня, а ў скрыні е аконца, праз якое выграбаюць муку.* Заазер'е Віл.
АКРА'ЕЧКА (окра'ечка) *ж.* Абрэзак матэрыялу. *Убэры окраечкі со стэла. Во ета окраечка прыгодіцца.* Бастынь Лун.
АКРА'ЙКА *ж.* Спавівач. *Ідзе баба ік бабу, дак брала полачкі і акрайку саматканую. Гэтай акрайкай спавівала дзіцятка.* Шкураты Браг.
АКРО'М (окро'м) *прысл.* Асобна. *Надо окром жыть і есті окром.* Бастынь Лун.
АКРУ'ЧАНКА *ж.* Шарсцяная хустка. *Завяжы акручанку, а то будзя халодна.* Вострава Маст.
АКУ'ТАЦЦА (оку'тацца) *незак.* Накрыцца. *На куделі радюшку пошыла, добрэ буде окутацца.* Бастынь Лун.
АКУ'Ц *выкл.* Ужываецца, калі адганяюць парасят. *Акуц, пашлі!* Моханава В.-Дзв.
АКУ'ЧНІК (окучнік) *м.* Шуляк. *Окучнік усіх курэй падрав.* Бастынь Лун.
АЛЕ'ХА (олеха) *ж.* Алешына. *Олеха росте у булоті.* Бастынь Лун.
АЛЁС *м.* 1. Гразкае, багністае месца. *Алёс — месца, дзе стаіць вада і ніколі не высахая. Туды зайсці і заехаць нельга, там растуць кіяшкі і ўсякая дрань.* Шкураты Браг. 2. Густы зараснік. *Оля', які алёс, што ніяк ні пралесці, а тудака е і шчырыя грыбы. Трэба ўзяць сакеру і прачысціць алёс.* Навасёлкі Свісл.
АЛЁШКА (олёшка) *ж.* Тое, што і алёха. *У гаі бувае ростэть і олёшка, і бэрэзка, і кусты.* Бастынь Лун.
АЛІВЯ'РКА *ж.* Змазачнае масла. *Дужа добра алівярка да машыны. Добра змаш машыну алівяркай.* Навасёлкі Свісл.
А'ЛЧНЫ *прым.* Прагны. *Уго, ён жа такі алчны, што ў яго нічога ні дыстаніш.* Моханава В.-Дзв.
АЛЬШЫ'НА (ольшы'на) *ж.* Тое, што і алёха. *Зрэзав ольшыну на дрова.* Горск Бяроз.
АЛЬШЭ'ВІНА *ж.* Алешына. *Альшэвіна вельмі тоўстая, трудна пілаваць.* Барыскі Лаг.
АЛЬШЭ'УНІК *м.* Алешнік. *Пагонім кароў пасціць у альшэўнік.* Барыскі Лаг.
АЛЯ' (оля') *выкл.* Выражае здзіўленне. *Оля', які алёс, што ніяк ні пралесці, а тудака е і шчырыя грыбы.* Навасёлкі Свісл.
АМІНГІ'Т *м.* Менінгіт. *Іна амінгітам хварэла, а цяпер спахаловая.* Сяляўшчына Рас.
АМУНІ'ЧНІК *м.* Рымар. *Ідзі да амунічніка і папрасі ў яго хамута.* Шкураты Браг.
АМУ'Т *м.* Вір. *Пашоў купацца на рэчку, пупаў у амут і утапіўся.* Моханава В.-Дзв.
АМЯ'ГНУЦЬ *зак.* Стаміцца. *Пакуль у яго чаго даб'ешся, дак сам амягнеш.* Шкураты Браг.
АНБА'Р *м.* Свіран. *У нас анбара не было, а была клець. Анбар быў у багатых.* Моханава В.-Дзв.

АНБУЗАВА'ЦЬ (анбузова'ті) *незак.* Перабіраць, капрызіць. *Вэн у мэне такі, што часто ўмее анбузоваті. Дам есті, а вэн не есть, а усё анбузуе.* Бастынь Лун.
АНДЫ'К *м.* Індык. *Андык сердітый, распустів пэр'е.* Бастынь Лун.
АНДЫ'ЧКА *ж.* Індычка. *Андыка зарэзала, а андычку пакінула на племе.* Бастынь Лун.
АНЕ'ГДАЧКІ *прысл.* Нядаўна. *Я анегдачкі відзіла яе на бызары.* Моханава В.-Дзв.
АНЕ'ГДЫСЬ *прысл.* Тое, што і анегдачкі. *Анегдысь я была на кірмашы і купіла стаўбун.* Моханава В.-Дзв.
АНІ'БЫЛЬ *м.* Чорт. *Анібыль яго ведаіць, куды ён пашоў. Ідзі, атстань, анібыль ты, ат мяне.* Сяляўшчына Рас.
АНІГУГУ' *прысл. іран.* Нічога няма. *Ідзі ў клець і паглядзі, што ў засеку анігугу!* Моханава В.-Дзв.
АНО'Ц *выкл.* Ужываецца, калі адганяюць коней. *Аноц, аноц, пашоў!* Моханава В.-Дзв.
АНТРО'БЫ (антро'бу) *толькі мн.* Вантробы. *Заколоў кабана і выпусціў антробу ў ночву.* Бобрыкі Петр.
АПА'ЛІНЫ *толькі мн.* Адходы пры апаланні круп, зерня. *Сапалала крупы, апаліны вылецелі, а крупы асталіся ў начоўках.* Старонка Асіп.
АПА'ЛКА *ж.* Яечня. *Палажыла масла на скавараду, із трох яец сьпякла на сьнядане апалку.* Міратычы Кар.
АПАЛО'НКА (ополо'нка) *ж.* Палонка. *Ідзі просечы ополонку, я пойду полоскать сорочкі.* Бастынь Лун.
АПА'ЛУБКА *ж.* Бляшаная аправа ў жорнах, што набіваецца на ніжні камень і калоду, на якой ён ляжыць. *У жорнах ніжні камень кладом на калодку і абіваем апалубкай кругом калодкі і каменя.* Шкураты Браг.
АПЕЧЧА' (опе'ч'е) *н.* Запечак. *Постол лежыць за опеч'ем на печы.* Бобрыкі Петр.
АПІВО'Ш *м.* П'яніца. *У яе мужык апівош, усё п'е і п'е гарэлку.* Міратычы Кар.
АПІ'ЛАК (опы'лок) *м.* Аполак. *Одпіловалі от дэрэвіны опылок, посля піловалі доскі.* Бастынь Лун.
АПЛА'ВА (опла'ва) *ж.* Лівень. *От оплава сільная, аж банечкі схапаюцца. Оплава усё заліла, по гуліцы ні пройті.* Бастынь Лун.
АПО'ЛАЦ *м.* Кавалак (сала). *Парэзала сала на бальшыя аполацы і злажыла ў кубеляц.* Міратычы Кар.
АПО'ЛАЦЬ *незак.* Палоць. *Трэба грады аполаць, а то травы многа.* Альхоўка Навагр.
АПО'РКІ *мн.* Старыя боты з адрэзанымі халявамі. *Што ты босы ходзіш, надзень апоркі. Боты знасіў, адрэзаў халявы і нашу апоркі кыля хаты.* Моханава В.-Дзв.
АПО'СЛЕ *прысл.* Пасля. *Пойдзем цяпер у грыбы, апосле я не пайду.* Моханава В.-Дзв.
АПО'ЎЗІНЫ *толькі мн.* Шкура вужакі, скінутая ў час ліняння. *Глядзіце, во ліжаць апоўзіны вужакі. Вужака ліняла і скінула с сябе апоўзіны.* Моханава В.-Дзв.
АПРА'ТАЦЬ *зак.* Агледзець, дагледзець, абмыць. *Стамадзіок ты, ня можаш сябе апратаць.* Шкураты Браг.
АПРА'ТВАЦЦА I *незак.* Уходжвацца са скацінай. *Оля, яна ўжо спратвацца пашла, а ці ні рано есці скаціне.* Навасёлкі Свісл.



АПРА'ТВАЦЦА II *незак.* Адзявацца. *Трэба цяплей апратвацца, а то здараво на дворы.* Навасёлкі Свісл.
АПРУ'ЦІЦЦА *зак.* Тое, што і акачанецъ I. *Мыя карова за ноч апруцілася.* Моханава В.-Дзв.
АПРЭ'СНЯК (опрэ'сняк) *м.* Пірог з прэснага цеста. *Іспэкла опрэсняк і наробыла квасу дзжного.* Горск Бяроз.
АПСІ'К *выкл.* Ужываецца, калі адганяюць ката. *Апсік! кап цябе чорт!* Моханава В.-Дзв.
АПУ'ЗІНЫ (опу'зыны) *мн.* Апоўзіны. *На верх стога кладэм опузыны, коб вэтэр нэ сорвав вэрха.* Горск Бяроз.
АПУ'ЛЬ *выкл.* Ужываецца, калі адганяюць куранят. Моханава В.-Дзв.
АПЫ'ЛЬ *выкл.* Тое, што і апуль. Моханава В.-Дзв., Мнюхі, Казлы, Якубова Міёр., Вароніна Рас.
АПЫ'ЛЯ *выкл.* Тое, што і апуль. Якубовічы Рас., Моханава В.-Дзв., Казлы, Мнюхі Міёр.
АРАБЕ'ЕК (оробэ'ек) *м.* Верабей. *Оробэек зробів кубло пуд стрэхою.* Бастынь Лун.
АРЖЫ'ШЧА *н.* Іржышча. *Жыта пажалі і звезьлі, а засталося аржышча. Бес нас пакасілі аржышча і нам не пакінулі.* Ністанішкі Смарг. *Жыта жжалі, асталося аржышча. Гані кароў на аржышча.* Паляцкішкі Вор.
АРЖО'ННЕ *н.* Іржышча, астаткі сцяблоў. *Высока жнеш і пакідаеш высокае аржонне.* Заазер'е Віл.
АРО'МЫЙ *прым.* Гужавы (пра хамут для ворыва, баранавання). *Вазьмі аромый хамут і запражы кыня ў акучнік і ецъ бульбу гыняць.* Сяляўшчына Рас.
АРУ'Д (ару'т) *м.* Засек. *У мяне была клець, а ў клеці былі аруды.* Мнюхі Міёр. *У свірня ёсць аруды, куды мы сыпям збожа.* Ністанішкі Смарг.
АСА'ДЗЬБА *ж.* Сядзіба. *Во, гэта мая асадзьба.* Паляцкішкі Вор.
АСВІ'НКА (осьві'нка) *ж.* Драўляная пасудзіна для збожжа. *Насыпала цэлу осьвінку жыта.* Бастынь Лун.
АСЕ'ЛЕНЕЦ (осэ'лэнэц) *м.* Селядзец. *Купіла ляку із осэлэнцов.* Горск Бяроз.
АСЕ'ЛАЧАК *м.* Частка сенажаці за гародамі. *Асёлачак скасіў. Асёлачак нівялічкі, кусочак санажаці за агародамі.* Ністанішкі Смарг.
АСКЛЕ'ЦЬ *зак.* Прамерзнуць, замерзнуць. *Я ўчора была на бызары, а калі ехала дамоў, дык так асклела, што зуп на зуп ні пыпыдала.* Моханава В.-Дзв.
АСКЛІ'ЗНУЦЬ *зак.* Аслізнуць. *Мяса мала пасаліла, было цёпла, і яно асклізнула.* Моханава В.-Дзв.
АСКЛО'БІЦЬ (оскло'біті) *зак.* Акарыць. *Трэба дэрэвіну оскло-біті, а то гніе.* Бастынь Лун.
АСКО'БЛІНЫ *толькі мн.* Шалупінне. *Ідзі скрапці бульбу, а аскобліны памый і звары курам.* Заазер'е Віл.
АСМА'ЛАК I (осма'лок) *м.* Бульба з прыгаркамі. *Знімі асмалкі з бульбы і таўчы ком.* Міратычы Кар. *Дай мне осмалкы із зварэной бульбы. Одын осмалок мне дай.* Горск Бяроз.
АСМА'ЛАК II *м.* Смаляк. *Прынясі асмалкаў печ паттапіць. Во, гэты добры асмалак і гарыць добра.* Міратычы Кар.

АСМІ′НКА (осмі′нка) *ж.* Скрыпачка для мукі. *Насыпала осмічку айсянай мукі.* Бастынь Лун.

АСМО′Л (осмо′л) *м.* Амярцвелая смалістая частка хвоі. *Осмол у хвэйцы, стала сохнуті хвэйка.* Бастынь Лун.

АСМЫКА′ЦЦА (осмыка′тыса) *незак.* Асыпацца (пра пражу). *Нэ вы вэлькы чашкы на клубок, бо будут осмыкатыса.* Горск Бяроз.

АСМЫ′ЛКІ (осмы′лкі) *мн.* Смалякі. *Накопалі осмылков на пыдпалку дров.* Бастынь Лун.

АСМЫ′ЧАНЫ *толькі мн.* Адходы пры трапанні лёну. *Калі трэплюць лён, то апцягваюць асмычаны.* Міратычы Кар.

АСНО′ЎКА *ж.* Лішка асновы ў шырыну пры накіданні ў ніты і бёрда, якая ідзе назад. *Аснойка ідзе назат, бо параснавала замнога.* Паляцкішкі Вор.

АСНЫ′ (осны′) *мн.* Пер'е, якое адрастае пасля лінькі птушак. *Зарэзала курыцу, стала скубаты пэр'е, а у ее одны осны.* Горск Бяроз. *Зарэзала куру і чуць ободрала, много основ.* Бастынь Лун. *Зарэзала курку, оскубла пер'е, а пуд пер'ем одны осны.* Бобрыкі Петр.

АСТАНАВІ′ЦЬ (остонові′ті) *зак.* Сшыць (полкі ў спадніцы). *Трэбо остоновіті полы ў спадніцы, бо я хочу ее надеті.* Азарычы Пін.

АСТА′НАК (оста′нок) *м.* Астатак тканіны. *Шыла андарака і оставса останок.* Бастынь Лун.

АСТАРО′НАК *м.* Прыстаронак, месца ў гумне паабапал току, дзе складваецца збожжа. *У таку по бокэх е астаронак. У астаронак ложаць снопы.* Бастынь Лун.

АСТРЫЁ *н.* Вастрыё. *Затупілася ў касе астрыё.* Альхоўка Навагр.

АСТРЭ′НЕЦ (острэ′нец) *м.* Стрэмка. *Острэнец захромів пальца.* Бастынь Лун.

АСТРЭ′ШАННІК (острэ′шэннык) *м.* Маленькі снапок саломы ў першым радзе страхі, які кладзецца камлём уніз. *Острэшэнньк вяжыцца пэрэвэслом у колоссі. Як почынают крыты стрэху солsomою, то прывязывают острэшэнньк уздром уныз, а тоды клодут лопаткы на острэшенныкы уздром уверх.* Горск Бяроз.

АСУ′ШАК (осу′шэк) *м.* 1. Акраец. *Тато, аткрой мне асушка ат бохана.* Навасёлкі Свісл. *Открутыла осушка от бохона і ідучы з'ела.* Горск Бяроз. 2. Сухі кавалачак хлеба. *Осушэк — ето покінуты кусок хлеба, а вон засох.* Бастынь Лун.

АСЦЕ′НЦЫ *толькі мн.* Пер'е, якое адрастае пасля лінькі птушак. *Закруціла сягодня куру, а сколькі ў яе асценцаў, што нельга проста абабраць чыста.* Шкураты Браг.

АСЦЁН (остён) *м.* Паганялка для валоў. *Бувала, возьме остён і почне хвостать волэв: цоб-цобэ.* Бастынь Лун.

АСЫ′ПКА *ж.* Мука для абмешвання корму свінням. *Намалоў асыпкі, хваціць на зіму свіням асыпаць мякіну.* Моханава В.-Дзв.

АСЬМУ′ХА (осьму′ха) *ж.* Пасудзіна для вымярэння сыпкіх рэчываў. *Осьмуха равна одной васьмой гарца.* Бастынь Лун.

АТВАРО′Г (отворэ′г) *м.* Тварог. *Одтопіла кіслэ молоко, буде отворэг.* Бастынь Лун.

АТО′ (ото′) *часц.* Вось. *Бувала, кутніцу накрапаям мясам да спячэм у печы, ото смак.* Шкураты Браг.

АТО′Р *м.* Канец загона, дзе араты паварочваецца з плугам. *Узыраў паласу, а цяпер буду араць атор.* Сяляўшчына Рас.

АТО′РШКІ *толькі мн.* Зрэб'е. *Аторваваюць аторшкі ат пянькі. С аторшкаў уюць саваі, а сывыямі пытплітаюць лапці.* Ваўкавічы Тал.

АТО′ЧЫНЫ (ото′чыны) *толькі мн.* Сала на кішках. *Одобрала оточыны от кышок.* Горск Бяроз. *Ободрала оточыны от кішок.* Бастынь Лун. *Оточыны — гэто сало коло тонкіх кішок.* Азарычы Пін.

АТРАБЯ′НКА *ж.* Вантрабянка. *Крышуцца вантробы і напіхаюцца у кішку. Сёнё на сьнядане пякла антрабянку.* Міратычы Кар.

АТУ-ГА′ *выкл.* Ужываецца, калі адганяюць ваўка. *Ату-га, на яго!* Моханава В.-Дзв.

АУ′СЬ *выкл.* Ужываецца, калі адганяюць свінней. *Аусь, пашла!* Стары Свержань Стаўбц.

АЎЖО′Ж (аўжо′ш) *прысл.* Як-небудзь. *Ну, аўжош зраблю і бес цябе.* Моханава В.-Дзв.

АЎСЮКІ′ *мн.* Высеўкі. *Кісель і жур вараць с аўса; овёс процэдзяць на рэшато, каб не було аўсюкоў.* Бобрыкі Петр.

АЎСЯ′НІСКА (аўся′ніско) *н.* Аўсянішча. *Там, дзе рос авёс, мы завём аўсяніско.* Міратычы Кар.

АЎСЯ′НКА *ж.* 1. Тое, што і аўсяніска. *Авёс звезлі, а цяпер аўсянку загараць, хай прэя.* Паляцкішкі Вор. 2. Аўсяная салома. *Авёс змалацілі, а аўсянку злажылі ў стажок.* Ністанішкі Смарг.

АЎСЯ′ННЕ *н.* Тое, што і аўсяніска. *Гані авечак на аўсянне і пасі іх.* Заазер'е Віл. *Нада па аўсянні пасеяць лён.* Ністанішкі Смарг.

АХА′ЯЦЬ *зак.* Абгаварыць. *Ты свайго мужыка саўсім ахаіла.* Моханава В.-Дзв.

АХВА′Т (охва′т) *м.* Прастудная хвароба ног у коней. *Калі прыехаті і кэнь уморотый, угрэтый і напоіті, то ето охват у коня.* Бастынь Лун.

АХО′ДЖВАЦЦА *незак.* Даглядаць жывёлу, даваць есці. Касталомава В.-Дзв.

АХРА′ПКА *ж.* Храпка. *Вазьмі нош і выраш с кычына ахрапку.* Ваўкавічы Тал.

АЦЁРКІ *мн.* Кавалачкі бульбы, якія застаюцца пасля здзірання яе на тарцы. *Як ты бульбу трэш, такія ацёркі кідаіш. Калі я буду кідаць малыя ацёркі, дык я рукі патру.* Сяляўшчына Рас.

АЦІ′РА *ж.* Дробная саломка і каласы, якія аддзяляюцца пры каласаванні і веянні збожжа. *Каласую жыта, ячмень і вымітаю с абмалочанага аціру. Калі веюць збожа, дак аціра аддзяляецца ат зёран.* Старонка Асіп.

АЦІЯ′Т *м.* Франтон. *Адзін аціят буў забіты ў канцы хаты, а другі не забіты астаўся.* Жахавічы Маз.

АЦУПЕ′ЦЬ *зак.* Прамерзнуць, замерзнуць. *Ой, як я ацупей напрападлая. Ой, як холадна, я ацупела напрападлая.* Шкураты Браг.

АЦУ′ПНУЦЬ *зак.* Тое, што і ацупець. *Адзень чулеечку, а то ацупнеш, сегодня холадна.* Шкураты Браг.

АЦЯЖЭ′РЫЦЬ (отежэ′рэті) *зак.* Перагрэць каня ў дарозе. *Кэнь отежэрэв, зашумев, покрывса шумой.* Бастынь Лун.

АЦЯРО′БКІ (аццяро′пкі) *мн.* Тое, што і асколбліны. *Ідзі скрапсці бульбу, ды танейшыя рабі ацяропкі, а то дужа тоўстыя.* Заазер'е Віл. *Чысці бульбу, алі кап ацяропкі былі тонкія.* Стайкі Барыс.

АЧАПЛЯ′ЦЬ *незак.* Класці першы вянок бярвенняў над вокнамі і дзвярамі. *Вокны і дзьверы вывелі ў зрубі, а цяпер будзім ачапляць кругом ачэпамі па баках і ўдлуш.* Паляцкішкі Вор.

АЧКО′ *н.* Пістон у чаравіках. *Купіла шнуркі, усунула ў ачко і зашнуравала чэрэвікі.* Азарычы Пін.
АЧО′ПІСТЫЙ *прым.* Брухаты. *Баба ачопістая, чуць валюхаіць.* Сяляўшчына Рас.
АЧЧЫ′М *м.* Айчым. *Аччым у его дужа добры, любіць Васілька.* Тульгавічы Маз.
АЧЭ′П (очэп) *м.* Бервяно ў зрубе над прасценкамі, над вокнамі і над дзвярамі. *На вокны і застэнок кладэмо очэпы. Гэты очэп короткі.* Бастынь Лун.
АЧЭ′ПКА (очэпка) *ж.* Пачанка. *Порвалас очэпка у вэдрэ.* Бастынь Лун.
АШАКІ′ (ошакі′) *толькі мн.* Астаткі пасля прасейвання мукі. *Я высеела много ошакоў.* Бастынь Лун. *Апалола крупы, а ашакі замішала курам.* Моханава В.-Дзв.
АШАЛО′ТАК *м. зневаж.* Ненармальны чалавек. *Што ты з ім гаворыш, ён жа ашалотак, нічога не разумея.* Міратычы Кар.
АШКІ′Р *выкл.* Ужываецца, калі адганяюць авечак. *Ашкір, куды!* Барыскі Лаг.
АШКІ′РА *выкл.* Тое, што і ашкір. Заазер'е Віл., Моханава В.-Дзв.
АШКРА′ЎКА (ошкра′ўка) *ж.* Абрэзак матэрыялу. *Кроіла сукенку і многа ошкравак зысталос.* Бастынь Лун.
АШЛА′П I (ошла′п) *м.* Ачэп. *Положылі ошлапу, а цепер, гэ, будом крокву ставіць на ошлапу.* Бобрыкі Петр. *Буду лажыць ашлапы і ставіць кроквы.* Сяляўшчына Рас.
АШЛА′П II *м.* Край дарогі. *Едзь ашлапам, а то ў яму пападзеш. Бярыся ашлапам, а то ў калюжыну заедзеш.* Шкураты Браг.
АШЛА′ПІЦЬ *зак. іран.* Знайсці. *Дзе ён такую-етакую ашлапіў: і як жонка кепская, і як маці.* Шкураты Браг.
АШЧАВЕ′ЦЬ (ошчэвэ′ты) *зак.* Пракіснуць. *Тэпэр тэпло, молоко постояло і ошчэвэло, і нэ смачное есты.* Горск Бяроз.
АШЧА′ЎЛЕНЫЙ (ошча′вленый) *прым.* Кіслы. *Хлеб ошчавленый — ето дужэ пэрэкіс.* Бастынь Лун.
АШЧЭ′П (ошчэ′п) *м.* Тое, што і ачэп. *У зрубі над вокнамі і двэрамі кладуцца ошчэпы. Ужэ одін ошчэп положыв на стену.* Бастынь Лун.
АШЫ′Ш *выкл.* Ужываецца, калі адганяюць курэй. Казлы Міёр., Лешня Кап., Моханава В.-Дзв. Заазер'е Віл. *Ашыш! Арол вас задзяры!* Мнюхі Міёр.
АЮ′СЬ *выкл.* Ужываецца, калі адганяюць свінней. Моханава В.-Дзв., Заазер'е Віл., Барыскі Лаг. *Аюсь у поля!* Бярозкі Хоц.
АЮ′Ц *выкл.* Тое, што і аюсь. Заазер'е Віл., Сяляўшчына Рас., Якубова Рас., Моханава В.-Дзв.

## Б

БА′БА I *ж.* Брус у калёсах, які служыць асновай для драбін і ляжыць на восі. *Шворан праходзіць прас бабу і вось. Баба ляжыць на восі, у бабу заганяюць ручкі для драбін.* Барыскі Лаг.
БА′БА II *ж.* Саха калодзежнага жураўля. *Паламаласа баба ў калодзезі, трэбо новую бабу паставіць.* Навасёлкі Свісл. *У калодзісю згніла баба.* Моханава В.-Дзв.



БА′БА III *ж.* Плашка, якую кладуць на сані і саначкі пры перавозцы доўгага і тоўстага бярвення. *На падсанкі і на капылы кладуцца бабы, коб не поломаліс пыдсанкі, колі кладуть бэрвэно.* Бастынь Лун.
БАБАВІ′ЦА (бобові′ца) *ж.* Мука з бобу. *Бэб посоділі, вырос, і з бобу намололі бобовіцы.* Бастынь Лун.
БАБАВЯ′НІСКА (бабавя′ніско) *н.* Лісты, сцяблы бобу, бабоўнік. *Ат жары бабавяніско вянё.* Міратычы Кар.
БАБАВЯ′ННЕ (бабавянё) *н.* Тое, што і бабавяніска. *Бабавянё добраё, а які будзя боп — невядома.* Міратычы Кар.
БА′БАЧКА (ба′бочка) *ж.* Трыпутнік. *Найды бабочку, одорвы лыстыну і прыaward до раны.* Горск Бяроз.
БАБЕ′ШАЧКА *ж.* Гестка. *Мама, пашый мне кохтачку з бабешачкай.* Шкураты Браг.
БА′БКА I (ба′пка) *ж.* Тое, што і бабачка. *Бапка расце па дарозі. У бапкі шырокі лісток. Да скулы прылажы бапку.* Навасёлкі Свісл. *Во, якая бапка вялікая. Нарвала бапкі, буду парыць і піць.* Паляцкішкі Вор.
БА′БКА II (ба′пка) *ж.* Белая булка з разынкамі. *Я спякла аж дзьве бапкі с разынкамі на вялікдзень, хай дзеці ядуць.* Міратычы Кар.
БА′БКА III *ж.* Прывязка для прымацоўвання біча да цапільна. *До цопільна трэбо прывязаті бабкою біча.* Азарычы Пін.
БА′БКА IV *ж.* Калодачка на надсядзёлку. *У кульбацы на вэрху е двэ бабкі. Праз гэты бабкі прасмыкают пасак і прыв'язываюит до аглоблі. Паламаласа бабка у кульбацы, трэбо зробіті новую.* Азарычы Пін.
БА′БКА V (ба′пка) *ж.* Страказа. *Бабак многа лятая каля рэчкі.* Старае Сяло.
БА′БКА VI *ж.* Тое, што і баба III. *На капулы надзяюцца бабкі, а на бабкі кладуць калоды, тоўстае бярвенне.* Шкураты Браг.
БА′БКА VII *ж.* Канцы сіта, якія замацоўваюцца абручом. *З лык спліла сетку, а цяпер нада прыкрапіць бапку к абічэйкі рэшата.* Вароніна Рас.
БА′БКА VIII (ба′пка) *ж.* Кавалачак дрэва з дзірачкай, куды ўстаўлен верхні канец млёна. *Здзелаў новую бапку ў жорны, уткнуў млён у бапку, а цяпер буду малоць.* Навагрудак Навагр.
БАБО′ВІСКА (бобэ′віско) *н.* Поле, на якім рос боб. *Трэбо тэпэра узораті бобэвіско.* Бастынь Лун.
БА′БЧЫЦЦА (ба′пчыцца) *незак.* Скручвацца. *Нітка бапчыцца, і ня ўдзецъ у вірок, крутая пража.* Ваўкавічы Тал.
БАВЕ′Т (бовэ′т) *м.* Гестка. *Пошыла коптана з бовэтом, а до бовэта прышыла ковнэра.* Азарычы Пін.
БАВУЛЬНІ′ЦА *ж.* Баваўніца. *Купіла бавульніцы і буду снаваць на спадніцы. Бавульніца дарагая.* Моханава В.-Дзв.
БА′ГАН *м.* Багун. *Баган расцець у балоці, ат багана страшна баліць галава.* Моханава В.-Дзв.
БАГДА′НЕЦ (быгда′нец) *м.* Байструк. *Йіна радзіла быгданца ў дзеўках.* Моханава В.-Дзв.
БА′ГНАВЫ *прым.* Грузкі. *От багнаво балота, трасецца, аш ногі гразнуць, у багнаво можна ўляцець і не вылесці.* Міратычы Кар.
БАГНО′ *н.* Багун. *Багно і корова нэ ест, і змея утэкае, бо воно смэрдыт.* Горск Бяроз.

БАГУ'ННІК *м.* Кусты багуну. *Там у балоці дужа многа багунніку, ат якога баліць гылыва. Я туды ў ягады ні пайду, бо там многа багунніка.* Моханава. В.-Дзв.
БАДЗЮЛІ' *мн.* Ваўчкі. *Пышла я ў гарот, дык як налезла ў спадніцу бадзюлёў, дык ні атрасціся ат іх. Улезла ў бадзюлі, як нычыпалася сучык за андырак.* Якубова Рас.
БАДЗЮ'ЛЬКІ *мн.* Шышкі дзядоўніка. *Як улезла ў дзядоўнік, дык бадзюляк нычыплялася за спадніцу.* Якубова Рас.
БАДУ'ЛЬКІ (боду'лькі) *мн.* Ігліца. *Пыд хвэйкою нападала мнэго бодулёк.* Азарычы Пін.
БА'ЙКІ *прысл.* Добра. *Ну, байкі, я табе пращчаю гэта. Ну, байкі, хай будзе гэтак, як ты хочаш. Ну, байкі, я пайду карову падаю.* Навасёлкі Свісл.
БАЙСТРУКІ' *мн.* Кураняты, якія выведіся самасадам. *Ты ж падумай, вышлі ў крапіві байструкі, кура вывела.* Бастынь Лун.
БАЙСЯ'ЛІЦЬ (бойся'літі) *незак. асудж.* Гаварыць абы-што. *Што ты ўсё бойсяліш абы-што?* Бастынь Лун.
БАКАВІ'ЦА (бокові'ца) *ж.* 1. Бакавая частка ложка. *Боковіцу ў ложку зробій завузко.* Бастынь Лун. 2. Бакавая частка ў ткацкім станку. *Дзяржы бакавіцы, будзям закладаць падношкі і навоі.* Міратычы Кар.
БАКО'ВАЧКА (бэкэ'вочка) *ж.* Бакавая скрынка ў куфры. *Бэкэвочка у куфры, а ў бэкэвотцы ніткі лежать.* Бастынь Лун.
БА'ЛА (ба'ло) *пабочн. сл.* Бывала. Міратычы Кар.
БА'ЛЕЧКА *ж.* Папярочная планка ў граблях, у якую набіваюць зубы. *На грабліско трэбо набыты балечку, а ў балечку набыты зуб'я.* Горск Бяроз.
БАЛО'НКА (було'нка) *ж.* Шыба ў акне. *Булонку нада ўставіць у вакне, а то дуіць.* Моханава В.-Дзв.
БАЛО'НЬ *ж.* Слой драўніны з гадавымі кольцамі. *Калі разрэзаць хвойку папярок, дык усярэдзіне будзя сарцавіна, а кругом балонь. Па балоні можна ўзнаць, колькі гот хвойцы. Колькі гот хвойцы, толькі будзя і кольцаў у балоні.* Барыскі Лаг.
БАЛО'ТА І *н.* Гразь. *Дошч пашоў і нарабіў балота. На вуліцы такое балота, што ні прайсці.* Ністанішкі Смарг.
БАЛО'ТА ІІ (боло'то, булото) *н.* Сенажаць на сухом месцы. *Поедзім балота касіць.* Навасёлкі Свісл. *Булота, луг, булотнэ і луговэ сено плохэе.* Бастынь Лун. *Ройное і сухое место, дзе му косім, му зовом болотом.* Бобрыкі Петр.
БАЛТУ'ШКА (болту'шка) *ж.* Пойла для цялят. *У болтушку улі молока і попоі тэлёнка.* Бастынь Лун.
БАЛХВА' (болхва') *ж.* Баваўніца. *Хвартух потканы болхвою чорнэй і краснэй.* Азарычы Пін.
БАЛЬКАВО'Е (балькаво'ё) *н.* Барыш, магарыч. *Будзім піць гарэлку за балькавоё, я ж хату прадала.* Міратычы Кар.
БА'НАЧКА (ба'ночка) *ж.* Кольца, якім прымацоўваецца шыйка касы да кассея. *Надзень баначку і забі клінка, коб не спадавала коса с косья.* Бобрыкі Петр.
БА'НЕЧКА *ж.* Бурбалка на лужынах у час дажджу. *От оплава сільная, аж банечкі схапаюцца.* Бастынь Лун.
БА'НКА *ж.* 1. Жалезнае кольца на ворчыку. *Набіта банка на ворчык, а да банкі прыдзеланый крук, за які цыпляюць плух.* Сяляўшчына Рас. 2. Кольца, якім прымацоўваецца шыйка касы да кассея. *Купіў банку, пайду касу ладзіць.* Карабаўшчына Бабр.



БА'НЬКА *ж.* Тое, што і баначка. Мнюхі Міёр., Моханава В.-Дзв. *Узяў баньку і замацавай касу да касавіла.* Казлы Міёр. *Прынясі баньку, я насаджу касу, заўтра пайдзём касіць.* Касталомава В.-Дзв. *Згубілася банька ат касы. Банька замацоўвае касу на кассі.* Стайкі Барыс. *Купіў баньку і буду касу асаджваць.* Якубова Рас.
БАРАДА' І *ж.* Ніжняя частка кудзелі, з якой прадуць. *Прала кужаль і слабінька ўвізала ў прасніцу, дык дужа добра было цягнуць з барады нітку.* Касталомава В.-Дзв.
БАРАДА' ІІ *ж.* 1. Нязжаты пучок калоссяў, пакінуты ў канцы жніва і перавязаны істужкай. *Я жыта дажала і бараду завіла.* Шкураты Браг. 2. Касмык травы, пакінуты пры касьбе. *Як жа ты касіў, глядзі, колькі ты барот пакідаў за сабой. Вон па ўсей пожні бароды стаяць.* Паляцкішкі Вор. *Дрэнна косіш, многа барот папакідаў.* Паўлавічы Клім.
БАРАДЗЕ'Й (бородэ'й) *м.* Барадач. *Бородэй запустыв бороду, як лопату.* Горск Бяроз.
БАРА'Н І *м.* Прылада, на якой вяжуць ніты. *Пазыч мне бырына', хачу звізаць ніты.* Моханава В.-Дзв.
БАРА'Н ІІ *м.* Рубанак з дзвюма ручкамі. *Ты мне паможаш габляваць бараном доскі?* Моханава В.-Дзв.
БАРАНЫ' *мн.* Два тоўстыя брусы, якія замяняюць палазы і капылы ў санях. *Я зрабіў сані на баранах. У такіх санёх німа капылоў і надаўбняў, а е толькі два тоўстыя брусы. На такіх санях мы возім зімой салому і бярвення.* Навасёлкі Свісл.
БАРБУ'ХА *ж.* Божая кароўка. *Барбуха-барбуха, гарэлае бруха! Ці пень, ці калода? Якая заўтра пагода? Як дошч, дык сядзі, як пагода — ляці.* Заазер'е Віл.
БАРКА'Н *м.* Агароджа з бярвення. *Зрабіў баркан коло хаты з тонкіх дэрэвін.* Бастынь Лун.
БАРЛО'ГА *ж.* Бярлога. *Мядзьвець спіць у барлозі. Свіня насіла сабе салому ў барлогу.* Паляцкішкі Вор.
БАРМУ'ХА *ж.* Цура. *Я азяла вады, пасаліла, накрышыла туды хлеба, заправіла алеем, лучком і зрабіла сабе бармуху.* Навасёлкі Свісл.
БАРМУ'ШКА *ж.* Памянш. ад бармуха. *У ваду накрышыла кавалачкі чорнага хлеба, заправіла посным маслам, нарэзала цыбулі і пасаліла, вот гэта і бармушка.* Навасёлкі Свісл.
БА'РСТВАВАЦЬ *незак.* Жыць добра. *Ну, ён цяпер барствуіць, у яго ўсяго ёсць — і хлеп і да хлеба.* Моханава В.-Дзв.
БАРЫ'ЛА (боры'ло) *н.* Бочачка для напітку. *Борыло ровнэ тром вэдрам воды. Борыло дэрэвяное, с обыдвых бокэў дно і збоку дірочка.* Бастынь Лун.
БАРЫ'ЛКА *ж.* Тое, што і барыла. *Пывборылкі развіла квасу хмэльного і закрыла борылку.* Бастынь Лун.
БАРЫ'ЛЦА (боры'лца) *н.* Драўляная пасудзіна на мёд. *Падгледеў пчол і накочаў борылца мэду.* Бастынь Лун.
БАСТАНЫ' *толькі мн.* Печыва з мукі і льнянога семя. *Бастаны пэклы із мукы і ільненого семня добоўлялі. Бастаны моцна смачны.* Горск Бяроз.
БАСЬ-БАСЬ-БАСЬ *выкл.* Ужываецца, калі падзываюць ягнят. Міратычы Кар.
БАЎКУ'НЕЦ (боўку'нэц) *м.* Ярмо. *Вола золыгать і ў боўкунэц запрагать.* Бастынь Лун.

БАУМА'ГА (боўма'га) *ж.* Папера. *Закруты ў боўмагу мнясо.* Горск Бяроз.

БАЎТАЎНЯ' (буўтуўня') *ж.* Сварка. *У іх у хаці кажный дзень буўтуўня, і чаго яны ні падзелюць?* Сяляўшчына Рас.

БАЎТУ'Н (боўту'н) *м. асудж.* Балбатун. *Боўтун, боўтаеш абы-што пупало.* Бастынь Лун.

БАЎТУ'ША (боўту'ша) *ж.* Буч, рыбалоўная снасць. *Боўтуша робіцца із лозы. Цягнуць боўтушу по канаве і ловяць в'юной.* Бобрыкі Петр.

БА'ХАЦЦА *незак. дзіц.* Спаць. *Тома, ты бахалася ці не? Ідзі бахацца.* Жахавічы Маз.

БА'ХАЦЬ *незак. дзіц.* Тое, што і бахацца. *Тома, ідзі бахаць із дзедам.* Жахавічы Маз.

БАХРАМА' *ж.* Махры. *Зрабіла з нітак бахраму і прышыла да ручніка.* Моханава В.-Дзв.

БАЦ *м.* Пацук. *Так многа бацаў завялосё, што спасу няма. Трэба кошку на бацаў запусціць.* Міратычы Кар.

БАЦЮ'К *м.* Падлетак. *Па вуліцы пабех бацюк Лазара.* Сяляўшчына Рас.

БАЦЯ'Н *м.* Бусел. *Бацян сядзіць у гняздзе.* Ністашішкі Смарг.

БА'ЯЦЬ *незак.* Гаварыць няпраўду, выдумляць. *Што ты мне баяш байкі, бай ды меру знай, гэта ш усё няпраўда.* Міратычы Кар. *Вот абы-што баіць, а праўды німа.* Моханава В.-Дзв.

БАЯ'РКА *ж.* Шаферка ў маладухі. *Антаніна ш была ў Волькі за баярку, і бацька на вяселлі быў.* Моханава В.-Дзв.

БЕ'ГАЦЦА *незак.* Бегаць (пра карову). *Ваша карова бегаецца, трэба весці да бугая.* Міратычы Кар.

БЕЗЫМЯ'ННЫЙ (бізымя'нный) *прым.* Безыменны. *Ударыла бізымянный паліц і дужа баліць.* Стайкі Барыс.

БЕ'КАЦЬ (бэ'каті) *незак.* Бляяць. *Овэчкі бэкают.* Бастынь Лун.

БЕКЕ'Ш *м.* Бекеша. *Ну, што можна сказаць пра бекеш. Гэта доўгае мушчынскае адзенне з даматканага ці фабрычнага сукна, са зборкамі ў паясе, ніз сшыты ў кліны, вот і бекеш.* Вадва В.-Дзв.

БЕ'ЛЬМЫ *толькі мн. груб.* Вочы. *Чаго ты высалупіў свае бельмы?* Моханава В.-Дзв.

БЕЛЯХЦЕ'ЦЬ *незак.* Бялець. *Як ты запылілася, у цябе адны зубы беляхцяць. Беляхціць лух ат рассцеленых палотнаў.* Моханава В.-Дзв.

БЕРАСЦЕ'НЬ (берасьце'нь) *м.* Стары пабіты збанок, аплецены бяростай. *Берасьцень мы завём, калі стаўбунок нямношка паб'ецца. Мы тады яго бяростай апкруцім, і ён нам служыць доўга, гэты берасьцень.* Касталомава В.-Дзв. *Пабіўся стаўбун, дык я ўзіла апкруціла бяростай. Добра будзіць берасьцень крупы ссыпаць.* Моханава В.-Дзв.

БЕ'РВА (бэ'рва) *ж.* Кладка праз рэчку. *Ті однэ бэрвэно, ті два, ті жэрдіно — гэто однэ: бэрва. Бэрву положылі праз рэчку тоўстую, добра пэрэходыті.* Бастынь Лун.

БЕ'ЧЫЦЦА *незак.* Пра перыяд палавой актыўнасці ў авечкі. *Наша авечка бечыцца, хоча да барана.* Казлы Міёр.

БІ'ЛА I (бы'ло) *н.* Набіліцы. *Наста пірыстала ткаць кросны, прыціснула да кужалю біла.* Моханава В.-Дзв. *Трэбо уложыты бэрдо у было. Повэсыла было і уложыла у было бэрдо.* Горск Бяроз.

БІ'ЛА II *н.* Біч (цэпа). *Прывяжы біла да цапільшча.* Бярозкі Хойн.



БІЛАБО'КІ *прым.* Вірлавокі. *Яе мужык білабокі.* Суднікі В.-Дзв.

БІ'ЛЬЦА (бі'льцэ) *н.* 1. Тонкі кіёк, які кладзецца зверху на кросны. *На статівенне зверху кладут більцэ і чэпляют ніт.* Азарычы Пін. 2. Планка для замацоўвання ножак стала. *Поломалосо більцэ ў стале, трэбо почыніті.* Азарычы Пін. *Ву сядзьце за стол і пастаўце ногі на більца.* Бобрыкі Петр.

БІРУ'БАЛКА *ж.* Драўляны гузік прадаўгаватай формы. *Ушый мне ў штаны бірубалку.* Ваўкавічы Тал.

БІТО'К *м.* Цэлы жаўток, неразбіты. *Еечню сьпікла біткамі.* Бобрыкі Петр.

БІЦУЧО'К *м.* Чаранок бурачнага ліста. *Наламала бацьвіння, асморгала зялёное лісьцё, а біцучкі пакрышыла і зварыла халаднік. Ля, акі тоўсты біцучок.* Навасёлкі Свісл.

БІ'ЦЦА (бы'цца) *незак.* Пра перыяд палавой актыўнасці ў кабылы. *Наша кабыла пачала біцца.* Барыскі Лаг. *Кобыла быцца пачала, надо весті да жэрэбка.* Бастынь Лун.

БІЧ *м.* Кароткая палка для гульні ў цуркі. *Біч — кароткая палка, якой деті б'юць по цурцы.* Бастынь Лун.

БІЧА'Й *м.* Круглая дзірка ў верхнім камені, куды сыплюцца зёрны. *Дзірачку ў жорнах мы завём бічай.* Плігаўкі В.-Дзв.

БІЧА'ЙКА *ж.* Абечак (у рэшаце). *Пылымалася ў рэшаці бічайка, нада новую здзелаць.* Ваўкавічы Тал.

БІЧА'ЛЬНЯ *ж.* Пугаўё. *Зламалася ў пугі бічальня, нада новую.* Паляцкішкі Вор.

БІЧО'ЎКА *ж.* Біч цэпа. *Вазьмі гуш і прывяжы бічоўку да калтаі.* Ністашішкі Смарг. *Трэба прывязаць бічоўку да цэпа.* Заазер'е Віл.

БІЯ'К *м.* Біч цэпа. *Зробэтэ добры біяк, коб добрэ було молотэтэ.* Дзмітравічы Кам.

БІЯ'НКА (быя'нка) *ж.* Маслабойка. *Прынысэтэ быянку масла бэтэ.* Дзмітравічы Кам.

БЛА'НКА *ж.* Плінтус. *Положыў пудлогу, а тэпэр трэбо по концэх прыбыты бланку, коб нэ было дырок.* Горск Бяроз. *Намасціў мост і па краях прыбіў бланкі.* Вадва В.-Дзв.

БЛАШЧЫ'ЦА (блошчы'ца) *ж.* Клоп. *Блошчыца вэльмі кусаецца, іх мнэго ў стене.* Азарычы Пін. *Цяпер у нас няма блашчыц.* Навасёлкі Свісл. *У нас блошчыц нэма.* Горск Бяроз.

БЛІЗНА *ж.* Памылка пры тканні палатна, незатканае месца. *Блізна ідзе праз усе полотно, і нічого не могу зробіті.* Бастынь Лун. *Накыдала кросна і накыдала блізну.* Горск Бяроз. *Глядзі, што ты, не бачыш, што парвалася нітка асновы і ты наткала ў палатне блізну.* Стайкі Барыс. *Кідала ў бердо і не замеціла, як прапусьціла одну трасціну. Вот цяпер і ідзе праз усё палатно блізна.* Моханава В.-Дзв. *Калі прапусьціш адну трасціну, тады ў палатне ідзець блізна.* Якубова Рас.

БЛІНО'ЎНІЦА *ж.* Дзежачка, у якой рашчыняюць цеста на бліны. *Памый бліноўніцу і ўчыні бліны нанач.* Ваўкавічы Тал.

БЛІНЫ' I *толькі мн.* Мочкі ў вушах. *Учора прыкалола сабе бліны. Як загоюцца бліны, буду насіць завушніцы.* Моханава В.-Дзв.

БЛІНЫ' II *мн.* Мясістая нарасць пад дзюбай ў курэй. Мнюхі Міёр., Моханава В.-Дзв. *У майго пітуха бальшыя бліны пад клювам.* Якубова Рас. *У нашай курачкі вялікія красныя бліны вісяць пад дзюбаю.* Казлы Міёр.

БЛО'НКА (блэ'нка) *ж.* Лучына, з якой плятуць кашы. *Оболону дэрут на блэнкі, а з блэнак плэтэмо кошэле.* Азарычы Пін.
БЛО'ШНІК (блэ'шнік) *м.* Палын. *Блэшнік — трова дужэ гырка і ростэ коло плэта.* Бастынь Лун.
БЛУ'ЗНІЦЬ *незак.* Трызніць. *Блузніць біс памяці ат цімпіратуры.* Сяляўшчына Рас.
БЛЫХА' *ж.* Клоп. *Блыха дужа сьмярдзіць. Блыха як нап'еццa крыві, то робіцца краснай.* Ністанішкі Смарг.
БО'БІК *м.* Свіны страўнік. *Забіла сьвіню, почыстіла бобік і наложыла у бобік сала, хай высыт.* Бастынь Лун.
БО'ГНІК *м.* Багун. *Богнік ростэ по болотэх у лесі.* Бастынь Лун.
БО'ДНЯ *ж.* Вялікая бочка для збожжа. *Іды у клець і набэры овса у бодні даты конэвы.* Горск Бяроз.
БО'ЙКА *ж.* Вязка лёну. *Нытрыпаў лёну цэлую бойку.* Сяляўшчына Рас.
БО'ЛЦІК (бо'лтік) *м.* Палка з кружком на канцы для збівання масла. *Болтік біть масло ў бэйцы.* Бастынь Лун.
БО'МБЛІКІ (бо'мблікы) *мн.* Бурбалкі на лужынах у час дажджу. *Ідэ дождь, на лужы ізбэгают бомблікы, будэ ішчы дождь.* Горск Бяроз.
БО'НДА *ж.* Пасаг. *Я дотцэ даў бонду: корову, овэчку, сьвіню і сто грошы.* Бастынь Лун. *Яго дычка як ішла замуж, то ён ёй добрую бонду даў: карову, авечку, кыня і многа грошы.* Якубова Рас.
БО'НДАЧКА *ж.* 1. Маленькая булачка. *Напякла сёнё аржаных бондачак, і будзям есці з малаком.* Міратычы Кар. 2. Маленькая булачка хлеба з астаткаў цеста. *Усадзіла хлеп, дзяжу выскрабла лошкай і сьпікла бондачку.* Моханава В.-Дзв.
БОНК *м.* Авадзень. *Бонк забільдзеў і паляцеў. Бонк вельмі кусаг кароў.* Паляцкішкі Вор.
БО'НЬКА *ж.* Біклага. *Ідэмо жаты жыто, трэбо наліты у боньку воды, коб було шчо попыты.* Горск Бяроз.
БОР *м.* Гатунак проса. *Бор — ето просо такее, его не зовом просо, а бор.* Бобрыкі Петр.
БОРТ *м.* Тупы край касы. *Сагнуўся борт у касе.* Барыскі Лаг.
БОРЦЬ (борть) *ж.* Дрэва, у дупле якога жывуць пчолы. *Дрэво з вэлыкым дуплом, дэ могут жыты пчолы, мы зовэмо борть.* Горск Бяроз.
БО'ЎТКІ *мн.* Бурбалкі на лужынах у час дажджу. *Дож ідэ большэй, гледы какіе бойткі на лужах.* Горск Бяроз.
БРА'ЖКА (брашка) *ж.* Спражка. *У рэміні на канцы ёсць брашка. Узяў рэмінь ды як даў мне брашкай, дык вот балела.* Ваўкавічы Тал.
БРАЗКО'ТКІ *толькі мн.* Шамкі. *Надзень каню на шыю бразкоткі, паедзям у сваты.* Шкураты Браг.
БРАКАНЕ'РЫЦЬ *незак.* Паляваць (пра ката). *Кот с самае вясны і да восяні ўходзіць браканерыць за птушкамі.* Навасёлкі Свісл.
БРАХТУ'Н (брэхту'н) *м. асудж.* Хлус. *Брахтун ты брахтун, колі ты скажэш праўду?* Бастынь Лун.
БРАХТУ'НКА (брэхту'нка) *ж.* Хлуселька. *Ета брахтунка, у ее праўды нет.* Бастынь Лун.
БРА'ЦЦА *незак.* Жаніцца. *Трахім з Марыляй будзіць брацца. Скора будзіць свадзьба.* Моханава В.-Дзв.
БРО'ДЗЕНЬ (бро'дзінь) *м.* 1. Вяровачная сетка для сена каню. *Ныкрыпай бродзінь сена ўзяць каню ў дарогу.* Даўгабор'е Рас. 2. Невялікі невад, якім ловяць рыбу два чалавекі. *Мальцы ўзялі бродзінь і пашлі лавіць рыбу.* Моханава В.-Дзв.
БРО'ЎКА *ж.* Сцежачка па баках дарогі. *Каля дарогі ёсць броўка, дык чаму вы ішлі па дарозі, а не броўкаю?* Стайкі Барыс.
БРУКЕ'ННІК (брукэ'ннік) *м.* Лісце бручкі. *Брукэннік вэльмі добры на бручцы.* Бастынь Лун.
БРУКО'ЎНІСКА (бруко'ўніско) *н.* Поле, на якім расла бручка. *Бручку выкопалі, а осталос брукоўніско.* Бастынь Лун.
БРУС *м.* Папярочная планка у граблях, у якую набіваюць зубы. *У граблях ёсць цаўё, на канцы цаўя ёсць вілка. На вілку набіваюць брус, а ў брус заганяюць кляцы.* Паўлавічы Клецк.
БРУСО'К *м.* Тое, што і брус. *У граблях ёсць брусок, куды ўбіваюць зубы.* Ваўкавічы Тал.
БРУ'ШКА *ж.* Бручка. *У брушцы трэбо рабіць перасяканя, а то зарасла пыр'ём.* Навасёлкі Свісл.
БРУШКАВА'ЦЬ (брушкова'ць) *незак.* Бурчаць (у жываце). *У чэрове брушковалі продукты.* Бобрыкі Петр.
БРЫЖЫ' *толькі мн.* Рознакаляровыя істужкі, прышытыя да падола спадніцы. *Пашый мне спадніцу із брыжамі ўнізі, і каб булі разныя.* Шкураты Браг.
БРЫЛЬ *м.* Выступ у коміне, на які кладуць запалкі. *Палажыла сярнічкі на брыль, кап яны не атсыравалі.* Моханава В.-Дзв.
БРЫ'НДЫ *толькі мн.* Тое, што і брыжы. *Пошыла сподніцу і прышыла ў нізу брынды.* Горск Бяроз.
БРЫ'СЬЦІ' *незак.* Плысці. *Хлопец скочыў у воду і пачаў брысьці.* Жахавічы Хойн.
БУ'БНЫ *толькі мн.* Шамкі. *Прычапі к сядзёлцы бубны — паедзім у сваты.* Якубова Рас. *Дай мне бубны надзець каню, паеду ў сваты.* Сяляўшчына Рас.
БУБО'ТКА *ж.* Бутон. *У ергіні многа буботак, а одна буботка расцвіла.* Бастынь Лун.
БУГРЫ'СТЫ *прым.* Няроўны. *Які грунт зямлі бугрысты.* Міратычы Кар.
БУЁЧНІК *м.* Дурнічнік. *У булоту много буёчніку ростэ.* Бастынь Лун.
БУЗА' *ж.* Багна. *Якая буза на балоці, ня можна нох выцягнуць.* Сяляўшчына Рас.
БУКЛА'ШКА *ж.* Біклага. *Налі вады ў буклашку і пайдзём жаць.* Моханава В.-Дзв.
БУЛА'К *м.* Калодачка, тронак. *Паламаўсё булак у ножыку.* Навасёлкі Свісл.
БУЛА'ЎКА I *ж.* Шпілька. *Дай мне булаўку, трэба зашпіліць спадніцу.* Моханава В.-Дзв.
БУЛА'ЎКА II *ж.* Біч цэпа. *Дужа затонка булайка ў цэпі, кепска б'е па снапох.* Паляцкішкі Вор. *У цэпа добрая, грубая булайка, добра б'е па снапох.* Міратычы Кар.
БУЛАЧО'К *м.* Дзяржанне ў піле. *У піле е гамарка, у гамарку ўбіваяцца булачок, за булачок трымаюць рукой, калі пілуюць дрова.* Навасёлкі Свісл.
БУ'ЛБА *ж.* Бульба. *Сэшкою булбу обгоняті, копанкамі булбу огрэбаті.* Бастынь Лун.
БУ'ЛБАТКА *ж.* 1. Мыльны пузыр. *Дзеці пускаюць з мыла булбаткі. Якая вялікая булбатка.* Міратычы Кар. 2. Бурбалка на лу-

жынах у час дажджу. *Булбаткі плаваюць па вадзе, будзя вельмі дошч.* Навасёлкі Свісл.

БУЛБО'ВІСКА (булбо'віско) *н.* Бульбянішча. *Трэба пэрэгораті булбовіско.* Бастынь Лун.

БУЛБО'ЎНІК (булбо'внік) *м.* Бульбянік. *Акі шчэ зелёный булбовнік.* Бастынь Лун.

БУЛЦЫ'Р *м.* Чалеснік. *С печы дым ідзе ў булцыр, а з булцыра ў комін.* Навасёлкі Свісл.

БУЛЬБАВІ'НЕ (бульбовы'нне) *н.* Бульбянік. *Гэты рок бульбовынне добрэ нарасло.* Горск Бяроз.

БУЛЬБА'ШНІК *м.* Бульбянішча. *Гані свіней на бульбашнік.* Заазер'е Віл.

БУЛЬБО'ВІСКА (бульбовы'ско) *н.* Бульбянік. *Трэбо жаты бульбовыско і сушыты.* Горск Бяроз.

БУЛЬБЯ'ШНІК *м.* Бульбянік. *Пасадзіла бульбу пат вішнямі, дык яна пашла ў бульбяшнік, як лаза, а пат кустом нічога няма.* Заазер'е Віл.

БУНДА *ж.* Доўгая сукенка прамога пакрою. *Купіла на бунду простого краму. Бунду буду шыць ік святу.* Бобрыкі Петр. *Я сабе купіла краму і пашыла бунду.* Шкураты Браг.

БУ'НЦІК *м.* Звязка счэсанага і сплеценага лёну. *Шмат шчоскаў кладуць адзін на адзін, а тады іх звязваюць па сярэдзіне, а па канцох сплятаюць і закручваюць, і гэта будзя бунцік лёну.* Міратычы Кар. *Абчысала на свіную шчотку кужаль і звізала ў бунцік.* Моханава В.-Дзв.

БУ'НЬКА *ж.* Пляшка. *Набралі воды у буньку до сена.* Горск Бяроз.

БУРАКАВЕ'ННЕ *н.* Бурачнік. *Трэба нарваті буракавення свіням.* Азарычы Пін.

БУРАКІ' *толькі мн.* Боршч. *Наварыла буракоў з галавізнай.* Моханава В.-Дзв.

БУРА'ЧНІСКА (бурачніско) *н.* Бурачнік. *У гэты рок доброе бурачніско на бураках.* Міратычы Кар.

БУРТ *м.* Насып. *Сідзеў на канаві на бурту.* Бастынь Лун.

БУРТА'ЛЬ *м.* Крышан. *Пашто ву рэжаця етакімі барталямі радыс, чы ву будзяця есці? Во які бальшы бурталь бульбы, што і ў рот ня лезя.* Шкураты Браг.

БУ'РЫ'ЦЬ (бу'ры'ты) *незак.* Ісці (пра лівень). *Ну, ужэ дож бурыт, і вода по гуліцы бурыт. Дож пэрэстаў бурыты.* Горск Бяроз.

БУ'СЕНЬ (бу'сэнь) *м.* Бусел. *Бусэнь прылетэў, будэ тэпло. Ох, як ногы болят, бо посееў бусэнь рэпы.* Горск Бяроз.

БУСЛЯ'НКА *ж.* Буслінае гняздо. *Бусько седыт на буслянцы.* Бастынь Лун.

БУ'СЬКА (бусько) *м.* Бусел. *На страхэ сідыт бусько.* Азарычы Пін.

БУ'ТАЛЬ (бу'тэль) *м.* Бутля. *Наліў цэлы бутэль палітуры. Пазыч мне бутэль, павязу малако прыдываць.* Моханава В.-Дзв.

БУХІ'КАЛА *м. і ж.* Чалавек, які моцна кашляе. *Бухікала, чаго ты бухікаіш увесь дзень.* Падароск Ваўк.

БУХІ'КАЦЬ *незак.* Моцна кашляць. *Гэты бухікала цэлу ноч бухікаў і мне спаць не даваў.* Падароск Ваўк.

БУХО'НЫ *прым.* Пульхны. *Які бухоны блін ты спякла.* Шкураты Браг.



БУ'ХТАВІЦА (бу'хтовіца) *ж.* Гразкае балота. *Нэ гонэтэ туды коровы, бо там бухтовіца, корова там ляжа.* Горск Бяроз.

БУШЧЫ'ХА *ж.* Бусліха. *Бусько стоіт, а бушчыха сыдыт на гнэздэ.* Азарычы Пін.

БУЯ'К *м.* Бык. *Повэла корову да буяка.* Горск Бяроз. *У колхозі е буяк, трэбо вэсты корову да буяка.* Азарычы Пін.

БУЯ'ЧНІК *м.* Дурнічнік. *От піўз пэлю богато буячніку і богато буякоў.* Бобрыкі Петр.

БЫ'ЗАЎКА (бы'зыўка) *ж.* Авадзень. *Бызыўкі кусаюць кароў, і яны пачынаюць гізываць.* Якубова Рас.

БЫК *м.* Лішак асновы ў шырыну пры накіданні ў ніты, які ідзе назад. *Снывала ў пітнаццаць пасам, а бёрда дастала ў чатырнаццаць, дык бык ідзець назат.* Моханава В.-Дзв.

БЫ'СТРЫ *прым.* Стромкі (пра страху). *Быстрая крыша, можно зваліцца.* Бастынь Лун.

БЫСЬ-БЫСЬ-БЫСЬ *выкл.* Ужываецца, калі падзываюць быка. Моханава В.-Дзв.

БЫ'СЮ-БЫ'СЮ-БЫ'СЮ *выкл.* Тое, што і бысь-бысь-бысь. Моханава В.-Дзв.

БЫ'СЯ-БЫ'СЯ-БЫ'СЯ *выкл.* Тое, што і бысь-бысь-бысь. Бярозкі Хоц.

БЫ'ТТА *часц.* Быццам. *Як бытта ты ня ведала яго, які ён ёсць.* Моханава В.-Дзв.

БЭ'БАХ (бэ'бэх) *м.* Бруха. *От корова трыблата, большой бэбэх.* Бастынь Лун.

БЭ'ЛЕЦ I *м.* Вялікае карыта. *Наліў у бэлец воды, коб напылісa коровы.* Горск Бяроз.

БЭ'ЛЕЦ II *м.* Бочка, у якой залівающь лугам бялізну. *Наробыла лугу поўны белец і намочыла одэжу.* Горск Бяроз.

БЭ'ЦЬКА *м.* Грыбок у драўляным будынку. *Бэцька — гэта такі грып, ат якога гніе хата, калі ён завядзецца, дык хату з'есць. У хаці завёўся бэцька і ўвесь пол з'еў.* Навасёлкі Свісл.

БЭ'ЦЯ-БЭ'ЦЯ-БЭ'ЦЯ *выкл.* Ужываецца, калі падзываюць авечак. Сімакава Кар.

БЯГЛЕ'Ц *м.* Уцякач. *Бяглец, які ўцікаіць ат ліментаў.* Даўгабор'е Рас.

БЯГУ'Н I (бэгу'н) *м.* Дрэва, якое спаліла маланка. *Дэрэвына, у якую удырыў гром, мы зовом бэгуном.* Горск Бяроз.

БЯГУ'Н II *м.* Тоўсты сук, на якім круцяцца вароты. *У варотах пара біл і бягун. Біла скрапляюць варота, а бягун дзержыць усе варота. Бягун прыкрапляецца ік шулі, і па ім варота круцяцца.* Шкураты Браг.

БЯДА' (бэда') *ж.* Веласіпед. *Поехав вэн на бэдэ, так кагалі колісь, а тэпэр кагам ровэр, лісапед.* Бастынь Лун.

БЯЗДУ'ШНІК *м.* Бяздушны чалавек. *Ён жа бяздушнік, ён на людзей ні глядзіць і людзей нінавідзіць.* Міратычы Кар.

БЯ'КАЦЬ *незак.* Бляяць. *Авечка бякае, мусі есці хоча.* Міратычы Кар.

БЯЛЁНКА (белёнка) *ж.* Гатунак бульбы. *Картопля белёнка — жоўтая і тожэ смачная.* Бобрыкі Петр.

БЯЛТО'К *м.* Бялок. *Мама, звары бялток крута.* Якубова Рас.

БЯЛЬЧЫ'ЦЬ *незак.* Разбіраць. *Авечку зарэзаў, а цяпер буду бяльчыць.* Якубова Рас.

БЯРЛО'ВЫ *прым.* З нявеянага зерня (пра хлеб). *Ой, ты ясі бярловы хлеп, а я ем ні бярловы, я павеяў жыта.* Ністанішкі Смарг.

БЯССТЫ'ДНІК *м.* Сараматнік. *Бясстыднік ты, што ты сабе думаіш?* Моханава В.-Дзв.

БЯССТЫ'ДНІЦА *ж.* Сараматніца. *Бясстыдніца гэта, йіна не знаіць, што дзелаіць.* Моханава В.-Дзв.

# В

ВАГ *м.* Від навіннасці пражай у час прыгону. *Му пану павінны булі прасці ваг із кужалю і ткаць намёткі.* Шкураты Браг.

ВАДЗЯНІ'К (водені'к) *м.* Пухір. *Кіпяток лінула на рукі, і воденік ускочыв.* Бастынь Лун.

ВАЕ' (вое') *мн.* Падоўжны край бёрда, у які ўстаўляюць трысцінкі. *Зробыв вое да берда. У берді е два вое.* Бастынь Лун.

ВАЖАЕ' (вожае') *толькі мн.* 1. Рагі. *На твары пэт стэкае вожаямі.* Бастынь Лун. 2. Цурок (са страхі). *Сільный дож, аж вожае ліліса со стрэх.* Бастынь Лун.

ВАЙСТРЫЁ (войстрыё) *н.* Вастрыё. *Косіў, і затупілосо войстрыё, трэбо косу побіць.* Бобрыкі Петр.

ВАЙСЯ'ЛІЦЬ (войся'літь) *незак.* Гаварыць абы-што. *Шчо ты войсяліш абы-што пыпало?* Бастынь Лун.

ВАЛ I *м.* Адходы валакна пры трапанні лёну. *Ен лён трэпля, а вал адлятая. Атрапаў вяску лёну, дык многа валу було.* Навасёлкі Свісл. *Трэпаў трэпачкою лён, і мнэго одышло валу.* Горск Бяроз.

ВАЛ II *м.* Валок згорненага сена, гароху і інш. *Нада ісці і зграпці гарох у вал.* Барыскі Лаг.

ВАЛАСНІ'К *м.* Гнойнае запаленне ткані пальца. *У яго валаснік ны пальцу.* Моханава В.-Дзв.

ВАЛАСЯ'НКА *ж.* Сіло. *Вылысянку робюць так: бяруць досачку, а ў досаццы робюць дзірачкі, куды прыкрыпляюць вылысяныя пяцелькі з конскага хваста.* Моханава В.-Дзв.

ВАЛАЧА'Й (волоча'й) *м. асудж.* Валацуга. *Волочай цэлый дзень ходіть по селе і нічого не робіть.* Бастынь Лун.

ВАЛАЧА'ЙКА (волоча'йка) *ж.* Валацужніца. *Мардэлька нічога не робіть, вона тольки ходіть по селе; ак вона любіть ходіті по селе, так і волочайка.* Бастынь Лун.

ВАЛАЧО'НЫ *прым.* Фарбаваны (пра яйцо). *Мне мама дала валачонае яйцо.* Купіск Навагр.

ВАЛАЧЫ'ЦЬ (волочы'ць) *незак.* Баранаваць засеянае поле. *Сыім, потом волочымо і ростэ.* Дзмітровічы Кам.

ВАЛКАВА'ЦЬ *незак.* Качаць (бялізну). *Дай мне валкі, я буду бялізну валкаваць.* Міратычы Кар.

ВАЛКІ' *мн.* Качалкі. *А дзе нашы валкі ляжаць? Нада валкаваць бялізну.* Міратычы Кар.

ВАЛЛЁ *н.* Ашыек у каровы. *Во якое бальшое валлё ў каровы.* Барыскі Лаг.

ВАЛО'ГА *ж.* Дрыгвяністае балота, дрыгва. *Валога ў нас — гэто топкае места. Як станэш, дак валога тросэцца. Утопіцца у вологе нэ утопісса.* Азарычы Пін.

ВАЛО'ЖКА (воло'жка) *ж.* Васілёк. *У жыте мнэго воложкі ростэ.* Азарычы Пін. *Мнэго ростэ у жытовы воложкы.* Горск Бяроз. *Нарвала воложкі.* Міратычы Кар. *У жыті росте воложка.* Бастынь Лун. *Многа валожкі.* Старое Сяло.

ВАЛО'К *м.* Папярочная планка ў граблях, у якую набіваюць зубы. *Зламаўся валок у граблях.* Падасоўе Навагр.

ВАЛО'КА I (воло'ка) *ж.* Невад. *Волока, сплеценая із тоўстых нітак,— рыбу ловіць.* Бобрыкі Петр.

ВАЛО'КА II (воло'ка) *ж.* Вяроўка ў лапцях, абора. *Бэры волокі дай оборсай постолы, бо трэбо істі ў журахвіны.* Азарычы Пін. *Забэрскай волокі ў лапці.* Бастынь Лун. *Оборсай волокі ў лапці.* Бобрыкі Петр. *Трэбо заборсаты ў постолы волокы.* Горск Бяроз.

ВАЛО'ЎНІК (волэ'вік) *м.* Чалавек, які паганяе валоў. *Чоловек, які паганяў волэв, мы зовэм воловнік.* Бастынь Лун.

ВАЛУІ' *мн.* Буякі. *Валуі — гэта бальшыя сінія ягады, ат якіх п'янеіш.* Сімакава Кар.

ВАЛЬЦО'ЎКА *ж.* Пшанічная мука першага гатунку. *Купіла вальцоўкі і буду пячы пірагі ны свята.* Моханава В.-Дзв.

ВАНДЗІ'ЦЬ *незак.* Вэндзіць. *Я чатыры кумпячкі буду вандзіць і хываць да прыпара.* Моханава В.-Дзв.

ВАНДЗО'НЫ *прым.* Вэнджаны. *Я вандзоны кумпячок пакінула, хай вісіць у стропі.* Моханава В.-Дзв.

ВАНСІ'ДЛА (вэнсы'дло) *н.* Цуглі. *Оброть із вэнсыдламы. Возьмы оброть і закэлзай вэнсыдлом коня.* Горск Бяроз.

ВАНЮ'ХА (воню'ха) *ж.* Лясны клоп. *Раздавіла вонюху.* Бастынь Лун.

ВАРАКУ'ЗА (вороку'за) *м.* Няўклюда. *Што гэтот ворокуза вам поможэ. Вэн, гэты ворокуза нічога не поможэ.* Бастынь Лун.

ВАРАПА'ХА *ж.* Рапуха (палявая жаба). *Якая страшная варапаха прыгая.* Міратычы Кар.

ВАРА'ТАК *м.* Вар. *У сагане закіпеў варатак.* Ністанішкі Смарг.

ВАРАЦІ'ЛА (вороты'ло) *н.* Навой. *У кроснах е заднее воротыло і пярэдне.* Бастынь Лун. *Воротыло запэрла запэрнёй.* Горск Бяроз.

ВАРАЯ' (ворэя') *ж.* Кухарка. *Ворэя — гэ хозяйка, шчо варыть есті.* Бастынь Лун.

ВАРКІ'ЛА (воркі'ло) *м. асудж.* Бурчлівы чалавек. *От воркіло, воркіло ўсё бурчыць пыд нос.* Бастынь Лун.

ВАРКІ'ЛЫЙ (воркі'лый) *прым.* Бурчлівы. *Воркіло воркілый, усё ему не хорошэ.* Бастынь Лун.

ВАРО'НКА (воро'нка) *ж.* Дупло. *Дупловата дэрэвіна, воронка на детлы ў дэрэвіне.* Бастынь Лун.

ВАРСТА'Т *м.* Варштат. *Унясі варстат у хату, будзям навіваць кросна.* Міратычы Кар.

ВАРША'ЎКА (ворша'ўка) ж. Гатунак бульбы. *Картопля воршаўка дужэ смачна.* Бобрыкі Петр.

ВА'РЫВА *н.* Агародніна. *У лёшак буду ставіць варыва і сыпаць картоплю на зіму.* Шкураты Браг. *На зіму наложыла поўнюсенькі шчань варыва.* Бобрыкі Петр.

ВАРЭ'ЙКА *ж.* Маленькі гліняны гаршчочак. *Ну, з'ещця кашу, тады я варэйку памую.* Шкураты Браг. *Постаў варэйку на прымурок.* Бобрыкі Петр.

ВА'СІЛЬКА *ж.* Валошка. *Васілька расцець у жыці, з васількі плятуць дзеці вянкі.* Моханава В.-Дзв.

ВАСІ'ЛЬКА *м.* Тое, што і ва'сілька. *Васілька сіні, яго многа расце ў жыці.* Паляцкішкі Вор.

ВАСКАВІ′К (воскові′к) *м.* Мяшочак, у якім адціскаюць сыр. *Дай мне восковіка адціснуць сыра.* Бобрыкі Петр. *Вазьмі васкавік і адцадзі сыр.* Тульгавічы Хойн. *Вукінь сыр з васкавіка.* Ламачы Хойн.

ВАСПА′НКА *ж.* Іспанка. *Занедужаў на васпанку і памёр.* Тульгавічы Хойн.

ВАСЬМЁРНЫ *прым.* Пра палатно, вытканае ў восем панажоў. *Васьмёрныя абрусы ткуць у восім нічальніц і восім панажоў.* Міратычы Кар.

ВАЎЧКІ′ *мн.* Адходы пры прадзенні кудзелі. *Прала пачася і во колькі накідала ваўчкоў.* Кавалі Свісл.

ВАШЫ′ВЫЙ *прым.* Дробны (пра дождж). *От ідэ вошывый дождь цэлый дэнь, ныц нэ поробыш.* Горск Бяроз.

ВЕ′ЕР *м.* Стрыхоўка. *Салому лажылі на латы, а веерам раўнялі салому, а паплецінай прыжымалі.* Барыскі Лаг.

ВЕ′ЙКА (ве′йко, вэ′йко) *н.* Павека. *Яна ужэ закрыла вэйкі і не открыла бэльш. На вэйко сеў ечмень.* Бастынь Лун. *Чалавек спіць, вейкі закрытые, а калі не, дак вейкі адкрытые. Чэшацца вейко, буду плакаць.* Тульгавічы Хойн.

ВЕ′КА (вэ′ко) *н.* Тое, што і вейка. *Вэкі закрывают гочкі, колы чоловэк спіт. Однэ вэко закрыв, а другэе гледыт.* Горск Бяроз.

ВЕ′КЕЦЬ *ж.* Вехаць. *А дзе наша векець муць пасуду, варэйкі?* Шкураты Браг.

ВЕ′НА *н.* Верхняя вузкая частка ў збанку. *У гладышу адбілас вена, а гірка асталася.* Шкураты Браг. *У гладышцы вузкая вена, нельга вумуць.* Бобрыкі Петр.

ВЕ′НЦА (вэ′нцэ) *н.* Тое, што і вена. *Вэнцэ загускоe у збонковы, нэ можнэ рукы усодыты.* Горск Бяроз.

ВЕ′РАСНІ′К (вэ′росні′к) *м.* Верасовы мёд. *Вэроснік — мэд хорошый, пчэла збірае по борэх, по лугэх.* Бастынь Лун.

ВЕ′РАТ *м.* Сып на целе. *Такі верат па целу, і ён дужа свярбіць. Гэта ні чухотка, а верат, які гэтак само свярбіць.* Навасёлкі Свісл.

ВЕРАЦЯНО′ (вэрэтено′, вірцяно′) *н.* Жалезны шпень у жорнах, на якім круціцца верхні камень. *У жорнах ёсць верацяно, а на верацяно надзяюць верхні камень.* Альхоўка Навагр. *У ніжнюм камені е верацяно, на ета верацяно надзяюць камень, які ляжыць навярху.* Шкураты Браг. *У жорнах е вэрэтено, на вэрэтено накладаем вэрхні камень.* Бастынь Лун. *Вірцяно ўбіваюць у спыдняк у жорнах.* Ваўкавічы Тал.

ВЕРАШЧЭ′ЦЬ *незак.* Сквірчэць. *Жыр у печы на сковородзе верашчыць.* Бобрыкі Петр.

ВЕРБАЛО′ЗНІК (вэрболо′знік) *м.* Вербалоз. *Коло рэчкі росте вэрболознік.* Бастынь Лун.

ВЕРХ (вэрх) *м.* 1. Стык двухсхільнай страхі. *Накрылі крышу, а на вэрх положылі вуську.* Азарычы Пін. 2. Макаўка. *Отсэчы од дэрэвіны вэрха.* Азарычы Пін.

ВЕРЦЮХА′ (вэрцюха′) *ж.* Гліняная міска. *Побэлася вэрцюха. Купэла вэрцюху.* Дзмітравічы Кам.

ВЕРЦЯГА′ (вэртэга′) *ж.* Тое, што і верцюха. *Вэртэгы булы вэлікые і малые, у ёй тэрлі бульбу і пэклі бабку. Надэрэм на тэртушку бульбы на бабку і спэчэм у вэртэзы.* Горск Бяроз.

ВЕРЧ (вэрч) *м.* Скрутак лыка, лёну, дроту. *Трэбо полосы на лапці скруціць у верч.* Бобрыкі Петр. *Возьмі вэрч і намочы ў воде, буду плесті лапті. Одэрла на жэлезным грэбні лён і скрутіла ў вэрч.* Бастынь Лун. *Возьмі лутовыя дзяжкі і зматай у верч.* Шкураты Браг. *Купыв большэй вэрч дроту.* Горск Бяроз.

ВЕ′РША *ж.* Рыбалоўная снасць у выглядзе конусападобнай плеценкі з тонкіх лазовых пруткоў, якую ставяць на рэчцы ў неглыбокіх месцах. *Верша робіцца з лозы. Вершу ставяць на рыбу на ноч.* Бобрыкі Петр.

ВЕСЯЛУ′ХА (веселу′ха) *ж.* Вясёлка. *Пагледзіце, екая красіва веселуха на небе.* Тульгавічы Хойн. *Учора пасля дажджу была весялуха на небі, будзя сягоня пагода.* Навасёлкі Свісл. *Дож прайшоў, якая прыгожая веселуха на небі.* Жахавічы Маз.

ВЕ′ТКА *ж.* Пладаносная частка аўса. *Овёс моцно веціслый, большыя веткі.* Бобрыкі Петр.

ВЕТРАГО′НЫ *мн.* Дзве дошкі, якія прымацоўваюцца па краях страхі і сходзяцца ўверсе, утвараючы канёк. *Накрыў страху саломай і па краях прыбіў ветрагоны.* Вадва В.-Дзв.

ВЕ′ТРАНІКІ (вэ′трэныкы) *мн.* Тое, што і ветрагоны. *Пакрыў стрэху соломой і по краех прыбыў вэтрэныкы.* Горск Бяроз.

ВЕ′ТРАНІЦЫ *мн.* Тое, што і ветрагоны. *Накрыў стрэху, а тэпэр трэбо прыбіті ветраніцы. Одна ветраніца оторвалас.* Бастынь Лун. *Зрабіў зашчыту і казырок, а цепер трэбо прыбіць ік латум ветраніцы.* Бобрыкі Петр.

ВЕ′ЦЦЕ (веццё) *н. зборн.* Дробныя галінкі бярозы. *Прынёс веццё, буду візаць веніка.*Ністанішкі Смарг.

ВЕ′ШАК *м.* Вешалка. *Прыбі вешак да сцяны, а то няма куды адзежу весіць.* Міратычы Кар.

ВЕ′ШАЛА (вэ′шало) *н.* Нізка скручаных лык. *Развяжы вэшало і намачы лыкі.* Бастынь Лун.

ВЕ′ШАЛЬНІК (вэ′шальнік) *м.* Вісельнік. *Тут закапаны адзін вэшальнік.* Бастынь Лун.

ВЕ′Я *ж.* Вейка. *Вырвала вею із века.* Горск Бяроз.

ВЕ′ЯНКА I (ве′енка) *ж.* Драўляны шуфлік для ручного веяння. *Трэбо ўзяті веенку і іті жыто вееті.* Бастынь Лун.

ВЕ′ЯНКА II *ж.* Павека. *Вырвала валасінку з веянкі.* Навасёлкі Свісл.

ВЕ′ЯЧКА (вэ′ечка) *ж.* Тое, што і веянка I. *Возмы вэечку і іды вэй жыто.* Горск Бяроз.

ВЖЭ′ЗЕНЬ *м.* Верасень. *Прышоў вжэзень, нада бульбу капаць.* Паляцкішкі Вор.

ВІД *м.* Твар. *Вэн мае від красівы. Ох, які від у тэбэ чырвоны, шчо-то у тэбэ боліт?* Азарычы Пін. *У яго від красный, здоровый. Яго від такі бледный.* Шкураты Браг.

ВІ′ДЛЫ I *толькі мн.* Вілы. *Паламаліся відлы, трэба новыя купіць.* Паляцкішкі Вор.

ВІ′ДЛЫ II *толькі мн.* Ростань. *Я з Мартынам спаткаўся ў відлах.* Паляцкішкі Вор.

ВІ′КАЎЕ *н.* Поле, дзе скошана віка. *Віку скасілі, і засталося вікаўе.* Заазер'е Віл. *Віку звезьлі, гані кароў на вікаўе.* Вадва В.-Дзв.

ВІ′ЛАЧКІ *толькі мн.* Частка калаўрота ў выглядзе двухзубай вілкі з жалезнымі зубамі, на якую надзяюць шпульку. *Надзень шпуліну на вілачкі.* Стайкі Барыс.

ВІ′ЛКА *ж.* 1. Частка грабель, на якую набіваюць папярочную планку з зубамі. *Зрабіў вілку ў грабільне зашырока, што грабёнку не насадзіць на вілку.* Барыскі Лаг. *У граблях ёсць цаўё, на канцы*

*цаўя ёсь вілка. На вілку набіваюць брус, а ў брус заганяюць кляцы.* Паўлавічы Клім. 2. Снасць для лоўлі ракаў. *Зрабій дзірывяную вілку, буду лавіць ракаў.* Сяляўшчына Рас.

ВІ'ЛКІ I *толькі мн.* Сахор. *Дай мне вілкі гнэй накідаті.* Бастынь Лун.

ВІ'ЛКІ II *толькі мн.* Грабелькі на касе. *Нада прывізаць ік касе вілкі, пайду авёс касіць, а бес вілак плоха.* Якубова Рас.

ВІ'ЛКІ III *толькі мн.* Ростань. *Ідзіце за вёску, там у вілках дарога адна пойдзе направа, а другая налева.* Міратычы Кар.

ВІЛО'ЧНІК *м.* Вожаг. *Зробів бэрозовый вілочнік.* Бастынь Лун. *Так біла, аж вілочнік перабіла.* Жахавічы Хойн.

ВІ'ЛЫ *толькі мн.* Саха калодзежнага жураўля. *Зрэзаў дуп і зрабій вілы, а то старыя вілы ў калодзісі згнілі.* Стайкі Барыс.

ВІ'НКЕЛЬ *м.* Дэталь у плузе, да якой прымацаваны падэшва і паліца. Вострава Маст.

ВІО'РАЧКА *ж.* Памянш. ад віорка. *Віорачка бегая на хвойцы.* Навасёлкі Свісл.

ВІО'РКА *ж.* Вавёрка. *На хвойцы сядзіць віорка.* Навасёлкі Свісл.

ВІРО'К *м.* Невялікая палачка з засечкамі на канцах для звівання нітак. *Усмыкні ў вірок ніткі і трысці на клубок.* Заазер'е Віл. *В'ю ніткі прас вірок на клубок.* Міратычы Кар. *Укладзі ў вірок нітку і матай на клубок.* Ністанішкі Смарг. *Вазьмі вірок і мытай ніткі з матавіла на клубок.* Ваўкавічы Тал.

ВІТУ'ХА *ж.* Дошчачка для снавання красён. *Вітуха — гэта маленькая дошчачка. Яна мае дзве дзірачкі, куды ўсмыкаем ніткі і снуем кросны.* Заазер'е Віл.

ВІТУ'ШКА *ж.* Абора. *У лапцях ёсць вушкі, а ў вушкі ўцягваюць вітушкі. Пырвалася вітушка ў лапцю.* Вароніна Рас. *Бацька мне зьвій вітушкі, нада вітушкі зацягнуць у вушкі лапцей.* Сяляўшчына Рас. *У лапці ўцягнула вітушкі і абула.* Даўгабор'е Рас. *Зьвій вітушкі, зацягнуў іх у аборнікі і абуў лапці. Абуў лапці, а вітушкі апкруціў кала нох.* Замошша Рас.

ВІХО'Р *м.* Шчаціние ў свінні на хрыбце. *У маей свіні на хібу віхор.* Бобрыкі Петр.

ВІХРО'ВІНА *ж.* Віхор (пра валасы). *У Тодара на галаве віхровіна ростэ.* Азарычы Пін.

ВІЦІ'НЫ *мн.* Пераплятанне, на якое кладуць жэрдкі ў плоце. *Жэрдкі ў ізгародзі кладуць на віціны.* Сяляўшчына Рас.

ВІЦЦЁ *н. зборн.* 1. Дробныя галінкі бярозы. *Ідзі нылымай віцця на венік. Ты добрае віццё прынёс?* Якубова Рас. *Прынясі віццё ў хату, буду візаць венік.* Ністанішкі Смарг. 2. Скручаная лаза для прывязвання паплёту да кроквы. *Паплеціну прывязывалі ды латы віццём.* Якубова Рас.

ВІ'ЧКА *ж.* Мышыны гарох. *У ячменю многа вічкі. Вічка ўвесь ячмень спляла.* Мнюхі Міёр.

ВІШ *м.* 1. Зазімавалая трава другога ўкосу. *Погналі коровы на віш, а вонэ віш не хочуть есці.* Бастынь Лун. 2. Подсціл. *Пойду я плохэй травы накошу на віш. Трава плохая, но добра будзе на віш подосласць корові.* Бобрыкі Петр.

ВІША'Р (выша'р) *м.* 1. Тое, што і віш у 1-м знач. *Пойду покошу вышару подослаты корову.* Горск Бяроз. 2. Гнілое сена. *Сэно покосылы, дож пошоў, воно лэжало-лэжало і згныло, вот і вышоў вышар.* Горск Бяроз.



ВІШШО' *н. зборн.* Тое, што і віццё ў 1-м знач. *Нылымала вішша на венік.* Якубова Рас.

ВІШЭ'Ц *м.* Тое, што і віш ў 1-м знач. *Вішэц схне на пне, і ніхто его не есть, бо стара трава.* Бастынь Лун.

ВІЮРО'К *м.* Невялікая палачка з засечкамі на канцах для звівання нітак. *Улажы ў віюрок нітку і матай на клубок.* Паляцкішкі Вор.

ВО'БЛІЦА *ж.* Частка рукі ад далоні да локця. *Руку от долоні до локця му зовом вобліца.* Бобрыкі Петр.

ВО'ВУДЗЕНЬ *м.* Авадзень. *Вовудні дужа кусаюць кароў. Як укусіць вовудзень карову, дак тая задрала хвост і бягом дахаты.* Міратычы Кар.

ВО'ГЕР *м.* Жарабец. *У нас у калхозі е вогер.* Навасёлкі Свісл.

ВО'ГНІК *м.* Запаленне на скуры. *Была болька. Я яе разгнявіла, дык цяпер прыкінуўся вогнік. Нага стала красная.* Моханава В.-Дзв.

ВО'ГНІСКА (во'гніско) *н.* Вогнішча. *Пастухі разлажылі вогніско.* Навасёлкі Свісл.

ВО'ДВАРАЦЕНЬ *м.* Лішак асновы ў шырыну пры накіданні ў ніты і бёрда, які ідзе назад. *Насnавала лішніх нітак у кроснах, вот цяпер і ідзе водварацень назад.* Паўлавічы Клім.

ВО'ДЗЕКА *прысл.* Тут. *Ты яе ішчы, а іна водзека стаіць.* Моханава В.-Дзв.

ВО'ДРА *ж.* Адзёр. *Дзіця захварэла на водру. Усё цела красная, такая сыпка выступіла.* Моханава В.-Дзв. *Дзевачка занедужала на водру.* Тульгавічы Хойн.

ВО'КА *н.* Лаз у склеп. *Зрабій вока замалое ў пограбі, што чуць пралесьці з кашом.* Шкураты Браг.

ВО'КЛАДКА (во'клатка) *ж.* Тронак. *Воклатка добрая будзе да нажа.* Навасёлкі Свісл.

ВО'ЛЕ *н.* 1. Валлё. *Кура воле наела.* Бастынь Лун. 2. Нараст тлушчу на падбародку. *Во якое ў яго воле на пыдбэрэдніку.* Бастынь Лун.

ВО'ЛІКІ *мн.* Коцікі вярбы. *От дужо богато на вербэ волікаў нарасло.* Бобрыкі Петр.

ВО'ЛЯ *н.* Валляк. *Гладка карова, аж воля матаецца.* Шкураты Браг.

ВОНЭ' *займ.* Яны. *Говодэв коровэ боящца. Вонэ дужо кусающа.* Азарычы Пін.

ВО'РАК *м.* Мяшок. *Ворак благі, дзіравы — бульба выдваліцца.* Ністанішкі Смарг.

ВО'РАТ *м.* Каўнер; прарэх. *Засцягні ворат у сароццы.* Моханава В.-Дзв. *Зашпілі ворат у штынах.* Ваўкавічы Тал.

ВО'РАХ (во'рох) *м.* Куча. *От у бабу цэлый ворох подушок. Возьмі метлу і ідзі чыніць жыто, бо трэбо іссунуць у ворох. Жыто іссунуў у ворох, а цепер трэбо веець.* Бобрыкі Петр.

ВО'САКАР *м.* Таполя. *Восакар адцвіў, пух пуская па ветру.* Шкураты Браг.

ВО'СЛАНКІ *мн.* Збітыя дошкі, якія кладуць на дно воза. *Зрабій восланкі на дно воза — збожа вазіць.* Міратычы Кар.

ВОСЬ *ж.* Асцюк. *У каласу калючую часць завём восі, калі многа, а калі адна, дак вось.* Даўгабор'е Рас. *Вось пупала ў рот, чуць дохтар дастаў.* Якубова Рас.

ВО'ТРАНІЦА *ж.* Адгароджанае бярвеннямі месца для ссыпу мякіны ў таку. *Каля асеці здзелаў вотраніцу, куды буду сыпаць мякіну, вотрану.* Даўгабор'е Рас.

ВО'ТРАНЫ *толькі мн.* Буйная мякіна. *Запа'р вотраны і дай карові есці.* Моханава В.-Дзв.

ВО'ЎСІСКА (во'ўсіско) *н.* Аўсянішча. *Жані кароў на воўсіско.* Навасёлкі Свісл.

ВО'ЎЧАНКІ (во'ўчэнкі) *толькі мн.* Агульная назва неядомых грыбоў. *Што вы набралі одных воўчэнак, іх у нас не ядуть.* Бастынь Лун.

ВО'ЧКА *н.* Пятля ў нітах, у якую кідаюць нітку асновы. *Парвалася вочка ў нічальніцах, і ідзе нітка проста.* Паляцкішкі Вор. *У нічальніцах есць вочка, у яго ўцягваюць ніткі асновы, а тады ў бёрда ўкідаюць.* Міратычы Кар.

ВО'ЧЧЫМ *м.* Айчым. *У яго воччым добры, жалея яго.* Стайкі Барыс.

ВТРАНЦА'ЦЦА *незак.* Умешвацца. *Што ты не ў свае справы втранцаешся?* Міратычы Кар.

ВУГНЯ'ВІЦЬ *незак.* Хныкаць. *Чаго ты вугняеш, аддам твою ручку, ні вугняў.* Тульгавічы Хойн.

ВУГНЯ'ВЫЙ (вугня'вуй) *прым.* Гугнявы. *У яе сын вугнявуй.* Тульгавічы Хойн.

ВУ'ЖЫК *м.* Прывязка для прымацоўвання біча да цапільна. *Вазьмі вужык і прывяжы біч да цэпа.* Моханава В.-Дзв.

ВУ'ЗАЛАВАК *м.* Брус у калёсах, які служыць асновай для драбін і ляжыць на восі. *Вузалавак ляжыць на восі. Праз вузалавак і вось праходзіць шворань. У вузалавак убіваюць ручкі і кладуць драбіны.* Навасёлкі Свісл.

ВУ'ЗВАЛАК *м.* Тое, што і вузалавак. *На восі кладзецца вузвалак і скрапляецца шворанам.* Альхоўка Навагр.

ВУ'ЗГАЛАВЕНЬ (ву'зголовэнь) *м.* Тое, што і вузалавак. *Вузголовэнь зробів бэрэзовый і положыв на вось, і засодів шворэнь.* Бастынь Лун.

ВУ'ЗДЗЕР (ву'здер) *м.* Частка снапа ад перавясла да зрэзу. *Нажала снэп, і які ніровный вуздер у снэпу, погледі, які ў мэнэ рэвный ды хорошэй.* Азарычы Пін.

ВУЗЛЯ'К *м.* Вузел. *Завяжы вузляка на ніццы.* Міратычы Кар.

ВУЗЫР *м.* Тое, што і вуздзер. *Каласэ сухія, а вузырэ сыраватыя.* Міратычы Кар.

ВУ'ЛІ-ВУ'ЛІ-ВУ'ЛІ *выкл.* 1. Ужываецца, калі падзываюць авечак. Моханава В.-Дзв. 2. Ужываецца, калі падзываюць гусей, качак. Навасёлкі Свісл.

ВУЛЬ-ВУЛЬ-ВУЛЬ *выкл.* 1. Тое, што і вулі-вулі-вулі ў 1-м знач. Моханава В.-Дзв. 2. Тое, што і вулі-вулі-вулі ў 2-м знач. Азарычы Пін., Заазер'е Віл., Паляцкішкі Вор.

ВУ'НЬДЗЕКА (ву'ньдзіка) *часц.* Вунь. *Што ты, ня відзіш, вуньдзіка стаіць лыпата.* Моханава В.-Дзв.

ВУ'РЗГАЎКА *ж.* Дзіцячая цацка, якая зроблена з тоўстых нітак і невялікай косткі; калі яе круціць на нітцы, яна гудзе. *Зрабіў сыну вурзгаўку, дак ён з ёй і спаць кладзецца. Ён з вурзгаўкай добра забыўляіцца.* Моханава В.-Дзв.

ВУ'РЗГАЦЬ *незак.* Утвараць гук, падобны на гудзенне. *Раскруці вурзгаўку добра, дак йіна будзіць вурзгаць даўжэй.* Моханава В-Дзв.



ВУРЧА'ЦЬ *незак.* Гыркаць (пра сабаку). *На каго там сабака вурчыць?* Ністанішкі Смарг.

ВУСЕ'ЛЬ *м.* Вусач. *У гэтага вуселя вусы аж да вушэй.* Шкураты Браг.

ВУ'СЕНІЦА (ву'сініца) *ж.* Вусень. *Усю капусту паела вусініца.* Барыскі Лаг.

ВУ'СЦЕЛЬГА *ж.* Намарзень. *Вязы скрапляюць капылы, а дзьве вусьцельгі скрапляюць вязы.* Жахавічы Маз.

ВУ'СЬКА *ж.* Верхняя лата, якая ляжыць на скрыжаванні крокваў і злучае іх паміж сабой. *Накрылі крышу і на верх на кроквы положылі вуську.* Азарычы Пін.

ВУТ-ВУТ-ВУТ *выкл.* Тое, што і вулі-вулі-вулі ў 2-м знач. Жахавічы Маз., Міратычы Кар.

ВУ'ХА I *н.* Вушка ў лапцях. *У пасталох пабрываліся вушы, у адно вуха ні ўбарсала аборы. Вазьмі пасталы і забарсай ў вушы аборкі.* Шкураты Браг. *У постолох пубрываліся вушы.* Бобрыкі Петр.

ВУ'ХА II (ву'хо) *н.* Шыйка касы. *Злымалася вуха ў касе, і нельга касу насадзіць.* Моханава В.-Дзв. *Одломалосо ў косе вухо.* Бобрыкі Петр.

ВУ'ЦІ-ВУ'ЦІ-ВУ'ЦІ *выкл.* Тое, што і вулі-вулі-вулі ў 2-м знач. Бярозкі Хоц., Стары Свержань Стаўбц., Моханава В.-Дзв., Мнюхі Міёр.

ВУЦЬ-ВУЦЬ-ВУЦЬ *выкл.* Тое, што і вуці-вуці-вуці. Заазер'е Віл., Моханава В.-Дзв., Казлы, Мнюхі Міёр., Паляцкішкі Вор., Сімакава Кар., Старае Сяло Зэльв.

ВУ'ШАЛЬНІЦА *ж.* Вусень. *Вушальніца аб'ела ўвесь капусны ліст. Вушальніца напала на капусту.* Навасёлкі Свісл.

ВУША'Т *м.* Цэбар. *Пыстаў вушат на памоі.* Якубова В.-Дзв.

ВУ'ШКІ *толькі мн.* Жабры. *Адвярні вушкі ў шчупака. Калі вушкі красныя, тоды шчупак свежы.* Міратычы Кар.

ВУШНЯ'К *м.* Вушак. *У дзьвярах і вокнах у вярху на ўлуткі, ці вушнякі, кладуць нагловень.* Шкураты Браг.

ВУ'ШЫ *толькі мн.* Тое, што і вушкі. *Калі вушы красныя, то рыба свежая.* Ністанішкі Смарг.

ВЫ'БІРНІЦЫ *мн.* Каноплі без насення, якія вырываюць рана. *Пайду вырву выбірніцы ў каноплях.* Альхоўка Навагр.

ВЫ'ГАРКА *ж.* Тарфяны кар'ер. *Торф выбіруць, а туды выда найдзець, вот вам і выгарка. У выгарках лён мочуць. У выгарках расцець ціна.* Сляляўшчына Рас.

ВЫ'ГІБНУЦЬ (ву'гібнуць) *зак.* Прапасці на корані (пра пасевы). *Вугібнулі на полі жыто і пшаніца, одна зосталаса лысіна.* Бобрыкі Петр.

ВЫ'ГНЫРАВАЦЬ (вы'гныруваты) *зак.* Высачыць. *Усюды вон выгнырує, ныдэ нэ сховаты. Трэбо ж було ему выгныруваты ето, дэ я грошы положыла.* Горск Бяроз.

ВЫ'ГРУЗКІ (вы'грузкы) *мн.* Гразкае месца на дарозе. *Такіе выгрузкы на дорозі, шчо не пройты і нэ проехаты.* Горск Бяроз.

ВЫ'ДЗЕР *м.* Сала на кішках. *Выдзеру многа ныдрала кыля почак і кішок у парсюка.* Сляляўшчына Рас.

ВЫ'ДЗЕРКІ (ву'дзеркі) *мн.* Упершыню апрацаваны ўчастак зямлі. *Што ні посей на вудзерках, то вуросце.* Бобрыкі Петр.

ВЫДЗІРА'ЦЦА (выдіра'цца) *незак. асудж.* Насміхацца, дражніцца. *Вона способна выдірацца з людей.* Бастынь Лун.

ВЫ'ДРАНКА *ж.* Тое, што і выдзеркі. *Узаралі выдранку і пасеілі віку.* Бастынь Лун.

ВЫ'ДРЫЛЯВАЦЬ (вы'дрыліваць) *зак.* Прасвідраваць. *Выдрылюй ты мне стаўпца на граблі.* Навасёлкі Свісл.

ВЫ'ЖАМКІ *толькі мн.* Жамерыны. *Прыцадзіла на рэшата цэт на кісель, а выжамкі аддала карові.* Ваўкавічы Тал.

ВЫ'ЖАРЫ (вы'жарэ) *толькі мн.* Балота, на якім выгараў торф. *У булоті було много торфу, алі був пожар, і пасля пожару осталіс толькі выжарэ.* Бастынь Лун.

ВЫ'ЗБРЫКНУЦЬ (вы'збрукнуті) *зак.* Падбрыкнуць. *Стрэк як укусыт корову, корова вызбрукнэ, як попрэ, то нэ догнаті.* Азарычы Пін.

ВЫ'КАП (вы'коп) *м.* Полаз з выкапанага кораня. *Выкапаў выкоп, высушыў і зробіў выкоп у сані.* Бастынь Лун.

ВЫ'КАПАНЫ *прым.* Вельмі падобны. *Сын — выкапаны бацька і крошкі пубраў.* Моханава В.-Дзв.

ВЫ'КАТ *м.* Выраз жаночага плацця, дэкальтэ. *Партніха вялікі выкат выразала ў плацці.* Вадва В.-Дзв.

ВЫ'КАШРЫЦЬ *зак.* Вымыць. *Оля, ты выкашрыла сваю сукенку ці не?* Ністанішкі Смарг.

ВЫКЛАДА'ЦЬ *незак.* Кастрыраваць, пакладаць. *Ён выкладаіць кнура, а як выкладзіць, то будзіць парсюк.* Ністанішкі Смарг. *Я свайго кілуна буду выкладаць.* Моханава В.-Дзв.

ВЫ'ЛАЖЫЦЬ *зак.* Тое, што і выкладаць. *Вылажыла кілуна і будзім карміць на сала.* Суднікі В.-Дзв. *Трэба пазваць канавала і вылажыць жарапка.* Касталомава В.-Дзв.

ВЫ'ЛІТАК *м.* Вылівак. *Курыца знесла вылітак.* Бастынь Лун.

ВЫЛУ'ШЧЫВАЦЦА *незак.* Вылупліваццa. *Цыплёнык ужо будзіць вылушчываццa з яйца.* Якубова Рас.

ВЫ'МА *ж.* Лішак асновы ў шырыну пры накіданні ў ніты і бёрда, які ідзе назад. *Наснавала бэльш як бэрдо, вот і ідэ выма праз усе кросна назад.* Азарычы Пін.

ВЫ'МАТАЦЦА (ву'матацца) *зак. іран.* Выйсці. *Ад мяне вуматайся, а куды пашоў — не знаю.* Шкураты Браг.

ВЫ'МНЕ *н.* Вымя. *У мае коровы доброе вымне.* Азарычы Пін. *Ідэ корова, а вымне, вымне!* Горск Бяроз.

ВЫ'МЯНЕ (вы'мінё, вы'мянё) *н.* Тое, што і вымне. *У коровы молоё вымінё, мала малака дае.* Міратычы Кар. *Карова большая, і вымянё бальшое, а малака мала дае.* Старае Сяло Зэльв.

ВЫНАША'Й *м.* Ахапак сухога лёну, вынесены за адзін раз з ёўні для апрацоўкі на мялцы. *Да раніцы аш пяць вынашаяў зьмялілёну.* Альхоўка Навагр.

ВЫ'НІТАК *м.* Разарваная кабылка ў нітах. *І ні замеціла, як вынітак пырвайся і нітка ідзе па вярху.* Моханава В.-Дзв.

ВЫ'НІЦІЦЦА (ву'ніціцца) *зак.* Раскудзеліцца. *Вуніціласа кобулка ў ніту, трэбо наніціць.* Бобрыкі Петр.

ВЫПАЗО'ЎВАЦЬ *незак.* Выбіраць пазы. *Пазаўнічком-дакладнікам выпазоўваюць у раме пазы, кап засоўваць шкло.* Навасёлкі Свісл.

ВЫ'ПРАГЧЫСЯ (вы'прахчыся) *зак.* Здохнуць. *Конь быў стары сусім, а сягодня ноччу выпрахся.* Моханава В.-Дзв.

ВЫ'ПУСТАК (вы'пусток) *м.* Гадавалае цяля. *Моя цёлачка — выпусток, пушчу на племя.* Бастынь Лун.



ВЫРЭ'ЗВАЦЦА (вурэ'звацца) *незак.* Узыходзіць (пра сонца). *Я ўстаў рано, шчэ сонца не вурэзвалосо, і павёў коня на поле.* Бобрыкі Петр.

ВЫ'СЕКАЦЬ (вы'сэкаті, вы'секаті) *зак.* Высмаркаць. *Ідi высекай нос.* Бастынь Лун. *Гэ, возьмі высэкай носа, а то тэчэ.* Азарычы Пін.

ВЫ'СКАЛІЦЦА *зак.* Ярка засвяціць (пра сонца). *Дошч прашоў і сонца выскалілосё з-за хмарак.* Навасёлкі Свісл.

ВЫ'СКАРКА (ву'скорка) *ж.* Скварка. *Тук вуцек, осталіся вускоркі, а ета большая вускорка.* Бобрыкі Петр. *Вускоркі хоць ты вукідай, ніхто не хоча есці. Я одну вускорку з'ей.* Жахавічы Маз. *Мае дзеці вускорак не ядуць.* Тульгавічы Хойн.

ВЫ'СКВАРКА (ву'скварка) *ж.* Тое, што і выскарка. *Вускваркі паелі, тук не хочуць есці.* Тульгавічы Хойн.

ВЫ'СКЕРЫЦЬ (вы'скэрыті) *зак.* Вышчарыць. *Мое чоботы ўжэ зубы выскэрылі, трэбо подбіваті.* Азарычы Пін.

ВЫ'СТАЎКА (вы'стовка, ву'стоўка, ву'стовка) *ж.* Гестка. *Пошыла кофтан з выстовкой.* Бастынь Лун. *Колісь бабскіе сорочкі шылі з вустоўкамі і ў тры полкі.* Бобрыкі Петр. *До стана прышыты вустовкі, а до вустовок рукавы і ковнер.* Азарычы Пін.

ВЫСЫПА'ЦЦА *незак.* Каласавацц, выпускаць каласкі. *Ужо жыто пачало высыпацца.* Бастынь Лун.

ВЫ'ЧАВІЦЬ (вы'чавіті) *зак.* Выціснуць. *Сэк з яблыка трэбо вычавіті. Картоплев натэрла на тэрку і вычавіла на бабку.* Азарычы Пін.

ВЫ'ЧАЎКІ *толькі мн.* Мякаць гарбуза. *Выберы ложкай вычаўкі з горбуза.* Бастынь Лун.

ВЫ'ЧУХАЦЦА (ву'чухацца) *зак. іран.* Прагаладацца. *Вот му вучухаліся на балоце, што аж пуўкулідкі з'елі і вупілі багата малака.* Шкураты Браг.

ВЫЧЫНЯ'ЦЬ (вычыня'ты) *незак.* Вымятаць калоссе з абмалочанага збожжа. *Узяв мэтлу і вычыняй з жыта колоскы.* Горск Бяроз.

ВЫ'ЧЫХАЦЦА *зак.* Паправіцца. *Була запушчана Мордэлька, а за ім вычыхаласа.* Горск Бяроз.

ВЭ'НГЕР (вэ'нгэр) *м.* Канавал. *Трэбо позваті вэнгэра, хай лішае кнура.* Азарычы Пін. *Прышов вэнгэр, трэбо чыстіті мэркіцуна і кірноса.* Бастынь Лун. *Дед леков свіней, і вон звався вэнгэром. І толькі вэнгэрэ носілі шляпы, а в дэрэвні шляп нэ носілі, і дэты табуном за ім: «Ой-ёй, вэнгэр ідэ, утэкаймо».* Горск Бяроз.

ВЭ'НДЗЕЛКА (вэндэлка) *ж.* Месца, дзе вэндзяць мяса. *Вэндэлку роскоратов, што нэма дэ вэндыты.* Горск Бяроз.

ВЭ'ТЭ *займ.* Вы. *Вэтэ налетэ ополоныком крышаноў у мыску.* Горск Бяроз.

ВЯЗ *м.* Звязка капылоў у санях. *Вязы скрапляюць капылы, а дзьве вусцельгі скрапляюць вязы.* Жахавічы Маз.

ВЯ'ЗВЕНКА (вя'звэнка) *ж.* Вялікая цёплая хустка. *Обопніса вязвэнкой, а то змэрзнеш.* Бастынь Лун.

ВЯ'ЗКА (вяска) *ж.* Трыццаць жмень абтрапанага лёну, звязаныя разам. *Натрапаў лёну аш тры вяскі да абеда.* Моханава В.-Дзв.

ВЯЗО'К *м.* Дужка, прыладжаная пасярэдзіне касся, за якую трымаюцца правай рукой. *Паламаўся вязок у касе, і няма за што дзяржацца.* Паляцкішкі Вор.

ВЯ'ЗЫ *толькі мн.* Ашыек. *Вэн дав ему добрэ по вязах, што аж голову скрывів.* Бастынь Лун.
ВЯНО'К I *м.* Нізка цыбулі. *Я сваю цыбулю ўсю пупліла ў вянкі, а вянок малой цыбулі пакінула на семя.* Моханава В.-Дзв.
ВЯНО'К II *м.* Кутас у поясе. *Паясы ткалі на дошчачках і па канцах дзелалі вяночкі з розных нітак. Атарвайся вянок ат пояса.* Ваўкавічы Тал.
ВЯРСТА'Т (вэрста'т) *м.* Варштат. *Калісь ткалі на сошках, а тоды сталі робіті вэрстаты.* Бастынь Лун.
ВЯРХНЯ'К (вірхня'к) *м.* Верхні камень у жорнах. *Верхній камень завём вірхняк у жорнах.* Ваўкавічы Тал.
ВЯРХО'ВІЦА (верхо'віца) *ж.* Цемя. *У твойго Пуда верховіца ужэ лысая.* Бобрыкі Петр.
ВЯРХО'ЎЕ (вэрхо'в'е) *н. зборн.* Зрэб'е. *Обдіркі із ылну называюцца вэрхов'е.* Азарычы Пін.
ВЯРЦЁХА (вэртёха) *ж.* Матавіла. *Я напрала шпульку і змытала на вэртёху, і повэсыла вэртёху, а на ёй шэсть хунтов ныток.* Горск Бяроз.
ВЯРЦЯ'ШКА (вэртя'шка) *ж.* Гліняная міска. *Купіла вэртяшку, коб було ў чым колотыты огладкы.* Горск Бяроз.
ВЯРЭ'НЬКА (вэрэ'нька) *ж.* Кошык для ягад. *Вэрэньку робімо з тонкіх досочэк. Звэрху вэрэньку можно носіті на плечах. У вэрэньку собіраемо ягоды.* Бастынь Лун.
ВЯРЭ'Я *ж.* Шула. *У гумне трэба зрабіць вярэі і павесіць вароты.* Паляцкішкі Вор.
ВЯТО'Х *м.* Месяц. *Сягоння цёмна ноччу, вятоха німа.* Якубова Рас.
ВЯТРА'НКА (вітра'нка) *ж.* Вятрак. *Сягонні ветру німа, і вітранка стаіць, ня меліць.* Ваўкавічы Тал.
ВЯТРУ'ШКІ *мн.* Басаножкі. *Шавец пачыняіць вятрушкі.* Ністанішкі Смарг.
ВЯЦІ'СТЫЙ (веці'стуй) *прым.* Галінасты. *Овёс моцно вецістуй, доўгуй будзе.* Бобрыкі Петр.
ВЯЧА'Й *м.* Дзірка ў верхнім камені жорнаў для засыпкі збожжа. *Жорны добрыя, насыплю ў вячай аўса і тут жа змялю.* Альхоўка Навагр.
ВЯША'К (вэша'к) *м.* Жэрдка ў лазні, на якую вешаюць бялізну. *Дай мне повесіць на вэшак аденьне.* Бастынь Лун.

## Г

ГАВЭ'НДА (говэнда) *ж.* Гаворка. *У мэнэ з ёй була говэнда.* Горск Бяроз.
ГАВЭ'НДЗІЦЬ (говэ'ндыты) *незак.* Гаварыць. *О, кынтэ вы про ето говэндыты.* Горск Бяроз.
ГАДАВА'ЛЕЦ (гыдыва'ліц) *м.* Выхаванец. *Гэта мой гыдываліц, які жывець у мяне с пялёнак.* Сяляўшчына Рас.
ГАДАВА'ЦЬ *незак.* Карміць. *Пайду гадаваць паршука.* Шкураты Браг.
ГАДАВІ'К *м.* Кольца на розе ў каровы. *У маёй каровы на рагу тры гадавіка, і ёй ужо тры гады.* Барыскі Лаг.
ГАДАВІ'НА *ж.* Дзень, у які спаўняецца год з часу смерці нябожчыка. *Справіла, атправіла гадавіну па свайму сыну.* Моханава В.-Дзв.



ГАЖ *часц.* Аж. *Вэн гаж заплакаў от страху. Поломня ідэ гаж у густэ пэчы.* Азарычы Пін.
ГАЙ *м.* Непрыгодная для апрацоўкі зямля між палёў. *Мы зовом гаем між полей неудобную землю, де ростэ трава, а лес не ростэ.* Бастынь Лун.
ГАЙДА'Й (гойда'й) *м. устар.* Гандляр коньмі. *Гойдай кэньмі гандлюе.* Бастынь Лун.
ГА'ЙНІК *м.* Чорны бусел. *У нас гайнік бувае, алі рэдко, больш бувае бусько.* Бастынь Лун.
ГАЙНО' *н.* Бярлог. *Свіння спіць, зарыўшыся ў гайно.* Стайкі Барыс.
ГА'ЛА *ж.* Лапіна. *Пошла ў лес і напала на галу, а на етой галі красно-красно суніц.* Бобрыкі Петр.
ГАЛАВА' *ж.* 1. Верхняя частка снапа. *Стаў снапы пнём на зямлю, галовамі ўверх, кап сохлі.* Барыскі Лаг. 2. Верхняя частка рамачнага вулея. *У рамочных вульях е голова, а ў колодочных е потолок.* Бастынь Лун. 3. Патаўшчэнне на канцы навоя з адтулінай для замацавання яго ва ўстаноўленым становішчы. *Забальшую галаву здзелаў у навою.* Касталомава В.-Дзв.
ГАЛАВА'Р (гылыва'р) *м.* Чалавек з вялікай галавой. *От гылывар, ня можа сабе шапкі купіць, бо німа такой вялікай.* Якубова Рас.
ГАЛАВА'Ч *м.* 1. Апалонік (паўзуны). *У сажалцы многа галавачоў. Плыве бальшы галавач. Якія бальшыя галавачэ.* Міратычы Кар. 2. Тое, што і галавар. *У яго бальшая галава, і яго завуць галавач.* Шкураты Браг.
ГАЛАВЕ'НЬКА I (головэ'нька) *ж.* Галавешка. *Возьмі обтушы головеньку, шчо вона одна буде горэть.* Бастынь Лун.
ГАЛАВЕ'НЬКА II (головэ'нька) *ж.* Спарыння. *У ячменю много головэнькі росте.* Бастынь Лун.
ГАЛАВЕ'НЬКА III *ж.* Тое, што і галавач у 1-м знач. *У галавенькі большая галава і доўгі хвост. Паплыла большая галавенька. З галавенькі выходзіць жапка.* Ністанішкі Смарг.
ГАЛАЕ'ДЗЬ (галае'ць) *ж.* Голад. *Я помню, як была галаець. Усё елі, што пупала.* Сяляўшчына Рас.
ГАЛАМО'ЎЗЫ *прым.* Бязвусы, без барады. *Ён жа галамоўзы, у йіго ні растуць вусы і бырыда.* Моханава В.-Дзв.
ГАЛАПЛЕ'ЧКА (голопле'чка) *ж.* Майка. *А цяпер сорочкі шыюць голоплечкі. Голоплечкі летом добро носіць.* Бобрыкі Петр.
ГАЛАСАВА'ЦЬ (голосова'ты) *незак.* Гучна крычаць. *Чого там голосуеш? Нэ голосуй, мы чуемо.* Горск Бяроз.
ГАЛАСНІКІ' (голоснікі') *мн.* Доўгае пер'е ў хвасце пеўня. *От певень хорошуй, а голоснікі-голоснікі аж по земле цягнуцца.* Бобрыкі Петр. *Красівуе галаснікі ў пеўня.* Тульгавічы Хойн.
ГАЛА'ДКА (гала'тка) *ж.* Аладка. *Напякла сёня з мукі галаткаў.* Міратычы Кар.
ГАЛАЎНЯ' I (головня') *ж.* Верхні вушак у дзвярах. *У двэрах поставыв прэвшні і зверху положыв головню.* Азарычы Пін.
ГАЛАЎНЯ' II *ж.* Спарыння. *Як много галаўні ў жыці, аш чорна. Якая бальшая галаўня ў каласу расце.* Мнюхі Міёр.
ГАЛАШЧО'К (голошчо'к) *м.* Замерзлая зямля без снегу. *Трэбо коваті коня, а то не можно ехаті, голошчок. Пасвіў коровы на голошчоку.* Бастынь Лун. *Карову пагналі па галашчоку.* Шкураты Браг. *Голошчоком замерзла земля.* Бобрыкі Петр.

ГАЛДУ'НКА *ж.* Вядзьмарка. *Галдунка гэта як погледзела на маю карову, дак і малака не дала карова.* Тульгавічы Хойн.

ГАЛДУ'ШКА *ж.* Гузік з аўчыны. *С абрэскаў аўчынак кравец скручаваіць галдушкі і прышываіць у кажух замест пугавіц.* Ваўкавічы Тал.

ГАЛЁНКА (голэ'нка) *ж.* Частка рукі ад локця да пляча. *От лэкця до плэча мы зовэм голэнка. Болiть мне голэнка на рукэ.* Бастынь Лун.

ГАЛЕ'НЬ *м.* Дзяркач. *Венік змёўся, і зыстаўся адзін галень.* Моханава В.-Дзв.

ГА'ЛІЦА *ж.* Галка. *Птушка галіца чорна.* Бастынь Лун.

ГАЛО'ДНІЦА *ж.* Задняя костка на хрыбце, з якой усё мяса абрэзана. *Калі рызбіраіш кыбына, ззадзі кумпякі, а спераду лыпаткі і рэбры атсікалі, тады астаецца галодніца. Гэта адна костка, а мяса зусім німа, вот мы яе і завём галодніца, бо там мяса німа, німа чаго есці. Нясі кусок галодніцы і кідай у капусту.* Ваўкавічы Тал.

ГАЛО'ЎКА I *ж.* Папярочная планка ў граблях, у якую набіваюць зубы. Вострава Маст. *У граблях дубовая галоўка.* Альхоўка Навагр. *Зрабіў галоўку да грабель.* Міратычы Кар. *Вазьмі граблі і ўбі ў галоўку зуп.* Якубова Рас.

ГАЛО'ЎКА II *ж.* Пладаносная частка сланечніка. *Пасеіў слону, вырас, галоўкі бальшыя.* Якубова Рас.

ГАЛО'ЎКІ (голо'вкі) *мн.* Атрэп'е. *Як трэпымо лён, отбываюцца голоекі.* Азарычы Пін.

ГАЛУ'ТА *ж.* Замерзлая зямля без снегу. *Замерзлая зімля, якая ні пакрыта снегам,— гэта і ёсь галута.* Сяляўшчына Рас.

ГАЛУ'ШАЧКА (голу'шэчка) *ж.* Пакінуты ў дзяжы кусочак цеста для закваскі. *У дэжы покінула голушэчку, кэб добры хлеб буў.* Бастынь Лун.

ГАЛУ'ШКА (голу'шка) *ж.* Зялёнае яблычка на бульбяніку. *От на картопляніку на версе богато голушэк. Я сорвала одну голушку.* Бобрыкі Петр.

ГА'ЛЬКА *ж.* Сподняя спадніца. *Гальку кладуць пат спадніцу. Галька шылася с кужольнага палатна. Калісь клалі на сябе станіка і гальку і ўсё.* Навасёлкі Свісл. *Пошыла гальку, а то сукенку наклала без галькі.* Бастынь Лун.

ГАЛЭ'НДЗЯ *ж.* Гронка вінаграду. *Купіў адну галэндзю вінаграду.* Паляцкішкі Вор.

ГАЛЯНІ'ШЧЫ (голені'шчы) *мн.* Халявы. *Одрэзав от чоботов голеніщы.* Бастынь Лун.

ГАМ *м.* Шум, крык. *Чаго вы пыднялі такі гам, што аш на вуліцы чуваць.* Моханава В.-Дзв.

ГАМА'РКА *м.* Вушка ў піле. *У піле е гамарка, у гамарку ўбіваецца булачок, за булачок трымаюць рукою, калі пілуюць дрова.* Навасёлкі Свісл. *Зламалася гамарка ў прадоўжнай піле, трэба наладзіць.* Шкураты Браг.

ГАМО'ЛІНА *ж.* Розга. *От вазьму гамоліну ды як удыру па табе.* Навасёлкі Свісл.

ГАНАБО'ЛІ *толькі мн.* Буякі. *Назбірала ганаболій і наварыла варэння.* Вароніна Рас. *Я пад'ела ганаболій.* Сяляўшчына Рас. *Ганаболі паспелі, можна сабіраць іці.* Замошша Рас. *Я ўчора хадзіла ў ганаболі і прынісла цэлая вядро.* Даўгабор'е Рас. *У нас у балоці многа ганабольніку і ганаболій на ім, алі німа каму збіраць ганаболі.* Вароніна Рас. *Хадзіла збіраць ганаболі, а ганаболі такія бальшыя, усё ройна, як вішня, дай многа, аш ганабольнік галубый.* Янкавічы Рас.

ГАНАБО'ЛЬНІК *м.* Дурнічнік. *На ганабольніку ў балоці растуць ганаболі.* Сяляўшчына Рас. *Ганабольнік расцець па курганах, а на ганабольніку многа ганаболій.* Вароніна Рас. *У балоці многа ганабольніку, што ні прасці, а ганаболь сіня-сіня, да такія крупныя.* Замошша Рас.

ГАНАВІ'ЦЫ (гоновіцы, гоновыцы) *толькі мн.* Сподніки. *Основала леніцы пять гіль на гоновіцы.* Азарычы Пін. *Гоновыцы пошыла з ластовкою.* Горск Бяроз.

ГАНБУЗАВА'ЦЬ (гонбузова'ті) *незак.* Ганьбаваць. *Не трэбо гонбузоваті, корова добра на молоко.* Бастынь Лун.

ГАНДЫГА'ЦЦА (гондыга'цца) *незак.* Гушкацца. *Зробіла колышку, і дэты на ёй гондыгаюцца.* Бастынь Лун.

ГАНЧА'Р *м.* Вілкі. *Вазьмі ганчара і ўстаў гаршчка ў печ.* Міратычы Кар.

ГАНШЧЫ'К *м.* Плытагон. *Вунь ганшчыкі гоняць плыты.* Моханава В.-Дзв.

ГАПЕ'ЛЕЧКА (гопэ'лечка) *ж.* 1. Пятля ў нітах. *У нітэх е гопэлечка, у якую ўсмыкают нітку основы. Порваласа гопэлечка ў нітэх.* Азарычы Пін. 2. Пятля ў адзенні. *У хвартуху розмэрка зроблена гопэлечкамі.* Азарычы Пін.

ГАПЕ'ЛЬКА (гопе'лька, гопэ'лька) *ж.* Тое, што і гапелечка ў 2-м знач. *Прорэж у кохці гопелькі.* Бобрыкі Петр. *Зробы гопэлькы, коб улез гузь.* Горск Бяроз.

ГА'ПІЦЦА (га'пытыся) *незак.* Біцца. *Вон гондэ сусэды гапюцца.* Горск Бяроз.

ГА'ПІЦЬ (га'пыты) *незак.* Біць. *Пэтрык Ганню гапыт.* Горск Бяроз.

ГА'ПКА I *ж.* Тое, што і гапелечка ў 2-м знач. *Гапкі парабіла, што гузікі ні пралазяць.* Навасёлкі Свісл.

ГА'ПКА II *ж.* Свіны страўнік. *Акая малая гапка ў свіні, вот чаму вона мало ела.* Бастынь Лун.

ГАПЛІ'К *м.* Кручок. *Ушы гаплік у сачак.* Моханава В.-Дзв.

ГАРАБЕ'ШАК (горобэ'шок) *м.* Верабей. *Мнэго горобэшков, коноплі ўсе об'елі.* Азарычы Пін.

ГАРАХАВІ'ННЕ (гороховы'нне) *н.* Гарохавішча. *Пустэтэ коровы на гороховынне.* Горск Бяроз.

ГАРАХВЯ'НКА (горохвя'нка) *ж.* Мука з гароху. *Намолола горохвянкі з гороху.* Бастынь Лун.

ГАРБУ'ЛЬ *м.* Гарбаты чалавек. *Яго клічуць па-вулічнаму гарбуль, бо ён гырбаты.* Якубова Рас.

ГАРБУ'ШКА *ж.* Акраец. *Вазьмі баханку хлеба і атрэш мне гарбушку.* Стайкі Барыс.

ГАРБЫЛЬ *м.* Аполак. *Атпілавалі гарбыль, цяпер будзім пілываць дошкі.* Моханава В.-Дзв.

ГАРДАДО'ЛІК (гордодо'лік) *м.* Жаваранак. *Гордодолік прылетев і спевае над жытом.* Бастынь Лун.

ГАРДЗІ'СТЫЙ *прым.* Горды. *Вот жа ён і гардзістый.* Якубова Рас.

ГАРО'ХАВІСКА (горо'ховіско) *н.* Гарохавішча. *По гороховіску посею лён.* Бастынь Лун.

ГАРО'ХАЎЕ *н.* Гарохавішча. *Трэба заараць гарохаўе.* Барыскі Лаг.

ГАРТА'Й *м.* Араты. *Гартай паехаў гараць поле.* Паляцкішкі Вор.

ГАРУ'Н *м.* Гу'ба. *Гарун палажыў на крэмень і агнівом высік агонь.* Сяляўшчына Рас.

ГАРЧА'К (горчак) *м.* Драсён. *Много росте горчака по канаві.* *Бастынь Лун.*

ГАРШЧ *ж.* Жменя. *Узяла адну гаршч лёну. Палажыла 50 гаршчай і звязала вяску лёну.* Паляцкішкі Вор.

ГАРШЧА'Й (горшча'й) *м.* Ганчар. *Горшчай робіть горшкі ў горшчэчні.* Бастынь Лун.

ГАРШЧЭ'ЧНІК I (горшчэ'чнік) *м.* Тое, што і гаршчай. *Му зовом чэловека горшчэчніком, колы ён робіть варэйкі.* Бастынь Лун.

ГАРШЧЭ'ЧНІК II *м.* Вілкі. *Паламалосё дзяржаннё ў гаршчэчніку.* Міратычы Кар.

ГАРШЧЭ'ЧНЯ (горшчэчня) *ж.* Ганчарня. *Горшчай робіть горшчкі і варэйкі ў горшчэчні.* Бастынь Лун.

ГАРЭ'ЛКА (горэ'лка) *ж.* Бульба з прыгаркамі. *Горэлкі пуздымай і тоўчы кортоплю на кашу.* Бобрыкі Петр. *Я ўзяла толькі одну горэлку.* Тульгавічы Хойн.

ГАСПАДА'Р *м.* Першы нажаты ў час зажынак сноп. *Пашлі жыта першы дзень жаць, выжалі гаспадара, перавязалі лентачкай і прыняслі дамоў і паставілі на кут гаспадара.* Заазер'е Віл.

ГАСТРЭ'Й (гострэ'й) *м.* Вастрыё. *Затупіўся гострэй у ножовы, трэбо погострыты. Трэбо побыты гострэй у косэ.* Горск Бяроз.

ГА'ЧАК *м.* Повад. *Гачак зачапліваюць за вандзідла.* Вострава Маст.

ГА'ЧКА *ж.* Матыка. *Паламаласа гачка, німа чым картоплю аглядаць.* Навасёлкі Свісл. *Дай мне сваей гачкі, пайду бульбу асыпаць.* Старае Сяло Зэльв.

ГВАЗДАНУ'ЦЬ *зак.* Моцна ўдарыць. *Вот я яму гваздануў, што будзіць знаць, як у чужы сат хадзіць.* Моханава В.-Дзв.

ГЕ'ГАЦЬ *незак.* Гагатаць. *Оля, гусі гегаюць, хочуць есці.* Навасёлкі Свісл.

ГЕЛЬЗА'ННЕ (гельза'не) *н.* Закілзванне. *Бес гельзаня і не думай ехаць на гэтым кані.* Навасёлкі Свісл.

ГЕЛЬЗА'ЦЬ *незак.* Кілзаць. *Каня трэба гельзаць, бо ён дужа шалёны з гары.* Навасёлкі Свісл.

ГЕРГАТА'ЦЬ *незак.* Гагатаць. *Гусі гяргочуць, есці хочуць.* Ністанішкі Смарг.

ГІ'БА (гы'ба) *ж.* Мера асновы, палатна даўжынёй на хатнюю сцяну. *Наснавала дэсэт гыб і сплэла ў плэтню.* Горск Бяроз.

ГІ'ЛЕМ *прысл.* Чарадой, гуртам. *Гілем птушкі ліцяць. Гілем рыба плывець. Пашлі бабы гілем на сенакос, пашлі бабы кучам.* Сяляўшчына Рас.

ГІЛЬ *м.* Авадзень. *Гіль як укусіць карову, дак яна месца не знаходзіць сабе.* Паляцкішкі Вор. *Пагнаў карой у сасоннік, а там так много гілёў. Гіль як укусіць корову, дак яна як загізуіць, што ня можна ўдзяржаць.* Ністанішкі Смарг.

ГІ'ЛЯ *ж.* Мера палатна ўдаўжыню. *Оснавала ляніцы пять гіль на нагавіцы.* Азарычы Пін.

ГІ'ЛЯ-ГІ'ЛЯ-ГІ'ЛЯ *выкл.* Ужываецца, калі адганяюць гусей. Моханава В.-Дзв.

ГІ'РКА (гы'рка) *ж.* Ніжняя шырокая частка збанка. *У гладышу адбілася вена, а асталася адна гірка.* Шкураты Браг.



ГІЧ *м.* Націнне. *Картоплю пасадзіла пад ябланяю, дак яна пашла ў гіч, а картоплі не було.* Шкураты Браг. *Добры гіч порос на моркві, будэ добра морква.* Бобрыкі Петр.

ГІЧА'ННЕ (гіча'нё) *н.* Націнне. *От добраё на моркві гічанё, а якая морква — нівядома, гічанё-то хорошоё.* Міратычы Кар.

ГІ'ЧАЧКА (гі'чэчка) *ж.* Стужачка. *Прышываюць мнэго гічэчэк до спаніцы ўнізу. Гічэчка одорвалася ў андараку.* Азарычы Пін.

ГІ'ЧКА *ж.* Тое, што і гірка. *Одбілосо рыло ў куўшына, осталаса одна гічка.* Бобрыкі Петр.

ГЛА'БКА *ж.* Верхняя планка ў драбінах воза. *Глабку зробів хвоёву, а ў глабку набів лясточкі.* Бастынь Лун.

ГЛАБНЯ' *ж.* Аглобля. *Падузы закладзі на глабні.* Стайкі Барыс.

ГЛАЗУ'Р *м.* Сінька. *Купіла глазуру, хачу паглазурыць белую куртку.* Моханава В.-Дзв.

ГЛЕ'ІЦЬ (гле'іть) *незак.* Лячыць замовамі. *Шэптун глеіть, шэптун усэ глеіть, вэн глеіть зубы, удар, жывэт.* Бастынь Лун.

ГЛЕЙКАВА'ТЫЙ (глейкова'тый) *прым.* Сыры, мокры. *Овэс шчэ глейковатый, хай сохне.* Бастынь Лун.

ГЛЕ'ЧЫК *м.* Гліняны гаршчочак з вузкім рылам і вушкам. *Гаршчочак з адным вушком зовэм глечыком.* Бастынь Лун.

ГЛЕЎКІ *прым.* Тое, што і глейкаватый. *Плаце шчэ глёўкаё, трэбо коб пувісела.* Бобрыкі Петр.

ГЛІЗО'ВЫЙ *прым.* Ацеслівы. *Глізовый хлеб бы камень — ето сырый хлеб. Глізовый хлеб нэ ноздратый.* Бастынь Лун.

ГЛІ'ЦА *ж. зборн.* Ігліца. *Много насыпалася гліцы пыд хвэйкой.* Бастынь Лун. *Асыпаецца із хвойкі гліца.* Шкураты Браг. *Пашоў дай гліцы назгрэбаў на падсцёл.* Жахавічы Маз.

ГЛУШМА'НЬ *ж. і м. абразл.* Глухі чалавек. *Мы цябе клікалі, клікалі, а ты, глушмань, ні адзывалася.* Моханава В.-Дзв.

ГЛЫЖА'НЧЫК *м.* Кавалачак бульбіны, які застаецца пасля здзірання яе на тарцы. *Таркавала булбу, а глыжанчыкі пакідала.* Бастынь Лун.

ГЛЫ'МШЫ *прым.* Глыбейшы. *Гэты калодзеж глыбокі, а той глымшы.* Паляцкішкі Вор.

ГЛЮ'МКА *ж.* Дзюба. *У куры'цы ёсь глюмка, іна глюмкай дзяўбе авёс, ячмень.* Ваўкавічы Тал.

ГНАЕЎКА *ж.* Дошка, якая кладзецца на калёсы пры вывазцы гною. *На кары палажы гнаёўкі, будзім гной вазіць.* Ністанішкі Смарг.

ГНАЯ'НКА *ж.* Тое, што і гнаёўка. *Калі трэба вазіць гной, кладуць на калёсы гнаянкі.* Ністанішкі Смарг.

ГНАЯ'ЎКА *ж.* Тое, што і гнаёўка. *Палажы на калёсы гнаяўкі і едь гной вазіць.* Заазер'е Віл.

ГНЁТ *м.* Груз для націскання чаго-небудзь *Одтопыла кыслэ молоко, уліла ў торбу, завізала і положыла пуд гнёт, будэ отворэг.* Бастынь Лун.

ГНІЛЕ'Ц *м.* Сапсаванае, тухлае яйцо. *Узіла с-пат куры'цы гнілец, а ён разбійся, дак няможна было сядзець у хаці, дужа смярдзела гнільцом.* Вароніна Рас.

ГНІЛЯЧО'К *м.* Светлячок. *Пагглядзіце, як многа гнілячкоў на купіні. Гнілячкі добра свецяць.* Паляцкішкі Вор.

ГНЯЗДО' *н.* 1. Калодачка з дзіркай на верхнім камені жорнаў, у якую ўстаўляецца ніжні канец млёна. *У жорнах у верхнюм камене ў боцы е гняздо, куды ўстаўляецца ручка.* Шкураты Браг. 2. Выемка

ў бервяне для закладкі другога бервяна ў вугле зруба. *У ачэпі робіцца гнязло, а ў гнязло ўпускаецца бэлька. Зрабі добрая гнязло ў браўну, кап бэлька добра лігла.* Вострава Маст.

ГО'ВАД (го'вод) *м.* Авадзень. *І оводэв коровэ бояцца. Вонэ кусаюцца моцна.* Азарычы Пін.

ГО'ГАЎКА *ж.* Кадык. *Гогаўка ў горля забалела і давіць.* Ністанішкі Смарг.

ГО'ДАЛКА *ж.* Гушкалка. *Зробыв на бэрэзыны годалку, нэхай дэты годаюцца.* Горск Бяроз.

ГО'ДАЦЦА *незак.* Гушкацца. *На бэрэзыны е годалка, і дэты годаюцца.* Горск Бяроз.

ГОЗДЗЬ (гоздь) *м.* Цвік. *Купыв гозді, трэбо крыты крышу.* Горск Бяроз. *Молоток гозді забіваті.* Бастынь Лун.

ГО'ЙКАЦЬ *незак.* Крычаць, зваць, клікаць. *Начлежнікі ўжо гойкаюць, паехалі на начлех. Мы ў лесі гойкалі-гойкалі, а цябе ні было чуваць.* Моханава В.-Дзв.

ГО'ЙКНУЦЬ *зак.* Крыкнуць. *Я паспрабую гойкнуць, можа ён і атклікнецца.* Моханава В.-Дзв.

ГО'ЛКА *ж.* Калючка. *Як многа голак у шыпоўніку.* Старае Сяло Зэльв.

ГО'ЛКІ *мн.* Ігліца. *Многа голак насыпалася пат сасонкай.* Селішча Навагр.

ГО'НДЗЕ (го'ндэ) *часц.* Вунь. *Гондэ вон пашов, а я сядю і думаю, дэ вон.* Горск Бяроз.

ГО'НДЗЕ-ГО' (го'ндэ-го') *прысл.* Тут, каля мяне. *Што ты шукаеш хустку, гондэ-го вона лежыт.* Горск Бяроз.

ГО'НЫ *мн.* Гоні. *Гоны — мера ўдаўжыню, у адным загоні можа быць гэн тры-пять. Раней булі ў нас гоны, а тэпэр нет.* Бастынь Лун.

ГО'ПА *ж.* Бабка з бульбы. *Гопа з дзёртай бульбы, і сала туды палажыла, смачна гопа.* Міратычы Кар.

ГО'ПКА *ж.* Памянш. ад гопа. *Сягодня спякла гопку.* Міратычы Кар.

ГО'РАН I *м.* Баваўняныя каляровыя ніткі для вышывання. *Купі мне, мама, горану, буду намітку вышываць.* Бобрыкі Петр.

ГО'РАН II *м.* Гу'ба. *Горан расцець на бярэзіні. Горан раней вырыблялі і высікалі агонь. Горан ат іскры зыгырайся. Горан вымочвалі і сушылі, кап можна было яго паліць.* Сяляўшчына Рас.

ГО'РАНЬ (го'рэнь) *м.* Тое, што і горан I. *Горэнь быв дорогэй, дорожыйшый за болхву.* Азарычы Пін.

ГО'РБА *ж.* 1. Гурт. *Горба бап сабралася на дарозі.* Навасёлкі Свісл. 2. Куча збожжа. *Змалаціў шэсь пасадаў і намалаціў горбу жыта.* Міратычы Кар.

ГО'РБАЧКА *ж.* Жменька жыта. *Што ты мнэго горбочак наложыла. Собрала горбочкі і сноп звязала.* Паплавы Бяроз.

ГО'РНУЦЦА *зак.* Моцна ўдарыцца. *Вот горнуўсё, што чуць устаў.* Міратычы Кар.

ГРАБАВІ'ДЛА *н.* Грабільна. *Выразаў бярозавая грабавідла на граблі.* Ністанішкі Смарг.

ГРАБАВІ'ЛІНА *н.* Тое, што і грабавідла. *Пашоў у лес і выразаў добрае грабавіліна.* Сяляўшчына Рас.

ГРАБЕ'ЛЬЦЫ *толькі мн.* Грабелькі на касе. *Прывяжу да касы грабельцы і пайду касіць авёс.* Моханава В.-Дзв.

ГРАБЁНКА I *ж.* 1. Металічная шчотка для абдзірання лёну. *На залезну грабёнку абдзірала лён.* Бобрыкі Петр. 2. Жалезная пласцінка на аглоблі, на якую надзяюць атосы. *Прыбі да оглоблі грабёнку і надзень атосы.* Жахавічы Маз. *Прыбіў грабёнку к аглабне і налажыў на грабёнку атосу.* Барыскі Лаг. *Трэбо прыбіць да аглобні грабёнку.* Навасёлкі Свісл. 3. Прыстасаванне ў плузе для рэгулявання шырыні баразны. *У плузі на канцы ёсць грабёнка.* Моханава В.-Дзв. 4. Стрыхоўка. *Раней стрэхі крылі саломай і пат грабёнку* Моханава В.-Дзв.

ГРАБЁНКА II *ж.* Папярочная планка ў граблях, у якую набіваюць зубы. *Вазьмі грабілно і на вілку асадзі грабёнку. У грабёнку набіў зубы.* Барыскі Лаг.

ГРАБІ'ДЛА (грабі'дло) *н.* Грабільна. *Паламалася ў граблях грабідло.* Раўбічы Мін.

ГРАБІ'ЛА *н.* Тое, што і грабідла. *Яловае грабіла на граблі.* Мнюхі Міёр.

ГРА'БЛІКІ *мн.* Грабелькі на касе. *Прыладзіў да касы граблікі, а цяпер пайду касіць ячмень.* Касталомава В.-Дзв.

ГРАБЛІ'СКА (граблі'ско) *н.* Грабільна. *Гарэхава грабліско добраё.* Міратычы Кар. *Зломалос грабліско ў граблях. На грабліско трэбо набыты балечку, а ў балечку набыты зуб'я.* Горск Бяроз. *Ізламалосё грабліско ў граблях.* Навасёлкі Свісл. *Узяў грабліско і асадзіў граблі.* Вострава Маст.

ГРАБЛІ'ШЧА *н.* Грабільна. Альхоўка Навагр. *Добрае граблішча ляскоўнае.* Старае Сяло Зэльв.

ГРАБЛЯВІ'СКА *н.* Тое, што і грабідла. *Якое негляткае граблявіска ў граблях.* Паляцкішкі Вор.

ГРАБЦЫ' *толькі мн.* Тое, што граблікі. *Прывяжу ік касе грабцы і паеду касіць грэчку.* Шкураты Браг.

ГРАБЯ'СТ *м. зборн.* Паплёт. *На зруп паставіў ключы, а цяпер буду грабяст прыбіваць да ключоў і буду крыць страху.* Альхоўка Навагр.

ГРАДА' (грыда') *ж.* Штабель дроў. *Пасек дровы і наклаў цэлую граду дроў.* Ваўкавічы Тал.

ГРА'ДКА I (гра'тка) *ж.* Баразна бульбы. *Адагнаў дзесяць градак бульбы, да вечара выкапаеце.* Заазер'е Віл.

ГРА'ДКА II (гра'тка) ж. Драбіны пры сцяне над кармушкай, куды кладуць корм скаціне. *Карові сена укінь за гратку, хай есць.* Касталомава В.-Дзв.

ГРА'ДУСНІК *м.* Прыстасаванне ў плузе для рэгулявання глыбіні баразны. *Пайду ў кузьню, нада зрабіць градусьнік к плугу, а то няможна знаць, як мялчэй і як глубей араць.* Стайкі Барыс.

ГРАЗНІ'ЦЦА *незак.* Кусціцца. *Йікая добрая цыбуля, гразніцца добра, бальшыя грозны.* Ваўкавічы Тал.

ГРАМАДА' I (громада') *ж.* Куча збожжа. *Громаду намолотылі жыта.* Горск Бяроз.

ГРАМАДА' II (громада') *ж.* Гурт. *Ідэ громада бобэй; громада бобэй селі на возовы і поехалі конем.* Горск Бяроз.

ГРАМУ'ШКА *ж.* Акраец. *Мама, адрэж грамушку ат булкі.* Якубова Рас.

ГРАНІ'ЦЬ *незак.* Рабіць барозны. Сяляўшчына, Янкавічы, Замошша, Якубова Рас. *Як раней гранілі жыта, дак яно ні атмыкала.* Даўгабор'е Рас.

ГРА'НКА *ж.* 1. Корч цыбулі. *Вырві гранку цыбулі.* Моханава В.-Дзв. 2. Гронка вінаграду. *Купіў дзьве гранкі вінаграду.* Ністанішкі Смарг.

ГРАНЬ *ж.* Мяжа. *Онінская канава — гэто грань помыж Азарычамі і Валішчамі.* Азарычы Пін.

ГРАСАВА'ЦЬ *незак.* Матычыць. *Вазьмі капачку і ідзі грасаваць картофлі.* Шкураты Браг.

ГРАЦКО'ЎЕ *н.* Поле, дзе расла грэчка. *Ганіце кароў на грацкоўе і пасіце.* Заазер'е Віл.

ГРАЦЬ (гра'ті) *незак.* Красаваць. *Ой, як жа жыто красіво грае. Жыто ужэ пачало граті.* Бастынь Лун.

ГРАЧЫ'НІШЧА *н.* Тое, што і грацкоўе. *Гані авечак на грачынішча, там грэчку звязьлі.* Ністанішкі Смарг.

ГРО'ЗНЫ *мн.* Карчы цыбулі. *Якая добрая цыбуля, гразніцца вельмі добра і вельмі бальшыя грозны.* Ваўкавічы Тал.

ГРУ'БЫ *прым.* Тоўсты. *Грубая дэрэвіна, секерой не зрубім.* Бастынь Лун.

ГРУДЗЕНЬ *м.* Снежань. *Грудзень — астатні месяц у року.* Паляцкішкі Вор.

ГРУДО'К *м.* Маленькі кавалачак. *Узела грудок цукру да горбаты.* Бастынь Лун.

ГРУ'ЗАЧКІ *мн.* Злямчаныя кусочкі воўны. *Плахая война, многа грузачак у ёй. Грузачкі няможна ўпрадаць у нітку, бо будзе нітка няроўная.* Жукі Кар.

ГРУНТ *м.* Мера зямлі. *Грунт меў 12 дзесянцін зямлі.* Міратычы Кар.

ГРУ'ЦА *ж.* Ячны крупнік. *А ці варыла ты груцу з бобам?* Ваўкавічы Тал.

ГРЫБА'ТЫ *прым.* З бальшымі, тоўстымі губамі. *Які ў яе сын нікрасівы і дужа грыбаты, грыбы тоўстыя.* Касталомава В.-Дзв.

ГРЫБЫ' *мн.* Прыстасаванне для лучыны. *У светашы былі грыбы. Ты ш там уткні лучынку ў грыбы светаша, кап ня вывалілася лучыніна.* Ваўкавічы Тал.

ГРЫ'ВА *ж.* Пучок, палоска травы, не захвачаная пры касьбе касою. *Як ты косіў, што грыва стоіть.* Бастынь Лун. *Грыва ў покосовы стоіт бы ў коня, от косэц покосыў сэно.* Горск Бяроз. *Косіш, а за сабой якую грыву астаўляеш.* Шкураты Браг. *Бяры пракос вузей, а то многа грыў астаўляіш.* Моханава В.-Дзв.

ГРЫВЕНЬКА *ж.* Кольца, якім прымацоўваецца шыйка касы да кассе. *Грывенька замацоўвае касу да кас'я. Купіў грывеньку да касы, а то не было чым прыкрапіць касу да кас'я.* Вострава Маст.

ГРЫ'ВІЦЬ *незак.* Пакідаць няскошаную траву пры касьбе. *Ну, і грывіш ты, брат. Паглядзі, сколькі ты пакінуў грыў за сабой.* Моханава В.-Дзв.

ГРЫВО' *н.* Стык двухсхільнай страхі. *Самы верх закрывіны на страсе завецца грыво.* Навасёлкі Свісл.

ГРЫ'ЖА *ж.* Бручка. *У міне ў гэтым годзе добрая грыжа зарадзіла.* Касталомава В.-Дзв.

ГРЫ'КА *ж.* 1. Грэчка. *Грыка добрая ўрадзіла, будуць крупы.* Навасёлкі Свісл. 2. Грэцкія крупы. *Мы зовом грыка. Гэто — крупы.* Бастынь Лун.

ГРЫНДЖА'ЛЫ *мн.* Вялікія сані для перавозкі доўгага бярвення. *Грынджалы робяць так: два вялікіх палазы, а ў палазы забіваюць чатыры капулы. Дліна грынджалаў пяць-шэсць метраў.* Шкураты Браг.

ГРЫЦУ'К *м.* Слонка. *Пташка грыцук грэчку довбэ.* Бастынь Лун.



ГРЭ'БЕНКА (грэ'бінка) *ж.* Рамка для мядовых сотаў. *У одін вулей я паставів грэбінку, а то було мала.* Бастынь Лун.

ГРЭ'БЕНЬ I *м.* Жалезная пласцінка на аглоблі, на якую надзяюць атосы. *Зрабіў у кузьні грэбень і прыбіў да аглобні, каб добра дзяржала атосу.* Заазер'е Віл.

ГРЭ'БЕНЬ II *м.* Касмык травы, пакінуты пры касьбе. *От покосіў плохо траву, што грэбені покідаў, хоць ты перэкошвай.* Бобрыкі Петр.

ГРЭ'БЕНЬ III *м.* Карак у каня. *Хамут плахі, адбіў мой конь грэбяня' ат хамута.* Навасёлкі Свісл.

ГРЭ'БЕНЬ IV *м.* Стык двухсхільнай страхі. *Лесь на страху і задзелай грэбінь, а то ён стаў працікаць.* Стоўбцы.

ГРЭ'БЕСТ (грэ'бяст) *м. зборн.* Жэрдкі для прыціскання саломы на страсе. *На паследні вянец ставім ключы, а на ключы набіваем латы, а на латы сцелім салому і прыціскаім грэбястам.* Альхоўка Навагр.

ГРЭ'НКА *ж.* 1. Корч цыбулі. *Ідзі вырві грэнку цыбулі.* Барыскі Лаг. 2. Гронка вінаграду. *Купіў грэнку вінаграду.* Барыскі Лаг.

ГРЭ'СІЛА (грэ'сіло) *н.* Крэсіва. *Грэсіло огню высікаті. На крэмень клодэмо губку, а грэсілом высікаем огня.* Бастынь Лун.

ГУ'БІНА I *ж.* Губа'. *Зубы так быляць, што аш патпухла губіна.* Моханава В.-Дзв.

ГУ'БІНА II *ж.* Гу'ба. *На бярозі расце губіна.* Міратычы Кар.

ГУ'БІЦА *ж.* Мера асновы, палатна даўжынёй на хатнюю сцяну. *Аснавала кужалю аш пяць губіц.* Міратычы Кар.

ГУ'БКА (гу'пка) *ж.* Тое, што і губіца. *Выткала пачасся дзьве гупкі на штаны.* Моханава В.-Дзв.

ГУ'ГАЛЬ *м.* Палявы хвошч. *Пайду сабяру гугалю і накі'даю сьвіням, хай ядуць.* Моханава В.-Дзв.

ГУ-ГУ-ГУ *выкл.* Ужываецца, калі падзываюць галубоў. Касталомава В.-Дзв.

ГУГУ'ЛІНА *ж.* Гузак. *Ай-яй! Хто ш табе такую гугуліну пасадзіў?* Моханава В.-Дзв.

ГУДРАВА'ТА *прысл.* Няроўна (напрасці). *Як жэ ты напрала, так гудравата.* Сакалоўка Пін.

ГУЖ (гуш) *м.* Прывязка для прымацоўвання біча да цапільна. *Порвайся гуж у цапу.* Бобрыкі Петр. *Вазьмі гуш і прывяжы біч да цэпа.* Заазер'е Віл.

ГУ'ЖЫК *м.* Тое, што і гуж. *Трэба гужыкам прывязаць біч да цапільна.* Альхоўка Навагр. *Дай мне гужык, нада біча прывязаць да цапільна.* Сімакава Кар.

ГУЗ *м.* Гузік. *Гуз вурвайся, трэ прышыць.* Жахавічы Маз.

ГУЗАВО'К *м.* Каробачка з бяросты для ягад. *Ныдрала бяросты, здзелала гузавок і ныбрала цэльны гузавок суніц.* Касталомава В.-Дзв.

ГУЗДЫ'Р *м.* Ніжняя частка снапа. *Нажала снопа, ой акі нэровный гуздыр.* Бастынь Лун.

ГУЗЫ'Р *м.* Тое, што і гуздыр. *Дрэнна жала, няроўный ў снапу гузыр.* Шкураты Браг. *Важкій сноп жыта, гузыры з травой.* Бобрыкі Петр. *Сноп стаў гузыром на зямлю.* Стайкі Барыс.

ГУЗЬ *м.* Тое, што і гуз. *Гузя ушыв у каптан.* Горск Бяроз.

ГУЗЯ'К I *м.* Тое, што і гузыр. *Гузякі ў снапах сырыя.* Сімакава Кар.

ГУЗЯ'К II *м.* Гуз. *Рабёнак зваліўся з лавы, дак аш гузяк ускочыў на галоўцы.* Моханава В.-Дзв.
ГУКА'ЦЬ *незак.* Гаварыць. *Што ты мне гукаіш пра яе, я сыма знаю, што за іна.* Моханава В.-Дзв.
ГУ'ЛА *ж.* Месца, у якім выцекла цеста праз трэшчыну ў скарынцы. *Хлеб расколоўся, і выпэрла гула з боку.* Бастынь Лун.
ГУ'ЛДА *ж.* Бярлога. *Сьвіння носіць сабе салому на гулду. Мядзьведзь спіць у сваёй бярлозя, а парсюк у гулдзя.* Ністанішкі Смарг.
ГУ'ЛІ-ГУ'ЛІ-ГУ'ЛІ *выкл.* Ужываецца, калі падзываюць гусей. Бярозкі Хоц.
ГУ'ЛІЦА *ж.* Мера асновы, палатна даўжынёй на хатнюю сцяну. *Аснавала пяць гуліц кужалю.* Міратычы Кар.
ГУЛЬ-ГУЛЬ-ГУЛЬ *выкл.* Тое, што і гулі-гулі-гулі. Ністанішкі Смарг.
ГУЛЯ'БА *ж.* Гуз. *На назе якія гулябу панарасталі. Мне моцна баліць гуляба на назе.* Шкураты Браг.
ГУ'МА *ж.* Гу'ба. *Якая тоўстая расьцець на бярозя гума.* Ністанішкі Смарг.
ГУМНО' *н.* Агароджаны ўчастак зямлі з сельскагаспадарчымі будынкамі. *У гумне быў ток з ёўній, пуня і пожня была, яе касілі, а потым на гэтай пожні сушылі сена і снапы. Усё гэта було ў гумне.* Ваўкавічы Тал.
ГУМО'ЎЦЫ *мн.* Гумавыя боты. *Наложы на ногі гумоўцы, а то мокра.* Бастынь Лун.
ГУНДО'С *м.* Гугнявы чалавек. *Ён гундос.* Азарычы Пін.
ГУНДО'СІЦЬ (гундо'сіті) *незак.* Гугнявіць. *Ее мужык хворы, дай вэн гундосіт у нос.* Азарычы Пін.
ГУНДО'СЫЙ *прым.* Гугнявы. *Гэты чэловек гундосый, вэн у нос гундосіт.* Азарычы Пін.
ГУ'НЯ *ж.* Вялікая цёплая хустка. *Дай мне сваей гуні акрыцца, а то будзе холадна ехаць.* Вострава Маст.
ГУ'РА I *ж.* Гурба. *Надуло гуру сьнегу.* Бастынь Лун. *О, яку вельку гуру надуло!* Навасёлкі Свісл. *Сегодне ночу была мецеліца, і намело гуру сьнегу, нельга адчыніць дзьверы, гура сьнегу не пускае.* Бобрыкі Петр.
ГУ'РА II *ж.* Натоўп, гурт. *Пашла гура бабэй до сэна згрэбаті.* Азарычы Пін.
ГУ'РА III *ж.* Куча збожжа. *Колі жыто шчынілі, тоды ў гуру ссоўваемо.* Азарычы Пін.
ГУРДЗЕ'ЛКА *ж.* Кадык. *Оля', гурдзелка як кулак. От гурдзелка, што аш каўнер не зашпіліць. От велька у яго гурдзелка, з добры яблык.* Ністанішкі Смарг.
ГУРО'ЧНІСКА (гурочніско) *н.* Агурочнік. *Ужо восінь, гурочніско засохло і німа гуркоў.* Стайкі Барыс.
ГУРТ *м.* Вогнішча. *Гурт пастухі разлажылі і пякуць бульбу.* Сяляўшчына Рас.
ГУ'СІНА *ж.* Гусь. *Пасадзіла гусіну на яйцы.* Ністанішкі Смарг.
ГУСТО'БКА *ж.* Гестка. *Трэбо строчыті густобку ў сорочцы.* Азарычы Пін.
ГУСТО'ЎКА (густо'вка) *ж.* Тое, што і густобка. *У сорочцы на плечах прышывиецца густовка.* Горск Бяроз.
ГУ'СЦЕ (гу'сте) *н.* Чалеснік. *Поломнэ ідэ у густе пэчы. Поломнэ шугае гэж у густе.* Азарычы Пін.



ГУ'СЫ-ГУ'СЫ-ГУ'СЫ *выкл.* Ужываецца, калі падзываюць гусей. Горск Бяроз.
ГУСЬ-ГУСЬ-ГУСЬ *выкл.* Тое, што і гусы-гусы-гусы. Старае Сяло Зэльв.
ГУСЯНЮ'К *м.* Гусяня. *Гусянюк сядзіць, яму ношка баліць.* Паляцкішкі Вор.
ГУЦАЦА'-ГУЦАЦА' *выкл.* Ужываецца пры падкідванні дзіцяці на руках. *Вот дзіця ні пасядзіць, усё яго падкідавай на руках, гуцаца-гуцаца!* Моханава В.-Дзв.
ГУ'ЦАЦЬ *незак.* Падкідваць дзіця на руках, гаворачы гуцацагуцаца. *Кінь ты яе гуцаць на руках, палажы ў кулубель, хай спіць.* Моханава В.-Дзв.
ГУ'ЦКАЦЬ *незак.* Тое, што і гуцаць. *Гуцкай, гуцкай, іна і з рук ня зьлезіць, і будзіш гуцкаць.* Моханава В.-Дзв.
ГУЧО'К *м.* Шнурок. *До чэрэвык трэбо гучка засунуты.* Азарычы Пін.
ГУЧЫ'ЦЕЛЬ (гучы'тэль) *м.* Настаўнік. *Ік нам прыехав новый гучытэль.*
ГУЧЫ'ЦЕЛЬНІЦА (гучы'тэльніца) *ж.* Настаўніца. *Гучытэльніца ў нас жывэ.* Горск Бяроз.
ГУША'К *м.* Вушак. *Закладнык выбэраты чэтвэрть у гушаках.* Горск Бяроз.
ГУ'ШЧА *ж.* 1. Ячны крупнік з бобам. *Намачы бобу, заўтра будзім варыць гушчу. Усыпыла ячных круп і бобу і наварыла гушчы.* Моханава В.-Дзв. 2. Ячныя крупы. *У ступі натаўклі гушчы і будзім кашу варыць з гушчы.* Сляляўшчына Рас. 3. Густая частка варыва. *Што гэта за ііда? Гушчу вылавіў, а жышку пакінуў.* Моханава В.-Дзв.
ГЫДЗЫ'ГАЦЬ (гыдзы'гаты) *незак.* Казытаць. *Нэ гыдзыгай мэнэ, бо я боюс шэлкоты.* Горск Бяроз.
ГЫ'ЛЯ-ГЫ'ЛЯ-ГЫ'ЛЯ *выкл.* Ужываецца, калі адганяюць гусей. Моханава В.-Дзв., Мнюхі, Казлы Міёр., Стары Свержань Стаўбц., Заазер'е Віл., Бярозкі Хоц., Сімакава Кар.
ГЫНЧЭ'Й *прысл.* Інакш. *Ето полотно гынчэй выткано за тое.* Горск Бяроз.
ГЭ I *часц.* Так. *Гэ, кэб вэн чужэй був, а то свэй. Прыклунак прыбудаваны до клуні, гэ. Шэпка і прыклунак-однэ самэ, гэ. О, гэ, гэ, вэн пачав дужо гундосіті.* Азарычы Пін.
ГЭ II *прысл.* Так. *Можно ісці гэ і гэ. Гэ можно зробіть.* Азарычы Пін.
ГЭ III *выкл.* Выражае эмацыянальныя адносіны да з'явы. *Гэ, з'еў цэлу обэртку хлеба. От як жарко, гэ. Гэ, сонейка свеціць, і дож цыганскій ідзе.* Бобрыкі Петр.
ГЭ IV *займ.* Гэта (ужываецца пры адсутнасці выказніка). *Ворэя — гэ хозяйка, што варыць.* Бастынь Лун.
ГЭ'ДАК *прысл.* Так. *Я табе даўно кызала, што гэдак не нада рабіць, гэдак ніхто не робіць.* Моханава В.-Дзв.
ГЭ'ДАКІ *займ.* Такі. *Мо гэдакі самы, як і твой.* Моханава В.-Дзв.
ГЭЙ *злучн.* Ды. *Кэб гэй горох усе лузаті, і лузаті трэбо.* Бастынь Лун. *Забуласа хату замкнуті гэй пэрэспала.* Азарычы Пін.
ГЭ'РГАЦЬ (гэ'ргаті) *незак.* Гагатаць. *Прышлі гусі і гэргаюць, хочуць есці.* Азарычы Пін.
ГЭ'СТАК *прысл.* Так. *Гэстак і я казала яму.* Грабаўё Пух.

ГЭ'СТЫ *займ.* Гэты. *Гэсты конь добры.* Грабаўё Пух.
ГЭ'ТТА *прысл.* Тут. *Во гэтта стаяла яе хата.* Моханава В.-Дзв.
ГЭ'ТТАКА *прысл.* Тое, што і гэтта. *Вот гэттака добрая зямля, можна садзіць капусту.* Моханава В.-Дзв.

# Д

ДАВЕ'ДКІ (довэ'дкы) *толькі мн.* Адзін з момантаў вясельнага абраду. *Дружок прышов на довэдкы ік молодой, колы будэ вэсэлле.* Горск Бяроз.
ДАВЕ'ЧЫ *прысл.* Нядаўна. *Давечы мама прыходзіла ка мне.* Моханава В.-Дзв.
ДАДУШЫ' *прысл.* Сапраўды. *Дадушы іна надоечы была ў мяне.* Моханава В.-Дзв.
ДАК *злучн.* Дык. *Ак залезла ў дрыгву, дак і вулізці не могу, земля дрожыць.* Бобрыкі Петр. *Му хацелі іці па грыбу, дак Анета не захацела.* Тульгавічы Хойн.
ДАЛАШЧЫ'ЦЬ (долошчы'ць) *незак. асудж.* Гаварыць, балбатаць. *От ена абу-што долошчыць, абу долошчыць без толку.* Бобрыкі Петр.
ДАЛБАВІ'СТЫЙ (долбові'стый) *прым.* Выбоісты. *Выбоіста, калдобіста, долбовіста дорога.* Бастынь Лун.
ДАЛІГНЕ'ЦЬ (долігнэ'ты) *незак.* Балець. *О дэ вот долігнэ, на пэчэнь. Вэтэ покажэтэ, дэ долігнэ. От подыму руку, ужэ і долігнэ.* Горск Бяроз.
ДАЛІ'НКА (долі'нка) *ж.* 1. Ярэмная ямка, якая знаходзіцца ніжэй адамава яблыка і вышэй грудзіны. *На шыі, ніжэй грудзёлкі, знаходзіцца далінка.*Ністанішкі Смарг. 2. Падлыжачная ямка, якая знаходзіцца пад грудзінай. *Далінка под грудзямі баліць мне. О-ёй, у долінцы боліт пуд грудзямі.* Азарычы Пін. 3. Патылічная ямка. *Ззадзі коль потыліцы е долінка.* Азарычы Пін.
ДАЛУКА'Х *прысл.* На зямлі, на падлозе. *Дзіця сядзіць далуках.* Давыдзькава Пол.
ДАМАВА'ЦЬ *незак.* Сядзець дома. *Яна усе врэмя дамуе і не ходзіць на работу.* Шкураты Браг.
ДАМАТКА'Н (домотка'н) *м.* Андарак. *Абстрыгла вэчкі' і выткала домоткана. Домоткан ношу ў свята.* Азарычы Пін.
ДАПАДА'ЦЬ *незак.* Падыходзіць, адпавядаць. *Як яму акуляры да воч дападаюць.* Навасёлкі Свісл.
ДАПЕ'РА (допэ'рэ) *прысл.* Цяпер. *Я допэрэ ныц нэ скажу, бо усэ сказала.* Горск Бяроз.
ДАРО'ГА *ж.* 1. Лішак асновы ў шырыну пры накіданні ў ніты і бёрда, які ідзе назад. *Пасма ідзець назат у кроснах, вот і дарога. Дарогу матаім на пруток.*Ністанішкі Смарг. 2. Памылка ў палатне, незатканае месца. *Ідзе дарога ў палатне, парвалася нічальніца ў нітах. У берда нітку не ўвяла, і ў палатне ідзе дарога.* Паляцкішкі Вор.
ДАРО'ЖКА (дорo'жка, даро'шка) *ж.* 1. Лінія на далоні. *Дарожкі у долоні, на якія цыганка гадае. У однэй дорожцы мнэго маленькіх дорожак.* Азарычы Пін. 2. Мярэжка. *Адрэзала дзьве створкі на настольнік і, кап ён быў шырэйшы, зрабіла тамбурым дарошку.* Якубова Рас. 3. Вузкая вышытая палоска палатна, якая кладзецца на стол. *Мама, засцялі дарошку на стол.* Паляцкішкі Вор.
ДАТЫКА'Ч *м.* Кіёчак, на які надзяюць знятую з навоя аснову, каб даткаць кросны. *Узяла датыкач, надзела на яго канцы асновы, атпусціла навой і буду датыкаць кросна.* Касталомава В.-Дзв.
ДАЎГУ'Н *м.* 1. Прыстасаванне ў страсе, да якога прымацоўваюць вадасцёк. *Унізу ў страсе робюцца даўгуны, а на даўгуны кладзецца жолуп. Адзін даўгун меншы за другі зрабіў.* Якубова Рас. 2. Лата. *Віццё круцюць з бярэзніка і прывязываюць паплеціну да даўгуна. Даўгуны прыбіваюць да кроклаў.* Сяляўшчына Рас.
ДАЧА'НКА (доча'нка) *ж.* Пляменніца. *Ко мнэ у госты прыехала дочанка, дочка мойго брата.* Горск Бяроз.
ДАШО'К *м.* Застрэшак у нізе франтона. *Зрабіў дашок у канцы хаты, кап не залівала сцяны.* Брусы Мядз.
ДАШЧЭ'ЧКА (дошчэ'чка) *ж.* Понаж. *Стаў ногы на дошчэчку і круты коворотку.* Горск Бяроз.
ДАШЧЭ'ЧКІ (дошчэ'чкі) *толькі мн.* Дзве тонкія дошчачкі ў кроснах, якія служаць для таго, каб не блыталіся ніткі асновы. *Дошчэчкі трэбо, бо колі не було б дошчэчак, то і кросна ткаті не можно.* Бастынь Лун.
ДВАЦЦА'ТКА *ж.* Дошка шырынёй у 20 см. *Дошка-двацатка кладзецца ў цацку, калі робім двайныя дзьверы.* Міратычы Кар.
ДВОЙНІ *толькі мн.* Сахор. *Дзе двойні стыяць? Вазьмі двойні і кідай на вос гной.* Моханава В.-Дзв. *Навос ныкапвалі двойнямі і скапавалі двойнямі.* Вароніна Рас.
ДВУХФО'РТАЧНЫЙ *прым.* Двухстворкавы. *Зрабіў у хаці дзьверы двухфортачныя.*Ністанішкі Смарг.
ДЖГА'ДЛА (джга'дло) *н.* Джала. *Пчолка укусіла і пакінула джгадло сваё.* Старае Сяло Зэльв.
ДЖГА'ЛА *н.* Лязо. *У касе вушчарбілася джгала, трэба паклепаць.* Шкураты Браг.
ДЗЕВЯ'ТНІК (дзівя'тнік) *м.* Дзевяты чацвер пасля вялікадня. *Завтра дзівятнік, нада ехаць у Боркавічы на кірмаш.* Моханава В.-Дзв.
ДЗЕВЯТУ'ХА (дэвэту'ха) *ж.* Дзевятая частка зямельнага надзелу. *У его дэвэтуха зэмнэ.* Горск Бяроз.
ДЗЕРАВІ'НА (дзерэві'на, дэрэві'на) *ж.* Дрэва. *Адзёр — ето место на дзеравіне ў лесі, дзе стояць улы.* Бобрыкі Петр. *О, ето добра дэрэвіна: ліпова, хвоёва, бэрозова.* Бастынь Лун.
ДЗЕРАВО' (дзіраво') *н.* Выгнутая шырокая дошка ў сасе для прымацавання нарогаў і ручак. *У сасе ёсць дзіраво. На канцы дзірава надзяюцца лімяхі і кладзецца на верх пярэклатка.* Даўгабор'е Рас.
ДЗЕРБАЛЫ'ЗНУЦЬ *зак.* Моцна ўдарыць. *Іду, гляджу, ён лезіць у садок, а я ж яму як дзербалызнуў, дак ён і з нох зваліўся.* Касталомава В.-Дзв.
ДЗЕРМЯЗА' *ж.* Дзераза. *Нарвалі дзермязы і апхарашылі хату.* Барыскі Лаг.
ДЗЕСЯНЦІ'НА *ж.* Дзесяціна, мера зямлі. *Грунт меў 12 дзесянцін зямлі.* Міратычы Кар.
ДЗЕСЯ'ТАК (дзеся'ток) *м.* 1. Бабка, від укладкі снапоў на полі. *Поставілі снопы в дзесяткі. Одын дэсяток я поставів і накрыв.* Азарычы Пін. 2. Мера чэсанага лёну. *Дэсят повэсмов лічыцца дэся-*


4. Зак. 1598

*ток*. Азарычы Пін. *Чэсала лён і по пять повэсом у руку і у десяткы поплела.* Горск Бяроз.

ДЗЁ-ДЗЁ-ДЗЁ *выкл.* Ужываецца, калі падзываюць свінней. Сімакава Кар., Моханава В.-Дзв.

ДЗІРАГА′ *ж.* Тое, што і дзермяза. *Пашла ў лес і нарвала дзірагі, буду ўбіраць хату.* Ністанішкі Смарг.

ДЗІ′РСА (ды′рса) *ж.* Гірса. *У етум годзе ў жыце дырсы богато понізу.* Бобрыкі Петр.

ДЗІЧ *м.* 1. Бародаўка. *У яго много на руцэ дзічоў. Я вырызаў дзіч.* Моханава В.-Дзв. 2. Чарвяточына на бульбіне. *Паглядзі, як многа дзічоў на бульбіні, ды і сідзяць глубока.* Моханава В.-Дзв.

ДЗУ′ГЛІ *толькі мн.* Цуглі. *Надо коня задзугляць дзуглямі, коб не понёс.* Бобрыкі Петр.

ДЗЮБ (дзюп) *м.* Дзюба. *Вялікі дзюп у коршыка.* Старае Сяло Зэльв.

ДЗЮ′ГА (дюга) *ж.* Дуга. *Возьмі дюгу і запрэжы коня.* Азарычы Пін.

ДЗЮ-ДЗЮ-ДЗЮ *выкл.* Тое, што і дзё-дзё-дзё. Стары Сверажань Стаўбц., Барыскі Лаг., Заазер′е Віл., Лешня Кап., Бярозкі Хоц., Міратычы Кар., Моханава В.-Дзв., Мнюхі Міёр.

ДЗЮ′ЖЫЦЬ *незак.* Моцна ліць. *На дварэ дождж дзюжыць.* Шкураты Браг.

ДЗЮ′НЬДЗІЦЬ *незак.* Ссаць грудзі (пра дзіця). *Вот дзюньдзя, дак дзюньдзя, цэлы дзень цыцку дзюньдзіць.* Моханава В.-Дзв.

ДЗЮ′НЬДЗЯ *м.* і *ж.* Дзіця, якое любіць ссаць грудзі. *Дзюньдзя ты, толькі і дзюньдзіш.* Моханава В.-Дзв.

ДЗЯ′ГА *ж.* Палоска ліпавай кары. *Ідзі надзяры дзяг ліповых.* Бобрыкі Петр.

ДЗЯ′ДНА *ж.* Жонка бацькавага брата. *У майго бацькі е брат, а ў брата е жонка, а яна мне будзя дзядна.* Шкураты Браг.

ДЗЯДО′К *м.* Прыстасаванне для звівання нітак, якое складаецца з бруска і ўстаўленых у яго двух слупкоў. *Прынясі дзядок у хату, будзім ніткі звіваць і кросна ткаць.* Касталомава В.-Дзв.

ДЗЯДЫ′ I *мн.* Прымацаваныя да восі і трайні жалезныя пруты. *У тырынтасі ёсць дзяды, якія скрыпляюць вось с тырынтасам.* Сяляўшчына Рас.

ДЗЯДЫ′ II (дідэ′) *мн.* Нязжатыя каласы. *Шчо ты дідэ покынула зімоваты. Добро жнэ жныя, дідэ нэ стоят.* Паплавы Бяроз.

ДЗЯ′ЖКА *ж.* 1. Тое, што і дзяга. *Вазьмі лутовыя дзяжкі і зматай у верч, намачы. Зашырокая дзяжка лыка, трэба кроіць вузейшую.* Шкураты Браг. 2. Палоска. *Выткала домоткана, одна суконна нітка, а друга порцяна, і ткала домоткана ў дзяжкі.* Азарычы Пін.

ДЗЯКА′Б (дзека′б) *м.* Снежань. *Дзекаб месяц, а снегу нема.* Тульгавічы Хойн.

ДЗЯ′ЛКА *ж.* Соткі, выдзелены для апрацоўкі ўчастак поля. *Мне далі дзялку буракоў выпалаць.* Ністанішкі Смарг.

ДЗЯНІ′К *м.* Агароджанае для каровы месца каля хлявоў. *У дзеніку′ стыялі каровы, і там даілі іх.* Сяляўшчына Рас. *Выгані карову на дзянік, буду даіць.* Моханава В.-Дзв.

ДЗЯ′ННА *ж.* Жонка бацькавага брата. *Дзянна — гэта жонка майго дзядзькі, а дзядзька — брат бацькі.* Бобрыкі Петр.

ДЗЯ′НЦА *н.* Драўляная дошчачка, на якой крышаць сала, цыбулю. *Вазьмі дзянца і пакрышы сала.* Ваўкавічы Тал.



ДЗЯРЖА′ЛЬНА (дэржално) *н.* Дзяржанне. *У кочэрге зломалосо дэржално.* Азарычы Пін.

ДЗЯРЖА′НКА (дзержа′нка) *ж.* Дзяржанне, ручка. *Дубовая дзержанка ў лапаце.* Тульгавічы Хойн.

ДЗЯРУ′ГА *ж.* Дзераза. *Пашлі ў лес і ныдралі дзяругі.* Моханава В.-Дзв.

ДЗЯРУ′ЖКА (дзеру′жка) *ж.* Саматканая коўдра з пяці полак. *Дзеружку шыюць у пяць полак і ею накрываюцца. Дзеружка толькі зрэбная.* Бобрыкі Петр.

ДЗЯ′ТЛІВІНА *ж.* Дзікая канюшына. *Сходзі аткасі дзятлівіны цялушцы.* Моханава В.-Дзв.

ДЗЯЎБА′К *м.* Дзюба. *Які бальшы дзяўбак у пеўня.* Міратычы Кар.

ДЗЯ′ЎКАЦЬ (дя′ўкать) *незак. асудж.* Многа гаварыць. *Вона дяўкае і дяўкае без перастанку.* Бастынь Лун.

ДЗЯЦІ′НУХА *ж.* Квахтуха. *Дзяцінуха добрая, добра глядзіць зы цыплятамі.* Якубова Рас.

ДЛУБА′К *м.* Дзюбка. *О-ёй, яка длубак у шуляка.* Горск Бяроз.

ДНІ′ШЧА (днішчэ) *н.* Сядзенне ў прасніцы. *У потэсі е днішчэ, на которым мы сэдымо і прадэмо.* Азарычы Пін. *Паламалосё днішча ў прасніцы, трэбо паправіць.* Міратычы Кар. *Зломалосо днішча ў прасніцы.* Бобрыкі Петр.

ДО′БА *ж.* Суткі. *Цэлую добу ліў дошч, дзень і ноч.* Паляцкішкі Вор.

ДО′БРЫК *м.* Баравік. *Пашоў я рана ў грыбы і набраў цэлы кош адных добрыкаў.* Каменка Жл.

ДО′ШНІК I *м.* Века. *Нада памыць дошнік капусту накрыць.* Якубова Рас.

ДО′ШНІК II *м.* Вялікая дзежка для капусты. *Насаліла капусты цэлы дошнік, хваціць на зіму.* Якубова Рас.

ДРАБА′К *м.* Спружынная барана. *Пазыч мне свайго драбака падрапачыць папар.* Моханава В.-Дзв.

ДРАБІ′НЫ *толькі мн.* Прыстасаванне, за якое кладуць сена жывёле. *Укінь сена ў драбіны, хай есць карова.* Касталомава В.-Дзв. *Прыкалаціў да сцяны драбіны і палажыў сена за драбіны карові.* Карабаўшчына Бабр.

ДРАБНІ′ЦА *ж.* Акалот. *Снапы абмалацілі, а тады акалочваем і вытрасаем драбніцу. Жыта змалацілі, а цяпер трэба драбніцу злажыць у стог.* Заазер′е Віл.

ДРА′БЫ *толькі мн.* Драбіны ў возе. *Кары — большый вэз з драбамі, буў у пана, у мужыкэў буў вэз із-за пліскамі по бокэх.* Бастынь Лун.

ДРАБЯСЦЁ *н. зборн.* Паплёт. *Прывёс з лесу драбясцё, будзім страху крыць.* Навасёлкі Свісл.

ДРАБЯСЦІ′НА *ж.* Жэрдка для прыціскання саломы на страсе. *На лату кладзецца салома, а на салому кладзецца тонкая драбясціна і прывязваецца пашкамі.* Навасёлкі Свісл.

ДРАВІ′ЦА *ж.* Карова, якая ацялілася першы раз. *Мыя дравіца дае мала мылька. Іна ш першацёлка ў мяне.* Касталомава В.-Дзв.

ДРАВУ′ШКА *ж.* Цялушка другога года. *Другі гот дравушцы, а іна ўжо пакрылася, будзіць цяліцца.* Якубова Рас.

ДРАМА′К *м. асудж.* Чалавек, які многа спіць. *Драмак гэты, дзень і ноч спіць і ніяк не выспіцца.* Шкураты Браг.

ДРАМАКІ′ *мн.* Нязжатыя сцяблы збожжа. *Во жне нядобра, драмакоў напускала, дай шчэ багата. Стаяць драмакі, як свечкі.* Шкураты Браг.

ДРА′НКА I *ж.* 1. Драная бульба. *З бульбы ныдрала дранкі, будзім пячы дранікі.* Моханава В.-Дзв. 2. Бабка з бульбы. *Надзёрла бульбы і паставіла ў печ дранку с салам.* Міратычы Кар.

ДРА′НКА II *ж.* Шчапаная гонта. *Асінавай дранкі ныдраў, буду хату перакрываць.* Моханава В.-Дзв.

ДРАПА′Ч *м.* Культыватар. *Драпачом, калі запушчана раля, драпаюць ралю, а пасля драпача барануюць.* Вострава Маст.

ДРАПАЧАВА′ЦЬ *незак.* Культываваць. *Калі запушчана раля, тады драпачуюць драпачом.* Вострава Маст.

ДРА′ПКА *ж.* Матузок. *Прышый мне ік спадніцы доўгія драпкі, кэб я магла шырай распускаць. Атарвалася драпка ў хвартуху.* Шкураты Браг.

ДРАТАВА′НКА *ж.* Пужка, звітая з пяці-шасці частак (вяровачак). *Я сабе ны пасту зьвіў дратаванку аш тры метры.* Моханава В.-Дзв.

ДРАЦЬ *незак.* Часаць лён на металічны грэбень. *Нада іці лён драць на драчку.* Сляўшчына Рас.

ДРАЧ I *м.* Сталярны інструмент, якім выразаюць пазы. *Вазьмі драч і зрабі добрую драчку, коб було добра мох лажыць, коб цёпла було.* Шкураты Браг. *Драчом драчуюць бруса, кап ні выпадаў мох са зруба.* Навасёлкі Свісл.

ДРАЧ II *м.* Выемка ў верхнім бервяне для шчыльнага прылягання яго да ніжняга ў зрубе. *Трэбо ў дэрэвынэ вырубаты драча, коб добра дэрэвына легла на дэрэвыну.* Горск Бяроз.

ДРАЧАВА′ЦЬ I (драчова′ты) *незак.* Адбіваць знак на бярвенні для распілоўкі на дошкі. *Трэбо іты драчоваты дэрэвыны і будэм рэзаты на доскы.* Горск Бяроз.

ДРАЧАВА′ЦЬ II *незак.* Выразаць пазы. *Вазьмі драч і ідзі драчаваць бярвення на хату. Драчом драчуй глубей бруса, а то мох будзя высыпацца.* Навасёлкі Свісл.

ДРА′ЧКА I *ж.* Тое, што і драч II. *Вазьмі драч і зрабі добрую драчку, коб було добра мох лажыць, коб було цёпла ў хаці.* Шкураты Браг.

ДРА′ЧКА II *ж.* Металічная шчотка для абдзірання лёну. *У драчку набіты гвоздзі, на гэтый драццы сморгаім лён.* Стайкі Барыс. *Ны драчку чэшуць лён, адлітаюць вярхоўя. Прынясі драчку, буду лён скідываць.* Якубова Рас. *Мы лён абдзіралі на драчку.* Ваўкавічы Тал. *Лён ны драчку чэшуць.* Сляўшчына Рас.

ДРА′ЧКА III *ж.* Тое, што і дзяга. *Лозу дэрэмо на драчкі і плэтэмо лапці. Абрэж драчку, а то шырокая.* Горск Бяроз.

ДРО′ЗКА *ж.* Лучына. *Надралі дрозок свэтыты, коб выдно було ў хаты.* Горск Бяроз.

ДРОНГ *м.* Трайня. *На вос накладаіцца драйняны пранік, а на пранік кладзецца крэсла, а ў крэсла ўбіваюцца ручкі і дронг для злучэння задніх калёс. Дронг злучаіць пярэдняе і задняе крэслы.* Ністанішкі Смарг.

ДРУ′ЖКА (дру′жко) *м.* Шафер. *Дружко прышоў на довэдкы ік молодой, колы будэ вэсэлле.* Горск Бяроз.

ДРУ′КІ *толькі мн.* Прыстасаванне для сушкі збожжа. *Набіў друкі і буду садзіць авёс, хай сохніць.* Моханава В.-Дзв.



ДРУ′ЧКІ *толькі мн.* Тое, што і друкі. *Пыставіў друччкі, а цяпер нада ўдзець гарох, кап сох, і снапы.* Моханава В.-Дзв.

ДРЫВАРУ′Б (дрывару′п) *м.* Дрывасек. *Прышлі да яе дрываруббы. Дрываруббы будуць калоць дровы.* Якубова Рас.

ДРЫГВА′ *ж.* Квашаніна. *Давай наварымо дрыгвы з головы і з нэг.* Азарычы Пін.

ДРЫ′КАЦЬ (дры′катэ) *незак.* Гізаваць. *Корова дрыкае, гырэзыцця.* Дзмітравічы Кам.

ДРЫЛЬ I *м.* Маленькі свярдзёлак. *Дрыль дрыляваць дзіркі ў граблях для зубоў.* Навасёлкі Свісл.

ДРЫЛЬ II *м.* Палка. *Вот як вазьму дрыль, ды як начну цібе гэтым дрылям пойсаваць.* Касталомава В.-Дзв.

ДРЫЛЯВА′ЦЬ *незак.* Свідраваць. *Дрыляваць трэбо дзіркі ў граблях. Выдрылюй стаўпца на граблі.* Навасёлкі Свісл.

ДРЭ′НЧЫЦЬ *незак.* Дражніць. *Што ты дрэнчыш собаку?* Горск Бяроз.

ДРЭНІ *мн.* Дзёран. *На болоті копают дрэні і накладают на лён, коб ны вэплэвав.* Дзмітравічы Кам.

ДУ′ДДЗЕ *н. зборн.* Бацвінне. *Ідзі нылымай дуддзя з буракоў.* Манякова Міёр.

ДУ′ДКА (ду′тка) *ж.* Канец птушынага пяра, на якім не расце пер'е. *Калі вырваць пярыну с крыла, дак дутка тоўстая, а калі с храпта, дак тонкая.* Моханава В.-Дзв.

ДУ′ЖКА (ду′шка) *ж.* 1. Дзяржанне ў кошыку. *Поломалася дужка ў кашэліску.* Бастынь Лун. *У кошэлі ізломалася дужка.* Бобрыкі Петр. *У кошыку арэхавая душка.* Моханава В.-Дзв. 2. Ручка ў возе. *Пліскі позакладае за дужкі, дай еде собэ.* Бастынь Лун. 3. Грабелькі на касе. *Прыстрой да касы душку, пайду касіць ячмень. Душка добра аткладае раткі, як косіш.* Барыскі Лаг.

ДУ′ЛЬКА *ж.* Дробныя часткі валакна, пыл пры апрацоўцы ільну. *Траплю лён, а дулькі так многа летіть.* Бастынь Лун.

ДУРЭ′Ц *м.* Палявы асот. *Нарвала дурца ў булбі і дам свіням.* Бастынь Лун.

ДУХ *м.* Пара ў лазні. *Заллюць печку вадой, а дух як шугне гарачый, і ў гэтым духу на цыпка′х хвысталіся.* Ваўкавічы Тал.

ДУША′ *ж.* Падбіўка ў шапцы. *Порвалася душа ў вушанцы, надо зошыть, а то нэма як наклодаті.* Бастынь Лун.

ДЫ′БАЛА *м.* Вялікі, нясkладны чалавек. *На гэтага дыбала нічога ня купіш, трэба ўсё шыць.* Вадва В.-Дзв.

ДЫБА′СТЫ *прым.* Чалавек, у якога доўгія ногі, даўганогі. *Ен такі дыбасты, што і штаноў ні дыбраць.* Моханава В.-Дзв.

ДЫВА′Н *м.* Пакрывала на ложак. *Тчут дыванэ, дыван увэсь шырстянэй.* Дзмітравічы Кам.

ДЫЛЬ *м.* 1. Тоўстая дошка для асадкі акон і дзвярэй. *Одын дыль зробів, а трэбо чтэры дылі на вокны.* Бастынь Лун. *Ходэм нарэжымо дылёў на хату, бо трэба робыты двэры.* Горск Бяроз. 2. Кароткае бервяно, якое кладзецца ў прасценак паміж вокнамі і паміж вуглом і дзвярамі. *Положый дыль поміж окон, а тэпэрэ буду ложыты поміж углом і двэрамі.* Горск Бяроз.

ДЭ′НЦА *н.* Драўляная дошчачка, на якой крышаць сала, цыбулю. *Дай мне дэнца порэзаті м'ясо.* Бастынь Лун.

ДЭСЯНЁВЫЙ (дэсенёвый) *прым.* Узорысты. *Выткала дэсенёвый настэльнік. У дэсенёвым настэльніку е бэльшая клетка і е маленькая.* Азарычы Пін.

# Е

Е'ЖЫК *м.* Вожык. *Ежык мышы ловіт.* Азарычы Пін. *Бацька мой прынёс ежыка.* Паляцкішкі Вор.

Е'ЗДЗІЦЬ (е'здыты) *незак.* Круціцца, ёрзаць. *Чаго ты ездыш по лаўцы?* Горск Бяроз.

Е'М'Е *н.* Вымя. *Ем'е добрэе ў твоей коровы.* Бастынь Лун.

ЕРАШЧА'КА *ж.* Верашчака. *Семянё высушыць, а тады стаўкуць і на сітко прасеюць. Густаваценько разводзяць семянё на кваску і праварваюць. Гэта і ёсць ерашчака смачная.* Міратычы Кар.

Е'ТА *займ.* Гэта. *Во ета по-ранейшаму звалі просты крам. Купіла на бунду простого краму.* Бобрыкі Петр.

Е'ТАТ *займ.* Гэты. *Етат маліц, відаць, добры зух.* Грабаўё Пух.

Е'ТАКІ *займ.* Гэтакі. *Пашто ву рэжыця етакімі бурталямі радыс, чы ву будзяця есці?* Шкураты Браг.

Е'ТЫ *займ.* Гэты. *Без етого можно абысціся.* Грабаўё Пух.

# Ё

Ё. Ёсць. *У верхнім камяні ё крыставіна, крыставіна надзяецца на стойку.* Барыскі Лаг.

ЁГЕР (ёгэр) *м.* Жарабец. *Кобыла паліцца, трэбо вэсті до ёгэра.* Азарычы Пін.

ЁМКА *ж.* Чапяла. *Поломаласа ёмка, нема чым сковороду достаць. У камешніку стояць: ківіня, ёмка і вілкі.* Бобрыкі Петр. *Вазьмі ёмку і вуцягні аладкі с печы.* Тульгавічы Хойн. *Ёмка стаіць у камешніку.* Карабаўшчына Бабр.

ЁСЬ. Ёсць. *У свірня ёсь аруты, куды сыпяць збожа.* Ністанішкі Смарг. *У плузі ёсь рашотка, якая рагуліруя, як трэба араць, глубока ці мелка.* Якубова Рас.

# Ж

ЖА'БА *ж.* Дэталь у плузе для прымацавання паліцы і ручак. *Да жабы прывінчываюць атвал і ручкі ў плугі.* Сяляўшчына Рас.

ЖА'БЕРНІК *м.* Жабурынне.*У нас у сажалцы многа жаберніку. З жаберніка выходзяць малыя жапкі.* Жукі Кар.

ЖА'БКА (жа'пка) *ж.* Калодачка з дзіркай на верхнім камені жорнаў, у якую ўстаўляецца ніжні канец млёна. *Дубовую зрабіў жапку, а цяпер трэба яе прымацаваць да верхняга каменя і ўдзець млён.* Альхоўка Навагр.

ЖАБУРЫ'НЕ *н. зборн.* Раска. *Іды ў груд, наловы жабурыння паршуковы даты есты.* Горск Бяроз.

ЖАВА'КА *ж.* Жвачка. *Корова жаваку жуе. Корова загубіла жаваку.* Бобрыкі Петр.

ЖА'ГА *ж.* Пякотка. *От мэнэ жага пэчэ.* Бастынь Лун.

ЖА'ГВА *ж.* Гу'ба. *Жагва ростэ на бэрэзынэ, вона высохае. Жагву кладут на кромушку і б'ют красілом, жагва загораецца.* Горск Бяроз.

ЖА'ЛАСЦІВЫ *прым.* Жаласлівы. *Ён дужа жаласцівы.* Моханава В.-Дзв.



ЖА'ЛКА. Шкада. *(У знач. безас. выказ). Мне яе дужа жалка стала.* Моханава В.-Дзв.

ЖАЛУ'Д (жалут) *м.* Зялёнае яблычка на бульбяніку. *У бульбі на быльніку зялёныя жылуды. Я адзін жалут сарваў, дак такі горкі.* Сяляўшчына Рас.

ЖАМЕ'РЫНЫ (жэмэ'рэны) *толькі мн.* 1. Скваркі. *Парэзала сала на патэльню і паставіла ў печ, тлушч вытёк, осталыс жэмэрэны.* Горск Бяроз. 2. Адходы пры апрацоўцы мёду. *Пэрэтопыв мэд, осталыс жэмэрэны.* Горск Бяроз. 3. Рэшткі пасля працэджвання цэду на кісель. *Працадзіла цэт на рэшата, а жамерын многа было.* Моханава В.-Дзв.

ЖА'НДЛА (жа'ндло) *н.* Джала. *Пшчала ўкусіла, выньце жандло.* Паляцкішкі Вор.

ЖАРАЛО' (жэрало') *н.* 1. Лаз у склеп. *Цесноё жарало ў пограбі.* Стайкі Барыс. 2. Дзірка ў верхнім камені жорнаў для засыпкі збожжа. *Ня сып многа ў жарало, а то цяжка будзіць малоць у жорны.* Ваўкавічы Тал.

ЖАРА'ТАК *м.* Жар. *Выгарніця с печы жаратак. Налажы жаратку ў жаляску.* Ністанішкі Смарг.

ЖАРЛО' (жэрло') *н.* Джала. *От пчэла ўсадзіла мнэ жарло ў палец.* Азарычы Пін. *Пчола укусыла і покынула жэрло ў руцы.* Горск Бяроз.

ЖАУКЛЯ'К (жавкля'к) *м.* Агурок, пакінуты на насенне. *Абарві жаўклякі і полажы на окно, хай спеють.* Бастынь Лун.

ЖАЎКРЫ'НЕЦ (жэўкры'нец) *м.* Неўрадлівая глеба. *Одзін жэўкрынец, і нічого не сеім.* Бастынь Лун.

ЖАЎТЛЯ'К *м.* Тое, што і жаўкляк. *У цебе на градзе так богато жаўтлякоў. Чаго ты жаўтлякі не зьбіраеш на насене.* Тульгавічы Хойн.

ЖВА'ЛЫ *толькі мн.* Васкавая залоза ў пчалы. *У пчолкі е жвалы, у гэтых жвалах вона робіть воск.* Бастынь Лун.

ЖВЯ'КА *ж.* Жвачка. *Карова жвякаіць жвяку.* Сяляўшчына Рас.

ЖВЯ'КАЦЬ *незак.* Жаваць. *Што-та мыя карова ні жвякаіць жвякі.* Сяляўшчына Рас.

ЖЛОБ І (жлоп) *м.* Жолаб. *Укінь сена ў жлоп, хай коні ядуць.* Ністанішкі Смарг.

ЖЛОБ ІІ *м. асудж.* Скупы чалавек. *От жлоб, прасіў, прасіў мукі пазычыць, дак гэты жлоб не даў.* Тульгавічы Хойн.

ЖЛУ'КТА *ж.* Луг з попелу. *У жлукту намачы палатно, хай беліцца.* Шкураты Браг.

ЖМЫ'ХА'ЦЬ *незак.* Мыць бялізну. *Дома буду жмыхаць сарочкі, а тады пайду на рэчку і буду пекаць пранікам.* Якубова Рас. *Налій вады ў начоўкі і жмыхай сваё плацця. Я буду плацця жмыхаць заўтра.* Сяляўшчына Рас.

ЖНІТВО' *н.* Жніво. *Ужо пачынаецца жнітво.* Моханава В.-Дзв.

ЖНІ'ЎНІК *м.* Іржышча, астаткі сцяблоў. *Жыта жжалі. Жніўнік добры, пайду скашу.* Моханава В.-Дзв.

ЖО'ЛАБ (жо'луп) *м.* Паз у дошцы. *У жолуп кладзецца драніца.* Якубова Рас.

ЖО'ЛУДЗЬ (жо'луць) *м.* Жолуд. *Я нашоў бальшы жолуць пат дубам.* Барыскі Лаг.

ЖО'РВАНЫ (жо'рвоны) *толькі мн.* Жорны. *Ідзі ў жорвоны смелі ечмень.* Бобрыкі Петр.

ЖО'РНІК *м.* Дашчаная шуфляда, на якой ляжыць ніжні камень у жорнах. *Зрабій жорнік у жорнах, а цяпер буду жорны строіць.* Паўлавічы Клім.

ЖСУКРЫ'НЕЦ (жсукрынэ'ц) *м.* Неўрадлівая глеба. *Жсукрынэц, ніц ні росте.* Бастынь Лун.

ЖУ'ЙКА *ж.* Жвачка. *Корова жует жуйку.* Азарычы Пін.

ЖУЛЬ-ЖУЛЬ-ЖУЛЬ *выкл.* Ужываецца, калі падзываюць авечак. Мнюхі Міёр.

ЖУРА'ЎКА *ж.* 1. Калодачка з дзіркай на верхнім камені жорнаў, у якую ўстаўляецца ніжні канец млёна. *У жорнах у верхнюм камене жураўка прывязана да абруча, які нацягнуты на верхні камень.* Навасёлкі Свісл. 2. Выемка ў ткацкім станку, куды закладаецца навой. *У стову е жураўка, у ету жураўку му кладом навойку. І ету вуразку му зовом жураўкой.* Бобрыкі Петр.

ЖУ'РКА *ж.* Грыбны суп. *Наварыла сягоня журкі з баравікамі.* Ністанішкі Смарг.

ЖУРЫ'ХА *ж.* Жур. *Журыха варыцца з аўсянай мукі. Журыха жыткая, і яе ядуць гарачую, а кісель густый і сцюдзёный ядуць.* Сяляўшчына Рас.

ЖЫВАТО'К (жывото'к) *м.* Лытка. *У твоей жонкы жывоток на ногэ тоўстый.* Горск Бяроз.

ЖЫВЕ'Ц (жывэ'ц) *м.* Прапушчаны па кіёчках ніта шнурок, да якога прывязваюцца петлі ніта. *Трэбо наніціць ніт на кійкі і завезаць жыўцом.* Бобрыкі Петр. *Нічальніцы надзяюцца на кіёчкі і закрапляюцца жыўцом. Жывец прывязваюць за адзін канец і за другі.* Міратычы Кар. *Завяжы ў нічальніцах жыўца, кап ні раскідаліся.* Навасёлкі Свісл. *На жывец навязваюцца кобылкі, а жывцэ прывязваюцца до двох пруткэв, вот вам і жывец.* Азарычы Пін.

ЖЫВІ'НА *ж.* Жывёла. *Ідзе с поля жывіна.* Навасёлкі Свісл.

ЖЫГА'ДЛА I *н.* Джала. *От пчала ўшпіліла жыгадла ў руку.* Ністанішкі Смарг. *У пчолкі ёсць жыгадла.* Старае Сяло Зэльв.

ЖЫГА'ДЛА II (жыгадло) *н.* Вастрыё. *У касе ступілосё жыгадло, трэбо пакляпаць.* Навасёлкі Свісл.

ЖЫГА'ЛА (жыга'ло, жага'ла) *н.* Джала. *Пчолка дала жагала. Укусіла і жагала aставіла.* Барыскі Лаг. *Пчолка ўкусіла і пакінула жыгало ў пальцы.* Міратычы Кар.

ЖЫ'ЖА *ж. дзіцяч.* Агонь. *Ня руш, а то жыжа кусь, жыжа кусь!* Моханава В.-Дзв.

ЖЫКО'ВІНА (жыко'вына) *ж.* Пярсцёнак. *Купыла жыковыну і наложыла на палец. Жыковына бэз гочка.* Горск Бяроз.

ЖЫ'ЛКА *ж.* Жменя цёртага лёну. *Як мы чэшэм шэрсценэй шчэткою, то лён накручываем на пальцы, гэта і е жылка.* Азарычы Пін.

ЖЫ'ПАЦЬ (жы'пать) *незак.* Кракаць. *Качкі жыпають, есці хочуть.* Бастынь Лун.

ЖЫ'ТНІСКА (жы'тніско) *н.* Іржышча, астаткі сцяблоў. *Пайду жытніска касіць, там многа травы.* Паляцкішкі Вор. *Жыто пожалі, засталосо жытніско.* Азарычы Пін.

ЖЫ'ЧКА *ж.* Чырвоная стужка. *Купіла красну жычку і заплела косу.* Бастынь Лун.

ЖЭ'БРАК *м.* Жабры. *Калі красный жэбрак, то рыбу можна кушаць.* Жахавічы Маз.



ЖЭ'ГАЦЬ *незак.* Бліскаць. *Мыланка так жэгая, аш страшна.* Стайкі Барыс.

ЖЭ'ЖКІЙ *прым.* Гарачы. *О, якій жэжкій утюг; жэжке йіцэ, жэжка вода.* Дзмітравічы Кам.

## З

ЗА'БАРСКА *ж.* Абора. *Забарсай забарску ў лапці.* Ністанішкі Смарг.

ЗАБІВА'Ч *м.* Папярочны брусок для збівання красён. *Паламаўся забівач у кроснах. Разбівай кросны і выцягвай забівачы.* Паляцкішкі Вор.

ЗАБІЛЬДЗЕ'ЦЬ *зак.* Загусці. *Бонк забільдзеў і паляцеў.* Паляцкішкі Вор.

ЗАБЛУ'ДА *ж. і м. асудж.* Чалавек, які не хоча рабіць і ходзіць без справы. *Заблуда нічога не робіть, шляіцца по селе.* Бастынь Лун.

ЗАБО'ЕЦ *м.* Запатылак. *Каса прыкрапляецца да касся забоецам.* Ністанішкі Смарг.

ЗАБО'ІЧ *м.* Тое, што і забоец. *Забі забоіч у касе, а то кыса шытаіцца.* Якубова Рас.

ЗАБО'РКА *ж.* Перагародка. *Была адна хата, а цяпер пыставіў заборку і маю дзьве комнаты.* Сяляўшчына Рас.

ЗАБО'РТАЦЦА *зак.* Не змагчы выгаварыць слова, заблытацца. *От не могу сказаць ето слово, хоцела сказаць, дак мой язык заборгаўся.* Бобрыкі Петр.

ЗАБЫ'РЫ *мн.* Дробныя складкі на адзенні. Манякова Міёр. *Пошыла сподніцу, і много забыр зробіла.* Бастынь Лун.

ЗАВА'Л *м.* Завала, прыстасаванне для запірання дзвярэй. *Зачыні дверы і завалі завал.* Бастынь Лун.

ЗАВА'ЛІНА (зываліна) *ж.* Прызба. *Нада на зіму апсыпаць зываліну кыля хаты, кап цяплей было.* Моханава В.-Дзв.

ЗАВАЛІ'ЦЬ *зак.* Заперці на завалу. *Погляді, ті завалів ты дьверы на завал.* Бастынь Лун.

ЗАВА'ЛКА *ж.* Ангіна. *У ее завалка, дужэ красно горла.* Бастынь Лун.

ЗАВА'ЛЬВАЦЬ *незак. перан.* Перашкаджаць. *То ідзем, Стэфачка, хай пішуць, а то мы завальваям.* Навасёлкі Свісл.

ЗА'ВАРАТ (за'ворот) *м.* Паварот плуга ў канцы загона. *На завороте плуг поднесі.* Бастынь Лун. *Вельмі трудна на завароце з плугам, цягай яго.* Моханава В.-Дзв.

ЗАВАРО'ТАК *м.* Незааараны кавалак зямлі ў канцы загона, які даворваюць упоперак. *А цяпер нада ўзыраць заваротак, дзе няможна было да канца араць, мішаў плот.* Моханава В.-Дзв.

ЗА'ВЕРЦЕНЬ I (за'вэртень) *м.* Вяровачная ці скручаная з лазы пятля, пры дапамозе якой прымацоўваецца аглобля да пярэдніх капылоў. *Поробів завэртні дубовые, а то лазовые плохо.* Бастынь Лун.

ЗА'ВЕРЦЕНЬ II *м.* Маленькая палачка, пры дапамозе якой вяжуць снапы. *Заверцень жжымае снапа перавяслам. Забыласа дома завертня, як я буду вязаць снапы.* Навасёлкі Свісл.

ЗАВІ'ДНІК *м.* Зайздроснік. *О, гэта завіднік, што увідзіць, дак і яму нада.* Моханава В.-Дзв.

ЗАВІ'ДНІЦА *ж.* Зайздросніца. Моханава В.-Дзв.

ЗАВІ'РУЧ *м.* Кіёк, адзін канец якога ўсаджан ў дзірку навоя і не дае навою круціцца. *Завіруч у навоі атпўскаць аснову з навоя, калі ткуць.* Паляцкішкі Вор.
ЗАВІТУ'ШКА *ж.* Сукаратка. *Дужа круціш калаўрот, у ніццы многа завітушак, аш ірвецца ніткі ат завітушак.* Калодзішчы Мін.
ЗАВІ'ЦА (зові'ца) *ж.* Сястра мужа. *У мойго мужа е сестра, вона мне буде зовіца.* Бастынь Лун. *От у мойго мужа е сестра, от она і будзе мне зовіцай.* Бобрыкі Петр. *У мене е сёкор і зовіца.* Жахавічы Маз. *Зовіцы дома нема, паехала ў горад.* Тульгавічы Хойн.
ЗАГАРО'ДДЗЕ (загорэ'дье) *н.* Месца за агародамі. *Давайтэ пойдэм загорэдьем.* Бастынь Лун.
ЗАГА'ЎЛІВАЦЦА *незак.* Святкаваць у бацькоў маладой гадавіну вяселля. *Пасля года бацька з маткай маладой прыехалі да маладога і забралі маладога і маладую да сябе загаўліваццa.* Ністанішкі Смарг.
ЗАГІ'КВАЦЦА *незак.* Заікацца. *Йікаватый чэловэк, йіковый чэловэк, вэн загікваецца.* Азарычы Пін.
ЗАГО'Н I *м.* 1. Града. *У нас цэлы загон цыбулі расце.* Паляцкішкі Вор. *Трэба заграпці загона на капусту.* Навасёлкі Свісл. 2. Рад бульбы. *Я дзесяць загонаў разараў бульбы, ідзіці капаць.* Альхоўка Навагр.
ЗАГО'Н II *м.* Агароджанае пад адкрытым небам месца для жывёлы. *Кароў прыгналі ў загон, пойдзем даіць.* Моханава В.-Дзв.
ЗАГУБІ'ЦЬ *зак.* Згубіць. *Як гэта можна загубіць ключа.* Жахавічы Маз.
ЗАГУМЕ'ЦЬ *ж.* Загуменне. *Пойдзям па загумецю, тут бліжэй будзя.* Навасёлкі Свісл.
ЗАДЗЕ'ЦЬ *зак.* Уцягнуць. *Задзень нітку ў голку.* Жахавічы Маз.
ЗАДЗУГЛЯ'ЦЬ *зак.* Закілзаць. *Надо коня задзугляць дзуглямі, коб не понёс.* Бобрыкі Петр.
ЗАДО'РЫНА *ж.* Лішак асновы ў шырыну пры накіданні ў ніты і бёрда, які астаўся і ідзе назад. *Снывала кросны і ысныeвала лішкі, а цяпер ідзецъ у кроснах ызат задорына.* Сяляўшчына Рас.
ЗАДУ'ЦЬ (заду'ті) *зак.* Патушыць. *Задуй лямпу, нашчо довго горэті.* Азарычы Пін.
ЗАДЫ' *мн.* Поле за сядзібай. *На зыдах узыраў нійку і пасадзіў паспешку.* Касталомава В.-Дзв.
ЗАДЫ'МЛЕНЫ *дзеепрым.* Акураны. *Нэ задымлена мая цыбуля, пошла уся в стрэлкі, нэма головок і нэма цыбокэв.* Азарычы Пін.
ЗАЖЫ'МЕЦ (зажы'мэц) *м.* Сквапны. *Вэн зажымэц, у его нічэво не достанеш.* Бастынь Лун.
ЗАЖЫ'НАК *м.* Першы нажаты ў час зажынак сноп. *Жыта зажала, зажынак нажала і паставіла на куце.* Старопка Асіп.
ЗА'ЗУБЕНЬ *м.* 1. Жалезная пласцінка з зубцамі, якая служыць для запірання дзвярэй. *Да вушака прыбіты зазубень дзьверы зачыняць.* Ністанішкі Смарг. 2. Дэталь у клямцы. *У клямцы е западенька, зазубень і язычок.* Бастынь Лун. 3. Жалезная пласцінка на аглоблі, на якую надзяюць атосы. *Прыбі да аглоблі зазубня.* Навасёлкі Свісл.
ЗАЗУ'БКА *ж.* Тое, што і зазубень у 3-м знач. *Трэбо зазубку прыбэтэ до оглоблі.* Дзмітравічы Кам.
ЗАЗУ'ЛЯ (зозу'ля) *ж.* Зязюля. *Зозуля нэ робыт собэ гнэздо.* Горск Бяроз. *Ужэ куе зазуля.* Міратычы Кар.



ЗАКАБА'ЕК *м.* Вузкі праход паміж двума будынкамі. *Маленькі закабаек паміш хатай і хлявамі.* Касталомава В.-Дзв.
ЗАКА'ЛВАЦЬ *незак. іран.* Спяваць з задорам. *От ваша Ліда добра закалвая. Паслухайця, як нашы бабу закалваюць песні.* Шкураты Браг.
ЗАКАЛО'ТКА *ж.* Рэдкае цеста, якім прыпраўляюць страву. *Вазьмі закалотку і паткалаці булён.* Касталомава В.-Дзв.
ЗАКАЛЯ'ЦЬ (заколя'ты) *зак.* Забрудзіць. *Вона хустку заколяла і покынула.* Горск Бяроз.
ЗАКАМО'ЎЗІЦЬ *зак.* Рашчыніць цеста наспех. *Закамоўзіла сягодня млінцоў, да грэцкіх, ешця.* Шкураты Браг.
ЗАКАРВА'ШЫ *мн.* Манжэты ў жаночай світцы. *К святу пашыла сабе сьвітку з даматканага сукна да с краснымі закарвашамі.* Вадва В.-Дзв.
ЗАКАТУ'ЛАК *м.* Тое, што і закабаек. *Зямлі мала, вот па гэтаму і малыя закатулкі.* Касталомава В.-Дзв.
ЗАКАЧА'ЦЬ (закача'ті) *зак.* Закасаць рукаў. *Закачай рукавы, а то памочэш.* Бастынь Лун.
ЗАКЕ'ЛЗКІ (закэ'лзкі) *толькі мн.* Цуглі. *Возьмі гузьдэчку і закэлзкамі закэлзай коня.* Бастынь Лун.
ЗАКЛА'ДКА (закла'тка) *ж.* Падшыты ніз спадніцы. *Нада пагшыць у спадніцы заклатку.* Вострава Маст.
ЗАКЛА'ДНІК (закла'днык) *м.* Сталярны інструмент для выемкі пазоў. *Закладнык выбэраты чэтвэрть у гушаках.* Горск Бяроз.
ЗАКО'Т *м.* Франтон. *Страху накрыў і ў канцы хаты забіў закот.* Сяляўшчына Рас.
ЗАКРА'ЙНІКІ (зыкра'йнікі) *мн.* Дзве дошкі, якія прымацоўваюцца па краях страхі і сходзяцца ўверсе, утвараючы канёк. *Забіў закот і зыкрайнікі прыбіў, кап вецір ні сырваў страхі.* Сяляўшчына Рас.
ЗАКРО'П *м.* Прынада для прываблівання пчол. *Я ў колодачный вулей накідаў мяты, будуть пчолы лететь на закроп.* Бастынь Лун.
ЗАКРУ'ТКА I *м.* Сукаратка. *Моцна круціш верацяно, аш нітка ўся ў закрутках.* Міратычы Кар. *Як ты прадзеш, дужа ш багата закрутак.* Падкасоўе Навагр. *Трэба ніткі кіпятком ашпарыць, а то многа закруткаў.* Мнюхі Міёр.
ЗАКРУ'ТКА II *ж.* Драўляная вяртушка для запірання дзвярэй. *Пылымалася закрутка, чым я зачыню дзьверы?* Моханава В.-Дзв.
ЗАКРУ'ТКА III *ж.* Вяровачная ці скручаная з лазы пятля, пры дапамозе якой прымацоўваецца аглобля да пярэдніх капылоў. *Пырвалася ў сынях закрутка, і аглобня выскачыла.* Стайкі Барыс. *Закрутка, кап дзяржалася аглобня ў санях.* Барыскі Лаг.
ЗАКРУТНЯ' *ж.* Памылка пры накідванні асновы ў бёрда, калі замест двух нітак між суседнімі трысцінкамі аказваецца тры. *Укідала ў бёрда і ні замеціла, як укінула тры ніткі ў адну трасціну, і вышла закрутня.* Касталомава В.-Дзв.
ЗА'КРУЦЕНЬ I (за'крутэнь) *м.* Нязжаты пучок калоссяў, пакінуты ў канцы жніва, перавязаны істужкай. *Мы жыто дожалі і зробылі закрутня і крышку поспэвалі.* Горск Бяроз.
ЗА'КРУЦЕНЬ II *м.* Тое, што і закрутка III. *Зьвій пяньковы закруцень аглоблю да капыла прывязаць.* Касталомава В.-Дзв.
ЗАКРУЦІ'ЦЬ *зак.* Скруціць галаву (пра дамашніх птушак). *Закруціла сягодні куру, пачала дзерці, а столькі асценцаў, што нямoжна проста абадраць.* Шкураты Браг.

ЗАКРЫ′ВІНЫ *мн.* Дзве дошкі, якія прымацоўваюцца па краях страхі і сходзяцца ўверсе, утвараючы канёк. *У канцы лат прыбіваюць з аднаго і другога боку страхі закрывіны. Адна закрывіна атарвалася.* Навасёлкі Свісл.

ЗАЛАЧА′ЦЬ (залыча′ць) *незак.* Развідніваецца. *Толькі пачынаець залычаць, а пастар ужо трубіць у трубу, кап выгынялі карой.* Моханава В.-Дзв.

ЗА′ЛЕЖАНЬ (за′ліжань) *м.* Аблога. *Узарай заліжань і пасеяй лён.* Якубова Рас.

ЗАЛІЎНЫ′Й *прым.* Праліўны′. *От заліўный дож ідзе, усё позаліваў.* Бобрыкі Петр.

ЗАЛО′ЖНІК *м.* Прыбітая да сцяны вузенькая палачка з дзіркамі, куды закладаюць лыжкі. *Усе лышкі ў заложніку, вазьмі і нясі, будзім абедаць.* Вадва В.-Дзв.

ЗАЛЫ′БАК *м.* Франтон. *У хаці нада забіць залыбак. Забій залыбак у ёлачку.* Якубова В.-Дзв.

ЗАМО′РАК (заму′рак) *м.* Пустое зерне. *Кепска пшаніца, одны замуркі.* Шкураты Браг.

ЗАМО′РЫШ *м.* Тое, што і заморак. *От ета лета нейрадліва проса, адны тольки заморышы.* Шкураты Браг.

ЗАМУЗДА′ЦЬ *зак.* Закілзаць. *Надзень уздэчку і замуздай кыня.* Моханава В.-Дзв.

ЗА′МХІ *толькі мн.* Пушок, які аддзяляецца ў працэссе ткання ад недахопу глянцавання і моцнай асновы. *Многа замхай, бо кросна нядобра апарала і пабіла пранікам.* Вадва В.-Дзв.

ЗАНІЦЕ′ЦЬ *зак.* Раскудлаціцца. *Ніт заніцей, ой, як я вытку кросна.* Бобрыкі Петр.

ЗАНО′З (занэ′з) *м.* Жалезная закладка ў ярме. *Накладалі на волэв ерэмэц і засувалі занэз у ерэмэц.* Бастынь Лун.

ЗАНО′ЗА *ж.* Тое, што і заноз. *У ероце — дзірочка і ў кульбацы. У еты дзірочкі закладаецца заноза, дзьве занозы пу боках.* Бобрыкі Петр.

ЗАНО′ЗЫ *мн.* Вертыкальная планачка, якая праходзіць праз абедзве палавіны набіліц, са шнурамі, што трымаюць набіліцы з бёрдам пры тканні на патрэбнай вышыні. *Уцягні ў занозы аборкі, будзім весіць набілкі і ткаць кросна.* Сакалоўка Пін.

ЗАНЯ′ЦЬ (зыня′ць) *зак.* Забраць усю жывёлу у хлеў за патраву. *Мой конь здрытывай яго авёс, і ён яго зыняй у хлей. Нада яго выкупіць, заплаціць за пытраву.* Моханава В.-Дзв.

ЗАПАДЗЕ′НЬКА (западе′нька) *ж.* Дэталь клямкі. *У клямцы е западенька, зазубень і езычок. Езычок падымае западеньку.* Бастынь Лун.

ЗАПАДНЯ′ *ж.* Тое, што і западзенька. *У дзьверах е клямка. Западня лежыць на езычку, а езычок пуднімае западню. Ляпнула западня, к нам хто-то ідзе.* Бобрыкі Петр.

ЗАПА′ЛЬЧЫЦ (зыпа′льчыц) *м.* Выступ у зрубе, на які набіваюць вушакі. *Трэба зыпальчыц зрабіць у бярвенні і набіць вушакі на вокнах.* Якубова Рас.

ЗАПАРУ′ХА *ж.* Густая страва з аржаной мукі. *Прасеяла аржаную муку і наварыла на абет запарухі.* Міратычы Кар.

ЗАПАТЫ′НАК *м.* Запатылак. *У наперстак забіваюць запатынак, кап ні шаталася каса на касі.* Навасёлкі Свісл.

ЗА′ПЕК (за′пік) *м.* Палок (у хаце). *Для спаня зрабій каля печы запіка, кап цёпла було спаць.* Навасёлкі Свісл.



ЗАПЕ′РАК *м.* Перагародка з бярвення ў гумне. *У гумне была старана, а старана была адгароджана заперкам.* Міратычы Кар.

ЗАПЕ′РКА I *ж.* Засаўка ў дзвярах. *Зрабій у каваля заперку і прыбій да вушака.* Паляцкішкі Вор.

ЗАПЕ′РКА II *ж.* Франтон. *От добру заперку зробій у концы хаты.* Бобрыкі Петр.

ЗАПЕ′ЧЧА *н.* Качарэжнік. *Вілкі, качарга і чыпіла стаяць у запеччу.* Ваўкавічы Тал.

ЗАПЛЕ′ТАЦЬ *незак.* Заплятаць. *Трэба заплетаць вухо ў кашы.* Жахавічы Маз.

ЗАПЛІКА′ЦЦА *зак.* Зашпіліцца. *Заплікацца, а не іці так. Заплікайся, сынок.* Стайкі Барыс.

ЗАПНУ′ЦЬ (запну′ті) *зак.* Завязаць. *Запніце фартуха, а то сукенку запачкаете.* Бастынь Лун.

ЗАПО′Р *м.* Прыстасаванне для запірання дзвярэй. *У яго добрыя будынкі і добрыя запоры, злодзій ня ўлезіць.* Замошша Рас.

ЗАПРА′ГЦІ *зак.* Засмажыць. *Трэ запрагці сало і заправіць картоплі юшкаю.* Жахавічы Маз.

ЗАПРУ′Т *м.* Маленькая палачка, пры дапамозе якой вяжуць снапы. *Згубіла запрут і не магу снапы вязаць.* Масты Гродз.

ЗАПРУ′ТА *ж.* Тое, што і запрут. *Под запруту мнэго навізала крэпкіх кулёў.* Паплавы Бяроз.

ЗАПУ′ТНІКАМ *прысл.* Напраcткі. *У ягады хадзілі запутнікам, бліжэй было іці па кустам бес дарогі. Хоць ягады парассыпалі, алі скарэй запутнікам дамой прышлі.* Сяляўшчына Рас.

ЗАПЯРНЯ′ (запэрня′) *ж.* Кіёк, адзін канец якога ўсаджаны ў дзірку навоя і не дае навою круціцца. *Воротыло запэрла запэрнёй.* Горск Бяроз.

ЗАПЯРЫ′ЛКА *ж.* Загарадка з тонкіх дошак. *Пастаў запярылкі, кап жыто ні ляцело ў снапэ. Нада паставіць яшчэ адну запярылку, а то жыто ляціць.* Міратычы Кар.

ЗАПЯРЭ′НЬКА (запэрэ′нька) *ж.* Тое, што і запярня. *На новэй накладаемо запэрэньку, коб нэ развіваласа пража основы.* Азарычы Пін.

ЗАПЯСО′ЧНІК (запесо′чнік) *м.* Ачэп. *На последній венок хаты кладом запесочнік, а на запесочнік ставімо крокву.* Бобрыкі Петр.

ЗАПЯСО′ЧНІЦА (запэсо′чніца) *ж.* Тое, што і запясочнік. *Запэсочніцу положыв на бэлькі, а на запэсочніцу буду ставіть ключы, а на ключы прыбіваць латы.* Бастынь Лун.

ЗАПЯ′ТНІК *м.* Заднік (у абутку). *Кепскія запятнікі пыставій шавец у чаравіках.* Моханава В.-Дзв.

ЗАРА′НЕ *прысл.* Рана. *Ён прышой заранё.* Міратычы Кар.

ЗА′РАСНЯК *м.* Зараснік. *Такі зарасняк, што няможна ўлесці, трэба яго прачысціць.* Паляцкішкі Вор.

ЗАРВА′ЦЬ *зак.* Папасці, трапіць пад руку. *Чым зарвай, тым і пуляй у п′яніцу.* Міратычы Кар.

ЗАРУ′БІНА *ж.* Кольца на розе ў каровы. *У каровы на рагу тры зарубіны, а гэта, што ёй ужо тры гады.* Якубова Рас. *Мая карова маладая, ёй усяго чатыры гады. У яе чатыры зарубіны на рагу.* Сімакава Кар.

ЗА′РЫЦЦА *незак.* Квапіцца. *Ён зарыцца на яе быгацце.* Моханава В.-Дзв.

ЗАСА′ЖАВАЦЬ *незак.* Уцягваць. *Яна засажавае нітку ў іголку.* Тульгавічы Хойн.

ЗА′САЎКА *ж.* Дошчачка, якой закрываюць выграбную адтуліну. *Закрый засаўку ў жорнах, кап мука ня сыпалася.* Ваўкавічы Тал.

ЗА′СЕК (за′сік) *м.* Засек. *У клеці былі засікі, куды сыпалі жыта, авёс, ячмень.* Ваўкавічы Тал.

ЗАСЕ′КА *ж.* Яслі. *Палажы ў засеку каню сена.* Жахавічы Маз.

ЗАСЕ′ЧАК (засе′чок) *м.* Тое, што і засека. *Сходы положы в засечок конёвы сэно.* Горск Бяроз.

ЗАСІ′ЛІЦЬ *зак.* Зачэрпаць. *Пайду засілю вады ў вядро.* Ністанішкі Смарг.

ЗА′СМЫК *м.* 1. Адходы пры прадзенні воўны. *От нычого вовну счэсалі, мнэго засмыков. О, які вэлькы засмык, як вы чэсалі. Праду і половіна вовны выкыдаю, одны засмыкы і засмыкы.* Горск Бяроз. 2. Патаўшчэнне на нітцы. *Спрала пражу няроўна, многа засмыкаў на нітцы.* Замошша Рас.

ЗАСМЫ′КА′ЦЬ (засмы′ка′ті) *зак.* Засунуць, паставіць, уцягнуць. *Трэбо ў пэчку засмыкаті гаршкі. Памажы мне засмыкать вулей, чы колоду, на дэрэвіну.* Бастынь Лун.

ЗАСТАРО′НАК (засторо′нок) *м.* Агароджанае ў гумне месца для складання снапоў, саломы, мякіны. *Жэто складают у засторонок.* Дзмітравічы Кам. *У старане зрабіў застаронак ссыпаць мекіну.* Жахавічы Маз.

ЗАСТО′ЙКА *ж.* Перагародка. *У бальшой комнаці зрабіў застойку, цяпер маю дзьве комнаты.* Моханава В.-Дзв.

ЗАСТРАЧЫ′ЦЬ (застрочы′ті) *зак.* Сшыць мярэжкай. *Мнэ трэбо намэтку застрочыті мэрэжкэй.* Азарычы Пін.

ЗА′СТУП *м.* Жалезная лапата. *Петро капая землю заступам.* Шкураты Браг.

ЗАСЦЕ′НАК (застэ′нок) *м.* Прасценак. *Положыв пуд окнамі дэрэвыну, а тэпэрэ буду класты застэнок.* Горск Бяроз.

ЗАТВО′РЫ *мн.* Дыяфрагма. *Рызыравала затворы і выбрала серца і лёккія.* Сяляўшчына Рас.

ЗАТНУ′ЦЦА *зак.* Занаравіцца. *Мой Янка як затнецца і карову ні павязе прадаваць.* Навасёлкі Свісл.

ЗАТО′Р *м.* Паз. *Прорэзоў у клепчанцы заторы, коб уложыць дно. Кепско зрабіў затор.* Бобрыкі Петр.

ЗАТО′РЫНА *ж.* Лішак асновы ў шырыну пры накіданні ў ніты і бёрда, які астаўся і ідзе назад. *Снывала, снывала і нысныввала заторыну. Заторына мытаіцца на цэўку, а с цэўкі на адаропку.* Даўгабор'е Рас.

ЗАТО′ЎКА *ж.* Здор. *З пыдчарэве выбрала затоўку — сало.* Бастынь Лун.

ЗАТО′ХНУЦЦА *зак.* Задыхнуцца. *Што ты закруціла рабёнка з галавой, ён жа затохніцца.* Моханава В.-Дзв.

ЗАТУ′ЛАК (зату′лок) *м.* Запатылак. *Наложыў косу на коссе і заколотыў затулком.* Горск Бяроз.

ЗАТЫКА′ЛЕНЬ *м.* Невялікі кіёчак з кавалкам палатна ці нацягнутымі вяроўкамі ў ткацкім станку для пачатку ткання. *Вазьмі затыкалень і прывяжы да яго аснову і затыкай кросны.* Мнюхі Міёр.

ЗАТЫКА′ЛЬНІК *м.* Тое, што і затыкалень. *Да затыкальніка прывізала канцы асновы і буду зачынаць ткаць кросны.* Моханава В.-Дзв.

ЗАТЫКА′Ч *м.* Тое, што і затыкалень. *Да пруціка затыкача прывязваяцца аснова, і затыкаям кросны.* Навасёлкі Свісл.



ЗАЎСІ′М *прысл.* Зусім. *Ну, што ву, яно заўсім шчэ малое.* Шкураты Браг.

ЗАХРАМІ′ЦЬ (захромі′ті) *зак.* Застраміць. *Острэнец, захроміла ім пальца.* Бастынь Лун.

ЗАЦЕ′ЛЛІВЫЙ (зате′ллівый) *прым.* Наравісты. *Зателлівый кэнь, вэн скінэ тэбэ.* Бастынь Лун.

ЗАЦЕ′РТАЧ (затэ′ртач) *м.* Сталярны інструмент для выемкі пазоў. *Затэртач зарэзоваты ўторы ў бэльчэковы.* Горск Бяроз.

ЗАЦІРА′Ч *м.* Тое, што і зацертач. *Заціграчом вырэзваюць рысы, кап уставіць дно.* Навасёлкі Свісл.

ЗАЦІРУ′ХА (затіру′ха) *ж.* Зацірка (страва). *Затіруха — гэ слово двоять, е і затірка.* Бастынь Лун.

ЗАЦЯЛЕ′ШНІКІ (зацеле′шнікі) *толькі мн.* Чалеснік. *Поставіў у печы зацелешнікі, цепер трэ солом'е вувесці. Ток уложылі ў печы, цепер трэбо зацелешнікі поставіць, а на зацелешнікі солом'е уложыць.* Бобрыкі Петр.

ЗАШО′РХНУЦЬ (зашо′рхнуті) *зак.* Пакрыцца тонкім ільдом. *На воде ў вэдрэ зашорхлі ласіцы.* Бастынь Лун.

ЗАШПУ′ЛЬВАЦЬ *незак.* Зашпільваць. *Ня хоча зашпульваць гузікі.* Жахавічы Маз.

ЗАШЧАПІ′ЦЬ *зак.* Зашпіліць. Жахавічы Маз.

ЗАШЧЫ′ТА *ж.* Франтон. *Здзелаў хату, а цепер трэ забіць зашчыту. Зробіў зашчыту і козырок, а цепер трэбо прыбіць ік лату ветраніцы.* Бобрыкі Петр.

ЗАШЭ′РХНУЦЬ *зак.* Тое, што і зашорхнуць. *Вада зашэрхла ў канаві.* Парэчча Гродз.

ЗАЯ′ДА (зыя′да) *м. і ж.* Задзіра. *Вот гэта заяда с кожным заідаіцца.* Замошша Рас.

ЗБІВА′ЦЬ *незак.* Пластаваць сена. *Ідзі пласты збівай, сена сухое, будзім вазіць у пуню.* Даўгабор'е Рас.

ЗБІВАЧЫ′ *мн.* Брускі, якімі збіваюць кросны. *Прынясі зьбівачы, буду кросны зьбіваць.* Паляцішкі Вор.

ЗБО′ІНЫ *мн.* Папярочныя перакладзіны, якімі збіваюць кросны. *Ставімо статівінне і збіваемо збоінамі. Да збоіны прыставляют поножэ.* Азарычы Пін.

ЗБО′ІЧЫ *м.* Тое, што і збівачы. *Прынясі ставы і збоічы, будзім збіваць кросны.* Моханава В.-Дзв.

ЗБО′ЙКА *ж.* Маслабойка. *Налій у збойку смітаны, буду біць масла.* Сяляўшчына Рас. *Збіла масла і памыла збойку.* Даўгабор'е Рас.

ЗБРЫ′ЗГНУЦЬ *зак.* Пракіснуць. *Так цёпла, што от малако, што раніцай падаіла, збрызгла.* Стайкі Барыс.

ЗБРЫ′ЦЦА *зак. іран.* Збегчы, схавацца. *Госты прышлі, а вон с хаты збрыўся.* Горск Бяроз.

ЗБУТЛЕ′ЦЬ (збутле′ты) *зак.* Спарахнець. *У мэнэ одэжа лежала, лежала і збутлела.* Горск Бяроз.

ЗБУЯ′ЦЬ *зак.* Разрасціся націннем на шкоду плоданашэнню. *Вот бульба збуяла — быльнік вялікі і зялёны, а пат кустом нічога няма.* Альхоўка Навагр.

ЗБЫТКАВА′ЦЬ (збыткова′ты) *незак.* Здзеквацца. *Вон коло ее збытковав.* Горск Бяроз.

ЗВАНЕ′Ц (звоне′ц) *м.* Званок. *Павесів корові звонец, каб было чувать, де вона ходіть.* Бастынь Лун.

ЗВАНКІ′ (звонкы′) *толькі мн.* Бразготкі. *Поехав у дружкы до Мартосі, але на конёвы повэсыв звонкы.* Горск Бяроз.

ЗВАНЧА′К *м.* Частка драўлянага вобада. *Нарабіў званчакоў у кола, а цяпер буду абот рабіць і спіцы ўганяць у званчакі.* Паляцкішкі Вор.

ЗВЕРАБО′Й *м.* Травяністая расліна, якая выкарыстоўваецца як лекавы сродак. *Зверабой — гэта добрае лякарства, яго трэба сабіраць на зімку. Ён цьвіціць жоўтым цьвятком.* Касталомава В.-Дзв.

ЗВЕ′ТРЫВАЦЬ *незак.* Вымятаць калоссе з абмалочанага збожжа. *Змалаціў жыта, а цяпер буду яго мятлой зветрываць, кап не было каласкоў, і веяць.* Міратычы Кар.

ЗВІ′ЦЦА *зак.* Сесці (пра рой пчол). *У Хведара выліціў мылады рой і звіўся ў ніх на бярозі.* Моханава В.-Дзв.

ЗВЯРШЧО′К *м.* Цвыркун. *Раскрычаўся звяршчок за печу.* Міратычы Кар.

ЗГА′ГА *ж.* Пякотка. *О, як мяне згага пячэ, аш мне дрэнна.* Паляцкішкі Вор.

ЗГАНЯ′ЦЬ (згыня′ць) *незак.* Тое, што і зветрываць. *Раней чым веіць, нада мятлой згыняць каласкі з жыта.* Моханава В.-Дзв.

ЗГА′РКІ *мн.* Бульба з прыгаркамі. *Згаркі з бульбы зняла, і натаўкла бульбяной кашы.* Вострава Маст.

ЗГЛЫ′МЗАЦЬ *зак. асудж.* З'есці. *Ты падумай, ён жа ўсё малодзіва зглымзаў адзін, а другім і не пакінуў пакущаць.* Моханава В.-Дзв.

ЗГО′НІВАЦЬ *незак.* Тое, што і зветрываць. *Мятлой згоніваім амеці з ячменя.* Навасёлкі Свісл.

ЗГО′НІНЫ (зго′нынэ) *мн.* 1. Горшае збожжа з зеллем, каласкамі, саломкай. *Многа зэрня в згоныных.* Дзмітравічы Кам. 2. Дробная, перабітая ў час малацьбы салома. *Ечмень змолотілі, а тэпэр мэтлой згоныны колосую.* Бастынь Лун.

ЗГРАБА′ЦЬ *незак.* Скідаць гной з воза. *Згрэбачам зграбалі із воза на полі гной.* Шкураты Браг.

ЗГРАБЁНКА *ж.* Конская шчотка. *Зграбёнка коні згрэбваць.* Шкураты Браг.

ЗГРЭ′БАЧ *м.* Кручок для скідання гною на полі. *Пазыч мне згрэбача, буду гной вазіць.* Шкураты Браг.

ЗГРЭ′БВАЦЬ *незак.* Чысціць каня. *Купіў грабёнку коні згрэбваць, а то ўсё пазычаў.* Шкураты Браг.

ЗГРЭ′БІНЫ *толькі мн.* Тое, што і згоніны ў 2-м знач. *Ячмень змалаціў. Вазьму граблі і буду зграбаць згрэбіны.* Моханава В.-Дзв.

ЗГРЭ′БЛА (згрэ′бло) *н.* Тое, што і зграбёнка. *Згрэблам чысцім коні.* Паляцкішкі Вор. *Купіў згрэбла коні чысціць.* Ністанішкі Смарг. *Дай згрэбло, надо каня згрэбваць.* Міратычы Кар.

ЗДАРАВО′ (здорово′) *прысл.* Холадна. *Стасюк, оля, апранісё, а то здараво на дворы.* Навасёлкі Свісл. *От здорово, ідзеш, а шчокі гарацы от мороза.* Бобрыкі Петр. *От тэпэр так здорово, ноч холодна.* Горск Бяроз.

ЗДРАКАВА′ЦЬ *незак.* Гізаваць. *Корову хвасты пазадзіралі і здракуюць, нельга ўдзержаць.* Шкураты Браг.

ЗДРАЧО′К *м.* Зрэнка. *У оку е здрачок чорненькі.* Бобрыкі Петр. *Сегодні чаго ў цябе такіе велікіе здрачкі? Не, у ее маленькі здрачок.* Тульгавічы Хойн.

ЗДРАЧЫ′ЦЦА (здрочы′цца) *незак.* Гізаваць. *Я рады не дам, коровы здрочацца.* Горск Бяроз.



ЗДРО′К *м.* Авадзень. *У алешніку здракоў цьма, кароў здракі кусаюць, а яны гізуюць.* Моханава В.-Дзв.

ЗДУ′ЖАЦЦА *зак.* Засумаваць, замаркоціцца. *Вам, начальніца, ні здужалосо па дому?* Навасёлкі Свісл.

ЗДУМЛЯ′ЦЬ *незак.* Выдумляць. *Ена про ее нічого не здумляла.* Бобрыкі Петр.

ЗДУ′ХАВІНА (зду′ховіна) *ж.* Неўрадлівая глеба сівога колеру. *Одна здухавіна, шчо ні посееш, нічого не росте.* Бастынь. Лун.

ЗЕ′ВА (зе′во) *н.* Прамежак між верхнімі і ніжнімі ніткамі асновы, праз які праходзіць чаўнок. *Одпусті основу, а то маленька зева і не пролазіць чоўнік.* Бастынь Лун. *Ніт ронае і получаецца зево.* Бобрыкі Петр.

ЗЕЛЯНУ′ХА (зелену′ха) *ж.* Няспелы плод садавіны. *Шчо ета за яблыкі — зеленуха.* Бастынь Лун.

ЗІПУ′Н *м.* Старадаўняя верхняя сялянская вопратка з самаробнага сукна. *У майго дзеда быў зіпун, ён ужо збутлеў, дак я яго выкінула.* Касталомава В.-Дзв.

ЗЛА′ДЗІЦЬ (зла′діті) *зак.* Пашыць, справіць. *Зладіла спадніцу ў ладочкі.* Бастынь Лун.

ЗЛІ′ВАК *м.* Вылівак. *Курыца знесла сёнё злівак.* Міратычы Кар.

ЗЛІ′ПКІ *мн.* Сухія вырасткі па краях булкі хлеба. *Ні ўдайся мой сёнё хлеп, увесь са зліпкамі.* Міратычы Кар.

ЗЛЫ′ГАЦЬ *зак.* Сабраць. *Усе яблыкі пад яблынай злыгалі ў кош.* Міратычы Кар.

ЗМАДЫТАВА′ЦЬ *зак.* Прыдумаць, збудаваць. *Ета ж я сама змадытавала сенцы ік хаці.* Шкураты Браг.

ЗМЫ′ЛКІ (зму′лкі) *толькі мн.* Мыльная вада, у якой мылі бялізну. *Ты ў змулках памуй што-небудзь, а то такія змулкі шкода вуліваць.* Тульгавічы Хойн. *Змулкі не вылівай, а памуй мяшкі.* Шкураты Браг.

ЗНА′ЙНІЦА *ж.* Левы бок тканіны. *Купіла сабе краму і не знаю, дзе добрый бок, а дзе знайніца.* Шкураты Браг.

ЗНА′МЯ (знам′е) *н.* Радзімая пляма. *У его на шэі знам'е.* Дзмітравічы Кам.

ЗНА′НКА *ж.* Выварат. *Надзела спадніцу на знанку.* Моханава В.-Дзв.

ЗНІЦЕ′ЦЬ *зак.* Вырасці высокім, тонкім, кволым (пра сцяблы). *Пасадзіла бульбу ў сатку, а іна ўся зніцела.* Моханава В.-Дзв.

ЗНЯБО′ЖЫЦЦА (зьнебо′жыцца) *зак.* Моцна загараваць. *От чэловек зьнебожыўса і ледзьве ідзе.* Бобрыкі Петр.

ЗУБ *м.* Крук. *Зуб прыбіты да кавырота ў калодзезі.* Навасёлкі Свісл.

ЗУ′БЫ I *толькі мн.* Матыка з зубамі. *Зубы колішніе. Позыч мне зубы, пэйду булбу копаті.* Бастынь Лун.

ЗУ′БЫ II *толькі мн.* Жалезная пласцінка на аглоблі, на якую надзяюць атосы. *Отёса надэваецца на зубы і на ось.* Горск Бяроз. *Да аглобні прыбіты зубы, кап ні спадала атоса.* Навасёлкі Свісл.

ЗУ′БЫ III *толькі мн.* Гестка, скроеная ў форме зуба. *У футболцы прышыты зубы. Пакроіла ў футболку зубы, а цяпер трэбо прышыць. Янка любіць футболку з зубамі. Ён і прасіў мяне пашыць яе з зубамі.* Навасёлкі Свісл.

ЗУ′Б'Я *мн.* Тое, што і зубы II. *Прыбій зуб'я да аглобні і надзеў атосы.* Лешня Кап.

5. Зак. 1598

ЗУВЯ'ЗАК (зувя'зок) *м.* Вязка (лёну). *Атрапаў зувязок лёну, а у зувязку дваццаць трэпочэў.* Бастынь Лун.

ЗЫБУ'ХА *ж.* Зыбкае, дрыгвяністае балота. *Мы завём зыбухай балота, якое дужа трасецца, як станіш, так і ўвязьніш, што і нох ня выцігніш з гэтай зыбухі.* Касталомава В.-Дзв.

ЗЫ'КАЎКА *ж.* Вялікая зеленаватая муха. *Пыгналі кароў у алешнік, а там як ныпалі на кароў зыкаўкі, дак усе каровы пырызбігалісі.* Моханава В.-Дзв.

ЗЫ'МША *ж.* Выступ у коміне, на які кладуць запалкі. *Там ля коміна на зымшы лежаць спічкі.* Бобрыкі Петр.

ЗЫ'МШЧЫК *м.* Фатограф. *Зымшчык плохо нас зняў, карточка плохо вышла.* Бастынь Лун.

ЗЭ'ДЛІК *м.* Дэталь, на якой замацоўваецца каркас калаўрота. *У калаўротку ёсць зэдлік с чатырма ношкамі.* Міратычы Кар.

ЗЮ-ЗЮ-ЗЮ *выкл.* Ужываецца, калі падзываюць качак. Ністанішкі Смарг.

ЗЯВА'ЦЬ *незак.* Рабіць прамежак пры дапамозе панажоў паміж верхнімі і ніжнімі ніткамі асновы. *Зявы ў аснове кепскія, не зяваюць, і чалнык нельга засунуць.* Заазер'е Віл.

ЗЯЛЕ'ПУХА *ж.* Няспелы плод садавіны. *Нырвала зялепухі, ні аднэй краснай зімлянічкі. Ну, вот зялепуха, што ты яе есці будзіш.* Моханава В.-Дзв.

ЗЯМЛЯ'НКІ (зімля'нкі) *мн.* Дэталь у сахі. *У сахе ёсць зімлянкі, якія скрапляюць саху.* Даўгабор'е Рас.

ЗЯЎЗЮ'ЛЬКА (зеўзю'лька) *ж.* Зязюлька. *Ужэ весна, прылецела зеўзюлька.* Тульгавічы Хойн.

ЗЯЎЗЮ'ЛЯ (заўзю'ля) *ж.* Зязюля. *Заўзюля куе ў лесі.* Жахавічы Маз.

# І

ІГЛІ'ЦА *ж.* 1. Клінападобны папярочны драўляны брусок для змацоўвання дзвярных дошак. Бастынь Лун. *Каб замацаваць дошкі ў дзьвярах, зрабіў іглiцу і ўвагнаў у дошкі.* Сляцяўшчына Рас. 2. Папярочная планка (у лаве, ва ўслоне і да т. п.), у якую убіваюцца ножкі. *У услон заганю іглiцы і буду ўбіваць ношкі.* Моханава В.-Дзв.

ІГЛІ'ЧЫЦЬ *незак.* Змацоўваць з дапамогай іглiцы. *Нядобра іглічыш, паглядзі, як ты іглічыў дзьвярныя дошкі, у дзьвірах засталіся шчэлі.* Касталомава В.-Дзв.

ІГРА'ЦЬ *незак.* Іскрыцца. *На вялікадня рана ўстану і пайду на двор глядзець, як сонца будзіць іграць.* Моханава В.-Дзв.

ІЗБІ'ЦЬ *зак.* Збіць. *Моя корова ізбіла рога.* Бобрыкі Петр.

ІЗВАЗІ'ЦЦА (ізвозі'цца) *незак.* Здзекавацца. *Оля', як ізвозяцца большыя хлопцы над малымі.* Навасёлкі Свісл.

ІКО'ТКА *ж.* Ікаўка. *Ныпала на мяне ікотка, і калі іна пірыстаніць.* Моханава В.-Дзв.

ІКРА'НІК *м.* Рыба з ікрой. *Ікранік — ето селдь з ікрэю, саміца.* Бастынь Лун.

ІЛЬНІ'СКА (ільні'ско) *н.* Поле, з якога сабралі лён. *Гані кароў на ільніско.* Бастынь Лун.

ІЛЬНІ'ШЧА *н.* Тое, што і ільніска. *Пасвіў авечак на ільнішчы.* Шкураты Браг.



ІЛЬНЯ'НІШЧА *н.* Тое, што і ільніска. *Узыраў ільнянішча і пасею ячмень.* Моханава В.-Дзв.

ІМЖА'КА *ж.* Імжа. *Сягоння дык цэлы дзень імжака ймжыць.* Стайкі Барыс.

І'МЯ (і'м'я) *н.* Вымя. *У мае каровы добрае ім'я, малака багата дае.* Шкураты Браг.

ІРЖАВІ'ННЕ *н.* Іржа, балотная гразь, якую выкарыстоўваюць для афарбоўкі нітак. *Прынісла з балота іржавіння.* Моханава В.-Дзв.

ІРЖА'ЎЧЫНА *ж.* Тое, што і іржавінне. *Іржаўчынай красюць маткі ў чорны цвет.* Стайкі Барыс.

ІРЖА'ЦЬ *незак. асудж.* Моцна смяяцца. *Чаго ты там іржэш, успакойсі, пірыстань іржаць.* Моханава В.-Дзв.

І'РХА *ж.* Ачышчаная ад шэрсці вузкая палоска аўчыны, якая служыць пракладкай пры сшыванні аўчын. *Пуміш аўчын пыклаў ірху і шышыў бок у паўшупку.* Ваўкавічы Тал.

І'РША *ж.* Тое, што і ірха. *Ірша — вузінькая палосачка, якую шавец кладзець между аўчынак, калі шыіць кажух.* Даўгабор'е Рас.

ІСК *м.* Пчаліная разведка. *Пчолы полетелі ў іск і іскують мэд.* Бастынь Лун.

ІСКАВА'ЦЬ (іскаваті) *незак.* Адшукваць (пра пчол). *Пчолы іскують мэд.* Бастынь Лун.

ІСПО'ДАК *м.* Сподак. *Пыстаў іспадак. Вазьмі іcподак і пі чай.* Моханава В.-Дзв.

ІСПО'ДКІ (іспо'ткі) *мн.* Рукавіцы. *Іспоткі ліжаць у пячурцы.* Замошша Рас.

ІСПО'ДНІКІ *толькі мн.* Споднікі. *Надзень іcподнікі, а то сцюдёна.* Моханава В.-Дзв.

ІССЯ'ДЛЫЙ *прым.* Ацеслівы. *Хлеб нэвдалый, іссядлый, закаліцны паліц.* Горск Бяроз.

ІСТО'ПКА *ж.* Варыўня. *Мы ў істопку пыставілі капусту, насыпалі бульбы і буракоў.* Моханава В.-Дзв.

ІСЧА'ВІ'ЦЬ (ісча'ві'ті) *зак.* Адціснуць. *Одтопіла кіслэ молоко, выліла ў торбочку, а тэпэр трэбо ісчавіті, і буде отворэг, ті сыр.* Бастынь Лун.

ІСЧУ'ЛІЦЦА *зак.* Скурчыцца ад холаду. *Чаго ты так ісчуліўся, што, састыў, так ідзі да надзенься.* Шкураты Браг.

ІКАВА'ТЫЙ *прым.* Заіклівы. *Вэн ікаватый чэловек, загікваецца.* Азарычы Пін.

# К

КАБА'Н *м.* Певень. *Кабан заветь куру: кло-кло-кло!* Бастынь Лун.

КАБА'Т *м.* Дзіцячая кофтачка на подбіўцы. *Дай дзіцяці надзець кабат, а то холодна.* Жахавічы Маз.

КАБЛУЧО'К *м.* Прыстасаванне да касы пры касьбе збожжа ручным способам. *Возьмі косу, прывяжы каблучок і іды косіті грэчку.* Азарычы Пін.

КАБЫ'ЛЕНКА (кобы'ленка) *ж.* Ваўнянка. *Кобыленка — добры грыб. Кобыленкі мы мочым і солім.* Бастынь Лун.

КАВАРО'ТКА (коворо'тка) *ж.* Калаўрот (для прадзення). *Купыв бабі коворотку лён прасці.* Горск Бяроз.

КАВЕ'ННІК (ковэ'ннік) *м.* Качарэжнік. *Паставте ковэню у ковэннік.* Бастынь Лун. *У кавенніку стаіць кавеня.* Шкураты Браг.

КАВЕ'НЧЫЦЦА (ковэ'нчыцца) *незак.* Мучыцца. *Вона з ім ковэнчыцца усе своє жыццё.* Горск Бяроз.
КАВЕ'НЬКА *ж.* Палка для апоры пры хадзьбе. *Я без кавенькі не магу хадзіць.* Якубова Рас.
КАВЯНІ'ШЧА (ковэні'шчэ) *н.* Дзяржанне качаргі. *Паломалоса ковэнішчэ у ковэні.* Бастынь Лун.
КАВЯНЯ' (ковэня') *ж.* Качарга. *Нет ковэні, а то трэбо жар выгрэбці з печы.* Бастынь Лун.
КАГА'ЦЬ (кага'ті) *незак.* Казаць. *Кагалі затоўка і кагалі скоромiна для запраўкі яды.* Бастынь Лун.
КАДО'БЧЫК (кодэ'бчык) *м.* 1. Пасудзіна для сала. *Наложыла кодэбчык сала.* Бастынь Лун. 2. Маленькая скрыначка для дробных рэчаў. *У скрыні пры боку е кодэбчык, де мы кладемо ніткі, клубкі.* Бастынь Лун.
КАДО'ЎБЧЫК *м.* Пасудзіна для мукі. *Маленькі кадоўпчык, у якім прыносілі муку рашчыняць хлеп.* Старана Асіп.
КАДУБЕ'Ц *м.* Шпакоўня. *У маём кадубцэ шпакі вядуцца.* Навасёлкі Свісл.
КАДУ'ШКА *ж.* Калодка (у коле). *Зрабіў спіцы ў кадушку і набіў обад, а на обад нацягнуў шыну, от і калясо гатова.* Шкураты Браг.
КАЖА'РКА (кыжа'рка) *ж.* Стары кажух. *Накінь на сябе кыжарку.* Якубова Рас.
КАЖА'РЫНА (кыжа'рына) *ж.* Тое, што і кажарка. *Пасля вайны была адна толькі кыжарына, і ўсё нажылі.* Сяляўшчына Рас.
КАЗА' I *ж.* Кольца, якім прымацоўваецца шыйка касы да кассе. *Трэба віткаю прывязаць казу ік касе і забіць запатылка.* Шкураты Браг.
КАЗА' II *ж.* Касмык травы, пакінуты пры касьбе. *Кепска касіў, аставалася каза, ні дакасіў, а па ўсёй пожні сколькі коз нарабіў.* Навасёлкі Свісл.
КАЗА' III *ж.* Маленькія санкі. *Паеду ў лес па броўны. Прывяжу к саням казу, бо на сані і на казу буду класці доўгія броўны.* Барыскі Лаг. *Гэта каза меншая за абыкнавенныя сані і большая за падсанкі. На гэтай казе бабы вазілі дровы з лесу.* Заазер'е Віл.
КАЗА' IV *ж.* Падсядзёлак. *Палажыця на спіну каню казу і зацягніця падпінкай.* Ністанішкі Смарг.
КАЗАКІ' *мн.* Сажань дроў. *Казакі — гэта значыць 2 метры шырыны і 2 метры даўжыні, адзін метр высаты, вот і казакі, у якія складаім дровы.* Карабаўшчына Бабр.
КАЗА'Н (кыза'н) *м.* Вялікі кацёл для прыгатавання ежы. *На вечар звару кызан бульбы і з малачком будзім есці.* Замошша Рас.
КАЗЕ'ЛЬЧЫК *м.* Конік. *Казельчыкі прыгаюць па сені.* Ністанішкі Смарг.
КАЗЁЛ I *м.* Тое, што і казельчык. *Як многа казлоў у сені. Зялёныя казлы скачуць па сені.* Моханава В.-Дзв.
КАЗЁЛ II *м.* Масляк (грыб). *Што ты адных казлоў ныбрала, ці другіх грыбоў не было?* Моханава В.-Дзв.
КАЗЁЛ III *м.* Дошчачка з выемкаю для здымання ботаў. *Дай казёл зняць боты.* Замошша Рас.
КАЗЛЫ' I (казлэ') *толькі мн.* Прылада для наматвання пражы. *З вітушак развіваюць пражу на казлэ, а з казлоў снуюць.* Міратычы Кар.



КАЗЛЫ' II *толькі мн.* Сталюга. *Палажы бервяно на казлы і будзім пілываць.* Моханава В.-Дзв.
КАЗНІ'ЦКА *ж.* Газоўка. *Запалі казніцку і постав на стэл.* Бастынь Лун.
КАЗУ'БЧЫК (козу'бчык) *м.* Каробачка з бяросты для ягад. *Содраў бересту і зробіў козубчыка і набраў у козубчык пазёмкі.* Бобрыкі Петр.
КАЗЫРО'К I (козыро'к) *м.* Выступ у коміне, на які кладуць запалкі. *На козырку лежать спічкі.* Бастынь Лун.
КАЗЫРО'К II (козыро'к) *м.* Застрэшак у нізе франтона. *Трэбо зробіць козырок, а то зацекае сцена. Зробіў зашчыту і козырок, а цепер надо прыбіць ік лату ветраніцы.* Бобрыкі Петр.
КАЗЮ'ЛЬКА *ж.* Тое, што і казёл III. *Дзед узяў казюльку і сняў чобаты.* Касталомава В.-Дзв.
КАЙ *прыназ.* Каля. *Сэв кай батько і сыдыт.* Азарычы Петр.
КАЙСТРА' (койстра') *ж.* Кастрыца. *Траплю лён, леціць курово і койстра.* Бобрыкі Петр.
КАЙСТРЫ'ЦА *ж.* Тое, што і кайстра. *Кайстрыцы засыпала за акно, коб цяплей було.* Шкураты Браг.
КАКАРУ'ЗА *ж.* Кукуруза. *Гэтага году добрая какаруза.* Жахавічы Маз.
КАКАРУ'ЗІСКА (какару'зіско) *н.* Поле, з якога сабралі кукурузу. *Мэсто, дэ росла какаруза, зовэм какарузіско.* Азарычы Пін. *Гані вавечкі на какарузіско.* Навасёлкі Свісл.
КАКАРУ'ЗІШЧА *н.* Тое, што і какарузіска. *Гані кароў на какарузішча.* Жахавічы Маз.
КАКАРУ'ЗНІСКА (какару'зніско) *н.* Тое, што і какарузіска. *Какаруз звезлі, засталосё какарузніско.* Міратычы Кар.
КАКО'РЫНА *ж.* Тоўсты блін з цёртай бульбы. *Ныдрала бульбы і спікла какорыну.* Якубова Рас.
КАЛ *м.* Замёрзлая на дарозе гразь. *Снегу німа, адзін кал па дарозі, што ўсе калёсы разбіў, едучы па калу.* Навасёлкі Свісл. *Кал на дорогі, нэможно проехаті.* Азарычы Пін. *На гуліцы кал, што ног нэ вытэнуты.* Горск Бяроз.
КАЛАБО'К *м.* Маленькая булачка. *Лошкай аскрыбла дзежку, спікла калабок, і ў дзяжы кінула калабок ны зыкваску.* Сяляўшчына Рас.
КАЛАВУ'РЫЦЬ *незак.* Вартаваць. *Пайду сат калавурыць, а то усе яблыкі аблатошылі.* Моханава В.-Дзв.
КАЛАКО'Р (коло'кор) *м.* Бразготкі. *Прывяжы ік дуге колокора, поедзім у сваты.* Бобрыкі Петр.
КАЛАКУ'Н м. Звон. *Калакун на цэркві велікій вісіць.* Жахавічы Маз.
КАЛАСАВІ'ННЕ *н. зборн.* Дробная салома, якая вытрасаецца са снапоў пасля малацьбы. *Бяруць сноп зы макавіну і вытрысаюць каласавіння, а лепшая салома на кулі.* Ваўкавічы Тал.
КАЛАТО'ЎКА *ж.* Палка з кружком на канцы для збівання масла. *Памыла калатоўку, уклала ў збойку і буду біць масла.* Даўгабор'е Рас.
КАЛАТО'ШКА (колото'шка) *ж.* Шляга з тоўстым канцом, пры дапамозе якой колюць дровы сякерай. *Дрова тоўстые, без колотошкі не поколоть.* Бастынь Лун.
КАЛАТУ'ХА *ж.* Гразь на дарозе. *Па дарозі тыкая калатуха, аш па трупкі ў калёсах.* Моханава В.-Дзв.

КАЛАЦІ'ЦЬ (колоты'ты) *незак.* Рашчыняць цеста на бліны. *Купыла вэртяшку, коб было у чым колотыты огладкы.* Горск Бяроз.

КАЛАЧЫ' *мн.* Каташкі. *На бярозі, якая семяніца, растуць калачы, як калачы паспеюць, з іх сыплецца насеня.* Навасёлкі Свісл.

КАЛАШЫНА' (кылышына') *ж.* Палова нітоў — увесь верхні ці ніжні рад петляў. *На дошчаццы дзелаю адну кылышыну. Гэту кылышыну перадзяю на кіёк. Гэта палавіна ніта і ёсць кылышына.* Ваўкавічы Тал.

КАЛДУ'НКА *ж.* Вядзьмарка. Стайкі Барыс.

КАЛДУНКІ' *мн.* Адходы пры прадзенні кудзелі. *Плахі кужаль, многа калдункоў, іх нада выдзіраць.* Жукі Кар.

КАЛДУ'ХА *ж.* Тое, што і калдунка. Шкураты Браг.

КАЛЕ'ЙКА (коле'йка) *ж.* Чарга. *Прыишла моя колейка гнаті товар пастіті.* Бастынь Лун.

КАЛЕ'НКА *ж.* Сустаў на пальцы рукі. *У каленкі паліц ня гнецца.* Сяляўшчына Рас.

КАЛЕ'СЦЫ *мн.* Прадаўгаватыя брускі з кольцамі, на якія падвешваюцца ніты. *Прывяжы калесцы і патчапі за іх ніты.* Моханава В.-Дзв.

КАЛЁСІКІ *мн.* Тое, што і калесцы. *Калёсікі робяць зеў у палатне. За калёсікі чапляюць ніты.* Мнюхі Міёр.

КАЛЗА'ЦЦА (кылза'цца) *незак.* Коўзацца. *Ён умее кылзацца і бес канькоў.* Сяляўшчына Рас.

КА'ЛІКА *ж.* Бручка. *С калікі варылі булён. Крышылі каліку і бульбу. Каліка салоткая і жоўтая.* Вароніна Рас.

КАЛІ'ШНІК *м.* Лісце бручкі. *Ны каліках добрый калішнік.* Вароніна Рас.

КА'ЛНА (ка'лно) *прысл.* Гразка. *От кално на гуліцы, што нэ можно нэг вытэгті.* Азарычы Пін.

КАЛО'ДА I (коло'да) *ж.* Ствол дрэва без сукоў. *От добрую колоду спіловаў. Колода — гэто ад комля і до верха без сучкоў.* Бобрыкі Петр.

КАЛО'ДА II (коло'да) *ж.* Кусок тоўстага палена, які прывязваецца на канцы жураўля. *Прывяжы ік страле колоду, коб легчэй цегці воду було.* Бобрыкі Петр.

КАЛО'ДА III *ж.* Задні навой у кроснах. *На калоду нывіваюць аснову красён.* Сяляўшчына Рас.

КАЛО'ДАЧКА I *ж.* Папярэчная планка у граблях, у якую набіваюць зубы. *Нада здзелаць у граблі калодачку і набіць зубы.* Вароніна Рас.

КАЛО'ДАЧКА II (коло'дочка) *ж.* 1. Каленца (у сцябле). *На соломынэ аж тры колодочкы выраслі.* Горск Бяроз. 2. Сустаў. *Удырыв пальца па самэй колодычцы.* Горск Бяроз.

КАЛО'ДЗЕЖ (коло'дзеш) *м.* Ямачка каля пупавіны, па якой вызначаюць малочнасць каровы. *У каровы глыбокі калодзеш, будзіць мылыка дываць.* Якубова Рас.

КАЛО'ДЗІЦА (коло'діца) *ж.* Калодка (у коле). *Колодіца дубова, крэпка, і спіцы дубовы.* Бастынь Лун.

КАЛО'К *м.* Драўляны цвік, замацаваны ў сцяне. *Загнаў калок у сцяну і будзіць дзе вешаць адзёжу.* Вадва В.-Дзв.

КАЛО'ША *ж.* Брыжы на рукаве. *У плаці пашыла рукавы с калошай.* Навасёлкі Свісл.

КАЛТАЯ' *ж.* Цапільна. *Зрабіў новую калтаю, а да калтаі прывізаў бічоўку.* Ністанішкі Смарг.



КАЛУБЕ'ЛЬ *ж.* Калыска. *Глядзі дзіця, а то выкуліцца с калубелі.* Моханава В.-Дзв.

КАЛУ'ЖА *ж.* Калдобіна. *Ехаў, заглядзеўся на птушак і колам пупаў у калужу.* Тульгавічы Хойн.

КАЛУ'ЖЫНА (колу'жына) *ж.* Тое, што і калужа. *Дарога гразная после дожэка, много колужын.* Бастынь Лун.

КАЛЫ'ШКА (колы'шка) *ж.* Гушкалка. *Зрабіла колышку і деті гондыгаюцца.* Бастынь Лун.

КАЛЬЕ'Р (колье'р) *м.* Кар'ер. *Пайшлі у кольер купацца, там усе купаюцца.* Бастынь Лун.

КАЛЬЦО' (кольцо') *н.* 1. Металічны кружок, за які чапляюць ворчык у баране. *Кольцо на баране, а на борку кручок, кручок цапляецца за кольцо, а за борке чапляюцца постронкі, а постронкі чапляюцца за хомут.* Бастынь Лун. 2. Кольца на розе ў каровы. *Купіў карову, іна мылыдая, толькі пяць кольцаў на рагу.* Замошша Рас.

КАЛЮ'ГА *ж.* Тое, што і калужа. *Дрэнная дарога, калюга за калюгай, няможна ехаць шпарка.* Моханава В.-Дзв.

КАЛЮ'К *м.* Калючка. *Ламаў галінку розы, а калюк так разадраў паліц.* Міратычы Кар.

КАЛЮКІ' (колюкі') *мн.* Ігліца. *Костэрыца — гэто колюкі на хвэйцы.* Азарычы Пін.

КАЛЮ'ЧКІ I *мн.* Тое, што і калюкі. *Пад хвойкай шмат насыпалася калючак.* Бобрыкі Петр. *На сасонцы зялёныя калючкі растуць. Калючкі бываюць доўгія і кароткія.* Ністанішкі Смарг.

КАЛЮЧ'КІ II *мн.* Адходы пры прадзенні воўны. *Калі воўна нядобра пачасана, то ў ёй ёсць калючкі, і многа.* Мнюхі Міёр.

КАЛЮ'ШКА (колю'шка) *ж.* Чарка. *Коліса мы пілі з колюшак горэлку.* Бастынь Лун.

КАЛЯ'ДКА (коля'дка) *ж.* Кудзеля, якую прадуць на каляды. *Возьмі ў мене колядку спрадзі (кудзеля, што ў коледох прадзе, якую нельга прасьці ў свята).* Бобрыкі Петр.

КАЛЯСНІ'К I *м.* Воз. *Прывёс каляснік сена.* Брусы Мядз.

КАЛЯСНІ'К II (колесні'к) *м.* Дарога, па якой ездзяць толькі летам на калёсах. *Там по загуменню колеснік вузкі, што не размінуцца.* Бастынь Лун.

КАЛЯСО' (колесо') *н.* 1. Галоўка сланечніка. *У сонечніку велікое колесо, будзе богато семечэк.* Бобрыкі Петр. *О, якое большое колесо тут.* Бастынь Лун. 2. Сланечнік. *От колёс насоділа много, будім пудсолнушкі грызті.* Бастынь Лун.

КАЛЯ'СЦЫ (коля'сца) *мн.* Прадаўгаватыя брускі з кольцамі, на якія падвешваюцца ніты. *Ручка, у якую укладают колясца, а за колясца чапляют ніты.* Азарычы Пін.

КАЛЯ'ТА (коля'та) *ж.* Пляма. *Во большая у тэбэ колята на сорочцы.* Горск Бяроз.

КАЛЯ'ТЫЙ (коля'тый) *прым.* 1. Брудны. *У тэбэ рукы колятыя.* Горск Бяроз. 2. Гразкі (пра дарогу). *Нэможно ехаты, дорога колята, ой, ой, дорога колята, ох, дорога колята, нычого було ехаты.* Горск Бяроз.

КАМЕ'ЛЬ *м.* Ніжняя частка снапа. *Стайці снапы ў бапкі камлём уніз, а макаўкамі ўверх і накрывайці крыцікамі.* Якубова Рас. *Які няроўны камель у снапу.* Парфянава Докш. *У камлі многа травы, трэба меншы вязаць сноп.* Падасоўе Навагр. *Стаўце снапы камлямі на зямлю.* Беразнёўка Браг. *Ідзі развярні бапкі, хай сохнуць*

*камлі.* Моханава В.-Дзв. *Снапы цяшкія, макавушкі высахлі, а камлі сырыя.* Ваўкавічы Тал.

КАМЕ́Р (комэ́р) *м.* Каўнер. *Пошыла коротыша і прышыла комэра.* Бастынь Лун.

КА́МЕРА *ж.* Дзірка ў верхнім камені жорнаў для засыпкі збожжа. *Засыпай у камеру жыта і круці ручку у жорнах.* Барыскі Лаг.

КАМЕ́ШНІК *м.* Качарэжнік. *Каменя стаіць у камешніку.* Карабаўшчына Бабр. *У камешніку стаяць: камяня, ёмка і вілкі.* Бобрыкі Петр.

КАМІНО́К *м.* Выступ на коміне. *Спічкі ляжаць на камінку'.* Моханава В.-Дзв.

КАМЛ́УК *м.* Восілка ў кашалі. *У кошыку паламаўсё камлук.* Навасёлкі Свісл.

КАМО́ЎНІК *м.* Ажыннік. *У нас многа камоўніку, а на камоўніку аш чорна-чорна камоў.* Ністанішкі Смарг.

КАМО́ЧКІ *мн.* Адходы пры прадзенні кудзелі. *Дужа плахая кудзеля, нельга прасці, многа камочкаў.* Ністанішкі Смарг.

КАМО́ЧНІК *м.* Тое, што і камоўнік. *У лясох на камочніку многа камоў.* Ністанішкі Смарг.

КАМШТО́ЛІЦЦА *незак.* Гуляць. *Кошка лежыць, а кацёнак камштоліцца коло кошкі.* Бобрыкі Петр.

КАМЫ́ I *мн.* Ажына. *Мы хадзілі ў камы, а як многа камоў у лесі. Я назбірала аш тры літры камоў. Камы спелыя, аш чорныя.* Ністанішкі Смарг.

КАМЫ́ II *мн.* Бульбяная каша, часам з гарохам, бобам. *На вячэру зварыла бульбу і натаўкла з бульбы камоў.* Навасёлкі Свісл.

КАМЯ́К (комя́к) *м.* Тое, што і камы II. *Маму, зрабеце камяка з бульбы.* Навасёлкі Свісл. *Зворыла булбу, зняла прыгаркі і натоўкла комэкэў, а тэпэра буду есьці.* Бастынь Лун.

КАМЯНЯ́ (каменя́) *ж.* Качарга. *Каменя жар загрэбаць. Зламаласа каменя і нема чым жару загрэбці.* Жахавічы Маз. *Камяня ставіцца ў камешніку.* Карабаўшчына Бабр.

КАНАДРЫ́СТА (конодры́ста) *ж.* Пралеска. *Конодрыста ростэ по борэх.* Бастынь Лун.

КАНАПЛЯ́НІСКА (канапля́ніско) *н.* Канаплянішча. *Вырвалі каноплі і засталосё канапляніско.* Міратычы Кар.

КАНАПЛЯ́НКА (конопля́нка) *ж.* Вялікая цёплая хустка. *Купіла собе хустку коноплянку з большымі клеткамі.* Бобрыкі Петр. *Мама, дай мне канаплянку зав'язаць.* Шкураты Браг.

КАНАПУ́ШКІ (конопушкі́) *мн.* Вяснушкі. *Які́е ў його конопушкі.* Азарычы Пін.

КАНАПЯ́ТЫЙ (конопя́тый) *прым.* Рабы. *Вэн дужэ конопятый. Уся морда у конопушкэх.* Азарычы Пін.

КАНВА́ЛІЯ *ж.* Ландыш. *Канвалія дужа добра ад сэрца, трэба яе сабраць. Канвалія росте по лугох.* Навасёлкі Свісл.

КАНВІ́ЛЬ *м.* Гатунак яблык (ружавата-жоўты). *Канвіль — смачны яблык.* Моханава В.-Дзв.

КАНДЖУ́К *м.* Вяровачная частка пугі. *Да пужална прывезаў канджук.* Бастынь Лун.

КАНЁК *м.* 1. Стык двухсхільнай страхі. *Канёк крышы задзелавалі саломай у саламянай страсе.* Барыскі Лаг. *Узлес ны самый канёк страхі чысьціць комін.* Якубова Рас. 2. Дзве збітыя дошкі, якія кладуць на стык страхі. *Збыв конька з досок і положыв на вэрх, а у соломэнэй стрэсэ то мы называемо хыб.* Горск Бяроз.



КАНО́ПЛІШЧА *н.* Канаплянішча. *Сып бульбу на каноплішча.* Ністанішкі Смарг.

КА́НТАР *м.* Фартух. *Завіжэтэ кантара.* Дзмітравічы Кам.

КАНУ́РКІ *толькі мн.* Карункі. *Прышыла к простані кануркі.* Ваўкавічы Тал.

КАНЦЫ́ *толькі мн.* Ніткі асновы, якія застаюцца на канцы недатканага палатна. *Выткала кросны, адрэзала палатно, і асталіся толькі канцы.* Паляцкішкі *Вор. Чаму ты пакінула такія даўгія канцы, нада было яшчэ ткаць.* Моханава В.-Дзв.

КАНЬ *ж.* Перагародка. *Хата була большая, і я адбіў кань, тэпэрэ две хаті у мэнэ.* Бастынь Лун.

КА́ПА *ж.* Скураное пакрыццё хамута. *Купіў скуры на капу і пакрыю хамут.* Моханава В.-Дзв. *У хамуце на кішку і лямяц накладаяцца кожаная капа.* Навасёлкі Свісл.

КАПАНІ́ЦА *ж.* Матыка. *Каваль добрую капаніцу зрабіў, сама капае.* Стрэшын Жлоб.

КАПА́ННІК *м.* Землякоп. *Узяў капанніка, кап ён выкапаў ямкі на фундамент.* Ністанішкі Смарг.

КАПА́ННІЦА (капа́ніца) *ж.* Жанчына, якую нанялі капаць бульбу. *Ну і капаніца з яе. За дзень чатыры баразны бульбы выкапала.* Ністанішкі Смарг.

КАПАРА́ЛКА (кыпыра́лка) *ж.* Матыка. *Узіла кыпыралку і пышла бульбу кыпаць.* Якубова Рас.

КАПА́ЧКА *ж.* Матыка. *Капачкай драсуім картоплі.* Шкураты Браг.

КАПЕ́Ж *м.* Лядзяш. *Капежы позомерзалі на стросе і вісяць.* Бобрыкі Петр.

КАПЕ́ЛЬ I (капэ́ль) *м.* Вадасцёк. *Постав вэдро пыд капэль, хай воды натэчэ.* Бастынь Лун.

КАПЕ́ЛЬ II (копэ́ль) *м.* Гразкае балота. *Нэ гоны коровы у копэль, а то увязнут.* Горск Бяроз.

КАПЕ́Ц (копэ́ц) *м.* Мурашнік. *Мурашкі нагорнулі копца і гэ задручковалі хорошэ. Добры копэц мурашо'к.* Бастынь Лун.

КАПЁШКА *м.* Капа (сена). *Капёшку растрэсла сена.* Моханава В.-Дзв.

КАПІ́ЦА *ж.* Прывязка для прымацоўвання біча да цапільна. *Капіцай прывязваюць біч ік цапільну.* Шкураты Браг.

КАПІ́ЦЬ *незак.* Складаць сена ў копы. *Стасю, пойдзем на балота капіць сена.* Навасёлкі Свісл.

КА́ПКА *ж.* Ямка ў печы. *Заграбла вуголле ў капку і засланіла печ.* Заазер'е Віл.

КАПКА́С (копка́с) *м.* Каблук. *Одорвавса у чоботу копкас, пойду пыдлажу.* Азарычы Пін.

КАПЛУ́Н *м.* Цура. *Наліла воды, пасаліла яе, накрышыла хлеба, цыбулі і заправіла алеям. Вот гэта я і зрабіла каплун.* Шкураты Браг. *Узяты воды, посолодыты чы посоліты, накрышыты хлеба і будэ каплун смачный.* Горск Бяроз.

КАПНІ́СКА (копні́ско) *н.* Месца, дзе была капа. *Копіцю забралі, остолосо копніско.* Азарычы Пін.

КАПНІ́ЦЬ (копнэ́ты) *незак.* Тое, што і капіць. *Я буду копнэтэ сыно.* Дзмітравічы Кам.

КАПТА́Н *м.* Блузка. *Набрала тавару і пашыла сабе каптан.* Міратычы Кар. *Хорошого каптана пошыла.* Бобрыкі Петр.

КАПТУ'Р I *м.* 1. Самая высокая пярэдняя частка печы. *Дым ідзець у каптур, а с каптура ў комін. Печ эрабій, а цяпер трэба рабіць каптур.* Манякова Міёр. 2. Выступ у коміне, на які кладуць запалкі. *Завускі эрабілі каптур у печы, што і запалкі нельга палажыць.* Брусы Мядз. *Вазьмі на каптуру спічкі.* Манякова Міёр.
КАПТУ'Р II *м.* Дзесяты сноп для накрывання бабкі. *Пастаў снапы ў мэндаль і накры каптуром.* Сімакава Кар.
КАПТУ'ШКА *ж.* Газоўка. *Запалі каптушку, хай гарыць, а то цёмна ў хаці.* Ваўкавічы Тал.
КАПУ'СНІК *м.* Капуснішча. *Зарас можна пусціць карову на капуснік.* Моханава В.-Дзв.
КАПУ'СНІСКА (капу'сніско, копу'сніско) *н.* Тое, што і капуснік. *Жані карову на капусніско.* Міратычы Кар. *Копусту ўбралі, осталоса копусніско.* Бобрыкі Петр.
КАПУСЦЕ'ННЕ (копусты'ннэ) *н.* Тое, што і капуснік. *Мэсто, дэ росла копуста, мы зовэм копустыннэ.* Горск Бяроз.
КАПЦІ'ЛКА *ж.* Газоўка. *А як жа рачей не было добрых ламп, а былі капцілкі.* Моханава В.-Дзв.
КАПЫ'Л *м.* Матыка. *Капылом капылім бульбу, а то іна зырысла храпай.* Вароніна Рас. *Мы капылом акапваім бульбу. Капылом бульбу капылюць.* Сляўшчына Рас.
КАПЫ'ЛІЦЬ *незак.* Асыпаць (пра бульбу). *Чаго вы стаіці, бярыці капылы і капыльці бульбу.* Сляўшчына Рас. *Капылом капыльці так бульбу, кап зімля была на баразне.* Вароніна Рас.
КАПЫ'ТКА *ж.* Жаночы галаўны ўбор з матэрыі. *Пат шапку надзявалі капытку с брыжамі.* Навасёлкі Свісл.
КАРАБЕ'Ц *м.* Каробачка з бяросты для ягад. *У карабец збіраім ягады. Карабец робім з бяросты.* Моханава В.-Дзв. *Набраў карабец ягат.* Макраны Кап.
КАРАБО'К *м.* 1. Каробка запалак. *Пазыч мне карабок сярнічак.* Моханава В.-Дзв. 2. Кошык, плецены з лазы. *Нарэзаў лазы і сплёў карабок.* Моханава В.-Дзв.
КАРАВА'Н *м.* Штабель торфу. *У караване сухэй торф, але мокрэй нэ трэбо браті.* Азарычы Пін.
КАРА'ВАЧНІК *м.* Анучнік. *Каравачнік едзіць, нада ў яго гузікаў купіць.* Замошша Рас.
КАРА'Н (кора'н) *м.* Ануча (для гаршкоў). *Надо помыті коран, а то грязны.* Бастынь Лун.
КАРАНІ'К I *м.* Тое, што і карабец. *Зрабіла каранік з бяросты і ныбрала поўны суніц.* Моханава В.-Дзв.
КАРАНІ'К II *м.* Борць, калода. *Каранік пчол загінуў.* Моханава В.-Дзв.
КАРАНЫ' (кораны') *толькі мн.* Рыззё. *Ганучнік збірае кораны. Бабы, нэсытэ кораны мэняті.* Бастынь Лун.
КАРАПУ'ЗЫЙ *прым.* Пузаты. *Ён карапузый, много есць, а таму і карапузый.* Тульгавічы Хойн.
КАРАСІ'НА *ж.* Газа. *Схадзі, можа лаўка аткрыта, купі карасіны.* Моханава В.-Дзв.
КАРАТЫ'Ш (короты'ш) *м.* Доўгая верхняя мужчынская і жаночая вопратка без падкладкі. *Набрала сукна і пошыла коротыша. Коротыша клалі на кожух. Наклоді коротыша на кожух, а то снег ідэ.* Бастынь Лун.
КАРА'ЎКІ (кыра'ўкі) *толькі мн.* Тое, што і караны, *Зьбірай там кыраўкі, трапашнік едзіць. За кыраўкі купі шпількі.* Ваўкавічы Тал. *Трэба караўкі занесці ў ларок, мо што дадуць.* Тульгавічы Хойн.
КАРАЎНЯ'К (коровня'к) *м.* Цэгла, зробленая з гліны і гноя. Бастынь Лун.
КАРАХВА'ШКА (кырыхва'шка) *ж.* Брычка. *Раней у пана была кырыхвашка.* Сляўшчына Рас.
КАРАШКІ' *толькі мн.* Пакрышаныя сцяблы тытуню, махорка. *Дай мне закурыць сваіх карашкоў, карашкі крапчэй.* Моханава В.-Дзв.
КАРАШО'К *м.* Ножка грыба. *Я бяру грыбы, а карашкі зразу адразаю.* Моханава В.-Дзв.
КАРЖА'Н (коржа'н) *м.* Кажан. *Коржаны ночью летают.* Бастынь Лун.
КАРКАВІ'НА (коркові'на) *ж.* Самае тоўстае сала (з верхняй часткі тушы). *Сало коло шыі мы зовэм корковіна, ті хібовэ сало і корковэ сало.* Бастынь Лун.
КАРНА'ТКІЙ (корна'ткый) *прым.* Кароткі. *У коцубовы корнаткый рожон, думаю зробыты другого.* Горск Бяроз.
КАРНІЧО'К *м.* Тое, што і каранік I. *Цэлый карнічок суніц ныбрала.* Сляўшчына Рас.
КАРНО'ТКІ *прым.* Тое, што і карнаткій. *У яго карноткія ганавіцы і карноткі кажушок.* Навасёлкі Свісл.
КАРО'БКА I (коро'бка) *ж.* Рыбалоўная снасць з дранкі круглай формы. *Каробкі стаўляць пуд лёд, і ў коробку налазяць цюны. Коробка ставіцца на ноч, да раніцы.* Бобрыкі Петр.
КАРОБКА II (коро'бка) *ж.* Асадка акна, якая ўстаўляецца ў аконны праём. *Надо коробку уставіть у окны.* Бастынь Лун.
КОРО'БКА III (коро'бка) *ж.* Пасуда для поснага масла. *Коробка для посного масла і накрывка дэрэвяна.* Бастынь Лун.
КАРО'ЛЬ (коро'ль) *м.* Трус. *В його королів мныго.* Дзмітравічы Кам.
КАРО'СТА (коро'ста) *ж.* Кастрыца. *Мныго коростэ в кудэлі.* Дзмітравічы Кам. *Як трэплімо лён, короста з ілну лэтыт.* Азарычы Пін. *Лён трэпаю, а короста лэтыт. Кудэлю тросэмо вэрэтэном, а короста лэтыт.* Горск Бяроз. *Ён трэпя, а кароста высыпаецца.* Навасёлкі Свісл. *Лён траплю, а кароста ляціць.* Старае Сяло Зэльв.
КА'РТА I *ж.* Павестка. *Вэн получыв карту на суд ехаті.* Бастынь Лун.
КА'РТА II *ж.* Месца на торфараспрацоўках, дзе сохне торф. *На картах сухэй торф, там учора варочалі. Ідэтэ і повэрнэтэ на карті торф.* Азарычы Пін.
КАРТАПЛЕ'ННЕ (картапле'не, картапля'нё) *н.* Бульбоўнік. *Трэба ісці картаплене жаць і сушыць.* Навасёлкі Свісл. *Засуха, усё картапленё пасохла.* Старае Сяло Зэльв. *Добро было на бульбі картаплянё, а бульба благая.* Міратычы Кар.
КАРТАПЛЯ'НІК (картопля'нік) *м.* Бульбянік. *От на картопляніку на вэрсэ богато голушэк.* Бобрыкі Петр.
КАРТАПЛЯ'НІСКА (картапля'ніско) *н.* Бульбянік. *Картапляніско аш палягло ат жары на бульбі.* Міратычы Кар.
КАРТАПЛЯ'НІШЧА (картапля'нішчо) *н.* Бульбянішча. *Трэба пабаранаваць картаплянішча і пабраць картоплі.* Шкураты Браг. *Я ўспеў пераараць картаплянішчо.* Старае Сяло Зэльв.
КАРТО'ПЛІСКА (карто'пліско) *н.* Тое, што і картаплянішча. *Выкапалі картоплі, осталосо картопліско.* Азарычы Пін.

ҚАРТО'ПЛІШЧА (карто'плішчэ) *н.* Тое, што і картаплянішча. *Пойду перагорваць картоплішчэ.* Жахавічы Маз.
ҚАРТО'ПЛЯ *ж.* Бульба. *От моя картопля пуд яблынаю збутвела.* Бобрыкі Петр.
ҚАРХАВІ'ННЕ *н.* Макрота. *Қашаль б'ець дужа, а кархавінне не адходзіць.* Моханава В.-Дзв.
ҚАРЧАВЕ'ШКА *ж.* Выкарчаваны пень. *Во, крэпкая карчавешка, ніяк ні раскалоць і пубаешкай біў па абуху, ні паддаецца.* Қасталомава В.-Дзв.
ҚАРЧЫ' (корчэ') *толькі мн.* Қусты. *У корчэх ростэ усэ: і лоза, і бэрэзына, і горэшняк.* Горск Бяроз.
ҚАРШУ'Н *м.* Частка караўрота ў выглядзе двухзубай вілкі з жалезнымі зубамі, на якую надзяюць шпульку. *Вазьмі каршун, надзень на каршун шпульку і закруці літэркай.* Мнюхі Міёр.
ҚАРШЭ'НЬ *м.* Қарак. *Дай яму добра ў каршэнь, ніхай не лезіць драцца.* Моханава В.-Дзв.
ҚА'РЫ I *толькі мн.* Вялікі воз з драбінамі; наогул воз. *Қары — большэй вэз з драбінамі, був у пана, а у мужыкэв був вэз із-за пліскамі по бокэх.* Бастынь Лун. *Трэба ехаць па дровы у карах. На кары палажы гнаёўкі, будзім гной вазіць. На кары накладаім сянныя драбіны і возім сена.* Ністанішкі Смарг.
ҚА'РЫ II *толькі мн.* Сані для перавозкі бярвення. *Қары — гэта сані, на якіх воэяць доўгі лес. Пазадзі карау сучка. Сучка да кар прымацоўваецца вяроўкай.* Навасёлкі Свісл.
ҚАРЫТА I *н.* Збітыя дошкі, якімі прыкрываецца грэбень саламянай або шыфернай страхі. *Збіваіцца з дашок і кладзецца на канёк страхі карыта, кап ні цякло на хату.* Якубова Рас. *З дасок зьбій карыта і палажыў на верх страхі, кап дошч строп не мачыў.* Вадва В.-Дзв.
ҚАРЫ'ТА II *н.* Дашчаная шуфляда, на якой ляжыць ніжні камень у жорнах. *Зрабіў карыта на жорны і палажыў ніжні камень.* Старана Асіп.
ҚАРЭ'Ц I *м.* Вялікая скрыня, у якой трымалі бульбу ў варыўні. *Тры скрыні бульбы засыпаў у карэц на зіму.* Ністанішкі Смарг.
ҚАРЭ'Ц II (корэ'ц) *м.* Қалодачка з дзіркай на верхнім камені жорнаў, у якую ўстаўляецца ніжні канец млёна. *У жорнах у другэм камэні е обруч, і туда, у гэты обруч, уставляют корэц, а ў корэц уставляют млін.* Азарычы Пін.
ҚАСА' *ж.* Промень. *Қосы сонейка папускала аж до самэй земні.* Бастынь Лун.
ҚАСАВЕ'Ц (косовэ'ц) *м.* Қасавокі. *Ой, якы вэн косовэц, у его гочах нэ выдно чоловэчка. Қосовэц, косовэц!* Горск Бяроз.
ҚАСАВІ'ЛА *н.* Қассё. *Нада прывязаць палюк да касавіла.* Мнюхі Міёр.
ҚАСАВІ'ЛІНА *ж.* Қассё. *Німа добрай касавіліны асадзіць касу.* Якубова Рас.
ҚАСАВІЛЬНА *н.* Қассё. *Здзелаў яловае касавільна к касе.* Қарабаўшчына Бабр.
ҚАСАГО'ҚІЙ (косого'кій) *прым.* Қасавокі. *Дужэ ж вэн косогокій.* Азарычы Пін.
ҚАСАЎЕ *н.* Тое, што і касавіла. *Да касаўя нада прывязаць мыліцу.* Брусы Мядз. *Добрае касаўё ў касе.* Моханава В.-Дзв.
ҚАСІ'ДЛА (касі'дло) *н.* Қассё. *Насадзі касу на касідло і ідзі касіць сена.* Раўбічы Мін.



ҚАСІ'ЛІШЧА *н.* Қассё. *Прыладзіў касілішча да касы.* Бярозкі Хоц.
ҚАСІЛНО' *н.* Қассё. *Прыладзіў касілно да касы.* Заазер'е Віл. *Асадзіў касу на касілно і пайду касіць.* Барыскі Лаг.
ҚАСІЛЬНО' *н.* Қассё. *Да касы зрабіў касільно ды закароткае.* Дзюблеўшчына Маладз.
ҚАСІ'НА I (косі'на) *ж.* Волас. *У цебе на спіне касіна лежыць. О, якую доўгую касіну вурваў.* Тульгавічы Хойн. *Қосіна вырволаса з головы.* Бастынь Лун.
ҚАСІ'НА II (косі'на) *ж.* Выраз у аконным вушаку для падвойнай рамы. *У яшчэковы есть косіна, коб поставыты другую раму.* Горск Бяроз.
ҚАСІЎЕ *н.* Қассё. *Нада іці касіць, а касіўё паламалася.* Паляцкішкі Вор.
ҚАСМЫЧҚІ' *мн.* Адходы пры прадзенні кудзелі. *Плоха пачасала кудзелю, многа касмычкоў.* Сімакава Қар.
ҚАСТАБО'Қ (костобо'к) *м.* Скураны лапаць. *Былі новыя костобокі, а тэпэр старые. Қостобок подай мне. Гэ костобок порванэй.* Бастынь Лун.
ҚАСТРУҚІ' (куструкі') *мн.* 1. Адходы пры прадзенні воўны. Мнюхі Міёр. *Воўну кэпска счасаў, вельмі многа каструкоў.* Қазлы Міёр. 2. Астаткі пасля прасейвання мукі. *Муку на рэшата прасеіла, асталіся толькі аўсяныя куструкі.* Вароніна Рас. 3. Рэшткі пасля працэджвання цэду на кісель. *У рэшаці асталіся куструкі, а с цэда наварыла кісялю і журыхі.* Сяляўшчына Рас.
ҚАСТРЫ'ЦА I (кострыʼца) *ж.* Цвёрдая частка пяра ў пер'і. *Скубла пер'е, кострыцу выкынула вон.* Горск Бяроз.
ҚАСТРЫ'ЦА II *ж.* Ігліца. *Пат хвойкай шмат кастрыцы насыпаласё.* Навасёлкі Свісл.
ҚАСЦЁ *н.* Қассё. *Қасцё у касе старае, а нада б было зрабіць новае.* Стайкі Барыс.
ҚАСЦЫ' *толькі мн.* Грабелькі да касы. *Замацуй касцы да касы, пайду авёс касіць.* Беразнёўка Браг.
ҚАСЦЯРЫ'ЦА (костэры'ца) *ж.* Тое, што і кастрыца II. *Қостэрыца — гэто колючкі на хвэйцы. О-ёй, скэлькі мнэго нападала с хвэйкі костэрыцы.* Азарычы Пін.
ҚАСЯ'Қ *м.* Сталярны інструмент для падчысткі пазоў. *Қасяк для падчысткі чацвярцей пасля адборніка ў шалёўках, дошках.* Шкураты Браг.
ҚАТҚІ' I (коткі') *толькі мн.* Қаташкі. *Ужэ на вэрбэ е коткі, скоро будуть лісткі.* Бастынь Лун.
ҚАТҚІ' II (коткі') *толькі мн.* Агаткі. *У конюшыні коткіростуть, і много.* Бастынь Лун.
ҚАТЫ'-ҚАТЫ'-ҚАТЫ' *выкл.* Ужываецца, калі падзываюць ката. Заазер'е Віл.
ҚА'ЎҚА *ж.* Га'лка. *На бярэзіні сядзіць каўка.* Паляцкішкі Вор. *Паляцелі каўкі.* Моханава В.-Дзв.
ҚА'ЎҚАЦЬ *незак.* Мя'ўкаць. *Қошка каўкае, хоча малака.* Навасёлкі Свісл.
ҚАЎМЕ'Р *м.* Қаўнер. *Прышыла каўмер к сарочкі.* Ваўкавічы Тал.
ҚАЎНЕ'РАЦ (коўнэ'рыц, ковне'рыц) *м.* Манжэта. *Да руковэў прышыла коўнэрцы. Одэн коўнэрыц мэншы.* Бастынь Лун. *Да рука-*

*вов унізу прышыты ковнерцы. Одэн ковнерыц бэльшы, а другі мэнішы, як ты покроіла?* Азарычы Пін.

ҚАЎНЕ′РЫҚ (ковне′рык, коўне′рык) *м.* Тое, што і каўнерац. *До рукава прышыла ковнерык.* Сакалоўка Пін. *Нада прышыць да рукава сарочкі каўнерыка.* Міратычы Қар.

ҚАЎПА′Қ (коўпа′к) *м.* Мехавая шапка. *Купыв собэ ковпак, коб теплее було у голову.* Бастынь Лун.

ҚАЎТУ′Н I *м.* Адходы пры прадзенні воўны. *Кепска пачэсаў воўну, адны каўтуны, што няможна прасці.* Беразнёўка Браг.

ҚАЎТУ′Н II (коўту′н) *м.* Кутас у поясе. *Выткала поеса і зробіла по коўтуну по канцэх.* Бастынь Лун.

ҚАЎТУНЫ′ I (коўтуны′) *мн.* Адходы пры прадзенні кудзелі. *Обдзірала лён на жалезнуй грэбень і кэпско ободрала, одны коўтуны ў кудзелі, што няможна прасці.* Бобрыкі Петр.

ҚАЎТУНЫ′ II (коўтуны′) *мн.* Махры ў хустцы, настольніку. *Одорвайса коўтун от вязвэнкі. Я кагу і кагала настыльніца з коўтунамі.* Бастынь Лун.

ҚАЎТУНЫ′ III (коўтуны′) *мн.* Няроўна спрадзеныя ніткі. *Вот напрала ніткі, одны коўтуны.* Бастынь Лун.

ҚАЎША′Н (коўша′н) *м.* Вялікая драўляная міска. *Селі за стол і цэлуй коўшан варыва з'елі.* Бобрыкі Петр.

ҚАЦЕ′ЛҚІ *толькі мн.* Прадаўгаватыя брускі з колцамі, на якія падвешваюцца ніты. *Ніты на кацелках пірыдзвігаюцца. Да нітоў прывязваюць вяровачкі, і гэтыя вяровачкі надзіваюць на кацелкі.* Ваўкавічы Тал.

ҚАЦЁЛАЧҚІ (коцёлочкі) *толькі мн.* Тое, што і кацелкі. *Нада за кацёлачкі прычапіць ніты.* Стайкі Барыс. *Прыв'яжы ік нітам матузкі і надзень на кацёлачкі, будзем ткаць кросна.* Бобрыкі Петр.

ҚАЦІ-ҚАЦІ-ҚАЦІ *выкл.* Ужываецца, калі падзываюць ката. Моханава В.-Дзв.

ҚАЦУБА′ (коцуба′) *ж.* Качарга. *У коцубовы карнаткый рожон, надо зробыты другого.* Горск Бяроз.

ҚАЦУ′БНІҚ (коцу′бнык) *м.* Качарэжнік. *Вэтэ постаўтэ коцубову ў коцубнык.* Горск Бяроз.

ҚАЦЮ′БНІҚ (коцю′бнык) *м.* Тое, што і кацубнік. *У коцюбныковэ ухват, вілкі.* Дзмітравічы Кам.

ҚАЦЮ′Қ *м.* Қацяня. *Дайцё кацюку малачка папіць.* Паляцкішкі Вор.

ҚАЦЮ′ШҚА (коцю′шка) *ж.* Шпулька. *Коцюшку напрала на самопрацы.* Бобрыкі Петр. *Купіла дзве кацюшкі нітак.* Шкураты Браг.

ҚАЦЯ′Х (коця′х) *м.* Кветка цыбулі. *На стовпах навэрху котэхы бэлые ростут, там насэннэчко у котэховы чорненькэ.* Горск Бяроз.

ҚАЧА′ЛАЧҚА (кача′лочко) *н.* Прадаўгаватыя брускі з колцамі, на якіх падвешваюцца ніты. *Вешаюць нічальніцы на качалочко.* Навасёлкі Свісл.

ҚАЧА′Н *м.* Храпка. *Мама, выраш мне качан. У получчы у сэрэдынэ е качан, його можнэ есты.* Горск Бяроз.

ҚАЧАРГЕ′ШНІҚ *м.* Қачарэжнік. *Пастаў вілы ў качаргешнік.* Навасёлкі Свісл.

ҚАЧАРЫ′ЖҚА (качары′шка) *ж.* Храпка. *Вы выращце качарышку с кычына капусты.* Моханава В.-Дзв.

ҚАЧУ′Қ *м.* Качанё. *Качукі квакаюць, нада ім даць есці. Качук застаўся ат качукоў.* Паляцкішкі Вор.



ҚАЧУ′Р *м.* Қавалак тоўстага палена. *Парэзалі дровы на качуры. Пойдзім сячы качуры на дровы.* Моханава В.-Дзв.

ҚАШАЛЁҚ *м.* Вяровачная сетка для сена каню. *Набяры сена ў кашалёк, возьмім на дарогу каню.* Вароніна Рас.

ҚАШАЛІ′СҚА (кошэлі′ско) *м.* Қош. *По-двэйному кагуть: кэш і кошэліско, гэ само однэ.* Бастынь Лун.

ҚАША′РА (коша′ра) *ж.* Агароджанае месца на полі, у лесе, дзе летам трымаюць жывёлу. *Дэ товар стоіт, мы кагам стоновіско, а тэпэр кагут і кошара.* Бастынь Лун.

ҚАШАРЫ′ЦЦА *незак.* Мыцца. *Я пайду кашарыцца.*Ністанішкі Смарг.

ҚАША′РЫЦЬ *незак.* Мыць. *Я пайду кашарыць свае ногі.*Ністанішкі Смарг.

ҚАШО′ЎНІҚ (кашо′ўнік) *м.* Сітнік. *Унь на вугану богато росце кошоўніку. Свіня ходзіць у кошоўніку.* Бобрыкі Петр.

ҚАШРЫ′ЦЬ *незак.* Мыць. *Я пайду кашарыцца, кашрыць свае ногі.*Ністанішкі Смарг.

ҚАШТЫ′ЛЬ (кошты′ль) *м.* Мыліца. *Вэн ходыт на коштылє.* Бастынь Лун.

ҚАШЭ′ЛЬ *м.* Вяровачная сетка для сена каню. *Напхні, ныкрыпай кашэль сена ўзяць каню ў дарогу.* Даўгабор'е Рас.

ҚВА′ДА *ж.* Квадра. *Молодычок у другой квадэ.* Бастынь Лун.

ҚВАС *м.* Кіслы суп. *Квас варым так: укінім у ваду мяса, а тады патколоцім кіслым цестам ці рошчынай. Вот я і зварыла квасок, квас.* Міратычы Қар.

ҚВАСЁНЫ *дзеепрым.* Квашаны. *У нас добрэ квасёна капуста, я вам дам на закус.* Бастынь Лун.

ҚВА′СҚА *ж.* 1. Бочачка для засолкі агуркоў. *Кваска — невелышая пасудзіна, у ёй мы солім гуркі.* Бастынь Лун. 2. Дзежачка на сала. *У кваску клодэм сало і кірпічэм наважэваім вэко.* Бастынь Лун.

ҚВАСО′ЛЬНІҚ (квасэ′льнік) *м.* Лісце і сцяблы фасолі. *Квасэльнік добры, а чы будэ квасоля, не знаю.* Бастынь Лун.

ҚВАШАЛІ′НА (квашэлі′на) *ж.* Квашаніна. *Зарэзала паршука і наварыла квашэліны.* Горск Бяроз.

ҚВЕ′ТҚА *ж.* Нязжаты пучок калоссяў, пакінуты ў канцы жніва. *Жыто дожала і кветку зробіла.* Горск Бяроз.

ҚВЕ′ЦАЦЬ *незак.* Брудзіць. *Бунда ў цябе новая, і не трэба яе квецаць.* Шкураты Браг.

ҚВЕ′ЦЕНЬ *м.* Красавік. *Квецень месяц.* Паляцкішкі Вор.

ҚВЯЛІ′ЦЦА *незак.* Дражніцца. *Чаго ты квялісса з малым? Ой, ні лесь, ні квяліса нат дзяцьмі.* Навасёлкі Свісл.

ҚВЯТ *м.* Кветка. *От красівы квят — мальва.*Ністанішкі Смарг.

ҚВЯТУ′РҚА *ж.* Прарэх (у штанах). *Зашпілі сваю квятурку ў штанах.* Сляляўшчына Рас. *У штоніках расцягнулася квятурка, засцягні, сынок.* Даўгабор'е Рас. *Ушый гузік у квятурку, а то німа чым зашпіліць.* Вароніна Рас.

ҚЕБ *злучн.* Қаб. *Пайду рабіць адзёнка, кеб кідаць стог.* Шкураты Браг.

ҚЕ′ПҚА (кэ′пка) *ж.* Пячурка, ніша ў сценцы печы. *Загрэбі жаратак у кэпку. Трэбо выграбті вуголле у кэпку. Буду у кэпку загрэбаті жар.* Бастынь Лун.

ҚЕЎЛІЦЦА *незак.* Тлець *Ні гырацъ дрозы, толькі кеўлюцца.* Якубова Рас.

КІВІНЯ′ *ж.* Качарга. *У камешніку стаяць:ківіня, ёмка і вілкі.* Бобрыкі Петр.

КІЕЎКА *ж.* Кукурузны пачатак. *Смашная кіеўка. Я прынёс кіеўкі, звары, мама.* Брусы Мядз.

КІЗО′К *м.* Столь з жэрдак у хляве. *Прывёз вэз тонкіх жэрдок, трэбо зробіті ў хлеві кізок.* Бастынь Лун.

КІЛАВА′ТЫЙ (кілова′тый) *прым.* Пра капусту з нарастамі на карэнні. *Уся капуста кіловата, ні знаю чэму.* Бастынь Лун.

КІЛА′ТЫ *прым.* Тое, што і кілаватый. *Капуста ўся кілатая да аднаго кычына, дык бурыкам адсадзіла.* Сляпяўшчына Рас.

КІЛУ′Н *м.* Кныр. Мнюхі Міёр.

КІНО′ШЧЫК *м.* Кінамеханік. *Кіношчык прыехэў, будэ кіно.* Бастынь Лун.

КІПЯ′ТАК *м.* Вар. *Кіпятак добра кіпіць, можна залізаць кросны.* Міратычы Кар. *Дастань мне кіпятак, я буду блашчыц абварваць.* Навасёлкі Свісл.

КІРЗА′К *м.* Гірса. *Поле нізкае, а я посееў жыто. Жыта не вырасло, а вырос одын кірзак.* Бастынь Лун.

КІРНА′ТЫЙ *прым.* Невысокі. *Вэн кірнатый, небольшого росту.* Бастынь Лун.

КІРНО′З *м.* Тое, што і кілун. Бастынь Лун.

КІ′РСА I *ж.* Ачышчаная ад шэрсці вузкая палоска аўчыны, якая служыць пракладкай пры сшыванні аўчын. *Кірса — ета вузкая полоска, оскоблена от шэрсті, і ее кладуть по сэрэдыні, колі сшываютъ овчынкі.* Бастынь Лун.

КІ′РСА II *ж.* Тое, што і кірзак. *Кірса ростэ, дэ мокрэ поле. Кірса ростэ у жыті.* Бастынь Лун. *Трэбо жыто змыті, ото мнэго кірсы.* Азарычы Пін.

КІСЛА′ТЫ *прым.* Плаксівы. *Дужо кіслаты ўрадзіўсё, усё плача і плача.* Міратычы Кар.

КІСЛІ′ЦА *ж.* Шчаўе. *Назбірала кісьліцы і буду варыць боршч.* Сляпяўшчына Рас.

КІСЛУ′ХА *ж.* Страва з рошчыны і бульбы. *Нацёрла бульбы, перамяшала скіслой рашчынай і наварыла на абет кіслухі, будзем есці с салоткім малаком.* Міратычы Кар.

КІСЛЯ′ *ж.* Закваска. *Смашнай кіслю пахніць, будзіць добрый хлеп.* Ваўкавічы Тал.

КІСЛЯ′К *м.* Сыракваша. *Мамо, налій мне ў міску кісляку.* Жахавічы Маз. *На, сынок, вупі кісляку.* Тульгавічы Хойн.

КІ′СЦЕ *н.* зборн. Махры. *С кісцям хустка, настольнік с кісцям.* Вароніна Рас.

КІСЬ-КІСЬ-КІСЬ *выкл.* Ужываецца, калі падзываюць ката. Моханава В.-Дзв.

КІ′ТА *ж.* Вязка (бобу). *Адна кіта бобу дужа тоўстая звізалася.* Моханава В.-Дзв. *Кіта бобу.* Манякова Міёр. *Сухая кіта бобу.* Шастакі Шчуч.

КІ′ТКА *ж.* Тое, што і кіта. *Пыжала боп і пывізала ў кіткі.* Моханава В.-Дзв. *Кітка бобу, вазьмі кітку і пастаў у бапку.* Барыскі Лаг. *Лён пыднялі, пывізалі ў кіткі і пыставілі ў раткі.* Ваўкавічы Тал.

КІ′ЧКА I *ж.* Смаляны корч. *Паехаў кічкі капаць, на вураб і накапаў цэлый воз.* Шкураты Браг.

КІ′ЧКА II (кы′чка) *ж.* Саламяная пракладка ў хамуце. *Узяў соломы, обтягнув шкурою, кычку до хомута зробыв.* Горск Бяроз.



КІШКА′ *ж.* Хамуціна. *Трэба пачыніць кішку ў хамуце.* Моханава В.-Дзв. *Кішка ў хамуце прамацоўваецца да кляшчэй. На кішку і клешчы с-пат споду і зверху накладаецца лямяц.* Навасёлкі Свісл.

КЛАД (клат) *м.* Штабель дроў. *Пасек бярозавыя дровы і злажыў у клат.* Моханава В.-Дзв.

КЛАДЗЬ (клаць) *ж.* 1. Жардзіна, якая кладзецца паверх кроквaў на страсе. *Паставіў крокву і палажыў кладзь наверх на крокву.* Жахавічы Маз. 2. Папярочнае бервяно пад падлогай. *Паклаў кладзі, а цяпер буду масціць мост. Клаць у масту згніла.* Ваўкавічы Тал.

КЛА′СЦІ (кла′стэ) *незак.* Надзяваць. *Вын кладзе сорочку сыбэ.* Дзмітравічы Кам. *Гальку кладуць пат спадніцу. Калісь клалі на сябе станіка і гальку.* Навасёлкі Свісл.

КЛАЧО′К *м.* Адходы пры прадзенні воўны. *Дрэнна счэсана воўна, адны клачкі. Упрала клачок, нітка стала няроўная. Клачкі нада выкідваць.* Сляпяўшчына Рас.

КЛЕ′ВАЦЬ *незак.* Слаба, чуць-чуць ліпець. *Ён чуць-чуць клеваіць, мусіць скора памрэць.* Моханава В.-Дзв.

КЛЕВЯРЫ′ШЧА *н.* Канюшынішча. *Клевер скасілі, засталося клевярышча.* Шкураты Браг.

КЛЕН′Ц (клэ′нц) *м.* Клятва. *Шчо его клэнц, ён ето нэ зробыт, а дае клэнц.* Горск Бяроз.

КЛЕ′ПАЛА (кле′пало) *н.* Няроўнасці на палатне касы. *Не ўмеў клепаті косу і зробыў клепало.* Бастынь Лун.

КЛЕ′ПНЯ *ж.* Лапа. *Кошка склала свое клепні і спіць, а одной клепней ворочае.* Бобрыкі Петр.

КЛЕ′ШНІ *мн.* Ніты (у кроснах). *Навіла кросна, укынула ў клешні аснову і выткала ў штыры клешні чыноватного полотна.* Горск Бяроз.

КЛЕ′ШНЯ *ж.* Калоша ў штанах. *Пашыла ў ганавіцах шырокія клешні.* Вострава Маст.

КЛІНБ *м.* Маленькая палачка, пры дапамозе якой вяжуць снапы. *Пашла баба жыто жаты і зобыла клінба взяты, і нэ було чым снопы вэзаты.* Горск Бяроз.

КЛІНДА′ТЫЙ *прым.* Клышаногі. *Пашоў кліндатый, колені ў сэрэдыну, а ногі ўрось.* Бастынь Лун.

КЛІНО′К *м.* Запатылак. *Надзень баночку і забі клінка, коб не спадовала коса з косья.* Бобрыкі Петр.

КЛІ′ЦВІНА *ж.* Цвікля. *У штанах у кятурцы ўшыта кліцвіна.* Якубова Рас.

КЛО′ПАТ (кло′пот) *м.* Дошчачка з дзірачкай, куды памяшчаецца верхні канец млёна. *Прыколотіў клопот і ўдеў млён у клопот.* Бастынь Лун.

КЛО′ПАЦЬ *незак.* Квактаць. *Курыца хоча садзіцца на яйцы і клопая, трэбо прывязаць. Курыца пачала клопаць, надо пасадзіць пад рэшата.* Навасёлкі Свісл.

КЛО′ХКАЦЬ *незак.* Тое, што і клопаць. *Курыца клохкаіць, нада садзіць на яйцы.* Моханава В.-Дзв.

КЛУ′МЛЯ *ж.* Ручная рыбалоўная снасць з сеткі, нацягнутай паміж двума кійкамі (ловяць у яе двое). *Пачыніў клумлю, пойдзім рыбу лавіць.* Жахавічы Маз.

КЛЫК *м.* Жмут. *Узяў клык сена пат паху. Я клык кудзелі спрала.* Міратычы Кар.

КЛЭ'МАК *м.* Клунак. *Мы ішлі са сваімі клэмкамі аш да Кастуся. У мяне клэмак быў дужа цяжкі.* Заазер'е Віл.

КЛЮЕ'Ц *м.* Малаток для насякання камянёў у жорнах. *Падай мне клюец, мне трэба накляваць камень у жорнах.* Старонка Асіп.

КЛЮ'КА *ж.* Прадаўгаваты брусок з кольцамі, на якія падвешваюцца ніты. *Зацэпыла ніт за клюкы. Одна клюка вышэй, а другая ныжэй.* Горск Бяроз.

КЛЮЧ I *м.* Вочап. *Стоіт стовп, а на стовпу пуга лежыт, а до пугы прывязан ключ, а на ключы высыт вэдро.* Горск Бяроз. *Поломавс ключ у колодежа.* Бастынь Лун.

КЛЮ'Ч II *м.* Кручок з загнутым канцом для выскубвання сена. *Ключом наскубав сена дать коню.* Бастынь Лун.

КЛЮЧ III *м.* Крыніца. *Ключом выда б'ець. Там добрый ключ, можна напіцца ключавой вадзіцы.* Сяляўшчына Рас.

КЛЮ'ЧКА I *ж.* Кіёк, адзін канец якога ўсаджан у дзірку навоя і не дае навою круціцца. *Ключка атпускаць аснову з навоя.* Навасёлкі Свісл.

КЛЮ'ЧКА II *ж.* Тое, што і ключ I. *Ключка прыбіта да коварата, а на ключку вешаюць вядро.* Навасёлкі Свісл.

КЛЮЧЫ' *мн.* Тое, што і калодзеж. *У каровы пат пахай ёсь ключы, і па гэтых ключах узнаюць карову, ці добрая карова на малако.* Вароніна Рас. *Выбірай карову, глядзей ключы, кап добрая была. Ключы добрыя, павінна дываць мылыка.* Якубова Рас.

КЛЮЧЫ'ШЧА (ключы'шчэ) *н.* Доўгае бервяно, якое кладуць на сохі ў будынку. *Пыставіў штыры сохі, а на сохі положыв ключышчэ, товсту дэрэвыну.* Бастынь Лун.

КЛЯВЕ'Ц (клевэ'ц) *м.* Тое, што і клюец. *Дай мне клевэц жорны біті.* Бастынь Лун.

КЛЯК *м.* 1. Сук. *Тоўсты кляк зламаў вецер у грушы.* Навасёлкі Свісл. 2. Корань. *Выкопаў кляк на ковэню. Ковэня клековата.* Бастынь Лун.

КЛЯ'МАР *м.* Жалезная пласцінка на аглоблі, на якую надзяваюць атосы. *Клямар прыбіты да аглабні, на які адзяваюць атосу.* Міратычы Кар.

КЛЯ'МКА I *ж.* Прыстасаванне ў плузе для рэгулявання шырыні баразны. *У дышлі на канцы ёсь клямка. У клямцы ёсь пяць дзірак. Клямку можна падымаць то ўніс, то ўгору.* Ністанішкі Смарг.

КЛЯ'МКА II *ж.* Манішка. *Прышы клямку ў рубашку і каўмер.* Вароніна Рас.

КЛЯ'МРА *ж.* Рэгулятар. *У канцы дышла прымацована клямра.* Азарычы Пін.

КЛЯ'МРЫ *мн.* Быкі (у маста). *Пачыніў мост і зробіў клямры, коб вэсной не знесла вода моста.* Бастынь Лун.

КЛЯПЧА'НКА (клепча'нка) *ж.* Невялікая пасудзіна з клёпак. *Прорэзаў у клепчанцы заторы, коб уложыць дно.* Бобрыкі Петр.

КЛЯЦ *м.* Зуб (у бараце, граблях). *У брус заганяюць кляцы. Паламаўся кляц у граблях.* Паўлавічы Клім.

КНІ'ГА *ж.* Кнігаўка. *Кніга пулетела над булотом.* Бастынь Лун. *Скора к нам прыляцяць кнігі.* Тульгавічы Хойн.

КНІ'ГІ *толькі мн.* Аддзел страўніка буйной рагатай жывёлы. *Зарэзала карову, разрэзала трыбух, а там кнігі, кнігі, што я ні магла кнігі пачысціць.* Касталомава В.-Дзв.

КНІ'ЖАЧНЫЙ *прым.* Страўнікавы. *У коровы бэбэхі: одын простый, а другэй кніжачный бэбэх.* Бастынь Лун.



КНІ'ЖЫЦЬ *незак.* Кружыць. *Мухі кніжаць нат каструляй.* Ністанішкі Смарг.

КНУР *м.* Кныр. *Мнэго кнурэй, трэбо одного пусціць на племя.* Азарычы Пін. *Покынув кнура на племе.* Горск Бяроз. *Трэба кнура пакладаць ды карміць на сала.* Міратычы Кар. *Буду кнура ляхчаць.* Навасёлкі Свісл. *У калхозі ёсь кнур.* Ністанішкі Смарг. *Було много кнуроў, а я аднаго кінуў. Кнур мой пародзісты.* Паляцкішкі Вор. *Многа кнуроў, надо выпакладаць, а пакінуць аднаго.* Старае Сяло Зэльв.

КНУРАВА'ЦЬ (кнурова'ты) *незак.* Пра стан цечкі ў свінні. *Моя свіня кнуроваты почала, пожэнэм до кнура.* Горск Бяроз.

КНЭ'БЕЛЬ (кнэ'біль) *м.* Маленькая палачка, пры дапамозе якой вяжуць снапы. *Кнэблім вяжуць снопа.* Дзмітравічы Кам.

КНЯЖ *м.* Шафер. *От молодого прыехало аж два княжых. Одзін княж дзержаў венец у молодого.* Бобрыкі Петр.

КОБ *злучн.* Каб. *Коб добра рабіць, трэбо вучыцца.* Бобрыкі Петр.

КО'БАЧКА *ж.* Падлыжачная ямка, якая знаходзіцца пад грудзінай. *Пад грудзямі ёсь кобачка. Падвярнула мне пат кобачку.* Ністанішкі Смарг.

КО'ВАРАТ *м.* Вочап. *Журавель ляжыць на тоўстай бабе, а да жураўля прычэплін коварат.* Навасёлкі Свісл.

КО'ВЕНЬКА *ж.* Палка для апоры пры хадзьбе. *Без етой ковенькі я не могу ходзіць.* Бобрыкі Петр.

КО'ВЕНЯ (ко'вэня) *ж.* Качарга. *На ковэню набіў оджога. Выкопаў кляк на ковэню. Ковэнэ клековата.* Бастынь Лун.

КО'ЗЛІК *м.* Конік. *Зелёные козлікі прыгают по сэны.* Горск Бяроз.

КО'ЗУБ *м.* Каробачка з бяросты для ягад. *Зробів козуба бэрэстового і набрав позёмок.* Бастынь Лун.

КО'ЗЫР *м.* Казырок. *Паламаўся ў шапцы козыр.* Навасёлкі Свісл.

КО'КАЛЬ (ко'коль) *м.* Куколь. *У жытэ ростэ і коколь.* Горск Бяроз.

КО'КЕНЬ *м.* Ногаць. *О, акі кокень большый на пальцу, обрэж его.* Бобрыкі Петр.

КО'ЛБА *ж.* Від свярдзёлка. *Колба крутыты дыркы.* Горск Бяроз.

КО'ЛЕСА I (ко'лесо) *н.* Блок для падняцця вулея на дрэва. *Возьмі колесо і ліну, будімо засмыкаті вулей на стэйло.* Бастынь Лун.

КО'ЛЕСА II (ко'лесо) *н.* Кола. *Паламалосё колесо, а другого няма.* Навасёлкі Свісл.

КО'ЛЕСЦА *н.* Прадаўгаватыя бруські з кольцамі, на якія падвешваюцца ніты. *За колесца чапляют ніты.* Азарычы Пін.

КОЛЬ *прыназ.* Каля. *Ззаді коль потыліцы е долынка.* Азарычы Пін.

КО'ЛЬБА *ж.* Ручка ў пярэднім навоі красён. *Кольба ў навойцы, кап палатно накручваць на навойку.* Навасёлкі Свісл.

КО'ЛЬБАЧКА *ж.* Жалезны прут у калаўроце, на якім круціцца кола. *Кольбачка ўдзяваецца ў кола, а на кольбачку накладаецца цыганачка і круціць кола ў самапрацы.* Навасёлкі Свісл.

КОМ *м.* Яда з мятай бульбы, запраўленай салам. *Мы наварым бульбы, качалкай стаўчом, заправім салам, вот вам і ком.* Міратычы Кар.

КО'НБІЦА *ж.* Драўляная палачка з зарубкай, якую прышывалі на рагу торбы. *Па вуглах у торбі прышывалі конбіцы, а да конбіцы прышывалі лямкі.* Якубова Рас.

КО'НІК *м.* Жэрдка, падвешаная ўверсе перад печчу. *Повесь коротыша коло пэчы на конік, хай сохне.* Бастынь Лун.

КОНЬ *м.* Верх страхі, дзе сходзяцца скаты. *Пыцікла на кані крыша, нада пакрыць.* Вароніна Рас.

КО'НЮХ *м.* Шуляк. *Конюх усіх кур подрав.* Бастынь Лун.

КО'ПЕЛЬ (ко'пэль) *м.* Гразкае балота, на балоце лужына. *У болотэ мнэго копэлёў, і ў тых копэлях мнэго рыбы.* Горск Бяроз.

КО'ПКА *ж.* Ямка ў печы. *Заграбі ў копку жар с печы.* Заазер'е Віл.

КО'РАНЬ *м.* Ляда, расцяроб. *Выкапаем усе карчэ с-пат лесу і сеям на корані жыто, авёс, ячмень, і добра растуць.* Міратычы Кар.

КО'РБА I *ж.* Від свярдзёлка. *Корбай трэба круціць дзіркі ў дошцы.* Міратычы Кар.

КО'РБА II *ж.* Жалезны прут у калаўроце, на якім круціцца кола. *У калаўротку сучка надзета на корбу і круціць коло калаўротка. А корба ўкручана ў ручкі калаўрота.* Міратычы Кар.

КОРХ *м.* Мера таўшчыні (сала) па чатыры пальцы. *Добра сало — корх тоўшчына на хібу.* Бастынь Лун.

КОРЧ *м.* Гронка (арэхаў). *А на лешчыне много корчэў, а ў корчэ по 8—9 орэхэў.* Бастынь Лун.

КО'СТКА (кэ'стка) *ж.* Кадык. *Пуд горлом кэстка вэлыка.* Азарычы Пін.

КО'СЫ I *мн.* Валасы. *Ідзі сваё косы апстрыжы, а то уже велькія выраслі, як у пупа.* Тульгавічы Хойн. *От у галаве багата завялоса шамяшыны, аж косы белыя сталі.* Шкураты Браг.

КО'СЫ II *мн.* Парасткі без лісця ў гарбузах, агурках. *Гарбузы разрасліся, якія доўгія косы папускалі.* Моханава В.-Дзв.

КО'СЫ III *толькі мн.* Доўгае пер'е ў хвасце пеўня. *Дужа прыгожыя косы ў петуха.* Моханава В.-Дзв.

КО'СЫ IV *мн.* Карэнне ў цыбулі, часнаку. *Цыбуля пусціла ў зэмню косы.* Азарычы Пін.

КОСЬ-КОСЬ-КОСЬ *выкл.* Ужываецца, калі падзываюць каня. Барыскі Лаг., Заазер'е Віл., Казлы Міёр., Моханава В.-Дзв., Вадва В.-Дзв.

КО'СЬКА *м. памянш.-ласк.* Конік. *Коська мой.* Моханава В.-Дзв.

КО'СЮ-КО'СЮ-КО'СЮ *выкл.* Тое, што і кось-кось-кось. Вадва, Касталомава, Моханава В.-Дзв.

КО'СЯ-КО'СЯ-КО'СЯ *выкл.* Тое, што і кось-кось-кось. Бярозкі Хоц., Моханава В.-Дзв.

КО'ТКА I *ж.* Кошка. *Котка мяўкае, хоча есці.* Паляцкішкі Вор.

КО'ТКА II *ж.* Шчыкалатка. *Вышай капыта ў майго каня забалела котка.* Навасёлкі Свісл.

КОУБ *м.* Страўнік (у жывёл, птушак). *Аддзяры касу ад коўба, а тады абдзірай жыр.* Стайкі Барыс. *Які бальшы коўб у парсюка.* Тульгавічы Хойн.

КО'УБІК *м.* Тое, што і коўб. *У свіні буў большый коўбік, его ак напіхаеш, то ён расцегаецца.* Бобрыкі Петр. *Закруціла куру і коўбік пачысціла.* Шкураты Браг.

КОЎШ (кэўш) *м.* Вялікая драўляная міска. *Дайней у кэўш налівалі обэд і обэдалі з кэўша.* Бастынь Лун.



КО'УШЫК *м.* Дзірка ў верхнім каменні жорнаў для засыпкі збожжа. *У жорнах е коўшык, куды сыплюць зярно, каб змалоць.* Шкураты Браг.

КО'ХКАЦЬ *незак.* Падзываць куранят (пра курыцу). *Кура кохкая, маніць куранятка ік сабе.* Шкураты Браг.

КО'ЧАЧКА *ж.* Адходы пры прадзенні кудзелі. *От кепская кудзеля, адны кочачкі, што дужа цяшка прасці. Якую тоўстую кочачку ўпрала і няроўная нітка.* Калодзішчы Мін.

КОШ *м.* Рыбалоўная снасць, сплеценая з лазы. *Кошэ стаўляць на ноч у канаву, і находзяць ююны ў кош.* Бобрыкі Петр.

КО'ШАНКА *ж.* Каўбаса з крыві, тлушчу і грэцкіх круп. *У кошанцы е грэцка крупа і пыдробязкі жыру.* Бастынь Лун.

КРАВЯ'НКА (крывя'нка) *ж.* Тое, што і кошанка. *У кроў нымішала грэцкіх круп, уліла жыру і сьпікла на абет крывянку.* Моханава В.-Дзв.

КРА'ЖЫСТЫЙ *прым.* Тоўсты; каржакаваты; развесісты. *От кражыстый дуб стоіт. Нупрэй хоць малый, алі кражыстый.* Горск Бяроз.

КРАКВІНА' (крыквіна') *ж.* Кроква. *Крыквіна ўстыўляецца ў гнязде, якоя высічана ў патсценным берв'яну.* Сляўшчына Рас.

КРАКО'ХА (кроко'ха) *ж.* Сініца. *Крокохі летают — будзе дож.* Бастынь Лун.

КРАМ *м.* Тканіна фабрычнага вырабу. *Во ета по-ранейшаму звалі просты крам. Купіла на бунду простого краму.* Бобрыкі Петр.

КРА'МА *ж.* Тое, што і крам. *Купіла крамы на сорочку. Красіва крама ў паскі.* Бастынь Лун. *Купіла сабе краму і пошыла бунду вельмі добрую.* Шкураты Браг.

КРА'МЕНЬ (кра'мынь) *м.* Крэмень. *Камінь крамынь у нас по полі воляецца. Раней з его добывалі огонь, а тэпэрэ воляецца.* Бастынь Лун.

КРАМУ'ШКА I *ж.* Акраец. *Узяў булку хлеба і атрэзаў крамушку.* Якубова Рас.

КРАМУ'ШКА II *ж.* Тое, што і крамень. *Жагву кладут на крамушку і высыкают красылом огонь, жагва зогораецца. На крамушку клалі жагву і выбывалі стальным жалезком огонь.* Горск Бяроз.

КРАПАЦЕ'ЦЬ *незак.* Крапаць. *Мусе будзя крапацець дож.* Шкураты Браг.

КРАПІ'ВЕЦ (кропы'вэц) *м.* Пярсцёнак. *Раней мы звалі кропывэц. Колі шла замуж, мнэ купілі кропывэц.* Бастынь Лун.

КРАПЧА'К (крыпча'к) *м.* Моцны, здаровы чалавек. *О, ён такі крыпчак, што такога німа.* Моханава В.-Дзв.

КРАСІ'ЛА (красы'ло) *н.* Крэсіва. *Жагву кладут на крамошку і высыкают красылом огонь.* Горск Бяроз.

КРА'СКІ *толькі мн.* Узоры на замёрзшых вокнах. *О, якэ красівэ окно, однэ краскі.* Бастынь Лун.

КРАСНАГАЛО'ВЕЦ (красноголо'вэц) *м.* Падасінавік. *Красноголовэц — добрый грыб.* Бастынь Лун.

КРАСНЮ'К *м.* Тое, што і краснагаловец. *Краснюк ростэ пуд осынамі.* Азарычы Пін.

КРАТАВЕ'ННЕ (кратаве'не) *н.* Зямля, паточаная кратамі. *Як многа кратавеня нарый крот.* Міратычы Кар.

КРАТАВІ'НА *ж.* Тое, што і кратавенне. *Свежая кратавіна, крот нарыў.* Старае Сяло Зэльв. *Адны кратавіны на пожні, што крот нарыў.* Паляцкішкі Вор.

КРА'ХАЦЬ *незак.* Квакаць. *Жабы крахаюць, не даюць спаць.* Якубова Рас. *Усю ноч у сажалцы жабы крахалі.* Моханава В.-Дзв.

КРАЦІ'ННЕ *н.* Тое, што кратавенне. *Крот за ноч нарыў многа краціння.* Барыскі Лаг.

КРАШАЛА'ПЫ *прым.* Клышаногі. *У яго дужа крашалапы сын.* Ністанішкі Смарг.

КРАЮ'ШКА (крою'шка) *ж.* Акраец. *Одрэзав кроюшку хлеба і з'ев з молоком.* Бастынь Лун.

КРО'КВА *ж.* Прыстасаванне для вымярэння плошчы. *Вазьмеце крокву, будзям абмяраць прыусадзебныя ўчасткі.* Навасёлкі Свісл.

КРУГІ' *толькі мн.* Матавіла для зматвання нітак. *Кругі, на якія матаямо са шпулі прадзеныя ніткі.* Навасёлкі Свісл.

КРУ'ГЛІЦА *ж.* Часовая ўкладка ячменю на полі. *Сухіі снапы ячменя палажылі ў кругліцу і накрылі крыцікам. У кругліцу можна класці 2, 3, 4, 5 коп.* Якубова Рас.

КРУГЛЯ'К *м.* Цурбан. *Парэзаў дровы на круглякі, а цяпер буду сячы і склыдаць.* Моханава В.-Дзв.

КРУГО'ЎКА *ж.* Скіба (хлеба). *Возьмі кулідку хлеба і адрэж кругоўку.* Жахавічы Маз.

КРУЖНІ'К *м.* Скрутак лыка, лёну, дроту. *Ныдраў лык і скруціў у кружнікі. Адзін кружнік пакінуў.* Сяляўшчына Рас. *Кружнікє бальшэе былі лык. І ў вяску много кружнікоў лезла.* Ваўкавічы Тал.

КРУЖО'ЧАК (кружэ'чэк) *м.* Века ў бойцы. *Бабу, дайтэ мнэ кружэчка накрыті бэйку, буду біті масло.* Азарычы Пін.

КРУЗЛЯ'К *м.* Асака. *Крузляк ростэ по лугэх і по булотэх.* Бастынь Лун.

КРУК І *м.* Кручок для скідання гною на полі. *Вазьмі крук, а то чым ты будзіш згрыбаць гной з воза.* Моханава В.-Дзв.

КРУК ІІ *м.* Крумкач. *Крук чорны ляціць.* Паляцкішкі Вор.

КРУМЧА'ЦЬ *незак.* Крумкаць. *Будзя цёпла, жабы крумчаць.* Барыскі Лаг.

КРУПЕ'НЯ *ж.* Суп з ячных круп. *Наварыла крупені і капусты на абет.* Моханава В.-Дзв.

КРУП-КРУП-КРУП! *выкл.* Ужываецца, калі падзываюць куранят. Ністанішкі Смарг., Паляцкішкі Вор.

КРУПЯ'НКА *ж.* Тое, што і кошанка. *Почысціла кішкі тонкіе на кўбасы, а тоўстые — кутніцу — на крупянку.* Бобрыкі Петр.

КРУТАГАЛО'ВІК *м.* Апалонік. *Крутагаловік тоя, што і пранік. Ён развіваецца з ікры жабы з бальшой галавой і хвастом.* Навасёлкі Свісл.

КРУ'ХІ І *толькі мн.* Мясны суп з рошчынай. *На вадзе варацца мясо. Тады гэту ваду падкалачваюць кіслай рашчынай, вот вам гэта і ёсць крухі.* Міратычы Кар.

КРУ'ХІ ІІ *толькі мн.* Кісла-салодкі напітак. *Трэба сёня спячы плясняка на скавварадзе. Я спякла плясняк, трэбо зрабіць крухі. Плясняк так не ядуць, бо ён салоткі. Ён пячэцца з жытнёй мукі. Плясняк кідаюць у халодну воду і ён кісня. Калі плясняк укісня, то гэто ужо будуць крухі. У крухі падліваюць вады, тады гэта ужо будзя квасок ці квас.* Міратычы Кар.

КРУЦЕ'ЛКА (круте'лка) *ж.* Калатоўка. *Зрабів хваёву крутелку, буду тоўчы свіням.* Бастынь Лун.

КРУЦЁЛКА І (крутёлка) *ж.* Тое, што і круцелка. *Крутёлка робіцца з сукаватэй хвэйкі. Крутёлкай таўкуть свіням булбу.* Бастынь Лун.



КРУЦЁЛКА ІІ *ж.* Невялікая дзеравяная дошчачка, пры дапамозе якой закрываюць дзверы і вароты. *Трэба зрабіць круцёлку к дзьвірам, а то дзьверы нельга закрыць.* Моханава В.-Дзв.

КРУЦЁЛКА ІІІ *ж.* Звязка счэсанага і сплеценага лёну. *У круцёлку лажылі шэсць жмень апчосанага лёну.* Ваўкавічы Тал.

КРУЦІ'ЦЬ *незак.* Матаць на клубок. *Ніткі на клубок буду круціць.* Паляцкішкі Вор.

КРУ'ЦЦЕ (кру'тье) *н.* Крукі. *Трэбо ў вушакі забіть крутье.* Бастынь Лун.

КРУЦЯЛІ' І (крутэле') *мн.* Сукараткі. *Не умела прасці і накруціла крутэле.* Бастынь Лун.

КРУЦЯЛІ' ІІ *мн.* Скручаная салома для прывязвання паплёту да крокваў. *Трайчаке да поўзя прывязваюць круцялямі. Круцяле робяць с саломы.* Вострава Маст.

КРУ'ЧКА *ж.* Бручка. *На лясе расцець моргва, а па бакох кручка.* Ністанішкі Смарг.

КРУЧО'К *м.* Мера вадкасці на 100 грам. Бастынь Лун., Моханава В.-Дзв.

КРЫВУ'ЛІ І *толькі мн.* Дзве тоўстыя жэрдкі, якія кладуцца на воз пры перавозцы доўгага бярвення. *Налажы на воза крывулі, паедзям за бярвеннем. Крывулі накладаюць тады, калі трэба вазіць доўгае бярвення або жэрткі.* Навасёлкі Свісл.

КРЫВУ'ЛІ ІІ *толькі мн.* Калёсы для вывазкі доўгага лесу. *Запрагі каня ў крывулі і паедзям прывязём бярвення на хату.* Навасёлкі Свісл.

КРЫВЯ'НКА *ж.* Каўбаса з крыві, тлушчу і грэцкіх круп. *Закалолі пырсюка, выпусцілі кроў, у кроў усыпала грэцкіх круп і ныпікла крывянак.* Моханава В.-Дзв.

КРЫЖА'К *м.* Часовая ўкладка ячменю на полі. Ячмень ставілі ў крыжакі, а крыжак накрывалі крышкай. Ваўкавічы Тал.

КРЫЖО'ВІНА *ж.* Паясніца. *Баліць мая крыжовіна, нада ехаць да доктара.* Міратычы Кар.

КРЫЖО'ЎКА *ж.* Скрыжаванне дарог. *Надо перайсці крыжоўку, а там павернім налево.* Навасёлкі Свісл. *Вот ідзі гэтай дарогай, а там будзе дарога крыжоўка, і ідзі после направа.* Паляцкішкі Вор.

КРЫЖЫ' *мн.* Палка з кружком на канцы для збівання масла. *Памыла крыжы і бойку, пыставіла, хай сохнуць.* Моханава В.-Дзв.

КРЫ'ЖЫК *м.* Тое, што і крыжак. *Злажы снапы ячменю ў крыжык.* Барыскі Лаг.

КРЫКЕ'ЎКА *ж.* Папярочная планачка на дзяржанні ў лапаце. *Асадзі лапату і на чарашок зрабі крыкеўку, кап лепей дзяржаць было.* Міратычы Кар.

КРЫ'ЛЫ *толькі мн.* Жабры. *Якія велькія крылы ў шчупака.* Міратычы Кар.

КРЫНІ'ЦА *ж.* Ямачка каля пупавіны, па якой узнаюць карову, добрая на малако ці не. *Крыніца пуд чэрэвом ля пупа у корову. Колі добрая, глубокая крыніца, то добрая корова на молоко.* Бобрыкі Петр.

КРЫПА'НІЦА *ж.* Сяннік. *Нада зрэб'я пыпрасці і выткаць крыпаніцу і ныкрыпаць саломай, штоп було на чым спаць.* Якубова Рас. *Пайду вытрысаць крыпаніцу ды ныкрыпаю крыпаніцу саломай. Вазьмі свежага сена і ныкрыпай крыпаніцу.* Сяляўшчына Рас.

КРЫСТАВІ'НА I *ж.* Жалезная пласцінка ва ўпадзіне верхняга каменя жорнаў, якая надзяецца на шпянёк ніжняга каменя. *У верхнім камяні ё крыставіна. Крыставіна ў жорнах надзяецца на стойку, якая знаходзіцца па сярэдзіні ў ніжнім камяні.* Барыскі Лаг.

КРЫСТАВІ'НА II *ж.* Крыж, задняя частка тулава ў каня. *У каня шырокая крыставіна, што ні палажы, будзя ляжаць.* Барыскі Лаг.

КРЫХАВІ'ННЕ *н. зборн.* Жабурынне. *З жабінага крыхавіння выходзюць палойнікі.* Якубова Рас.

КРЫ'ЦІК *м.* Верхні сноп, якім накрываюць бабку. *Стаўці снапы ў бапкі камлём уніс, а макаўкамі ўверх і ныкрывайці крыцікамі. Зрабі са сныпа крыцік і накрый бапку. Палажы авёс у круглік і накрый крыцікам.* Якубова Рас.

КРЫШАНЫ' *мн.* Суп з бульбы. *Вэтэ налетэ собэ ополоныком крышаноў у мыску.* Горск Бяроз.

КРЫ'ШКА *ж.* Тое, што і крыцік. *Ныкрываім бапку крышкай, макаўкам уніс, камлём уверх.* Вароніна Рас. *Стаў жыта ў бапкі і накрый крышкай.* Ваўкавічы Тал.

КРЫ'ШКІ *мн.* Крошкі. *Пабяры крышкі і з'еш.* Навасёлкі Свісл.

КРЫ'ШЫВА *н.* Скрыня, у якой сякуць ахрап'е. *Крышыва пылымалася, німа дзе храпы пасячы.* Якубова Рас.

КРЭЖ *м.* Крывое дрэва, у якім сарцавіна не ў цэнтры. *Крэж — крутэе дэрэво, і крута дэрэвіна і крыва дэрэвіна.* Бастынь Лун. *От хвоіна крэжовата, нэ ровна, бо, бач, стоіт хвоёва дэрэвіна, а у вэрховы крэж. Колы рэжэш дэрэвіну крывую, то крэж жжымае пілу.* Горск Бяроз.

КРЭ'КАЦЬ *ж.* Дрыгва. *У балоці такая крэкаць, што ні выляс-ці. Трэба сено выносіць, а ў балоці крэкаць, і ног не выцягнуць з крэкаці.* Навасёлкі Свісл.

КРЭ'ПЕЛЬ (крэ'пэль) *м.* Вадасцёк. *Надо поставіць вэдро пуд крэпэль.* Бастынь Лун.

КРЭ'ПКА (крэ'пко) *прысл.* Вельмі, надта. *Жур крэпко рэденькій.* Бастынь Лун.

КРЭ'ПКІ *прым.* 1. Здаровы. *Ен іишчэ крэпкі дзяцька, як дуп.* Ністанішкі Смарг. 2. Чэрствы. *От які крэпкі хлеп, а нядзеля, як пікла.* Якубова Рас.

КРЭ'СЛА I *н.* Частка прасніцы, на якой сядзяць. *Не шырокае крэсла ў прасніцы, кепска сядзець.* Альхоўка Навагр.

КРЭ'СЛА II *н.* Увесь кузаў калёсны, які ставіцца на панарад. *На пранік кладзецца крэсла, а ў крэсла ўбіваюцца ручкі і дронг для злучэння задніх калёс.* Ністанішкі Смарг.

КРЭ'СЛА III *н.* Цвікля. *Замалое ўставіла крэсла ў штаны, і штаны вузкія.* Жахавічы Маз. *Вузкое крэсло ў штанах.* Бобрыкі Петр. *Ушыла у наговіцы крэсло, коб шырэй булі.* Бастынь Лун.

КРЭ'СЛА IV (крэсло) *н.* Прарэх (у штанах). *Зашпілі крэсло, а то разявілосё, стыдно.* Міратычы Кар. *Зашпулі крэсло ў штанах, а то ходзіш, як дурны.* Тульгавічы Хойн.

КРЭСТ *м.* Збітыя жэрдкі для прыціскання стога. *Кап вецяр не разнасіў сена, на стох кладуць крэст, збіты з жардзей.* Барыскі Лаг.

КУБЁЛ *м.* Кубел. *Насыпалі кубёл жыта.* Бастынь Лун.

КУБЛО' I *н.* Тое, што і кубёл. *От зробыв кубло, коб була прыкытка шчо-нэбудь робыты.* Горск Бяроз.



КУБЛО' II *н.* Гняздо. *Птушка леціць ік кублу.* Тульгавічы Хойн.

КУВА'ЦЬ *незак.* Кукаваць. *У лесі кувае зайзюлька.* Навасёлкі Свісл.

КУГА'Ч *м.* Пугач. *Кугач — большая пташка, як добрый кабач.* Бастынь Лун.

КУГІ'КАЦЬ *незак.* Пішчаць. *Парасята кугікаюць, есці хочуць.* Бастынь Лун.

КУДА'КАЦЬ *незак.* Кудахтаць. *Кура кудакае, мусіць знесла яйцо.* Бобрыкі Петр.

КУДЗЕ'ЛЬНІК *м.* Пачассе. *Із кудзельніку наткала просьцілак.* Бобрыкі Петр.

КУДЗЕ'ЛЬНІЦА *ж.* Папрадуха. *На вечар прышлі кудзельніцы прасці.* Міратычы Кар. *Раней кудзельніцы збіраліся куды-небудзь у адну хату і пралі цэлы дзень і ноч.* Старае Сяло Зэльв.

КУДЗЕ'ЛЬНІШЧА (кудэльні'шчэ) *н.* Дэталь у прасніцы, да якой прывязваецца кудзеля. *У потэсі е кудзельнішчэ, до кудзельнішча мотузом прывязываем кудэлю і продэмо.* Азарычы Пін.

КУДЗЕ'ЛЬЧЫНА *ж.* Зрэб'е. *Абдзірала на драчку, у руках у мяне астаўся кужаль, а што абдзерла — кудзельчына завецца.* Ваўкавічы Тал.

КУДЗЯЛІ' (кудэле') *мн.* Кудзеля. *Вэрэтэном потрэсла кудэле і покрутыла кудэле ў кудэлю.* Горск Бяроз.

КУДО'СЫ *мн.* Доўгае пер'е ў хвасце пеўня. *Кудосы ў пеўня ў хвосьце хорошые.* Бобрыкі Петр.

КУДРА'ВЫЙ (кудра'вуй) *прым.* Кучаравы. *От ён кудравуй, ак баран.* Бобрыкі Петр.

КУЖО'ЎНЫ *прым.* Кужэльны. *Выткала кужоўное палатно.* Навасёлкі Свісл.

КУЗЕ'НЕЧКА *ж.* Каробачка з бяросты для ягад. *Набрала кузенечку пазёмак і пашла дамоў.* Бобрыкі Петр.

КУЗЕ'НКА *ж.* Тое, што і кузенечка. *Кузенку робілі з бэрэста пастухі і брали ягады ў кузенку.* Бастынь Лун.

КУЗЕ'НЬКА *ж.* Тое, што і кузенечка. *Надрала бэрэсты і зробіла кузеньку, буду собірать ягоды.* Бастынь Лун.

КУЗІ'КА *ж.* Кармавая караняплодная расліна — гібрыд бручкі з турнепсам. *Кузіка такая, як і каліка, лісця такоя, а ўкус другій: кузіка белая, а каліка жоўтая.* Вароніна Рас.

КУЗЛЫ' *мн.* Адходы пры прадзенні кудзелі. *Дужа дрэнна пачасала кудзелю, адны кузлы.* Парфянова Докш.

КУ'ЗНЯ *ж.* Тое, што і кузенечка. *Набэру ў кузню ягод і іду домой, а мэнэ дэты судожают, бо я нэсу ў кузні ягоды.* Горск Бяроз.

КУЗЮ'-КУЗЮ'-КУЗЮ' *выкл.* Ужываецца, калі падзываюць авечак. Казлы Міёр., Міратычы, Сімакава Кар.

КУЗЮЛІ' *толькі мн.* Калыска, якую жанчыны насілі на поле ў час жніва. *Бабы насілі на поля кузюлі і туды клалі рабёнка, калі ён спаў.* Сяляўшчына Рас.

КУ'КЛА I *ж.* Соска (самаробная). *Зробіла куклу з хлеба і цукру і дала ў рот дітяті; пацмокала і заснула.* Бастынь Лун. *Зробэмо з хлеба і цукру куклу і дамо куклу сцаці дітяті, коб нэ крычало.* Азарычы Пін.

КУ'КЛА II *ж.* Звязка счэсанага і сплеценага лёну. *Пачэсаны лён, жмені скручваюць у куклу. 10 жменяў лёну — адна кукла.* Мнюхі Міёр. *У куклі дзесяць жменяў чэсанага лёну.* Казлы Міёр.

*Я сягоня нычысала дзьве куклы лёну. У куклі дзесяць павесмаў лёну.* Сляўшчына Рас.

КУКУ'ЛКА *ж.* Зязюля. *Чуеце, кукулка кукуе.* Паляцкішкі Вор. *Я сягодня чуў, як кукывала кукулка.* Моханава В.-Дзв.

КУКУ'ЛЬ *м.* Куколь. *Нада парваць кукуль у жыці.* Навасёлкі Свісл.

КУКУ'ЦЬ-КУКУ'ЦЬ-КУКУ'ЦЬ *выкл.* Ужываецца, калі надзываюць свінней. Мнюхі Міёр.

КУЛА'ГА *ж.* Каша з жытняй або пшанічнай мукі і соладу. *Прынесі жытнае мукі, буду заварваць кулагу.* Жахавічы Маз.

КУЛДЫ'КНУЦЦА *зак.* Упасці, зваліцца. *Я сядзеў на возі, вос на бок павярнуўся, а я кулдыкнуўся з воза.* Моханава В.-Дзв.

КУЛЁК *м.* Кароткая верхняя мужчынская вопратка з самаробнага сукна. *Выткала сукна і пашыла мужу кулёк. К святу пашыў сабе кулёк.* Моханава В.-Дзв. *Выткыла сукна і пашыла кулёк хызяіну.* Якубова Рас.

КУЛІ'ДКА *ж.* 1. Баханка хлеба. *Пайду сягоння іг дзянні пазычу хлеба кулідку.* Жахавічы Маз. *Іспекла хлеба аж шэсь кулідок.* Бобрыкі Петр. 2. Хлеб, качаны вадою. *Хлеб, які качаюць толькі вадою і сажаюць у печ, то ета завом кулідкай.* Шкураты Браг.

КУЛУБЕ'ЛЬ *ж.* Калыска. *Павесіла кулубель за печкай, кап цёпла было.* Якубова Рас.

КУЛЬ I *м.* Мяшок. *Бувала купім куль мукі пшанічнай і пячом пірагі.* Моханава В.-Дзв.

КУЛЬ II *м.* 1. Вялікі сноп лёну, звязаны пасля вылежвання. *Пайдзём лён падымаць і будзім візаць у кулі. Вялікі куль звізала.* Сляўшчына Рас. *Зьмялі лён і павязалі ў кулі.* Альхоўка Навагр. *Падбяры лён і павяжы ў кулі.* Паляцкішкі Вор. 2. Ахапак сухога лёну, вынесены за адзін раз з еўні, для апрацоўкі на мялцы. *Аш шэсць кулёў змялі лёну.* Альхоўка Навагр.

КУЛЬБА'КА I *ж.* Падсядзёлак. *Кульбаку мы кладэм коню на спіну.* Бастынь Лун.

КУЛЬБА'КА II *ж.* Кіёк, адзін канец якога ўсаджан у дзірку навоя і не дае навою круціцца. *На задні навой варстата накладаецца кульбака, кульбака атпуская пражу з задняга навоя.* Міратычы Кар.

КУЛЬБА'КА III *ж.* Ніжняя частка ярма. *Ерот лежыць на шыі ў валоў, а кульбака пуд шыей. У ероце дзірочка і ў кульбацы, і ў еты дзірочкі закладаецца заноза, дзьве занозы пу боках.* Бобрыкі Петр.

КУЛЬБА'ЧКА *ж.* Тое, што і кульбака I. *Пацьцягні каню кульбачку.* Сімакава Кар.

КУ'ЛЬКА I *ж.* Калодачка з дзіркай на верхнім камені жорнаў, у якую ўстаўляецца ніжні канец млёна. *Прыладіў бэрэзову кульку ў жорнах і уставіў млён.* Бастынь Лун.

КУ'ЛЬКА II *ж.* 1. Ручка на кассі. *Пайду прыв'яжу кульку на касу.* Жахавічы Маз. *Бэрэзова кулька ў кассі.* Горск Бяроз. *Зрабіў кульку і прывязаў да касы.* Залацеева Зэльв. *Прыстроіў кульку да кас'я.* Міратычы Кар. *Да кося прывяжу кульку, бо касіць надо іці.* Навасёлкі Свісл. *Завысока прывязаў кульку да касавіліна.* Селішча Навагр. 2. Папярочная планачка на дзяржанні ў лапаце. *У шуплі, на канцы ручкы, насадыв кульку.* Горск Бяроз. *Одломалас кулька у копашцы, трэбо зробыты.* Горск Бяроз.



КУ'ЛЬША *ж.* Тое, што і кулька II. *Зробі кульшу да кас'я.* Міратычы Кар.

КУ'МКАЦЬ *незак.* Квакаць. *Усю ноч кумкалі жабы і не дывалі спаць.* Моханава В.-Дзв. *Жабу кумкаюць весною.* Бобрыкі Петр. *Зелёна жаба кумкае.* Бастынь Лун.

КУПЕ'Х I *м.* Гронка арэхаў. *Цэлы купех сарвала арэхаў. Я чашла на арэшніку вялікі купех, аж сем арэхаў у купеху.* Тульгавічы Хойн.

КУПЕ'Х II *м.* Сукупнасць пчол перад раеннем. *Ідзі пчол паглядзі, а то ены сегодня цэлымі купехамі лежаць ле леткоў, будуць раіцца.* Тульгавічы Хойн.

КУПРО' *н.* Сцягно. *Оля, от тоўстая баба, а купры якія ў яе.* Навасёлкі Свісл.

КУПРЫ'СТЫ *прым.* Пра чалавека з тоўстымі сцёгнамі. *От купрысты!* Навасёлкі Свісл.

КУ'РАВА (ку'рово) *н.* Адходы валакна пры трапанні лёну. *Траплю лён, леціць курово і койстрыца.* Бобрыкі Петр.

КУРАДЫ'МКА *ж.* Газоўка. *Запаліла курадымку і нарабіла дыму.* Моханава В.-Дзв. *Дайней пралі кудзелю пры курадымцы ці пры лучыні.* Касталомава В.-Дзв.

КУ'РАК *м.* Вушка ў лапцях. *Куракі ў лапцях гнілыя. Пырвайся курак у лапцю.* Моханава В.-Дзв.

КУРА'К *м.* Курыца з нявыражанымі палавымі адзнакамі. *Вэн мусі курак, а не курыца.* Бастынь Лун.

КУРАСА'ДНІК *м.* Седала. *Куры сядзяць на курасадніку.* Ністанішкі Смарг.

КУРА'ЧКА (куря'чка) *ж.* Галавешка. *Курячка дэмэтэ стала.* Дзмітравічы Кам.

КУРА'ЧНІК *м.* Куратнік. *Зрабіў маленькі курачнік для курэй.* Міратычы Кар. *Куры начуюць у курачніку.* Навасёлкі Свісл.

КУРАЧЧА *н. зборн.* Вушкі ў лапцях. *Лапці плялі іс куракам, і ў кураччa зыбарсывалі аборы.* Ваўкавічы Тал.

КУРГА'Н *м.* Гурба. *На двары велькі курган надзьмуло за ноч, трэбо раскідаць, каб прайсці.* Навасёлкі Свісл.

КУРДАЯ'ЧЫЦЬ *незак.* Гаварыць незразумела. *Гавары харашо, а то курдаячыш, што нічога не паняць.* Касталомава В.-Дзв.

КУРДУ'ПЕЛЬ (курду'піль) *м.* Чалавек нізкага росту. *Чаму ён не вырас і не расце, а зыстаўсі курдупілем?* Моханава В.-Дзв.

КУР-КУР-КУР *выкл.* Ужываецца, калі падзываюць індзюкоў. Старонка Асіп.

КУРКУРУ'ЗА *ж.* Кукуруза. *Куркуруза ў нас не расцець.* Якубова Рас.

КУРКУРУ'ЗНЫ *прым.* Кукурузны. *Гані каровы на куркурузнае поле.* Якубова Рас.

КУРКУРУ'ЗНІШЧА (куркуру'зьнішча) *н.* Поле, дзе расла кукуруза. *Куркурузу зьвязьлі, асталося куркурузьнішча.* Ністанішкі Смарг.

КУРНО'СЫ *прым.* Кірпаносы. *Ён курносы.* Моханава В.-Дзв.

КУРО'К *м.* Вушка ў лапці. *Пырвайсі курок у лапцю.* Моханава В.-Дзв.

КУРО'САДНЯ (куро'сання) *н.* Седала. *Загонь курэй, хай сыдзяцца на куросанні.* Ваўкавічы Тал.

КУРЧ *м.* Халера. *Я помню, як мы хворэлі на курч, усэ уміралі праз дзень-два.* Бастынь Лун.

КУРЧАВО'ДКА (курчаво'тка) *ж.* Кураводка. *Пасадзіла курчаводку, хай лехі не дзярэ.* Паляцкішкі Вор.

КУРЧАНЯ' *н.* Кураня. *Здохла курчаня.* Моханава В.-Дзв.

КУРЧУ'К *м.* Кураня. *Чаго там курчук крычыць? Ужо з яйца выклюнуўся другі курчук.* Паляцкішкі Смарг.

КУРЫ'НАЕ *н.* Адходы пры ачыстцы збожжа, калі чысцяць арфай. *Вазьмі курынае ў старане і замяшай курам есці.* Заазер'е Віл.

КУРЫ'ЦЬ (куры'ть) *незак.* Дымець. *Курыть печ, нема тягу.* Бастынь Лун.

КУРЭ'НЬ *м.* Сухія гнілушкі, якімі падкурваюць пчол. *Усып у дымар курэнь, пайду пчол падкурваць.* Моханава В.-Дзв.

КУСА'НАК *м.* Недаедак, агрызак. *Во не даеў хлеба, кусанак пакінуў пасля сябе.* Ваўкавічы Тал.

КУСІ'-КУСІ'-КУСІ' *выкл.* Ужываецца, калі цкуюць сабакам. Моханава В.-Дзв.

КУСМА'Н *м.* Вялікі кусок. *Я яму добры кусман адваліў сала.* Моханава В.-Дзв.

КУСТ *м.* Корч бульбы. *Вырвала куст бульбы, а пат кустом нічога няма.* Альхоўка Навагр. *Гэтага году пат кустом многа бульбы.* Заазер'е Віл.

КУСЬ-КУСЬ-КУСЬ *выкл.* Ужываецца, калі падзываюць жараб'я. Моханава В.-Дзв.

КУТА'С *м.* Махры ў хустцы, настольніку. *Да абруса нада прывязаць кутасэ. Адзін кутас няроўна прывязала.* Міратычы Кар.

КУ'ТАЦЬ I (ку'таты) *незак.* Мыць. *Пойду дохаты і буду кутаты сорочкы, а то у суботу купацца будэм. Я тэпэр грэю воду і буду кутаты дэжу, бо ўся мората.* Горск Бяроз.

КУ'ТАЦЬ II *незак.* Гарадзіць (плот). *Як му раней хворастам куталі плота.* Шкураты Браг.

КУ'ТНІЦА *ж.* Прамая кішка. *У маей девочкі кутніца выходіть, надо до доктора.* Бастынь Лун. *Бувала кутніцу накрапаям мясам да спячом у печы, ото смак.* Шкураты Браг. *Паршука закалолі, дык я сэгоднэ кутніцу наліла і пэку.* Горск Бяроз. *Почысціла кішкі тонкіе на кубасы, а тоўстые — кутніцу — на крупянку.* Бобрыкі Петр.

КУТО'ЎНІК (куто'ўнык) *м.* Від рубанка. *Кутоўнык выбыраты накыд пуд стэкло у окнэ.* Горск Бяроз.

КУЦ-КУЦ-КУЦ *выкл.* Ужываецца, калі падзываюць парасят. Моханава В.-Дзв.

КУЦУ'-КУЦУ'-КУЦУ *выкл.* Ужываецца, калі падзываюць авечак. Заазер'е Віл., Моханава В.-Дзв.

КУЦЦЯ' *ж.* 1. Каша з ячных круп. *Я страшна люблю куццю іс посным маслам. Бувала натаўчом ячменю і варым куццю.* Моханава В.-Дзв. 2. Каша з пшанічных круп. *Куццю зварыла с пшанічных круп.* Сяляўшчына Рас.

КУ'ЦЫ *прым.* Бясхвосты. *Куцы сабака. У яго німа хваста. Яму адрэзалі хвост.* Моханава В.-Дзв.

КУЦЬ *незак.* Кукаваць. *Ужэ зазуля куе ў лесі. Зазуля куе так: «Якуб, хоць тут, еш сыр, хоць сух».* Міратычы Кар.

КУ'ЧКА I *ж.* Ямка (у печы). *Положэтэ курячку ў кучку.* Дзмітравічы Кам.

КУ'ЧКА II *ж.* Бабка, спосаб укладкі снапоў на полі. *Постаў жыто ў кучкі і накрый шапкой.* Бастынь Лун. *Нажала дэсэт снопэв і поставіла ў кучку.* Горск Бяроз.



КУЧКАВА'ЦЬ *незак.* Абсыпаць зямлёй. *Пайду капусту кучкаваць.* Вострава Маст.

КУ'ЧКІ *толькі мн.* Невялікая колькасць солі, цукру, узятая ў тры пальцы. *Кучкі солі ўзела.* Бастынь Лун.

КУШО'Т *м.* Сівец. *Кушот расце на сухом месці, і каса яго не бярэ. Каровы кушот не ядуць.* Навасёлкі Свісл.

КЫЦЫ'-КЫЦЫ'-КЫЦЫ' *выкл.* Ужываецца, калі падзываюць ката. Бярозкі Хоц.

КЫ'ЦЯ-КЫ'ЦЯ-КЫ'ЦЯ *выкл.* Тое, што і кыцы-кыцы-кыцы. Бярозкі Хоц.

КЫШ *выкл.* Ужываецца, калі адганяюць курэй. Заазер'е Віл., Сімакава Кар., Моханава В.-Дзв., Казлы Міёр., Стары Свержань Стаўбц.

КЭ'БКА *ж.* 1. Ямка ў печы. *Заграбі ў кэбку жар.* Азарычы Пін. 2. Пячурка з вонкавага боку печы. *Стонэвэтэса ў кэбку і лезтэ на пэч.* Азарычы Пін.

КЯРНО'С *м.* Кныр. *Мой кярнос пародзісты. Буду выкладаць кернаса'.* Паляцкішкі Вор.

КЯТУ'РКА *ж.* Прарэх (у штанах). *У штынах у кятурцы ўшыты гузік.* Якубова Рас.

## Л

ЛАБА'К (лоба'к) *м.* Спінка ложка. *Зробыв у кроваты завысокые лобокы. Повэс на лобак сукэнку.* Горск Бяроз.

ЛАБА'ШКА (лыба'шка) *ж.* Бязрогая карова. *Мыя лыбашка тваю карову ні заколіць, бо ў яе німа рох.* Моханава В.-Дзв.

ЛАБУ'ЗЗЕ *н. зборн.* Сухія сцяблы маку. *Галоўкі маку абыбралі, а лабуззе пывырывалі і пывізалі ў кіткі.* Моханава В.-Дзв.

ЛА'ВА I *ж.* Загон. *Згарай полё ў адну лаву, у адзін загон.* Ністанішкі Смарг.

ЛА'ВА II *ж.* Бок вуліцы. *Ак іці по дорозі, лава по леву будзе. Ідзі, ена жыве і ее хата по левуй лаві. Ідзеце ў дзерэўню, і по левуй лаві будзе ее хата.* Бобрыкі Петр.

ЛАВА'ЦЬ *незак.* Лавіць. *Мой бацько пашоў уюной лаваць.* Жахавічы Маз. *Кот пачаў лаваць вутачак і есці.* Шкураты Браг. *Карова мусаю траву таўчэ, а языком лавая.* Тульгавічы Хойн.

ЛАВУ'ШКА *ж.* Вулей, які ставяць для прываблівання рою. *Лавушку ставім у лесі на сасонцы для лоўлі пчол і роя.* Сяляўшчына Рас.

ЛАГАЗЗЕ (лагазё) *н. зборн.* Ламачча. *Пойдзем пасабіраям лагазё ў лесі ды спалім.* Міратычы Кар.

ЛАГВО' *н.* Бярлог. *Свіня націгае сабе саломы і зробіць лагво.* Жахавічы Маз. *Свіня лагво зрабіла, будзя парасіцца.* Шкураты Браг.

ЛАГО'ЖЫ *толькі мн.* Развалкі. *Запражы кыня ў лагожы і паедзім ны бызар.* Моханава В.-Дзв.

ЛАГУ'Н *м.* Пасудзіна для ільнянога семя. *Насыпаў цэлый лагун ільняного сем'я.* Бобрыкі Петр.

ЛА'ДАЧКА (ла'дочка) *ж.* Складка (у спадніцы, сукенцы). *Зладіла спадніцу ў ладочкі.* Бастынь Лун.

ЛА'ДЗІЦЬ (ла'дыты) *незак.* Гарадзіць (плот). *Трэбо іты ладыты плота.* Горск Бяроз.

ЛА′ДКА I *ж.* Пяць-шэсць жмень нажатага жыта. *У ладцэ жмень пяць-шэсць, тоды еты ладкі збіраемо і вяжэмо ў сноп. У снопу дзьве-тры ладкі. Нажала ладку і несі ў сноп, а то малой сноп.* Бобрыкі Петр.

ЛА′ДКА II *ж.* Адарваны або адрэзаны ад старога адзення вузенькі кавалачак. *Адарві ад старога пляця ладку і ўплеці ў косу. Як нема ленты, дак уплеці ў косу ладку. Ладку адарві ад старое спадніцы.* Тульгавічы Хойн.

ЛА′ДНЫ *прым.* Сыты. *Пацьвінак ужо ладны, можна рэзаць на мяса.* Моханава В.-Дзв.

ЛА′ЙКА *ж.* 1. Жэрдка ў ёўні, на якую насаджвалі снапы для сушкі. *Сушыць лён ставілі на лайкі, а другой лайкай прыціскалі.* Паляцкішкі Вор. 2. Жэрдка ў ёўні для прыціскання снапоў. *Нада добра прыціскаць снапы лайкай, каб большы ўлезла.* Паляцкішкі Вор.

ЛАЙНО′ *н.* Бялізна. *Намачыла адно лайно. Заўтра памыю. Сыбрала лойны і замачыла ў попілі.* Моханава В.-Дзв. *Сягодні аццірала лойны, а цяпер пайду пылыскаць.* Ваўкавічы Тал.

ЛАКО′МЧЫК *м.* Ласун. *Ён у вас добры лакомчык, любіць толькі ўкусненькае.* Стайкі Барыс.

ЛАКО′МЫЙ *прым.* Ласы. *Ты лакомый до прысмаков.* Горск Бяроз.

ЛАМАХЦЕ′ЦЬ (ламахте′ті) *незак.* Ехаць хутка, тарахцець. *Здзержавай коня, помалу едь, не ламахті. Я не буду ламахтеті, паеду помалу.* Бастынь Лун.

ЛАМІНА′ *ж.* Стары, груваcткі прадмет. *Што гэта за ламіна стаіць у хаці, нада яе выкінуць вон.* Моханава В.-Дзв.

ЛА′ПА I *ж.* Ручка ў плузе. *Зрабі лапы да плуга залезныя. Бяры за лапы і ідзі роўна за плугам.* Навасёлкі Свісл.

ЛА′ПА II *ж.* 1. Ножка (ложка, стала). *Зломалас лапа ў слоновы, у столовы.* Горск Бяроз. 2. Понаж. *Прывезала лапы к ніту, каб добро ткаць було кросна.* Жахавічы Маз.

ЛА′ПА III *ж.* Прылада, якой абдзіралі галоўкі лёну. *Лапа вострая, харашо абдзіраіць галоўкі лёну.* Моханава В.-Дзв.

ЛАПА′ТКА I *ж.* 1. Мянташка. *Нада лыпаткый павастрыць касу, а то іна затупіласі.* Моханава В.-Дзв. 2. Дошчачка з дзірачкамі для снавання красён. *Зрабі мне лыпатку, я буду кросны снаваць.* Якубова Рас. 3. Стрыхоўка. *Крыў страху пыд лыпатку.* Якубова Рас.

ЛАПА′ТКА II (лопатка) *ж.* Маленькі снапок саломы, які кладуць каласкамі ўніз пры пакрыцці страхі. *Лопатка вяжыцца ў уздрэ і таксама штыры жмэны. Як почынают крыты стрэху соломою, то прывязвают острэшэннықы уздром уныз, а тоды кладут лопаткы на острэшэннықы уздром увэрх. Пойдэмо, баба, вязать лопаткы, завтра буду крыты стрэху.* Горск Бяроз.

ЛАПА′ТКІ (лопа′ткы) *мн.* Звязаныя разам тры саламяныя снапкі для пакрыцця страхі. *Навэзав лопаток із соломы. Буду лопаткамы крыты.* Горск Бяроз.

ЛАПА′ЦІЦЬ *незак.* Вастрыць касу. *А я добра не умею лапаціць касу.* Філіпова В.-Дзв.

ЛА′ПІКІ *толькі мн.* Лахманы. *Забылас, мне ж трэбо попраті лапікі сваe, а то нэма чого одэваті.* Бастынь Лун.

ЛА′ПКА *ж.* Гронка вінаграду. *Купіў адну лапку вінаграду.* Міратычы Кар.



ЛАПО′НІК *м.* Апалонік. *З жабінай ікры выходзяць лапонікі, а із лапонікаў жапкі.* Жахавічы Маз.

ЛАПО′ТКА (лопо′тка) *ж.* Бразготка. *Трэбо повэсіті лопотку дэрэвяну на шыю корові, кэб вона не згубілас.* Бастынь Лун.

ЛАПУ′ЗІЦЬ *незак. асудж.* Гаварыць абы-што. *Што ты там лапузіш, перастань лапузіць! От прывык лапузіць, дак і лапузіць бес толку абы-што.* Міратычы Кар.

ЛАПУ′Н *м.* Тоўсты блін. *Нынікла лапуноў на сьніданне і будзім мыкаць у мычанку.* Касталомава В.-Дзв.

ЛАПУ′Х *м.* 1. Лотаць. *Нырвала жоўтых лапухоў і сплiла вянок.* Моханава В.-Дзв. 2. *іран.* Неразвіты чалавек. *Ён такі лапух, што вам нічога не скажыць. Вы ў яго і ні пытайці.* Моханава В.-Дзв.

ЛАПУ′ШКА *ж.* Хлапушка. *Дай мне лапушку, я буду біць мух.* Якубова Рас.

ЛАПЧЫ′ВА *прысл.* Прагна. *Вэн лапчыва почаў есті вэноград.* Бастынь Лун.

ЛАПЧЫ′ВЫЙ *прым.* Прагавіты. *Вэн був очэм лапчывый.* Бастынь Лун.

ЛА′СІЦЫ *мн.* 1. Дробныя кавалачкі лёду пры замярзанні вады, шарош. *На ваде зашорхлі ласіцы.* Бастынь Лун. 2. Узорная намаразь на ваконным шкле. *Акія красівыя ласіцы паклав мароз на шыбах.* Бастынь Лун.

ЛАСКАВІ′К *м.* Мяшочак, у якім адціскаюць сыр. *Пашыла ласкавік, падкідала гладышкі, хай сцячэ сываратка, будзя сыр.* Шкураты Браг. *Наліла ў ласкавік тварагу і буду адціскаць сыр.* Бераснёўка Браг.

ЛА′СТАВАЧКА *ж.* Цвікля. *Устаў у рукава пут пахай ластавачку.* Шкураты Браг.

ЛА′СТАЎКА (ла′стоўка) *ж.* 1. Цвікля. *Ушыла ластаўку ў штаны, кап былі шырэй.* Стайкі Барыс. *Гоновыцы пошыла з ластоўкэю.* Горск Бяроз. *Ушыла ў штаны ластаўку, кап штаны былі шырэй.* Ваўкавічы Тал. 2. Гестка. *У сароццы ёсь ластаўка, ды ластаўкі прышываюць каўнера.* Якубова Рас.

ЛА′СТАЧКА (ла′сточка) *ж.* Цвікля. *Трэбо ў сорочку ушыць пуд пахву ласточку.* Бобрыкі Петр.

ЛА′СТКА *ж.* Тое, што і ластаўка. *У ноговіцэх ушываецца ластка, а напротів ласткі прорэх.* Азарычы Пін.

ЛА′ТА *ж.* Пустое, голае месца, дзе нічога не расце. *Во ікая лата, нічога не расцець, тут некалі начлежнікі агонь рысклыдалі.* Моханава В.-Дзв.

ЛАТАЧО′К I *м.* Адтуліна для выграбання мукі з жорнаў. *У жорнах есць латачок, праз які высыпаецца мука.* Старонка Асіп.

ЛАТАЧО′К II *м.* Жалабок, які ўстаўляецца ў прасвідраваную ў бярозе дзірку для сцёку соку. *Латачок убі ў дзюрку бярозы, а то сок пацячэць міма, па бярозі, а не ў вядро.* Моханава В.-Дзв.

ЛАТВЕ′Й *прысл.* Лепш. *Яму латвей, ён жывець у дачкі.* Касталомава В.-Дзв.

ЛАТУНЫ′ (лотуны′) *толькі мн.* Лахманы. *Трэ вумуць етые лотуны.* Бобрыкі Петр.

ЛА′ЎКА I *ж.* Планка для замацоўвання ножак стала. *І зломаласа ў столу лаўка. Ву сядзьце за стол і пустаўце на лаўку ногі.* Бобрыкі Петр.

ЛА′ЎКА II *ж.* Магазін. *Схадзі ў лаўку і купі хлеба.* Моханава В.-Дзв.

ЛА′ХАЦЬ *незак. асудж.* Шукаць. *Што ты тут лахаіш? Паглядзі, можа твой кулёк на лаві ляжыць, а не лахай, дзе ні пупала.* Моханава В.-Дзв.

ЛАХАЧЫ′ (лохачэ′, лохочэ′) *толькі мн.* Буякі. *Пошла ў лес і нызбірала лохачэў.* Горск Бяроз. *У доліні по мшкэх ростут лохочэ.* Азарычы Пін.

ЛАХІ′ННІК *м.* Дурнічнік. *Оля′, тудака багато лахінніку.* Навасёлкі Свісл.

ЛАХІ′НЫ *толькі мн.* Буякі. *Ідземо, тамака многа лахінніку і велькія лахіны.* Навасёлкі Свісл.

ЛАХО′НІКІ *мн.* Булачкі з бульбы і грэцкай мукі. *Мамо, напечы заўтро лахонікоў з картоплі і грэцкой мукі. Лахонікі робяць так: варуць картоплі нелупленые, потым лупляць і тоўкуць у ступі і прыбаўляюць грэцкой мукі, а потым качаюць і пякуць. От вам і лахонікі смачные.* Бобрыкі Петр.

ЛА′ХТА *ж. асудж.* Балбатлівая жанчына. *Лахта ты, толькі бегаіш і лапочыш языком, як сыбака хвастом.* Касталомава В.-Дзв.

ЛАЧЧА′НЕ *н.* Посцілка, у якой утком з'яўляюцца вузкія палоскі з рыззя. *С плаццюв старэх лаччане намнога тыплэй.* Дзмітравічы Кам.

ЛАША′К (лоша′к) *м.* Груздь. *Лошакі ростуть на поросле, де лошак росте ў хвэйніку.* Бастынь Лун.

ЛАШЧАВІ′НА (лошчаві′на) *ж.* Старое рэчышча. *Лошчавіна высохла, а была рэчка.* Бастынь Лун.

ЛАШЫ′ЦКА *ж.* Маладая жаробачка. *Мая лашыцка пародзістая.* Філіпова В.-Дзв.

ЛЕ′ЗВІЕ (ле′зьвіе) *н.* Лязо. *Ударай у камень лезьвіем і зьдзелаў шчэрбіну у лезьвіі, нельга касіць.* Барыскі Лаг.

ЛЕ′ЗІВА *н.* Вяроўка і кола, пры дапамозе якіх пчаляры падымаюць калоду пчол на дрэва. *Зробій лезіва, а тэпэр надо поставіть колоду пчол на хвэйку.* Бастынь Лун.

ЛЕКАЦЕ′ЦЬ (лекотэ′ты) *незак.* Трэсціся, калаціцца. *Вон лекотыт, чы чохля, чы змэрз, нэ вэду.* Горск Бяроз.

ЛЕ′НІВА (ле′ніво, ле′ныво) *н.* Шкура вужакі, скінутая ў час ліняння. *Змэя з сэбэ спускае леніво. Леніво прыкладаецца до тэла, колі чэловек зогоніт шчэпку ў нагу чы руку.* Азарычы Пін. *От лежыць леніво, вулінілася ужэ гадзіна. Гадзюка лізмае, покідае свое леніво.* Бобрыкі Петр. *Гуж покынув своё леныво.* Горск Бяроз.

ЛЕСАПАЛО′М (лесополо′м) *м.* Буралом. *После буры ў лесі много лесополома.* Бастынь Лун.

ЛЕ′СКА *ж.* Клінападобны папярочны драўляны брусок для змацоўвання дзвярных дошак. *З боку доскы выбрав чэтвэрть і з другэй доскы чэтвэрть і тоды золожыв леску — так робят тэплые двэры.* Горск Бяроз.

ЛЕСНІКІ′ *мн.* Дзікія яблыкі. *Яблыкі з дзікай яблыні. На леснічысі было многа леснікоў сёліта і мы пасыпалі іх на хату, а зімой будзім есці.* Моханава В.-Дзв.

ЛЕ′СНІЦА (ле′сьніца) *ж.* Драбіны. *Лесьніца лесьці на гару.* Стайкі Барыс. *Пыстаў лесьніцу, палезу ны хату.* Моханава В.-Дзв.

ЛЕСНІЧЫ′ХА (лесьнічы′ха) *ж.* Дзікая яблыня. *У міне ў гумне расьцець лесьнічыха і на ёй многа леснікоў.* Моханава В.-Дзв.

ЛЕ′СТА (ле′сто) *прысл.* Гразка. *Дужо лесто, дарога — не праехаць. Конь замучыўся, дужо лесто.* Навасёлкі Свісл.



ЛЕ′СТАЧКА *ж.* Лёстка ў лесвіцы. *Пылымалася лестачка ў лесніцы.* Моханава В.-Дзв.

ЛЕ′ТА (ле′то) *н.* Гадавы круг у ствале дрэва. *Зрэзав дэрэвыну хвоёву, у комле подшчытав лета, а лет у дэрэвынэ было мнэго.* Горск Бяроз.

ЛЕТАВІ′ШЧА (летові′шчэ) *н.* Кольца на розе, па якім можна вызначыць, колькі год карове. *У моей коровы пять летовішч, і ёй пять роков.* Бастынь Лун.

ЛЕ′ТАСЯ (ле′тося, ле′туся) *прысл.* Летась, у мінулым годзе. *Летося мы з татом булі ў Мінску.* Бастынь Лун. *Летуся булі на базары і купылі корову.* Горск Бяроз.

ЛЕЧАЯ′ (лечэя′) *ж.* Дзірка ў верхнім камені жорнаў для засыпкі збожжа. *У другэ каміні выдувблена лечэя, куды сыплемо жыто і мелімо.* Азарычы Пін.

ЛЕ′ШКА *ж.* Градка. *Пасадзіла лешку цыбулі і лешку агуркоў.* Моханава В.-Дзв.

ЛЕ′ШЧАТКІ *толькі мн.* Сцёгны. *Оля′, худыя лешчаткі павыстаўляла і ходзіць.* Навасёлкі Свісл.

ЛЁДЗЕНІК (лёденік) *м.* Вада на паверхні лёду. *Скоро вэсна, ужэ е лёденік на раке.* Бастынь Лун.

ЛЁДЗІНА (лёдіна, лёдына) *ж.* Ільдзіна. *Лёдына плывэ по водэ.* Горск Бяроз. *Лёдіна трэснула.* Бастынь Лун.

ЛЁТКА *ж.* Ляток. *Зьдзелаў у ліжак лётку, кап добра було улізаць пчылам.* Якубова Рас.

ЛЁТКІ *мн.* Вялікае пер'е. *Лёткі вураслі, сталі гусі лятаць.* Шкураты Браг.

ЛЁЦЦЕН (лёттен) *м.* Сені. *Дзве хаті зробів і пэрэгородів лёттен.* Бастынь Лун.

ЛЁШАК *м.* Склеп. *Я сабе добрага зрабіў лёшака із кірпіча, у лёшак буду ставіць варыва, картоплю сыпаць на зіму. Пограб робіцца із бровень, а лёшак із кірпіча.* Шкураты Браг.

ЛІЗЕ′РФ *м.* Тарфяны кар'ер. *Там у лізерфу воды много, і мы купаемса.* Бастынь Лун.

ЛІЗМА′ЦЬ *незак.* Ліняць. *Гадзюка лізмае, покідае свое леніво.* Бобрыкі Петр.

ЛІЗЯ′ВЫЙ (лізя′вэй) *прым.* Нясмачны. *Ковбаснікі будэмо пэктэ з грэцкэй мукэй, а з пшэнічнэй лізявэе.* Азарычы Пін.

ЛІНІ′ЛА *н.* Шкура вужакі, скінутая ў час ліняння. *Ву глядзіця, ўініла зьмяі ляжыць, і яна тут можа е.* Шкураты Браг.

ЛІНІ′ЦЦА *зак.* Ліняць. *Корова весной пачала лініцца.* Бобрыкі Петр.

ЛІ′ПАЎКА *ж.* Ліповая бочачка для мёду. *Памый ліпаўку на мёд.* Вадва В.-Дзв.

ЛІ′ПЕЦ *м.* Ліпень. *Ліпец месяц — ліпы цвітуць.* Паляцкішкі Вор.

ЛІ′ПНІК *м.* 1. Лыка з ліпы. *Надраў ліпніку і сплёў лапті.* Бастынь Лун. **2.** Малады ліпняк. *Пашлі ў ліпнік лут драті.* Бастынь Лун.

ЛІПО′ЎКА *ж.* Тое, што і ліпаўка. *Налій ліпоўку мёду.* Касталомава В.-Дзв.

ЛІСА′ВЫ *прым.* Ласкавы. *Вэно дужэ лісавэ дітя, добрэ.* Бастынь Лун.

ЛІСІ′ЦА *ж.* 1. Бервяно, якім падпіраюць пахілены будынак. *Падпэр лісіцэй хлева, а то вэн похілівса.* Бастынь Лун. 2. Тоўстае

7. Зак. 1598

чатырохвугольнае палена, якое кладзецца ўпоперак саней для перавозкі доўгага бярвення. *Зьдзелаў дубовую лісіцу на сані, паеду на рум бярвення вазіць.* Філіпова В.-Дзв. *Палажы ны сані лісіцу і паедзім бро́йны вазіць, а бес лісіцы сані пылымаюцца.* Сяляўшчына Рас. 3. Кіёк, адзін канец якога ўсаджан у дзірку навоя і не дае навою круціцца. *Адпусці лісіцу ў заднім навоі.* Моханава В.-Дзв. 4. Клінападобны папярочны драўляны брусок для змацоўвання дзвярных дошак. *Вазьмі лісіцу і зажмі дошкі дзьвярныя.* Сяляўшчына Рас.

ЛІСЦІ'НКА *ж.* Ліст капусты. *Адламіла зялёную лісьцінку ат кычына капусты.* Моханава В.-Дзв.

ЛІТЭ'РКА *ж.* Драўлянае кольца, якім замацоўваюць шпульку на рагатцы ў калаўроце. *Вазьмі каршун, надзень на каршун шпульку і закруці літэркай.* Мнюхі Міёр. *На літэрку і шпулю ныдзіваюць шнуркі.* Якубова Рас.

ЛІША'ЦЬ (ліша'ть) *незак.* Кастрыраваць, накладаць. *Трэбо позваті вэнгэра, хай лішает кнура.* Азарычы Пін.

ЛІ'ШТВА *ж.* Папярочная жэрдка ў плоце. *У плоці да слупа прыбіваяцца ліштва, а да ліштвы прыбіваюць тын.* Навасёлкі Свісл.

ЛОБ (лоп) *м.* Франтон. *Лоб з оконычком у хаты. Ужэ поставылі лоба в хаты.* Горск Бяроз. *Дошкамі забіў у канцы хаты лоп.* Моханава В.-Дзв.

ЛО'ГВІСКА (лы'гвіско) *н.* Логава. *Вовк ходіть на добычу, вовчыца сідіть у лыгвіску.* Бастынь Лун.

ЛО'ЖКА (ло'шка) *ж.* Дошчачка з дзірачкамі, якая прыстасоўваецца пры снаванні, каб ніткі асновы лажыліся роўна, не блыталіся і не рэзалі руку. *У лошцы ёсць дзьве дзірачкі, у гэты дзірачкі ўводзюцца дзьве ніткі, і снуюць кросны.* Касталомава В.-Дзв.

ЛО'КАЦЬ (ло'кыть) *м.* Мера даўжыні (прыблізна 0,5 м). *Локыть — мера ў дліну: пыворшы'на.* Бастынь Лун.

ЛО'КЕЦЬ *м.* Локаць. *Баліць локець, сільно забіла аб дзьверы.* Тульгавічы Хойн.

ЛО'МАЦЬ *м.* Вялікі кавалак хлеба. *Уго, які бальшы ломаць адлымаў хлеба, ці ты яго з'ясі?* Вадва В.-Дзв.

ЛО'ПАТ *м.* Дошчачка з дзірачкай, куды памяшчаецца верхні канец млёна. *Млён устаўляюць у жураўку, а другі канец млёна ўстаўляюць у лопат, які прымацаван да сцяны.* Навасёлкі Свісл.

ЛО'ПАТКА (ло'потка) *ж.* Пахрустванне ў суставах нагі. *Ідэ баба, а в нозе лопотка лопоет. Лопотку увогнала.* Горск Бяроз.

ЛО'ПАЎКА *ж.* Няроўнасці на палатне касы. *Біў касу і набіў лопаўку.* Даўгабор'е Рас. *Адбіваў-адбіваў касу і зрабіў лопаўку ў касе.* Булыніна Рас.

ЛУ'БІНІСКА (лу'бініско) *н.* Поле, дзе рос лубін. *По лубініску посею жыто.* Бастынь Лун.

ЛУ'БКА (лу'пка) *ж.* Сявенька. *Лубку плелі з коры ліпы, насыпалі ў лубку жыта і сеелі.* Бастынь Лун. *Лупку плялі с саломы і перапліталі лазой. З лупкі сеілі жыта, авёс, ячмень.* Моханава В.-Дзв.

ЛУБО'К *м.* 1. Жалабок, які ўстаўляецца ў прасвідраваную ў бярозе дзірку для сцёку соку. *Засек бярозку і ўставіў лубок, кап сок цёк у вядро.* Вароніна Рас. 2. Прылада для катання яец на вялікдзень. Моханава В.-Дзв.



ЛУГ *м.* Балота. *Луг у нізіні і ён вельмі гразный, ён ніколі не высыхае, а гразный, і дрыгва там. У лузі расце лоза, каліна, бобоўнік, крушына.* Бобрыкі Петр.

ЛУЗА'НКІ *толькі мн.* Страва з адвараных буракоў і тоўчанага ільнянога семя. *Гэта нашы любімыя лузанкі з буракоў і льнога семянё.* Міратычы Кар.

ЛУЗГА' *ж.* Шалуха, якая застаецца пры пераапрацоўцы ячменю на крупы. *Калі на мельніцы робім крупы з ячменю, дак многа лузгі адлітая.* Філіпова В.-Дзв.

ЛУЗКА'НЕЦ *м.* Лузан. *Пуд орэшыной много лузканцэў.* Бастынь Лун.

ЛУ'НКА *ж.* Палонка. *На азяры прасячы лунку і лаві рыбу.* Сяляўшчына Рас.

ЛУ'ПА *ж.* Пыса. *Лупа вісіць у каровы.* Ністанішкі Смарг.

ЛУПА'ЙКА *ж.* Шкарлупіна яйца. *Якая лупайка тонкая на ейцу.* Тульгавічы Хойн. *Аблупіце лупайку з ейца.* Бастынь Лун.

ЛУПА'ЙКІ (лупэ'йкі) *мн.* Шалупінне. *Бульбеные лупайкі памуй і звары ку'рам.* Тульгавічы Хойн. *Якія тоўстыя лупайкі, палавіна бульбы абразаеш.* Жахавічы Маз. *Пойду обрэзаті булбу, лупэйкі з булбы трэбо зварыті свіням. Пэчона булба з лупэйкамі.* Бастынь Лун.

ЛУПА'КА *ж.* Тое, што і лупайка. *От моцная лупака на ейцы.* Жахавічы Маз.

ЛУПА'СІЦЬ *незак.* Моцна біць. *А дзет дывай гыняцца зы намі ды лупасіць ляскоўным пугаўём.* Касталомава В.-Дзв.

ЛУ'ПЛЯ *ж.* Лупцоўка. *Зарас дам табе луплі, дык сьціхніш.* Брусы Мядз.

ЛУПО'ЎКА (лупо'вка) *ж.* Шалупіна гароху, бобу. *Вылушчыла гарох, а лупоўку кінула.* Азарычы Пін.

ЛУСКА' *ж.* Астаткі пасля прасейвання грэцкай мукі. *З грэцкай мукі высеела многа лускі.* Бастынь Лун. *Грэчнівую муку прасеіла, дужа многа лускі асталося.* Сяляўшчына Рас.

ЛУТ *м.* Ліпавае лыка. *Атламала лапку, лут садрала.* Шкураты Браг. *З ліпы надрала луту на лапці.* Жахавічы Маз.

ЛУ'ТАВЫ *прым.* Ліпавы. *Асталася палка лутава.* Шкураты Браг. *Вазьмі лутавыя дзяжкі і зматай у верч і памачы. Буду плесьці лапці.* Шкураты Браг.

ЛУ'ТКА *ж.* Вушак (у дзвярах і вокнах). *Згніла лутка ў вакне.* Сяляўшчына Рас. *Пыставіў луткі, а ў луткі ўбіў крукі і прыставіў дзьверы ў хаці.* Ваўкавічы Тал.

ЛУ'ТЧАЙ *прысл.* Лепш. *Мне цяпер у калхозі лутчай жывецца, чым раней жылосі.* Моханава В.-Дзв.

ЛУ'ЦЦЕ (лутье) *н. зборн.* Ліпавае лыка. *Нарэзаў лутья пук і буду плесці лапці.* Бастынь Лун.

ЛУЧАІ'НА *ж.* Лагчына. *Між поля нізкіе лучаіны, мы зовэм гай.* Бастынь Лун.

ЛУЧА'Й *м.* Дзірка ў верхнім камені жорнаў для засыпкі збожжа. *На верхнім камяні пасярэдзіні выдалблін лучай, сыплюць зерня.* Навасёлкі Свісл.

ЛУЧНІ'К *м.* Падстаўка для лучыны. *Зажыгаюць лучыну і ўтыкають ее ў лучнік.* Бастынь Лун.

ЛУЧО'К I *м.* Палатно, нацягнутае на паўкруг і прымацаванае да касся для адкідвання аўса, ячменю. *Прывяжу да касы лучок і пайду касіць авёс.* Моханава В.-Дзв.

ЛУЧО′К II *м.* Ручка на касі. *Ну, Іван, ты б у касе лучок новы прыбій, то той адламаўся.* Падлесы Лях. *Прывежы на косье лучок.* Бобрыкі Петр.
ЛУЧЫ′НА *ж.* Маленькія шчэпкі. *Ідзі на дровэтню і насэчы мнэ лучыны на пыдпалку дров.* Азарычы Пін.
ЛУШЧО′НІК *м.* Лузан. *Ужо арэхі спелыя, лушчонікі самі лушчуцца.* Барыскі Лаг.
ЛЫ′ГАЦЬ *незак.* Глытаць. *Чаго дзяржыш у році, лыгай, а не дзяржы.* Навасёлкі Свісл.
ЛЫГМА′НІЦЬ *незак.* Нагаворваць, паклёпнічаць. *Вы мне ні лыгманце пра яго, я ўсё знаю.* Міратычы Кар.
ЛЫКАВА′ТЫЙ (лыкова′тый) *прым.* Нятлусты (пра сала, мяса). *Зарэзав корову, корова була худа і м'ясо лыковатэ. Парсючка закалола, мало корміла і сало лыковатэ.* Бастынь Лун.
ЛЫ′ПКІ *мн.* Вейкі. *Якія вялікія лыпкі, аш вочы закрываюць.* Ністанішкі Смар.
ЛЫ′СІНА *ж.* Голае месца сярод пасеваў. *Вугібло на полі жыто, одна зостоласа лысіна.* Бобрыкі Петр.
ЛЫ′СІЦЬ *незак.* Кепска рабіць што-небудзь *Як ты хату пыдміла, найчылася лысіць, а па кутках сьмяццё пыкідаіш.* Моханава В.-Дзв.
ЛЫЧО′К *м.* Ручка на касі. *Прывязаў лычок да касы.* Лешня Кап.
ЛЭ′ХІ *толькі мн.* Лахманы. *Оля', усе лэхі пападалі з печы. Спалі гэты старыя лэхі.* Навасёлкі Свісл.
ЛЮБО′ВЫ *прым.* Посны (пра мяса). *Парсюк быў няжырны, любовага мяса многа.* Касталомава В.-Дзв.
ЛЮТЭ′РКА *ж.* Драўлянае маленькае колца калаўрота, якое знаходзіцца побач са шпулькай і перадае ёй рух вялікага кола. *Надзень шпульку на рагатку і закруці лютэрку.* Моханава В.-Дзв.
ЛЮ′ХВІК *м.* Ліф. *Мая дарагенькая, покінь усё, дый пашый мне люхвік, бо мне холадна.* Жахавічы Маз.
ЛЮ′ХТА *ж.* Чыгунны кружок, якім закрываюць комін, юшка. *Закрый комін люхтай.* Бастынь Лун. *Вазьмі люхту і зачыні комін.* Моханава В.-Дзв.
ЛЮ′ШКА *ж.* Тое, што і люхта. *Гром грыміць, возьмі люшку і залажы комін.* Моханава В.-Дзв.
ЛЯВО′К (лево′к) *м.* Вылівак. *Кура вуліла левок. Кура разбіласа і леўкі л'е.* Бобрыкі Петр.
ЛЯГА′РА I (лега′ра) *ж.* Цурбан, па якому коцяць бярвенне. *Кладуць легары, а на легары кладуть тоўстые дэрэвіны і качаюць іх.* Бастынь Лун.
ЛЯГА′РА II (ліга′ра, лега′ра) *ж.* Падваліна, на якую кладзецца падлога. *Лігары кладэмо на стовпчыкы, а на лігары кладэм доскы. Поправ праву лігару, вона нэдобрэ лэжыт.* Горск Бяроз. *У хаці палажыў легары, а цяпер буду масціць мост.* Вострава Маст.
ЛЯ′ДА I (ля′до) *н.* Мышыны гарох. *Посеев овёс, алі нэ порос, лядо прыкрутіло, і согнів.* Азарычы Пін.
ЛЯ′ДА II (ля′до) *н.* Набіліцы. *Повэсіла лядо, а ў лядо уставіла бэрдо, а ў бэрдо усмыкала ніткі основы.* Бастынь Лун. *Павесіла лядо і ў лядо ўлажыла бёрда.* Міратычы Кар.
ЛЯ′ДА III *н.* Сячкарня. *А гэта ляда, што сечку рэзаць і зельа.* Вострава Маст.



ЛЯДЗЯ′НКА (лідзя′нка) *ж.* Лядзяш. *На страсе вісяць тоўстыя лідзянкі.* Моханава В.-Дзв.
ЛЯ′МКА *ж.* Манішка. *Нада ў лямцы здзелаць пятліцы. Прышы ў сарочку лямку і прарэж пятліцы.* Якубова Рас.
ЛЯ′НІСКА (ля′ніско) *н.* Поле, на якім рос лён. *Вырвалі лён і скасілі ляніско.* Міратычы Кар.
ЛЯНІ′ЦА *ж.* Лён, ачасаны на жалезную шчотку. *Як одэн раз чэшацца на грэбэнэ лён, тогды зовут просто ляніца.* Азарычы Пін.
ЛЯ′НІШЧА *н.* Тое, што і ляніска. *Нам тут не падабаецца лянішча.* Ністанішкі Смарг.
ЛЯНУ′ШКА *ж.* Пяколак (з боку печы). *Стань на лянушку і лесь на печ.* Якубова Рас.
ЛЯПАУКА *ж.* Бразготка. *Павесь карові ляпаўку на шыю, дак іна ня згубіцца.* Моханава В.-Дзв.
ЛЯПЕ′Ш (лепе′ш) **м.** Пячнік. ***Трэ прыгласіць лепеша печку рабіць.*** Жахавічы Маз.
ЛЯПНЯ′К *м.* Недапечаны хлеб. *Неўдалосё мне сёнё, сьпякла нейкага ляпняка. Мне казалася, што цеста падышло, а з гэтага цеста вышаў ляпняк.* Міратычы Кар.
ЛЯСЁНКА *ж.* Посцілка, у якой носяць сена, траву. *Прынёс лясёнку сена і даў каню.* Старонка Асіп.
ЛЯСІ′НА *ж.* Бервяно. *От добрую лясіну прывёс, будзіць добра на доскі рэзаць.* Сяляўшчына Рас.
ЛЯ′СКА *ж.* Лёстка ў лесвіцы. *Зламалася ляска ў драбінах, трэба нову.* Старае Сяло Зэльв.
ЛЯСКО′ЎНІК *м.* Арэшнік. *Ляскоўніку многа, а гарэхаў ні відаць.* Старае Сяло Зэльв.
ЛЯСНУ′ШКІ *мн.* Яблыкі дзікай яблыні. *Ляснушкі добра, калі яны пыляжаць. Тады іх можна есці.* Моханава В.-Дзв.
ЛЯ′СТАЧКА (ля′сточка) *ж.* Тое, што і ляска. *Зробів лясточкі у драбы вэза.* Бастынь Лун.
ЛЯТВА′ (летва′) *ж.* Работа пчол па збору мёду. *Пчолы вэрнуліса з летвы.* Бастынь Лун.
ЛЯТО′К *м.* Дзірачка або проразь у вуллі, праз якую вылазяць пчолы. *Пчолкі з вулля вылазяць праз дзірачку, а мы завём лятоκ.* Багушэвічы Чэрв.
ЛЯТЭ′РАЧКА *ж.* Драўлянае маленькае кольца калаўрота, якое знаходзіцца побач са шпулькай і перадае ёй руханне вялікага кола. *На лятэрачку і шпулю ныдзіваюць шнуркі ў калаўроці.* Сяляўшчына Рас.
ЛЯЎЦЕ′ЦЬ *незак.* Блішчаць. *Конь такій гладкій, аж ляўціць.* Шкураты Браг.
ЛЯХА′ *ж.* Града. *Зрабіла ляху і пасадзіла агуркі.* Моханава В.-Дзв.
ЛЯЧА′ЦЬ (леча′ты) *незак.* Кастрыраваць, пакладаць. *Дед лєков свіней і вон звавса вэнгэром. Кнура трэбо лечаты, а тоды кормыты на сало.* Горск Бяроз.
ЛЯ′ШКА *ж.* Часовая ўкладка снапоў на полі. *Снопэ носят і ставят у ляшкі, по дэсыт снопыв у ляшку. Вын пашов ставэтэ снопэ ў ляшкі.* Дзмітравічы Кам. *Пяць снапоў паставім аўса ці ячменю, вот гэта мы завём ляшкай.* Мнюхі Міёр. *Жжалі жыта і паставілі ў ляшкі. У ляшчы дзесяць снапоў.* Навасёлкі Свісл.

# М

МАГАЗА'НЧЫК *м.* Кажан. *Магазанчык лётая ноччу, ён дужа страшны, на лапах крылы.* Шкураты Браг.

МАДНЕ'Й *прысл.* Не так, як ва ўсіх. *У яе ні так, як у людзей, а ўсё мадней.* Філіпова В.-Дзв.

МА'ЖЫ *толькі мн.* Калёсы з драбінамі вазіць сена, снапы. *Запражы каня ў мажы і ець па сена. Налажыў поўныя мажы сена.* Стайкі Барыс.

МАЗГА' *ж.* Мяздра. *Раней, я помню, мазгу елі, як булі пастушкамі. Кару злупім, нажом наскоблім мазгі і ядзём.* Жахавічы Маз. *Мазга ліпавая салоткая.* Навасёлкі Свісл.

МА'ЗКА (ма'ска) *ж.* Падмазка. *Адрэш сала на маску, а то няма чым скавараду памазаць.* Міратычы Кар.

МАЗО'К (мозо'к) *м.* Шпік. *Я люблю есті мозок з кэсткі, як зваруть.* Бастынь Лун.

МАЗУ'ЛЬ *м.* Мазоль. *Ой, как мне баляць сухіе мазулі'.* Міратычы Кар.

МАЗЫ'ЛЬ (мозы'ль) *м.* Вузел. *Трэбо зовэзатэ у мозыль гроша. Тэ зовэжэ на нэтці мозыля.* Дзмітравічы Кам.

МАЙ *м.* Зеляніна (для ўпрыгожвання). *Прывязі маю і насадзі на двары.* Моханава В.-Дзв.

МАЙДА'Н *м.* Прыбудоўка да хлява. *Парсючок стаіт у майдану.* Горск Бяроз.

МА'КАВІ'НА *ж.* Верхняя частка снапа. *Бяруць сноп за макавіну і вытрысаюць каласавіння.* Ваўкавічы Тал.

МАКАЗЫ'Н *м.* 1. Магазын (у лямпе). *Налі газы ў маказын і запалі лямпу.* Бастынь Лун. *Паржавеў маказын у лямпі і цячэ маказын.* Жахавічы Маз. 2. Свіран (грамадскі). *У гэтый маказын усе господорэ сэла засыпалі зэрно для того, коб як у кого нэ хватыт на насэннэ чы дожыты до нового хлеба, то позычалі з маказына.* Горск Бяроз.

МАКА'ТКА *ж.* 1. Вышыты малюнак, які вешаюць на сцяну для ўпрыгожвання. *Сьнімі макаткі со сцены і помый. Макатку вышэла на сцену.* Бастынь Лун. *На сцяне вісіць макатка.* Ністанішкі Смарг. *Павесь на сцяну макатку.* Навасёлкі Свісл. 2. Вышытая дарожка на стол. *Стасё, засцялі на стол макатку.* Навасёлкі Свісл.

МАКА'ЧКА (мыка'чка) *ж.* Перамешаныя тлустасць са смятанай. *На скавարадзе ныжарылі сала і ўліла слівак, і добрая мыкачка бліны мыкаць.* Сяляўшчына Рас.

МАКРО'ЦЬ *ж.* Макрата. *Тыкая макроць, думала храпы нызбіраць, ну макроць, што ня ўлесьці ў гарот.* Сяляўшчына Рас.

МАКРЭ'З (мокрэ'з) *ж.* Макрыца (трава). *Мокрэз росте по бульбы.* Бастынь Лун.

МАКРЭ'Ц (мокрэ'ц) *м.* 1. Тое, што і макрэз. *У етум годзі посеілі картоплю на нізу, дак вельмі багато макрэцу. Напалола макрэцу свіням.* Тульгавічы Хойн. 2. Макрыца (насякомае). *Падніла ганучу, а там мокрэцэв много, одын мокрэц от большэй.* Бастынь Лун.

МАКУ'ШКА *ж.* Кончык пальца на руцэ. *Абрэзала ногаць, што аш макушка баліць на пальцы.* Булыніна Рас. *Адрэзала нохці пы самую макушку і нічога не магу дзелаць, быляць пальцы.* Сяляўшчына Рас. *Канец пальца мы завём макушка.* Вароніна Рас.



МАЛАДЗЕ'НЕЦ (маладзе'ніц) *м.* Малады, жаніх. *Маладуха красівая, а маладзеніц дрэнь.* Сяляўшчына Рас. *Маладзеніц паехаў да маладой.* Моханава В.-Дзв.

МАЛАЦЕ'ЛЬНІК (молотэ'льнык) *м.* Малацьбіт. *Мой молотэльнік поломав цопыдло і быч у цоповы.* Горск. Бяроз. *Я сабе раней браў малацельніка і малаціў.* Жахавічы Маз. *Чалавек, які малоціць, мы завем малацельнік.* Альхоўка Навагр. *Добры малацельнік, трэці паццэпак малоця.* Навасёлкі Свісл.

МАЛЬЧЭ'К *м.* Слупок у калаўроце, які служыць для падтрымання рагаткі. *Нада зрабіць мальчэка ў санапратку і ў мальчэк нада прыбіць скураток, а то вывалюцца вілачкі.* Стайкі Барыс.

МАНІ'ЦЦА *незак.* Абяцаць. *Ен маніўся сягодня ка мне зайсці.* Моханава В.-Дзв.

МАНІ'ЦЬ I *незак.* Зваць. *Кура кохкая, маніць курынятка ік сабе, кеб ішлі есці.* Шкураты Браг. *Пісклятніца маніць пісклятак.* Ваўкавічы Тал.

МАНІ'ЦЬ II (маны'ты) *незак.* Пахнуць. *У лесы больсан от маныт. Трэбо ж так маныты травэ.* Горск Бяроз.

МАНКЕ'Т *м.* Манжэта. *Прышы да рукыва манкет, а ў манкет ушы гузік.* Моханава В.-Дзв.

МАРА'ТЫЙ (мора'тый) *прым.* Брудны. *Погледы, які ў тэбэ моратый твар, іды помыйса.* Горск Бяроз.

МА'РАЦ *м.* Сакавік. *Ужо марац, каты крычаць.* Моханава В.-Дзв. *Марац укусіў за паліц. Марац — трэці месяц у року.* Паляцкішкі Вор. *Марац — адмерзне старцу палец.* Шкураты Браг.

МАРГА'ЛЬ *м.* Маркач. *Авечка трэбуя маргаля.* Шкураты Браг.

МАРКАВІ'НЕ (морковы'нне) *н.* Маркоўнік. *Морковынне свыны нэ вэльмы любят.* Горск Бяроз.

МАРКА'ЛЬ (морка'ль) *м.* Тое, што і маргаль. *Пакінуў маркаля на племя.* Жахавічы Маз. *Наша овечка полюе, трэбо ей моркаля.* Бастынь Лун.

МАРКАТА'ЦЬ (моркіта'ть, моркыта'ты) *незак.* Пра перыяд палавой актыўнасці ў авечкі. *Наша авечка стала маркатаць.* Паляцкішкі Вор. *Авечка пачала маркатаць, яна хоча да барана.* Навасёлкі Свісл. *Вэчка моркічэ, хочэ до моркоча.* Азарычы Пін. *Авечка мая маркіча, трэба барана.* Старае Сяло Зэльв. *Овэчка моркытаты стала, а чы е у сэле моркочэ.* Горск Бяроз.

МАРЛО'Г *м.* Бярлог. *Свіння робіць сабе марлог, будзя парасіцца.* Стайкі Барыс.

МАРМЫ'ЛЬ (мормы'ль) *м.* Мармытун. *Мормыль — ето чэловек, который говорыть сам з собою і нічого не понять, шчо вэн говорыть.* Бастынь Лун.

МАРЦАВА'ЦЬ (марцава'ты) *незак.* Пра перыяд палавой актыўнасці ў кошкі. *Наша кошка пачала марцаваць.* Барыскі Лаг. *Во проклята кошка, ужэ пачала марцаваты.* Горск Бяроз. *Каты крычаць, кошка марцуіць.* Моханава В.-Дзв.

МАСІЯ'Ш *м.* Звадыяш. *Вот гэты масіяш усіх дзяцей зводзіць.* Моханава В.-Дзв.

МАСЦЬ (масьць) *ж.* Мазь. *Гэта масьць добра гоіць раны.* Паляцкішкі Вор.

МАСЦЯРО'К (масьцяро'к) *м.* Кельня. *Масьцярок гліну браць і печку дзелаць.* Варонічы Рас.

МАТАВІ'ДЛА *н.* Матавіла для зматвання нітак. *Прынясі матавідла, буду матаць ніткі на маткі.* Паляцкішкі Вор.

МА'ТКА *ж.* Спарыння. *От мнэго маток у жыте ў колоссі. От большая чорная матка ў колосі.* Азарычы Пін.
МАТО'РНЕНЬКІЙ *прым. іран.* Быстры. *Ох, якій ты маторненькій!* Шкураты Браг.
МАТУЗО'К *м.* Спавівач. *Вазьмі матузка і спаві дзіця.* Тульгавічы Хойн.
МАТУ'ШКА *ж.* Прылада, на якую матаюць ніткі. *Напрала шпулю і зматала на матушку.* Паляцкішкі Вор.
МАТЫ'ЛІЦА (моты'ліца) *ж.* Хвароба ў авечак. *Овэчкі заболелі на мотыліцу.* Бастынь Лун.
МАТЭ'РЫЯ *ж.* Гной з раны. *Валаснік на пальцы, і так многа цячэць з яго матэрыі.* Ністанішкі Смарг.
МАХАМО'РЫНА *ж.* Мухамор. *Якіх ты ныбрала грыбоў, адных махаморын.* Якубова Рас.
МАХАНО'ША *ж.* Чалавек, які ў час палявання носіць торбу. *Учорэ я була маханошаю: му з бацькам ходзілі на ахоту, дак я насіла торбу з качкамі.* Тульгавічы Хойн.
МАХО'ТКА (мохэ'тка) *ж.* Махавік (грыб). *Мохэткі ростуць по борэх, і по мхэх.* Бастынь Лун.
МАХРЫ' *мн.* Карэньчыкі. *Ачышчайці добра буракі, кап ні було махроў. Ачышчалі буракі ныжам ат махроў.* Сяляўшчына Рас. *Больиы за ўсё ў часнаку махроў.* Замошша Рас.
МА'ЦАЦЬ *незак.* Стукаць яйцом аб зубы, правяраць, ці моцнае яно.*Каб узнаць ці крэпкае яйцо, нада мацаць аб зубы.* Шкураты Браг.
МА'ЦІЦА (ма'тіца) *ж.* Папярочная бэлька ў хаце. *Ны маціцу кладзецца столь.* Якубова Рас. *Положыв матіцу на ошчэпу, тэпэр, а на матіцы буду ложыть стэль.* Бастынь Лун.
МАЧ *м.* Сахор. *Мо мач вам не трэбо, дак дайце мне гной накідаваць на воз.* Бобрыкі Петр.
МАШО'НКА (мошо'нка) *ж.* Месца ў коласе, дзе знаходзіцца зерне. *Ужэ начынае жыто повніцца, ужэ у мошонцы пятка е.* Азарычы Пін.
МАШЫ'НКА *ж.* Кнопка. *Трэ поўшываць у кохту машынкі, а аднэй машынкі не хапае.* Жахавічы Маз.
МЕДАВІ'ЦА (мэдові'ца) *ж.* Рабочая пчала. *Пчэла-мэдовіца много носіть мэду.* Бастынь Лун.
МЕ'ЛІН *м.* Млён. *Мелін у жорнах прыдзеланы да вірхніка.* Ваўкавічы Тал.
МЕ'РВА (мэ'рва) *ж.* Адходы пры тапленні воску. *Мэрва — гэто одходы от вэска.* Горск Бяроз.
МЕРКІЦУ'Н (мэркіцу'н) *м.* Маркач. *Покінув у племя мэркіцуна.* Бастынь Лун.
МЕ'СЦА (ме'ста) *н.* Плацэнта. *Карова ацялілася, алі места яшчэ не адышло.* Моханава В.-Дзв.
МЕТУХА' *ж.* Страва з бульбы і малака. *З молоком булба помята, мы ето зовэм метуха.* Бастынь Лун.
МЕ'ШАНКА (мі'шанка) *ж.* Трасянка. *Дай воловэ мішанкі.* Дзмітравічы Кам.
МЕ'ШАНЬ (мі'шань) *ж.* Корм для свіней: мякіна, абмешаная мукой. *Свэнюм намышаю мішані.* Дзмітравічы Кам.
МІГЛА' *ж.* Імжа. *Моросіть мігла.* Бастынь Лун.
МІНТА'ЦЬ *незак.* Мянціць. *Трэба часцей мінтаць касу, кап добра касіла.* Барыскі Лаг.



МІНЮХА' (менюха) *ж.* Памылка пры накідванні асновы ў бёрда, калі прапушчана адна трысцінка. *Кідала ў берда і мінула трасцінку, а цяпер ідзе мінюха ў палатне.* Жахавічы Маз. *Страшніца, менюху накідала, у бердзе пропушчэна тросціна.* Бобрыкі Петр.
МІ'САЧКА *ж.* Пладаножка жолуда. *Жалут сядзіць плешачкай у місаццы.* Барыскі Лаг.
МІТЭ'РКА *ж.* Драўлянае маленькае кольца калаўрота, якое находзіцца побач са шпулькай і перадае ёй руханне вялікага кола. *На мітэрку і на шпулю надзяём шнур у калаўроці.* Казлы Міёр.
МЛА *ж.* Туман. *Вэчэром нашла токая мла, шчо я аж зоблудыв.* Горск Бяроз.
МЛІНЕ'Ц *м.* Блін. *Закамоўзіла я сягодні млінцоў, дай грэскіх.* Шкураты Браг.
МЛЯНО' *прысл.* Туманна. *Ох, урано і мляно, ныц нэ выдно.* Горск Бяроз.
МНЕ'ЙШЫ *прым.* Меншы. *Гэты сын малы, а той яшчэ мнейшы.* Паляцкішкі Вор.
МО'ГЛІЦЫ (мо'глыцы) *толькі мн.* Могілкі. *От нас блыско моглыцы.* Горск Бяроз.
МО'ЗАГ (мо'зок) *м.* Мозг. *У мене ужо мозаг высах ад думак па ей.* Тульгавічы Хойн. *Мозок відаты з головы, така рана.* Горск Бяроз.
МОРГ *м.* Мурог. *Пошоў косіць морг, а там одзін ціпец, і коса не берэ.* Бобрыкі Петр.
МО'РГВА *м.* Морква. *На лясе расцець моргва, а па бакох кручка.* Ністанішкі Смарг.
МО'РГАНКА *ж.* Гатунак бульбы. *Посадзіў картоплю морганку, дак ее ўжэ капаць можно, ена скоро спее.* Бобрыкі Петр.
МО'РХВА *ж.* Морква. *Ідзіцё і не бачыцё, што морхва расце.* Паляцкішкі Вор.
МО'РШАК *м.* Смаржок. *Моршкі ростуть вгсной по борэх.* Бастынь Лун.
МОСТ *м.* Падлога. Моханава, Водва, Касталомава, Суднікі В.-Дзв., Замошша, Вароніна, Сяляўшчына Рас. *Нада памыць мост, заўтра нядзелька.* Якубова Рас.
МО'ТУЗ I *м.* Невялікі кіёчак з кавалкам палатна ці нацягнутымі вяроўкамі ў ткацкім станку для пачатку ткання. *Затыкальны мотуз прывязала за пруточак. Накрутыла на воротыло мотуза і затыкала кросна.* Горск Бяроз.
МО'ТУЗ II *м.* 1. Матуз у хвартуху. *Одорвавс мотуз у хвартуху.* Бастынь Лун. 2. Вяровачка, якой прывязваюць панажы да нітоў. *Мотузам прывязываюць поножэ да нітов.* Азарычы Пін.
МО'ХРЫК *м.* Карэньчык. *Вурвала корч картоплі мохрыстый. Мохрыстые корчэ, ядрэные да дробные. На каждом мохрыку кортоплінка.* Бобрыкі Петр.
МРА'ЗІЦЬ *незак.* Імжэць. *Рано мразіло, а цепер перэстало мразіць.* Тульгавічы Хойн.
МРАЗЬ *ж.* Непагадзь. *Сегодні на дворэ такая мразь, то хоць з хаты не вулазь.* Тульгавічы Хойн.
МРА'КА *ж.* Тое, што і мразь. *На дварэ мрака, дож і снег мрачыць.* Шкураты Браг.
МРА'ЧЫЦЬ *незак.* Тое, што і мразіць. *Ужо восінь, дожак пачаў мрачыць.* Шкураты Браг.

МРО′ВА *н.* Дрыгвяністае балота. *У волозэ нэ утопішся, а вот у мровэ можнэ утопіцца.* Азарычы Пін.

МУ′ДРЫЙ *прысл.* Ганарлівы. *Вон мудрый, нэ хочэ і говорыты.* Горск Бяроз.

МУ′ЛЕНІК *м.* Мазоль. *Муленік на нозэ намуліла.* Бастынь Лун.

МУЛЁЎКА *ж.* Дупло. *У осіне е мулёўка. З мулёўкі вулецеў дзяцел, там его гнездо.* Бобрыкі Петр.

МУЛЬТЫ′Н *м.* Мультан (матэрыял). *Купіла мультыну на кофту.* Моханава В.-Дзв.

МУ′ЛЯ *ж.* Гразь. *У погоні я улезла у мулю, што ледзь выцягнула ногі. Я у мулі чуць нэ утопылас. Я легла на пэнь і задрэмала і скотылас у мулю, што чуць нэ зодохнулас мулёю.* Горск Бяроз.

МУРАВЕ′ЛЬ *м.* Мурашка. *Дужа ўкусіў муравель.* Жахавічы Маз.

МУРАВЕ′ЛЬНІК *м.* Муравейнік. *Які бальшы муравельнік нанасілі мураўлі.* Жахавічы Маз.

МУРАВЕ′ННІК (мураве′нік) *м.* Тое, што і муравельнік. *Мурашкі нанасілі муравенік бальшы.* Ністанішкі Смарг. *Які вялікі муравенік пат елкай.* Паляцкішкі Вор.

МУРА′ХА *ж.* Тое, што і муравель. *О, як укусіла мураха.* Горск Бяроз.

МУРЛАТЫ *мн.* Верхні вянец у зрубе хаты. *На мурлаты ставім кроквы.* Сяляўшчына Рас. *Мурлаты палажыў, а цяпер буду ставіць кроквы.* Моханава В.-Дзв.

МУРО′К *м.* Выступ у коміне, на які кладуць запалкі. *У пячэ абваліўсё мурок. Прынясі мне запалкі, яны ляжаць на мурку.* Навасёлкі Свісл.

МУРО′ЎКА *ж.* Божая кароўка. Манякова Міёр.

МУРЧА′ЦЬ *незак.* Бурчаць. *Чаго ты там мурчыш сабе пад нос?* Жахавічы Маз.

МУРША′ВЫ *прым.* Гнілы. *Гэта дзеравіна муршава, нічога ні зробіш. Гэты год многа картофлі муршавай.* Навасёлкі Свісл.

МУСЯБЫ′ЦЬ *прысл.* Мусіць. *Мусябыць ён пашоў касіць.* Моханава В.-Дзв.

МУТА′Р *м.* Падманшчык, ілгун. *Вон жэ мутар, усэ мутыт і мутыт і нэ пэрэстае мутыты.* Горск Бяроз.

МУТА′Ч *м.* Тое, што і мутар. *Я не хочу слухаті гэтого муточа. Гэты мутач усё мутіть.* Азарычы Пін.

МУ′ТРА *ж.* Гайка на канцы восі (у возе). *Зламалася мутра, і кола зваліласл.* Альхоўка Навагр.

МУ′ХАРАНА (му′хорана) *ж.* Мухамор. *Мух трэбо травіті мухаранамі. Вонэ ростуть у лесі.* Бастынь Лун.

МУЦІ′ЦЬ (муті′ті, муты′ты) *незак.* Ілгаць. *Пэрэстань ты, мутач, мутіті. Я нэ мутю. Ты мутіш.* Азарычы Пін. *Еты мутар усэ мутыт і мутыт, колы вон пэрэстанэ мутыты. Я нэ мутю.* Горск Бяроз.

МУ′ЦЯ (му′тя) *ж.* Няпраўда. *Гэто усэ мутя.* Азарычы Пін.

МУЦЯР (мутя′р) *м.* Тое, што і мутар. *Вон усэ мутыт, гэты муцяр.* Горск Бяроз.

МУЦЯ′РКА *ж.* Падманшчыца, ілгуння. Горск Бяроз.

МУЧНІ′К *м.* Адтуліна для выграбання мукі з жорнаў. *Праз мучнік му са скрыні вубіраем муку із жорнаў.* Шкураты Браг.

МУ′ШКА I *ж.* Сівец. *От якая мушка, што і каса ня хоча рэзаць. Мушку карову не ядуць. Толькі вясною як яна малодзенькая, тады мушку ядуць карову.* Шкураты Браг.



МУ′ШКА II *ж.* Шчацінне на назе каля капыта. *Вушай капута ў карову е мушка пазадзі, у каня каля капута ззадзі мушка.* Шкураты Браг.

МЫЛІ *м.* Іл. *Вода высохла, оставс мыл.* Бастынь Лун.

МЫ′ЛІЦА *ж.* Ручка на кассі. *Да касаўя прымацаваў мыліцу.* Брусы Мядз.

МЫША′РЫНА *ж.* Імшара. *Мышарына большая і моху можно надерті.* Бастынь Лун.

МЫ′ШЧАЛКІ *мн.* Суставы пальцаў на руцэ. *Мышчалкі быляць на пальцы, што і пальца не сагнуць.* Булыніна Рас.

МЭ′НДАЛЬ *м.* Бабка, спосаб укладкі снапоў на полі. *Паставіў снапы ў мэндаль і накрыў шапкай, хай сохнуць.* Сімакава Кар.

МЭ′НДЛЯ *ж.* Укладка з трыццаці снапоў. *У мэндлі трыццаць снапов.* Дзмітравічы Кам.

МЭ′ТАР *м.* Мера вагі, роўная 1 ц. *Казаў, чатыры мэтры картофлі прадаў.* Навасёлкі Свісл.

МЭ′ТЛІК *м.* Тое, што і мэндаль. *Састаў снапы жыта ў мэтлікі.* Барыскі Лаг.

МЯЗДРА′ *ж.* Мякаць гарбуза. *У гарбузу многа мяздры. Мяздру не ядуць.* Моханава В.-Дзв.

МЯКІ′ННІК (мэкы′ннык) *м.* Адгароджанае месца ў таку для мякіны. *Зробыв мэкынныка, коб було куды сыпаты мэкыну.* Горск Бяроз.

МЯ′КІШ *м.* Лытка. *Мякіш на лыццы от хорошы.* Міратычы Кар.

МЯНЦЮ′ШАЧКА (мяньцю′шачка) *ж.* Дошчачка з дзірачкамі для снавання красён. *А дзе тая мяньцюшачка, трэба ніткі увясьці ў мяньцюшачку і снываць кросна.* Паляцкішкі Вор.

МЯНЦЯ′ (мяньця′) *ж.* Мянташка. *Гэта мяньця касу гастрыць. Мяньцёю меньцяць касу.* Навасёлкі Свісл.

МЯРЛІ′НЫ (мерлі′ны) *толькі мн.* Хаўтуры, пахаванне і жалобная вячэра па нябожчыку. *Баба пашла на мярліны, ена на мерлінах будзе на обедзе.* Тульгавічы Хойн. *У іх умёр чалавек. Яны спраўляюць мярліны. У іх сёня мярліны.* Навасёлкі Свісл.

МЯРЛЮ′К *м.* Тоўсты, непаваротлівы чалавек. *Мярлюк гэты такі тоўсты, што не можа і павярнуцца. Ну, і мярлюк жа, павярнуцца не можа.* Якубова Рас.

МЯРЭ′Ц (мерэ′ц, мэрэ′ц) *м.* Нябошчык. *Пошлі мерца ховать.* Бастынь Лун. *У труну положылі мэрца. Мэрэц лежыт у хаты.* Горск Бяроз.

МЯРЭ′ШЧЫЦЦА *незак.* Здавацца. *Я баюсі нябошчыкаў. Вот пыбыла на Пётравых хаўтурах, дак ён мне і мярэшчыцца.* Моханава В.-Дзв.

МЯ′СА *н.* Тое, што і мяздра. *Гарбузова мяса не ядуць.* Касталомава В.-Дзв.

МЯ′ТЛІК I *м.* Матыль. *Паглядзі, які красівы мятлік паляцеў.* Моханава В.-Дзв.

МЯ′ТЛІК II *м.* Канверт для дзіцяці. *Нарадзілосё дзіця, надо купіць мятліка.* Навасёлкі Свісл.

МЯЦЕ′НЬКА (мете′нька) *ж.* Мянташка. *Косу вэн меньтіть метенькою.* Бастынь Лун.

МЯЧЭ′ЎНІК *м.* Сіт. *Мячэўнік расце ў азярэ. На мячэўніку чорныя шышкі.* Сяляўшчына Рас.

# Н

НА'БЕРАДКІ (на'бераткі) *толькі мн.* Раменная частка вупражы, якая накладаецца на тулава каня. *Пачынілі набераткі і прыладзілі да хамута.* Дзюблеўшчына Маладз. *Набераткі прычапі да хамута і надзень хамут з набераткамі на каня.* Барыскі Лаг.

НА'БІЛЬНІЦЫ (на'быльныцы) *толькі мн.* Набіліцы (у кроснах). *Укінула ў берда і ўставіла ў набільніцы.* Паляцкішкі Вор. *Устаў бэрдо ў набыльныцы.* Горск Бяроз.

НА'БІРЖЫНА *ж.* Вузкая дошка, што накладаецца на капылы полаза наверх вязаў. *Дзве прадоўжныя набіржыны накладаюцца на ўсе капылы.* Ністанішкі Смарг.

НА'БІРКА *ж.* Пасудзіна для ягад. *Набірку рабілі з ліповэй коры і собірилі ў набірку ягады.* Бастынь Лун.

НАБО'Й *м.* Наезджаная частка зімовай дарогі. *Дарога пусціла, набою німа і нельга ехаць ны сынях.* Моханава В.-Дзв.

НАБО'Р *м.* Неабходны матэрыял на боты. *Купіў набор на юхтавыя боты, буду шыць.* Моханава В.-Дзв.

НАВА'ЖВАЦЬ (нава'жвать) *незак.* Прыціскаць. *У кваску клодэм сало і кірпічэм наважваім вэко.* Бастынь Лун.

НАВАЛО'ЧКА *ж.* Мяшок. *Вазьмі сядзь ды палатай навалочкі, бо трэбо жыта ссыпаць і насыпаць у засек.* Міратычы Кар.

НА'ВАРАТ *м.* Бервяно ў зрубе, над прасценкамі, над вокнамі і над дзвярамі. *Сумакі зрабілі, а цяпер трэба лажыць на сумакі навараты.* Шкураты Браг.

НАВЕ'СЦІ (наве'сті) *зак.* Прасачыць. *Думаю навесті, де ку'ра несецца.* Бастынь Лун.

НАВІДАВО'КУ *прысл.* На вачах. *Гэта кніжка ў цябе павінна быць навідавоку.* Моханава В.-Дзв.

НА'ВІСЬ І *ж.* Вялікая чорная хмара. *Вон на небе чорная навісь ідзе, будзе дож.* Жахавічы Маз.

НА'ВІСЬ ІІ *ж.* Сырасць, туман. *Рано была такая навісь, што нічого не відно было.* Тульгавічы Хойн.

НА'ВІСЬ ІІІ *ж.* Іней. *У лесі так красіво, белая навісь вісіць на дэрэвінах.* Бастынь Лун.

НАВО'ЗНІК *м.* Жук-гнаявік. *Нат кучай навоза прыляцеў навозьнік. С кучы выпаўс навозьнік.* Барыскі Лаг.

НА'ГАЛАВЕНЬ *м.* Перакладзіна паміж вушакамі над дзвярамі. *Паставіў вушакі, а на вушакі палажыў нагалавень, я цяпер буду устаўляць дзьверы.* Вострава Маст.

НАГАЛО'ВІЧ *м.* Тое, што і нагалавень. *У вокнах і дзьвярах паставіў улуткі, а на ўлуткі палажыў нагаловіч.* Шкураты Браг.

НАГАЛО'ЎНІК *м.* Дэталь аброці, рамень, які праходзіць каля вушэй па ілбе каня. *Нагалоўнік нада прышыць у вобраці.* Стайкі Барыс.

НА'ГЛЕДАМ *прысл.* Назіркам. *Ен ішоў за мной нагледам аж да лесу.* Бастынь Лун.

НАГЛО'ВЕНЬ *м.* Тое, што і нагалавень. *Вурасла пут саму нагловень, што ў хату няможа зайсці. У дзьвірах і вокнах уврху на ўлуткі, ці вушнякі, кладуць нагловень.* Шкураты Браг.

НАГНЯ'ЦЦА *зак.* Нахіліцца. *Яны ўсе нагняліся на борт і паляцелі, як борт пуламаўся.* Шкураты Браг.



НАГО'ДАЧКА-ПАГО'ДАЧКА *ж.* Божая кароўка. *Нагодачка-пагодачка, калі будзя пагодачка?* Барыскі Лаг.

НАГРУ'ДНІК *м.* Жаночая безрукаўка. *Пашыла сабе нагруднік, кап ні мерзлі плечы.* Міратычы Кар. *Пошыла нагруднік, коб теплее було.* Бастынь Лун.

НА'ДАЛАБА *ж.* Вузкая планка, што набіваецца на капылы паверх вязоў. *Здзелаў надалабу ў сані і набіў на капылы, замацаваў намаржні.* Масты Гродз.

НАДА'ТКІ *толькі мн.* Надбаўка зямлі (да прысядзібных участкаў). *Нам давалі надаткі зямне, у кого було мала.* Бастынь Лун.

НА'ДАЎБ *м.* Папярочны брус, што злучае палазы ў санях, накладаецца на капылы. *Надаўбы скрапляюць палазы ў санях. Надаўбы набіваюць на капылы.* Ністанішкі Смарг.

НА'ДАЎБНЯ *ж.* Тое, што і надаўб. *Надаўбня набіваецца на капылы.* Вострава Маст.

НА'ДЖА *ж.* Надзея. *Наджа раней була на яе, што вона зробіть швэдэр.* Бастынь Лун.

НАДЗЕ'ЖНІК *м.* Шырокае палатно для накрывання дзяжы. *Атрэзала пылытна на надзежнік і памыла дзяжу ныкрываць.* Ваўкавічы Тал.

НАДЗЯВА'ННЕ (надзява'нё) *н.* Начынка. *Трэбо кіндзюк надзяваць вантробамі Гэто мы і называем надзяванё.* Міратычы Кар.

НАДЗЯВА'ЦЬ *незак.* Начыняць. *У гэтым року я не буду кіньдзючок надзяваць.* Міратычы Кар.

НАДКО'СНІК (натко'сьнік) *м.* Меншы брат маладой, які бярэ грошы за касу' у маладога. *У Хведара наткосьнік узяў многа грошы за касу.* Моханава В.-Дзв.

НАДЛА'ПКІ *мн.* Вузкая планка, якая накладаецца на капылы паверх намарзняў. *У полаз набіты капылы, а на капылы набіты нарвы, а на нарвы набіты надлапкі.* Міратычы Кар.

НАДЛО'БЫ *мн.* Тое, што і надлапкі. *У санёх на вязы накладают надлобы.* Азарычы Пін.

НАДО'БРЫЦУ *прысл.* На правы бок. *Надзела сукенку надобрыцу.* Ністанішкі Смарг.

НАДО'ЗАРКУ *прысл.* Назіркам. *Ішоў услет за ім надозарку і згубіў.* Даўгабор'е Рас.

НА'ДУБЕНЬ *м.* Намарзень. *Капылы ўбіваюцца ў палазы. Надубень накладаецца на капылы, а наплестка накладаецца на надубень.* Навасёлкі Свісл.

НАДУБЕ'ЦЦА *зак.* Намерзнуцца. *Так надубелісі едучы на голых сынях.* Моханава В.-Дзв.

НАДЫ'БАЦЬ *зак.* Натрапіць. *Ляснік надыбаў на слет і прывёў у самы двор.* Моханава В.-Дзв.

НАЗДРАНАВА'ТЫ *прым.* Наздраваты. *Але і ноздранаваты хлеп ты спякла.* Навасёлкі Свісл.

НАЗНА'ЙНІЦУ *прысл.* Навыварат. *Надзела сарочку назнайніцу.* Ністанішкі Смарг.

НАКАНЕ'ЧНІКІ *мн.* Дзве дошкі, якія прымацоўваюцца па краях страхі і сходзяцца уверсе, утвараючы канёк. *Нада прыбіць да лат наканечнікі, кап ні зыдрала салому на страсе.* Якубова Рас.

НА'КІД (на'кыд) *м.* Паз. *Кутовныком выбыраем накыд пыд стэкло, а у накыды уставляемо стэкло у окнэвы.* Горск Бяроз.

НАКЛАДА'ЦЬ (наклода'ті) *незак.* Надзяваць. *Порвалас душа у вушанцы, надо зошыті, а то нема ак наклодаті.* Бастынь Лун. *На*

*каня накладают шэлэступы, як едут у сваты.* Азарычы Пін. *Ён накладае на сябе адзенё.* Міратычы Кар.

НАКРАПА′ЦЬ (ныкрыпа′ць) *зак.* 1. Напіхаць. *Пайду вытрасаць крыпаніцу, ды ныкрыпаю саломай.* Сяляўшчына Рас. 2. Начыніць. *Бувала кутніцу накрапаям мясам да спячом у печы, ото смак.* Шкураты Браг.

НАКРЫ′ЎКА *ж.* Века. *Каробка для посного масла і накрыўка дерэвяна.* Бастынь Лун.

НАЛАЖЫ′ЦЬ (наложы′ті, наложы′ты) *зак.* Надзець. *Сорочку надо наложыті. Коротыш трэбо наложыті. Наложыті на ногі чоботы.* Бастынь Лун. *Купыла собэ жуковыну і наложыла на палец. Надо наложыты сорочку.* Горск Бяроз.

НАЛАКТА′ЦЦА (нылыкта′цца) *зак.* Напіцца. *Прышла дамоў, узіла стаўбун мылыка і так нылыкталасі, што чуць здышаласі.* Моханава В.-Дзв.

НАЛЕ′ПКА *ж.* Нітка, якая парвалася пры прадзенні і якую прыпралі зноў. *Дзе ты спрала налепкі, там таўсцей нітка. Нітка парвалася, і я яе прыпрала — вот гэта налепка.* Альхоўка Навагр.

НАЛІ′ЧНІК *м.* Ліштва (у вокнах, дзвярах). *Сы двыра да вакон прыбіты налічнікі. Адырваўся налічнік у вакне.* Якубова Рас.

НАЛО′Й *м.* Наезджаная санная дарога. *Наежжаная зімова дарога — гэта налой. Налой прарваўсё, кепска дарога, нельга ехаць.* Навасёлкі Свісл.

НА′МАРАЖНЯ (на′морожня) *ж.* Намарзень. *У полозы убівають капылы, а на капылы накладають наморожні.* Бастынь Лун.

НА′МАРЖНЯ *ж.* Тое, што і намаражня. *На пярэчкі набіваюцца намаржні ў санях.* Якубова Рас.

НА′МЕТКА (на′мэтка) *ж.* Кавалак палатна, які дарылі на хрысцінах павітусе. *Выткала намэтку подорыті бабцы.* Бастынь Лун.

НАМЫ′ЗНІК *м.* Скураная палоска ў аброці. *У обруці — наморднік і намызнік.* Вострава Маст.

НА-НА-НА *выкл.* Ужываецца, калі падзываюць сабаку. Моханава, Вадва, Касталомава В.-Дзв.

НА′НАЧКІ *прысл.* Нанач. *Дайней хадзілі прасці кудзелю наначкі і там нычывалі.* Сяляўшчына Рас.

НА′НІЦ *прысл.* Навыварат. *Паглядзі, ты ш сукенку надзела наніц.* Сяляўшчына Рас.

НАНІ′ЦІЦЬ *зак.* Надзець ніты на кійкі. *Вуніцілася кобулка ў ніту, надо наніціць. Думаю наніціць, ніт на кійкі і завязаць жыўцом.* Бобрыкі Петр.

НАПАРО′ЦЦА I *зак.* Наесціся. *От так напаролася ягад і наелася так, што ўжо болей нельга було есці.* Шкураты Браг.

НАПАРОЦЦА II *зак.* Натрапіць. *У лесі я напаролася на такую лапіну, што красна, красна было на ёй суніц.* Сяляўшчына Рас.

НАПА′РСТАК (напе′рстак, напёрстак) *м.* Кольца, якім прымацоўваецца шыйка касы да касся. *Купіў напарстак, нада асадзіць касу.* Падкосоўе Навагр. *Наперстак скрапляе косу с косям.* Навасёлкі Свісл. *Паламаўся напёрстак у касе.* Лешня Кап.

НАПЕ′РВА *прысл.* Спачатку. *Мне далі наперва пяць сотак буракоў прапалоць, а як зрабіла гэта, тады яшчэ дыбавілі дзьве соткі, і я ўсё зрабіла.* Моханава В.-Дзв.

НАПІ′ЛАК *м.* Напільнік. *Купіў напілак, хай будзя пілу вастрыць.* Стайкі Барыс.



НА′ПЛЕСТКА *ж.* Вузкая планка, якая накладаецца на капылы паверх намарзняў. *Капылы ўбіваюцца ў палазы. Надубень накладаецца на капылы, а наплестка накладаяцца на надубні.* Навасёлкі Свісл.

НАПЛЯ′ЖЫЦЬ *зак. іран.* Насячы ў вялікай колькасці. *Ого, колькі ты дроў напляжыў за два часа!* Касталомава В.-Дзв.

НАПО′ХНУЦЬ *зак.* Напухнуць. *Зубы баляць, аш пашчэмкі напохлі.* Ністанішкі Смарг.

НАПРАПА′ДЛАЯ *прысл.* Напрапалую. *Ой, як я ацупеў напрападлая.* Шкураты Браг.

НАПРЫ′ШЧЫЦЦА *зак.* Набухнуць (пра пупышкі). *Ужэ бяроза напрышчылася, скора распусціцца лісця.* Шкураты Браг.

НАРАТО′К *м.* Вяровачная сетка для сена каню. *Напхні наратак сена і вазьмі с сабой, будзіш карміць кыня.* Моханава В.-Дзв.

НА′РВІНА *ж.* Жэрдка, якая кладзецца на сані для перавозкі тоўстага бярвення. *Коб прывэзті колоду з лесу, трэбо наложыті нарвіны на большые і на молые сані.* Азарычы Пін.

НА′РВЫ *мн.* Намарзень. *У палазы набіты капылы, а на капылы набіты нарвы, а на нарвы набіты надлопкі.* Міратычы Кар.

НАРО′СКІДКУ (наро′скітку) *прысл.* Пра спосаб арання ад краю і да сярэдзіны загона. *Я свой загон узыраў нароскітку.* Моханава В.-Дзв.

НАРЫ′СХРАСТ *прысл.* Насцеж. *Чаго ты расчыніў дзьверы нарысхраст.* Моханава В.-Дзв.

НАСЕ′ДАК *м.* Яйцо, з якога не выйшла куранё. *Сядзела пісклятніца на яйцах, а наседак астаўся, ня вышаў пісклёнак.* Ваўкавічы Тал.

НАСІ′ЛА *н.* Шост. *Повесілі кросна на носілы, коб вусохлі.* Азарычы Пін.

НАСІ′ЛКА (насы′лка) *ж.* Тое, што і насіла. *Повэс на носылку цыбулю, бо ля пэчы попэчэцца.* Горск Бяроз.

НАСІ′ЛЫ (носі′лы) *толькі мн.* Насілкі. *Возьмі носілы, му возьмім копу і пуднесом ік стогу, будзем у стог класці.* Бобрыкі Петр.

НАСІ′СКА (насі′ско) *м.* Вялікі нос. *От насіско, дак насіско, на ўсю губу.* Навасёлкі Свісл.

НА′СЛІШЧА *н.* Сцелішча. *Гані кароў на насьлішча, лён ужо пыднялі.* Сяляўшчына Рас.

НАСО′Ў *м.* Доўгая верхняя мужчынская вопратка без падклада. *Насоў ткалі з вярхоўя і надзівалі ны кыжарку.* Сяляўшчына Рас. *Вярхоўя спраду, вытку і пашыю хызяіну насоў, хай носіць. Насоў надзівалі на кажурку і так насілі на сінакос.* Даўгабор'е Рас.

НА′ТХА *ж.* Адрыжка. *Колы з'ем молока, дык у мэнэ такая натха, шчо нэ могу.* Горск Бяроз.

НАХІБАВА′ЦЬ (нахыбова′ты) *зак.* Завяршыць верх страхі. *Збыв з досок хыба і положыв на крышу. От я і нахыбовав хату. Трэбо нахыбоваты крышу.* Горск Бяроз.

НАХО′ХЛІЦЦА *зак.* Натапырыцца (пра пер'е). *Куры′ца нахохлілася, пачула арла і бароніць ціплят.* Моханава В.-Дзв.

НАХО′ХЛІЦЬ *зак.* Натапырыць. *Індзюк нахохліў свой хвост.* Моханава В.-Дзв.

НАЦІРА′ЦЬ *незак.* Змятаць каласкі з абмалочанага збожжа. *Змалаціў жыта, а цяпер вазьму мятлу і буду націраць мятлой.* Ваўкавічы Тал.

НАЦЯ'ГІЧ *м.* Кіёк, адзін канец якога ўсаджан у дзірку навоя і не дае навою круціцца. *Трэ засадзіць нацягіч, каб не каціласа навойка.* Жахавічы Маз.

НАЧАПУРЫ'ЦЦА (начэпуры'цца) *зак.* Прыбрацца. *Чапурыжка начапурыласа дай пошла.* Бастынь Лун.

НАЧЫ'ПКАЦЦА *зак.* Напакавацца. *Начыпкаліся на машыну, дак борт на паварoці і паламаўся.* Шкураты Браг.

НА'ЧЫСТА *прысл.* Поўнасцю. *Я з ім рысчыталася начыста і болей я яму ні віньвата.* Моханава В.-Дзв.

НЕ'БА (не'бо) *н.* Скляпенне. *Вудралася неба ў печы, трэба строіць.* Шкураты Браг. *Вупала небо ў печы, надо новое.* Бобрыкі Петр.

НЕ'ГАДЗЬ (не'годзь) *ж.* Непагода. *От акая негодзь. Ідзе і ідзе цэлый дзень дож.* Бобрыкі Петр.

НЕДАБО'Й *м.* Брак у палатне, калі нітка утку слаба прыбіта бёрдам. *Во, палоска ікая ў палатне, гэта недабой бёрдам. Ты не дабіла нітку ўтока бёрдам.* Моханава В.-Дзв.

НЕДАЕ'ДАК (недое'док) *м.* Недаедзены кавалак хлеба. *Што ты покінув свэй недоедок, доедай хлеб.* Бастынь Лун.

НЕДАЛЭ'НЖНЫ (нідалэ'нжны) *прым.* Няздольны, няздатны. *О, які ты, Стасю, нідалэнжны, як ты будзяш жыць?* Навасёлкі Свісл.

НЕДАСЕ'К (недосе'к) *м.* Тое, што і недабой. *Ак ты ткала, погледзі, акі недосек у полотне.* Бастынь Лун.

НЕДАСНУ'Й *м.* Памылка пры снаванні, калі снуецца меней пасам, чым павінна быць. *Снывала, снывала і палучыўся недасный. Нысныва́ла дзвінаццаць пасам, а трэба трынаццаць.* Замошша Рас.

НЕДАХО'Д *м.* Памылка пры снаванні, калі снуючы, не даходзіць да наступнага калочка, варочаецца і накладвае аснову на той жа самы калочак у другі раз. *Ня ўмела сныва́ць кросны, палажыла два разы на адзін калочак, вот і недаход пры снаванні.* Вадва В.-Дзв.

НЕ'ЖЫТ *м.* Сып на целе ў дзіцяці. *Дзіця запарыла, і нежыт у дзіцяці вусыпуў. Укрыла рэбёнка богато і запарыла нежыт.* Бобрыкі Петр.

НЕЖЫТО'ЎКА (нежыто'вка) *ж.* Вялікая скула. *Мэнэ нежытовкі обсєлі, одну загою, другая сядіть, прохолодав. Ак сільно болять нежытоўкі.* Бастынь Лун.

НЕЗАБУ'ДЗЬКА (незабуцька) *ж.* Незабудка. *Незабуцька галубая, яна расце па канавах.* Міратычы Кар.

НЕЗАПАМІНА'ЙКА *ж.* Тое, што і незабудзька. *Незапамінаек многа каля рэчкі. Незапамінайка цьвіце сінім цьвяткам.* Паляцкішкі Вор.

НЕНАВІ'ДНЫЙ *прым.* Агідны, брыдкі. *Вон такі ненавідный, шчо аж гледэты нэ хочэцца.* Горск Бяроз.

НЕНАРО'КАМ *прысл.* Незнарокам. *Ён гэта зрабіў ненарокам.* Моханава В.-Дзв.

НЕ'ПРАДЗЬ (нэ'прадь) *ж.* Жанчына, якая не ўмее прасці. *Нэпрадь не ўмела прасці, не скрутіла ніткі.* Бастынь Лун.

НЕПРАСЦІ'ВЫЙ (непрості'вый) *прым.* Злапамятны. *Вэн чэловек непростівый, вэн доўго буде помніть.* Бастынь Лун.

НЕ'РАДЗЬ (не'рацъ) *ж.* Дробныя ягады. *Ягады перавейце на вятру, нерацъ паляціць, а добрыя ягады прама пасыплюцца.* Моханава В.-Дзв.

НЕ'ТРА *ж.* Вош. *О, ета нетра дужо кусае. Тэпэр нетры нэт, вывэліса.* Горск Бяроз.



НЕЎЗАБУ'ДКА (невзабу'дка) *ж.* Незабудка *Невзабудка ростэ коло рэчкі.* Азарычы Пін.

НЁХА *м. і ж.* Неахайны чалавек. *Нёха ета не можэ сваё короны' помыті.* Бастынь Лун.

НІЖЧЭ'ЙШЫ *прым.* Ніжэйшы. *А той за гэтага шчэ ніжчэйшы.* Тульгавічы Хойн.

НІ'КАЦЬ *незак.* Сланяцца па кутках, хадзіць без мэты. *От, нікае і нікае, чаго-то не хочэ іці на работу.* Бобрыкі Петр.

НІ'ТКА *ж.* Нізка (грыбоў). *Купіла нітку грыбэв і буду варыть юшку.* Бастынь Лун.

НІЦ (ныц) *прысл.* Нічога. *Стоўкла тоўканыцы і ештэ, бо больи ныц нэ ворыла.* Горск Бяроз.

НІ'ЧАЛЬНІЦЫ *толькі мн.* Тоўстыя ніткі, якія маюць петлі для нітак асновы. *Завяжы ў нічальніцах жыўца, кап нічальніцы ні раскідаліся. Нада ўкідаць ніткі асновы ў нічальніцы.* Навасёлкі Свісл. *Буду ніткі асновы ў нічальніцы ўводзіць.* Паляцкішкі Вор.

НІ'ЧАНІЦЫ *мн.* Прапушчаны па кіёчках ніта шнурок, да якога прывязваюцца петлі ніта. *У ніту два кіёчкі і дзве нічаніцы. Нічаніцы прывязваюць па кынцах кіёчкаў.* Ваўкавічы Тал.

НІЧО'ГІЙ (нычо'гы, нычо'гый) *прым.* Дрэнны, кепскі. *Вона вэльмэ нычога.* Дзмітравічы Кам. *Нычогый чоловэк, коб ему лыхо.* Горск Бяроз.

НО'ВІНА *ж.* Поле, узаранае першы раз. *От я новіну содраў і посеєў лён. На новіне поросце добрый лён.* Бобрыкі Петр.

НО'ГЕЦЬ *м.* Ногаць. *Які велькі ў вас ногець.* Шкураты Браг.

НО'ЖНЫ (ны'жны) *толькі мн.* Нажніцы. *Купіла ныжны овэчкі стрыгчы.* Бастынь Лун.

НО'КАЦЬ *м.* Ногаць. *Нокаць баліць на пальцу, мусіць будзіць нырываць.* Сляўшчына Рас.

НО-НО *выкл.* Ужываецца, калі паганяюць каня. Моханава В.-Дзв.

НОС I *м.* 1. Вострая частка чаго-небудзь. *Нос майго яйца пабіў тваю пуху, як ішлі на быйца.* Моханава В.-Дзв. 2. Востры канец бульбы, на якім размешчаны вочкі. *У картоплі на носу много вочэк, будзе картопля ядрэна.* Бобрыкі Петр.

НОС II *м.* Лыч. *Свіня рыя носам, нада ёй пракалоць нос.* Паляцкішкі Вор.

НО'ХАЦЬ (нохэць) *м.* Ногаць. *Абрэзала каротка нохэць. На гэтым пальцы няма нохця.* Стайкі Барыс.

НІЧО'ГА (нычо'го) Кепска. *Ох, дорога колята, нычого було ехаты.* Горск Бяроз.

НЮ'ХАЎКА *ж.* Вялікі нос. *От ікая ў яго вялікая нюхаўка.* Моханава В.-Дзв.

НЮ'ШКА *ж.* Мыса. *У каровы баліць нюшка, і йіна ня можыць травы скупці.* Ваўкавічы Тал.

НЮШО'К *м.* Малая колькасць. *Усып мне соды нюшок, нюшок солі, нюшок цукру, перцу, усё будзіць нюшок.* Сляўшчына Рас.

НЯБО'Г (небо'г) *м.* Пляменнік. *Ік ко мне ў госці прыехоў небог.* Бобрыкі Петр.

НЯБО'ГА (небо'га) *ж.* Пляменніца. *Моя небога вучыцца ў Мінску.* Бобрыкі Петр.

НЯБО'Ж (небо'ж) *м.* Тое, што і нябог. Жахавічы Маз. *Мой нябож пашоў касіць.* Тульгавічы Хойн.

НЯБО′ЖА (небо′жа) *ж.* Тое, што і нябога. *Нябожа такая хворая, усё хварэе.* Тульгавічы Хойн.

НЯГО′ДА (него′да) *ж.* Непагода. *Такая негода, куды ву пойдзеце, начуйце ў нас.* Бобрыкі Петр. *На дворэ негода, хоть ты з дому нэ лазь.* Бастынь Лун.

НЯДБА′ЙКА (недба′йка) *ж.* Нядбайла. *Што ні кажы етой недбайцы, усэ однэ вона ходіть без дела.* Бастынь Лун.

НЯДБА′ЙНІК (недба′йнік) *м.* Нядбайла. *Гэтому недбайніку нічого не надо.* Бастынь Лун.

НЯДБА′ЙНІЦА (недба′йніца) *ж.* Тое, што і нядбайка. *У етой недбайніцы нічого нема. Да вона ж нічого і не робіть, толькі ходіть по сэле.* Бастынь Лун.

НЯЛО′ЖАНЫ *прым.* Некастрыраваны. *Баран наш няложаны, пакінулі для авечак.* Ністанішкі Смарг.

НЯПО′РНЫ (ніпо′рны) *прым.* Несвоечасовы. *Радзіласё ніпорнаё дзіцё.* Міратычы Кар.

НЯУДО′БА (неудо′ба) *ж.* Поле, непрыгоднае для распрацоўкі. *Там зямня одна неудоба, і мы не ором ее.* Бастынь Лун.

НЯ′ЎКАЦЬ (няўка′ті) *незак.* Мяўкаць. *Кэт няўкает, вэн хочэ у хату.* Азарычы Пін.

## О

О′ЖАГ *м.* Дзяржанне ў памяле. *Ідзі зрабі ожага да памяла.* Навасёлкі Свісл.

О′ЖЫК *м.* Вожык. *Ляжыць ожык, скруціўшыся ў клубок.* Навасёлкі Свісл.

О′КА (о′ко) *н.* Лаз у склеп. *Закрэй око, бо упадэш. Око е у склеповэ, око е ў ямцы, на гору око.* Дзмітравічы Кам.

О′СУХ *м.* Акраец. *Вын адрызав от буханкі осуха.* Дзмітравічы Кам.

О′ЧЧЫМ (о′чым) *м.* Айчым. *У яго оччым памёр.* Якубова Рас. *У его очым.* Бобрыкі Петр.

## П

ПАБАЕ′ШКА *ж.* Шляга з тоўстым канцом, пры дапамозе якой колюць дровы. *Вазьмі пабаешку і стукні па абуху тыпыра, можа і расколіцца тоўсты качур.* Моханава В.-Дзв. *Калун убі ў чурбан і ўдар пабаешкай по калуну, і чурбан расколіцца.* Бастынь Лун.

ПАБІРА′ЦЬ *незак.* Падымаць лён. *Лён адлежаў, надо іці пабіраць.* Паляцкішкі Вор.

ПАБО′ЙНЯ *ж.* Тое, што пабаешка. *Тоўстыя сукуватыя дровы рубіць — пабойню пад рукамі нада мець.* Моханава В.-Дзв.

ПАБУЗУВА′ЦЬ *зак.* Паперабіраць. *А мъя (карова) дък дасі і ня п'ецъ — пубузуіць, пубузуіць і атойдзіцца.* Новыя Турасы Уш.

ПАВА′Л (пова′л) *м.* 1. Гара (на хаце). *Там на повалі лежыт. Узьлезь на повал і возьмы.* Горск Бяроз. 2. Столь. *У хаты на бальках лежыт повал.* Горск Бяроз.

ПАВАРЭ′ШКА (пуварэ′шка) *ж.* Апалонік. *Налі мне адну пуварэшку халастой крупені.* Якубова Рас.

ПАВЕ′СМА (повы′смо) *н.* 1. Звязка мятага лёну. *Лён трут і вяжут у повысмо.* Дзмітравічы Кам. 2. Жменя сцёртага лёну. *У павесму 12 жменяў лёну.* Шкураты Браг. 3. Адна жменя кужалю. *Я нычысала аш 15 павесмаў лёну.* Моханава В.-Дзв.



ПАВЕ′ЧКА *н.* Павека. *Адно павечка закрыла, а другое не, мусібыць спалоханая дзіця.* Якубова В.-Дзв.

ПАВІВА′Ч (повыва′ч) *м.* Спавівач. *Возьмы повывач і повы дытя, коб нэ плаколо.* Горск Бяроз.

ПАВІ′ДНЫЙ (повы′дный) *у знач. выказ.* Павінен. *Вона повыдна прыехаты, то вон ее судосыт і прывэдэ до дому.* Горск Бяроз.

ПАВІЛІ′ЦА *ж.* Бярозка (пустазелле). *Па бульбі дужа многа павіліцы.* Моханава В.-Дзв.

ПАВУ′ТКА (пову′тка) *ж.* Тое, што і павіліца. *У картоплі мныго повуткі.* Дзмітравічы Кам.

ПАВЫСМЫКА′ЦЬ (повысмыка′ті) *зак.* Павыцягваць. *Трэбо лён з воды повысмыкаті да послаті.* Азарычы Пін.

ПАГАДАВА′ЦЬ *зак.* Пакарміць. *Пайду пагадую парася, вутачак і цяплята. Нада іці ўпорвацца: тапіць печ, вутачак вупусьціць, цыплята пагадаваць.* Шкураты Браг.

ПАГА′РКА (пыга′рка) *ж.* Пенка. *На молоцэ парэному стоілас пыгарка.* Горск Бяроз.

ПАГАСІ′ЦЦА *зак.* Замарыцца. *Му сягодні з Валюшкай пагасіліся, будам спаць, як убітыя.* Шкураты Браг.

ПАГБА′НЫ (пыгба′ны) *прым.* Пагнуты. *Што ты мне даеш пыгбаны гвост.* Моханава В.-Дзв.

ПАГАСТРЫ′ЦЬ (погостры′ты) *зак.* Павастрыць. *Затупыўся гострэй у ножовы, трэбо погострыты.* Горск Бяроз.

ПАГЛАЗУ′РЫЦЬ *зак.* Падсініць. *Купіла глазур, хачу паглазурыць куртку.* Моханава В.-Дзв.

ПАГО′НЯ (пого′ня) *ж.* Невялікае балота. *У погоні ростэ ольшына, там вэсною кал і муля, з вэсны водяно.* Горск Бяроз.

ПАГО′РШНІК *м.* Чалавек, які прадае гаршкі. *Пагоршнік у дзярэўню прыехаў, гаршкі прадае.* Шкураты Браг.

ПАГРАБА′ШКА (погрэба′шка) *ж.* Матыка. *Ты б погрэбашку схапіў і вуцеў бу его.* Бобрыкі Петр.

ПАГРАМАЗДЗІ′ЦЬ (погромозді′ті) *зак.* Моцна збіць. Азарычы Пін.

ПАДАГО′НЬ *м.* Шляя. *Падагонь прышыты да хамута. Падагонь надзяюць каню на спіну.* Вострава Маст.

ПАДАКЕ′ННІК (подоке′ннік) *м.* Падаконнік. *Постаў возон на подокеннік.* Бобрыкі Петр.

ПАДАКО′НАК *м.* Тое, што і падакеннік. *Падаконак у вакне згніў, нада новый зрабіць.* Сляляўшчына Рас.

ПАДАКО′ННІК *м.* Апошняе бервяно пад вакном у зрубе. *Ужо палажылі брайно-падаконнік, а цяпер будам лажыць сумакі.* Шкураты Браг. *На чацьвёрты вянец кладзецца падаконнік.* Паляцкішкі Вор.

ПАДАЛЬНІ′ЦА *ж.* Падол. *Падагніца ў спадніцы падальніцу.* Ністанішкі Смарг.

ПАДАПЕ′ЧАК *м.* Падпечак. *Загані курэй у падапечак.* Альхоўка Навагр.

ПАДАРО′ЖНІЦА *ж.* Трыпутнік. *Падарожніца расцець па дарозі.* Якубова Рас.

ПАДАСЕ′ТНІКІ *мн.* Сукаватыя дровы, якія нельга рассячы. *Дрова, якія нельга рассекці, му зовом падасетнікамі і цеплім імі толькі восець.* Шкураты Браг.

ПАДАШВА′ (подошв′а) *ж.* Ніжні слой каравая. *У короваевы есть подошва, а на подошву мы кладэм шышкы і пэчэм коровай. На подошву трэбо добрэ мэсыты тэсто, туго, а на шышкы найтужэй мэсыты; подошва — ныз коровая, а вэрх подошвы робят шышкы.* Горск Бяроз.

ПАДБАРО′ДАВІЧ *м.* Частка аброці. *Зашпулі каню падбарода-віч, а то аброць спадзе.* Шкураты Браг.

ПАДБАРО′ДАВІЧЫ *мн.* Мясістая нарасць пад дзюбай ў курэй. *У куры красныя падбародавічы, будзя ішчэ несціся.* Шкураты Браг.

ПАДБАРО′ДАЎНІЦА (пудборо′доўніца) *ж.* Ашыек у каровы. *От добрая пудбородоўніца ў моей корову.* Бобрыкі Петр.

ПАДБАРО′ДЗІЦА (пудборо′дзіца) *ж.* Тое, што і падбародаўні-ца. *От у корову вісіць пудбородзіца.* Бобрыкі Петр.

ПАДБАРО′ДЗІЧ (падборо′дыч) *м.* Ніжняя частка галавы (у свінні). *Зарэзала паршука і наварыла з падбородыча квашэліны.* Горск Бяроз.

ПАДБАРО′ДНІК (пыдбэрэ′днік) *м.* Падбародак. *Вэн добрый собэ отгодовав пыдбэрэднік.* Бастынь Лун.

ПАДБАРО′ДЫЧ *м.* Мясістая нарасць пад дзюбай ў курэй. *У пэўня на галаве грэбянь, а пад барадою падбародыч.* Навасёлкі Свісл.

ПАДБІ′ЎКА *ж.* Падшэўка. *Купіла падбіўку, нада падбіць пат сачак.* Моханава В.-Дзв.

ПАДБО′ЙКА (пыдбо′йка) *ж.* Падол. *Трэбо подшыті пыдбойку у коротышу.* Бастынь Лун.

ПАДБО′Р *м.* Каблук. *Нада падбіць падбор у боці.* Стайкі Барыс.

ПАДБЭ′ЛЬКІ *мн.* Бярвенне ў зрубе, на якое кладуць бэлькі. *На дванаццатым вянку ложаць падбэлькі, а на падбэлькі кладуць бэлькі.* Паляцкішкі Вор.

ПАДВА′ЛАК (пудва′лок) *м.* Папярочнае бервяно пад падлогай. *Подвалок пуд подлогэю зогныв, надо нового подложыты.* Горск Бяроз.

ПАДВАРО′ТНІЦА (пыдворэ′тніца, пыдваро′тніца) *ж.* Падва-ротня. *Іді пыдворэтніцу заложы, а то поросята лезуть.* Бастынь Лун. *Вымі пыдваротніцу ў клуні і ввязі вэз, і заложы пыдваротні-цу, і зачыні двэры.* Азарычы Пін.

ПАДВЕ′ЗЕНКА (пудве′зенка) *ж.* Паркалёвая хустка. *Купіла собе нашто дзень хустку-пудвезенку.* Бобрыкі Петр.

ПАДВІ′ВІЧ *м.* Падкладка ў клубку. *Палажэце маленькі падві-віч пат клубочак, будзя скарэй віць ніткі.* Міратычы Кар.

ПАДВІ′РАК *м.* Завостраная палачка, якая служыць для пра-цягвання лыка пры пляценні лапцей. *Вазьмі падвірак, а то як гэта без падвірка плесці лапці.* Касталомава В.-Дзв.

ПАДВІ′РЫНА *ж.* Брак у палатне, нітка асновы, якая ідзе па-верх палатна. *Падвірына ідзець павярху ў палатне. Як кідала ў ні-ты, ня ўкінула нітку асновы ў кабылку. Вот і ідзець падвірына праз усё палатно.* Якубова Рас.

ПАДВІ′ЧКІ *мн.* Стужачкі, якія прыкалваюць маладому і мала-дой. *Наста падвічкі прыкалола маладой.* Масты Гродз.

ПА-ДВО′ЙНАМУ (по-двэ′йному) *прысл.* І так і так. *Гэ кауть по-двэйному: цукар по-даўнейшэму, а сахар по-новэйшэму.* Бастынь Лун.

ПАДВО′РАК *м.* Двор (каля хаты). *Заўтра сьвята. Нада бярозкі укыпаць на падворку.* Моханава В.-Дзв.



ПАДВО′РЫСКА (пыдворыско) *н.* Месца, дзе калісьці стаяла хата. *Пыдворыско травою зарасло, і не відно, што тут хата стояла.* Бастынь Лун.

ПАДГЕ′ЙСТРА *ж.* Падгерац. *У сярэдзіні ў калёсах прыкрап-ляяцца да правіла падгейстра, а спераду надзяваяцца падгейстра на шворан.* Шкураты Браг.

ПАДГАЛО′ЎНІК *м.* Падстаўка для галавы ў ложку. *Зрабіў падгалоўнік у ложак, кап вышэй було галаве, а то ніска пад гала-вой.* Касталомава В.-Дзв.

ПАДГО′РЛА (подго′рло) *н.* Ашыек у каровы. *Гладка корова, аж подгорло трасецца.* Горск Бяроз.

ПАДГО′РЛЕ (подгорлё) *н.* Горла. *У яго забалело падгорлё, ні можа гаварыць, павязлі ў бальніцу.* Міратычы Кар.

ПАДГО′РЛІЦА (подго′рліца) *ж.* Вузкая дошка пад шыяй у вала. *Волоў запрэгаті е ярмо і е дошка-падгорліца.* Бастынь Лун.

ПАДДЗЕ′ЎЧЫНА *ж.* Паддзёўка. *Ён гэту паддзеўчыну на зямлі кініць, а йіна настыніць, ён надзеніць і прастудзійся.* Ваўкавічы Тал.

ПАДЖО′ГА *ж.* Маленькія шчэпкі. *Там на каптуру ля коміна ляжыць сухая паджога.* Моханава В.-Дзв.

ПАДЖЭ′ДЛІСТЫЙ *прым.* У абліпку, цесны, вузкі (пра адзен-не). *От паджэдлістыя штаны пашыў, што чуць-чуць надзеў, стаіць і не можа сесці. Думаў, што разлезуцца па швам.* Жахавічы Маз.

ПАДЗЕ′ЛЬШЧЫВЫЙ (подзе′льшчывуй) *прым.* Шчодры, па-мяркоўны. *Подзельшчывуй ён чэловек, калі ў его е што-нібудь, то не одкажа, дасць.* Бобрыкі Петр.

ПАДЗО′РНІК *м.* Прасціна з карункамі ці вышыўкай. *Пасьцялі падзорнік, а тады сьцялі капу.* Ністанішкі Смарг.

ПАДКАЛО′ТКА (пыдкало′тка) *ж.* 1. Суп з бульбы, надкалоча-ны мукой. *Што ў нас, пыдкалотка? Гэ. Накрышыла булмы, пыдкало-тіла мукой, во гэ і е пыдкалотка.* Бастынь Лун. 2. Рошчына, з якой вараць поліўку. *Учыні паткалотку на юшку.* Моханава В.-Дзв.

ПАДКАЛО′ЧАНІК *м.* Тое, што і падкалотка ў 1-м знач. *Я учо-ра варыла падкалочанік. Вы ўчора елі падкалочанік, ці падабаецца вам?* Навасёлкі Свісл.

ПАДКАТА′ЦЬ (пудкотэ′тэ) *зак.* Падшыць падол. *Пудкатала плацце.* Дзмітравічы Кам.

ПАДКРУ′П′Е (пыдкру′п′е) *н. зборн.* 1. Дробныя грэцкія крупы. *Пыдкруп′е — гэ мелкіе грэцкіе крупы.* Бастынь Лун. 2. Адходы ад круп. *Надо выполоть пыдкруп′е з круп.* Бастынь Лун.

ПАДКРЫ′ЛЛЕ (пыдкры′лье) *н.* Пылок з кветак, які прыносіць пчала з палёту. *Што прыносіть пчэла пылок на крыльцах, ето і е пыдкрылье.* Бастынь Лун.

ПАДЛА′ДЗІЦЬ (пыдла′діті) *зак.* Адрамантаваць. *Одорвавса у чоботу копкас. Пойду пыдлажу. Копкас трэбо пыдладіті.* Азарычы Пін. *Загнілі ўлуткі ў вокнах і дзьверах, трэба новыя падладзіць улуткі.* Шкураты Браг. *Надо мой дом пыдладіті, а то пудлога діра-ва.* Бастынь Лун.

ПАДЛА′СІЦА *ж.* Ласка (звярок). *У пастку пупалася падласіца.* Моханава В.-Дзв.

ПАДЛІ′ЧЧА *н.* Радзімы знак на твары. *Падліčча — гэто крас-ныя пятна на ліцу, у нас толькі так кажуць.* Сяляўшчына Рас.

ПАДЛО′ЖЫНА (пыдло′жына, пудло′жына) *ж.* Масніціна. *Пуд-ложына згніла ў пудлозі.* Горск Бяроз. *Пыламалас пыдложына, буду нову ложыті.* Бастынь Лун.

ПАДЛО′Й *м.* Нарыў, скула. *У майго Стасюка вялікі падлой на пяце, ой і баліць жа гэты падлой.* Навасёлкі Свісл.

ПАДМО′СЦІ *толькі мн.* Адонак. *Зрабій падмосці, буду лажыць стох.* Барыскі Лаг.

ПАДНАДО′ЛАК *м.* Падол. *У спадніцы паднадолак падшый, а то абабійсі.* Моханава В.-Дзв. *Атырвайся паднадолак у спадніцы, нада падлажыць.* Сяляўшчына Рас.

ПАДНАДО′ЛЬНІК *м.* Тое, што і паднадолак. *У цябе вісіць паднадольнік у спадніцы, вазьмі і падрубі яго.* Вадва В.-Дзв.

ПАДНО′ЖАК *м.* Педаль. *У зэдліку калаўрота зроблены падножак, на гэты падножак ставім нагу і прадзём.* Міратычы Кар.

ПАДНО′ЖКА (падно′шка) *ж.* Понаж. *Трэба прычапіць за нічальніцы падношкі. Я адну падношку прывязала.* Паляцкішкі Вор.

ПАДНО′ЖКІ (падно′шкі) *мн.* Абстрыжаная каля ножак у авечак воўна. *Воўну хрыбетную кладзі аддэельна, а ат патпуззя і падношкі лажы разам.* Даўгабор′е Рас.

ПАДНЯБЕ′ННЕ *н.* Скляпенне. *Вывалілася паднябення ў печы, нада пыладзіць.* Сяляўшчына Рас. *У маей печы паднябення ніская.* Моханава В.-Дзв.

ПАДНЯДЗЕ′ЛІЦЦА *зак.* Надаць сабе святочны выгляд, прыбрацца. *Ты глядзі, як іна паднядзелілася, што я чуць яе пазнаў.* Моханава В.-Дзв.

ПАДО′ЛАК (подэ′лок) *м.* Падол. *Спадніца стара, што ужэ светіцца подэлок.* Бастынь Лун. *Падрайся падолак у сукенцы.* Міратычы Кар.

ПАДО′МКІ *толькі мн.* Рэшткі стравы на дне. *Мама, ты мне ўсе падомкі пазьлівала. Сынок, дак падомкі смачней.* Міратычы Кар.

ПАДО′СКА (подэ′ска) *ж.* Падосак. *Падоска жалезная прыбіта да восі.* Моханава В.-Дзв. *Прыбій подэску ік осі.* Бастынь Лун.

ПАДО′ЧАК (подо′чэк) *м.* Дошчачка, якой закрываюць адтуліну ў жорнах. *У жорнах е подочэк. Подочкэм закрываемо окэнцэ у жорнах.* Бастынь Лун.

ПАДО′ШВА *ж.* Аснова плуга. *У плузя ёсь пастумант, да яго прыкручававяцца падошва.* Ністанішкі Смарг.

ПАДПАДЗЯ′НКА (пыдпыдя′нка) *ж.* Перапёлка. *Пыд-пыді, пыд-піді, пыд-пыді — так співае пыдпыдянка.* Бастынь Лун.

ПАДПА′ЛАК *м.* Тоўсты блін з кіслага цеста. *Хлеб ужэ падышоў, возьмі цеста і падпалка спячы.* Шкураты Браг.

ПАДПАЛО′НІК (подполо′нык) *м.* Тоўсты блін. *Возмэ на пытэльні подполоныка й йіж. Вонэ едят подполоныка.* Дзмітравічы Кам.

ПАДПАЛЯ′НКА (патпаля′нка) *ж.* Перапёлка. *Я знайшоў у жыці гняздо патпалянкі. Патпалянка пяе: піт-пілі, піт-пілі, піт-пілі!* Навасёлкі Свісл.

ПАДПА′СІЧ *м.* Падпасак. *Падпасіч трубіць, трэба выганяць карову.* Шкураты Браг.

ПАДПІ′ЛАК (патпі′лак) *м.* Напільнік. *Дай мне падпілка пілу патачыць.* Вадва В.-Дзв.

ПАДПІ′НАК (патпі′нак) *м.* Пасак (у вупражы). *Палажы сядзёлку на кыня і паццягні патпінак.* Моханава В.-Дзв.

ПАДПІ′НКА (патпі′нка) *ж.* Тое, што і падпінак. *Палажыця на спіну каню казу і зацягніця патпінкай. Патпінка ўсуваецца ў казу і завязваацца за аглоблі.* Ністанішкі Смарг.



ПАДПУ′ЗЗЕ (патпу′ззе) *н.* Падчарэўе. *Зарэзала парсюка, сала было добрая на хібу, а патпуззе было тонкаё.* Стайкі Барыс. *Воўну хрыбетную кладзі аддэельна, а ат патпуззя і падношкі лажы разам.* Даўгабор′е Рас.

ПАДРАБЯ′ЗКІ (пыдрыбя′зкі) *толькі мн.* Дробныя кавалачкі сала. *У кошанцы е грэцка крупа і пыдрыбязкі жыру.* Бастынь Лун.

ПАДРАПА′ЧЫЦЬ (пыдрыпа′чыць) *зак.* Паспружынаваць. *Хачу пыдрыпачыць пупар, кап мягчэй було.* Моханава В.-Дзв.

ПАДРА′ЦЬ *зак.* Паскубці. *Падрала пер′я, а цуркі па хаці параскідала.* Шкураты Браг.

ПАДРО′БЕНЬКІ (подро′бэнькі) *толькі мн.* Вантробы. *Зарэзала тэля і всэ подробэнькі оставіла собэ.* Горск Бяроз.

ПАДРУ′БКА (пыдру′бка) *ж.* Падол. *Падшэй пыдрубку у спонніцы.* Азарычы Пін.

ПАДРУ′ЧНІК (пыдру′чнік) *м.* Цвікля. *Шыла сорочку і ўставіла пыдручнікі ў рукаў. Одін пыдручнік бэльшы.* Бастынь Лун.

ПАДСА′НКІ (пытса′нкі, пыдса′нкі) *толькі мн.* Маленькія сані. *Прычапіў пытсанкі да саней, паеду па бярвення.* Моханава В.-Дзв. *На пыдсанкі і на капылы кладуцца бабы, коб не поломаліс пыдсанкі, колі кладуть бэрвэно.* Бастынь Лун.

ПАДСКРЭ′БІШ (патскрэ′біш) *м.* Апошняе дзіця ў бацькоў. *Гэта наш патскрэбіш, наш пасьледні сынок.* Моханава В.-Дзв.

ПАДСКРЭ′БУХА (патскрэ′буха) *ж.* Маленькая булачка. *Паскрэбла дзешку і спікла патскрэбуху.* Моханава В.-Дзв.

ПАДСКРЭ′БУШКА (патскрэ′бушко) *н.* Тое, што і падскрэбуха. *Лошкай выскрабла дзешку і спякла патскрэбушко.* Міратычы Кар.

ПАДСТА′РАСТА (пудста′роста) *м.* Чалавек, які памагае свату на вяселлі. *Пудстароста — гэто кай помочнік старосты на вэсэллі.* Азарычы Пін.

ПАДСТА′ЎКА (пыдста′ўка) *ж.* Рамка для мядовых сотаў. *У вулей я паставіў пыдстаўку, а другую вынуў з мэдам.* Бастынь Лун.

ПАДСУСЕ′Д (пыдсусі′д) *м. устар.* Бедны чалавек, які не меў сваёй хаты. *Пыдсусід жыў у пыдсусідях.* Бастынь Лун.

ПАДСЦЕ′ННІК (патсце′ннік) *м.* Ачэп. *Патсценнік — пасследні вянец у хаці. На патсьценнік ставюць кроквы.* Якубова Рас.

ПАДСЦЁЛ *м.* Падсціл. *Пашоў гліцы назгрэбаў на падсцёл.* Жахавічы Маз.

ПАДСЦІКА′ЦЬ (пудстыка′ты) *незак.* Станавіцца на зямлю так, каб не патаптаць ягад. *Ногы пудстыкаты пуд ныз, коб нэ потоптаты трускавкы.* Горск Бяроз.

ПАДСЫРПУ′ЗІЦЬ *зак.* Падкінуць, паддаць мяч. *Валя, падсырпузь мне мяча.* Шкураты Браг.

ПАДТРЫБУ′ШНІК (паттрыбу′шнік) *м.* Пасак (у вупражы). *Нацягні каню паттрыбушнік, бо сядзёлка зваліцца.* Навасёлкі Свісл.

ПАДУ′ЗА *ж.* Атоса. *Падузы закладзі на аглобні. Адна падуза дайжэйшая.* Стайкі Барыс.

ПАДУ′ЗЫ *толькі мн.* Шляя. *Надзень каню хамут с падузамі.* Ваўкавічы Тал.

ПАДУ′ШАЧКІ *мн.* Мочкі. *Оля′, трэбо пракалоць падушачкі і зацягнуць завушніцы ў падушачкі.* Навасёлкі Свісл.

ПАДУ′ШКА I *ж.* Брус у калёсах, які служыць асновай для драбін і ляжыць на восі. *Падушка ў возі — гэта плашка, йікая кладзецца на вось і скрапляецца шворанам з воссю.* Моханава

В.-Дзв. *Падушка з ручкамі ляжыць на трайнілі і ўзвалайку.* Падушка. *Падушка ляжыць на ўзвалайку і скрапляецца шворанам.* Вострава Маст.

ПАДУ'ШКА II *ж.* Падаконнік. *У мяне ў вокнах пагнілі ўсе падушкі, бо ставілі на падушкі цвяты.* Шкураты Браг.

ПАДХАДЗІ'ЦЦА (патхадзі'цца) *незак.* Уходжвацца за скацінай. *Я пайду ўжо патхадзіцца за сваёй скацінай, дам ёй есці.* Міратычы Кар.

ПАДХІЛІ'ЦЬ (патхілі'ць) *зак.* Падрубіць, падшыць, падагнуць. *Патхілі ніс спадніцы. Патхілі рушнік, а то ніткі высыпаюцца.* Моханава В.-Дзв.

ПАДЦУПО'НІЦЦА (подцупо'ныцца) *зак. іран.* Прыладзіцца. *Вон ужэ подцупонывса до вашэй унучкы.* Горск Бяроз.

ПАДЦЭ'ПАК (паццэ'пак) *м.* Пасад, снапы, рассцеленыя на таку для абмалоту. *Мы ужо адзін паццэпак змалацілі і другі будзем малаціць.* Навасёлкі Свісл. *Одён пыццыпок змолотэлэ.* Дзмітравічы Кам.

ПАДЧАПУРЫ'ЦЬ *зак.* Падхарашыць, прыбраць. *Быяркі так хараша падчапурылі маладую, што не пазнаць.* Казлы Міёр.

ПА'ДЧАРКА (па'чарка, па'ччэрка) *ж.* Падчарыца. *У яе ўжо пачарка бальшая. Пачарка ні любіць маччыхі.* Шкураты Браг. *Дачка ня родная, а паччэрка.* Стайкі Барыс.

ПАДЧАРО'ВАК (паччаро'вак) *м.* Падчарэўе. *У карову, кабана сняла падчаровак і вупусьціла цельбухі ў начойкі.* Шкураты Браг. *Зарэзала пырсюка, паччаровак сьніла, пасаліла ў яшчыку.* Міратычы Кар.

ПАДШЧЫ'ТНІК (патшчы'тнік, пудшчытнык) *м.* Застрэшак унізе франтона. *У канцэ хаты забіваюць патшчытнік, кап дошч ні забівай сьцяны.* Навасёлкі Свісл. *Забій у хаты лоб і зрабый пудшчытнык, коб нэ мочыў дошч стэны. У лобовы забый пудшчытныка.* Горск Бяроз.

ПАДШЫ'ЎКА (патшы'ўка) *ж.* 1. Дошчачкі, якімі забіваюць франтон. *Патшыўку загатовіў, буду забіваць шчыт.* Альхоўка Навагр. 2. Дзве дошкі, якія прымацоўваюцца па краях страхі і сходзяцца ўверсе, утвараючы канёк. *Накрый страху саломай і прыбій па канцах патшыўку, кап вецер не раздувай салому.* Альхоўка Навагр.

ПАДШЭ'ЎКА (пыдшэ'вка) *ж.* Тое, што і падшыўка. *Трэбо ік крышы прыбіть пыдшэвку, а то ветер крышу дерэ.* Бастынь Лун.

ПАД'ЯЛДЫ'КАВАЦЬ *незак.* Паддакваць. *А ты яму не пад'ялдыкавай.* Моханава. В.-Дзв.

ПАЖА'РЫСКА (пажа'рыско, пыжа'рыско) *н.* Месца, дзе быў пажар. *Хата згарэла, засталосё пажарыско.* Навасёлкі Свісл. *Сэло згорэло, осталоса пыжарыско.* Бастынь Лун.

ПАЖЫ'ЛІНА *ж.* Прапушчаны па кіёчках ніта шнурок, да якога прывязваюцца петлі ніта. *Завяжы пы кынцах пажыліну, кап ня з'ехалі ніты.* Якубова Рас.

ПАЖЫ'ЛКА *ж.* Тое, што і пажыліна. *Прывяжы крэпка пы кынцах пажылку, а то ніты будуць ссыпацца.* Моханава В.-Дзв.

ПАЗАДЗЕ *прысл.* Ззаду. *Іна ішла пазадзе за мной.* Моханава В.-Дзв.

ПАЗАКЛУ'ННЕ *н.* Месца за гумнамі. *Пойдзэм пы-пад пазаклунню, тут бліжэй.* Азарычы Пін.



ПА'ЗАЛКІ (па'зылкі) *толькі мн.* Мыльная пена, якая застаецца пасля мыцця бялізны. *Аццэрла я лойны ў лугу, а пасьля асталіся пазылкі, пыдай рыскырач атапру ў пазылках.* Ваўкавічы Тал. *Мыла лайно, засталіся добрыя пазалкі, многа мыльнай пены, прасьцірні ў пазалках сьціркy.* Касталомава В.-Дзв.

ПАЗАЎНІЧО'К *м.* Сталярны інструмент для вырэзвання пазоў (у вокнах). *Пазаўнічком выразаюць пазы ў дзьвірах, вокнах.* Навасёлкі Свісл.

ПАЗАЎНІЧО'К-ЗАКЛА'ДНІК *м.* Тое, што і пазаўнічок. *Пазаўнічок-закладнік, ім выпазоўваюць у раме пас, кап засоўваць шкло.* Навасёлкі Свісл.

ПАЗДЗЕ'РНІК *м.* Кастрычнік. *Месяц паздзернік — лён мяць.* Паляцкішкі Вор.

ПАЗДРАЧЫ'ЦЦА (поздрочы'цца) *зак.* Загізаваць. *От ак жарко, гэ, корову поздрочылiса.* Бобрыкі Петр.

ПАЗЕ'МАЧНІК *м.* Сунічнік. *Паземачніка многа, а паземкаў німа.* Ністанішкі Смарг.

ПАЗЕ'МКІ (позёмкі) *мн.* Суніцы. *У сасонніку так многа паземак, красна-красна.* Ністанішкі Смарг. *Содрай берэсту і зробій козубчыка і набрай у козубчык позёмак.* Бобрыкі Петр. *Нызбіралі цэлы каранічок паземак.* Моханава В.-Дзв. *Паземкі шчэ зялёныя, нельга сабіраць. О, якія пазёмкі крупныя.* Паляцкішкі Вор.

ПАЗІ'ЦЬ *незак.* Выразаць пазы. *Ідзіця і пазіця балкі ны хату, нада яе дарубліваць.* Якубова Рас.

ПАЗУ'Р I (позу'р) *м.* Капыт. *Задрала корова позур і нэ можэ ходыті.* Азарычы Пін.

ПАЗУ'Р II (позу'р) *м.* Ногаць. *Обрэж ты позуры, а то велькі дужэ. Болят мнэ яготкы, у пальцах коло позуроў яготкы.* Горск Бяроз. *От акі большый позур на пальцы.* Бастынь Лун.

ПА'ЗУХА *ж.* Манішка. *Надо ўшыті ў пазуху гузікі. Зашпілі сваю пазуху. У сорочцы прышыла воротніка до пазухі.* Азарычы Пін.

ПА'ЙМА *н.* Жменя ачэсанага на шчотцы лёну. *Я на сьвіную шчэтку ачысала аш дзесіць паймаў. Вазьмі адно пайма і зьвяжы ім кужаль.* Моханава В.-Дзв.

ПАКАЛЯ'ЦЦА *зак.* Забрудзіцца. *Пашла ў песок, пакаляласа, у гразі пакаляласа.* Жахавічы Маз.

ПАКАЛЯ'ЦЬ *зак.* Забрудзіць. *Не пакаляй свае рукі. Нада ж пакаляць новую сукенку.* Жахавічы Маз.

ПАКАТО' *м.* Кола. *Пылымалася пакато ў возі.* Моханава В.-Дзв. *Надзень пакато на восъ. Купій стан пакот на калёсы.* Вароніна Рас. *Зваліласа з восі пакато.* Сяляўшчына Рас.

ПАКАЦЁЛ *м.* Зубчастае кола ў пярэднім навоі. *Закруці пакацёл, каб було добра нацягнута палатно.* Мнюхі Міёр.

ПАКАЦЁЛКІ *мн.* Прадаўгаватыя брускі з колцамі, на якія падвешваюцца ніты. *Надзела пакацёлкі, каб не рваліса шнуры.* Жахавічы Маз.

ПАКАШРЫ'ЦЬ *зак.* Памыць. *Ну, што ты пакашрыла свае ногі? Да, пакашрыла, ужо белыя.* Ністанішкі Смарг.

ПАКІДА'НЕЦ (покыда'нэц, покідэ'нец). Муж, якога кінула жонка. *Булы жэныхы: то удовэц, то покыданэц. Вон покыданэц, бо жонка покынула, і тэпэр жывэ одын.* Горск Бяроз. *Вон — покідэнец, я не пойду замуж.* Бастынь Лун.

ПАКІДА'НКА (покідэ'нка) *ж.* Жонка, якую кінуў муж. *Вона покідэнка, не жыве з чоловеком.* Бастынь Лун.

ПАКЛАДЫ' *толькі мн.* Збітыя дошкі, якія кладуцца на ніз воза. *Узяў тры дошкі, зьбіў іх і палажыў на ніс воза, вот і паклады на вос.* Барыскі Лаг.

ПАКО'С (поко'с, покэ'с) *м.* Пракос. *Трэбо іті розбіті покосы.* Бастынь Лун. *Косыт траву, а покэсы тоўстые, посьтягнуты трэбо. Заняў шырокы покэс.* Горск Бяроз.

ПАКРА'КА *м. асудж.* Неахайны чалавек. *О божа, які пакрака. Ой, пакрака ты, пакрака, ідзі памыйса і перадзеньса.* Навасёлкі Свісл.

ПАКРЫВА'ЛА (покрыва'ло) *н.* Галаўны ўбор маладой. *З нашэго полотна на голову молодэй кладут покрывало і чапца, і вэзут до молодого.* Горск Бяроз.

ПА'КУЛА *ж.* Пакулле. *Абдзірала лён ны драчку. Ныдрала пакулы, спрала і выткала мяшкі.* Вароніна Рас.

ПАКУ'ТА *ж.* Адходы пры тапленні воску. *Пакута чорна, нікуды нэгэднае. Вэск пэрэтопілі, осталас пакута.* Бастынь Лун.

ПАКУХТО'РЫЦЬ (покухто'рыць) *зак.* Адварыць (пра грыбы). *Ена ўчора покухторыла грыбу, а то калі іх не покухторыць, то можно атравіцца.* Бобрыкі Петр.

ПАЛАДАВА'ЦЬ *зак.* 1. Адрамантаваць, паправіць. *У печы выгарало скляпеня, трэбо паладаваць.* Навасёлкі Свісл. 2. Зрабіць. *Можа сцежара паладуяш сёня.* Навасёлкі Свісл.

ПАЛАЗНІКІ' *мн.* Сляды ад палазоў. *Праехаў па снягу, аш палазнікі відаць.* Сяляўшчына Рас.

ПАЛАКА'ЦЬ (полока'ть) *незак.* Паласкаць бялізну. *Пойду полокать кораны на рэчку.* Бастынь Лун.

ПАЛАНІ'ЧКІ *толькі мн.* Апалушкі. *Вазьмі паланічкі і выпалі крупы.* Барыскі Лаг.

ПАЛА'НКІ *толькі мн.* Тое, што і паланічкі. *Ваэьмі паланкі і папалі куццю.* Касталомава В.-Дзв.

ПАЛАСАВА'ЦЬ *незак.* Хістацца (пра калоссе). *Глядзі, як жыта паласуіць, от прыгожа паласуіць.* Моханава В.-Дзв. *Ішлі праз жыта і так любаваліся жытам, як яно паласавала.* Мнюхі Міёр.

ПАЛАТНІ'К (пылотні'к) *м.* Палавік. *Выткала аж сэм губыц на пылотнікі, одін пылотнік одрэзала.* Бастынь Лун.

ПА'ЛЕЦ I (па'ліц) *м.* Ручка на кассі. *Да акосся прывязваицца паліц.* Ністанішкі Смарг. *Да касавіліна трэба прывізаць паліц і іці касіць.* Якубова Рас. *Здзелаў да касы паліц.* Вароніна Рас. *Нада прыстроіць паліц да касы.* Булыніна Рас.

ПА'ЛЕЦ II *м.* Высечаны выступ у бервяне, які заходзіць у паз вушака. *У стэнэ зробым пальцы, а у гушаковы эробым чэтвэрть, тэпэр трэбо прыставыты гушак.* Горск Бяроз. *Зрабіў добры палец, і кап ён эашоў у пас ушака.* Паляцкішкі Вор. *Оля', эрабіў пальцы штукар, што і ў вушак не лезуць, няможна вушака прыбіць.* Навасёлкі Свісл.

ПАЛЕ'ШНЯ *ж.* Паляванне. *Учора быў на палешні і эабіў двух эайцаў.* Моханава В.-Дзв.

ПАЛІ'К *м.* Цвікля. *Ушыла палік у сарочку.* Мазыр Гом.

ПАЛІЧОК *м.* Вузкая палоска (5—6 см) матэрыі, якая прышываецца на плячах у жаночай сарочцы. *А ву прышылі палічок? Пакроіла палічкі ў сарочкі? Адэін палічок большы, як ты кроіла?* Шкураты Браг.



ПАЛКНУ'ЦЬ *зак.* Глынуць. *Мамо, я трохі палкну малака.* Міратычы Кар.

ПАЛО'ЗІНЕЦ (поло'зінец) *м.* След ад палазоў. *На полозінец ступіў і ўпаў. Тут хто-то проехоў, знать полозінец.* Бастынь Лун.

ПАЛО'Й *м.* 1. Праліўны дождж. *Акі чорны помег ветер гоніт, будіт полой.* Бастынь Лун. 2. Верхаводка, вада на лёдзе ў час адлігі. *Ужо весна, палой на рэццы.* Ставок Пін.

ПАЛО'ЙКА *ж.* Жменя атрапанага або ачэсанага лёну. *Шэсць палояк чэсанага на сьвіную шчэтку зьвізала ў бунцік.* Пацеенкі Міёр.

ПАЛО'ЙНІК *м.* Апалонік (паўзуны). *А гэта палойнікі с хвыстам у сажалцы плаваюць. Які бальшы палойнік плывець!* Вароніна Рас.

ПАЛО'К *м.* Насціл у асеці для сушкі снапоў. *У нас у ёўні быў палок, дзе сушылі снапы і мыліся самі.* Сальнікі Арш.

ПАЛО'М'Е (поло'м'е, поло'мне) *н.* Полымя. *Полом'е шугае, добрэ горать дрова.* Бастынь Лун. *Поломне ідэ гаж у густе пэчы.* Азарычы Пін.

ПАЛО'ХАЛА *м.* Пудзіла. *Паставіла палохала, а то куры ўсё падзёрлі.* Старае Сяло Зэльв. *Хай ба зрабілі палохала, кап дзікі ні рылі картофлі.* Навасёлкі Свісл.

ПАЛУ'ДНАЦЬ (полу'днаты) *незак.* Палуднаваць. *Набралі хлеба ў кашэль, будэмо полуднаты.* Горск Бяроз.

ПАЛУ'ЙКА *ж.* Дзве жмені абтрапанага лёну. *Дзьве жмені атрэпанага лёну зьвязаць уместа — гэта і будзя палуйка. Апчасала зьвяску лёну, а ў зьвяску трыццаць палуяк. Вазьмі палуйку лёну і пачашы на жалезны грэбянь.* Міратычы Кар.

ПАЛУМЕ'РАК *м.* 1. Мера вагі (1,5 пуда). *Як два палумерачкі, шчытаецца мерка, а ў мерцы було тры пуда, а ў двух палумерках було таксама тры пуда, а адэін палумерак будзя пайтара пуда.* 2. Кош, у які ўваходзіць 1,5 пуда збожжа. *Насыпалі палумерак поўны жыта ўгору, а тады бралі дошчачку і шчыравалі, кеб було роўна із краямі палумерка, а ніколі жыта не весілі.* Шкураты Браг.

ПАЛУ'ЧЧЫНА (полу'ччына) *ж.* Качан капусты. *Іды ў город і вырэж получчыну капусты. О, ты вэлькую получчыну зрэзав.* Горск Бяроз.

ПАЛЫ'Н-ПАЛЫ'Н-Я'ДЗЕРКА *м.* Божая кароўка. *Палын-палын-ядзерка, калі будзе пагодка, то ляці, а калі дошч, то сядзі!* Навасёлкі Свісл.

ПА'ЛЬКА *ж.* Метка. *Я ні рэзаў дэіравіну, бо ні було ніякай палькі на ёй.* Навасёлкі Свісл.

ПАЛЮ'К *м.* Ручка на кассі. Казлы Міёр. *Нада прывязаць палюк да касавіла.* Мнюхі Міёр.

ПАЛЮЛЯ'ЦЬ *зак.* Пакалыхаць. *Палюляй дзіця, хай яшчэ сьпіць.* Моханава В.-Дзв.

ПАЛЯНІ'ЦА I ж. Хлеб, які пякуць на дзяды. *Паляніцу пяклі толькі на дзяды, яе качалі на муцэ на стале, бо на дзяды не разрашалі качаць вадою, а толькі мукою. Вот ета і е раэніца між кулідкай і паляніцай.* Шкураты Браг.

ПАЛЯНІ'ЦА II (поляні'ца) *ж.* Паляна. *Мы ў лесі нашлі поляніцу, а на ей многа ягад.* Бастынь Лун.

ПАЛЯНІ'ЦА III (поляніца) *ж.* Паляндвіца. *Поляніца смачна, добрэ прыправа.* Бастынь Лун. *Вам жыто да пшаніца, а нам хлеб і паляніца.* Тульгавічы Хойн.

ПАЛЯРЭ'С *м.* Кашалёк. *Палажы грошы ў палярэс.* Моханава В.-Дзв.

ПА'МА *ж.* Чорная хмара. *Во акая чорна пама плыве, алі дож не іде.* Бастынь Лун.

ПАМА'К (пыма'к) *м.* Тоўстае бервяно для прыцісканпя лёну ў мачулішчы. *Памачыў лён ў мачулішчы і націснуў пымыкамі, хай мокніць.* Сляпўшчына Рас.

ПАМАНІ'ЦЬ *зак.* Пазваць. *Папробуйце яго паманіць к сабе, ці пойдзіць ён к вам.* Моханава В.-Дзв.

ПАМЕ'Г (поме'г) *м.* Хмара. *Акі светлы помег іде по небі. А вунь плыве чорный-чорный помег, о то буде дожак, добрый дожак.* Бастынь Лун.

ПАМЕ'ЖАК (поме'жак) *м.* Памянш. ад памег. *Помежак маленькі, сьветленькі плыве, можно растрэсать сено, дожака не буде.* Бастынь Лун.

ПАМЕ'ЛЬНІК *м.* Качарэжнік. *У памельніку стыяць вілкі.* Сляўшчына Рас. *Пыстаў качаргу ў памельнік.* Парэчча Рас.

ПАМЁТ *м.* Упершыню распрацаваны ўчастак зямлі. *Узараў кусочак памёта і пасеяў лён, бо там трыва ні рысла, а лён будзіць расці.* Сляўшчына Рас.

ПАМО'СНІЦА (помо'сніца) *ж.* Маснічына. *Поломаласа помосніца у помосьці.* Бобрыкі Петр.

ПАМО'СТ (помо'ст) *м.* Падлога. *Во як добра памыла помост, як жайток жоўтый.* Стайкі Барыс. *Поломаласа помосніца ў помосьці. Трэ помуць помоста.* Борыскі Петр.

ПАМО'СЦЕ *н.* Збітыя дошкі, якія кладуць на дно воза. *На дно саней кладзецца памосьце.* Барыскі Лаг.

ПАМО'СЦІНА *ж.* Маснічына. *Згніла памосьціна ў памосьці.* Стайкі Барыс. *У памосту паламаласа памосьціна.* Навасёлкі Свісл.

ПАМЫ'ЙНІЦА (пымы'йніца) *ж.* Вугал насупраць печы, дзе стаіць кухонны посуд. *Дзе пымыйніца, там стоять горшкі, цэбар, вэдро гразнэ.* Бастынь Лун.

ПАМЫ'ЛАК *м.* Лішак асновы ў шырыну пры накіданні ў ніты і бёрда, які астаўся і ідзе назад. *Пры сн**а**ванні зрабіла памылак, наснавала лішку.* Паляцкішкі Вор.

ПАМЯЛО' (помэло') *н.* Амела. *На хвэйцы многэ ростэ помэла. Трэбо помэла набраты і будэм пэч вымэтаты.* Горск Бяроз.

ПАМЯЛЬНІ'К (помэльні'к) *м.* 1. Дзяржанне ў памяле. Бастынь Лун. 2. Памяло. *Вазьмі памяльнік і вымітай попел с печы.* Моханава В.-Дзв.

ПАМЯНТА'ЦЬ *зак.* Памянціць. *Памянтай касу, а то яна тупая.* Барыскі Лаг.

ПАМЯША'ЎЦА (пуміша'ўца) *м.* Псіхічна хворы чалавек. *Ён пумішайца ўмом і ходзіць з дзярэўні ў дзярэўню.* Сляўшчына Рас.

ПАНАБУДО'ЎЛІВАЦЬ *зак.* Набудаваць. *Яны панабудоўлівалі хат.* Тульгавічы Хойн.

ПАНАДО'ЛАК *м.* Падшыты ніз вопраткі. *Прышыты ў спадніцу панадолак; атырвайся панадолак.* Вароніна Рас.

ПАНАЗДРЭ'НЫЙ (поноздрэ'ный) *прым.* Добра выпечаны. *Я сьпікла добрый хлеб, поноздрэный.* Бастынь Лун.

ПАНАРА'ВІЦЦА (пыныра'віцца) *зак.* Спадабацца. *Йіна яму дужа пыныравілася.* Моханава В.-Дзв.

ПАНПУ'ХА (понпу'ха) *ж.* Порхаўка. *Понпуха ростэ по полю.* Бастынь Лун.

ПАНУ'РА (пону'ра) *м. і ж.* Памаўза. *От понура, вона усэ найдэ, нідэ нэ положыты. Дэ можно сховаты от токэй понуры.* Горск Бяроз.

ПАНЦА'К (пэнца'к) *м.* Буйныя крупы з ячменю. *Бальшая крупа з ячменю — гэта панцак, а мелкая ячменная крупа — круха.* Старонка Асіп. *Нарабілі пэнцаку кутью варыть.* Бастынь Лун.

ПА'НЧАРЫЦА (па'нчэрыца) *ж.* Падчарыца. *Панчэрыца кэпска жывэ з мачыхэй.* Азарычы Пін. *Панчэрыцу мачоха любіть.* Бастынь Лун.

ПАНЧО'РКА *ж.* Тое, што і панчарыца. *Мужык памер, а яна жыве з панчоркай.* Жахавічы Маз.

ПА'ПА *м. дзіцяч.* Хлеб. *Мама, дай мне папы, а то я есьці хачу.* Моханава В.-Дзв.

ПА'ПАРНІК *м.* Папараць. *Ідзі набяры сухога папарніка, будзім пчол ставіць на зіму.* Ністанішкі Смарг.

ПАПАРО'ЦЦА *зак.* Справіцца. *Вечарамі я прыду дахаты, затаплю ў печы, папорусе і сяду вечэраць.* Тульгавічы Хойн.

ПАПЕ'ЛІШЧА *н.* Пажарышча. *Пуня згарэла ўся, толькі засталося папелішча.* Сляўшчына Рас.

ПАПЕРАДЗЕ'НЬ *м.* Вяроўка ў возе, якая прывязана спераду і прыціскае рубель. *У паперадзень кладзецца жардзіна, якую прыжымаюць ззадзі вяроўкай і прывязваюць за пярэчку воза.* Якубова Рас.

ПАПЛАВЫ' (попловы') *прым.* Пра сена з сухой сенажаці. *Поплов**э**е, грудовэе сено хорошэ, булэтнэ сено плохэе.* Бастынь Лун.

ПАПЛАВУ'ХА (поплаву'ха) *ж.* Раска. *Поплавуха ростэ на воде. У поплавухі дрэбные лісточкі.* Бастынь Лун.

ПАПЛАЎНІ'ЧЫЙ (поплаўні'чый) *м.* Вартаўнік. *Раней усем селом наймалі чоловека, якый пылновав полеткі, вон і звавса поплаўнічый.* Горск Бяроз.

ПАПО'РАЦЦА *зак.* Скончыць работу каля печы, дагледзець свойскую жывёлу. *Я яшчэ досвіткам папоралася. Выпаліла ў печы, дала скаціне есьці.* Пацеенкі Міёр.

ПАПРА'ЦЬ (попра'ты) *зак.* Пабіць (пранікам), папярыць. *Плетню помочыла, попрала прачэм, поторгалы і повэсылы сушыты.* Горск Бяроз.

ПАПРЫ'ЦА (попры'ца) *ж.* Жалезная пласцінка ва ўпадзіне верхняга каменя жорнаў, якая надзяецца на шпянёк ніжняга каменя. *У жорнах у вэрхні камэнь укладаецца попрыца.* Азарычы Пін.

ПАПУ'Ц (попу'ц) *м.* Палатняная ці суконная тапачка. *Выразав суконочку і пошыв собэ попуцы. Одын попуц плохэй вышав. Із чыноватного полотна пошыла собэ попуца, а завтрэ другэй пошыю. Я собэ пошыла попуцы і буду ходыты.* Горск Бяроз.

ПАПУ'ША (попу'ша) *ж.* Нізка тытуню. *На нітку нанізала тітэню, кэб вэн сох, вот гэто мы і зовэм попуша. Высушыв попушу тітэню, а тэпэрэ буду крышыті.* Бастынь Лун.

ПАПЯЛІ'СКА (пыпылі'ско) *н.* Пажарышча. *Гумно згорэло, а пыпыліско шчэ цёплэе.* Бастынь Лун.

ПАПЯРЭ'ЧКА (попэрэ'чка) *ж.* Папярочная баразна бульбы. *Посаділі доўгіе борозны булбы, а тэпэр будем садіть попэрэчкі.* Бастынь Лун.

ПА'РА *ж.* Армяк і кажух, надзетыя разам. *Начлежнік, калі ён едзіць на начлех, то ён надзяець пару. Пара — гэта разам кыжарына і армяк, якія надзяюць начлежнікі.* Ваўкавічы Тал.

ПАРАЖЭ'ЛЛЯ (порожэ'лья) *ж.* Парадзіха. *Порожэльяя прывэла дітя. Порожэлья родыла, трэбо іті провэдаті.* Бастынь Лун.

ПАРАЛЕ'С *м.* Кашалёк. *У паралес палажы грошы.* Моханава В.-Дзв.

ПАРАМО'ТА *ж.* Памылка пры снаванні пражы, калі снавальшчыца паложыць нітку не на той калочак, на які трэба. *Глядзі ш, ні зрабі парамоту, кладзі ніткі, як трэба.* Вострава Маст.

ПАРАНІ'НА *ж.* Папар. *Трэба ўзараць парані'ну і пасеець жыта.* Жахавічы Маз. *На парані'ну навазіў гною, буду сеяць чалавум жытам.* Шкураты Браг. *Вувез гной на парані'ну і пасею жыта.* Брагін Гом.

ПА'РАНІНА (па'роніна) *ж.* Тое, што і парані'на. *Вувез гной на па'роніну і буду жыто сеець.* Бобрыкі Петр. *Там, дзе раней расло жыта, і жжалі яго, гэта па'раніна. Па'раніну вясной аруць і сеюць яр.* Ваўкавічы Тал.

ПА'РАНІЦА *ж.* Запараны кіпятком корм. *Вазьмі сечкі і картофлі, і памяшай, і дай па'раніцы карові.* Навасёлкі Свісл.

ПА'РАНКА *ж.* Дробная бульба, якую вараць свіням. *Бульбу пірыбралі, бальшую ўсыпалі ў істопку, а паранку пасыпалі ў хаці.* Моханава В.-Дзв.

ПА'РАСЛЯ *ж.* Аблога. *У мяне там за пуняй некалькі сотак параслі.* Касталомава В.-Дзв.

ПА'РАСТКІ *толькі мн.* Дробныя каласкі, саломка, якія астаюцца пры арфаванні збожжа. *Звеяў жыта і адабраў парасткі, сьвіням на муку зьмялю.* Міратычы Кар.

ПАРКЛІ'ЦА *ж.* Жалезная пласцінка ва ўпадзіне верхняга каменя жорнаў, якая надзяецца на шпянёк ніжняга каменя. *У верхні камень зрабіў парклiцу і ўставіў шворань.* Ністанішкі Смарг.

ПАРО'НІКІ *мн.* Бульба, звараная ў лупінах. *Паронікі — ето булма, вароная з лупайкамі.* Бастынь Лун.

ПАРО'НКІ *мн.* 1. Тое, што і паронікі. *На вячэру навару паронкаў і будзем з малаком есьці.* Жахавічы Маз. 2. Тое, што і паранка. *Пырыбіралі бульбу і паронкі сыпалі аддзельна — гэта паронкі сьвінням будуць варыць. Намыла кацёл паронак і ныпарыла, буду дываць сьвінням.* Ваўкавічы Тал.

ПАРПЛІ'ЦА *ж.* Тое, што і паркліца. *Я ў жорнах да верхняга каменя прыладзіў парпліцу.* Альхоўка Навагр. *У вірхняку ў жорнах ёсць парпліца, яна надзяецца на вірцяно.* Ваўкавічы Тал.

ПАРТАНУ'ЦЬ *зак.* Парнуць. *Оля', гэта ш вока партануў, лезучы на яблану.* Навасёлкі Свісл.

ПАРУБЕ'НЬ (пэрубе'нь) *м.* Рубель, жэрдка для прыцісканння сена або снапоў на возе. *На мажы наклалі сена, а на сена палажылі парубе'нь, а на парубень закінулі вяроўку, кап прыцісньць сена на возі.* Стайкі Барыс.

ПАРШНІ' *мн.* 1. Скураныя лапці. *Дыстань кывалык шкуры і пашый сабе паршні, а то нечага на пасту абуваць.* Якубова Рас. 2. Вяровачныя лапці. *Навій вяровак і сплёў паршні, буду насіць.* Сяляўшчына Рас.

ПАРШУ'К *м.* Парсюк. *Гэтага года добрага паршука закалола.* Міратычы Кар. *Будзім на сала карміць паршука.* Паляцкішкі Вор. *Праскета закалола свайго паршука.* Старае Сяло Зэльв. *Выляхчаны кнур у нас завецца паршуком.* Навасёлкі Свісл.

ПАС *м.* Шнур у калаўроце. *Шпуля і блочак цягнуць пас на колі калаўрота.* Міратычы Кар.



ПАСАВІ'СКА (пасовы'ско) *н.* Паша. *Доброго пасовыска ў нас нэма і молока нэма.* Горск Бяроз.

ПАСА'Д I (пыса'т) *м.* Месца на куце, дзе сядзіць маладая. *Маладуха сядзіць на пысадзе.* Моханава В.-Дзв.

ПАСА'Д II (пыса'т) *м.* Колькасць збожжа, якая памяшчалася ў асеці. *Аўса будзіць пысады тры. Адзін пысат лёну зьмя'лі, а яшчэ будзіць на два пысады.* Моханава В.-Дзв.

ПАСА'ДА *ж.* Пасад, снапы, рассцеленыя на таку для абмалоту. *Я змалаціў адну, пасаду ваўса.* Навасёлкі Свісл.

ПАСА'ДКА (паса'тка) *ж.* Чарэнь (у печы). *Выпараласа пасатка ў печы, і гаршчка неяк паставіць. Выгарала пасатка у печы, трэбо пачыніць.* Навасёлкі Свісл.

ПА'САЧКА (па'сочка) *ж.* Кальцо на розе, па якім можна вызначыць, колькі год карове. *Колькі ў корову на рогах пасочкоў, столько ей год.* Бобрыкі Петр.

ПАСВЕ'Т (посьве'т) *м.* Падвеснае прыстасаванне для асвятлення лучынай. *Повесте вышэй посьвет, а то не відно, а темно. Посьвет подвешвалі высоко і палілі лучыну.* Бастынь Лун.

ПАСВІСТО'Л (посвысто'л) *м.* Свісток. *Хто тобэ посвыстола купыв? Тато, посвышчы у посвыстол.* Горск Бяроз.

ПА'СВІШЧА (па'сьвішча) *н.* Паша. *У нас добрае пасьвішча для кароў.* Ністанішкі Смарг.

ПАСЕ'ВЕРАЦЬ *зак.* Патрэскацца ад вады, холаду. *Вот як у мяне ногі пасевералі і так быляць.* Моханава В.-Дзв.

ПАСЕ'І *толькі мн.* Астаткі пасля прасейвання мукі. *Сеяла, прасеела муку, добрая мука высеялася, а пасеі асталіся.* Старонка Асіп.

ПАСЕ'ЙКІ *толькі мн.* Тое, што і пасеі. *Пасеіла муку, а пасейкі зымішала кура'м.* Ваўкавічы Тал.

ПАСЕМАВАЦЦА (посемовацца) *зак.* Парадзіцца. *Дружко с сватамы посемоваліс, у екую нэдэлю будэ вэсэллэ.* Горск Бяроз.

ПАСЕМАВА'ЦЬ (посемова'ты) *зак.* Пагаманіць, параіць. *На запоюнах трэбо було посемоваты.*

ПАСКРО'БАК (поскро'бок) *м.* Маленькая булачка хлеба з астаткаў цеста. *Вускробла ў дзежы цесто і сьпекла поскробок.* Бобрыкі Петр. *Дзежу вускрэбла і спекла паскробка.* Жахавічы Маз.

ПАСКРЭ'БІШ *м.* Тое, што і паскробак. *Пыскрыбла дзешку, сьпікла паскрэбіш.* Моханова В.-Дзв.

ПАСКРЭ'БТУХА (поскрэ'бтуха) *ж.* Тое, што і паскробак. *Выскоблыла дэжку і спэкла поскрэбтуху.* Горск Бяроз.

ПАСКРЭ'БУХА (поскрэ'буха) *ж.* Тое, што і паскробак. *Поскрэбла дэжку і спэкла поскрэбуху. Обобэру закваску у дэжэ і спэку поскрэбуху.* Азарычы Пін.

ПАСКРЭ'БУШАК (поскрэ'бушэк) *м.* Тое, што і паскробак. *Нажэм дэжку поскрэбла і спэкла поскрэбушка.* Бастынь Лун.

ПАСЛЕ'Д (пасьле'т) *м.* Дробныя каласкі, саломка, якія астаюцца пры арфаванні збожжа. *Калі мы веім жыта, пасьлет лажыцца ў сярэдзіне, а за пасьледам дробнае жыта, а за жытам дробным лажыцца чало.* Паляцкішкі Вор. *Пасьлет — маленькоё пустоё зерня, якоё пры адвейванні лажыцца бліжэй, а доброё зерня ляціць далей.* Навасёлкі Свісл.

ПАСЛЕ'ДКІ (после'дкі) *толькі мн.* Тое, што і паслед. *Колі жыто веюць, то последкі падаюць, дзе хозяін седзіць.* Бобрыкі Петр.

ПАСО'ЧКА *ж.* Паз. *У ражцы вырэзав пасочку, а тэпэр уставлю дно.* Бастынь Лун.

ПАСПЕ'ШКА (пасьпе'шка) *ж.* Гатунак скараспелай бульбы. *Пасадзіла пасьпешкі, праз два месяцы можна будзіць кыпаць.* Моханава В.-Дзв.

ПА'СТА *ж.* Паша. *Ён пагнаў кароў на пасту. Ён сёння на пасьці.* Ністанішкі Смарг.

ПА'СТАР *м.* Старэйшы пастух. *Мы нанялі на ўсё лета пастара кароў пасьвіць.* Шкураты Браг.

ПАСТАЯ'ЛКА (постоя'лка, пыстыя'лка) *ж.* Малако, якое настаяла некалькі гадзін пасля даення. *Постоялка — ето солодкэ молоко, якэе постояло, но не скіслэ.* Бастынь Лун. *У істопцы стаіць стаўбунок з пыстыялкай, вазьмі і паеш.* Моханава В.-Дзв.

ПА'СТВА *ж.* Паша. *Пыгнаў кароў на паству.* Касталомава В.-Дзв.

ПАСТУ'МАНТ *м.* Каркас плуга. *У плузя ёсць пастумант, да яго прыкручваяцца падошва, паліца.* Ністанішкі Смарг.

ПА'СУШ *ж.* Прашлагодняя няскошаная трава. *Пасушы многа, алі карову не ядуць.* Мазыр Гом.

ПАСХАРО'ТВАЦЬ *зак.* Паламаць. *От паз'яжджалі на цаліну і ўсё пасхаротвалі сваё.* Міратычы Кар.

ПАСЦЕ'ЛЬ I *ж.* 1. Пасад, снапы, рассцеленыя на таку для абмалоту. Ваўкавічы, Сяляўшчына Рас. *Я ўжэ одну пасцель обмолоціў.* Бобрыкі Петр. 2. Разасланы лён для скручвання ў кудзелю. *Пасьцель сьцялю на стале с счоскаў і буду рабіць кудзелю і прасьці.* Міратычы Кар. *Пыслала с кужалю пасьцель, цяпер буду скручваць кудзеліну і прасьці.* Ваўкавічы Тал.

ПАСЦЕ'ЛЬ (пасьце'ль) II *ж.* Паслед. *Не адышла пасьцель у бабы, павязьлі ў бальніцу.* Міратычы Кар.

ПАСЦЕ'ЛЬ III (посте'ль, пасьце'ль) *ж.* Дашчаны насціл у возе, санях. *Зрабіў пасьцель у вос, кап було добра ехаць.* Моханава В.-Дзв. *У сані з досак зробів постель.* Бастынь Лун.

ПАСЦЕ'ЛЬКА (пасьце'лька) *ж.* Тое, што і пасцель. I. *Вот я ужо пасьцельку і вымалаціў.* Старонка Асіп.

ПАСЦЕ'ЛЬНІК (пасьце'льнік) *м.* Тое, што і пасцель III. Сяляўшчына Рас. *Зрабіў у драбіны пасьцельнік і палажыў на калёсы на дно.* Пасьцельнік е і ў санях. Шкураты Браг.

ПА'СЦІ I (па'стэ) *зак.* Здохнуць (пра жывёлу, птушак). *Па'ле свэнэ, ку'рэ.* Дзмітравічы Кам.

ПА'СЦІ II *зак.* Пахудзець. *От ге чэловек буў гладкій, а цепер, ге, паў.* Бобрыкі Петр.

ПАСЦЯГНУ'ЦЬ (пастягну'ты) *зак.* Разбіць пракосы. *Косыт траву, а покосы тоўстые трэбо постягну'ты.* Горск Бяроз.

ПАСЦЯКА'ЦЬ (постэка'ты, пасьцяка'ць) *зак.* Стаць тонкім, кволым. *Посодыла бульбу пуд ліпою, а вона ўсё тровэ постэкала ўся.* Горск. Бяроз. *Моя картопля заросла зелем і так посцекала, трэбо полоць.* Бобрыкі Петр. *Пасадзіла картоплі ў садку, а яна пасьцякала.* Шкураты Браг.

ПАТАЛО'К (потоло'к) *м.* Верхняя частка калоды пчол. *У рамачных вульях е голова, а ў колодочных е потолок.* Бастынь Лун.

ПАТАМПІЁНІЦА *ж. іран.* Гразішча. *От патампіёніца, што можна ўтапіцца, такая гразіна.* Навасёлкі Свісл.

ПАТАПЦЫ' (потопцы') *мн.* Цура. *Наліла у мыску воды, посоліла накрышыла хлеба, покрышыла цыбулі, уліла посного масла — от ето і е потопцы.* Бастынь Лун. *Озіла молока солодкого, туды накрышыла хлеба, вот я і зробіла собе потопцы.* Бобрыкі Петр.

ПАТАРГА'ЦЬ (поторга'ты) *зак.* Патузаць аснову. *Плэтню намочыла, попрала прачэм, поторгалы і повэсылы плэтню сушыты.* Горск Бяроз.

ПАТРАПА'ЦЬ *зак.* Павастрыць. *Вазьмі трыпачку і патрапі касу.* Якубова Рас.

ПА'ТРАП'Е (па'трап'я) *н. зборн.* Адходы валакна пры трапанні лёну. *Лён трэплім, а атлятая патрап'я.* Ваўкавічы Тал.

ПАТРАХІ' (потрахі') *толькі мн.* Вантробы. *Зарэзала овэчку і выпустіла потрахі.* Бастынь Лун.

ПАТРАША'НКА (потроша'нка) *ж.* Вантрабянка. *Покрышыла вэнтробы і зробіла потрошанку. Крывена коўбаса з едовых тоўстых кішэк — гэ потрошанка.* Бастынь Лун.

ПАТРО'ПКАВЫ *прым.* Зрэбны. *Калісь у ганавіцы патропкавыя ўшывалі дзеравяныя цуру'балкі.* Шкураты Браг.

ПАТРО'ПКІ *толькі мн.* Тое, што і патрап'е. *Трэплюць лён, а патропкі і кайстрыца ляцяць. Патропкі пупрала, із патропкаў напрала нітак і вуткала мяшкі.* Шкураты Браг. *Патрасі патропкі віраціяном і счыні кудзеліну.* Моханава В.-Дзв.

ПАТРУ'ХА *ж.* Пацяруха. *Сена ўжо ўсё скармілі, зыстылася адна патруха.* Моханава В.-Дзв.

ПА'ТРЫЦЬ *незак.* Шукаць, выглядаць. *Ён усё яшчэ патрыць. Што ты там патрыш? Там нічога німа, ні патры. Акыш! Ён усе шчэ патрыць, ніяк не наесцца за дзень.* Шкураты Браг.

ПАТУРАВІ'ЦЬ *зак.* Падагнаць (заставіць хутчэй ісці, рабіць). *Патураві ты яе, хай скарэй сыбіраецца і ідзець, скарэй нада ехаць, а то ўжо позна, вуньдзіка дзе сонца.* Моханава В.-Дзв.

ПАТУ'РГАЦЬ (поту'ргаті) *зак.* Тое, што і патаргаць. *Попарылі, попарылі ды потургалі кросна і повэсілі.* Азарычы Пін.

ПАЎГРУ'НТ *м.* Шэсць дзесяцін зямлі. *Я паўгрунта дастаў, ці шосту часць зямлі, і называўся я шастаком.* Міратычы Кар.

ПАЎКУЛІ'ДКІ *ж.* Паўбулкі. *Вот му вучухаліся на балоце, што аж паўкулідкі з'елі і вупілі багата малака.* Шкураты Браг.

ПАЎПРЫ'ЦА (поўпры'ца) *ж.* Металічная пласцінка, на якой трымаецца верхні камень жорнаў. *У жорнах е поўпрыца ў вэрхнім камені, поўпрыцу накладаемо на вэрэтэно. Паміж першым і другім камені была паўпрыца.* Старонка Асіп.

ПАЎПУ'РА *м.* Мера вагі (1 пуд 10 фунтаў). *Пазыч мне паўпура жыта.* Касталомава В.-Дзв.

ПАЎРО'ЗКІ (поўро'зкы) *мн.* Вузкая палоска матэрыялу, якой завязваюць хвартух. *Прышыла до хвартуха поўрозкы, а то нэма чым зовэзаты.* Горск Бяроз.

ПАЎРО'ЗЫ (поўро'зы) *мн.* Тое, што і паўрозкі. *У хвартуху оторваліс поўрозы.* Бобрыкі Петр.

ПАЎХАТО'ЧЫНЫ (повхото'чыны) *мн.* Зямля, паточаная кратамі. *Па пожны однэ повхоточыны, гэто повх нарыв.* Горск Бяроз.

ПАЎХО'ДВАЦЦА *зак.* Замарыцца, утаміцца. *Касцы касілі, касілі, да так ужо паўходаваліся, што чуць ідуць дамоў.* Мнюхі Міёр.

ПАФАТЫГАВА'ЦЦА *зак.* Патурбавацца, паклапаціцца. *Прашу вас, пафатыгуйцесё, прывязеце мне збанка.* Навасёлкі Свісл.

ПАХАДУ'ХА *ж.* Жанчына, якая любіць хадзіць па сяле. *Як пычаўсі дзень, дык наша пахадуха і ў хаці не стыкаецца.* Моханава В.-Дзв.



9. Зак. 1598

ПАХАДУ'ШКА (походу'шка) *ж.* Прыстасаванне, пры дапамозе якога дзеці вучацца хадзіць. *Зрабій походушку, хай дітя вучыцца ходыт.* Бастынь Лун.

ПАХА'ТНІЦА (поха'тніца) *ж.* Тое, што і пахадуха. *Гэ, ужэ похатніца іде, мо нова шчо несе.* Бастынь Лун.

ПАХА'ЦЬ (пыха'ць) *незак.* Баранаваць пасля таго, як засеюць. *Авёс пасеяў, а цяпер нада пыхаць. Жыта пасеяў, нада пыхаць.* Моханава В.-Дзв.

ПА'ХВА *ж.* 1. Паха. *У самай пахві села скулка.* Шкураты Браг. 2. Частка рукава ў сарочцы пад пахай. *Трэбо ў сорочку ўшыць пуд пахву ласточку.* Бобрыкі Петр.

ПАХРАСЦІ'ЦЦА (пахрасьці'цца) *зак.* Прарасці, папускаць парасткі. *У склепі ўся картофля пахрасьцілася.* Навасёлкі Свісл.

ПАХУДНЯ'ЦЬ *зак.* Пахудзець. *Цялёнак пахудняў на пяць кіло, як атсадзілі ат каровы.* Моханава В.-Дзв.

ПАЦ *м.* Пацук. *Папаўся пац у пастку.* Паляцкішкі Вор.

ПАЦВІ'НАК (пацьві'нак, по'твінок) *м.* Падгадаванае парася. *Потвінка трэбо зарэзаць косцам.* Бастынь Лун. *Пакармлю пацьвінка, а на дзівятні к кірмашу зарэжу.* Моханава В.-Дзв.

ПАЦЕ'ХА (поте'ха) *ж.* Радасць. *О, якая потеха, дочка прыехала з города.* Горск Бяроз.

ПАЦЁК *м.* Рага. *Якія пацёкі на вакне пасля дажджа.* Моханава В.-Дзв.

ПАЦЁРКІ (патёркі) *мн.* Сукаратка. *Ныткы крутые, круто прадэ, аж патёркы збэрае.* Горск Бяроз.

ПАЦЁС *м.* Столь. *Думаю пабяліць пацёс, кап было святлей у хаці. Пацёс пабялілі бялілами.* Старае Сяло Зэльв. *Усю хату пубяліла і пацёс пубяліла.* Навасёлкі Свісл.

ПАЦЁСІНА *ж.* Дошка ў столі. *У пацёсі зніла адна пацёсіна.* Навасёлкі Свісл.

ПАЦЫЯ'Т *м.* Франтон. *У канец хаты забівают пацыят.* Азарычы Пін.

ПАЦЯ'ГАВІЧ *м.* Кіёк, адзін канец якога ўсаджан ў дзірку навоя і не дае навою круціцца. *Пацягавіч атпускаць ніткі асновы з навоя.* Заазер'е Віл.

ПАЦЯГА'КА *ж.* Тое, што і пахадуха. *Ужо пашла наша пацягака хадзіць.* Саламір'е. Пол.

ПАЦЯГУ'ХА *ж.* Жанчына, якая любіць хадзіць па сяле. *Пацягуха нічога ня робіць, толькі ходзіць.* Моханава В.-Дзв.

ПАЧА'ТАК (поча'ток) *м.* Верацяно з пражай. *Я ўжэ напрала аж тры початкі. Одзін початок змотала.* Бобрыкі Петр.

ПАЧАХРЫ'ЦЦА (почохры'цца) *зак.* Пачасацца. *Жалосніца гэто ак пожалуе, то почохрысса. Жалосніца добрэ жалуе.* Бастынь Лун.

ПАЧО'СКІ *толькі мн.* Па'часкі. *Пачасала лён на сьвінную шчотку і начасала пачоскаў.* Шкураты Браг.

ПАЧО'СЫ *толькі мн.* Тое, што і пачоскі. *Пачосы спрала і выткала ручнікі.* Бастынь Лун.

ПАЧУХРЫ'ЦЬ (почухры'ты) *зак.* Пачухаць. *Вона хочэ, штоб я ёй почухрыла спыну.* Горск Бяроз.

ПАШАРО'ШЫЦЦА (пошоро'шыцца) *зак.* Зрабіцца шурпатым (пра скуру). *Ізмэрз так, аж тэло пошорошылоса.* Горск Бяроз.

ПА'ШКА I *ж.* Малады лісточак аеру. *У аіру е пашкі, якія дзеці ядзяць. Што, дужа салотка пашка?* Навасёлкі Свісл.



ПА'ШКА II *ж.* Скручаная лаза для прывязвання паплёту да кроквау. *На лату кладзецца салома. На салому кладуць тонкую драбясьціну і прывязваюць пашкамі. Пашка робіцца з ракіціны або з лазы, і ёй прывязваюць драбясьціну да латы, калі крыюць страху.* Навасёлкі Свісл.

ПАШКРЭ'БЕЦ (пошкрэ'бэц) *м.* Апошняе дзіця ў бацькоў. *Мікіта мой — пошкрэбэц, последній буў у маткі.* Бастынь Лун.

ПАШЛЯМАВА'ЦЬ (пышлімува'ць) *зак.* Пачысціць (пра кішкі). *Пышлімуваць нада кішкі ны кілбасы.* Якубова Рас.

ПАШПА'РЫЦЬ *зак.* Хутка пайсці. *Вот пышпарыў, што ніяк ні дыгнаць.* Моханава В.-Дзв.

ПАШТО' *прысл.* Нашто. *Пашто ву рэжаця етакімі бурталямі радыс, чы ву будзяця есьці?* Шкураты Браг.

ПАШУГА'ЦЬ *зак.* Пакалыхаць. *Пышугай дзіця, хай яшчэ пасьпіць.* Моханава В.-Дзв.

ПАШЧЭ'МКА *ж.* Сківіца. *Зубы баляць, аш пашчэмка напохла.* Ністанішкі Смарг. *Баліць пашчэмка ат зубоў, бо зубы баляць.* Паляцкішкі Вор.

ПАШЫ'НА *ж.* Галлё, якім накрывалі лён пры мачэнні. *Пумачылі лён у выгаркі. Накрылі пашынай, а наверх націснулі пумыкамі.* Сяляўшчына Рас.

ПАШЫХАВА'ЦЬ (пашыхыва'ць) *зак.* Пашанцаваць. *Яму добра пашыхывала. Ён быгатую жонку ўзяў, так пашыхывала, што зразу на ногі стаў.* Вароніна Рас.

ПАЯ'С *м.* Клінападобны папярочны драўляны брусок для змацоўвання дзвярных дошак. *Дзьверы зьбіваюць двума паясамі. Адзін пояс уверху, а другі ўнізу.* Паляцкішкі Вор.

ПЕ'ГАРКІ *мн.* Бульба з прыгаркамі. *Мама, дастань бульбу і пегаркі дай мне, я буду есьці.* Стайкі Барыс.

ПЕ'КАЦЬ *незак.* Перыць, біць пранікам бялізну. *Дома буду жмыхаць сарочкі, а тады пайду на рэчку і буду пекаць пранікам па сарочках.* Якубова Рас.

ПЕ'ЛЕЦ *м.* Маленькі кусок сала. *Пелец кагалі, калі малэй кусок сала.* Бастынь Лун.

ПЕЛУ'Н *м.* Палын. *Тут расцець толькі адзін пелун.* Ністанішкі Смарг.

ПЕЛЬ *ж.* Балота. *Церэз пель не пераедзеш, нада аб'ехаць. Па пелі куп'я расьце. Шукай моху ў пелі. О, якая пель купістая!* Шкураты Браг.

ПЕ'ЛЬКА *ж.* 1. Невялікі вадаём. *У лесі ці на полі, кругленькое, дзе стоіць вода, му зовом пелькой.* Бобрыкі Петр. 2. Палонка. *А ты мне просек пельку на копанцы? Ідзі просечы, буду муць плацье.* Бобрыкі Петр.

ПЕ'ЛЮСЦІ (пэ'люстэ) *толькі мн.* Чалеснікі. *Зробыв пэчнык нызкые пэлюстэ, шчо чыгуна нэ засодыты.* Горск Бяроз.

ПЕ'ЛЯ *ж.* Сажалка. *Ідзі ў пелю і нарві яерніку.* Бобрыкі Петр.

ПЕ'ННЕ (пе'ння) *н. зборн.* Пер'е, якое адрастае пасля лінькі птушак. *Курыца пычыла ліняць, адно пення.* Якубова Рас. *Зарэзала куры'цу, а ў яе адно пення, што і рады ні дам.* Сяляўшчына Рас.

ПЕНЬ *м.* Частка снапа ад перавясла да зрэзу. *Стаў снапы пнямі на зямлю, хай сохнуць.* Калодзішчы Мін. *Жыта можна было п возіць, алі пні сырыя.* Раўбічы Мін. *Пыстаў снапы пнём на зямлю, а галовамі уверх, кап сохлі.* Барыскі Лаг.

ПЕРАБАГА'ЦІЦЬ *зак.* Усыпаць больш, чым трэба. *Ой, перабагаціла крухмалу ў кісель.* Шкураты Браг.

ПЕРАБО'РКА (пірабо'рка) *ж.* Перагародка. *Была адна быльшая комната, а я здзелала піраборку, цяпер дзьве комнаты.* Сяляўшчына Рас.

ПЕРАВА'ЛКІ *мн.* Канаплянае валакно, якое не гадзіцца для прадзення. *З перавалкаў зьвіў крэпкія гужы, што ім і зносу не будзіць.* Касталомава В.-Дзв.

ПЕРАВЕ'ЙНІКІ (пэрэвэ'йнікі) *мн.* Галінкі хмызняку, якімі перавіваюць калкі плота. *Плэт ак городімо, то робім пэрэвэйнікі. Пэрэвэйнікі закручваем і клодэм жэрдіну на пэрэвэйнікі.* Бастынь Лун.

ПЕРАГІ'Б (перэгі'б) *м.* Сустаў. *Заболеў перэгіб пуд коленом.* Бобрыкі Петр. *У руцэ ля далоні е перэгіб.* Шкураты Браг.

ПЕРАГО'НАМІ (пэрэго'намі) *прысл.* З перарывамі (пра дождж). *Дожак іде пэрэгонамі.* Бастынь Лун.

ПЕРАГРЭ'БІНЫ *мн.* Пласты сена. *Пераграбаюць перагрэбіны і кладуць сена ў капіцы.* Навасёлкі Свісл.

ПЕРАДЗЕ'ННЕ (пэрэды'ньe) *н.* Стойла, дзе стаяць каровы днём. *У пэрэдыньe стоіть товар, і мы ходім туды доіть.* Бастынь Лун.

ПЕРАДО'К I (пэрэдо'к) *м.* Папярочная планка, якая злучае ў санях палазы. *Пэрэдок е ў санях, вэн скрапляе два полозы ў санях.* Бастынь Лун.

ПЕРАДО'К II *м.* Усход нагі. *От моцна выцяла перадок нагі.* Міратычы Кар.

ПЕРАДО'ЎКА I *ж.* Тое, што і перадок I. *Два палазы ў перадзе скрапляюць перадоўкай.* Жахавічы Маз.

ПЕРАДО'ЎКА II *ж.* Вяроўка, якая прывязана спераду воза і прыціскае рубель. *Закінь перадоўку на жардзіну і ўвяжы вос.* Касталомава В.-Дзв.

ПЕРАДРО'ГАЦЦА *зак.* Перагрэсціся. *Па грудзі ехалі ў калёсах, ды так перадрогаліся.* Моханава В.-Дзв.

ПЕРАЖАРГНУ'ЦЬ (пэрэжаргну'ть) *зак.* Пераступіць. *Вэн пэрэжаргнув дэрэвыну і пошов собе.* Азарычы Пін.

ПЕРАЗІ'МАК (пэрэзі'мок) *м.* Пярэзімак. *Бычок — пэрэзімок, шчэ малый.* Бастынь Лун.

ПЕРАЗО'ВЫ (пэрэзо'вы) *мн.* Вясельны абрад, калі бацькі едуць у госці да дачкі. *Езділі ік дочке на пэрэзовы.* Бастынь Лун.

ПЕРАЗЫ'ЎКІ *мн.* Тое, што і перазовы. *Прышла нядзеля пысля вяселля, дычка мыя з зяцям прыехалі і ўзялі мяне на перазыўкі.* Сяляўшчына Рас.

ПЕРАКЛА'ДЗІНА I *ж.* Планка для замацоўвання ножак стала. *Пастаў ногі на перакладзіну і не дрыгай нагамі.* Тульгавічы Хойн.

ПЕРАКЛА'ДЗІНА II *ж.* Намарзень. *У палазы ўбіў стойкі, на стойкі палажыў вязы, а на вязы палажыў перакладзіну.* Барыскі Лаг.

ПЕРАКРЫ'ЦЦЕ *н.* Бервяно ў зрубе над прасценкамі, над вокнамі і над дзвярамі. *На сумакі кладом перакрыцце вокан і дзьвярэй.* Шкураты Браг.

ПЕРАКРЭ'СТАК *м.* Скрыжаванне дарог. *Ідзіце да перакрэстка, а там дарога пойдзіць направа, ёй і ідзіце.* Ністанішкі Смарг.

ПЕРАМО'Т *м.* Памылка пры снаванні, якая заключаецца ў пропуску чарговага калочка пры накладванні асновы. *Снавала-снавала і наснавала перамота. Вот ён і ідзе назад.* Міратычы Кар.



ПЕРАМО'ТА (пэрэмо'та) *ж.* Тое, што і перамот. *Снавала кросна і положыла пэрэмоту.* Бастынь Лун. *Ак снавала кросна, нэ дошла куды трэбо, і зробыла пэрэмоту, а тэпэр пэрэмота ідэ назад.* Азарычы Пін.

ПЕРАПА'Л (пірыпа'л) *м.* Сварка. *Сягодня ў нас быў пірыпал с суседам.* Сяляўшчына Рас.

ПЕРАПЕ'ЧА (пірапе'ча) *ж.* Печыва. *На пірапечу нада замясіць салоткаё цеста.* Стайкі Барыс.

ПЕРАПО'НА *ж.* Папярочная планка ў аконнай раме. *Згнілі перапоны ў рамі, і вываліласся шыба ў вакне.* Навасёлкі Свісл.

ПЕРАПУСЦІ'ЦЬ *зак.* Ператапіць (пра тлушч). *Я свой увесь жыр перапусціла і зліла ў банку, хай стаіць.* Міратычы Кар.

ПЕРАСВЕ'Р (пірасве'р) *м.* Журавель (у калодзежы). *На вілы ў калодзісі кладзецца пірасвер.* Стайкі Барыс.

ПЕРАСЕ'ДЗЕЛКА *ж.* Старая дзеўка. *Гэтай пераседзелцы жаніха ні шукаць. Пераседзелка будзіць сядзець у дзеўках.* Касталомава В-Дзв.

ПЕРАСНО'ЎКА *ж.* Памылка пры снаванні, калі снуецца болей пасам, чым павінна быць. *У аснові ныснывала перасноўку. Думала сныываць дзьвінаццаць пасам, а ныснывала пітнаццаць.* Моханава В.-Дзв.

ПЕРАСО'ЛКА (пірасо'лка) *ж.* Планка для замацоўвання ножак стала. *Пыстаў ногі на перасолку і сядзі ціха за сталом.* Якубова Рас. *Пылымалася перасолка ў сталe і стол шатаецца.* Моханава В-Дзв. *У сталe ёсць пірасолкі, ты садзісь за стол і стаў ногі на пірасолку.* Сяляўшчына Рас.

ПЕРАСЦЁЛЫ (пэрэсцёлы) *мн.* Праслойкі мяса ў сале. *Гэтого року сало не добрэ, з пэрэстёламі сало і не топко.* Бастынь Лун.

ПЕРАСЯДЗЕ'ЛЬНІК (перэседзе'льнік) *м.* Пасак (у вупражы). *Пудцегні коню перэседзельнік.* Бобрыкі Петр.

ПЕРАСЯКА'ННЕ (перасяка'нё) *н.* Матычанне. *У брушцы трэбо зрабіць перасяканё, а то зарасла пыр'ём.* Навасёлкі Свісл.

ПЕРАХЛЯ'БІСТЫЙ (пэрэхля'бістый) *прым.* 1. Худы (пра жывёлу). *Мой конь такі пэрэхлябістый, што не знаю, ак я буду на їм пахаць.* Бастынь Лун. 2. Жывёла з упаўшымі бакамі. *Прышла корова пэрэхлябіста, ні поевшы.* Бастынь Лун.

ПЕРАЦЯ'ЖКА (пэрэтя'жка) *ж.* Перад (у боце). *Зробіў у чэровіках пэрэтяжкі.* Бастынь Лун.

ПЕРАЧЫ'НАК (пэрэчы'нок) *м.* Пласт сена. *Буду пэрэчыняты сено у пэрэчынок.* Горск Бяроз.

ПЕРАЧЫНІ'ЦЬ (пэрэчыны'ты) *зак.* Напластаваць сена. *Пэрэчынынв сена і прынёс до хуры.* Горск Бяроз.

ПЕРАЧЫНЯ'ЦЬ (пэрэчыня'ты) *незак.* Пластаваць сена. *Буду пэрэчыняты сена ў пэрэчынок.* Горск Бяроз.

ПЕРАЧЭ'СКІ (пэрэчэ'скі) *мн.* Пачаскі. *Як другэй раз чэшут лён на шэрстяную шчэтку, то на шчэццы остаюцца пэрэчэскі.* Азарычы Пін.

ПЕ'РВІСІНКА *ж.* Першацёлка. *У мяне первісінка і мылыка мала даець.* Сяляўшчына Рас.

ПЕ'Р'Е (пе'р'ё, пе'р'я) *н. зборн.* 1. Лісты цыбулі. *Гэтага году добрая пер'я на цыбулі.* Барыскі Лаг. *Ідзі нашчыпай пер'ё цыбулькі.* Міратычы Кар. 2. Лісце жыта. *У жыці пер'е ўжо велікоё, колас пачаў выплываць.* Навасёлкі Свісл.

ПЕ′Р'ЕЧКА (пе′р'ечко) *н.* Ліст кропа. *Ідэтэ нарвэтэ пер'ечка крэпа.* Азарычы Пін.

ПЕРКА′ЛЬ *м.* Паркаль. *Купіла перкалю на рубашку.* Шкураты Браг.

ПЕ′РСА *ж.* Перхаць. *У его ў чубу есь перса.* Бобрыкі Петр.

ПЕ′РСЦІ (пе′рсьці) *толькі мн.* Грудзі ў каня. *Якія широкія персьці ў кыня.* Моханава В.-Дзв.

ПЕ′РУН *м.* Пярун. *Дож ідзе, бліскавіца бліская, перун б'е. Перун забіў дзесяць чалавек.* Шкураты Браг.

ПЕ′ТЛАХІ *мн.* Валасы. *Я табе ўсе петлахі вырву з галавы.* Вадва В.-Дзв.

ПЕ′ЧАЧКА *ж.* Ямка (у печы). *Выграбі жар із печы ў печачку.* Шкураты Браг.

ПЕЧАЯ′ *ж.* Пякотка. *Як мне недобрэ сягодне, дужа печая пячэ.* Тульгавічы Хойн.

ПЕ′ЧКА (пэ′чка) *ж.* 1. Тое, што і печачка. *Гэ, бокавая часть у пэчы, куда загрэбаім жар.* Бастынь Лун. 2. Ніша ў печы, дзе стаяць гаршкі, скавароды. *Пыд прыпэкам зробів пэчку, у пэчку засмыкалі горшкі, патэльны.* Бастынь Лун.

ПЕ′ЧЫШЧА (пэ′чышчэ) *н.* Вялікая печ. *А мой мужычышчэ залез на пэчышчэ, дала квасу ш чэрэпком, помоленьку свышчэ — слышчэ.* Горск Бяроз.

ПЕ′ШНЯ *ж.* Сталярны інструмент для ачысткі пазоў. *Пешня, вона похожа на долото, но шырэйша і больша.* Бастынь Лун.

ПЁРЫ І *толькі мн.* Вастрыё ў свярдзёлку. *У тэбелі на канцы вінт, а па бакох пёры, пёрамі тэбель рэжа дзерава.* Навасёлкі Свісл.

ПЁРЫ ІІ *мн.* Плаўнікі. *Чаму ты пёры не абрэзала ў рыбы?* Ністанішкі Смарг.

ПІГУ′ЛІ *мн.* Пілюлі. *У ее шэхва, дохтор дав пігулі, а ее усё тросе.* Бастынь Лун.

ПІ′ЛЬСЦЬ *ж.* Шчаціпне. *Забілі кабана, але не смалілі, а дралі пільсць, якая нада на шчотку.* Барыскі Лаг.

ПІРАЖКІ′ *мн.* Каташкі. Піражкі на бярозі. *Ты розгі з піражкамі не ламі на венікі, а без піражкоў.* Шкураты Браг.

ПІРАСВЕ′Р (пірасьве′р) *м.* Журавель (у калодзежы). *На вілы кладзецца пірасьвер у калодзежы.* Стайкі Барыс.

ПІ′РСА *ж.* Апілкі. *Пілуюць дрова, а пірса ляціць.* Шкураты Браг.

ПІСКЛЁНАК *м.* Кураня. *Пісклятніца прыціснула пісклёнка.* Ваўкавічы Тал.

ПІСКЛЯ′ТНІЦА *ж.* Кураводка. *Пісклятніца водзіць піскляг.* Ваўкавічы Тал.

ПІСЯ′Г *м.* Доўгі шрам на целе жывёліны, нанесены рогам. *Абрэш сваей карові рогі, а то вун які пісяг маей карові зрабіла сваімі рыгамі.* Замошша Рас.

ПІТЛЁЎКА (пытлёўка) *ж.* Высокагатунковая мука. *На пытэль напытлёваў мэшок пытлёўкі.* Бастынь Лун. *Купіў быў мукі пітлёўкі.* Моханава В.-Дзв.

ПІЎНІ′ЦА *ж.* Драўляная бочачка з двума донцамі на квас. *Вырвала донцэ ў півніцы, і квас выцек. Прынесі півніцу буду делать квас.* Бастынь Лун.

ПІХАЎЕ′ *н.* Чаранок у лапаце. *Зламалась піхаўе ў заступі.* Руда Хойн.



ПІ′ШЧЫК І *м.* Цвёрдая частка пяра. *Вырвала перо із крыла, які товсты пішчык в перу.* Бастынь Лун. *З курыных пішчыкаў робім зубачысткі.* Водва В.-Дзв.

ПІ′ШЧЫК ІІ *м.* Аер. *Ужо пішчыкі выраслі на аколіцы. Я з'еў адзін пішчык, ён салодзенькі, смачны.* Навасёлкі Свісл.

ПЛАВА′К *м.* Плывец *А плавак далеко заплыв.* Бастынь Лун.

ПЛА′МЯ (пла′мё) *м.* Полымя. *Пламё шугаё с печы.* Міратычы Кар.

ПЛАСКУНЫ′ *толькі мн.* Маніцы. *Пайду выбіраць пласкуны.* Моханава В.-Дзв.

ПЛАСТО′К *м.* Пачассе. *А лён, дзе астаецца на шчэцці, калі чэшуць кужаль, называецца пласткамі, а адзін — пласток.* Мнюхі Міёр.

ПЛАСЦІ′ЦЬ *незак.* Пластаваць. *Пайду пласціць сена, а пысьля палудня будзім вазіць у пуню.* Моханава В.-Дзв.

ПЛА′ХА *ж.* Тоўстая дошка, якой закрываюць уваход у стаячым калодачным вулеі. *У калоді е дірка, вона закладываецца тесьліем, а тесьліе закрываецца плахаю.* Бастынь Лун.

ПЛА′ХТА *ж.* Спосаб укладкі дошак для нрасушкі. *Мы доскі положылі на плахту. Ета кладут одну доску на другую, то ест плахта.* Горск Бяроз.

ПЛАЦЕ′НАК (плоце′нок) *м.* Льняная саматканая спадніца. *Пошэла собы плоценок.* Дзмітравічы Кам.

ПЛА′ЦЦЕ *н.* Бялізна. *Я цепер адціраю плацце, а тогды пайду муць на копанку.* Бобрыкі Петр.

ПЛЕСКАНІ′НА *ж.* Макрата. *Ля, сёня такая на дварэ плесканіна.* Навасёлкі Свісл.

ПЛЕ′ТНЯ *ж.* Пляцёнка асновы. *Наснавала дэсыт гыб і сплэла у плетню сушыты.* Горск Бяроз.

ПЛЕ′ХА *ж.* Завязь у яблыку. *У яблыку е караньчык і плеха. Плеха на вярху пасярэдзіне, а караньчык унізу, караньчыкам яблыко трымаецца на яблані.* Навасёлкі Свісл.

ПЛЕ′ЦЕНКА (пле′тенка) *ж.* 1. Тое, што і плетня. *Кончыла сноваті кросны, а тэпэр трэбо зняті і зробіті плетенку.* Азарычы Пін. 2. Мярэжка. *Трэбо зрабіті ў настэльніку плетенку. Я шыю настэльніка плетенкаю.* Азарычы Пін.

ПЛЕЦЬ *ж.* Падоўжаны край бёрда, у які ўстаўляюць трысцінкі. *Вырвалася тросць с плеці ў бердзі.* Паляцкішкі Вор.

ПЛЕ′ЧКІ *мн.* Гестка. *Раней шылі куртку с плечкам, а цяпер ня шыюць.* Воранава Рас.

ПЛЕ′ЧЫ *мн.* Падкладка на плячах ў сарочцы. *Пашыла сарочку і плечы патшыла, кап було крапчэй.* Замошша Рас.

ПЛІ′САВЫЙ *прым.* Аксамітавы. *Ён надзеў плісавый кулёк.* Якубова Рас.

ПЛІ′СКА І *ж.* Падшыўка. *Трэ падшыць пліску ў спадніцы.* Жахавічы Маз.

ПЛІ′СКА ІІ *ж.* Драбіны (у калёсах). *У мужыкэв був вэз із-за пліскамі по бокэх. Пліскі позакладае за душкі воза дай еде собэ.* Бастынь Лун.

ПЛІТА′ *ж.* Вялікі кавалак сала. *Колі малэй кусок сала, тоды кагам пелец, а колі вэлікі, то кагуть пліта. Адрэзаў пліту сала і повэз продоваті.* Бастынь Лун.

ПЛО′МЯ *н.* Полымя. *Дровы добра гараць, аш пломя шугая.* Паляцкішкі Вор.

ПЛО′СКА *прысл.* Некрута (пра ніткі). *Плоска напрала ніткі. Нада больш круціць калаўрот.* Сяляўшчына Рас.
ПЛО′СКІ *прым.* Некруты (пра нітку). *Круці больш пралку, а то плоская нітка.* Ваўкавічы Тал.
ПЛУЦІ′ЦЬ (плуты′ты) *незак.* Распуснічаць, гарэзаваць. *Будэ тобэ ужэ плутыты.* Горск Бяроз.
ПЛЫ′ГАЦЬ *незак.* Прыгаць, шагаць. *Я плыгаю па градах, баюся, кеб хто ні ўкусій, бо мама настрашыла мяне, кеб я па градах не плыгала.* Шкураты Браг.
ПЛЫ′ТНІЦКІ *прым.* Тоўсты (пра скібу хлеба). *От ву адрэзалі мне плытніцкую скібку хлеба.* Шкураты Браг.
ПЛЫ′ЧЫЦЬ *незак.* Рэгуляваць глыбіню ворыва. *Плычыць трэба стралу, кап плух арай не глыбока, а мялчэй.* Міратычы Кар.
ПЛЮГА′ВЫ *прым.* 1. Брудны. *Вэн такі плюгавы, шчо страх одын.* Азарычы Пін. 2. Гразкі (пра дарогу). *Чуць прыехэв, такая плюгавая дарога, шчо нэможнэ ехаті.* Азарычы Пін.
ПЛЮ-ПЛЮ-ПЛЮ *выкл.* Ужываецца, калі падзываюць куранят. Навасёлкі Свісл.
ПЛЮ′СКА *ж.* Клоп. *Цяпер у хатах чыста і плюскаў няма.* Міратычы Кар.
ПЛЮ′ШАУКА *ж.* Плюшавы жакет. *Купіла сабе плюшаўку, добра будзе насіць.* Навасёлкі Свісл.
ПЛЯВА′ *ж.* Дыяфрагма. *Забій пырсюка, выпусцій кішкі, рызырвай пляву і дыстаў сэрца.* Моханава В.-Дзв.
ПЛЯВУ′СКАЦЬ *незак.* Плявузгаць. *Што ты плявускаеш? Перастань плявускаць няпраўду!* Міратычы Кар.
ПЛЯНІ′ЦА *ж.* Сіло (на птушак). *Зрабій с конскага хвыста пляніцу, буду лавіць сініц.* Моханава В.-Дзв.
ПЛЯСНІ′К (плеснí′к) *м.* Плюшнік. *Росте плеснік на воде, вон похож на аер.* Бастынь Лун.
ПЛЯСНЯ′К *м.* Праснак. *Трэбо сёня сьпячы плясьняка на скавародзе. Я сьпякла плясьняка, трэбо зрабіць круху. Плясьняк не ядуць, бо ён салоткі. Плясьняк кідаюць у халодну воду і ён кісьня. Калі плясьняк укісьня, то гэто ўжо будуць крухі.* Міратычы Кар.
ПЛЯ′ХА *ж.* Слізь у кішках жывёл. *У коўбіку е пляха, якую трэба абдзіраць нажом. Як вуверніш коўбік у карову, а там пляхі, як ежык шурпаты.* Шкураты Браг.
ПЛЯ′ХАЦЦА *незак.* Плюхацца. *Наліла поўны гаршок вады і ў вадзе пляхаецца, як жаба.* Міратычы Кар.
ПЛЯЦЁНКА *ж.* 1. Сеткавая частка сіта. *Пляцёнка нацягваяцца на абечку і абіваяцца акладычам.* Навасёлкі Свісл. 2. Тое, што і плетня. *Са снуўніцы забрала кросна і спляла ў пляцёнку.* Міратычы Кар.
ПНУЦЬ *зак.* Ударыць. *Сьціпан пнуў нагой парожняе вядро, што вылялася пыд ныгамі.* Моханава В.-Дзв.
ПО′ВАД (по′вод) *м.* Косы ў гарбузоў, агуркоў. *На поводох у гурках завезі богато, будзе богато гуркоў.* Бобрыкі Петр.
ПОД I *м.* Прыстаронак, месца ў гумне паабапал току, дзе складваецца збожжа. *Я етого лета цэлый под у гумне наложыў жыта.* Бобрыкі Петр.
ПОД II (пэд) *м.* Дашчаная шуфляда ў жорнах, на якой ляжыць ніжні камень. *Зробы мне пэд у жорнах.* Бастынь Лун.
ПО′ДАЛ *м.* Падол. *Ты ш подал зарубі ў сукенцы.* Ваўкавічы Тал.



ПО′ДМАЗКА *ж.* Падмазка. *Подмазка скавароду падмазваць.* Тульгавічы Хойн.
ПО′ДСВІНАК (по′дсьвінак) *м. У мяне ўжо ладны подсьвінак.* Рудня Антонаўская Калінк.
ПО′ДУШКА *ж.* Падушка. *Акая подушка большая. У ее подушкі ак гора лежать.* Бастынь Лун.
ПО′ЖНЯ (пы′жня) *ж.* Поле, з якога ўбралі ўраджай. *Пшэніцу звэзлі, осталаса пшэнічна пыжня.* Бастынь Лун.
ПО′ЙСАВАЦЬ *незак.* Паўторна малаціць збожжа для аддзялення зерня ад асця. *Рассунь кучу ячменю па таку, будзім пойсаваць.* Моханава В.-Дзв.
ПО′ЛКА *ж.* Палок. *Дам духу і полезу на полку хвостацця.* Бастынь Лун.
ПО′ЛЫМНЕ *н.* Полымя. *Дрова добра горат, аж полымне шугае.* Горск Бяроз.
ПОЛЬЦ (пэльц) *м.* Кусок сала. *Одрэзов пэльц сала, узяв у торбу хлеб і пошов косіті.* Бастынь Лун.
ПО′НУСКАМ *прысл.* Як папала. *Пускай у яго понускам палкаю.* Міратычы Кар.
ПО′ПЕРАДЗЕЙ (по′пырыдэй) *м.* Тоўстая вяроўка ў перадку воза, якая закладваецца на канец жэрдкі, калі ўціскаюць снапы, сена на возе. *Закідаймо попырыдэй, трэбо добрэ утыснутэ сыно.* Дзмітравічы Кам.
ПО′ПЕРАДЗЕНЬ *м.* Папярочная планка, якая злучае ў санях два палазы. *Поперадзень скрапляя палазы ў санях.* Навасёлкі Свісл.
ПО′ПЛАЎ *м.* Сенажаць на высокім месцы. *Поплаў — высоко место, де косімо. На поплаві сухо і росте хорошэ трава.* Бастынь Лун.
ПО′ПРАДЫ *толькі мн.* Дняўныя зборышчы, на якіх прадуць кудзелю. *Папрадухі ідуць на попрады і там прадуць цэлы дзень.* Касталомава В.-Дзв.
ПО′РТАЧКА *ж.* Сподняя спадніца. *Да станіка трэбо прышыць портачку зрэбну. Станік кужэльны, а портачка зрэбна.* Міратычы Кар.
ПО′СВЕТ *м.* Падвеснае прыстасаванне для асвятлення лучынай. *Трэбо подвесіті вышэй посвет, запаліть лучыніну і ўваткнуць у посвет.* Бастынь Лун.
ПО′СІК *м.* Мачавы пузыр. *У посік набіваюць плотна мяса і розную прыправу і зашываюць наглуха.* Міратычы Кар. *Зарэзалі пырсюка, выразалі посік, надулі, высушылі яго.* Моханава В.-Дзв.
ПО′СІЛКА *ж.* Вочап. *От поломаласа посілка, і нема як воду цегці.* Бобрыкі Петр.
ПО′СТАЎ (по′стов) *м.* Ніжні і верхні камяні ў жорнах. *Купів постов, буду робіті жорны.* Бастынь Лун.
ПО′СТАЎКА *ж.* Надстаўка з тоўстага палатна ў нізе жаночай сарочкі. *Рубашку шылі жэнскую с тонкага пылытна, а пытстыўлялі ўніс тоўстая палатно. Вот гэта і ёсць постаўка.* Сяляўшчына Рас.
ПО′ТАК I *м.* Ручная машына для навівання цэвак. *Прынясі потак і насукай цэвак, буду ткаць кросна.* Вострава Маст.
ПО′ТАК II *м.* Уток. *Прынэсы ныткы потака, трэбо насукаты цэвок, бо нэма чым ткаты.* Горск Бяроз.
ПО′ТАЛАК *м.* Чарэнь. *Ці напаліла ты добра поталак? Будзім хлеп пячы.* Сяляўшчына Рас.

ПО'ЎЗЕ (по'ўзя) *н. зборн.* Латы. *На крокви прыбіваюць поўзя. С саломы вяжуць трайчаке і прывязваюць да поўзя, калі крыюць страху.* Вострава Маст.

ПО'ЎЗІНЫ (пэ'взіны) *толькі мн.* Апоўзіны. *Поўзіны кладуць на стох, кеп вецяр ні зорваў верха.* Навасёлкі Свісл. *Стожка прылажылі пэўзінамі, коб вэтер нэ рознэс сэно.* Азарычы Пін.

ПО'ЎНАТА *ж.* Поўня. *Кажуць, што ў поўнату няможна выкладаць кілункоў.* Моханава В.-Дзв.

ПО'ЎНІЦЦА (по'вніцца) *незак.* Напаўняцца. *Ужэ начынает жыто повніцца, ужэ е у мошонцы пятка.* Азарычы Пін.

ПОЎХ *м.* Крот. *Поўх нарыў много земнэ.* Горск Бяроз.

ПО'ЦЕСЬ (по'тэсь, по'тесь) *м.* 1. Прасніца. *У потэсі е кудэльнішчэ, до екого мотузом прывязваем кудэлю.* Азарычы Пін. 2. Дэталь у прасніцы, да якой прывязваецца кудзеля. *Скруціла куделю і увезала у потесь.* Бастынь Лун.

ПО'ШАР *м.* Корм (для жывёлы). *Аўсяная салома і ячменная салома — пошар добры для кароў.* Паляцкішкі Вор.

ПО'ШВА *ж.* Шво. *Зробі добру пошву ў бундзі.* Бобрыкі Петр. *У мяне распаролася кохта на пошві.* Шкураты Браг.

ПО'ЯС I (по'іс) *м.* 1. Падбрушнік. *Надзень на коня пучкі і набедрыкі і пудшпулі поясом.* Бобрыкі Петр. 2. Спавівач. *Дзяцей спувівалі поісам.* Ваўкавічы Тал.

ПО'ЯС II (по'ес) *м.* 1. Папярочная планка ў лаве. *Трэба загнаць у дошку пояс, а тады ў пояс убіць ношкі, і будзе гатова лава.* Навасёлкі Свісл. 2. Планка, якой звязваюць кроквы блізка ля скрыжавання. *Паставів кроквы і закрэпів поесам.* Бастынь Лун. *Кроквы нада замацаваць поясам.* Альхоўка Навагр.

ПРАВЕ'РЗГАЦЬ *зак іран.* Прамыць абы-як, збольшага. *Трохі праверзгала твар і добра.* Ністанішкі Смарг.

ПРАВІ'ЛА I (правы'ло) *н.* Ачэп. *На дэрэвыну кладэмо балкы, а на балкы кладэм правыло.* Горск Бяроз.

ПРАВІ'ЛА II *н.* Тоўстая доўгая жардзіна, пры дапамозе якой злучаюць зад і перад калёс, калі возяць бярвенне. *Зрабіў правіла ў калёсы. Заўтра паеду вазіць калоды на рум.* Вадва В.-Дзв.

ПРА'ВІЦЬ *незак.* Спраўляць. *Якога чысла сьвята, такога і правяць яго.* Шкураты Браг.

ПРАГЛУ'ЗДАЦЦА (проглу'здоцца) *зак.* Паразумнець. *О, аі, хоця б ено колі проглуздолосо, гэто дзіця.* Бобрыкі Петр.

ПРАГНО'Й *м.* Вір. *На вадзе глыб такій, як вінт круця етый прагной, можна ўтапіцца.* Шкураты Браг.

ПРАГО'Н *м.* Сцежка ў лесе, вытаптаная жывёлай. *Пайдзём каройім прагонам, дзе кароў гыняюць* Сляўшчына Рас.

ПРАГО'НЫ (прого'ны) *мн.* Падоўжнае тоўстае бярвенне, на якое насцілаюць мост. *Прогоны згнілі, трэбо новые поставіті ў мості.* Бастынь Лун.

ПРАГУ'ЛЬНІК (прогу'льнік) *м.* Прагульшчык. *Прагульнік на работу не іде, а ходіть без работы.* Бастынь Лун.

ПРАДЗЕ'ЛЬНІЦА *ж.* Папрадуха. *Раней усю ночачку прала прадзельніца пры лучыні.* Навасёлкі Свісл.

ПРАЕ'РХ *м.* Прарэх. *Пашыла малога праерха ў ганавіцах.* Навасёлкі Свісл.

ПРА'ЖКА (пра'шка) *ж.* Спражка. *Узяў рамень і прашкай так добра даў, што будзіць помніць.* Моханава В.-Дзв. *Вазьму пояс ды ак дам тобэ пражкай.* Бастынь Лун.



ПРАЖО'НКА *ж.* Мачанка, кусочак сала, мяса, рабрынкі, прыгатаваныя на вадзе. *Палажыла ў саганок робрачкі, кусок галавізны, два кальцы кілбас, кусок сала і зрабіла пражонку, будзім мычаць блінамі.* Моханава В.-Дзв.

ПРАЖЫ'РНЫЙ *прым. абразл.* Ненаедны. *Які ён пражырный, скольк і ні дай, усё з'есць і мала, давай яшчэ.* Шкураты Браг.

ПРАЖЭ'ННІНА *ж.* Тое, што і пражонка. *У чугунок наліць вады, палажыць некалькі рабрынак, кілбасы, пару яец, мылыка і мукі, калатоўкай паткалоцюць, вот вам і пражэнніна.* Ваўкавічы Тал.

ПРАЗЕ'БРЫЦЬ (прозе'брыць) *зак. іран.* Прадраць (вочы). *От хоць і не рада, а празебрыла вочы.* Бобрыкі Петр.

ПРАКЛУБАВА'ЦЦА *зак.* Праваждацца. *Цэлы дзянёчак я з ім праклубавалася.* Навасёлкі Свісл.

ПРА'ЛІЦА *ж.* Прасніца. *Нада ўвізаць кудзелінку ў праліцу.* Якубова Рас. *Прынясі праліцу і ўвяжы кужаль.* Сляўшчына Рас. *Увізала кудзелю ў праліцу, буду садзіцца прасці.* Вароніна Рас.

ПРА'ЛКА *ж.* Калаўрот. *Купіла пралку, буду прасьці воўну.* Ваўкавічы Тал.

ПРА'ЛЛЯ *ж.* Папрадуха. *Пралля наша добрая, яна тонка прадзе і скора.* Стайкі Барыс.

ПРАЛЫ'ГАЦЬ *зак.* Праглынуць. *Во напіхаў у рот картофлі, што пралыгаць трудно.* Навасёлкі Свісл.

ПРА'ЛЬНІК *м.* Пранік. *Возьмі пральнік і пополакай короны на рэчцы.* Бастынь Лун.

ПРАМАВА'ЦЬ (прамова'ты) *незак.* Лаяць. *Я на ее прамую за ето, што вона нэ убрала ў хаты. Я болі нэ буду прамоваты ее, послухаю вас.* Горск Бяроз.

ПРА'НІК I *м.* Апалонік (паўзуны). *Пранік разўіваецца з ікры жабы. С пранікаў вырастаюць маленькія жапкі.* Навасёлкі Свісл. *Як многа пранікаў плаваіць у сажалцы.* Моханава В.-Дзв.

ПРА'НІК II *м.* Брус у калёсах, які служыць асновай для драбін і ляжыць на восі. *На вось накладаецца дзеравяны пранік. Пранік і вось скрапляюцца шворанам.* Ністанішкі Смарг.

ПРА'ННІК *м.* Пранік. *Вазьмі праннік і ідзі на рэчку папалашчы бяллё.* Стайкі Барыс. *Прала праннікам плаццяна праламкі.* Ваўкавічы Тал.

ПРАРО'Й (проро'й) *м.* Праліўны дождж. *От дожак пророй, аж птушкі потопяцца і плывают по водэ.* Горск Бяроз.

ПРАРЭ'ЗКА (прорэ'зка, прарэ'ска) *ж.* 1. Падоўжны разрэз у сарочцы. *Зробіла малую прорэзку ў сарочцы.* Бастынь Лун. 2. Пятля (у адзенні). *Прарэзала прарэзку, што і гузік ня лезіць.* Ваўкавічы Тал.

ПРАСЕ'СТ *м.* Адлегласць у кроснах ад бёрда да вытканага палатна. *Адкруціла задні навой, выткала адзін прасест, а цяпер адкручу і буду ткаць другі прасест.* Моханава В.-Дзв. *Атпусьці прасест, бо малыя зявэ.* Міратычы Кар.

ПРАСЕ'СЦЬ (прасе'сь) *ж.* Адлегласць у кроснах ад пярэдняга навоя да бёрда і кавалак палатна, які тчэцца на гэтым участку асновы. *Увесь праміжутак ад бёрда да пярэдніга навоя мы завём прасесь.* Ваўкавічы Тал.

ПРАСКО'К *м.* Кадык. *От у яго бальшый праскок.* Якубова Рас. *У яго бальшы праскок, і каўнер засцягнуць няможна.* Даўгабор'е Рас.

ПРАСМЫКА'ЦЬ (просмыка'ті) *незак.* Працягваць, прасоўваць. *Пасак прывязвают до оглоблі і просмыкают праз бабкі і прывязвают до другэй оглоблі.* Азарычы Пін.

ПРАСТАВА'ЦЬ (простува'ті) *незак.* Ісці напрасткі. *Хто простує, тэй дома не ночуе.* Бастынь Лун.

ПРАСТАКАВА'ЦЬ *незак.* Тое, што і праставаць. *Як пойдзя прастакаваць, то ні будзя ў дома ночы начаваць.* Навасёлкі Свісл.

ПРАСЦЁЛ (просцёл) *м.* Выжатае месца (гароху і да т. п.) *Горох жнуць і на прасцёл кладуць жменькі радком, коб ён сох на просцёлі.* Бобрыкі Петр.

ПРА'ТАЦЬ *незак.* Прыбіраць. *Уставай, уставай, Янка, Стасё хай прача пасьцелі ды на болото трэбо іці.* Навасёдкі Свісл.

ПРАТО'Р (прото'р) *м.* Іголка без вушка. *Поломаласа голка, остався одін протор.* Бастынь Лун.

ПРАХО'ДКА *ж.* Прагулка. *Му пашлі на праходку ў лес.* Шкураты Браг.

ПРАЧ *м.* Пранік. *Плэтню намочыла, попрала прачэм, поторгала і повэсыла плэтню сушыты.* Горск Бяроз.

ПРА'ЧЫК (пра'чэк) *м.* Апалонік. *От качкы наелыс прачыков, ледь волокоцца з рэчкы.* Горск Бяроз. *У водэ мнэго прачыкэв. А ак одэн — тоды прачэк.* Азарычы Пін.

ПРАШКВА'ПІЦЦА *зак.* Праштрафіцца. Шкураты Браг.

ПРАШЧЭ'Й (прошчэ'й) *прысл.* Прасцей. *Тут можно прайсьці прошчэй.* Жахавічы Маз.

ПРО'ЛАБКА (про'лапка) *ж.* Проламка. *Прасячы пролапку на сажалцы і ідзі пылыскаць плаццяя.* Моханава В.-Дзв.

ПРО'ПАСЦЬ (про'пасть) *ж.* Балота; непраходныя зараснікі. *О, тут такая пропасць, што не влесті.* Бастынь Лун.

ПРО'РАЗКА *ж.* 1. Пятля для гузіка. *Трэбо проразкі папкідаць у сарочцы.* Жахавічы Маз. *Малая проразка — не лезе гузік.* Шкураты Браг. 2. Прарэх. *Застегні прорэзку ў наговіцах.* Бастынь Лун.

ПРО'РАНКА *ж.* Тое, што і проразка. *Надо ў пазусі прорэзаті проранку. Проранка малая — не лезе гузік.* Азарычы Пін.

ПРО'СЕНІЦА *ж.* Пладаносная частка проса. *Просеніца пушыстая і ветвістая.* Бастынь Лун.

ПРО'СЕСЦЬ (про'сесть) *ж.* Прамежак паміж ніжнімі і верхнімі ніткамі асновы, праз які праходзіць чаўнок. *У човнік укладаецца цэвка, і човнікэм нітку просмыкаемо у просесть. Малая просесть, што човнік нэ лезе.* Азарычы Пін.

ПРО'СЕЦЬ *ж.* Тое, што і просесць. *У кроснах е просець, куды просмыкаем чоўнік з утокам.* Бобрыкі Петр.

ПРО'СТЫ I *прым.* Некруты (пра пражу). *От у ее пража крутая, а ў мене проста пража.* Бобрыкі Петр.

ПРО'СТЫ II *прым.* Кулявы (пра салому). *С паццэпка выбраў простай саломы на кулі.* Навасёлкі Свісл.

ПРО'СЦІЛКА (про'сьцілка) *ж.* Прасціна. *Просьцілка шыецца із трох полак. Бобрыкі Петр. Абдзіркі спраду і вытку просьцілку.* Жахавічы Маз.

ПРО'ЦЕРАБ (про'тэрэб) *м.* Прарэджванне густога лесу. *Нельга ў хвэйнік зайті, трэбо зробіті протэрэб.* Бастынь Лун.

ПРО'ШКА-РАБО'ШКА *ж.* Божая кароўка. Курына Віц.

ПРО'ШЧЫНЯ *ж.* Палатно, якое выткана ў два панажы. *Колы мы чэмо у прошчыню, то цапляем два понож.* Азарычы Пін.



ПРУ'ГЛІЧКА *ж.* Драўляны падгалоўнік у ложку. *Нада зрабіць пруглічку, кап вышэй було пат галаву, а то дрэнна спаць.* Якубова Рас.

ПРУ'ДЗІЦЦА *незак.* Прасушвацца ў лазні ў духу (пра бялізну). *Павесь там сарочку на шост, хай прудзіцца.* Ваўкавічы Тал. *Занясі ў лазню лайно і павесь на шасток, хай прудзіцца.* Моханава В.-Дзв.

ПРУТ *м.* Тупы край касы. *Каса скасілася да самага прута.* Вострава Маст.

ПРУТО'К *м.* Драўляны стрыжань, на які насаджваецца цэўка ў чаўнаку. *Надзень цэўку на пруток і ўсадзі ў чаўнок.* Моханава В-Дзв.

ПРУТО'ЧАК (пруто'чэк) *м.* Тое, што і пруток. *Насукала цэвку, надзела на пруточэк і усунала у човнік.* Бастынь Лун.

ПРЫАТО'СНІК *м.* Жалезная пласцінка на аглоблі, на якую надзяюць атосы. *Да аглоблі прыбіваюць прыатоснік з зубамі. Атосу надзяваюць на вось і на прыатоснік.* Ністанішкі Смарг.

ПРЫБО'ІНА *ж.* Папярочная жэрдка ў плоце. *Укопаў у землю слупа і прыбіў прыбоіну, а да прыбоіны прыбіў частакол.* Бобрыкі Петр.

ПРЫВА'РАК (прыва'рок) *м.* Варыва. *Я прыварок наварыла: капусты, булён.* Бобрыкі Петр.

ПРЫ'ВАРАТКА *ж.* Частка навітай на навой асновы, якая атпускаецца для ткання з задняга навоя за адзін раз. *Як атпусьціш аснову з задняга навоя адзін рас, вот гэта і будзіць прываротка.* Касталомава В.-Дзв.

ПРЫ'ВЯЗКА I (пры'вяска) *ж.* Вузкая скураная палоска для прымацавання біча да цапільна. *У цэпу ёсць цапілна, гужык і прывяска, якой прывязваюць біча да цапілна.* Альхоўка Наваг. *Вазьмі прывяску і прывяжы біч да цапаўя.* Паўлавічы Клім.

ПРЫ'ВЯЗКА II (пры'віска) *ж.* Жэрдка для прыціскання саломы пры крыцці страхі. *Калі крыім страху, то на салому кладзём прывіску і прывіску прывязваім вяроўкай да латы.* Сальнікі Арш.

ПРЫГАНЯ'ТЫЯ (прыгыня'тыя) *мн.* Няжжатыя сцяблы збожжа. *Жнеш, а прыгынятыя стыяць ззаду цябе.* Сяляўшчына Рас.

ПРЫ'ГАРКІ *мн.* Бульба з прыгаркамі. *Маму, зьнімі прыгаркі з булбы і дай мне.* Бастынь Лун.

ПРЫДА'НКІ *мн.* Госці ад маладой, якія вязуць прыданае маладой да маладога. *Многа паехала прыданак ат маладой, павязьлі прыданае.* Касталомава В.-Дзв.

ПРЫДА'НЫЯ *мн.* Удзельнікі вяселля, якія едуць разам з маладой да маладога. *Ат маладой паехала многа прыданых, чалавек шаснаццаць.* Моханава В.-Дзв.

ПРЫДАРО'ЖНІК (прыдоро'жнік) *м.* Трыпутнік. *Прыдорожнік росте коло дорог і по дорогэх.* Бастынь Лун.

ПРЫДА'ШАК *м.* Частка крышы, якая выступае над сцяной. *Мы ат дажджа спраталіся пат прыдашкам.* Міратычы Кар.

ПРЫ'ЗВА *ж.* Прызба. *Трэбо колі хаты обсыпаті прызву.* Бастынь Лун.

ПРЫКЛЕТНІК *м.* Павець перад уваходам у клець. *Побудовав клець і прыстроів прыклетнік.* Бастынь Лун. *У нас ёсць перад клеццю прыклетнік.* Вадва В.-Дзв. *Пастаў мяшкі ў прыклетнік.* Брусы Мядз.

ПРЫКЛУ'НАК *м.* Павець (для дроў). *Прыклунак прыбудованы до клуні. Шэпка і прыклунак — однэ самэ, гэ!* Азарычы Пін.

ПРЫКЛУ'ННІК *м.* Тое, што і прыклунак. *Прыклуннік і шэпка — однэ і тэ самэ. Вонэ прыбудаваны до клуні.* Азарычы Пін.

ПРЫЛЕ'ПКА *ж.* Нітка, якая парвалася пры прадзенні і якую прыпралі зноў. *Калі мы прадзем і перарываецца нітка, то мы ее прыпрадаем, і гэта мы завём прылепка, а многа — прылепкі.* Кавалі Свісл.

ПРЫ'МІЦА *ж.* Жэрдка для прыціскання саломы пры крыцці страхі. *Салому прытіскаемо прымiцаю, а прымiцу прывязваем да латы.* Бастынь Лун.

ПРЫМУ'РАК (прыму'рок) *м.* Прыпечак *Постаў варэйкі на прымурок.* Бобрыкі Петр.

ПРЫНА'ДЗІЦЬ *зак.* Прывабіць. *Ён ее прынадзіў ік собе.* Бобрыкі Петр.

ПРЫПРА'ДАК *м.* Нітка, якая парвалася пры прадзенні і якую прыпралі зноў. *Нітка, якая парвецца і мы прыпрадаем, завем прыпрадак.* Булыніна Рас.

ПРЫПУСКА'Ч *м.* Кіёк, адзін канец якога ўсаджаны ў дзірку навоя і не дае навою круціцца. *Заткні прыпускач у навой, кап ён ні круціўся.* Моханава В.-Дзв.

ПРЫРА'МКІ *мн.* Кавалак палатна, які падшываюць пад плечы ў сарочках. *У вярху кашулі прышываюцца прырамкі, мацней носіцца с прырамкамі.* Ністашшкі Смарг.

ПРЫРА'НКІ *мн.* Тое, што і прырамкі. *А ты прышыла ў бацькавай рубашкі прыранкі?* Шкураты Браг.

ПРЫСМЫКА'ЧКА *ж.* Тое, што і прыпрадак. *Нітка, якая парвецца, і мы яе прысмыкаім — завецца прысмыкачка.* Жукі Кар.

ПРЫСМЫКНУ'ЦЬ *зак.* Прыпрасці. *Прала-прала, парвалася нітка, нада прысмыкачку прысмыкнуць.* Жукі Кар.

ПРЫСМЫ'ЧКА *ж.* Тое, што і прыпрадак. *Дзе прысмычка прыпрадаецца, там нітка таўсцейшая.* Жукі Кар.

ПРЫ'СТАРАНАК *м.* Прыстаронак, месца ў гумне паабапал току, дзе складваецца збожжа. *Жыта слажылі ў прыстаранак.* Моханава В.-Дзв.

ПРЫСТАРО'НАК (прысторо'нок) *м.* Тое, што і прыстаранак. *У клуні е прысторонок і тэк. У прысторонку кладэмо снопэ.* Азарычы Пін.

ПРЫСТА'ЦЬ *зак.* Пайсці ў прымы. *Сямён прыстаў да Волькі ў прымы.* Моханава В.-Дзв.

ПРЫСТО'ЛЬНІК (прыстэ'льнік) *м.* Шуфляда ў стале. *Клубок нітак ляжыць у прыстэльніку.* Бастынь Лун.

ПРЫТАЛАВА'ТЫЙ (прытолова'тый) *прым.* Пахілы (пра страху). *Ты дужо ў хаті зробів прытоловату крышу. У его хаті крыша прытоловата.* Бастынь Лун.

ПРЫТАРО'МНЫЙ (прыторо'мный) *прым.* Стромкі, круты. *О, акі бэрог прыторомный, щчо і спустіцца нельга.* Бастынь Лун.

ПРЫ'ТАРЧЫ (пры'торчы) *мн.* Пер'е, якое адрастае пасля лінькі птушак. *Куру не буду рэзаць, яна лiняе, і много прыторчав.* Бастынь Лун.

ПРЫ'ТАСНІК (пры'тасьнік) *м.* Драўляны або жалезны падцяжнік, які надзяецца на вось і за які прымацоўваецца атоса. *Згубілася загвастка, і зваліўся прытасьнік з восі.* Моханава В.-Дзв.

ПРЫТКНУ'ЦЬ *зак.* Прыпрасці. *Парвалася нітка, а я яе прыткнула, і нітка стала няроўная.* Жукі Кар.



ПРЫТЫ'К *м.* Месца сточвання ніткі ў працэссе прадзення. *Прытык ссуніцца, і будзіць пупёл на ніццы. Паменшы дзелай прытыкаў, будзіць меншы пуплоў на ніццы.* Ваўкавічы Тал.

ПРЫ'ХА *ж.* Храпа ў каня. *Бэры коня за прыху і дэржы, о то вэн укусіт.* Азарычы Пін.

ПРЫЦЯ'ГВІЦА *ж.* Тоўстая вяроўка ў перадку воза, якая закладваецца на канец жэрдкі, калі ўціскаюць снапы, сена на возе. *Добра ўціснi вос прыцягвiцай, кап не растрасалася сена.* Ністашшкі Смарг.

ПРЫЧАПУРЫ'ЦЦА *зак.* Прыбрацца. *Уго, наша Аўдолька так прычапурылася, што ні пызнаць.* Моханава В.-Дзв.

ПРЫ'ШВА *ж.* Пярэдні навой. *На прышву навіваюць палатно ў кроснах.* Сяляўшчына Рас.

ПРЫШТО'ПІЦЬ *зак.* Прыфастрыгаваць. *Раней нада прыштопіць сукенку, а тады шыць.* Ваўкавічы Тал.

ПРЭ'ГЧЫ *незак.* Скварыць. *Нарэзала сала і буду прэгчы.* Ваўкавічы Тал.

ПРЭ'УШАНЬ (прэ'вшэнь) *м.* Вушак. *Вырэзав на двэра прэвшні. Прэвшэнь зробыв дубовы. У дзвэрах проставів прэвшні і звэрху положыв головню.* Азарычы Пін.

ПСІК *выкл.* Ужываецца, калі адганяюць ката. Сімакава Кар., Моханава В.-Дзв.

ПУ'ГА *ж.* Журавель (у калодзежы). *Стаіт стовп, а на ставпу пуга лежыт, а до пугы прывязан ключ, а на ключы вісыт вэдро.* Горск Бяроз.

ПУДЭ'РШНІК (пудэ'ршнык) *м.* Падгерац. *Шворыня дэржыт пудэршнык.* Горск Бяроз.

ПУЖАВЕ'НА *н.* Пугаўё. *Зламалася пужавена ў пузя.* Ністашшкі Смарг.

ПУЖА'ЛНА (пужа'лно) *н.* Тое, што і пужавена. *Добрэ пужално зробыв.* Горск Бяроз. *Зробів пужално і прывязав канджук.* Бастынь Лун.

ПУЖАЎНО' *н.* Тое, што і пужавена. *Пужаўно крэпкая с ялаўца.* Ністашшкі Смарг.

ПУ'ЗАЧКА *н.* Кончык пальца. *Адрэзала ногаць, аш пузачка баліць, бо за жывое задзела.* Моханава В.-Дзв.

ПУЗЕ'Й *м.* Пузан. *Вон пузей, у его вэлька пуза.* Горск Бяроз.

ПУЗЫРО'К *м.* Ніжняя шырокая частка збанка. *Колы у збанку одбылыс вэнцы, то оставса пузырок. Дай пузырка, наліемо молока.* Горск Бяроз.

ПУК *м.* Кветаноснае сцябло (цыбулі, шчаўя і да т. п.). *Пашла цыбуля ў пукі.* Барыскі Лаг. *У гэтым гаду мыя цыбуля пышла ў пукі.* Моханава В.-Дзв. *Уся цыбуля пашла ў пукі, спасу німа.* Мнюхі Міёр. *Ужо шчавіль стары, увесь пашоў у пукі.* Моханава В.-Дзв.

ПУ'КЕР *м.* Мазоль. *Купыв тэсные чоботы і намулів пукера.* Азарычы Пін.

ПУ'КЛІ *мн.* Адходы пры прадзенні воўны. *Дрэнна пычысала воўну, адны пуклі.* Булыніна Рас. *Ого, колькі ты пыныкідала пукляў з воўны. Плоха пычысалі.* Асёткі Рас. *Як ты пычысала воўну, адны пуклі.* Парэчча Рас. *Пуклі нада выкідаць, а калі іх упрыдаць, то нітка будзіць няроўная.* Замошша Рас.

ПУЛЬ-ПУЛЬ-ПУЛЬ *выкл.* Ужываецца, калі падзываюць куранят. Жахавічы Маз., Ністашшкі Смарг., Паляпкішкі Вор., Моханава В.-Дзв., Мнюхі Міёр.

ПУ'НІШЧА н. Месца, дзе стаяла пуня. *Тут у нас раней стыяла пуня, а цяпер асталося толькі пунішча.* Сяляўшчына Рас.

ПУ'НПАЧКІ *мн.* Адходы пры прадзенні кудзелі. *Як многа пунпачак у кудзелі, дрэнна пычысала кудзелю.* Сяляўшчына Рас.

ПУНПУЦІ' *мн.* Тое, што і пунпачкі. *Кудзеля дужа дрэнная, многа пунпуцёў, і прасьці дрэнна.* Моханава В.-Дзв.

ПУНТЭ'ЛІК *м.* Звязак счэсанага і сплеценага лёну. *Начасала лёну і скруціла ў пунтэлік.* Заазер'е Віл.

ПУНТЭ'ЛЬ *м.* Тое, што і пунтэлік. *Начасала льну і скруціла ў пунтэль, хай ляжыць.* Заазер'е Віл.

ПУПЕ'Х (пупэ'х) *м.* 1. Пупышка. *Пупяхі на бярозі распускаюцца.* Моханава В.-Дзв. 2. Сасок. Азарычы Пін.

ПУПЕ'Ц (пупэ'ц) *м.* Пупок. *Пупэц есть у пэвнэвы і гусёвы у сэрэдынэ.* Горск Бяроз.

ПУПЁЛ *м.* Патаўшчэнне ніткі ў тым месцы, дзе яна прыпрадзена. *Прытык ссуніцца, і будзіць пупёл на ніццы. Паменшы дзелай прытыкаў, будзіць меншы пуплоў.* Ваўкавічы Тал.

ПУПЛАВА'ТЫЙ (пуплыва'тый) *прым.* З пуплямі (пра кудзелю). *Кудзеля пуплаватая, адны пуплы.* Ваўкавічы Тал.

ПУПЛЫ' *мн.* 1. Адходы пры прадзенні кудзелі. *Вельмі кепская кудзеля, адны пуплы.* Саламір'е Пол. *Кудзеля ўся ў пуплах, толькі пуплы.* Вадва В.-Дзв. 2. Адходы пры прадзенні воўны. *Як многа пуплоў у воўне, дрэнна прасьці і дрэнная нітка, няроўная.* Ваўкавічы Тал.

ПУПО'К *м.* Ручка на кассі. *Нада зьдзелаць у касу пупок.* Стайкі Барыс. *Паламаўся пупок у касе.* Каралёў Стан Мін. *Пры дзелай пупок да касідла.* Раўбічі Мін. *Зрабіў яленцавы пупок да касы.* Моханава В.-Дзв. *Зрабіў бярозавы пупок да касы.* Клінок Чэрв.

ПУПРЫ'ЦА *ж.* Жалезная пласцінка ва ўпадзіне верхняга каменя жорнаў, якая надзяецца на шпянёк ніжняга каменя. *На верацяно надзяваюць пупрыцу, на пупрыцу накладаюць верхні камянь.* Навасёлкі Свісл.

ПУПУГА'ЯЛА *ж.* Пудзіла. *Пасадзіла буракі і пыставіла пупугаялу.* Якубова Рас.

ПУПЯНО'К *м.* Сасок. Міратычы Кар., Азарычы Пін.

ПУПЯШО'К *м.* Пупышка. *Шчэ бяроза не перацвіла, пупяшкі е, а як перацьвіце, тады будуць таўкачыкі. Во які вялікі пупяшок на галінцы.* Навасёлкі Свісл.

ПУ'РА *н.* Мера сыпкіх цел, роўная тром пудам. *У пуры було роўна тры пуды. Пурам мерылі бульбу. Прыдаў тры пуры бульбы, гэта дзевяць пудоў.* Моханава В.-Дзв.

ПУ'РХАЎКА *ж.* Порхаўка. *Як маладая пурхаўка, дык яна белая, а як пастарэя, дык з яе сыпіцца карычневы пылок.* Брусы Мядз.

ПУРЫ'НЫ *мн.* Чорныя парэчкі. *Ідэтэ нарвэтэ пурын у школі, із цукрам вэльмі смачнэ.* Азарычы Пін.

ПУСТАКІ' (пустаке') *мн.* Пустая ў сярэдзіне цэгла. *Робяць і казённоё гумно с пустакоў. Пустаке ляжаць.* Міратычы Кар.

ПУСТАСМЕ'Х *м.* Чалавек, які без прычыны смяецца. *Во які пустасьмех, сьмяецца і сьмяецца; пакажы яму паляц, гэтаму пустасьмеху, хай пасьмяецца.* Моханава В.-Дзв.

ПУСТО'ЛЬГА *м.* Сваволнае дзіця. *Свовэльнік гэтый, вэн пустольга, вэн усе дурэе.* Бастынь Лун.



ПУ'ТРА *н.* Лёгкія. *Закалоў кабана, трэбо вупусьціць кішкі, а тады вуразаць путра.* Жахавічы Маз.

ПУХ *м.* 1. Адходы пры апаланні круп, зерня. *Стаўкла крупы, апалола ў начовачках, і ад круп аддзяліўся пух. Полаю просо, а із проса леціць пух, і остаюцца крупы.* Бобрыкі Петр. *Кутью ополаемо — летіть шустава і пух.* Бастынь Лун. 2. Дробная мякіна. *Калі жыта веюць, пух лажыцца зразу.* Шкураты Браг.

ПУХА' *ж.* Тупы канец яйца. *Дывай пайдзём на байца, дзяржы сваю пуху, а я буду біць носам.* Моханава В.-Дзв.

ПУЦ I *м.* Калун. *Возьмі пуц і пуйдом целешы колоць на дрова.* Бобрыкі Петр.

ПУЦ II *м.* Ногаць. *Пакрасіла пуцы на руках, што аш глядзець брыдко. Мой пуц на бальшым пальцу бальшы, нада абрэзаць.* Міратычы Кар.

ПУ'ЦІКІ I *мн.* Лядзяк. *Ня ссі пуцікі, а то ў глоццы балець будзіць.* Новыя Турасы Уш.

ПУ'ЦІКІ II *мн.* Рагі на вокнах. *Пуцікі на шыбах, будзіць дошч. Па вокнах пуцікі цякуць, мусіць будзіць дошч.* Сяляўшчына Рас.

ПУ'ЦКЕЛА *ж.* Перапёлка. *Касіў і чуць пуцкелы ні зарэзаў. Пуцкелы гняздо нашоў.* Паляцкішкі Вор.

ПУЦЬ-ПУЦЬ-ПУЦЬ *выкл.* Ужываецца, калі падзываюць куранят. Азарычы Пін.

ПУЧКА *ж.* Сустаў на пальцы. *Пабіла бальшый палец і са-мую пучку, дак вельмі баліць.* Шкураты Браг.

ПУЧКІ' I *мн.* Сядзёлка. *Палажы на сьпіну каню пучкі і падперажы папругу, а ў пучкі зацягні чарассядзельнік.* Шкураты Браг. *Надзень на коня пучкі і набедрыкі і пудшпулі поясом.* Бобрыкі Петр.

ПУЧКІ' II *толькі мн.* Невялікая колькасць чаго-небудзь, дробачка. *Узела пучкі солі посоліті.* Бастынь Лун.

ПУЧО'К I *м.* Кончык пальца. *Обрэзала ныгэть аж до самого пучка.* Бастынь Лун.

ПУЧО'К II *м.* Збітыя жэрдкі для прыціскання стога. *Скінуў сена ў стога і пучка палажыў, хай ужэ ідзе дож.* Жахавічы Маз.

ПУЧО'К III *м.* Пупышка. *Пучок распускаецца — лісток паяўляяцца.* Навасёлкі Свісл.

ПУ'ЧЧА *н. зборн.* Маладыя парасткі. *Сасоначка пучча пуская.* Шкураты Браг.

ПУ'ШКА I *ж.* Каробка. *Пушка паламалася, і няма ап што запаліць сярнічку.* Навасёлкі Свісл.

ПУ'ШКА II *ж.* 1. Сустаў на пальцы. *Баліць мне пушка на пальцы, учора сільна пабіла.* Жахавічы Маз. *Ударыла пушку на пальцы, што аж распухла.* Тульгавічы Хойн. 2. Кончык пальца. *Ногоць зрэзала аж пу самую пушку на пальцы.* Бобрыкі Петр.

ПЧАЛАДУ'Р (пчолоду'р) *м.* Пчаляр, пчалавод. *Пчолодур пошоў пчол дыміць, будзе пудглідаць іх.* Бобрыкі Петр.

ПЧО'ЛЬНІК *м.* Пчальнік. *Я быў у яго пчольніку, там вуллёў з дзесятак набярэцца.* Старае Сяло Зэльв.

ПШАНІ'ЧНІСКА (пшані'чніско) *н.* Поле, на якім расла пшаніца. *Пшаніцу зьвезьлі, гані кароў на пшанічніско.* Міратычы Кар. *Пшаніцу пазвазілі, осталоса пшанічніско.* Азарычы Пін.

ПШАНІ'ЧНІШЧА (пшані'тнішча) *н.* Тое, што і пшанічніска. *Пастушкі пагналі каровы на пшанітнішча.* Ністанішкі Смарг.

ПШО′НІШЧА (пшо′нішчо) *н.* Тое, што і пшанічніска. *Гані авечак на пшонішча.* Заазер'е Віл. *Пшаніцу жжалі, пшонішча асталося.* Барыскі Лаг. *Трэба заараць пшонішча.* Альхоўка Навагр. *Па пшонішчу пасею ячмень.* Старае Сяло Зэльв. *Пшонішчо доброё, каровы наядуцца.* Міратычы Кар.

ПШО′ННЕ (пшэ′нне) *н.* Тое, што і пшанічніска. *Пшаніцу зьвязьлі, а цяпер трэба заараць пшонне.* Заазер'е Віл. *Пасі сьвінне на пшэнні.* Ваўкавічы Тал.

ПШЧАЛКА *ж.* Пчала. *Пшчалка так укусіла за шыю.* Паляцкішкі Вор.

ПЫЖЫК *м.* Тоўсты блін з кіслага цеста. *Нада сьпячы пыжыка, бо хлеп ня ўкіс. Вазьмі з дзяжы цеста і сьпячы пыжыка.* Якубова Рас.

ПЫЛІ′-ПЬЛІ′-ПЫЛІ′ *выкл.* Ужываецца, калі падзываюць куранят. Заазер'е Віл., Лешня Кап., Бярозкі Хоц.

ПЫЛЬ-ПЫЛЬ-ПЫЛЬ *выкл.* Тое, што і пылі-пылі-пылі. Заазер'е Віл., Паляцкішкі Вор., Моханава, Вадва, Касталомава В.-Дзв.

ПЫ′ПАШКА *ж.* Кончык пальца. *Вот нарабілася, аш пыпашкі баляць.* Заазер'е Віл.

ПЫР'Ё *н. зборн.* Пустазелле. *У брушцы трэбо зрабіць перасяканя, а то зарасла пыр'ём.* Навасёлкі Свісл.

ПЫ′ТАЛЬ (пы′тэль) *м.* Машына ў млыне, пры дапамозе якой апрацоўваюць зерне. *Пытлёвать пшэныцу на пытэль, гэ кагут і вальцы.* Бастынь Лун.

ПЯГА′РКА (пега′рка) *ж.* Бульба з прыгаркамі. *Дастаньце бульбу, сабярыце пегаркі і дайце мне. Пегарка смачна.* Стайкі Барыс.

ПЯКО′ЛАК *м.* Цагляны карніз (выступ) на бакавой сцяне печы, па якому залазяць на печ. *Станавіса на пяколак і лезь на печ.* Навасёлкі Свісл. *Ляш на пяколак і паляжы.* Моханава В.-Дзв. *Завускі зрабіў пяколак, дрэнна ляжаць.* Касталомава В.-Дзв.

ПЯКУ′Н (пэку′н) *м.* Бакас. Бастынь Лун.

ПЯ′ЛА (пя′ло) *н.* Планка ў баране, у якую ўбіваюць зубы. *У баране е пяло, у пяло набіваюць зубу.* Бобрыкі Петр.

ПЯЛУ′Н *м.* Палын. *Пялун дужа оркі, яго нельга піць.* Паляцкішкі Вор.

ПЯ′ЛЬЦЫ *толькі мн.* Чатырохгранны брусок для падвешвання зарэзанай жывёлы. *Узяў пяльцы, на пяльцы рысьпяў за ногі авечку, падвесіў пяльцы за бэльку і буду абдзіраць шкуру ў авечкі.* Даўгабор'е Рас.

ПЯЛЮ′ТКА (пэлю′тка) *ж.* Сцягно. *О-ёй, пэлютка боліт, выросла скула на пэлютцы.* Азарычы Пін.

ПЯ′ЛЯ *ж.* Проламка. *Возьмі сокеру да ідзі пялю просечы.* Бобрыкі Петр.

П'ЯНІ′ЦА *ж.* Сіло. *Зрабіў п'яніцу і пыставіў на сініц. Верабей пыпаўся ў п'яніцу. П'яніца робіцца з конскага хваста.* Касталомава В.-Дзв.

П'ЯНІ′ЦЫ *толькі мн.* Буякі. *П'яніцы растуць на балоці.* Моханава В.-Дзв.

П'ЯНІ′ЧНІК *м.* Кусты буякоў. *П'янічніку там многа на балоці, і п'яніц многа на п'янічніку.* Моханава В.-Дзв.

ПЯНЬКО′ЎКА *ж.* Крамная хустка. *Закруці кыля шыі пяньkoўку, будзіць цяплей.* Моханава В.-Дзв.



ПЯНЬЧЫ′НКА *ж.* Тое, што і пянькоўка. *Завярцела пяньчынку на галаву, дык дужа цёпла було ў галаву.* Якубова Рас.

ПЯРВО′СЦІНКА (пярво′сьцінка) *ж.* Карова, якая ацялілася першы раз. *Мылыка ў мяне мала, у мяне ш кароўка пярвосьцінка.* Філіпова В.-Дзв.

ПЯРГА′ (перга′) *ж.* Падкормка для лічынак пчол. *Пчолкі нанеслі ў вошчыну пергі.* Бобрыкі Петр. *Перга — хлябок пчолкам.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ПЯРО′ *н.* Плаўнік. *О, якое пяро ў рыбы, што нельга абрэзаць.* Навасёлкі Свісл.

ПЯРПЛІ′ЦА *ж.* Жалезная пласцінка ва ўпадзіне верхняга каменя жорнаў, якая надзяецца на шпянёк ніжняга каменя. *У жорнах верхні камінь кладзецца на пярпліцу.* Якубова Рас.

ПЯРША′КА (пэрша′ка) *ж.* Першацёлка. *Моя пэршака мало молока дае.* Бастынь Лун.

ПЯРША′ЧКА (пірша′чка) *ж.* Тое, што і пяршака. *Мыя піршачка ацялілася, прывіла цялушачку.* Моханава В.-Дзв.

ПЯРЫ′НА (пэры′на) *ж.* Пяро (ліст) цыбулі. *Одной пэрыны можно наесьціса.* Бастынь Лун.

ПЯРЭ′БЕР (перэ′бер) *м.* Пласт сена. *От набраў перэбер, чуць пудняў на копу.* Бобрыкі Петр.

ПЯРЭ′ДНІЦА I *ж.* Вяроўка, якая прывязана спераду воза і прыцiскае рубель. *Пярэдніца трымае спераду воза рубля.* Навасёлкі Свісл.

ПЯРЭ′ДНІЦА II (пэрэ′дніца) *ж.* Папярочная планка, якая злучае ў санях палазы. *Галоўкі ў палозьях скрапляюцца пярэдніцай.* Міратычы Кар. *Упэродэ полозы скрапляют пэрэдніцэй.* Азарычы Пін.

ПЯРЭ′КЛАДКА (пярэ′клатка) *ж.* Дэталь сахі для адкідання скібы. *У сасе ёсць пярэклатка, пахожая на лыпатку. Пярэклатка атқладвая зямлю.* Даўгабор'е Рас.

ПЯРЭ′ПЛАТ *м.* Азярод. *Кладзі ў пярэплат снапы, хай сохнуць.* Брусы Мядз.

ПЯРЭ′ЧКА *ж.* 1. Тое, што і пярэдніца II. *Пярэчка надзяецца на капылы і скрапляіць іх.* Якубова Рас. 2. Лёстка ў драбінах. *Пылымалася пярэчка ў драбінах.* Якубова Рас. 3. Планка для змацоўвання ножак стала. *Вот добра сеў і паставіў ногі на пярэчку.* Заазер'е Віл. *Памый пярэчкі ў сталу. Сядзьце за стол і пыстаўці ногі на пярэчку.* Вароніна Рас.

ПЯСЧУ′ГА (пэсчу′га) *ж. экспр. Якая пэсчуга, аж нэможно іті по гуліцы.* Азарычы Пін.

ПЯСО′ЧНІКІ (пясэ′чнікі) *мн.* Ачэпы. *Па канцох ложуцца пясэчнікі і на пясэчнікі ставяцца кроквы.* Паляцкішкі Вор.

ПЯТА′ (піта′) *ж.* Тупы канец яйца. *У яйцы вуская — нос, а ў другім канцы піта.* Ваўкавічы Тал.

ПЯ′ТКА I *ж.* Задняя частка ляза касы. *Затупілася пятка касы.* Касталомава В.-Дзв.

ПЯ′ТКА II *ж.* Патоўшчаны выступ, які знаходзіцца над капытным суставам нагі ў жывёлы. *У каня ё капыт, нат капытом ё шэйка, нат шэйкай ё пятка.* Барыскі Лаг.

ПЯ′ТКА III *ж.* 1. Тупы канец яйца. *У яйцэ, дзе тупое — гэта пятка, а дзе вострае — гэта носік.* Барыскі Лаг. 2. Тупы канец жолуда. *Жолуд сядзіць пяткай у шапцы.* Барыскі Лаг.

ПЯ'ТКА IV *ж.* Зародак зерня. *Жыта аткрысывалася, ужо пятка ёсць.* Вароніна Рас. *Ужэ начынает жыто поўніцца, ужэ е у машонцы пятка.* Азарычы Пін.

ПЯТЛЕ'ЙКА (пэтле'йка) *ж.* 1. Вешалка. *Прышыла ў коротыш пэтлейку, буде за шчо вэшаті коротыша.* Бастынь Лун. 2. Пятля для кручка. *Пэтлейка выирвалася, а кручок остаўса.* Бастынь Лун.

ПЯТНІ'К *м.* Паз. *Нада зрабіць пятнік, кап лепі зачыняліся вароты.* Якубова Рас.

ПЯТРО' (п'ятро') *м.* Куратнік. *Зрабіў п'ятро, коб було дзе курам сядзець.* Жахавічы Маз.

ПЯТУ'Х *м.* Певень. *Пятух пяець, трэба ўстываць на работу.* Моханава В.-Дзв.

ПЯХЦЕ'ЛЬ *м.* Вяровачная сетка для сена каню. *Наторкні ў пяхцель сена каню на дарогу.* Ваўкавічы Тал.

ПЯЦЁРНЫ *прым.* Вытканы ў пяць нітоў (пра ручнік). *Пяцёрныя рушнікe ткуць у пяць нічальніц і ў пяць панажой.* Міратычы Кар.

ПЯЧА'ЙКА (пэча'йка) *ж.* Пякотка. *Мэнэ зусым замучыла пэчайка, спасу нэма. От пэчэ пэчайка увэс дэнь.* Горск Бяроз.

ПЯЧКА'Р (печка'р) *м.* Пячнік. *Печкар ток уложыў у печы, а цепер ставіць зацелешнікі, а тогда печкар будзе ложыць солом'е.* Бобрыкі Петр.

ПЯЧКУ'Р *м.* Тое, што пячкар. *Пячкур дзелаіць печы.* Ваўкавічы Тал. *Дрэнную печ зрабіў пячкур, дыміць.* Вароніна Рас. *Пячкур зрабіў мне добрую печ.* Сляяўшчына Рас.

ПЯЧО'РКА *ж.* Пячурка, ніша ў сценцы печы. *Твае чулкі ляжаць у пячорцы. Стаўце нагу ў пячорку і лесьце на печ.* Навасёлкі Свісл.

ПЯШНЯ'К (пішня'к) *м.* Двухметровае палена. *Прывёс дроўпішнякоў. Пішняк — два метры даўжыні.* Сляяўшчына Рас.

## Р

РАБА'К *м.* Вусень. *Як многа рабакоў па капусці развялося. Рабакі ўсё лісьце пааб'ядалі ў капусьці.* Паляцкішкі Вор.

РАБІ'ННЕ (рабі'ньня) *н. зборн.* Рабаціннe. *У яго на ліцы многа рабіння.* Якубова Рас.

РАБРО' I *н.* Спінка ложка. *Павесь сарочку на рабро лошка.* Моханава В.-Дзв.

РАБРО' II *н.* Пруток у кошыку. *Уставіў рэбра ў кошэліску, а тэпэр буду вушы заплетать.* Бастынь Лун.

РАБРЫ'НА (рэбрын'а) *ж.* Тое, што і рабро II. *Ужэ ў кошэле пуўставляў рэбрыны. Надо заплесьці вуглы.* Бобрыкі Петр.

РАГАЗА' (рогоза') *ж.* Дзераза. *Ростэ рогоза ў лесі по выжэрэ.* Бастынь Лун.

РАГА'ТКА I *ж.* Частка калаўрота ў выглядзе двухзубай вілкі з жалезнымі зубамі, на якую надзяюць шпульку. *Надзень шпульку на рыгатку і закруці лютэрку, кап не звалілася шпулька.* Моханава В.-Дзв.

РАГА'ТКА II *ж.* Саха калодзежнага жураўля. *У зямлю ўбіваецца рагатка, на рагатку кладзецца асьвер, а да асьвера прывязваецца шост — вот і калодзіш.* Барыскі Лаг.



РАГА'Ч (рыча'г) *м.* Тое, што і рагатка I. *Надзела шпульку на рычаг і прыкруціла лютэркай.* Якубова Рас.

РАГАЧЫ' *мн.* Ручкі сахі. *У сасе ёсць рагачы, за іх, як аруць, дзержацца рукам.* Даўгабор'е Рас.

РАГО'ЖКА (раго'шка) *ж.* Прылада, на якую матаюць ніткі. *Матка кладуць на развітушку і матаюць на рагошку.* Навасёлкі Свісл.

РАГУ'ЛЬКА *ж.* Тое, што і рагатка I. *Рагулька наложана на шпень, і на шпень надзяюць шпульку.* Міратычы Кар. *У рагульку ныдзіваюць шпульку. У рагульцы ёсь штор, на штор надзяюць шпульку.* Сляяўшчына Рас.

РАГУЦІ' (рагуце') *толькі мн.* Дзве жэрдкі, змацаваныя папярочнай планкай, якія кладуцца на сані, каб сані былі шырэй. *Рагуце накладаюць на сані, кап лепей ехаць было. Сані так вускі, а калі палажыць рагуце, то яны становяцца шырокімі.* Ністанішкі Смарг.

РАД *м.* Пракос. *Прайду па радах і паразбіваю сена, хай сохне, пагода добрая. А так рады тоўстыя, не высахне.* Шкураты Браг.

РАДАБО'ЗЗЕ *н.* Рэдкае палатно. *Ой, якоя ш ты выткала радабоззе. Яно ш скора парвецца.* Моханава В.-Дзв.

РАДАВІ'НА (радові'на) *ж.* Палатно на ручнікі (у радочкі). *Колы чэмо ў радовіну, то наступаем по порадку на чэтыры поножэ.* Азарычы Пін.

РАДЗЬКО'ЎЕ (рацько'ўе) *н. зборн.* Сцябло і лісце рэдзькі. *Пырысяты не ядуць рацькоўя.* Моханава В.-Дзв.

РАДЗЮ'ЖКА (радзю'шка) *ж.* Посцілка, вытканая з грубай пражы і рыззя. *Спрала зрэб'е, аснывала дзьве гупкі і пыткала рыззём, і вышла ікрас дзьве радзюшкі. Радзюшкай ныкрываемся.* Моханава В.-Дзв. *Выткала радюшку і пошыла на куделі, каб було добрэ окутацца.* Бастынь Лун.

РАДО'К I *м.* Пасад, снапы, рассцеленыя на таку для абмалоту. *Паслаў жыта радок і змолотыв. За нэч два радкі змолотыв.* Азарычы Пін.

РАДО'К II *м.* Укладка лёну на полі. *Лён пыднялі, пывізалі ў кіткі і пыставілі ў раткі.* Ваўкавічы Тал.

РАДО'ЎКА *ж.* Чарга. *Яго я прапусьціў, а сягодня мыя радоўка гнаць кароў пасьціць.* Моханава В.-Дзв.

РА'ЖАЧКА *ж.* Дзежачка, у якой расчыняюць цеста на бліны. *Памый ражачку, нада разьвесьці на бліны.* Моханава В.-Дзв.

РАЖНЫ' *мн.* Голыя сцяблы. *Карова ўварвалася ў паласу і пазьядала усё, асталіся толькі адны ражны.* Шкураты Браг.

РАЖО'К *м.* Спарыння. *Во, у жыці багата ражкоў. Глядзі, які бальшы ражок вырас у каласку.* Шкураты Браг. *У каласку жыта многа чорных рашкоў.* Вароніна Рас.

РАЖО'Н (рожо'н) *м.* Дзяржанне качаргі. *У коцубовы корнаткый рожон. Трэбо зробыты другога рожна.* Горск Бяроз.

РАЖО'ЎКА *ж.* Прылада для лоўлі рыбы: сетка, нацягнутая на драўляны каркас. *Ражоўка — невеліка сетачка. Ражоўкаю адзін чалавек лавае рыбу.* Жахавічы Маз.

РАЗАБРА'ЦЦА (разобра'тэся) *зак.* Распрануцца. *Трэба разобратэся і ложэтэся спатэ в лыжок.* Дзмітравічы Кам.

РАЗАГНА'ЦЬ (разогна'ць) *зак.* Зрабіць барозны (у жыце). *Я шчэ жыто не разогнаў, трэбо разогнаць, а то ўзойдзе.* Бобрыкі Петр.

РАЗАРА'ЦЦА *незак.* Хваляваацца. *І сам будзе разарацца ад етага біцця.* Шкураты Браг.

РАЗБІРА'ЦЦА (рызьбіра'цца) *незак.* Распранацца. *Чаго стаіш, рызьбірайся і лажыся спаць.* Моханава В.-Дзв.

РАЗВА'ЛІНЫ (рызва'ліны) *толькі мн.* Дзве жэрдкі, змацаваныя папярочнай планкай, якія кладуцца на сані, каб сані былі шырэй. *Палажы рызваліны ны сані, сані будуць шырэйшыя, і будзіць добра ехаць.* Сяляўшчына Рас.

РАЗВАРО'ТКА *ж.* Ключ для разводкі зубоў пілы. *Вазьмі разваротку і разьеярні ў піле зубу, кеб правільна пілаевала піла.* Шкураты Браг. *На разваротку і разьвярні зубу ў піле.* Бобрыкі Петр.

РАЗВІТУ'ШКА *ж.* Прыстасаванне для размотвання маткоў. *Матка кладуць на развітушку і матаюць на рагошку.* Навасёлкі Свісл.

РАЗВО'ДЫ *толькі мн.* Вялікі воз. *Запрагай каня ў разводы і паедзем снапы вазіць.* Барыскі Лаг.

РАЗВО'РКА (розво'рка) *ж.* Трайня. *Разворка.* Вострава Маст. *Розворка скрэпляе ўвэс воз.* Горск Бяроз. *Разворка скрапляе зат с перадам воза.* Навасёлкі Свісл.

РАЗВЯДЗЁНЕЦ (разьвядзёнец) *м.* Мужчына, які развёўся з жонкай. *Развядзёнка ішла замуш за развядзёнца.* Сяляўшчына Рас.

РАЗВЯДЗЁНКА (разьвядзёнка) *ж.* Жанчына, якая развялася з мужам. *У мяне жывець разьвядзёнка, іна пакінула свайго мужыка.* Сяляўшчына Рас.

РАЗГІРА'КА (разьгіра'ка) *ж. і м.* Крываногі чалавек. *Але ш ён і разьгірака, што із возам можна праехаць.* Навасёлкі Свісл.

РАЗДЗЕ'ЛЬНІКІ *мн.* Частка ткацкага станка — калодачкі з дзірачкамі, праз якія прадзяваюцца шнуркі ад панажоў. *Пыдай мне разьдзельнікі, я буду чапляць панажы.* Замошша Рас.

РАЗЖО'ГАЦЦА *зак.* Затрэсціся ад спалоху. *Бедный разжогайся, вельмі спужайса.* Бобрыкі Петр.

РАЗЗЯ'ВА (рызьзя'ва) *м. і ж.* Разява. *Чаго стаіш, рызьзява? Што ты ні бачыш, што туча находзіць? Бяжы скарэй дамоў.* Моханава В.-Дзв.

РАЗМАЗО'ЛІЦЦА *зак.* Расслабіцца. *Размазолілася сучка, нада пуправіць сучку ў калаўроці.* Сяляўшчына Рас.

РАЗМАТО'ЧКІ (розмото'чкы) *толькі мн.* Прыстасаванне для размотвання маткоў. *Прынэсы розмоточкы, буду розматываты мотка.* Горск Бяроз.

РАЗМЕ'РКА (розме'рка) *ж.* Мярэжка. *У хвартуху розмерка зроблена гапэлечкамі.* Азарычы Пін.

РАЗРАБІ'ЦЦА *зак.* Растаўсцець. *Вой, вой, Лізавета радзіла рабёнка і так разрабілася, што ў дзьверы чуць улазіць.* Вадва В.-Дзв.

РАЗУ'ХА *ж.* Асака. *Разуха расьцець у балоці, і каровы не ядуць.* Якубова Рас.

РА'КАВІНА (ра'ковіна) *ж.* Прамежнасць паміж капытоў у каровы і да т. п. *Карова пракалола ракавіну і кульгая. У каровы паміж капытоў е ракавіна.* Навасёлкі Свісл. *Закалола корова раковіну і кульгае.* Бобрыкі Петр. *Між капытоў у карову е раковіна.* Шкураты Браг. *У каровы ў капыце ёсць ракавіна.* Міратычы Кар.

РАКО'ПЫЖ (роко'пыж) *м.* Тое, што і ракавіна. *Прокололα рокопыж корова і кульгае.* Бастынь Лун.



РАКО'ПЫЖЫК (роко'пыжык) *м. Памянш.* ад ракопыж. *Пробіла на гоздь корова роко'пыжык.* Бастынь Лун.

РА'ЛА I (ра'ло) *н.* Дрэва з адным коранем і двума ствaламі. *Росте дэрэвіна із корэня одна, а долей росте две, то ето рало.* Бастынь Лун.

РА'ЛА II (ра'ло) *н.* Частка сахі, на якую накладваецца сашнік. *Зрабіў рало і набіў на рало сашнікі.* Ставок Пін.

РА'ЛА III (ра'ло) *н.* Саха-сукаватка. *Ронэй горалі ралом, а тэпэр і сохэй нэ горэм.* Горск Бяроз.

РА'ЛА IV (ра'ло) *н.* Тоўсты сук. *Ветер поломав рало у грушы. Рало було товстэ.* Азарычы Пін.

РАЛАВА'ТЫЙ (рэлова'тый) *прым.* Сукаваты. *Рэловатый лес.* Бастынь Лун.

РА'ЛЬНІК *м.* Араты. *Цяпер трактарыст арэ зямлю, а раней ральнік арау.* Ністанішкі Смарг.

РА'МА *ж.* Дзве жэрдкі, змацаваныя папярочнай планкай, якія кладуцца на сані. *Палажы ны сані раму, кап добра было сядзець.* Якубова Рас.

РАМА'Н (рома'н) *м.* Рамонак. *Роман росте ў жыте.* Бастынь Лун.

РАМАНДУ'ЛЯ (романду'ля) *ж.* Тое, што і раман. *Много росте ромaндулі ў канюшыні.* Бастынь Лун.

РАМАНЦЁР (рэмонтёр) *м.* Пуцявік. *Мой муж буў рэмонтёрэм, починяў дорогі.* Горск Бяроз.

РАМЕ'ЗА (роме'за) *м.* Луска верхняга слоя кары сасны. *От богато ромезы на хвоі.* Бобрыкі Петр.

РАМЕ'НЬ-РАМЕ'НЕМ *прысл.* Пра квашаніну, якая дрэнна застыла. *Рамень-раменем застыло холодное, што толькі ложкой можно есьці, і чаму ено добро не застыло, рамень-раменем.* Бобрыкі Петр.

РАМШТУ'К *м.* Папярочная планка, у граблях, у якую набіваюць зубы. *У граблях ёсь рамштук, куды ўбіваюць зубы.* Ністанішкі Смарг.

РАНА'ЦЬ (рона'ць) *незак.* Перамяшчацца зверху ўніз (пра ніты). *Ніт ронае і получаецца зево.* Бобрыкі Петр.

РА'ННІЦА (ра'ньніца) *ж.* Раніца. *Якая цёплая раньніца.* Стайкі Барыс.

РАПЕ'ШНІК *м.* Дзядоўнік. *Дзе ты рапешніку столькі начапляла ў спадніцу?* Шкураты Браг.

РАПТУ'Х *м.* Вяровачная сетка, у якую бяруць сена каню ў дарогу. *Ныпыхай сена ў раптух і вазьмі каню ў дарогу.* Плігаўкі В.-Дзв.

РАПЯХІ' *мн.* Адходы пры прадзенні кудзелі. *У кудзелі много рапяхоў. Дужа плахая кудзеля, адны рапяхі, што прасьці нельга за рапяхамі.* Салонае Жлоб.

РАСАВА'ЦЬ *незак.* Красаваць (пра жыта). *Ужо жыта расаваць пачало.* Паляцкішкі Вор. *Скора жыта пачне расаваць.* Старае Сяло Зэльв.

РА'САШКІ *мн.* Ножкі церніцы ў выглядзе драўляных развілак. *Падрэш расашкі ў церніцы, а то яны нярoўныя.* Вострава Маст.

РАСКА'НЬКАЦЦА *зак.* Прасіць, выпрашываць чаго-небудзь не перастаючы. *Хваціць канькаць, расканькалася. Грошы німа на гэта. Ні канькай, будуць грошы, куплю.* Навагрудак Гродзь

РАСКАРА'Ч (рыскыра'ч) *м.* Ручнік, у якім насілі есці на поля. *Пупліла матузы і атрэзала пылытна ны рыскырач. У раскарачу' насілі есьці на поля.* Ваўкавічы Тал.
РАСКРЫШЧЭ'ННЕ (роскрышчэ'ньe) *н.* Скрыжаванне дарог. *За селом начынаецца роскрышчэньe дорог.* Бастынь Лун.
РА'СНЫЙ *прым.* Рознакаляровы. *Пашый мне спадніцу, каб булі расныя брыжы.* Шкураты Браг.
РАСО'Л *м.* Суп на капусным расоле. *Узяла капуснага расолу, паткалаціла дранаю картопляю і наварыла расолу, смачна расол.* Міратычы Кар.
РАСО'ХА (ро'соха) *ж.* Апорны слуп у гумне і іншых гаспадарчых будынках. *Згніла росоха ў гумне, трэбо нову ставіті.* Бастынь Лун.
РАСПАРЭ'Х *м.* Прарэх (у штанах). *Зашчапі распарэх у штанах.* Жахавічы Маз.
РАСПО'РКА (роспо'рка) *ж.* Папярочная планка, якая злучае ў санях два палазы. *Зломэлася роспорка ў санёх, у санёвэ.* Дзмітравічы Кам.
РАСПРАЕ'Х (распрое'х) *м.* Прарэх (у штанах). *Донька, зашпулі ему распроех у штоніках.* Бобрыкі Петр.
РАСПРА'ТВАЦЦА *незак.* Распранацца. *Не трэбо распратвацца, зара пойдзем.* Ністанішкі Смарг.
РАСПУ'КНУЦЦА (роспу'кнуцца) *зак.* Распусціцца. *От ужэ на берозе пупышкі скоро роспукнуцца.* Бобрыкі Петр.
РАСПУСЦІ'ЦЬ (распусты'ты) *зак.* Адвесіць (губу). *Распустый губы дай сэдыт собэ.* Горск Бяроз.
РАСТАНЦЫ' *мн.* Ростань. *Ідзіце гэтай дарогай, а там будуць растанцы, і павярніце налева.* Жахавічы Маз.
РАСТАПЛЯ'ЦЦА *незак.* Раставаць (пра снег). *На двары парэць, сьнех растапляецца, будзя вясна.* Паляцкішкі вор.
РАСТАРО'ПА *ж.* Разводдзе. *Тыкая растаропа, па дарозі стаіць выда, няможна ехаць, пакоты гразнуць па трупкі.* Моханава В.-Дзв.
РАСТРУ'ШЧВАЦЬ *незак.* Таўчы. *Усё ройна картоплю трэбо раструшчваць.* Бобрыкі Петр.
РАСХАРА'ТАЦЬ (росхорататы) *зак.* Разбурыць, раскідаць. *Усэ вэндэлкы росхоратав, што нэма дэ вэндыты.* Горск Бяроз.
РАСЧА'ВІЦЬ (расча'віты) *зак.* Раздушыць. *Курыца расчавіла яйцэ, і вышла куранял.* Горск Бяроз.
РАСЧЫ'НІЦА *ж.* Дзежачка, у якой расчыняюць цеста на бліны. *Вазьмі расчыніцу і ўчыні на бліны.* Сяляышчына Рас.
РАСЧЭ'РКАЦЬ (росчэ'ркаті) *незак.* Расхістаць. *От ак заболев зуб, я его росчэркав, шчо тэпэр зусім ківаецца.* Бастынь Лун.
РАСШАЛО'ПАЦЬ *зак. іран.* Растлумачыць. *Расшалопай ты яму, а то гэты дурань не разумее.* Моханава В. Дзв.
РАСШВО'РКА *ж.* Доўгі чатырохгранны брусок, які злучае задок восі з перадком. *Зрабій добрую бярозавую расшаворку ў калёсы. Расшворка убіваіцца ў пярэднію вось і ў заднію вось.* Касталомава В.-Дзв.
РАСШЫ'ВАЧКА (росшы'вочка) *ж.* Мярэжка. *Зробі мне росшывочку ў хвартуху, коб хорошэй було.* Бобрыкі Петр.
РАСШЫ'ЎКА (росшэ'ўка) *ж.* Прошва. *Пошыла настыльніцу і ў сірадзіну ўшыла росшэўку.* Бастынь Лун.
РАСШЭ'НДЗІЦЬ *зак. асудж.* Растраціць. *Расшэндзіла хозяйство, она не хозяйка.* Бобрыкі Петр.



РА'ТА *ж.* Чарга. *Мая рата ў поля гнаць кароў пасьвіць.* Заазер'е. Віл.
РАЎГЕ'НЯ *ж.* Напітак з саладухі, запаранага салодкага цеста, разведзенага вадой. *Зыпарыла іржаную муку, пасаладзіла ноч у печы, а тады разьвіла халоднай вадой, і гэта ёсць раўгеня.* Моханава В.-Дзв.
РА'ХВА *ж.* Жалезны абруч. *Рахва набыта на чэрэнок.* Горск Бяроз.
РАХКАЦЕ'ЦЬ (рохкоте'ті) *незак.* Рохкаць. *Я чую — сьвіння рохкотіт і кусает ее.* Азарычы Пін.
РАШАЦЕ'НЬ *м.* Папярочная планка ўграблях, у якую набіваюць зубы. *Зрабій рашацень у граблі, а цяпер буду ўбіваць зубы.* Брусы Мядз.
РА'ШКА *ж. іран.* Твар. *Ты глядзі, адзін месяц пабыў у маткі, і якую рашку рызгыдывай.* Замошша В.-Дзв.
РАШО'ТКА *ж.* 1. Жалезная пласцінка на аглоблі, па якую надзяюць атосы. *Нада прыбіць рашотку да аглаблі, кап ні зваліваласяя атосіна.* Якубова Рас. 2. Рэгулятар (у плузе). *У плузі ёсць рашотка, якая рагуліруя, як араць, глыбока ці мелка.* Якубова Рас.
РАШЧЫ'НА *ж.* Рошчына. *На вадзе варыцца мяса. Тады гэту ваду паткалачваюць кіслай рашчынай, вот вам гэта і ёсць крухі.* Міратычы Кар.
РАШЭ'ТУХА (рэшэ'туха) *ж.* Грыб, падобны да махавіка. *У лесі мнэго рэшэтух ростэ по нізінах.* Азарычы Пін.
РЖА'НІЦА *ж.* Іржаная салома. *Падкінуў карові ржаніцы, хай есць.* Якубова Рас.
РЖО'ННЕ (ржо'ньe) *н.* Іржышча. *Жыта жжалі, а ржоньe асталося.* Барыскі Лаг.
РЖЫ'СКА (ржы'ско) *н.* Тое, што і ржонне. *Ржыско асталося, а жыто жжалі. Жытнёё ржыско.* Навасёлкі Свісл. *Пайду касіць ржыско, там жыта ўжо зьвезьлі.* Паляцкішкі Вор.
РО'ВАР (ро'вэр) *м.* Веласіпед. *Паехав вэн на бэде, так кагалі колісь, а тэпэр кагам ровэр, лісапэд.* Бастынь Лун. *Ён жа на ровары егдзіў.* Навасёлкі Свісл.
РО'ДЗІНКІ (ро'дінкі) *мн.* Імяніны. *Вэн родінкі спраўляе сына.* Бастынь Лун.
РО'ЖАНІЦА *ж.* Парадзіха. *Паехалі атведаць рожаніцу.* Моханава В.-Дзв.
РО'ЗАЧКІ *мн.* Дзве тонкія дошчачкі ў кроснах, якія служаць для таго, каб не блыталіся ніткі асновы. *Розачкі ў чынах, кап ня спуталіся ніткі. Трэба розачкі ўсунуць у чыны.* Паляцкішкі Вор.
РО'ЗВАЛЬНІ *толькі мн.* Шырокія сані. *Палажы ў розвальні саломы, кап лепей було ехаць. Сані вускія, а розвальні шырокія.* Моханава В.-Дзв.
РО'ЗВІНЫ (ро'зьвіны) *толькі мн.* Рэзгіны (для нашэння сена, саломы). *У розвінах насілі каровам і конім сена.* Ваўкавічы Тал.
РО'ЗЗЕ (ро'зьзя) *н. зборн.* Дробныя галінкі бярозы. *Нэма у мэнэ вэніка, трэбо ітті розьзя нарэзаті.* Азарычы Пін.
РО'ЗКА (рэ'зка) *ж.* Галінка. *Нэма вэніка, пойду насэку рэзкэв і зроблю вэніка. Рэзка вэльмі тонкая на вэніка.* Азарычы Пін.
РОК *м.* Год. *У гэтым роцы добрэ жыто було.* Горск Бяроз.
РО'ПА *ж.* Гной (з раны, з вачэй). Ністанішкі Смарг.
РО'СКВАЛЬ *ж.* Бездарожжа. *Дарога тронуласа, росквал, сама росквал, і нема ак ехаті ў город.* Бастынь Лун.

РО'СКІД (ро'скіт) *м.* Від ворыва, пры якім зямля адвальваецца ў розныя бакі. *Узараў сваю сотку ў роскіт.* Мнюхі Міёр.

РО'СКІДКА *ж.* Тое, што і роскід. *Узораў свой загон у роскідку.* Бобрыкі Петр.

РО'СЛЯ *ж.* Рост. *Нема ў корчы рослі, замочыло.* Бастынь Лун.

РО'СПУГА *ж.* Баразна паміж градкамі. *Роспуга помэж граткамэ, по другых містах то прозёра.* Дзмітравічы Кам.

РО'ССЕ *н. зборн.* Чарот. *На роцэ ростэ россе, на вэрху ў ёго чорный доўгій качан.* Горск Бяроз.

РО'ХЛЯ *ж.* Неахайная жанчына. *Рохля ты, хоць бы ты на сябе паглядзела, як ты ходзіш.* Моханава В.-Дзв.

РО'ЦЕЗКА (ро'тэзка) *ж.* Вузкая палоска матэрыялу, якой завязваюць хвартух. *Хвартух завязываецца ротэзкамі. Порвалася ротэзка ў хвартуху.* Азарычы Пін.

РО'ЧНІК *м.* Аднагадовае жарабя. *Мое жэрэбя — рочнік.* Горск Бяроз.

РО'ЧНІЦЫ *толькі мн.* Гадавіна. *Пасьля сьмерці таты прайшоў гот, трэба спраўляць рочніцы. А я рочніцы справіла па мамі.* Ністанішкі Смарг.

РУКАВА'ТКА *ж.* Ручка на кассі. *Трэба прыладзіць рукаватку да кася.* Вострава Маст.

РУКАВІ'ЦА *ж.* Тое, што і рукаватка. *На акосся завяжы рукавіцу, трэба іці касіць.* Ністанішкі Смарг.

РУКАЯ'ТКА *ж.* Верацяно з наматанымі на яго ніткамі. *Тры рукаяткі нырпала на верацяно.* Якубова Рас.

РУЛІ' *толькі мн.* Цура, прыгатаваная з сырой вады, кусочкаў хлеба, цыбулі і поснага масла. *Я зрабіла рулі. У ваду накрышыла хлеба, пасаліла, накрышыла цыбулі і зыправіла посным маслам — гэта і ёсць рулі.* Моханава В.-Дзв. *Хадзі, будзім есьці рулі.* Ваўкавічы Тал. *Я на абет зрабіла рулі і паела.* Сяляўшчына Рас.

РУМ *м.* Месца, з якога сплаўлялі бярвенне. *Румам звалі месца, куды зімой вазілі бярвення з лесу.* Моханава В.-Дзв.

РУ'ХКАЦЬ *незак.* Рохкаць. *Сьвіння рухкая, трэба есьці даць.* Барыскі Лаг.

РУЧА'ЙКА *ж.* 1. Верацяно з ніткамі. *Я сегодня напрала ручайку пражы.* Бастынь Лун. 2. Верацяно, на якое змотаны ніткі з двух верацён. *Двэ одкідкі звіваемо на однэ вэрэтэно і называемо ручайкою.* Азарычы Пін.

РУ'ЧКА I *ж.* Млён. *У жорнах у верхнюм камене ў боцы е гняздо, куды ўстаўляецца ручка.* Шкураты Браг.

РУ'ЧКА II *ж.* Пасма ачэсанага лёну. *Я на сьвінную шчотку ачасала аш 10 ручак і зьвізала ў буньцік.* Касталомава В.-Дзв.

РУ'ЧКІ I *мн.* Драўляныя брускі, якія ўбіваюцца ў падушку калёс і да якіх прымацоўваюцца драбіны, барты калёс. *У шапку (падушку) убіваюць ручкі.* Навасёлкі Свісл.

РУ'ЧКІ II Блокі, на якіх вісяць ніты ў кроснах. *Ручкі, у якія ўкладают колясца, а за колясца чапляют ніты.* Азарычы Пін. *Качалочко на ручках вісіць у кроснах.* Навасёлкі Свісл.

РУШЭ'ННЕ (рушэ'ньне) *н.* Сход (месяца). *Молодічок, як настае, молодічок у другэй квадэ, поўный месяц, рушэньне месяца.* Бастынь Лун.

РЫБА'К *м.* Дажджавы чарвяк. *Як многа рыбакоў пасьля дажджу па двары поўзае.* Міратычы Кар.



РЫБАЧО'К *м.* Светлячок. *Паглядзіцё, сколькі многа сьвецяць рыбачкоў на кургану.* Паляцкішкі Вор.

РЫЖЫ'ШЧА (рыжы'шчо) *н.* Іржышча, астаткі сцяблоў. *Жалі жыто і пакінулі дужо вялікаё рыжышчо.* Міратычы Кар.

РЫ'ЛА *н.* Верхняя вузкая частка графіна, бутэлькі і да т. п. *Можна ў цябе пазычыць рыла ат графіна, а то німа чым кылбасы робіць.* Стайкі Барыс.

РЫ'ПАЦЬ *незак.* Падымацца ўверх і апускацца ўніз (пра ніты). *Ніт не рыпае добрэ, трэбо его заменіць.* Бобрыкі Петр.

РЫ'СА *ж.* Паз. *У кадушцы робяць рысы і ў рысу ўстаўляюць дно.* Навасёлкі Свісл.

РЫ'ТАВІНА *ж.* Калдобіна. *Тыкая дарога нягодная, адны рытавіны. А во якая глубокая рытавіна.* Сяляўшчына Рас.

РЫ'ХЦІК *прысл.* Абсалютна аднолькавы, вельмі падобны на каго-небудзь. *Трахім рыхцік бацька. Мыя Волька рыхцік, як твыя дычка.* Моханава В.-Дзв.

РЭ'ДКІЯ *толькі мн.* Булён. *Трэбо зварыць на вячэру рэткія.* Навасёлкі Свісл.

РЭ'ДЧЫК (рэ'ччык) *м.* Чапец (каля кішок). *Адыдрала рэччык каля кішок і пeратапіла на сала.* Ваўкавічы Тал.

РЭЗ *м.* Загон. *Рэзы — цэлы кусок зямлі, рэзы оруть на загоны, адзін рэз — загон.* Бастынь Лун.

РЭ'ЗАНІКІ *мн.* Разрэзаная папалам і звараная ў шалупінні бульба. *Мама, навары рэзанікаў на вечэру.* Жахавічы Маз.

РЭ'ЗАЦЬ *незак. іран.* Есці. *Ему коб усе прысмакі, а ты рэж і несмачнае.* Бобрыкі Петр.

РЭЗКІ *толькі мн.* Рэзгіны. *Возьмі рэзкі і прынэсы сено коневы.* Горск Бяроз.

РЭ'ЗЧЫК (рэ'шчык) *м.* Разец. *Рэшчыкам выразаюць с сярэдзіны лошкі.* Навасёлкі Свісл.

РЭЗЬ (рэсь) *ж.* Сечка. *Рэсь рэзалі с саломы і дывалі каровам.* Даўгабор'е Рас.

РЭ'МЕНЬ *м.* Прывязка для прымацоўвання біча да цапільна. *Выразаў рэмень, трэба бічоўку прывязаць да цапілна.* Заазер'е Віл.

РЭ'МІСЬ *м.* Чорны стрыж. *Рэмісь — крупна, чорна пташка.* Бастынь Лун.

РЭ'ПА *ж.* Пра парэпаныя ад гразі і сіверу ногі. *Ох, брат, якая ў цябе рэпа на ныгах, не мыў, запусціў ногі. Цяпер мучайсі з рэпай.* Моханава В.-Дзв.

РЭ'ПКА I *ж.* 1. Драўлянае кальцо, якім замацоўваюць шпульку на рагатцы ў калаўроце. *Прыкруціць нада рэпку ў вілках, кап ні звалілася шпуліна.* Стайкі Барыс. 2. Кальцо, якім прымацоўваецца шыйка касы да кассся. *Узяў касільно, да касільна прылажыў касу, надзеў рэпку і клінком забіў.* Дзюблеўшчына Маладз.

РЭ'ПКА II. Хвасцец, макаўка (у каня). *Оля', абрэзаў карнотка каню хваста, каля самай рэпкі.* Навасёлкі Свісл.

РЭ'ХВА *ж.* 1. Тое, што і рэпка I у 2-м знач. *Купіў рэхву да касы, а цяпер трэба касу асадзіць.* Альхоўка Навагр. 2. Невялікі жалезны абруч, якія надзяецца на слуп і на вароты, каб іх зачыніць. *Зачыні вароты рэхвай.* Заазер'е Віл.

# С

САБА'КА (соба'ка) *м.* Устарэлая мера дроў. *Паставів собаку дроў. У собаку лезе два воза дров.* Бастынь Лун.

САБА'ЧКІ *мн.* Прадаўгаватыя брускі з колцамі, на якія падвешваюцца ніты. *Думаю ўвясьці вяровачкі ў сабачкі і зачапіць нічальніцы.* Паляцкішкі Вор.

САВО'Й *м.* Канапляная вяроўка. *Аторваваюць аторшкі ат пянькі. С аторшкаў уюць саваі, а сывыямі пытплітаюць лапці.* Ваўкавічы Тал.

САВО'К I *м.* Прылада ў выглядзе грабелек для збірання чарніц. *Саўком добра сыбіраць чарніцы. Дужа скора ныбрала саўком чарніц.* Якубова Рас.

САВО'К II *м.* Каробачка з бяросты для ягад. *Дралі бярэсту і дзелалі саўкі, а ў саўкі зьбіралі ягады.* Сяляўшчына Рас.

САГА'Н (сога'н) *м.* Чыгун. *Купіла побеленый соган.* Бастынь Лун.

САДАВІ'ЦЦА (содові'цца) *незак.* Садзіцца. *Садавіса. Спасібо, я ні хачу садавіцца.* Навасёлкі Свісл. *Содовіцеса на цыпочкі.* Бастынь Лун.

САДРА'ЦЬ (содра'ць) *зак.* Узараць (цаліну). *От я новіну содраў і посеєў лён.* Бобрыкі Петр.

СА'ЖА *ж.* Спарыння. *Як многа сажы ў каласах жыта.* Барыскі Лаг.

СА'ЛА (са'ло) *н.* Груз у калодзезі, прычэплены да журавля. *Прывяжы ды кынца асьвера сала, кап ляхчэй було дыстываць ваду.* Моханава В.-Дзв. *Стаіт стовп, а на стовпу пуга лежыт, а до пугы на концу прывязана сало, коб легчэй було воду достоваты.* Горск Бяроз.

САЛАДУ'ХА (солоду'ха) *ж.* Салоджанае цеста з аржаной мукі. *Солодуха дужа смачна, вона кісло-солодка.* Бастынь Лун.

САЛАМЯ'НКА *ж.* Сяннік. *Пайду саламянку напхаю, бо німа ш на чом спаць.* Жахавічы Маз.

САЛЁНКА *ж.* Салянка. *Усып солі ў салёнку.* Моханава В.-Дзв.

САЛО'ДНІКІ *мн.* Абабраная звараная бульба. *Мама, бувала, гарыла на вечэру салоднікі.* Тульгавічы Хойн.

САЛО'М'Е (соло'м'е) *н.* Скляпенне. *Ток уложылі ў печы, цепер трэбо зацелешнікі поставіць, а на зацелешнікі солом'е ўложыць.* Бобрыкі Петр.

САМАРО'БКА (самаро'пка) *ж.* Даматканае сукно. *Выткала пяць губак самаробкі і пашыла Трахіму кулёк.* Касталомава В.-Дзв.

САМАРУ'ШНІНА *ж.* Самаробная тканіна. *Тады ш ні насілі крамнага, а насілі самарушніну.* Ваўкавічы Тал.

САМАСА'ДКА (сымыса'тка) *ж.* Курыца, якая сама села на яйцы. *Сымысатка нынісла яец і вывіла сымысаткі.* Ваўкавічы Тал.

САМАСА'ДКІ (сымыса'ткі) *мн.* Кураняты, якія вывеліся самасадам. *Мыя шэрка — сымысатка, нанесла яец і высядзіла сымысадак.* Ваўкавічы Тал.

САМАСЕ'ДКА (самасе'тка) *ж.* Тое, што і самасадка. *Самасетка ў крапіві вывела самаседак.* Сяляўшчына Рас.

САМАСЕ'ДКІ (самасе'ткі) *мн.* Тое, што самасадкі. *Самасадак у міне аш сем штук, самасетка высідзіла.* Сяляўшчына Рас. *Курыца нынісла ў страківе яец і вывела самасеткі.* Якубова Рас. *У мене кура ра'бенька ў етум годзі була самаседка і вывіла самаседкі.* Тульгавічы Хойн.

САМАСЕ'ЙКІ (самосе'йкі) *мн.* Тое, што і самасадкі. *У крапіві кура седела і выседела самосейкі.* Бастынь Лун.

САМАТУ'ЖКІ *мн.* Малыя саначкі. *А ці е ў вас саматужкі? Дайце, цётачка, мне, поеду на рэчку плацця муць.* Жахавічы Маз.

САМГНУ'ЦЬ *зак.* Задрамаць. *Так захацелася спаць, і я нямнога самгнула, і мне лягчэй стала.* Моханава В.-Дзв.

САМІ'ЦА (сомі'ца) *ж.* Самка. *Ікранік — ето сельдь з ікрэю, соміца.* Бастынь Лун.

САНАПРА'ДКА (санапра'тка) *ж.* Калаўрот (для прадзення). *Нада купіць санапратку кудзелю прасьці.* Стайкі Барыс.

САНАПРА'ХА *ж.* Тое, што і санапрадка. *Прала кудзелю на санапраху.* Старонка Асіп.

СА'НКІ *толькі мн.* Сківіцы. *Хворы конь, у яго санкі распухлі, ні хоча дажы есьці сена.* Навасёлкі Свісл. *Якіе большые санкі ў коровы.* Бастынь Лун. *Пасячы галаву каровы і санкі пасячы, буду варыць квашаніну.* Сяляўшчына Рас. *Карова мылыдая, зубы ў санках як нажы сідзяць.* Моханава В.-Дзв.

САПАЛА'ЦЬ *зак.* Апалаць. *Сапалала крупы, апаліны вылецелі, а крупы асталіся ў начовачках.* Старонка Асіп.

САПНУ'ЦЬ *зак.* Адпачыць. *Дай ты мне трохо сапнуць, а то я задыхнусё. Трэбо трохо сапнуць, а тады пойдзем.* Навасёлкі Свісл.

САРАКО'ЎКА (сороко'вка) *ж.* Дошка-саракоўка, з якой робяць рамы. *Рамы зробів із дошкі-сороковкі. Напілавав дошок-сороковок на рамы.* Бастынь Лун.

САРАЧЭ'ЧНЫ (сорочэ'чны) *прым.* Які адносіцца да сарочкі. *Выткала сорочэчнэе полотно.* Бастынь Лун.

САРДА'ЧАК *м.* Безрукаўка. *Сардачак такі красівы. Сардачак шыям без рукаў.* Навасёлкі Свісл.

САСТАНАВІ'ЦЦА *зак.* Састаяцца. *Малако посная састановіцца, толькі вяршок сьмятаны.* Ністанішкі Смарг.

САСУ'ЛЯ *ж.* Лядзяш. *От много сьвісая сасуляў са страхі. А гэта сасуля тоўстая. Вон, якая тоўстая вісіць на страсе сасуля.* Стайкі Барыс.

САЎКУ'ТНІЦА (соўку'тніца) *ж.* Кісель з чарніц. *Му ж кожный дзень варым із чорнай ягады і крухмалу соўкутніцу, му ее любім.* Бобрыкі Петр.

САХАВІ'ЛЫ (сохові'лы) *мн.* Вілкі з трыма зубамі. *Возьмі соховілы і пойдэм стожка ложыті.* Азарычы Пін.

СА'ЧАК *ж.* Жаночае верхняе адзенне, жакет. *Купіла тонкага сукна і пашыла сабе сачак.* Моханава В.-Дзв.

САЧЫ'ЎКА (сочы'вка) *ж.* Віка. *Я посэела сочыўку на кармы.* Азарычы Пін.

САЧЭ'НЬ *ж.* Баханка хлеба, абкачаная ў муку. *Калі пякуць хлеп, булку хлеба апсыпаюць мукой і завуць яе сачэнь.* Якубова Рас.

САЯ'Н (сыя'н) *м.* 1. Спадніца. *Пашыла сабе сыян насіць у сьвята.* Дудчына Рас. *Пашыла сабе сыян і буду насіць с кохтай.* Сяляўшчына Рас. 2. Сарафан. *Надзела чорны сыян і белую кохту.* Галубова Рас.

СВЕ'НКА (свэ'нка) *ж.* Укладка жыта з дванаццаці снапоў. *Снопэ жыта трэбо поставэтэ в свэнку.* Дзмітравічы Кам.

СВЕНЦІЯ'ДЛА (сьвеньція'дло) *н.* Зверабой. *Гэто зелечко — сьвеньціядло.* Навасёлкі Свісл.

СВЕСЬ (сьвесь) *ж.* Сястра жонкі. *Жывём утрох: я, жонка і сьвесь.* Жахавічы Маз.
СВЕ'ТАШ (сьве'таш) *м.* Падстаўка для лучыны. *Што ты запаліла лучынку і дзяржыш, уткні ў сьветаш, хай гарыць.* Моханава В.-Дзв.
СВЕ'ЧКІ (сьве'чкі) *мн.* Капелькі тлушчу на паверхні стравы. *Жырная капуста, аш сьвечкі стыяць, плавают.* Сяляўшчына Рас.
СВІНА'РКА (сьвіна'рка) *ж.* Сівец. *Вырасла сьвінарка большая, але каса не бярэ касіць.* Брусы Мядз. *Каса не бярэць сьвінаркі, затупілася.* Ністанішкі Смарг.
СВІНА'ЧКА *ж.* Пастушка, якая пасе свінней. *Свіначка жане свіней.* Горск Бяроз.
СВІНІ'НЕЦ (свіні'нэц) *м.* Свінух. *Загані свінней у свінінэц.* Азарычы Пін.
СВІННУ'ХА (сьвінну'ха). *ж.* Тое, што і свінарка. *Адна сівая сьвіннуха і тую кыса ня косіць.* Вароніна Рас. *У гырыватках адна сьвіннуха, німа чаго касіць.* Моханава В.-Дзв.
СВІНУ'ХА (сьвіну'ха) *ж.* Тое, што і свінарка. *Якая густая сьвінуха вырасла. Сьвінуху кыса не бярэць.* Касталомава В.-Дзв.
СВІСТУ'Н (сьвісту'н) *м.* Пусты арэх. *У гэтым годзі многа сьвістуноў, мыланка пупаліла.* Плігаўкі В.-Дзв.
СВІТНО' *н.* Світка. *Світно по пяты пошыла, а коротыш по колено.* Бастынь Лун.
СВЯЖА'К (сьвіжа'к) *м.* Не апладнёнае яйцо, з якога не вышла кураня. *Сьвіжак ляжыць пат курацай і ня порціцца, яго можна есьці.* Вароніна Рас.
СВЯЖУ'Н (сьвяжу'н) *м.* Тое, што і свяжак. *Сьвяжун — яйцо можна варыць, а байтун не, бо ён гнілый.* Якубова Рас.
СВЯРБЯ'ЧКА (сьвербя'чка) *ж.* Кароста. *Ах, сьвербяць рукі, мусіць дзе-то сьвербячку пудхопіў.* Бобрыкі Петр.
СВЯРГУ'Н (свэргу'н) *м.* Цвыркун. *Свэргун за пэччу.* Азарычы Пін.
СВЯРГУ'НЧЫК (свэргу'нчык) *м.* Памянш. ад свяргун. *Большэй — свэргун, а маленькі — свэргунчык.* Азарычы Пін.
СВЯРШЧО'К (свэршчо'к) *м.* Тое, што і свяргун. *На свэргун мы кажэмо і свэршчок, однэ тэ самэ.* Азарычы Пін. *Свяршчок сьпяваў ноччу за печчу.* Старае Сяло Зэльв. *Завёўся за печу сьвяршчок, усё стракоча.* Паляцкішкі Вор.
СВЯЦЕ'Ц (сьвяце'ц) *м.* Падстаўка для лучыны. *У калодачку ўстаўлялі калочык, да калочка прыдзелавылі з бляшкі двайныя вілачкі, куды торкалі зыпаліную лучыну.* Якубова Рас. *Запалі лучынку і ўваткні ў сьвяцец.* Вароніна Рас. *Уторкні ў сьвяцец лучыніну.* Сяляўшчына Рас. *Раней у сьвяцец утыкалі лучыніну і палілі.* Замошша Рас.
СЕ'ДЗЕЛА *ж.* Частка прасніцы, на якой сядзяць. *Паламалася седзела ў прасьніцы.* Заазер'е Віл.
СЕ'ДЗЕЛКА *ж.* Тое, што і седзела. Заазер'е Віл.
СЕ'КАР *м.* Сякач (прылада для сячэння). *Секар возьмі і посечы траву.* Бастынь Лун.
СЕЛЯДЗЕ'ЎКА (селедёўка) *ж.* Бочка з-пад селядцоў. *Селедёўку надо добрэ попарыть, бо ў ёй була селдь.* Бастынь Лун.
СЕЛЯЗЕ'НЬ I *м.* Качар. *Сягодня зарэзала сілізьня, дак вутачка кракаіць.* Моханава В.-Дзв.



СЕЛЯЗЕ'НЬ II *м.* Селязёнка. *Бяжыць конь, аж селязень квокча.* Шкураты Браг.
СЕЛЯЗНА' (сілізна') *ж.* Агрэх. *Як ты арэш, кідаіш сялёзны, а во якая сілізна.* Сяляўшчына Рас.
СЕЛЯХТА'ЦЬ (селехта'ті) *незак.* Казытаць. *Ты мене не селехті, а то я боюс.* Бастынь Лун.
СЕМЯНЁ *н. зборн.* 1. Насенне. *Пакінула гуркоў на семянё.* Міратычы Кар. 2. Льняное семя. *Семянё ссыпалі ў чан. Лён добры, семянё буйнаё.* Старое Сяло Зэльв.
СЕМЯНІ'К (семені'к) *м.* Кветаноснае сцябло шчаўя. *У кэньскім шчавэі е семенік.* Бастынь Лун.
СЕМЯНІ'ЦА *ж.* Бяроза з насеннікамі. *На бярозі, якая семяніца, растуць калачы. Як пасьпеюць калачы, з іх сыплецца насеня.* Навасёлкі Свісл.
СЕМЯНО' *н. зборн.* Збожжа, пакінутае на насенне. *Пакінуў семяно на вясну.* Старонка Асіп.
СЕНАВА'ННЕ (сенава'ня) *н.* Сушка сена. *Якоё там було сенаваня — дошч ішоў.* Навасёлкі Свісл.
СЕНАВА'ЦЬ *незак.* Сушыць сена. *Мужыкі пашлі сенаваць сена, што ўчора накасілі.* Навасёлкі Свісл.
СЕ'ННІК I (сэ'ннік) *м.* Пуня. *Положылі аж пять возов сэна ў сэннік.* Бастынь Лун.
СЕ'ННІК II (сэ'ннік) *м.* Прыстасаванне для падвешвання вашчыны ў стаяку. Бастынь Лун.
СЕ'РА *ж.* Малодзіва. *Ужо сера ў каровы ёсь, сягодня-заўтра целіцца.* Якубова Рас.
СЕ'РНА *ж.* Верхні цвёрды пласт снегу. *Як добра іці па серні, толькі хрусь-хрусь-хрусь!* Моханава В.-Дзв.
СЕРПАКРЫ'ЖНІК *м.* Кажан. *Оля', серпакрыжнік зацапіўся за бэльку і вісіць у скляпу.* Навасёлкі Свісл.
СЕ'РПЕНЬ *м.* Жнівень. *Серпень прышоў — гатоў серп жыта жаць.* Паляцкішкі Вор.
СЕ'СЦІ *зак.* Не падысці (пра хлеб). *Хлеб нэ вдавса, сэв на скорынцэ.* Азарычы Пін. *Пасадзіла хлеб у печ, дак ён і сеў брусам, з-пада дна скарынка аж цёмная стала.* Шкураты Браг.
СЕ'ТКА I *ж.* Чапец (каля кішок). *Кабана закалолі. Сетку абадрала і ператапіла на жыр.* Міратычы Кар.
СЕ'ТКА II *ж.* Рашотка ў пліце. *Зрабіў сетку ў пліце.* Бастынь Лун.
СЕЧАВО' (січаво') *н.* Крэсіва. *Гарун клалі на крэмень і січавом высікалі агонь.* Сяляўшчына Рас.
СЕ'ЮМ *м.* Бяседа. *Чоловэкы зобралыс на сеюм, посемовалі чоловэкы і поехалі домов.* Горск Бяроз.
СЁЛЕТКА *ж.* Цялушка да году. *Іна сёлетка, маленькая саўсім.* Касталомава В.-Дзв.
СЁКАР *м.* Свёкар. *Мой сёкар добры.* Жахавічы Маз. *У ее летась сёкар памёр.* Тульгавічы Хойн. *У мэнэ добры сёкар.* Горск Бяроз.
СЁКРО'В *ж.* Свякроў. *У мэнэ сёкров вэльмі добрая.* Азарычы Пін.
СІВАКРА'ХА *ж.* Сіваграк. *Ужэ к нам прылетае сівакраха.* Тульгавічы Хойн.
СІВІ'ЦА *ж.* Сівец. *Пашоў касіць сівіцу, а каса ні бярэць яе.* Ністанішкі Смарг.

СІЛЕ'ГА *ж.* Расшчэпленае хваёвае карэнне, з якога плятуць кашы. *У кашы делають дужкі, потом уставляюцца вокна з дубцэв, устоновляюцца рэбра орэховые, а сілегою заплетають,— дай кэш.* Бастынь Лун.

СІ'СЛЯ *ж.* Абарваная нітка ў кудзелі. *Гэта нітка, якая абарвалася і вісіць каля барады кудзелі, называецца сісьля, а начынаем прыпрадаць новую.* Кавалі Свісл.

СКАБЛІ'ЦЬ *незак.* Абіраць (агародніну). *Я буду скабліць бульбу, зварым на вячэру.* Моханава В.-Дзв.

СКАКУ'Н I *м.* Танцор. *Скакун добрэ танцуіт.* Горск Бяроз.

СКАКУ'Н II *м.* Блыха. *Скакун так быстра скокаіць, што няможна злавіць.* Ністанішкі Смарг.

СКАКУ'НКА *ж.* Танцорка. *Скакун са скакункай скачут польку.* Горск Бяроз.

СКА'ЛКА *ж.* Крэмень для высякання агню. *Нашой скалку, буду высікаць агонь.* Моханава В.-Дзв.

СКАЛО'ЦІНЫ *толькі мн.* Маслёнка. *Масла зьбіла, а скалоціны будзім есьці з бульбай.* Моханава В.-Дзв.

СКА'ПАЧ *м.* Крук для скідання гною з воза. *Бяры с сабой скапач гной скапваць на полі.* Ваўкавічы Тал.

СКАПЕ'Ц (скопе'ц) *м.* Капец, месца для захавання гародніны. *У скопец богато насыпала картоплі. Надо саломою прысыпаць і землею, коб не замерзла картопля.* Бобрыкі Петр.

СКАРАВАДА' *ж.* Скаварада. *Дзе стаіць скаравада, што ее нема тут?* Тульгавічы Хойн.

СКАРАВО'ДКА *ж.* Тое, што і скаравада. *Купіла скараводку новую.* Тульгавічы Хойн.

СКАРАДА' (скорода', скырыда') *ж.* Рунь. *Скырыда замерзла, можна гнаць карой пасьвіць на скараду. Вот добра жыта пасеелі, красівая скырыда.* Моханава В.-Дзв. *От скорода хорошая, будзе хорошэе жыто.* Бобрыкі Петр.

СКАРАДЗІ'ЦЦА *незак.* Налівацца. *Жыто ўжэ краску ськідаг, будзе скарадзіцца.* Бобрыкі Петр.

СКАРАЛЮ'ШЧА (скаралю'шчо) *н.* Лупіна яйца. *Яйцы пабіла, а скаралюшчо выкінула курам.* Старае Сяло Зэльв.

СКАРА'Ч (скыра'ч) *м.* Апуча, якой вымаюць гаршкі з печы. *Вазьмі скырач і аццадзі бульбу.* Моханава В.-Дзв.

СКАРО'МІНА (скоро'міна) *ж.* Скаромніна. *Наварыла капусты, а скароміны маленькі кусочак укінула, сьвінячэго м'яса.* Бастынь Лун.

СКАЎРО'НАК *м.* Жаваранак. *Ужо скаўронак сьпявая нат жытам.* Паляцкішкі Вор.

СКА'ЦЕРКА (ска'цірка) *ж.* Настольнік. *Скацірку на стол пашыла з расшыўкай.* Ваўкавічы Тал.

СКАЦУ'К *м.* Блыха. Міратычы Кар.

СКВАРО'К *м.* Скварка. *Вазьмі з'еш гэты скварок, чаго ён будзе ляжаць. Цэлую скараводку напякла скваркой. Я люблю скваркі есьці.* Тульгавічы Хойн.

СКВАРЭ'ЧНІЦА (скварэ'шніца) *ж.* Шпакоўня. *Сквырцам зрабіў скварэшніцу.* Якубова Рас.

СКІ'БКА *ж.* Невялікі кусок (сала). *Вона одрэзала скібку сала і дала мне.* Бастынь Лун.

СКІ'ДЗІНЫ (скі'дзіны) *толькі мн.* Амецце. *Пудсевала рэшэтом ечмень і скідала скідіны.* Азарычы Пін.



СКІ'ДЫВАЦЬ *незак.* Часаць лён. *Пайду скідываць лён на жалезну драчку.* Якубова Рас.

СКІ'РТА *ж.* Касцёр (дроў). *Злажый аблеткавыя дрова ў скірту.* Шкураты Браг.

СКЛАД I (склат) *м.* Дзве баразны ворыва, скібы якіх пакладзены адна на другую. *Гараты згараў сваго загона ў склат.* Навасёлкі Свісл. *Я ўзараў свой загон у склад.* Бобрыкі Петр.

СКЛАД II (склат) *м.* Штабель дроў. Загатаваў цэлы склат бярозавых дроў. Сімакава Кар. *Я ужо адзін склат дроў спаліў.* Моханава В.-Дзв.

СКЛАДА'ЦЬ (склыда'ць) *незак.* Кастрыраваць. *Кілуна, жырыбка склыдаць нада.* Даўгабор'е Рас. *Буду кілуна склыдаць.* Сяляўшчына Рас.

СКЛА'ДКА (скла'тка) *ж.* Складчына. *Перат Новым годам зрабілі склатку і сустрэлі хлопцы Новы гот.* Моханава В.-Дзв.

СКЛЫ'БКА *ж.* Скобля. *Возьмі склыбку і ідзі дэрэвіну бэліті. Склыбка дэрэвіну скобліті.* Бастынь Лун.

СКЛЮД (склют) *м.* Сільны мароз. *Сягодня сільны склют, аш за вушы бярэць. Добры склют, нада цёпла абувацца.* Моханава В.-Дзв.

СКО'САК I *м.* Каса, якая скасілася. *Каса скасілася і зыстаўся скосак. Вазьмі скосак касы, занясі ў кузьню і зрабі нош.* Моханава В.-Дзв.

СКО'САК II *м.* Касынка. *Завяжы хусьцінку, а не скосак.* Юшкевічы Нясвіж.

СКРАБСЦІ' (скрапсьці') *незак.* Скрэбці. *На вечар трэба скрапсьці бульбу і зварыць.* Моханава В.-Дзв.

СКРОПЛЬ *м.* Сухія гнілушкі для падкурвання пчол. *Запаліў скропль і пашов подкладаць пчол.* Бастынь Лун.

СКРУ'ЖВАЦЬ *незак.* Аддзяляць збожжа ад адходаў пры дапамозе рэшата. *Кружачы рэшатам, скружвала ячмень. Вазьмі рэшата і ідзі скружвай ячмень.* Моханава В.-Дзв.

СКРУ'ЖКІ (скру'шкі) *толькі мн.* Амецце. *На рэшата скружвала ячмень, а скрушкі зьбірала і кідала курам.* Ваўкавічы Тал.

СКРУ'ЖЫНЫ *толькі мн.* Тое, што і скружкі. *Патсеяла жыго і скружыны сабрала з верху жыта.* Міратычы Кар. *Скружыла ячмень і скружыны выбрала рукам і пасыпала курам.* Сяляўшчына Рас.

СКРУЖЫ'ЦЬ *зак.* Аддзяліць у рэшаце збожжа ад адходаў. *Вазьмі ячмень скружы, будзім таўчы на крупы.* Моханава В.-Дзв.

СКРУ'ТАК *м.* Звязка счэсанага і сплеценага лёну. *Начасала скрутак кужалю і буду прасьці кужаль.* Альхоўка Навагр.

СКРЫ'ГА *ж.* Крыга. *Рэчка пакрылася скрыгамі. Па вадзе плыла бальшая скрыга.* Стайкі Барыс.

СКРЫ'ДАЛКІ *мн.* Плаўнікі. *Якія ў рыбы скрыдалкі бальшыя.* Якубова Рас.

СКРЫ'ДЛА *н.* Крыло. *Курка паламала скрыдла і сядзіць.* Паляцкішкі Вор.

СКРЫ'НЯ (скрэ'ня) *ж.* 1. Аконная ці дзвярная шуфляда. *У вокновэ згныла скрэня.* Дзмітравічы Кам. 2. Дашчаная шуфляда, на якой ляжыць ніжні камень у жорнах. *Як мелім у жорнах, у скрыню сыплецца мука.* Шкураты Браг. *Зрабіў у жорны скрыню, а цяпер буду камінь лажыць.* Альхоўка Навагр. *Падралася скрыня ў жорнах, трэбо наладзіць, о то мука сыплецца.* Навасёлкі Свісл. *У жорнах новая скрыня.* Заазер'е Віл. 3. Зруб у калодзежы. *Трэбо*

*зрабіць скрыню ў калодзесь, а то старая згніла.* Навасёлкі Свісл. 4. Яслі, у якіх даюць сена жывёле. *Прынясі каню сена і ўкінь у скрыню, хай конь есьць.* Моханава В.-Дзв. 5. Прыстасаванне для захавання збожжа. *Скрыня стаяла ў сенцах. У скрыні было чатыры засека, ў засекі сыпалі дабро.* Старонка Асіп.

СКРЫ'ПЕЛЬ *м.* Ядавітая няпраўдзівая апенька. *Скрыпель — грыбы, якраз як апенькі, алі вонэ сіневатые.* Бастынь Лун. *Скрыпель — грыб, расце на дубовым пні.* Жахавічы Маз.

СКРЭ'МНІЦА *ж.* Конская шчотка. *Вазьмі скрэмніцу і пачысьці каня.* Жахавічы Маз.

СКУГІТА'ЦЬ *незак.* Пішчаць. *Пырысяты скугічуць, хочуць есьці.* Моханава В.-Дзв.

СКУМА'Т *м.* Абрэзак. *Нешта ў цябе пысьля кройкі многа скуматоў засталося.* Моханава В.-Дзв.

СКУПЯРДЗЯ' (скупірдзя') *м* і *ж. абразл.* Скупеча. *Ён скупірдзя, у яго нічога ні дыстаніш. Йіна быльшая скупірдзя, нічога ні дасць табе.* Моханава В.-Дзв.

СКУПЯРДЗЯ'Й (скупірдзя'й) *м.* абразл. Тое, што і скупярдзя. *Што ты хочаш ат гэтага скупірдзяя? Табе гэты скупірдзяй нічога не пазычыць.* Моханава В.-Дзв.

СКУРА'Ч *м.* Кажан. *У маём склепе пат бэлькай вісіць скурач. Скурач днём спіць, а ночу лётая.* Навасёлкі Свісл.

СКУРЛА'Т *м.* Тое, што і скурач. *У склепі многа скурлатаў завялося. Скурлаты страшныя, яны ночу летаюць. Я бачыў скурлата з крыламі.* Паляцкішкі Вор.

СЛЕДЗЬ (следь) *м.* Селядзец. *Дайней мы звалі следь, а тэпэр зовуть селёдка.* Бастынь Лун.

СЛЕНЬ (сьлень) *ж.* Луска. *От сьлень засохла, не можно адскрэбці рыбу, не свежа.* Жахавічы Маз.

СЛЕ'ПЕТНІ (сле'пэтні) *мн.* Дзікія пчолы. *Е пчолы слепэтні. Ето не свое пчолы, а дзікія.* Бастынь Лун.

СЛЕПЯНДЗЯ' (сьліпіндзя') *м.* і *ж. абразл.* Сляпы. *Іна сьліпіндзя, нічога не відзіць.* Моханава В.-Дзв.

СЛЕ'ТНІК (сьле'тнік) *м. устар.* Стары або зняможаны конь, якога набывалі па таннай цане звычайна вясной з мэтай выкарыстання летам. Давыдзькова Пол.

СЛЁЗІ'НА (слёзы'на) *ж.* Сляза. *Што то вон унылый і нэвэсёлый, і слёзына на воку.* Горск Бяроз.

СЛІ'ШЧА *н.* Сцелішча. *Лён пыслалі на слішчы.* Сяляўшчына Рас.

СЛОН I (слэн) *м.* Услон. *Пыстаў слон к сталу.* Моханава В.-Дзв. *Садэтэса на слэн.* Азарычы Пін.

СЛОН II *м.* Сланечнік. *Пасеіў слону, вырас, галоўкі бальшыя.* Якубова Рас.

СЛО'НЧЫК *м.* Услончык. *Вазьмі слончык і сідай кыля печы.* Якубова Рас.

СЛУПЕ'Ц *м.* Папярочная планка у граблях, у якую набіваюць зубы. *Трэбо зрабіць слупец у граблі.* Сімакава Кар.

СЛЮГА' *ж.* Папярочнае бервяно пад падлогай. *Згніла ў мосьці слюга. Кладзём слюгі, а на слюгі кладзём мост.* Воранава Рас. *Нада палажыць слюгі, а тады мост масьціць. Адну слюгу ў масту нада замяніць.* Сяляўшчына Рас.

СЛЮЗ *м.* Слізь. *Нада кішкі нажом чысьціць, а як многа слюза ў кішках.* Сяляўшчына Рас.



СЛЯПА'К (слепа'к) *м.* Сляпень. *От ушпілів слепак за руку.* Азарычы Пін.

СМАЖО'К *м.* Бульба з прыгаркамі. *Бабо, дастаньте із пэчы горшчка лупленай бульбы, звэрху збэрэтэ з ее смажкі мнэ, і я іх люблю. Вэльмі горачы смажок.* Азарычы Пін.

СМАКАЦІ'ЦЬ (смокоті'ті) *незак.* Ссаць (грудзі). *Вэн нэ будэ смокотіті.* Азарычы Пін.

СМАЛА' (смыла', смэла', смола') *ж.* Малодзіва. *У каровы смыла, будзя скора цяліцца.* Стайкі Барыс. *Корова будэ тэлыцца, бо е смэла.* Горск Бяроз. *Смола ужэ покозаласа, корова будэ тэлыцца.* Азарычы Пін.

СМАЛЯ'НКА (смоля'нка) *ж.* Смолка (расліна). *Смолянка росте по борэх.* Бастынь Лун.

СМАРШО'К *м.* Смоўж. *Смаршок сядзіць на грыбу сьліскій.* Вароніна Рас.

СМЕ'ЦЕЙКА (сме'тейко) *н.* Самае дрэннае зерне, якое пры веянні кладзецца перад мякінай. *Посып курам сметейко, хай клюють.* Бастынь Лун.

СМОК *м.* Радуга. *Смок праз усё неба ваду дастае з мора.* Паляцкішкі Вор.

СМО'ЛКА *ж.* Малодзіва. *Гэ, ужэ смолка ў корову появіласа, будзе скоро целіцца.* Бобрыкі Петр. *Карова будзе целіцца: смолка есць.* Тульгавічы Хойн.

СМОЛЬ *ж.* Смалістая сухая сярэдзіна дрэва. *У маладой хвойцы да стрыжаня ўсе дзічка, а ў старой хвойцы — смоль, адзін стрыжань.* Шкураты Браг.

СМО'РГАЦЬ *незак.* 1. Часаць лён. *У драчку набіты гвоздзі, на гэтый драцы сморгаім лён.* Стайкі Барыс. 2. Цягаць аснову красён. *Трэбо кросны сморгаць, а тады сплятаць і сушыць.* Бобрыкі Петр. 3. Абрываць вяршкі (бацвіння, аўса, травы). *Нада сморгаць бацьвіньня і крышыць.* Моханава В.-Дзв.

СМАРГУ'ЛЬ *м.* Вельмі скупы чалавек. *Гэты смаргуль грошы не пазычыць.* Моханава В.-Дзв.

СМУГА' *ж.* Гразь на траве пасля раставання снегу. *Послі снегу по земне асаджваецца смуга, чорная, як сажа.* Бастынь Лун.

СМУЖ (смуш) *м.* Смоўж. *Прынысла грыбоў, і смуш на грыбу сядзіць.* Ваўкавічы Тал.

СМУРО'ДЗІНА (смуро'діна) *ж.* Чорныя парэчкі. *Смуродзіна — ето вовчые ягады. Бувало, смуродіну не елі.* Бастынь Лун.

СМУРО'ДНІК *м.* Кусты чорных парэчак. *У нас у лесі многа е смуродніку.* Бастынь Лун.

СМЫК *м. устар.* Прылада, якой раней баранавалі бульбу. Даўгабор'е Рас.

СМЫКАВА'ЦЬ (смыкыва'ць) *незак.* Баранаваць. *Смыкам бульбу смыкуюць. Бульбу пыгыняў, а цяпер буду смыкам смыкываць.* Даўгабор'е Рас.

СМЫ'КАЦЦА I *незак.* Аставацца. *От баба нэчысто жнэ, за ей колоссэ смычэцца.* Горск Бяроз.

СМЫ'КАЦЦА II *незак.* Бадзяцца, цягацца. *Вон цэлый дзень нічого нэ робыт, а толькы смычэцца по сэлэ.* Горск Бяроз.

СМЫ'КАЦЬ *незак.* Прасці. *От жа добра смыча воўну, тонка нітка.* Міратычы Кар.

СМЫ'ЧАНЫ *толькі мн.* Атрэп'е. *Спрала смычаны і выткала коўдру. Траплю лён, а смычаны аткідаю.* Міратычы Кар.

СМЯЦЕ'НЬ (сметэ'нь) *м.* Сажа (хвароба злакавых раслін). *Сметэнь ростэ у ечмэнёвы.* Горск Бяроз.
СМЯЦЮ'Р (смэтю'р) *м.* Жаваранак. *От смэтюр у жыті красіво спэвае.* Бастынь Лун.
СМЯЦЮ'Х (смэтю'х) *м.* Тое, што і смяцюр. *Смэтюх над жытом спэвае так: тюр-тюр-тюр!* Бастынь Лун.
СНАВА'ЦЬ *незак.* Хадзіць без справы. *Чаго ты тут снуеш узат і ўперат без толку? Ідзі рабі работу, а ні снуй.* Моханава В.-Дзв.
СНО'ЎНІЦА (сны'ўніца) *ж.* Прыстасаванне, пры дапамозе якога снуюць кросны. *На сныўніцы наснывала губэк пять кужэлю.* Бастынь Лун.
СНУ'ЙКА *ж.* Тое, што і сноўніца. *Снуйку трэба прыбіць, будзям снаваць кросна.* Паляцкішкі Вор.
СНУ'ЙНІЦА *ж.* Тое, што і сноўніца. *Кросна снуюць на снуйніцы.* Міратычы Кар.
СНЯГО'ЎЦЫ (снего'ўцы) *мн.* Гумавыя боты. *Наложы на ногі снегоўцы.* Бастынь Лун.
СНЯЦЕ'Й (снэтэ'й) *м.* Тое што і смяцень. *У ечменю мнэго ростэ снэтэю. Снэтэй чорный, бы сажа.* Горск Бяроз.
СО'НЕЧНІК *м.* Сланечнік. *Сонечніку богато ў городзе, будзе богато семечэк.* Бобрыкі Петр.
СО'ПКА *ж.* Магільны насып. *Нябошчыка зыкыпалі і насыпалі бальшую сопку.* Якубова Рас.
СО'ПУХА *ж.* Чалеснікі. *Заніскую зрабіў сопуху ў печы, і саган ня лезе.* Паляцкішкі Вор.
СО'СКА *ж.* Лядзяк. *На страсе вісяць соскі. Што ты соску смокчыш? Гэта ш лёт.* Сімакава Кар.
СО'ЎНЕШНІК *м.* Сланечнік. *Пасадзіла соўнешніку на семячко.* Жахавічы Маз.
СО'ШКІ І *мн.* Прымітыўны ткацкі станок. *У пыдлогу ўбівалі сошкі, а ў сошкі клалі воротылы, на однэм воротылы пража, а на другэм полотно. Так колісь на сошках і ткалі, а ставов не було у нас.* Бастынь Лун.
СО'ШКІ ІІ *мн.* Часовая ўкладка лёну на полі. *Пыднялі лён і пыставілі сушыць у сошкі.* Сляляўшчына Рас.
СПАВІВА'ЛЬНІК *м.* Спавівач. *Нада рабёнка спавіць. Я зрабіла шырокі спывівальнік, добра будзіць спывіваць.* Моханава В.-Дзв.
СПАГО'НЧЫВЫЙ (спогэ'нчывый) *прым.* Злапамятны. *Вэн чэловек спогэнчывый.* Бастынь Лун.
СПАДА'К І *м.* Ніжні камень у жорнах. *Ніжні камінь у жорнах завем спадак, а верхні камінь — верхняк.* Старонка Асіп.
СПАДА'К ІІ (спода'к) *м.* Падаконнік. *Знашоўся бэцька — грыбок, і гніе ў вакне спадак.* Навасёлкі Свісл. *У вокновы ў яшчэковы есть штыры часткы. Сподняя часть — сподак.* Горск Бяроз.
СПАДА'К ІІІ *м.* Збітыя дошкі, якія кладуць на дно воза. *У калёсах па баках палажый гнаёўкі, а па сярэдзіні спадак палажый,* Вострава Маст.
СПАДЛО'Б'Я *прысл.* Спадылба. *Йіна на мяне паглядзела спадлоб'я і пышла дамоў.* Моханава В.-Дзв.
СПАДНЯ'К (спыдня'к) *м.* Ніжні камень у жорнах. *Сподні камінь у жорнах завецца спыдняк.* Ваўкавічы Тал.
СПА'ЛЕНКІ *мн.* Арэхі з чорнай мякаццю ў сярэдзіне. *Ой, так много на орэшыне спаленак, от моланка попаліла.* Бастынь Лун.



СПАМЫ'ЛАК (спомы'лок) *м.* Памылка. *Ета був спомылок.* Бастынь Лун.
СПАНА'ДЗІЦЦА (спана'діцца) *зак.* Панадзіцца. *Спанадівса до ее ходіть хлопец.* Бастынь Лун.
СПА'НКА *ж.* Пістон. *Уцягні шнуркі ў спанкі, а то туфлі зваляцца з ног.* Навасёлкі Свісл.
СПАРКАВА'ЦЦА *зак.* Падружыцца. *Спаркаваліся двое.* Міратычы Кар.
СПАРО'ЦЬ *зак. іран.* Разбудзіць рана. *Што ты мяне спарола ні свет ні зыра і ні дыла спаць мне?* Моханава В.-Дзв.
СПА'РЫЦЬ *зак.* Зварыць бульбу ў шалупінах. *Бульбы чыгун спарыла.* Ваўкавічы Тал.
СПАРЫШЫ' *толькі мн.* Гліняныя гаршчочкі, злучаныя ручкай. *Памый спарышы, трэба ісьці несьці кысцам.* Моханава В.-Дзв.
СПАС *м.* Ратунак. *Німа спасу ат гэтых дзяцей, усе яблакі апшчыпалі.* Моханава В-Дзв.
СПА'СНЫЙ *прым.* Неперабарлівы (на яду). *Вэн у мэнэ спасный, што я дам, то і есть. Вэн обжырный, спасный, богато есть.* Бастынь Лун.
СПАХАЛО'ВЫЙ *прым.* Псіхічна хворы. *Пашоў па вуліцы спахаловый чалавек. Гэта спахаловая дзеўка, йіна нічога ні скажыць. Што ты гаворыш са спахаловым чалавекам.* Сяляўшчына Рас.
СПЕ'ШКА *ж.* Скараспелка. *У мяне спешка пычыла цьвісьці, скора будзіць бульба.* Моханава В.-Дзв.
СПІНА' *ж.* Вільчык саламянай страхі. *Пакрыў страху саломай, а цяпер трэба задзелаць сьпіну на версі страхі.* Альхоўка Навагр. *Па саломенай крышы, на самум вярху, е сьпіна, якая засыпаецца кастрыцаю.* Шкураты Браг.
СПЛЕ'ТАЦЬ *незак.* Сплятаць. *Трэбо кросны посморгаць дай сплетаць.* Бобрыкі Петр.
СПРЫХ *м.* Вязальны пруток. *Таўстыя спрыхі, дрэнна вязаць камізэльку. Адзін спрых правязала.* Ністанішкі Смарг.
СПУСК *м.* Кужаль. *Ободрала лён на залезный грэбень, кайстра і обдзіркі пошлі на посьцілкі, а спуск на сорочкі.* Бобрыкі Петр.
СПУСКАВА'ТЫЙ (спускова'тый) *прым.* Адхонны (бераг). *Берег рэкі спусковатый.* Бастынь Лун.
СПУСТ *м.* Фуганак. *Спуст справляты доскы.* Горск Бяроз.
СПЫ'РНІК *м.* Спарыння. *О, ак много спырніку ў жыті, чорначорна.* Бастынь Лун.
СРАЙХО'ДЫ *мн.* Старыя боты з адрэзанымі халявамі. *Былі у мяне старыя боты, парваныя, я адрэзаў галянішчы і зрабіў срайходы, вот буду ў срайходах каля дому хадзіць. Надзень срайходы і ідзі на балота сена грэбці.* Брусы Мядз.
ССЫ'ПАНКА *ж.* Вялікая бочка для збожжа. *Бувала, у нас былі ссыпанкі па 20—25 пудоў.* Старонка Асіп.
ССЫ'ПКА *ж.* Насыпка. *Купіла тавару на ссыпку, пашыла ссыпку і ўсыпала курынаё пер'е.* Міратычы Кар.
СТАВЕ'НЬКА (стовэ'нька) *ж.* Станок для матавіла. *Зламалася стовэнька ў мотовіла.* Бастынь Лун.
СТАВО'К *м.* Сталюга. *Положы дэрэвіну на ставок і рэж на дрова.* Азарычы Пін.
СТАВЫ' *толькі мн.* Ткацкі станок. *Нада зьбіць ставы, будзім нывіваць кросны.* Ваўкавічы Тал. *У ставах е жураўка, у ету жураўку му кладом навойку.* Бобрыкі Петр.

СТА'ДА *ж.* 1. Статак. *Ідзець стада кароў на пасту. Стада кароў пасецца па лянішчы.* Ністанішкі Смарг. 2. Натоўп, група людзей. *Стада людзей вялікая пашла лён слаць.* Ністанішкі Смарг.

СТА'ДНІК *м.* Бык. *Прывялі стадніка ў чэрэду.* Шкураты Браг.

СТАЖАРЫ'ННЕ (стожары'ньне) *н.* Стажар'е. *Зроблю стожарыньне і буду класьці стожка.* Азарычы Пін.

СТАЖЭЧАК *м.* Укладка дроў у форме стога. *Стажэчак дроў злажыў на зіму.* Навасёлкі Свісл.

СТАЙЛО' *н.* Сук на дрэве, на якім ставяць калодны вулей. *Зламалі стэйло і выбралі з колоды мэд.* Бастынь Лун.

СТА'ЙЛО *н.* Памост на дрэве, дзе стаяць вуллі. *Стайло — место ў лесе на дзеравіне, дзе стояць вульe.* Бобрыкі Петр.

СТАЙНО' *н.* 1. Дэталь у прасніцы, да якой прывязваецца кудзеля. *У прасьніцы ёсь стайно, да якога прывязваюць кудзелю.* Ваўкавічы Тал. 2. Падстаўка, якой карыстаюцца пры трапанні лёну. *Палажыў павесма лёну на стайно і трапляю лён.* Сяляўшчына Рас.

СТАЛЬВА'ГА (стыльва'га) *ж.* Трайны ворчык для пары коней. *Дай мне стыльвагі запрэхчы пару коней у плух.* Моханава В.-Дзв.

СТАЛЬНІ'ЦА I (стольні'ца) *ж.* Шуфляда ў стале. *У столе е стольніца, куды кладэмо шчо пупало: ніткі, голкі, клубкі.* Азарычы Пін.

СТАЛЬНІ'ЦА II *ж.* Сталяніца. *На столь нехапіла адной стальніцы.* Шкураты Браг.

СТАЛЬНІ'ЦА III (стэльні'ца) *ж.* Верхняя плоская частка стала. *Помый стэл і стэльніцу стола.* Бастынь Лун.

СТАЛЬНІ'ЧКА (стольні'чка) *ж.* Драўляная дошчачка, на якой крышаць сала, цыбулю. *Стольнічка — ето досочка, на якой мы рэжам сало, м'ясо, цыбулю і ўсё.* Бастынь Лун.

СТАЛЯВА'ННЕ (сталява'не) *н.* Столь. *Зрабіў хату, а цяпер буду рабіць сталяване. Сталяване кладзецца на бэлькі.* Паляцкішкі Вор.

СТАМАДЗЮ'К *м. асудж.* Брудны чалавек. *Стамадзюк, ты ня можаш сябе апратаць.* Шкураты Браг.

СТАН I *м.* Талія. *Мыя прыбабушка ўсё кызала пояс на стан, а цяпер усе кажуць стан. У яе недобры стан, некрасівы.* Моханава В.-Дзв.

СТАН II *м.* Колькасць палатна, неабходная на кашулю. *Одрэзала на сорочку стан полотна і пошыла сорочку.* Азарычы Пін.

СТАН III *м.* Верхняя частка сукенкі. *Прышыла стан у сукенцы.* Бастынь Лун.

СТАН IV *м.* Чатыры колы ў калёсах. *Учора я купіў цэлы стан пакот.* Моханава В.-Дзв.

СТАНДА'РА *ж.* Адзін з драўляных слупоў, які служыць фундаментам. *Копаюць чэтыры яму, у кожну яму стаўляюць по одной стандары, а на стандары кладуць пудваліны кругом зруба. Одну стандару пад вугал укопаў.* Бобрыкі Петр. *Пуд хату стаўляюць стандары, а на стандары кладуць перві вянок.* Шкураты Браг.

СТА'НІК *м.* Ліфчык. *Надзень станік, а тады ныдзівай сукенку.* Моханава В.-Дзв.

СТАНО'ВІСКА (стоно'віско) *н.* Агароджанае месца на полі, у лесе, дзе летам трымаюць жывёлу. *Трэбо товар гнаті ў стоновіско.* Бастынь Лун.

СТАНО'ГА (стоно'га) *ж.* Макрыца (насякомае). *Як мныго стоног у кутковэ.* Дзмітравічы Кам.



СТАНО'К *м.* Папярочная планка у граблях, у якую набіваюць зубы. *Поломайса ў граблях станок. Трэбо ўбіті зуба ў станок. Німа ў мэнэ доброго станка на граблі.* Азарычы Пін.

СТАНО'ЎКІЙ (стоно'вкій) *прым.* Непраточны, стаячы (пра ваду). *Там за гародам станоўка вода, стоіт на одном месті і не высыхаіт.* Бастынь Лун.

СТА'НЦЫЙКА *ж.* Пакойчык. *Быў адзін пакой, разгарадзіў, зрабіў дзве станцыйкі.* Паляцкішкі Вор.

СТА'НЦЫЯ *ж.* Пакой. *Мая хата новая із каморамі, із станцыямы. Хочэ сын, коб одэлітыс, і хочэ, коб батько даў одну станцыю, а тры станцыі ў хаты.* Горск Бяроз.

СТАРАНА' *ж.* Прыстаронак, месца ў гумне паабапал току, дзе складваецца збожжа. *У таку по боках е старана ці астаронак, однэ і тэ. У старану ложать снопы.* Бастынь Лун. *Старана была ў гумне, і мы клалі туды снапы.* Жахавічы Маз. *Калісь старана была ў гумне. Старана гэта адгароджвалася запекам.* Міратычы Кар.

СТА'РАСТА (ста'роста) *м.* Сват (на вяселлі). *Староста — гэтый самэ старшый на вэсэллі. Вэн гледыт за всэм на вэсэллі, кэб було добрэ.* Азарычы Пін.

СТАРО'ГАЦЬ (сторо'готы) *зак.* Патузаць аснову. *Ходы до мэнэ і поможы стороготы мнэ основу, буду кросна навываты.* Горск Бяроз.

СТАРЧА'К (сторча'к) *м.* Дрэва з абломанымі сукамі. *Стоіть сторчак пры дорозі без сукоў.* Бастынь Лун.

СТАРЫ'К *м.* Поўня. *Молодічок, колі настае серпок, а тогды молодічок у другэй квадэ, поўны месяц — ето ўжэ старык. Посьле старыка ўжэ рушэньне месяца.* Бастынь Лун.

СТАЎБУ'Н *м.* Збанок. *Падаіла карову і малако працадзіла ў стаўбун. Прынясі с істопкі стаўбун мылыка.* Моханава В.-Дзв.

СТАЎПА'К (стоўпа'к) *м.* Кветаноснае сцябло (цыбулі, шчаўя і да т. п.). *Стоят на цыбулі стоўпакы.* Горск Бяроз.

СТАЎПЕ'Ц I (стоўпе'ц) *м.* Папярочная планка у граблях, у якую набіваюць зубы. *Трэба ў стаўпец набіць зуб'я, і граблі будуць гатовы. Адламаўся стаўпец у граблях.* Заазер'е Віл. *Зрабіў стаўпец у граблях.* Ністанішкі Смарг. *Добры дубовы стаўпец да грабляў, нада набіць у яго зубаў.* Раўбічы Мін. *Выдрылюй ты мне стаўпец на граблі.* Навасёлкі Свісл. *Убі ў стоўпец зубу.* Бобрыкі Петр.

СТАЎПЕ'Ц II *м.* Драўляная падстаўка для трапання лёну. *Калі ёсць стаўпец, тады ляхчэй трыпаць лён, рука не баліць. Палажыў лён на стаўпец і трапі.* Моханава В.-Дзв.

СТАЦІ'ВА *ж.* Бакавая частка ў ткацкім станку. *Трэба ўнесьці стацівы ў хату, будзім ставіць і ткаць кросна. Дзяржы стаціву, а то ўпадзя.* Паляцкішкі Вор.

СТАЦІВІ'ННЕ (статіві'нне) *н.* Тое, што і стаціва. *Ставімо статівінне і збіваемо збоінамі.* Азарычы Пін.

СТАЮ'ШКА *ж.* Прыстасаванне, дзе дзеці вучацца стаяць. *Пыстаў дзіця ў стаюшку і хай стаіць.* Моханава В.-Дзв.

СТАЯ'К I (стыя'к) *м.* Комін ад столі да страхі. *Зрабіў печ, а стыяк буду зайтра вывадзіць на страху.* Касталомава В.-Дзв.

СТАЯ'К II (стоя'к) *м.* Бакавы вушак. *У вокновы ў яшчэковы есть штыры часткы: сподня часть — сподак, на сподак ставять два стоякы, а на стоякы кладэцца шапка.* Горск Бяроз.

СТАЯ'Н (стоя'н) *м.* 1. Сухі колас у жыце. *Нішчымнэе жыто, однэ стоянэ, нэ будэ хлеба. Узяв стоян і нэ однэго зэрнэ нэма.* Аза-

рычы Пін. 2. Нязжаты каласок. *Во ак нехорошо жнуть жыто, скольні стоянов стоіть ніжатых.* Бастынь Лін.

СТО'ВЕНЬКА (сто'вэнька) *ж.* Тое, што і стаюшка. *Зробів стовэньку, хай дітя вучыцца стоять.* Бастынь Лун.

СТО'ЙКА I *ж.* Тое, што і стовенька. *Добрэ, калі стойка е. Паставіш дзіця ў стойку, яно і стаіць.* Тульгавічы Хойн.

СТО'ЙКА II *ж.* Жалезны шпень у жорнах, на якім круціцца верхні камень. *У ніжнім камені ў жорнах пасярэдзіні ё стойка.* Барыскі Лаг.

СТО'ЙКА III *ж.* Капыл. *У палазы ўбіў стойкі, а на стойкі палажыў вязы, а на вязы палажыў перакладзіну.* Барыскі Лаг.

СТОЛ *м.* Под у жорнах. *Пылымаўся стол у жорнах, і сыпіцца мука пат жорны.* Якубова Рас.

СТО'ЛАК (сто'лок) *м.* Услон. *Дай молодзіцы столок, хай сядзе.* Бобрыкі Петр.

СТО'ЛАЧАК *м.* Памянш. ад столак. *Вазьміце столачак і садзіцеся.* Навасёлкі Свісл.

СТО'ЛІК I *м.* Шуфляда ў стале. *Высунь сы стыла столік і паглядзі, ці ня ёсь там ножык.* Якубова Рас. *У стале ў століку ліжаць ніткі, вазьмі там.* Моханава В.-Дзв. *Аткрый столік і вазьмі грошы.* Сяляўшчына Рас.

СТО'ЛІК II *м.* Падстаўка, да якой прымацоўваецца верхняя частка калаўрота. *Падрэш ношку ў століку, кап лепш стыяў калаўрот.* Касталомава В.-Дзв.

СТО'ЛКА *ж.* Маленькая табурэтка. *Дай ім столку, хай сядуть.* Бастынь Лун.

СТОС *м.* Слізь. *Чысьціла трыбух і стосу многа было.* Сяляўшчына Рас.

СТО'ЎП I *м.* Саха калодзежнага жураўля. *Стоіт стоўп, а на стоўпу пуга лежыт, а до пугы прывязан ключ, а на ключы высыт вэдро.* Горск Бяроз.

СТО'ЎП II *м.* Кветаноснае сцябло (цыбулі, шчаўя). *На стоўпах на вэрху котэхы бэлые ростут, там насэннэчко ў котэховы чорнэнькые.* Горск Бяроз.

СТРАКІ'ВА *ж.* Крапіва. *Страківа расцець кыля платоў.* Якубова Рас. *Страківай апстраківіш ногі.* Сяляўшчына Рас.

СТРАКО'ЧАК *м.* Цвыркун. *Стракочак за печу стракоча.* Паляцкішкі Вор.

СТРАЛА' I *ж.* Прыстасаванне ў плузе для рэгулявання шырыні баразны. *Уперадзі дышла страла і два маленькіх каляска.* Міратычы Кар.

СТРАЛА' II *ж.* Ачэп. *На сьцяне і на страле ляжаць кроквы.* Ністанішкі Смарг.

СТРАЛА' III *ж.* Журавель (у калодзежы). *Прывяжу ік страле колоду, коб легчэй цегці воду.* Бобрыкі Петр.

СТРАМ *м.* Сорам. *Як вам ні страм так гаварыць.* Стайкі Барыс.

СТРАПАХУ'Д (страпоху'д) *м.* Пудзіла. *Страпохуда паставіла ў городі, коб пташкі бояліса.* Азарычы Пін.

СТРАСЯ'НКА (стрыся'нка) *ж.* Трасянка. *Пайду натрасу стрысянкі даць карові.* Даўгабор'е Рас.

СТРАХ *м.* Пудзіла. *На бульбу паставіла страх, кап бульбу куры ні дралі. Страх страшыць курэй.* Паляцкішкі Вор.

СТРАХО'МА *ж.* Доўгая вейка. *Надо выврваті страхому, кэб нэ пугалоса, нэ лэкалосо дітя.* Азарычы Пін.



СТРА'ШНІЦА *ж.* Няшчасная. *От страшніца, менюху накідала, у бердзе пропушчэна тросьціна.* Бобрыкі Петр.

СТРО'К I (стрэк) *м.* Авадзень. *Стрэк як укусіт корову, корова вызбрукнэ, як золупіт хвоста, як попрэ, то нэ догнаті. Я був зловыв стрэка і одорвав крыла.* Азарычы Пін.

СТРОК II *м.* Тэрмін. *Пазыч мне грошы, я табе ў строк аддам. Строк прышоў плаціць пастару. Строк прыдзіць і пашыю кажух.* Моханава В.-Дзв.

СТРОК III *м.* Вушка (у лапці). *У лапці ёсць строкі, куды аборкі ўцягаваюць.* Стайкі Барыс.

СТРУГ *м.* Скобля. *Дай мне своего струга, я буду кару чыстіті, а то дэрэвіна гніе.* Бастынь Лун.

СТРУК *м.* Лядзяк. *Струкі замёрзлі і вісяць са страхі. Які бальшы струк вісіць на страсе.* Якубова Рас.

СТРУКІ' *толькі мн.* Адходы пры прадзенні воўны. *Воўна кепская, уся ў струках, што нельга прасьці.* Кавалі Свісл.

СТРУ'П'Е *н. зборн.* Адходы пры прадзенні кудзелі. *Трэсла кудзелю і дрэнна стрэсла, вельмі многа струп'я.* Мнюхі Міёр.

СТРУЧА'НЫ *прым.* Стручны. *Сёліта боп стручаны.* Ваўкавічы Тал.

СТРУ'ЧНЫЙ *прым.* З мноствам ягад. *Агрэст стручный. Подымеш голынку, а там мнэго-мнэго ягад.* Горск Бяроз.

СТРЫБУЛЯ'ЦЬ *незак іран.* Ісці падскакваючы. *Ну і паходка ў его, не ходзіць, а стрыбуляе.* Тульгавічы Хойн.

СТРЫ'ЖАНЬ (стры'жэнь) *м.* Згустак гною ў скуле. *Нежытоўкі обселі. У однэй нэжытоўке сідіть большэй стрыжэнь, надо вырвать.* Бастынь Лун.

СТРЫЖЭ'НІСТЫЙ *прым.* З тонкім слоем абалоні (пра дровы). *Стрыжэністый лес, смола не вытегнута, добрый лес.* Бастынь Лун.

СТРЫНЕ'ЧНЫЙ (стрэне'чный) *прым.* Дваюрадны. *Пятрук мнэ стрэнечный брат.* Азарычы Пін. *Стася мне стрэнечная сястра.* Навасёлкі Свісл.

СТРЫХАВА'ЦЬ *незак.* Падраўноўваць стрыхоўкай салому. *Ен стрыхуя стрыхоўкаю страху.* Паляцкішкі Вор.

СТРЫХА'ЛКА *ж.* Стрыхоўка. *Стрыхалкай параўнуй салому на страсе, кап яна была роўная.* Альхоўка Навагр.

СТРЫХО'ВЕЦ *м.* Тое, што і стрыхалка. *Стрэху крыюць саломаю і раўнуюць стрыхоўцам.* Навасёлкі Свісл.

СТРЭ'ЛКА I *ж.* Страказа. *Ужо купацца можна, стрэлкі лётаюць. У стрэлкі красівыя крылы.* Якубова Рас.

СТРЭ'ЛКА II *ж.* Лядзяк. *Са страхі капае, замярзаюць стрэлкі. Прыгрэла сонейка, і пачалі таіць стрэлкі. Якая тоўстая стрэлка вісіць.* Тульгавічы Хойн.

СТРЭ'ЛКА III *ж.* Кветаноснае сцябло (цыбулі). *Пашла цыбуля ў стрэлкі, а гэта самая большая стрэлка.* Міратычы Кар.

СТРЭ'ЛКІ *мн.* Пер'е, якое адрастае пасля лінькі птушак. *Зарэзала куру, абадрала пер'я, а там пат пер'ям так многа стрэлак, што трудна было вырваць стрэлкі.* Раўбічы Мін.

СТРЭ'НЧЫЦЬ (стрэ'нчыты) *незак.* Раіць. *Я ему стрэнчыла дохторыцу ўзяты замуж.* Горск Бяроз.

СТРЭ'ПАЧ *м.* Пасма нетрапанага лёну. *У стрэпачы тры жмэні лну тэртэго. Бэрут стрэпач і трэпалом трэплют.* Азарычы Пін. *Што я трэплю, то ето і есть стрэпач. У стрэпачы 4 гічкі. Стрэпач — неочышчэный лён, а вэрч — очышчэный.* Бастынь Лун.

СТУПА′ *ж.* Ступня. *Ішла боса па дарозі, дак усю ступу абадрала.* Тульгавічы Хойн. *Ударыла ступу.* Моханава В.-Дзв.
СТУПА′К *м.* 1. Тое, што і ступа. *Сам маленькій, а ступак у ножцы большый.* Бобрыкі Петр. 2. След нагі на зямлі. *Во ступак на пяску, тут хто-то хадзіў.* Касталомава В.-Дзв.
СТУПЕ′Ц *м.* Папярочная планка у граблях, у якую набіваюць зубы. *Трэба зрабіць у граблі ступец і набіць зубы ў ступец.* Навасёлкі Свісл.
СТУ′РЗАЦЬ (сту′рзаті) *зак.* Расскубці кужаль на валокны. *Надо лён стурзаті і скрутіті кудэлю.* Азарычы Пін.
СТЫ′ЧАНЬ (сты′чэнь) *м.* Студзень. *Стычэнь — месяц холодны.* Паляцкішкі Вор.
СУ′БАР *м.* Адходы збожжа, якія мелюць на корм жывёле. *Субар — гэта смешанае рознага зерня і змолаты для скаціны.* Старонка Асіп.
СУ′ВАЛАКА *ж.* Адходы валакна пры трапанні лёну. *Нада сувалакай апторкаць вокны, а то вецір дуіць.* Новыя Турасы Уш.
СУВЕ′Й *м.* Гурба. *Ішла к табе, дык знаяш, ні піралесьці церас сувей, дужа сьнегу намяло.* Стайкі Барыс.
СУВЕ′РТ (сувэ′рт) *м.* Скрутак лыка. *Бувало, крутылі ў сувэрты лыкы. Хто які сувэрт скрутыт.* Горск Бяроз.
СУ′ГАЛАУЕ *н.* Пярэдняя частка саней. *Палажы нараток сена каню ў сугалаўе ў сані.* Касталомава В.-Дзв.
СУГАЛО′ВАК (суголо′вок) *м.* Брус у калёсах, які служыць асновай для драбін і ляжыць на восі. *Суголовок прыкрэпляецца тородынкамы до осэ.* Горск Бяроз.
СУ′ДАЧКІ′ (су′дочкі′) *толькі мн.* Вузкі праход паміж будынкаў. *Судочкі — промэжуток поміж стрэх, де можно тольки пройті.* Бастынь Лун.
СУ′ДНІК *м.* Невялікая падвесная шафа для посуду. *Міскі стыяць у суднiку. Малако пыстаў у суднік. У кухні на сьцяне вісіць суднік.* Касталомава В.-Дзв.
СУДО′ЖАЦЬ (судо′жаты) *незак.* Сустракаць. *Набэру ў кузню ягад, іду домой, а мэнэ дэты судожают, бо я нэсу ў кузні ягоды.* Горск Бяроз.
СУДО′СІЦЬ (судо′сыты) *зак.* Сустрэць. *Вона повыдна прыехаты, то вон ее судосыт і прывэдэ додому.* Горск Бяроз. *Вона мэнэ судосыла.* Бастынь Лун.
СУ′ДЫ *толькі мн.* Два вядры вады, прынесеныя на каромысле. *Прынісла аш двое судаў вады ў лазню.* Моханава В.-Дзв.
СУКА′Ч *м.* Сукаратка. *Крута прадзеш, многа на ніццы сукачоў.* Касталомава В.-Дзв.
СУКІ′ (суке′) *мн.* Адходы пры прадзенні воўны. *Кепска пачэсана война, уся ў сукох.* Міратычы Кар.
СУ′КРАК *м.* Тое, што і сукач. *Нітка мэцно пэрэкручэна, і мнэго сукракэв на ёй.* Азарычы Пін.
СУКРУ′Т *м.* Тое, што і сукач. *Я прала воўну і моцнэ з сукрутамі напрала.* Горск Бяроз.
СУКРУ′ТКА *ж.* Тое, што і сукач. *Дужо круто спрадзены нітки, одны сукруткі.* Бастынь Лун.
СУЛІ′ЦЬ *незак.* Прапаноўваць. *Мне Чэська суліць добрую цану за карову.* Ністанішкі Смарг.
СУМА′К *м.* Бервяно ў прасценку зруба. *Сумакі бываюць міжаконныя і сумакі ўглавыя ў зрубі. Пад вокнамі ўжэ палажылі брайно-падаконнік, а цяпер будам лажыць сумакі паміж вокнамі і дзьвярамі. Пужамажы мне палажыць сумак на зруб.* Шкураты Браг.
СУНОЖАК *м.* Планка для замацоўвання ножак стала. *У сталу памый суношкі. Садзіся за стол і стаў ногі на суножак. У сталу суношкі дубовыя.* Ваўкавічы Тал.
СУНОЗА *ж.* Вертыкальная планка ў ярме, якая раз'ядноўвае валоў. *Поломалася суноза ў ярмэ.* Бастынь Лун.
СУПЛА′ВІСТЫ (супла′выстэ) *прым.* Гразкі (пра балота). *Дужо суплавыстэ булота, много і летом воды.* Бастынь Лун.
СУПЛА′Ў (супла′ў) *м.* 1. Гразкае балота. *Суплаў — гэто булото, якое трасецца, і вэчно стоіт вода.* Бастынь Лун. 2. Гразкае месца на дарозе. *О, які суплаў на дорозі, такая грузіна, што не проехать.* Бастынь Лун.
СУ′ПРАДКІ (су′праткі) *толькі мн.* Вячоркі, на якіх прадуць. *Учора я хадзіла ў супраткі.* Касталомава В.-Дзв.
СУСО′ЛКА I *ж.* Дзіця, якое ссе палец. *От сусолка, ссе і ссе пальца.* Шкураты Браг.
СУСО′ЛКА II *ж.* Лядзяк. *Як многа сусолак вісіць на страсе. У мяне німа сусолкі, я ні рваў, ні дастаў, страха высокая.* Шкураты Браг.
СУХАПАСТО′Й (сухопосто′й) *м.* Сухастоіна. *Зрэзаў сухопостой на дрова.* Бастынь Лун.
СУХВІ′Т *м.* Столь. *Лёх зделав, тэпэр трэбо сухвіт положыті. Сухвіт не закончыв рабіті у хаті.* Бастынь Лун.
СУХВІ′ЦІНА (сухві′тіна) *ж.* Сталяніца. *Не хватіло одной сухвіціны.* Бастынь Лун.
СУ′ЧКА I *ж.* Дапаможныя сані перавозіць доўгае бярвенне. *Сучка да кар прымацоўваецца вяроўкай. Сучка — гэта маленькія саначкі, якія прывязаваюцца да кар, калі трэбо перавазіць доўгі лес.* Навасёлкі Свісл. *Прывяжы сучку до санэй, будэм возэтэ лес.* Дзмітравічы Кам.
СУ′ЧКА II *ж.* Прыстасаванне, якое злучае вялікае кола калаўрота з падножкай. *Пылымалася сучка ў калаўроці.* Якубова Рас. *Зрабі сучку да самапраткі.* Сяляўшчына Рас. *У санапраццы ёсць сучка, якая круціць кола.* Мнюхі Міёр. *Надзень сучку ў калаўроці.* Моханава В.-Дзв. *Зрабій сучку ў самапратку і надзеў на колбу.* Навасёлкі Свісл.
СУ′ЧКІ I *мн.* Ваўчкі. *Сучкі растуць на бульбі. Сучкі цыпляюцца за спадніцу.* Сяляўшчына Рас. *Пышла я ў гарот, дак як налезла ў спадніцу сучык, дак ні атрасьціся ат іх. Улезла ў бадзюлі, як нычыпалася сучык за андырак.* Якубова Рас. *Ныпар сучак і пыкупай дзіця ў сучках.* Моханава В.-Дзв.
СУ′ЧКІ II *мн.* 1. Адходы пры прадзенні кудзелі. *Дужа плахая кудзеля, адны сучкі, што нельга добрую тонкую нітку выцягнуць.* Купіск Навагр. *О, якая сукаватая кудзеля, уся ў сучкох.* Падкасоўе Навагр. *Плоха пакалаціла кудзелю, сучкоў многа.* Старонка Асіп. *Не харашо напрала, бо многа сучкоў у кудзелі, што нельга добра вывесці нітку.* Шкураты Браг. 2. Адходы пры прадзенні воўны. *Плоха пачасаў воўну, адны сучкі не расчэсаныя.* Старонка Асіп.
СХАПА′ЦЦА *незак.* Усхопліваацца. *От оплава сільная, аж баначкі схапаюцца.* Бастынь Лун.
СХО′ДЗІКІ *мн.* Прыступкі. *Паламаліся сходзікі ў ганку.* Навасёлкі Свісл.

СХО'ДКІ (схо'ткі) *мн.* 1. Тое, што і сходзікі. *Пагнілі схоткі на ганку.* Купіск Навагр. 2. Лестка ў лесвіцы. *Прыгатовіў схоткі, кап зрабіць лесьніцу.* Касталомава В.-Дзв.

СХНУЦЬ *незак.* Сохнуць. *Повесь коротыша коло пэчы, хай схнэ.* Бастынь Лун.

СХО'МАЦЬ *зак. іран.* З'есці. *Прасілі ў мяне хлеба, не дала, сама схомаеш.* Шкураты Браг.

СХУ'НЯ *ж.* Палатняная торба для зерня, з якой сеялі ўручную. *Са зрэбна полотна шылі схуні, у схуні сыпалі жыта і сеялі з іх.* Бастынь Лун.

СЦВЯРЧО'К (ствэрчо'к) *м.* Цвыркун. *Я шчо, нэ бачыв ствэрчка?* Азарычы Пін.

СЦЕБЯЛІ'НА (стэбэлі'на) *ж.* Сцябло. *Колос добрый, і стэбэліна товста.* Горск Бяроз.

СЦЕБЯЛО'К *м.* Жэрдка, падвешаная ў версе на печы. *На печы зроблены сцебялок, дзе вешаім плаця. Разьвесь кросна на сцебялок.* Міратычы Кар.

СЦЕ'ЖАР (стэ'жор, стэ'жэр) *м.* 1. Жэрдка, вакол якой кладуць стог. *Поставэмо стэжэра сыно стоговатэ.* Дзмітравічы Кам. *Зробілі одзёнок, поставілі стэжора і будом сено класьці ў стог.* Бобрыкі Петр. 2. Падсцілка для стога. *Стэжэр зробілі, а тэпэр будэм сэно класті ў стыг.* Бастынь Лун.

СЦЕПКА *ж.* Варыўня. *Маленькую сцёпку зрубілі, там малако стаўляем і варава.* Шкураты Браг.

СЦІ'ЖЛА *ж.* Чарада кароў. *Велікая сьціжла ідзе товару домоў.* Бобрыкі Петр.

СЦЮДЗЁНКА *ж.* Халодная вада. *Ой, як жарка, дай мне сцюдзёнкі абдацца.* Моханава В.-Дзв.

СЦЯБЛО' *н.* Жэрдка, вакол якой кладуць стог. *Пасярот сьцежара ставяць сьцябло кап ні разваліўсё стох.* Навасёлкі Свісл.

СЦЯГ (сьцях) *м.* Азярод (прыстасаванне для сушкі збожжа). *У сьцях зярэдзюць усё: снапы, гарох, віку, галоўкі лёну.* Стайкі Барыс.

СЦЯГА' (сьціга') *ж.* Сцежка. *Сьціга вас давядзець аш дадому.* Якубова Рас. *За гумном ідзець сьціга, і вы сьцягой ідзіці. Я пайду па сьцяге, а ні па дарогі, па сьцяге бліжэй.* Сляўшчына Рас.

СЦЯГНО' (стёгно). *н.* Шынка. *Добрэ стёгно вэндліті.* Бастынь Лун.

СЦЯНА' (сьцяна') *ж.* Мера асновы, палатна даўжынёй на хатнюю сцяну. *Аснавала я пяць сцен кужалю.* Паляцкішкі Вор. *Асновала восім сцен пачысся ў дзесіць пасым.* Якубова Рас.

СЫ'ВАРАТКА *ж.* Сыроватка. *Аттапіла мылыка і зьліла сываратку.* Моханава В.-Дзв.

СЫ'ЗМА *м. і ж.* Вельмі скупы чалавек. *І сызма ш ён, нічога нікому ні дасьць.* Якубова Рас. *О, гэта сызма берда не пазычыць, йіна скажыць, што німа.* Сляўшчына Рас.

СЫНО'ВЕЦ (сыно'вэц) *м.* Пляменнік. *Ко мнэ прыехов сыновэц у госты, сын майго брата.* Горск Бяроз.

СЫ'РНІК (сэ'рнік) *м.* Клінок. *Сырыквашу нада аттапіць, уліць у сырнік і аццадзіць.* Сляўшчына Рас. *Аттапіла малако, уліла ў сырнік і ацціснула сыр.* Ваўкавічы Тал. *Трэбо помэтэ сэрнік.* Дзмітравічы Кам. *Тварох ллюць у сырнік і кладуць пат камушок, паліжаўшы пат камушком ён ужэ робіцца сырам. Пашыла сырнік, буду рабіць сыр.* Стайкі Барыс.



СЫРО'ЎКА *ж.* Самаробная цэгла. *Нарабіў цэглы сыроўкі, хай схне на сонцы.* Вострава Маст.

СЫРЫ'ЦА *ж.* Невырабленая скура. *Пошыв собе чоботы з сырыцы, дак пятый год ношу.* Бастынь Лун.

СЫТА' *ж.* Страва з цёртага канаплянага семя. *Высушыла коноплі, потовкла іх, развэла на водэ — ето зовэм сыта.* Бастынь Лун.

СЫ'ТЭ *займ.* Гэты. *Сытэ порося худэе. Сытэ кунь худэй.* Дзмітравічы Кам.

СУХО'ТНЫЙ (сыхо'тный) *прым.* Вельмі худы. *Ой, якій ён сыхотный, аж страшна глядзець.* Шкураты Браг.

СЭРЦА *н.* Стрыжань (морквы, дрэва і да т. п.). *У сярэдзіні ў моркві ёсць сэрца.* Сляўшчына Рас. *У моркві вялікае сэрца.* Моханава В.-Дзв. *Большое і беловатое сэрца ў моркві.* Бастынь Лун.

СЯВА'К (сева'к) *м.* Сейбіт. *Ужо на полі многа севакоў, жыта сеюць.* Паляцкішкі Вор.

СЯВЕ'Ц *м.* Тое, што і сявак. *Сявец пашоў сеяць жыта.* Якубова Рас. *Сявец сея ячмень і авёс.* Старае Сяло Зэльв.

СЯВО'К *м.* Сявенька. *Насып жыта ў сявок, пайду сеець.* Бобрыкі Петр.

СЯДЛІ'СТЫ *прым.* З увагнутай спіной (конь). *Але і сядлісты конь, сьпіна ўвагнутая ўніс.* Навасёлкі Свісл.

СЯДЛО' *н.* Частка прасніцы, на якой сядзяць. *У прасьніцы ёсь сядло, на што садзімся.* Стайкі Барыс. *У прасьніцы вускае сядло, дрэнна сядзець.* Старонка Асіп. *Пылымала сядло.* Вароніна Рас. *Пылымала ў праліцы сядло, німа як прасьці.* Якубова Рас.

СЯДУ'ШКА I *ж.* Прыстасаванне, у якім малое дзіця вучыцца сядзець. *Пасадзі дзіця ў сядушку, што ты яго дзяржыш на руках?* Моханава В.-Дзв.

СЯДУ'ШКА II (седу'шка) *ж.* Гатунак фасолі. *Ты прасіла ў мене квасолі, дак у мене седушкі трохі е. Дам табе седушкі, пасей сабе.* Тульгавічы Хойн.

СЯЛЬНІ'К I (сельні'к) *м.* Сяннік. *Пошыла з дзеругі мешка на сельнік.* Бобрыкі Петр.

СЯЛЬНІ'К II *м.* Пуня. *Ідзі памажы сена злажыць у сяльнік. Сена налажыў поўны сяльнік.* Шкураты Браг.

СЯМЕ'ННЕ (сяме'ння, саме'ня) *н.* 1. Насенне. *Пакінула гурка на семення.* Ністанішкі Смарг. 2. Ільняное семя. *Сьняла аснову, а цяпер трэба запарыць сяменям, кап лепі ткалася.* Паляцкішкі Вор.

СЯРНІ'ЧКІ *мн.* Запалкі. *Сярнічкі атсырэлі, палажы іх на брыль.* Вадва В.-Дзв.

# Т

ТАБЛЯВА'ЦЬ (тэблева'ты) *незак.* Свідраваць. *Я дэрэвыну тэблевав тэбэлем. Зробыв тэблі і заколотыв іх у сценку.* Горск Бяроз.

ТАВА'Р I (това'р) *м.* Буйная рагатая жывёла (пераважна каровы). *Погналі товар на овсяніско.* Бастынь Лун. *Велікая сьціжла ідзе товару.* Бобрыкі Петр. *Пастух жане тавар к лесу.* Тульгавічы Хойн. *На базары не было тавару, адны коні. Пагналі тавар на паству.* Шкураты Браг.

ТАВА'Р II *м.* Матэрыял на боты. *Мне тата купіў на боты хромавага тавару.* Косталомава В.-Дзв.

ТАВА′Р III *м.* Фабрычная тканіна. *Набрала тавару і пашыла сабе каптан. Купіла тавару на ссыпку і ўсыпала курачоё пер'ё.* Міратычы Кар.

ТАГДЫ′ *прысл.* Тады. *У мене було тогды уроішчэ. У ладцэ жмень пяць, шэсь, тогды еты ладкі зьбіраем і вяжам сноп. Кросна трэбо вуроўноваць, тогды ены роўна навівацьмуцьмуцца.* Бобрыкі Петр. *Як один раз чэшацца на грэбэнэ лён, тогды зовут просто ляніца.* Азарычы Петр.

ТАГДЫ′-СЯГДЫ′ *прысл.* Тады-сяды. *Тагды-сягды ў сына бываў.* Касталомава, Моханава В.-Дзв.

ТАКАЎНЫ′Й (токоўный) *прым.* Гразкі (пра балота). *Гразкэе булота, токоўные булота, можно ходіть. Токоўнэ булото, можно по ім ходіть.* Бастынь Лун.

ТАКЕ′Е *займ.* Такое. *Чаго ты плачэш, што такее?* Тульгавічы Хойн.

ТАЛАЛУ′Й *м.* Дуркаваты чалавек. *Што вам гэты талалуй брэша? Ён жа нічога не знаіць.* Вадва В.-Дзв.

ТАЛАХА′ЦЬ (толоха′ты) *незак. асудж.* Балбатаць, малоць языком. *Пыйдэ на гуліцу і толохае езыком бэз толку.* Горск Бяроз.

ТА′МА *прыс.* Там. *Та́ма я его віділа.* Бастынь Лун.

ТА′МАКА *прысл.* Тое, што і тама. *Тамака, у прыскрынку, возьмі клубок.* Бастынь Лун.

ТАМБУ′РАК *м.* Кручок для вязання. *Купіла тамбурак, буду карункі візаць.* Касталомава В.-Дзв.

ТАМБУ′РКА (танбу′рка) *ж.* Тое, што і тамбурак. *Дай мне сваю тамбурку візаць.* Сяляўшчына Рас. *Танбуркай вяжуць канүркі.* Ваўкавічы Тал.

ТАПАРЫ′СКА (тапары′ско, топоры′ско) *н.* Тапарышча. *Тапарыска ўжэ гатова, можна сякеру насадзіць.* Паляцкішкі Вор. *Паламалосё тапарыско ў сакеры.* Міратычы Кар. *Зрабі тапарыско да сакеры.* Навасёлкі Свісл. *Топорыско сырэе, трэбо высушыты, а тогды насодыты сокэру.* Горск Бяроз.

ТАПІ′ЛА I (топі′ло) *н.* Невялікі вадаём, у якім летам вада не высыхае. *Там за городамі е топіло. Гоні коров до топіла, хай нап'юцца. Небольшое топіло, а вода летом не высыхае.* Бастынь Лун.

ТАПІ′ЛА II (топі′ло) *н.* Багна. *Топіло — дужэ страшнэ место: як станеш, так і пошов на дно. Чэго ты туда полез, там топіло суплавное, утопісса.* Бастынь Лун. *Не йдзі туды, а то тапіло засосе.* Тульгавічы Хойн.

ТАРАБА′ЙКА *ж. іран.* Балаболка. *От тарабайка, усё тарабаніць і тарабаніць сваё. Як у ее язык не забаліць.* Тульгавічы Хойн.

ТАРАБА′НІЦЬ *незак. іран.* Балбатаць. *Гэта тарабайка многа без толку тарабаніць языком.* Тульгавічы Хойн.

ТАРАДЫ′НКА (тороды′нка) *ж.* Жалезны хамуцік, які замацоўвае перадок воза. *Суголовок прыкрэпляецца тородынкамы до осэ.* Горск Бяроз. *Тарадынкі ўтрымліваюць падушку, узавалак і ось.* Вострава Маст.

ТАРАДЭ′ЙКА I *м. і ж.* Старая рэч. *Оля′, ня руш гэтого тарадэйка, а то ен муршавы, разваліцца.* Навасёлкі Свісл.

ТАРАДЭЙКА′ II *м. і ж. асудж.* Балаболка. *Што ты слухаяш гэтай тарадэйкі, у яе ш толькі і работы, што бегаць па хатах і тарадэяць.* Навасёлкі Свісл. *А кінь ты, тарадэйка, тарадэіць языком. Гэты тарадэйка толькі і лапоча языком.* Моханава В.-Дзв.



ТАРА′К *м.* Матуз, лямка. *Тараки′ пашыла, нада прышыць ік торбе, за самую чубу.* Шкураты Браг.

ТАРАНДА′С (тарында′с) *м.* Павозка з высокімі драбінамі для перавозкі сена. *Мы сена возім у тарындасі.* Вароніна Рас.

ТАРАНТА′С (тырынта′с) *м.* Тое, што і тарандас. *Запражы кыня ў тырынтас і паедзім за сенам.* Моханава В.-Дзв.

ТАРАЧЫ′ЦЬ (торочы′ті) *незак.* Многа раз гаварыць. *Я ім торочыла, торочыла, коб зробылі ўколы.* Бастынь Лун.

ТАРДЫ′НКА (тырды′нка) *ж.* Жалезны абручык, які набіваецца на калодку кола. *Сытэ тырдынка одэватэ на колодыцю.* Дзмітравічы Кам.

ТАРКАВА′НЫЙ (таркова′ный) *дзеепрым.* Дзёрты. *Клёцкі, таркованые на цёрку.* Бастынь Лун.

ТАРКАВА′ЦЬ (таркова′ті) *незак.* Драць (на тарцы). *Тарковаті булбу на тарцы.* Бастынь Лун. *Буду тарковаць картоплю на тарку.* Бобрыкі Петр.

ТА′РКАЦЬ *незак.* Крычаць (пра гусей). *Гусі таркаюць, есьці хочуць. Гусі таркаюць так: тыр-тар, тыр-тар, тыр-тар!* Моханава В.-Дзв.

ТАРО′ЛКА (тэро′лка) *ж.* Талерка. *Була даўней у нас тэролка дужэ красіва, дэрэв'яна тэролка.* Горск Бяроз.

ТАРПА′ *ж.* Прыстаронак, месца ў гумне паабапал току, дзе складваецца збожжа. *Гумно разгараджвалася на торпы. У тарпу кладуць сена, жыта, грачыху.* Ністанішкі Смарг.

ТАРПЯ′НІСКА (торпя′ніско) *н.* Тарфянішча. *Выкопалі торп, засталосё торпяніско.* Бастынь Лун.

ТАРЫНО′ЎКА *ж.* Тонкая шарсцяная галаўная хустка з махрамі. *Купіла собе хустку-тарыноўку. Тарыноўку носім толькі ў свята. У тарыноўцы красівыя цвяты.* Бобрыкі Петр.

ТАСАВА′ЦЬ *незак.* Разрыхляць зямлю ў градах. *Граблямі з жалезнымі зубамі тасуюць граткі на лук, буракі, гуркі.* Міратычы Кар.

ТАЎКА′Ч (тыўка′ч) *м.* Драўляны гузік прадаўгаватай формы. *Сынок, паглядзі, ці ўшыты тыўкач у штаны.* Якубова Рас. *Ушый таўкач у штаны.* Касталомава В.-Дзв.

ТАЎКА′ЧЫК I (тыўка′чык) *м.* Памянш. ад таўкач. *Ушый мне тыўкачык у штаны, а то мне німа чым зашпіліць штаны.* Моханава В.-Дзв.

ТАЎКА′ЧЫК II *мн.* Насеннік бярозы. *Шчэ бяроза ні перацвіла, пупяшкі е, а як перацвіце, тады будуць таўкачыкі.* Навасёлкі Свісл.

ТАЎШЧА′ЦЬ (товшча′ті) *незак.* Таўсцець. *О гэ, вона товшчае.* Азарычы Пін.

ТВАРО′ЖНІК *м.* Клінок (для вырабу сыру). *Пашыла тваражнік, трэба сыр аджаць.* Паўлавічы Клім.

ТКА′ЛЬНІЦА *ж.* Ткачыха. *Ткальніца ткала кросны.* Жахавічы Маз.

ТКА′ЛЯ *ж.* Тое, што і ткальніца. *Наша ткаля многа палатна наткала.* Старае Сяло Зэльв.

ТКА′ХА *ж.* Тое, што і ткальніца. *Добрая ткаха, выткала пяць губак палатна.* Ністанішкі Вор.

ТЛА-ТЛЯ′НА (тла-тля′но) *прысл.* Вельмі мокра, сыра. *Вэчор, роса, воздух вогкый, туман і тла-тляно.* Горск Бяроз.

ТЛЯ′НА (тля′но) *прысл.* Сыра, мокра, туманна. *На дворы росно, воздух вогкый, одэжа уся вогкая, туман і тляно у повэтры.* Горск Бяроз.

ТОК I (тэк) *м.* 1. Чарэнь. *Ток уложылі ў печы, цепер трэбо зацелешнікі поставіць, а на зацелешнікі солом'е уложыць.* Бобрыкі Петр. 2. Земляная падлога. *Раней маста не было, а быв тэк.* Бастынь Лун. 3. Цвёрдае дно (вадаёма, ракі). *Ток — твёрдая зэмня на дне ў рэчкі, возера.* Бастынь Лун.

ТОК II *м.* Тлушч. *Вускаркі паелі, а ток не хочуць есьці.* Жахавічы Маз.

ТО'ПІЛА *н.* Багна. *Я пышла і чуць не ўвалілася ў топілі.* Сяляўшчына Рас.

ТОП *ж.* Тое, што і то'піла. *У валозе нэ утопэшса, а ў топі можнэ прапасьці.* Азарычы Пін.

ТО'РБА *ж.* Клінок (для вырабу сыра). *Одтопіла кіслэ молоко, выліла ў торбу, будэ отворэг.* Бастынь Лун.

ТО'РГАЦЬ (то'ргаті) *незак.* Тузаць (аснову красён). *Кіпэткам заворыла кросна, а тэпэра трэбо іх торгаті і сушыті.* Бастынь Лун.

ТО'РНЫЙ *прым.* Біты (пра дарогу). *Шлях торный.* Бастынь Лун.

ТПРУ'СЬКА-ТПРУ'СЬКА *выкл.* Ужываецца, калі падзываюць жарабят. Заазер'е Віл.

ТПРУСЬ-ТПРУСЬ *выкл.* Ужываецца, калі падзываюць кароў. Моханава В.-Дзв.

ТРАЙНІ'ЛА (трайні'ло) *н.* Трайня, аснова воза, што злучае заднюю і пярэднюю падушкі. *Трайніла — гэта такі тоўсты брус у калёсах, які злучае пярэднюю і заднюю восі.* Альхоўка Навагр. *Трайніло.* Горск Бяроз.

ТРАЙЦЯ'КА (трэйця'ка) *ж.* Цялушка трохгадовага ўзросту. *Целіца ў мене трэйцяка, ужэ побегала.* Бобрыкі Петр.

ТРАЙЧА'К *м.* Звязаныя разам тры саламяныя снапкі для пакрыцця страхі. *З саломы вяжуць трайчаке і прывязваюць да поўзя, калі крыюць страху. Гумно крыта саломянымі трайчакамі. У трайчаку 6—7 жменяў саломы, звязаныя ўмесьці.* Вострава Маст.

ТРАМ *м.* Бэлька ў столі. *У хаці на трам палажылі столь. У хаці бувая два, тры, чатыры' траму. Ужо хату зрабілі, будам траму лажыць.* Шкураты Браг.

ТРАМЦЕ'ЦЬ *незак.* Ляскаць. *Саўсем труская дарога, аж зубу трамцяць. От дарожка, адны храпу, на калёсах нельга ехаць, зубу трамцяць.* Шкураты Браг.

ТРАНІ'ДЛА (трані'дло) *н.* Развіліна, якая злучае пярэднюю і заднюю восі калёс. *Транідло скрапляе восі, пярэднюю і заднюю падушкі воза.* Навасёлкі Свісл.

ТРАПА'К (трыпа'к) *м.* Барана-спружыноўка. *Трыпак запражы і ець трапачыць зямлю.* Даўгабор'е Рас.

ТРАПА'ЛА (трэпа'ло) *н.* Трапло. *Бэрут стрэпач у жмэню і трэпалом трэплют. Бэры трэпало і пэйдэм трэпаті лён.* Азарычы Пін.

ТРАПА'ЛЬНІЦА (трэпа'льніца) *ж.* Драўляная падстаўка для трапання лёну. *Зрабів трэпальніцу, коб було на шчо положыті жмэню лёну і трапаць.* Азарычы Пін.

ТРАПА'ЦЬ (трыпа'ць) *незак.* Мянціць. *Трыпачка трыпаць касу.* Сяляўшчына Рас.

ТРАПА'Ч I (трэпа'ч) *м.* Жменя трапанага лёну. *Атрэпаў зувязок лёну, а ў зувязку дваццаць трэпачэў.* Бастынь Лун.

ТРАПА'Ч II *м.* Тое, што і трапак. *Запражы кыня ў трыпач і ець зямлю трыпачыць.* Даўгабор'е Рас.



ТРАПА'ЧКА (трыпа'чка) *ж.* Балаболка. *Каго ты слухаіш, гэтай трапачкі! Трапачка табе нагаворыць бочку арыштантаў.* Мнюхі Міёр.

ТРА'ПАЧНІК (тра'пашнік) *м.* Анучнік. *Зьбірай там кыраўкі, трапашнік едзіць.* Ваўкавічы Тал.

ТРА'ПАЧНІЦА (тра'пашніца) *ж.* Коўдра, вытканая з рыззя. *Асновала вярхоўя, ныдрала трапак і выткала трапашніцу ныкрывацца.* Сяляўшчына Рас.

ТРАПА'ЧЫЦЬ *незак.* Баранаваць спружыноўкай. *Запражы трапач і ець зямлю трапачыць.* Даўгабор'е Рас.

ТРАПА'ШКА I (трыпа'шка) *ж.* Мянташка. *Вазьмі трыпашку і патрапі касу.* Якубова Рас.

ТРАПА'ШКА II (трыпа'шка) *ж.* Трапло. *Дзе трыпашка ляжыць? Мне нада іці лён трыпаць.* Моханава В.-Дзв. *Вазьмі трапашку і ідзі трапаць лён.* Альхоўка Навагр. *Пайду лён трапаць трапашкай.* Заазер'е Віл. *Бярыце трапашкі і ідзіце трапаць лён.* Паляцкішкі Вор.

ТРАПЕ'ЧНІК (трапе'шнік) *м.* Анучнік. *Трапешнік едзіць па дзярэўні і сыбіраіць трапкі.* Ваўкавічы Тал.

ТРАПЁШКА *ж.* Трапло. *Дзе гэта дзелася трапёшка? Нада іці лён трыпаць.* Ваўкавічы Тал.

ТРА'ПНІК *м.* Анучнік. *Трапнік прыехаў і на трапкі прадае ўсё.* Бастынь Лун.

ТРАСІ'НА *ж.* Дрыгва. *Я знаю, дзе смуродзіна, але туды не падайсці: там як станеш, то земля трасецца, і такая трасіна на балоце, што страшне.* Тульгавічы Хойн.

ТРАСЛІ'ВЫ (трослі'вы) *прым.* Дрыгвяністы, гразкі. *Гнуткое, тросьлівое, гразно болото, нэ можнэ ходыты по ём, нэ можнэ ступыты.* Горск Бяроз.

ТРАСУ'ХА *ж.* Малярыя, ліхаманка. *Міне ўсё ўрэмя трасе трасуха, цімпіратура высокая.* Булыніна Рас. *У маей дачкі трасуха, уся жоўтая, і дужа высокая цімпіратура.* Парэчча Рас.

ТРАСЦІ'НА (тросці'на) *ж.* Трысцінка (у бёрдзе). *Паломалас у берде тростіна.* Бастынь Лун.

ТРАСЦІ'ЦЬ *незак.* Рабіць новае бёрда, устаўляць у яго трасцінкі. *Пятрок добра бёрды трасьціць. Сказаў мне, што заўтра будзіць трасьціць бёрда.* Касталомава В.-Дзв.

ТРАЦЦІ'НЫ *мн.* Памінкі на трэці дзень пасля смерці. *На трэці дзень па нябошчыку атправілі трацціны.* Вадва В.-Дзв.

ТРАЦЯ'К *м. устар.* Чалавек, які меў трэццю частку надзелу. *Ат пайгрунта я меў трэццю частку зямлі, а таму і называўся трацяком.* Міратычы Кар.

ТРАЦЯ'КА (трытя'ка) *ж.* Цялушка трохгадовага ўзросту. *Мая телушка трытяка, алі ні выросла.* Бастынь Лун.

ТРО'НАЖКА (тро'ножка) *ж.* Самаробная скавародачка на ножках. *У троножцы пэчэм сало, яйцэ.* Горск Бяроз.

ТРО'НУЦЦА *зак.* Сапсавацца, растаць (пра зімовую дарогу). *Дарога тронулас, роскваль, сама роскваль, нема як ехаті ў город.* Бастынь Лун.

ТРОП *м.* След на роснай траве. *Во, хто-то прылажыв троп по росе.* Бастынь Лун.

ТРО'ПНУЦЬ *зак.* Ударыць. *Карова тропнула па даёнцы, і малако разлілося.* Моханава В.-Дзв.

12. Зак. 1598

ТРО'СТКА *ж.* Тое, што і трасціна. *У бэрдовы поломалас тростка.* Горск Бяроз.

ТРУ'БКА I (тру'пка) *ж.* Калодка (у коле). *Добрую дубовую трупку зрабій для кола.* Барыскі Лаг. *Ехаў на калёсах, дак аш па трупкі гразі па дарозі.* Мнюхі Міёр. *Пылымалася трупка ў пакаце'.* Моханава В.-Дзв.

ТРУ'БКА II *ж.* Месца ў сцябле, адкуль выплывае колас. *Жыго ўжэ ў трубках, усыпаецца.* Бобрыкі Петр.

ТРУ'БКА III *ж.* Цвёрдая частка пяра. *Вурвала пяро із крыла з м'ясам і трубкаю, а трубка тоўстая-тоўстая.* Шкураты Браг.

ТРУ'БКА IV *ж.* Дэталь калаўрота — жалезны шпень з адтулінай, праз якую праходзіць спрадзеная нітка, перш чым яна пападае на шпульку. *Кап пычаць прасьці, нада шпульку надзець на трупку, прывіньціць шпульку лютэркай і трупку удзець у мальчэк.* Суднікі В.-Дзв.

ТРУБЛА'ТЫ *прым.* Чалавек, у якого тоўсты жывот. *Пашоў Нупрэй трублаты. От трублаты, чуць ідзець.* Вадва В.-Дзв.

ТРУБЛО' *н.* Чэрава. *У каровы ачопістая трубло. Ну і трубло бальшоя ў каровы.* Сляlatоўшчына Рас.

ТРУПЕ'ХЛІНА *ж.* Парахня. *Хата мыя трупехліна, ў ёй няможна жыць, нада думаць, кап пыставіць новую.* Моханава В.-Дзв.

ТРУПЕ'ХЛЫ *прым.* Спарахнелы, гнілы. *Падаконнік у хаці трупехлы зусім, нада новы пыставіць.* Моханава В.-Дзв.

ТРУПЕ'ХНУЦЬ *незак.* Гніць. *Нада дрова палажыць пат страху, а то яны пачнуць на даждзі трупехнуць, калі будуць ліжаць тут.* Моханава В.-Дзв.

ТРУСІ'ЦЬ *незак.* Трэсці. *Чало чынілі ў кудзелю і пралі, а зрэб'е трусілі на верэцено ды ў кудзелю і пралі.* Бобрыкі Петр.

ТРУ'СКІЙ *прым.* Дрогкі. *Дужа труская дарога, аж зубу трамцяць.* Шкураты Браг.

ТРЫБЛА'ТЫЙ *прым.* Пузаты. *От кэнь трыблатый, большый бэбэх. От корова трыблата.* Бастынь Лун.

ТРЫБУХА'Ч *м. абразл.* Пузаты чалавек. *Трыбухач гэты так многа есць: што ні дай, усё з'есць.* Моханава В.-Дзв.

ТРЫ'МКАЦЬ *незак. іран.* Іграць (на музычным інструменце). *Калі ня ўмееш іграць, дак і ня трымкай.* Моханава В.-Дзв.

ТРЫСНІ'К *м.* Трыснёг. *Трысьнік жнём, сушым і зімой даем карові.* Сляўшчына Рас.

ТРЫСЦЕ'НАК *м.* Трысцень. *Я да сваей хаты прыбудоўваць буду трысьценак, а то хата мылая, а сім'я быльшая.* Моханава В.-Дзв.

ТРЫСЦІ'ЦЬ *незак.* Злучаць дзве ніткі разам і навіваць на клубок. *Пазыч мне юрка, буду трысьціць ніткі на клубок і сучыць.* Мнюхі Міёр. *Трысціла адну суконную нітку, а другую зрэбную, буду сучыць і візаць панчохі.* Моханава В.-Дзв.

ТРЭ'БА *ж.* Ляда (месца, дзе высечаны лес). *Вырубалі лес, а трэбу погоралі, шчо б не було пожару.* Горск Бяроз.

ТРЭ'ПАЧКА *ж.* Трапло. *Трапаў трэпачкою лён, і много адышло валу, полез лён.* Горск Бяроз.

ТРЭ'ПЫ *мн.* Басаножкі. *Купіла собэ трэпы. Летом добрэ будэ носыты.* Горск Бяроз.

ТРЭ'СЦІ *незак.* Раскідваць (гной). *Трэба іці гной трэсьці.* Моханава В.-Дзв.



ТРЭ'ТАР *м.* 1. Трэск. *Пярун як даў у ліпку, дак йіна пувалілася, аж трэтар пашоў.* Касталомава В.-Дзв. 2. Шум, гвалт, піск. *Сьвінні крухаюць, пішчаць, аш трэтар ідзець.* Сляўшчына Рас.

ТУ'БЕЛЬ *м.* Від гэбля. *Тубелям дзелаюць філінговыя дзвера.* Навасёлкі Свісл.

ТУ'ДАКА *прысл.* Тут. *Оля', алёс, што ніяк ні пралесьці, а тудака е і шчырыя грыбы.* Навасёлкі Свісл.

ТУ'ЗАЦЬ *незак.* Выпроставаць мокрую аснову пасля апрацоўкі лугам. *Памажы мне аснову тузаць.* Моханава В.-Дзв.

ТУК *м.* Растоплены тлушч. *Тук вуцек, осталіса вускоркі.* Бобрыкі Петр. *Так тук зовэм сало, а колі захолоданый, то зовём жыр.* Бастынь Лун.

ТУ'ЛІКА *ж.* Дэталь калаўрота, кавалачак скуры з адтулінай, у якую ўстаўляюць жалезны шпянёк з адтулінай, праз якую праходзіць спрадзеная нітка, перш чым яна пападае на шпульку. *Адрэж кусок шкурата, зрабі туліку, а туліку прыкрапі да мальчэка.* Петрыкава Гом.

ТУЛЬ *м.* Цюль. *Купілі туль маладусі.* Моханава В.-Дзв. *От у молодэе хорошый туль.* Бобрыкі Петр.

ТУМА'К *м.* Моцны ўдар. *Надавай ему тумакоў і хаў ідзе дадому.* Тульгавічы Хойн. *Вот я яму ныдывала тумакоў па сьпіне, што доўга будзіць помніць, як у яблакі лазіць.* Моханава В.-Дзв.

ТУМА'НІЦЦА *незак.* Угаворваць. *Мы цэлы дзень туманіліся, кап яна са сваім мужыком жыла добра.* Навасёлкі Свісл.

ТУ'ПКІ *прым.* Біты (пра дарогу). *Тупкая дарога, добра ехаць.* Моханава В.-Дзв.

ТУРАВА'ННЕ (турыва'нне) *н.* Падганянне, панукание. *Пакінь ты сваё турыванне, я і сыма знаю, што мне нада пасьпяшыць, скарэй сыбірацца.* Моханава В.-Дзв.

ТУРАВІ'ЦЦА *незак.* Спяшацца. *Нада мне туравіцца іці сена грабіць, а то туча находзіць.* Сляўшчына Рас. *Йіна туравіцца скарэй кросны выткаць.* Моханава В.-Дзв.

ТУРАВІ'ЦЬ *незак.* Падганяць, панукаць. *Што ты яго туравіш, ён і так быстра робіць. Ні нада яго туравіць.* Вароніна Рас.

ТУ'РЗАЦЬ (ту'рзаті) *незак.* Расцягваць кужаль на валокны. *Трэба лён турзаті і скрутіті кудэлю.* Азарычы Пін.

ТУРЧА'ЦЬ *незак.* Цвыркаць. *За печчу турчок турчыць.* Ністанішкі Смарг.

ТУРЧО'К *м.* Цвыркун. *Турчок усю ноч турчыць.* Ністанішкі Смарг.

ТУ'ТА *прысл.* Тут. *Тута немнога постаімо.* Бастынь Лун.

ТУ'ТАКАВА *прысл.* Тое, што і тута. *Тутакава была пуня.* Навасёлкі Свісл.

ТУ'ТАЦКІ *прысл.* Тое, што і тута. *Тутацкі ёсць два канцы.* Ваўкавічы Тал.

ТУ'ТАЧКА *прысл.* Тое, што і тута. *Тутачка мне не до его тэпэр. Тутачка лежав топор, а дэ вон тэпэр.* Бастынь Лун.

ТУ'ЧНЫ *прым.* Тлусты. *У гэтым року сало добрэ, тучнэ сало, многэ жыру.* Бастынь Лун.

ТУ'ШАНКА *ж.* Тушаная бульба з мясам. *Там ішчэ асталасе лупленa картопля, дак пастаў тушанку на абед.* Тульгавічы Хойн.

ТУШО'НІКІ *мн.* Тое, што і тушанка. *Начысьціла картоплі, налажыла мяса, запрагла салом і будуць тушонікі.* Жахавічы Маз.

ТЫНО'Қ *м.* Агарожа з тонкіх яловых кійкоў, якія пераплятаюцца між жэрдак. *Садок абгарадзій тынком, кап куры ні прылазілі.* Қасталомава В.-Дзв.

ТЫ'ПЕЦ (тыпэ'ц) *м.* Сівец. *Коса тыпцю ныяк ны бырэ.* Сімановічы Драг.

ТЫСЁНЧНІҚ *м.* Цвінтарэй. *Тысёнчнік — доброе зеля, яго п'юць, калі баліць сэрца.* Навасёлкі Свісл.

ТЫ'ЦАЦЬ (ты'цаті) *незак.* Шукаць. *Тыцала, тыцала запалкав, дай нэ нашла.* Азарычы Пін.

ТЫЧКУ'ХА *ж.* Гатунак фасолі. *Я ў етум годзе насадзіла багато тычкухі, дак трэбо будзе багато тычак на ее.* Тульгавічы Хойн.

ТЫЧЫ'НКА *ж.* Жэрдка, падвешаная ўверсе перад печчу. *Павесь на тычынку ганавіцы. Павесьце на тычынку андарака.* Навасёлкі Свісл.

ТЭ'БЕЛЬ (тэбэль) *м.* Драўляны калочак. *Пракрутыв у дэрэвынэ дырку, коб зогнаты ў дырку тэбля: тэбэль, коб моцно було стэна.* Горск. Бяроз.

ТЭ *займ.* Тое (у знач. наз). *Мне жоночына кагала тэ і тэ про ее.* Бастынь Лун.

ТЭ'НЧА *ж.* Радуга. *Паглядзіце, якая красівая тэнча на небі пасьля навальніцы.* Ністанішкі Смарг. *Дошч прайшоў, і на небі паказаласа тэнча.* Навасёлкі Свісл. *Тэнча пасьля дажджу прас усё неба лягла.* Паляцкішкі Вор.

# У

УБІРА'ЦЦА *незак.* Збірацца. *То яна куды ўбіраецца: то ў Гомель пайду ўбірацца, то пайду ўбірацца ў Брагін. Усё ўбіраецца і сядзіць дома.* Шкураты Браг.

УБОІНА *м. і ж.* Гультай. *У Альжбеты сын такі ўжо ўбоіна, што з рук вон. Нічога не робіць.* Моханава В.-Дзв.

УВАБРА'ЦЦА *зак.* Звесці ўсё збожжа з поля ў гумно. *Хоць бы ўвабрацца на полі. А я ўжо ўвабраўся. У мяне засталася толькі бульба на полі, а так усё зьвёс у гумно.* Мнюхі Міёр.

УВАБРА'ЦЬ *зак.* Тое, што і ўвабрацца. *Я сваё сена ўвыбраў і злажыў у пуню.* Моханава В.-Дзв.

УВЁРТАҚ *м.* Скручаная яловая лапка для прымацавання аглоблі да капыла (у санях). *Да пярэдніх капылоў прыкручываюцца ўвёрткі з яловых вітык і прывязываюць аглобні.* Якубова Рас. *Пырваўся увёртак ў сынях, і аглобля выскачыла.* Сяляўшчына Рас.

УВІ'ТКА *ж.* Кручаны дубец для прывязвання лат на страсе. *Нарэзаў лазовых дубцоў. Нарабіў увітак, буду лаціць страху.* Сяляўшчына Рас.

УВО'ДЗІЦЬ *незак.* *Укідаць* (пра ніткі). *Трэба ніткі асновы ў нічальніцы ўводзіць.* Паляцкішкі Вор.

УВО'Й *м.* Ніткі, з дапамогай якіх замацоўваюцца трысцінкі ў бёрдзе. *Зрабій бёрда, засмалій увой, кап крапчэй было.* Плігаўкі В.-Дзв.

УВЫ'ШКА *ж.* Звычка. *Ты пакінь гэту сваю ўвышку.* Навасёлкі Свісл.

УГА'РЫНА *ж.* Прывязка для прымацоўвання біча да цапільна. *Дай угарыну, нада прывізаць абічэйку да цапавільна.* Якубова Рас.



УГАСІ'ЦЦА *зак.* Замарыцца. *Пасьвілі карову, дак унучка ўгасілася, лежачы каля карову.* Шкураты Браг.

УГО'РНІЦЦА *зак.* Пакрыўдзіцца. *От дзіця ўгорнілосо, моцно плачэ.* Жахавічы Маз.

УГУ' *часц.* Так, ага. *Угу, зоўтрэ зроблю.* Горск Бяроз.

УДАБРА'ЦЬ (удыбра'ць) *незак.* Угнойваць. *Я свой агарот добра ўдыбраю, гною хыпаіць.* Моханава В.-Дзв.

УДЗЮ'ЖЫЦЦА *зак.* Памачыцца ў пасцель. *Дзіця ўдзюжылася, аж вушы мокрыя.* Шкураты Браг.

УДО'ГАН (удо'гын) *прысл.* Наўздагон. *Бегчы за ім удогын.* Бастынь Лун.

УДО'ЛАШЧАЦЬ (удо'лошчаць) *незак.* Паўтараць адно і тое. *От пупало одно слово на езык, дай удолошчэ і говорыць одно і тое двацацць раз.* Бобрыкі Петр.

УДО'РЫНА *ж.* Лішак асновы ў шырыну пры накіданні ў ніты і бёрда, які астаўся і ідзе назад. *Снывала, снывала кросны і многа ныснывала, а цяпер ідзецць удорына назат.* Сяляўшчына Рас.

УДО'ЎЖВАЦЬ *незак.* Выпростваць (пра ногі). *Пачала сваe ногі ўдоўжваць.* Бобрыкі Петр.

УЖО'ЎКА (ужо'вка) *ж.* Прывязка для прымацоўвання біча да цапільна. *Вэльмэ вуская ужовка, біяк ны удэржэ.* Дзмітравічы Қам.

У'ЖЫҚ *м.* Тое, што ужоўка. *Ужыкам прывязаў біч да цапільня.* Вострава Маст.

У'ЗАЛАВАҚ *м.* Брус у калёсах, які служыць асновай для драбін і абапіраецца на вось. *Узалавак з ручкамі ляжыць на восі.* Вострава Маст.

УЗВА'ЛАҚ *м.* Месца каля гумна. *Месца кыля пуні мы завём узвалак. Ны узвалку трыва не расьцець.* Сяляўшчына Рас.

УЗГАЛАВА'Ш (узгэлэва'ш) *м.* Тое, што і узалавак. *У калёсах ёсь узгэлэваш уперадзі і ззадзі.* Стайкі Барыс.

УЗГЛЯ'ДЗІНЫ *толькі мн.* Агледзіны. *Раней жаніх прыіжджаў на ўзглядзіны, а тады і сватаў дзеўку.* Сяляўшчына Рас.

У'ЗДЗЕР (у'здэр) *м.* Частка снапа ад перавясла да зрэзу. *Стаў снопы ўздэрамы ўныз, а колоссямы ўвэрх.* Горск Бяроз.

УЗДУ'ХВІНА *ж.* Бакавая ўпадзіна між рабром і клубам у жывёл. *Корова не пад'ела, аж уздухвіны ўпалі. Вуцеў корову по ўздухвіне.* Бобрыкі Петр.

УЗНЁТАҚ *м.* Ступня. *Болiт нога в узнётку. Узнётак, гэ, опух, нэ могу ступіті.* Азарычы Пін.

УЗРЭ'Х *м.* Агрэх. *Як жа ты арай, што ўзрэхі пакідаў?* Барыскі Лаг. *Кепска арай, многа ўзрэхаў пакінуў.* Сімакава Қар.

УЗЯ'ТКА *ж.* Ношка мёду. *Пчолка, калі летіт за мэдом, ена бэрэ узятку.* Бастынь Лун.

УҚАСНУ'ЦЦА *зак.* Умяшацца. *Яны жылі добра, дак матка ўкаснулася, і дашло да таго, што ён яе кінуў.* Моханава В.-Дзв.

УҚЛА'СЦІ (укла'сьці) *зак.* Моцна набіць. *Вот я добра ўклаў яму, будзіць помніць.* Моханава В.-Дзв. *Нада было гэтаму ліхачу яшчэ болей укласьці, кап ён па чужых агародах ні лазіў.* Сяляўшчына Рас.

УКЛЕ'ІЦЬ *зак.* Тое, што і ўкласці. *Ён шукаіць гуркоў, а я ціханька падышоў і цап за кулёк, і так яму уклеіў.* Воранава Рас.

УКРО'П (укрэ'п) *м.* Вар. *Вода кіпіт ключом, укрэп, можно опарыцца.* Бастынь Лун.

УКРУНУ'ЦЬ (укруну'ты) *зак.* Адламаць. *Положыла бохан хлеба, дак вона ўкрунула ёго. Трэбо ж було ўкрунуты.* Горск Бяроз.

УКРУТНЯ' *ж.* Вяровачная ці скручаная з лазы пятля, пры дапамозе якой прымацоўваецца аглобля да капыла. *Парвалася ўкрутня ў санёх, і аглобля вырвалася.* Ністанішкі Смарг.

УКРЭ'НІСТЫ *прым.* Смалісты. *Зрэзаў сасну ўкрэністую, і драць лучыну ні гадзіцца.* Якубова Рас.

УЛАЖЫ'ЦЬ (уложы'ць) *зак.* 1. Уставіць. *Прорэзоў у клепчанцы заторы, коб уложыць дно.* Бобрыкі Петр. 2. Уцягнуць. *Улажыць нітку ў іголку.* Ваўкавічы Тал. 3. Зрабіць прычоску. *Нада ўлажыць мне воласы.* Сяляўшчына Рас.

УЛА'Н *м.* Валан. *Пашыла спадніцу с уланам. Улан прышываюць шырокі, са зборкамі.* Ваўкавічы Тал.

УЛУ'ТКА *ж.* Вушак. *У вокнах і дзвярах паставіў улуткі, а на ўлуткі палажыў нагаловіча. Загнілі ўлуткі ў вокнах і дзвярах, трэба новыя падладзіць.* Шкураты Браг.

УЛЯ'К *м.* Спалох. *Дзіця захварэло с іспугу, трэбо ўлякшы отдаць, баба шэпчэ ўляк.* Бастынь Лун.

УЛЯ'КША *ж.* Шаптуха. Бастынь Лун.

УЛЯПІ'ЦЬ *зак. экспр.* Заплаціць. *Аш сто рублёў уляпіла за пацьвінка.* Вадва В.-Дзв.

УМНО' *н.* Гумно. *Ідзі, там у умне вазьмі касу.* Паляцкішкі Вор.

УНА'ДЗІЦЬ *зак.* Урадзіць. *От ета лета не ўнадзіла проса, адны толькі замарашы.* Шкураты Браг.

УНЕ'Т *прысл.* Датла. *Було мокрае лета, і бульба згніла ўнет.* Моханава В.-Дзв.

УНЬ *часц.* Вунь. *Унь на вугану богато росьце кашоўніку.* Бобрыкі Петр.

УПЕРАГО'НКІ *прысл.* Навыперадкі. *Дывай пабяжым уперагонкі, хто каго абгоніць.* Моханава В.-Дзв.

УПЛЁТКА *ж.* Істужка для касы. *Возьмі ўплётку і запляці касу.* Ваўкавічы Тал.

УПЛІХНУ'ЦЬ *зак.* Уліць. *Уплíхні мне лянухі ў паўмісак.* Моханава В.-Дзв.

УПО'Р *м.* Упарты чалавек. *Это упор, его ныкуды нэ пошлеш.* Горск Бяроз.

УПО'РАЦЦА *зак.* Ухадзіцца. *Я ўжэ ўпоралася, пагадавала парасят, вітапіла печ, памула варэйкі.* Шкураты Браг.

УПО'РВАЦЦА *незак.* Уходжвацца. *Пайду ўпорвацца: тапіць печ, вутачак вупусьціць, цыплята пагадаваць.* Шкураты Браг.

УПО'РЫНА *м. і ж.* Неслух. *Дзе ты відзіла, кап гэта ўпорына паслухала каго.* Касталомава В.-Дзв.

УПУСЦІ'ЦЬ (упусці'ті) *зак.* Усыпаць (пер'е ў насыпку). *Трэбо мне упустіті у наволочку пэр'е.* Бастынь Лун.

УПЯРЭ'ЧКА (уперэ'чка) *ж.* 1. Папярочная планка для замацавання ножак стала. *Шашук чысто поеў уперэчкі ў столе.* Бобрыкі Петр. *Зламаласа ўперэчка ў сталe.* Жахавічы Маз. *Ножкі ў сталe пакрасіла, а ўперэчкі не ўспела. Пастаў ногі на ўперэчку.* Тульгавічы Хойн. *Паламалася ў вуслоне ўпярэчка.* Шкураты Браг. 2. Ліштва (у лаве, ва ўслоне і да т. п.), у якую ўбіваюцца ножкі. *Ўпусьці ў вуслон ўпярэчку.* Шкураты Браг.



УРЭ'ЗКІ *толькі мн.* Адрэзаныя пасля ткання канцы асновы. *Выткала кросна і ўрэзкі одрэзала.* Бастынь Лун.

УРЭ'Х *м.* Агрэх. *А колькі ты там урэхаў пакідаў?* Навасёлкі Свісл.

УСА'К *м.* Гусак. *Усака зарэзала, а уску пакінула.* Паляцкішкі Вор.

У'СКА *ж.* Гуска. *Мая уска пачала несьціся.* Паляцкішкі Вор.

УСКІ'НУЦЬ *зак.* Надзець. *Дачушка, уськінь новую сукенку, а гэту cькінь.* Моханава В.-Дзв.

УСКРУЦІ'ЦЦА *зак. іран.* Устаць вельмі рана. *Чаго ты так рана ўскруцілася, яшчэ пітухі ні піялі.* Моханава В.-Дзв.

УСМЫКА'ЦЬ (усмыка'ті, усмыка'ты) *незак.* Укідаць аснову ў ніты. *У кобылку ўсмыкаецца нітка асновы. Ніткі ўсмыкают у бэрдо.* Азарычы Пін. *Навіла кросна, а тэпэр буду ўсмыкаты ніткі ў ніт.* Бастынь Лун. *Пойду ўсмыкаты ў ніты.* Горск Бяроз.

УСМЫ'ЧЫЦЬ (усмы'чыті) *зак.* Уцягнуць. *Усмыч мне нітку ў голку.* Бастынь Лун.

У'СЦЕ (у'стье) *н.* Чалеснікі. *Заніскэ зробів устье у печы.* Бастынь Лун.

УСЦЕ'ЛЬКА *ж.* Вусцілка. *У боты палажыў добрую ўсьцельку.* Моханава В.-Дзв.

УСЦІ'ЛКА (усті'лка) *ж.* Тое, што і ўсцелька. *Купіў на чобаты устілку.* Бастынь Лун.

УСЫПА'ЦЦА *незак.* Каласавацца (пра жыта). *Жыто ужэ у трубках, усыпаецца.* Бобрыкі Петр.

УСЬ *выкл.* Ужываецца, калі адганяюць свінней. Стары Свержань Стаўбц.

УСЮ'К *м.* Гусяня. *Усюк выклюнаўся з яйца маленячкі.* Паляцкішкі Вор.

УТО'РА *ж.* Кароткая папярочная баразна. *Доўгія барозны бульбы паганяў, а уторы абкапаю лопаткой.* Бастынь Лун.

УТРО'БЫ (утро'бу) *толькі мн.* Вантробы. *Зарэзаў сьвінню, усю ўтробу вуняў.* Шкураты Браг.

УХО'ДНЯ *ж.* Догляд за гаспадаркай. *Вот яна мне, гэта ўходня, надаела.* Міратычы Кар.

УЦАГЛЯНЕ'ЦЬ *зак.* Зрабіцца цвёрдым. *Зямля ўцаглянела, нішто ні расьце.* Шкураты Браг.

УЦВЕ'ЛІЦЬ *зак.* Уцвяліць. *От уцвеліла чалавека суседка.* Жахавічы Маз.

УЦЕРУСІ'ЦЬ (утэрусі'ті) *зак.* Укінуць. *Мо ўтэрусіла іскру, і загарэлосо гумно.* Азарычы Пін.

УЦЁР *м.* Утора. *В уцёр упускают дно.* Дзмітравічы Кам.

УЦІ'НАК (уті'нок) *м.* Калода, адрэзаная ад камля. *Спілаваў дэрэвіну і адрэзаў ад камля утінок.* Бастынь Лун.

УЧАЛЬНІ'К *м.* Вучань. *Учальнікі ідуць із школы.* Жахавічы Маз.

УЧАЛЬНІ'ЦА *ж.* Вучаніца. *Моя ўчальніца добра вучыцца.* Жахавічы Маз.

УЧВА'ЛА *прысл.* Галопам. *Кэнь бэжыт учвала — гэто галопам.* Бастынь Лун.

УЧАЎРЭ'ЦЬ *зак.* Засохнуць. *Грушку пасадзіла, а грушка ўчаўрэла.* Моханава В.-Дзв.

УЧЫ'ПА *ж.* Шнурок, якім перавязваюць пасмы асновы ў чынах (матуз, шнурок). *Я пасмы пірывізала ўчыпай. Пасмы палічыла і выцігнула учыпу.* Касталомава В.-Дзв.

УШВА'РАҚ *м.* Кавалак палена. *Харощая палена, харошы і ўшварак. На што-небудзь адразаюць палена, а кусок астаецца, вось ета і е ўшварак.* Шкураты Браг.

УШПІЛІ'ЦЬ *незак.* Сцебануць. *Я каню так ушпіліў дрытыванкай, што ён ныўскачкі паляцеў.* Моханава В.-Дзв.

УШУ'ЛА *ж.* Шула (у варотах). *Бягун прыкрапляецца ік ушулі. У варотах згніла ўшула.* Шкураты Браг.

УЮ'ШКА *ж.* Юшка. *Закладзі комін уюшкай, а то гром грыміць.* Моханава В.-Дзв.

## Ф

ФА'ЙНА (фа'йно) *прысл.* Прыгожа, хораша. *На табе сукенка ляжыць файна.* Моханава В.-Дзв.

ФА'ЙНЫ *прым.* Прыгожы. *Ён маліц файны.* Сяляўшчына Рас.

ФАРТО'Н *м.* Франтон. *У канцы хаты зыбіваюць фартон.* Варонiна Рас.

ФУТРЫ'НА *ж.* Шуфляда акна. *Уставіў футрыну, буду ў футрыну уставляты раму окна.* Горск Бяроз.

## Х

ХАБО'ТНЯ *ж.* Рыбалоўная снасць у выглядзе конусападобнай пляцёнкі з тонкіх лазовых пруткоў, якую ставяць на рэчцы ў неглыбокіх месцах. *Учора вечарам, як цёмна стала, пашлі чужыі хаботні трасьці. Хабоцінь пяць вытраслі. Хаботні дзелаім з лазы. Хаботні ставім на рэцці нанач.* Моханава В.-Дзв.

ХАВУ'ТНАЕ (хову'тное) *н.* Сухастой. *Сухопостой, то мы зовэм ховутное, вонэ нэгодзяшчэ на хату.* Бастынь Лун.

ХАДЖА'ІН (ходжа'ін) *м.* Гаспадар. *Ходжаін вілкамі накідае гный на вэз.* Бастынь Лун.

ХАДЖА'ЙКА (ходжа'йка) *ж.* Гаспадыня. *Ходжайка гный рострасае.* Бастынь Лун.

ХАДУ'ЛЬҚА *ж.* Прыстасаванне, у якім дзеці вучацца хадзіць. *Пастаў дзіця ў хадульку, хай трохі пабегае.* Тульгавічы Хойн.

ХАДУ'Н *м.* Тое, што і хадулька. *Зрабіў хадун, кап дзіця вучылася хадзіць.* Моханва В.-Дзв.

ХАДУ'ШКА *ж.* Тое, што і хадулька. *Дзіцё пачынаіць хадзіць, нада зьдзелаць хадушку, хай у хадушцы вучыцца хадзіць.* Сяляўшчына Рас.

ХАЙЛУ'ПҚА *ж.* Халупа. *У міне була хайлупка маленька.* Бастынь Лун.

ХАЛА'Н (хола'н) *м.* Қапрыз. *От, колы до ёго холан прыдэ, тоды ныц нэ зробыш, покы вон нэ пройдэ сам. Ты нэ холоныс, а то тётка напысала про твое холаны.* Горск Бяроз.

ХАЛАНІ'СТЫЙ (холоны'стый) *прым.* Қапрызны. *Ох, вон і холоныстый, шчо хочэ, то і робіт.* Горск Бяроз.



ХАЛАНІ'ЦЦА (холоны'цца) *незак.* Қапрызіць. *Вон як ужэ почнэ холоныцца, то тоды трэбо браты пасок і быты.* Горск Бяроз.

ХАЛАСТЫ' *прым.* Толькі з круп (суп). *Крупеню зварыла сённі халастую. Гэта суп, які мы варым толькі с круп.* Якубова Рас.

ХАЛДУБА'ІНА (холдуба'іна) *ж.* Нізкае балоцістае месца. *У холдубаіні ростэ мнэго змэй.* Бастынь Лун.

ХА'ЛЕПА *ж.* Снег з дажджом. *Надзень чуйку на кажух, а то на дварэ халепа, і намокне кажух.* Шкураты Браг.

ХАЛІВА'РАҚ *м.* Фальварак. *Там быў такі холіварак, дзе жыў пан.* Ваўкавічы Тал.

ХАЛЭ'МУС *м.* Қанец, смерць. *Сеў гэта я на вос, а вос перавярнуўся, і чуць мне ня быў халэмус.* Моханава В.-Дзв.

ХАМУ'Т І (хому'т) *м.* Қалодачка з дзіркай на верхнім камені жорнаў, у якую ўстаўляецца ніжні канец млёна. *У жорнах у верхнім камяні ё хамут, куды ўстаўляюць ручку.* Барыскі Лаг.

ХАМУ'Т ІІ (хому'т) *м.* Падстаўка пад ніжнім каменем жорнаў. *Хомут зробів, а тэпэр буду укрэпляті ніжні камэнь у жорнах.* Бастынь Лун.

ХАМУТО'Қ *м.* Прывязка для прымацоўвання біча да цапільна. *Хамутком прывяжы біч да цапільна.* Лешня Қап.

ХАНБУЗАВА'ЦЬ (ханбузова'ті) *незак.* Перабіраць, капрызіць. *Пэрэстань ханбузоваті, а еш.* Бастынь Лун.

ХАНУВА'ЦЬ (хэнува'ті) *незак.* Шанцаваць. *Ему хэнуе ў жытні.* Бастынь Лун.

ХА'ПКІЙ прым. Прагны. *Ён дужэ хапкій на грошы.* Бастынь Лун.

ХАРАШМА'НЫЙ (хорошма'ный) *прым.* Прыгожы. *У ее дужэ хорошманый сын.* Горск Бяроз.

ХАРМУ'ШКА *ж.* Цура. *Так захацеласё есьці, трэбо зрабіць хармушку і паесьці. Пасаліла ваду, накрышыла цыбулі, уліла поснага масла. накрышыла хлеба — вот і зрабіла хармушку.* Міратычы Қар.

ХАРО'М (хоро'м) *м.* Страха. *От прыгрэло сонца, і з хорому вода цечэ быстро.* Бобрыкі Петр.

ХА'ТНІЦА *ж.* Гультайка. *Хатніца ты, ходзіш толькі па чужых хатах і нічога не робіш.* Сяляўшчына Рас.

ХА'ХВІНА *ж.* Гу'ба. *Хахвіна росте на бэрозі, гэта такі жоўты грыб. Раней выраблялі з его губку і высікалі огонь.* Бастынь Лун.

ХВА'ЛДА *ж.* Складка, фалда. *Пашыла сабе спадніцу ў хвалды.* Ваўкавічы Рас.

ХВАЛЕ'ҚА *м. і ж.* Хвалько. *Ена ш хвалека, любіць хваліцца.* Шкураты Браг.

ХВАЛЁГА (хвалёго) *м. і ж.* Тое, што і хвалека. *Гэто хвалёго. Вон ныц нэ зробыт, толькы хваліцца, што зробыт.* Горск Бяроз.

ХВАЛІСЦЕ'Й *м.* Тое, што і хвалека. *Ну і хваліСцей жа, хвалісцей, усё хваліцца, што ён болей за ўсіх робіць.* Бобрыкі Петр.

ХВАЛІСЦЯВА'ЦЦА (хвалісьцева'цца) *незак.* Хваліцца. *Ну і Мікіта, учора хвалісьцеваўся, што богато ў его грошы, а сегодне просіць позычыць.* Бобрыкі Петр.

ХВАЛЮ'Н *м.* Тое, што і хвалека. *Ой і хвалюн жэ, хвалюн вон у'тэбэ.* Горск Бяроз.

ХВАРАСТАВА'ЦЬ (хвырыстыва'ць) *незак.* Абіваць жыта. *Пайду хвырыстываць жыта на насеньня.* Якубова Рас.

ХВАРО'СЦІНА (хваро'сьціна) *ж.* Дубец. *Оля', азьму хварось-ціну і дам добра.* Навасёлкі Свісл.

ХВА'СТАВАЦЦА *незак.* Тое, што і хваліцяваца. *Ён, гэты хвастун, толькі хваставацца любіць.* Шкураты Браг.

ХВАСТАВІ'К *м.* Прыстасаванне для вывазкі доўгага бярвення. *Сьнімі пынэрат, паеду у лес бройны вазіць на хваставіку.* Стайкі Барыс.

ХВАСТАВО'Е *н.* Барыш. *Купіў кыня, заплаціў хваставое. Купіла карову, дывай мне хваставога. Прыдалі лён, дывайце хваставога.* Моханава В.-Дзв.

ХВАСТА'ЦЦА (хвыста'цца) *незак.* Парыцца венікам у лазні. *У ёйні мыліся і на цыпка'х хвысталіся венікам.* Ваўкавічы Тал.

ХВА'СТАЦЦА *незак.* Тое, што і хваліцяваца. *Бувала, ўсё хвастаўсі сваім багаццям.* Касталомава В.-Дзв.

ХВАСТА'ЦЬ *незак. іран.* Есці. *От з мыскі хвошчут копусту.* Бастынь Лун.

ХВАСТУ'Н *м.* Хвалько. *Хвастун ён бальшы, толькі і знае хваставацца, гэта ён умея.* Шкураты Браг.

ХВАТА'Н (хвота'н) *м.* Маладзец, зух. *Старые згорбюцца, а молодые — хвотаны, прамо ходзяць.* Бобрыкі Петр.

ХВАШЧА'НКА (хвошча'нка) *ж.* Пучок травы або звычайнага ляснога хвашчу, якім мыюць пасуду. *Зьвяжы хвошчанку, а то нема чым посуду пошароваць.* Бобрыкі Петр. *Звэзала хвошчанку стэл мыті.* Бастынь Лун.

ХВАШЫ'НА *ж.* Падсцілка з галля пад стог. *Хвашына кладзецца пат стох. Трэба хвашыны прывесьці стага рабіць.* Навасёлкі Свісл.

ХВО'СТ (хвэ'ст) *м.* Корань (расліны). *Вэрхня часть бурака, а у зэмнэ хвост бурака.* Горск Бяроз. *Надо обрэзаті хвосты ў бурака. Які доўгі хвэст у бурака.* Азарычы Пін.

ХІБ І (хіп) *м.* Касмык травы, пакінуты пры касьбе. *Як ты касіў, што шмат хібаў пакінуў на пожні. А во які хіп травы стаіць.* Сімакава Кар.

ХІБ ІІ (хыб) *м.* Дзве збітыя дошкі, якія кладуць на стык страхі. *Збыв з досок хыба і положыв на крышу.* Горск Бяроз.

ХІ'БАВЫ *прым.* Хрыбетны. *Хібавое сала тоўстая.* Шкураты Браг.

ХІ'ЖА *ж.* Падпаветка. *Здзелаў таку-сяку хіжу і паставіў у хіжу калёсы.* Жахавічы Маз.

ХІ'НДЗЯ *ж.* Малярыя. *Яна мучаіцца, у яе ж хіндзя, хіндзя яе трасе і трасе.* Шкураты Браг.

ХЛАБЫСТА'ЦЦА (хлыбыста'цца) *незак.* Шлёпацца. *Хлыбышчуцца чаравікі, купіла вялікія.* Сяляўшчына Рас.

ХЛЕБАПА'ХАР *м.* Араты. *Чалавек, які арэ, завем хлебапахар.* Жахавічы Маз.

ХЛОП *м.* Клоп. *Хлапоў у нас многа було, а цяпер няма.* Паляцкішкі Вор.

ХЛУДЗЕ'Ц *м.* Драўляны ці жалезны пруток у чаўнаку, на які насаджваюць цэўку. *Надзень цэўку на хлудзец і ўкладзі ў чаўнок.* Плігаўкі В.-Дзв.

ХЛЮ'БА *ж.* Галінка лазы, бярозы. *Я возьму хлюбу і дам тобэ. Вын узяв хлюбу і став бытэ сына.* Дзмітравічы Кам.

ХЛЮ'НДРА *ж.* Неахайная жанчына. *Хлюндра, хоць бы ты перадзела сваю сукенку і памыла яе.* Касталомава В.-Дзв.



ХЛЯ'БА І *ж.* Снег з дажджом. *На двары хляба, ідзець сьнех і дошч, сядзі дома.* Вадва В.-Дзв.

ХЛЯ'БА ІІ *ж.* Бакавая ўпадзіна паміж апошнім рабром і клубам. *Мала паела карова. Хлябы ўпалыя.* Бобрыкі Петр. *Упадэна — хляба у коровы, нэ наелас.* Горск Бяроз.

ХЛЯБА'ЦЬ (хлюба'ць) *незак.* Есці. *Сьцяпан сеў за стол і пачаў хлюбаць ляпуху.* Вадва В.-Дзв.

ХЛЯ'БІНА *ж.* Тое, што і хляба ІІ. *Моя корова не поела, іде, і хлябіна большая.* Бастынь Лун.

ХЛЯ'ПА *ж.* Тое, што і хляба І. *На дворэ такая хляпа.* Бастынь Лун.

ХЛЯ'ПНУЦЬ *зак.* Стукнуць. *Ён са злосьці хляпнуў дзьвер'ю і пашоў.* Касталомава В.-Дзв.

ХЛЯСТА'ЦЬ (хлыста'ты) *незак. іран.* Есці. *А той мужычышчэ галез на пэчышчэ, дала квасу ш чэрэпком — помоленьку свышчэ, хлышчэ.* Горск Бяроз.

ХМУЛА'ТЫЙ *прым.* Некультурны. *Ён чэловек хмулатый, пройшоў і не сказаў здраствуй.* Бобрыкі Петр.

ХМЫ'ЗНІК *м.* Хмызняк. *Хмызнік які густы, ні прайсьці.* Ністанішкі Смарг.

ХО'НДЗЯ *ж.* Малярыя. *У его хондзя, бо дужэ трасе, голова дужэ горачая.* Бобрыкі Петр.

ХО'ЎРА *ж.* Тое, што хлюндра. *У яе дычка тыкая хоўра, як ўіна адзіваецца, усё на ёй грязная.* Моханава В.-Дзв.

ХРАК *м.* Кныр. *Было хракоў пяць, чатыры зьліхчалі, а аднаго храка пакінулі.* Барыскі Лаг. *Сьвіня пыднілася на хрыка.* Даўгабор'е Рас. *Трэба ляхчаць храка.* Жахавічы Маз.

ХРА'ПА І *ж.* Замёрзлая гразь, груда. *От дарожка, адны храпу, на калёсах нельга ехаць, аж зубу трамцяць. Такія храпу па дарозі, ехаў на калёсах, дак аж калёсы паразбіваў.* Шкураты Браг. *Не можно ехаті, сільно большая храпа по дорозі.* Бастынь Лун. *Учора пудмарозіла, дак я на храпу ногу зьбіў.* Тульгавічы Хойн.

ХРА'ПА ІІ *м.* Храпка. *Ссеклі капусту, дак дзеці беглі і елі храпу. Вураж мне з качана храпу.* Тульгавічы Хойн.

ХРА'ПНУЦЬ *зак.* Зламацца. *Сеў на сук, а ён храпнуў, і я зваліўся.* Моханава В.-Дзв.

ХРА'ПЫ *мн.* Ахрап'е. *Пайду сыбіраць храпы сьвіньням.* Якубова Рас.

ХРАСТО'К І *м.* Парастак. *О, якія вялікія храсткі на бульбі, пара садзіць.* Альхоўка Навагр. *У картофлі многа храсткоў, яе нельга есьці.* Навасёлкі Свісл. *Аблымаў храсткі ў бульбі.* Моханава В.-Дзв.

ХРАСТО'К ІІ (хрэсто'к) *м.* Падстаўка пад хлебную дзяжу. *Хрэсток зломаўса, трэбо зробіть новый, а то німа на што дэжку ставіті.* Бастынь Лун.

ХРАСТО'К ІІІ *м.* Палка з кружком на канцы для збівання масла. *Памый храсток і збойку, буду біць масла.* Сяляўшчына Рас.

ХРУШЧАКІ' *толькі мн.* Хрусты (пячэнне). *Напекла хрушчакоў у поснум маслі.* Шкураты Браг.

ХРЫБЕ'ТНІК *м.* Хрыбет. Тульгавічы Хойн. *Зваліўся із сасонкі і чуць ні паламаў хрыбетнік.* Шкураты Браг. *Мой сын паламаў хрыбетнік.* Жахавічы Маз. *Як мне боліць хрыбетнік.* Бобрыкі Петр.

ХРЫШЧЭ'НІК *м.* Хроснік. *Ка мне прыехаў хрышчэнік.* Тульгавічы Хойн.

ХРЭ'СНІК *м. устар.* Абрадавы хлеб. *Пеклі хрэсніка на хроснэй неделі і бралі з собой, ак засевалі жыто, ак выго'нілі товар на пашу і ак вэрбу свянтілі.* Бастынь Лун.
ХРЭСТ (хрост) *м.* Крыж. Бастынь Лун.
ХРЭ'ШЧЫК *м.* Пакінуты ў дзяжы кусочак цеста для закваскі. *Астаўляюць у дзяжы крошачку цеста. Вот гэта і е хрэшчык. У дзяжы накінула хрэшчык, каб добрая была кісьля.* Шкураты Браг.
ХУДАШЧА'ВЫ (худышча'вы) *прым.* Хударлявы. *Ён хоць і худышчавы, алі ён здаровы.* Моханава В.-Дзв.
ХУДЗЕ'ННЫ *прым. экспр.* Худы. *Твой сын дужэ худзенны, страх.* Жахавічы Маз.
ХУДНЕ'ЦЬ *незак.* Худзець. *Мыя карова што-то пычыла худнець.* Моханава В.-Дзв.
ХУ'НДЗЯ *ж.* Малярыя, ліхарадка. *Хундзя маю дачку замучыла.* Жахавічы Маз.
ХУ'РА (ху'ря) *ж.* Воз. *Хуря дров, жэта, картоплюв. На хуря повэзле.* Дзмітравічы Кам. *Положыв тры-чтыры копыцы на воз, гэто і есть хура.* Горск Бяроз.
ХУ'РТАВІ'НА (ху'ртэві'на) *ж.* Навальніца, бура. *Такая хуртэві'на на дварэ, што с хаты нельга выйсці.* Стайкі Барыс.
ХУРУГО'Н *м.* Воз. *У хуругоні вазілі с поля сена і снапы.* Ваўкавічы Тал.
ХУТНЕ'Й *прысл.* Хутчэй. *Хутней ідом на веселе.* Тульгавічы Хойн.

# Ц

ЦАБЕ'ЛЛЕ (цабэ'льля) *н. зборн.* Бацвінне, у якім абарвана лісце. *Вырвала бацьвіньня, асморгала, а цабэльля пакрышыла і зварыла бацьвіньня.* Сяляўшчына Рас.
ЦАБЕ'ЎЛЕ *н.* Тое, што і цабелле. *Лісьце сасморгаіш бурашніка, астаецца цабеўле.* Вароніна Рас.
ЦАКАТА'ЦЬ (цокота'ті) *незак.* Ссаць (грудзі). *Оля', як цокотіт, шчо нэ одорваті дітя.* Азарычы Пін.
ЦАЛЬНІ'К *м.* Снежны цалік. *Сьнегам усё замяло. Мы ехалі ў цальнік.* Моханава В.-Дзв.
ЦАПАВІ'ЛІНА *ж.* Цапільна. *Трэба да цапавіліны прывізаць абічэйку.* Якубова Рас. *Пылымалася цапавіліна ў цапу.* Сяляўшчына Рас.
ЦАПІ'ДЛА (цэпы'дло) *н.* Тое, што і цапавіліна. *Поломалос цэпыдло ў цэповы.* Горск Бяроз. *Добрае цапідла ў цэпу.* Альхоўка Навагр.
ЦАПІ'ЛНА (цэпы'лно) *н.* Тое, што і цапавіліна. *Азьмі капіцу і прыв'яжы біча ік цапілну.* Шкураты Браг. *Арэхавае цапілна ў цапу.* Заазер'е Віл. *Трэбо зробыты ік цэпу цэпылно бэрэзово.* Горск Бяроз.
ЦАПІЛНО' *н.* Тое, што і цапавіліна. *Выразаў цапілно дубовае.* Барыскі Лаг.
ЦАПІЛЬНО' (цапільнё) *н.* Тое, што і цапавіліна. *Ат цапільно добра, і ў руках ні чуваць, можна малаціць.* Дзюблеўшчына Маладз. *Каротка цапільно ў цапу.* Саланое Жлоб.
ЦАПІ'ШЧА *н.* Тое, што і цапавіліна. *Замяніў цапішча ў цэпі.* Падлессе Лях.



ЦАПЛЯ'К *м.* Лядзяк. *Вясна прышла, цаплякі вісяць на страсе.* Паляцкішкі Вор.
ЦАПО'К I (цэпо'к) *м.* Лёстка ў лесвіцы. *Вэльмі у дробынэ густыя цэпкы, нычого ступаты. У дробынэ два білэ і одынадцать цэпкыв. Зовом і одэн цэпок.* Горск Бяроз.
ЦАПО'К II *м.* Жэрдка ў ёўні, на якую насаджвалі снапы для сушкі. *У ёўні былі цапкі. На цапкі садзілі дабро і лён сушыць. Я ўжо адзін цапок лёну выняс і зьмяў.* Старонка Асіп. *Вытапіў асець і насадзіў лёну дзесяць цапкоў сушыць.* Моханава В.-Дзв.
ЦАПО'К III *м.* Кабылка ў нітах. *Вуніціўся цапок у ніту, думаю наніціць. Цапкі моцныя ў ніту.* Жахавічы Маз.
ЦАПО'К IV (цэпок) *м.* Кіёчак ў нітах. *Цэпок — гэта частка ніта, у ніту 4 цэпкі. Короткі цэпок у нітох.* Азарычы Пін.
ЦАЎЁ *н.* Грабільна. *У граблях — цаўё. На канцы цаўя брусок набіты, а ў брусок убіваем кляцы.* Паўлавічы Клім.
ЦА-ЦА-ЦА *выкл.* Ужываецца, калі падзываюць парасят. Барыскі Лаг.
ЦА'ЦКА *ж.* Паз. *Дошка-дваццатка кладзецца ў цацку, калі робім двайныя дзьверы.* Міратычы Кар.
ЦАЦЭ'НЬ *м.* Печыва з хлебнага кіслага цеста. *Адкінь ад хлебнага цеста і сьпячы цацэнь.* Ваўкавічы Тал.
ЦВА'НЫЙ *прым.* Разумны. *Вон цваный, усе добра ведае.* Горск Бяроз.
ЦВІ'ГЕЛЬ (цвы'гэль) *м.* Цвікля. *Трэбо ўшыті ў рукавы цвыгэль.* Азарычы Пін.
ЦВІ'КАЛКА (цьві'колка) *ж.* Тое, што і цвігель. *У сорочку пуд мышку трэбо ўшыць цьвіколку.* Бобрыкі Петр.
ЦВІ'КЕЛЬ (цвы'хель) *м.* Тое, што і цвігель. *Цвыхель пуд рукою, а густовка на плечку ушываласа.* Горск Бяроз.
ЦВІ'КЛІК (цвы'хлык) *м.* Тое, што і цвыгель. *Трэбо у сорочку пуд мышкы цвыхлык ушыты.* Горск Бяроз.
ЦВІЛО' *н.* Дзяржанне качаргі. *Паламалосё цьвіло ў качаргі. Нада зрабіць цьвіло да качаргі.* Міратычы Кар.
ЦЕ'ГА-ЦЕ'ГА-ЦЕ'ГА *выкл.* Ужываецца, калі падзываюць гусей. Касталомава В.-Дзв.
ЦЕ'ГЦІ *незак.* Цягнуць. *Прыв'яжу ік страле колоду, коб легчэй було цегці воду.* Бобрыкі Петр.
ЦЕ'ЛЕШ (цэ'леш) *м.* Тоўстае кароткае палена. *Адрэзалі ад палена це'леш і будам колоць на дрова.* Бобрыкі Петр. *Іды посэчы цэлешы на дрова.* Азарычы Пін.
ЦЕЛІЗНА' (цілізна') *ж.* Агрэх. *Вот пыраў поля, сколькі пакінуў цілізён.* Якубова Рас.
ЦЕЛЬБУХІ' *толькі мн.* Вантробы. *З карову, кабана сьняла падчаровак і вупусьціла цельбухі ў начоўкі.* Шкураты Браг. *У кабана велькія цельбухі.* Жахавічы Маз.
ЦЕ'ЛЯ-ЦЕ'ЛЯ-ЦЕ'ЛЯ *выкл.* Ужываецца, калі падзываюць цяля. Міратычы Кар.
ЦЕЛЯЧЫНА' *ж.* Цяляціна. *Целячына дарагая на базары.* Жахавічы Маз.
ЦЕ'ПКА *ж.* Вейка. *У яе красівыя цепкі, бальшыя і густыя, што і воч ні бачна.* Якубова Рас.
ЦЕ'ПЛІЦЬ *незак.* Ацяпляць. *Кічкамі цеплюць восець і сушаць лён.* Шкураты Браг. *Пайду цепліць асець.* Моханава В.-Дзв.

ЦЕРАБІ'ЦЦА (тэрэбі'цца) *незак.* Лезці. *Окно отчынэнэ, а вэн у хату тэрэбіцца.* Азарычы Пін.
ЦЕРАССЯДЗЕ'ЛЬНІК (цересседзе'льнік) *м.* Пасак ( у вупражы). *Побцегні цересседзельнік.* Бобрыкі Петр.
ЦЕ'СЛІЕ (те'слiе) *н.* Вузкая дошчачка, якую закладваюць ва ўваход у стаячы калодачны вулей. *У колодзі е дірка, вона закладвацца тесліем, теслiе закрываецца плахаю.* Бастынь Лун.
ЦЕХ *м.* Цвік. *Грэбень — гэто дошчачка, у якую набіты цяхі'. У грэбень цяхі' убівают большые.* Азарычы Пін.
ЦЕ-ЦЕ-ЦЕ *выкл.* Ужываецца, калі падзываюць гусей. Заазер'е Віл., Моханава В.-Дзв. Раўбічы Мін., Сімакава Кар., Жахавічы Маз., Стары Свержань Стаўбц.
ЦЕЦЯНЁХАЦЬ *незак.* Падкідваць (на руках) дзіця ўверх. *Ен любіць, кап яго цецянёхалі.* Моханава В.-Дзв.
ЦЁЛКА-ЦЁЛКА-ЦЁЛКА *выкл.* Ужываецца, калі падзываюць цялушку. Моханава, Вадва В.-Дзв.
ЦЁПАЦЬ I *незак.* Пашлёпваць (дзіця). *Яго трэба цёпаць, а тады ён засыпаіць. А калі ня цёпаіш, то не сьпіць.* Шкураты Браг.
ЦЁПАЦЬ II *незак.* Купаць (дзіця). *Зараз я цябе, сынок, буду цёпаць.* Моханава В.-Дзв.
ЦЁРКА I *ж.* Кельма. *Дай мне цёрку, і я буду заціраць печку глінаю.* Навасёлкі Свісл.
ЦЁРКА II *ж.* Пласцінка з сераю на запалкавай каробцы. *Ніяк ні магу сьпічкі запаліць, цёрка плыхая.* Якубова Рас.
ЦЁРНІЦА *ж.* Макацёр. *У цёрніцы мак тром.* Ністанішкі Смарг.
ЦЁСЬ-ЦЁСЬ-ЦЁСЬ *выкл.* Ужываецца, калі падзываюць карову. Касталомава, Вадва, Моханава В.-Дзв.
ЦЁХ-ЦЁХ-ЦЁХ *выкл.* Ужываецца, калі падзываюць цялушку. Заазер'е Віл.
ЦІПЕ'Ц (цыпэ'ц) *м.* Сівец. *Цыпэц ростэ по лесэх, по лугэх, его не бэрэ косіті коса.* Бастынь Лун. *Пошоў косіць морг, а там одзін ціпец, і коса не берэ.* Бобрыкі Петр. *Ціпец сівенькі, кусьцікамі расце. Его каса не бярэ.* Жахавічы Маз.
ЦІПЯНЯ' (цыпэня') *н.* Кураня. *Цыпэня так зовом ціп-ціп-ціп!* Горск Бяроз.
ЦІПЯНЯ'ТКА *н.* Тое, што і ціпяня. *Адно маленечкоё ціпянятка здохла.* Навасёлкі Свісл.
ЦІРКАЦЕ'ЦЬ *незак.* Спяваць (пра птушак). *Жаваронaчак ціркаціць усю раніцу.* Навасёлкі Свісл.
ЦІЦЕ'НЬ (тіте'нь) *м.* Тытунь. *Пасеів тітень, дак ён не взышов, шчо буду курыць?* Бастынь Лун.
ЦІ-ЦІ-ЦІ *выкл.* Ужываецца, калі падзываюць курэй. Казлы Міёр.
ЦМІН (цьмін) *м.* Гу'ба. *А колькі цьміна на бярозі расьцець! Цьмін — гэта такі грып. Раней яго вырыблялі і высікалі агонь.* Якубова Рас.
ЦО-ЦО-ЦО *выкл.* Ужываецца, калі падзываюць парасят. Лешня Кап., Міратычы Кар., Сімакава Кар., Моханава В.-Дзв., Тульгавічы Хойн.
ЦУБУРО'К *м.* Цвёрдая частка пяра. *Грубый цубурок у перыне', ак мой пальчык.* Бобрыкі Петр.
ЦУКУ'-ЦУКУ'-ЦУКУ' *выкл.* Ужываецца, калі падзываюць курант. Сімакава Кар.



ЦУПО'НЬ *ж.* Супоня. *Цупонь зацупоньваць клешчы ў хамуце.* Сяляўшчына Рас.
ЦУРАЛІ'ЦЬ *незак.* Цурчаць. *Вада цураліць із крышы цурком.* Шкураты Браг.
ЦУ'РКА I *ж.* 1. Маленькая палачка, пры дапамозе якой вяжуць снапы. *Забулася цурку ўзяць, не могу снопа зьвязаць.* Жахавічы Маз. *Поломаласа цурка, і нема ак снопа звязаць.* Бобрыкі Петр. *Цурка — ета маленька палочка, якая нам помогае снопа везаті.* Бастынь Лун. *Ваэьмі цурку і ідзі снапу вязаць.* Шкураты Браг. 2. Круглая палка для гульні «ў цуркі». *Біч — каротка палка, якой дзеті б'ють па цурцы.* Бастынь Лун. 3. Драўляны гузік прадаўгаватай формы. *Ушый мне цурку ў штаны, а то нема чым зашпіліць.* Бобрыкі Петр. 4. Бірка. *Оддав у выділку овчыну, а мне далі цурку. По етой цурці буду получаті овчыну.* Бастынь Лун.
ЦУ'РКА II *ж.* Цвёрдая частка пяра. *Вурвала перо із клуба, а ў его такая тоўстая цурка. От, скубла пер'е і понакідала цурок от пер'я.* Бобрыкі Петр. *Падрала пер'я, а цуркі па хаці параскідала.* Шкураты Браг.
ЦУ'РКА III *ж.* Сцябло бурачніка. *Колі оборвеш боцьвінье, остаюцца толькі цуркі. О, акая тоўстая цурка.* Бобрыкі Петр.
ЦУ'РКА IV *ж.* Ворчык. *Беры цурку і стольвагу і запрэгай коні ў плуг. Адна цурка поломаласа.* Бобрыкі Петр.
ЦУ'РКА V *ж.* Частка рукі ад далоні да локця. *Вот гэту руку ад далоні і да локця мы завом цуркай.* Тульгавічы Хойн.
ЦУРУ'БАЛКА *ж.* Драўляны гузік прадаўгаватай формы. *Калісь у ганавіцы ўшывалі дзеравяныя цурубалкі.* Шкураты Браг.
ЦЫБА'К *м.* 1. Кветаноснае сцябло цыбулі. *Ак многа цыбакэв на цыбулі!* Бастынь Лун. 2. Лісты цыбулі. *Цыбуля пошла ў стрэлкі, і нэма цыбакэв. Оля', які цыбак тавсты.* Азарычы Пін.
ЦЫ'БАЛА *м. і ж.* Чалавек, у якога доўгія ногі. *Цыбалу гэтага ніяк ні дыгнаць. У яго шах, як маіх два.* Вадва В.-Дзв.
ЦЫ'БАЛЫ *мн. іран.* Доўгія ногі. *Лёх і раскінуў свае цыбалы на ўвесь ложак, што німа дзе лехчы.* Сяляўшчына Рас.
ЦЫБА'СТЫ *прым.* Даўганогі. *О, які ў яе мужык цыбасты, што і ў лошку ня месьціцца.* Машкі Рас.
ЦЫБ'Ё *н. зборн.* Бацвінне. *Еты год на буракох добрая парасло цыб'ё.* Шкураты Браг.
ЦЫ'БІНКА *ж.* 1. Галінка. *Наламала хваёвух ветачак із цыбінкамі.* Шкураты Браг. 2. Сцяблінка. *Вурві цвяток із цыбінкай.* Шкураты Браг.
ЦЫБУ'К I *м.* Цвёрдая частка пяра. *Оскубла крыловэе пэр'е а цыбукі выкінула вон.* Бастынь Лун.
ЦЫБУ'К II *м.* Кветаноснае сцябло цыбулі. *Цыбуля ў цыбукі парабілася.* Дзюблеўшчына Маладз.
ЦЫГА'НАЧКА *ж.* Прыстасаванне, якое злучае вялікае кола калаўрота з падножкай. *У калаўроці цыганачку кладуць на колбачку і нагой круцяць кола.* Навасёлкі Свісл.
ЦЫГА'НКА *ж.* Тое, што і цыганачка. *Цыганка надзяецца на кольбу і круціць калаўротку.* Навасёлкі Свісл.
ЦЫГА'НЧЫК *м.* Сцізорык. *У мэнэ есть цыганчык, я могу дать одрэзаты хлеба.* Горск Бяроз. *Дай мны цыганчыка одрэзатэ хліба.* Дзмітравічы Кам. *Узяў цыганчык на па'сту, думаў карабок сплесьці і згубіў свой цыганчык.* Моханава В.-Дзв.

ЦЫГУ'ЛКА *ж.* Частка рукі ад далоні да локця. *Нешта мне цыгулка забалела. Руку ад локця да ладоні му завем цыгулка.* Шкураты Браг.

ЦЫ'КІШ *выкл.* Ужываецца, калі адганяюць куранят. Стары Свержань Стаўбц.

ЦЫКУ'-ЦЫКУ'-ЦЫКУ' *выкл.* Ужываецца, калі падзываюць куранят. Стары Свержань Стаўбц.

ЦЫП-ЦЫП-ЦЫП *выкл.* Ужываецца, калі падзываюць куранят. Старае Сяло Зэльв., Жахавічы Маз., Бярозаўка Хойн., Заазер'е Віл., Лешня Кап.

ЦЫРБУ'Н *м.* Тоўстае кароткае палена. *Парэзаў палена на цырбуны, а цяпер буду рубіць на дрова гэты цырбуны.* Сяляўшчына Рас.

ЦЫ'РКАЦЬ *незак.* Цвыркаць. *Цыркун не даець спаць, цыркаець усю ноч.* Барыскі Лаг.

ЦЫРКУ'Н *м.* Цвыркун. *У запечку цыркун цвыркае.* Жахавічы Маз. *Цыркун не даець спаць, цыркаець.* Барыскі Лаг. *Расцыркайся цыркун.* Вароніна Рас. *Цыркаіць цыркун.* Сяляўшчына Рас.

ЦЫРЫ'БІНА *ж.* Цвёрдая частка пяра. *Ободрала пэр'е з крыла, цырыбіны выкінула.* Бастынь Лун.

ЦЭЖ *м.* Цэд. *Працаділа рошчыну на сіта, а з цэжа варымо кісель.* Бастынь Лун.

ЦЭ'ЛКА *ж.* Цэўка. *Насучы мне цэлку, трэба ткаць кросна.* Бобрыкі Петр. *Бяры цэлку, садзі ў чоўнік і ччы.* Шкураты Браг. *Насучыла цэлак, а цепер буду ткаць кросна.* Жахавічы Маз. *Насучы цэлак, бо трэба кросна ткаць.* Тульгавічы Хойн.

ЦЭ'ПЛІК *м.* Кураня. *Цэплік у ейцэ заморывса.* Бастынь Лун.

ЦЭР *м.* Нарасць. *Вот бяроска ат пня ройненькая, а там, далей, цэр вырас. Цэр — гэта такі гус на бяросцы.* Барыскі Лаг.

ЦЮПА' *ж.* Цура. *Пасаладзіла ваду, накрышыла хлеба, хадзі будзім есьці цюпу, цюпа смашная.* Ваўкавічы Тал.

ЦЮ'ПКА I *ж.* Тое, што і цюпа. *Я зрабіла цюпку, пакушайці, а можа вы цюпку і ня елі ніколі.* Моханава В.-Дзв. *Пыліла мылыка ў міску, накрышыла ў малако хлеба і пад'ела цюпкі.* Сяляўшчына Рас.

ЦЮПКА II *м. і ж.* Неразвіты чалавек. *Ужо такая цюпка, што з рук вон, нічога ні знаіць.* Касталомава В.-Дзв.

ЦЮ'ХКАЦЬ *незак.* Памалу бегчы. *А гэты цыбаты чуць цюхкаіць, не можыць шпарчэй бехчы.* Моханава В.-Дзв.

ЦЮХЦЕ'ЛЬ *м.* Грымак. *Дай яму цюхцялей, дак ён не палезіць у чужы садок.* Моханава В.-Дзв.

ЦЮ'ЦЬКА *ж.* Вяровачка ў кроснах, якой прывязваюць панажы да нітоў. *Трэба прывязаць ік нітам цюцькі, будам за цюцьку чаплязь понаж.* Шкураты Браг.

ЦЮ-ЦЮ-НА' *выкл.* Ужываецца, калі падзываюць сабаку. Лешня Кап., Моханава В.-Дзв., Сімакава Кар., Навасёлкі Свісл.

ЦЮ-ЦЮ-ЦЮ *выкл.* Тое, што і цю-цю-на. Навасёлкі Свісл., Заазер'е Віл., Касталомава В.-Дзв.

ЦЮ'ШКА *ж.* Проламка. *На азяры прабі цюшку, пайду плаццяпылыскаць.* Сяляўшчына Рас.

ЦЯЛЕ'ЖКІ (цяле'шкі) *толькі мн.* Пярэдняя частка калёс (вось і два колы). *Запражы кыня ў цялешкі, паедзім жардзё вазіць і плот гарадзіць.* Моханава В.-Дзв.



ЦЯЛЕ'ШНІКІ *толькі мн.* Чалеснікі. *Гараць дровы, а полым'я шугая аж у цялешнікі.* Шкураты Браг.

ЦЯЛЁ-ЦЯЛЁ-ЦЯЛЁ *выкл.* Ужываецца, калі падзываюць цяля. Моханава В.-Дзв., Барыскі Лаг.

ЦЯЛІ'ЦКА (целі'цка) *ж.* Цялушка. *Целіцка ў мене трэйцяка, ужэ побегала.* Бобрыкі Петр.

ЦЯЛО'Х-ЦЯЛО'Х-ЦЯЛО'Х *выкл.* Ужываецца, калі падзываюць кароў. Касталомава В.-Дзв., Моханава В.-Дзв.

ЦЯЛУ'Х-ЦЯЛУ'Х-ЦЯЛУ'Х *выкл.* Ужываецца, калі падзываюць кароў. Моханава В.-Дзв., Бярозкі Хоц.

ЦЯЛУ'ШКА-ЦЯЛУ'ШКА-ЦЯЛУ'ШКА *выкл.* Тое, што і цялох-цялох-цялох. Барыскі Лаг.

ЦЯ'ПА *ж.* Нарасць. *Цяпа росте на дубэх, із цяпы робілі міскі, тарэлкі.* Бастынь Лун.

ЦЯПЛЮ'К *м.* Камізэлька на цёплай падкладцы. *Пашыла сабе цяплюк на ваці.* Ністанішкі Смарг.

ЦЯПЛЯ'НІШЧА (ціпля'нішча) *н.* Пажарышча. *Ток згарэў, а на яго месці засталося ціплянішча.* Сяляўшчына Рас.

ЦЯРЭ'ШНЯ *ж.* Чарэшня. *Прынясі цярэшні.* Навасёлкі Свісл.

## Ч

ЧА'ВІЦЬ (ча'выты) *незак.* 1. Выціскаць (сок). *Надо іты ягоды чавыты, трэбо сок поставыты.* Горск Бяроз. 2. Мяць (ягады). *Начэвы ягод, будэм есты.* Горск Бяроз.

ЧАЛАВЕ'ЧАК (чэловэ'чок) *м.* Зрэнка. *У чэловэка ў гоку єсть чэловэчок.* Горск Бяроз.

ЧАЛАВЫ' *прым.* Самае лепшае, буйное (пра збожжа). *На па'раніцу навазіў гною, буду сеяць чалавум жытам. Я пасеіў сёлета толькі чалавум жытам, будзе добры ўраджай.* Шкураты Браг. *Я буду сеіць толькі чалавым жытам.* Паляцкішкі Вор.

ЧАЛЕ'СЬ *м.* Чалеснікі. *Вот здзелаў чалесь у печы пячкур, што чыгун ня лезіць у печ.* Ваўкавічы Тал.

ЧАЛНЫ'К *м.* Чаўнок. *Зявы ў аснове кепскія, не зяваюць, і чалнык нельга засунуць.* Заазер'е Віл. *Пазыч мне чалныка, буду кросны ткаць.* Міратычы Кар. *Дай мне чалныка.* Навасёлкі Свісл. *Трэба цэўку ўкласьці ў чалнык.* Ністанішкі Смарг.

ЧАЛО' I *н.* Самае лепшае, буйное зерне. *Самая чало атабраў на насення, будзя добрая жыта.* Шкураты Браг. *Калі веюць жыто, дык чало ложацца наперадзі, пасьлет ложацца за чалом.* Міратычы Кар. *Калі мы веім жыта, то пасьлет лажыцца ў сярэдзіні, а за пасьледам лажыцца дробнае жыта, а за дробным жытам лажыцца чало.* Паляцкішкі Вор.

ЧАЛО' II *н.* Кужаль. *Чало чынюць у кудзелю і прадуць, а зрэб'е трусяць на верацяно ды ў кудзелю.* Бобрыкі Петр.

ЧАЛО' III *н.* Галоўны, паважаны чалавек у бяседзе. *Мой Тодар буў у кумпаніі самуе чало. Ву знаеце, его там усе пуважалі, ак чало.* Шкураты Браг.

ЧАЛО' IV *н.* Чалеснікі. Парэчча, Асёткі Рас. *Дым с печы ідзець у чало.* Булыніна Рас. *Полымя шугаіць аш у самае чало печы.* Сяляўшчына Рас.

13. Зак. 1598

ЧАПЁЛКІ *мн.* Прадаўгаватыя брускі з кольцамі, на якіх падвешваюцца ніты. *Нічальніцы прывязваюць да чапёлак.* Міратычы Кар.
ЧАПЁЛЫ *мн.* Кроквы. *Пасярэдзіні зруба, на пасьледні вянок, ставім чапёлы, а на чапёлы ложым стралу.* Ністанішкі Смарг.
ЧАПЛЯІ'СКА (чэплеі'ско) *н.* Чапяльнік. Бастынь Лун.
ЧАПУРЫ'ЖКА (чэпуры'жка) *ж.* Жанчына, якая любіць прыбірацца. *Чэпурыжка начэпурылаcа дай пошла.* Бастынь Лун.
ЧАРАБУ'НІЦЦА *незак. іран.* 1. Лезці. *Чаго ты на плот чарабунісьсё? Чарабунісьсё, куды табе ня сьлет.* Навасёлкі Свісл. 2. Прыставаць. *Чаго ты да яе чарабунісьсё, ні чарабуньсё.* Навасёлкі Свісл.
ЧАРАВА'ТАЯ (чэрова'та) *прым.* Цяжарная. *І вона ўжэ чэровата, скоро прывэдэ дітя.* Азарычы Пін.
ЧАРАВА'ТЫЙ (чэрова'тый) *прым.* Пузаты. *О-ёй, які вэн чэроватый, аж нагнуцца нэ можэ.* Азарычы Пін.
ЧАРАШО'К *м.* Дзяржанне, ручка. *Новы чарашок у лапаця.* Ністанішкі Смарг. *Асадзі лапату на чарашок і зрабі крыкейку да чарашка.* Міратычы Кар.
ЧАРО'ВЫ *толькі мн.* Вантробы. *Закалоў парсюка, трэба выпусціць чаровы.* Ністанішкі Смарг.
ЧАРЭ'ДЗЬ (чэрэ'ть) *ж.* Чарада. *Побегла чэрэть овэчо'к.* Бастынь Лун.
ЧАСО'ЎКА *ж.* Пасма нітак, навітых на клубок. *Красіва нымытала клубок, часоўкі роўныя.* Якубова Рас.
ЧАХАРА' (чэхаря'). Машына, на якой чэшуць воўну. *Чэхаря поломаласа, і я не счэсала вовну.* Бастынь Лун.
ЧАХАРНЯ' (чэхарня') *ж.* Памяшканне, дзе чэшуць воўну. *Пошоў чэсать воўну у чэхарню.* Бастынь Лун.
ЧАХО'Л *м.* Манжэта. *Я прышыла ік рукавом чахлы. Ушый у чахол гузік.* Шкураты Браг. *Нада чахлы папрышываць у рукавох.* Жахавічы Маз.
ЧАЦВЁРНЫ *прым.* Вытканы ў чатыры панажы (пра палатно). *Чацвёрныя радзюшкі ткуць у чатыры панажэ.* Міратычы Кар.
ЧАЦВЯРТА'К (чацьвярта'к) *м. устар.* Чалавек, які меў чацьвёртую частку зямельнага надзела. *Я меў дзьве с паловай дзесяньціны зямлі ат грунта, і мяне звалі чацьвяртак.* Міратычы Кар.
ЧАЦВЯРТУ'ХА (чэтвэрту'ха) *ж.* Устарэлая мера дроў. *Чэтвэртуха — чэтвэрта часть собакі, бо лесу не хвотіло на собаку, а ў собаку лезе два воза дроў.* Бастынь Лун.
ЧАЧО'ТА (чэчо'та) *ж.* Нарасць. *Выросла чэчота на бэрэзі.* Бастынь Лун.
ЧАЧО'ЧЫНА (чэчо'чына) *ж.* Тое, што і чачота. *На гробынэ выросла чэчочына. Вот я із чэчочыны і зробыв собэ шлягу дрова колоты.* Горск Бяроз.
ЧА'ШАЧКА *ж.* Тое, што і часоўка. *Наматала добра клубок. Добрыя чашачкі, не асыпаюцца з клубка ніткі. Наматала малую чашачку, матай большую чашачку.* Шкураты Браг.
ЧА'ШКА І *ж.* Тое, што і чашачка. *Нэ вы вэльмы вэлькы чашкы ў клубковы, бо ўсмыкаюцца.* Горск Бяроз. *Добрыя чашкі навіла на клубок, не будуть осыпацца.* Бастынь Лун. *Клубок велькі, чашкі добрые навіла.* Бобрыкі Петр.
ЧА'ШКА ІІ *ж.* Фарфоравы ізалятар у электраправодцы. *Убі чашкі ў сьцяну, будам праводзіць сьвет.* Шкураты Браг.



ЧА'ШКА ІІІ *ж.* 1. Высечаная ў бервяне выемка для другога бервяна пры будове. *Трэба вырубіць у ніжнім і верхнім броўнах чашкі для вугала, для злучэння браўна з браўном.* Ністанішкі Смарг. 2. Выемка ў крокве. *Вырубіў добрые ў крокву чашкі.* Бобрыкі Петр.
ЧА'ШНІК (ча'шнык) *м.* Шафер. *Чашнік дэржыт вэнца над молодым.* Азарычы Пін. *От молодого до молодой едут чашныкы і свахы.* Горск Бяроз. *За маладым чашнікі едуць, а за маладой дружкі.* Навасёлкі Свісл.
ЧАШУ'ЙКА *ж.* Пасма нітак, якая навіта на клубок. *Навіла велькія чашуйкі на клубок, што яны іссыпаюцца.* Міратычы Кар.
ЧАШУЯ' (чэшуя') *ж.* Перхаць. *Вэльмы мнэго чэшуі у головэ.* Горск Бяроз.
ЧА'ШЧА *ж.* Ігліца. *С сасонкі сыпіцца чашча. Як многа чашчы насыпалася пат сасонкай.* Вароніна Рас. *Чашча сыпіцца з ёлкі. Многа пат ёлкай чашчы.* Сяляўшчына Рас.
ЧВА'РТАК *м.* Чацвер. *Чварты дзень у тыдні — чвартак.* Паляцкішкі Вор.
ЧВЕ'РЫЦЬ (чвэ'рыть) *незак.* Злаваць. *Не трэбо его чвэрыть. Пэрэстань чвэрыті собаку.* Бастынь Лун.
ЧВЕ'ЛІЦЬ (чвэ'літь) *незак.* Цвяліць. *Пэрэстань ты дітя чвэліть.* Бастынь Лун.
ЧВЯ'КНУЦЬ *зак.* Ударыць кулаком. *Вот як чвякну, тады будзіш знаць, як языком малоць.* Вадва В.-Дзв.
ЧВЯ'ЛІЦЬ *незак.* Жаваць, чвякаць. *Чвяліць, як ні сваімі зубамі, што карова.* Якубова Рас.
ЧЛУ'НАК *м.* Сустаў. *Уверадзіла члунак на пальцы, што сагнуць не магу, баліць.* Міратычы Кар.
ЧО'СКА *ж.* Металічная шчотка для абдзірання лёну. *Першы рас лён абдзірала на чоску, а потым часала на сьвіную шчэтку.* Калодзішчы Мін.
ЧО'ЎНІК *м.* Чаўнок. *Бяры цэлку і садзі ў чоўнік і ччы.* Шкураты Браг. *Уложыла ў чоўнік цэўку і буду ткаті.* Бастынь Лун.
ЧО'ХЛЯ *ж.* Малярыя. *Чохля затрэпала гладко, і чоловэк умэр.* Горск Бяроз.
ЧО'ХРАЦЬ (чо'храті) *незак.* Свярбець. *Короста, коростовые рукі дужэ чохрацъ.* Бастынь Лун.
ЧУБ *м.* Касмык травы, пакінуты пры касьбе. *Покоса выкосыв, а чуб оставса травы.* Азарычы Пін. *Як ты пакасіў кепска, як глянеш — адны чубы стаяць.* Дзюблеўшчына Маладз.
ЧУ'БА *ж.* Рог у торбе, да якога прышываецца початка. *Таракі пашыла, нада прышыць ік торбе за самую чубу.* Шкураты Браг.
ЧУ'ЙКА *ж.* Армяк; доўгая верхняя мужчынская і жаночая вопратка без падкладкі. *Надзень чуйку на кажух, а то пойдзе хале'па, і намокне кажух.* Шкураты Браг. *Чуйка длінная, яе шыюць з капішонам і надзяваюць на кажух.* Ністанішкі Смарг.
ЧУЛЕ'ЙКА *ж.* Камізэлька на цёплай падкладцы. *Чаго ты так ідзеш, надзень чулейку. Чулейка на ваце і без рукаў, пахожэ на жалетку.* Шкураты Браг.
ЧУРБА'К *м.* Тоўстае палена. *Ляжыць чурбак бярэзіны, трэба яго разрэзаць на дровы.* Якубова Рас.
ЧУРБА'Н *м.* Тое, што і чурбак. *Парэзыў бярозу на чурбаны, а цяпер буду калоць на дровы.* Якубова Рас. *Разрэзаў пішнякі на чурбаны.* Сяляўшчына Рас.

ЧУХО'ТКА *ж.* Кароста. *У яе е чухотка, бо яна дужо чухаецца.* Навасёлкі Свісл.
ЧУ'ХРЫЦЦА *незак.* Чухацца. *Што ты чухрысса?* Бастынь Лун.
ЧУ'ХРЫЦЬ (чу'хрыты) *незак.* Чухаць. *Што-то мне свэрбыт спына, чухры во гэ.* Горск Бяроз.
ЧУ'ЧКА *ж.* Суставў. *Зьбіла чучку на руцэ. На руцэ на пальцы е чучка.* Міратычы Кар. *Пастукаў чучкамі пальцаў па стале.* Сімакава Кар.
ЧУ'ЧКІ *мн.* Брускі, да якіх прымацоўваюцца драбіны ў возе. *Накладі пліскі на чучкі вэза.* Бастынь Лун.
ЧУЧУ'К *м.* Ручка на касе. *Ссунуўся чучук з месца, нада закрапіць на касільні.* Саланое Жлоб.
ЧУ'ШКА *ж.* Неахайная жанчына. *Чушка ты, як табе ня стыдна так хадзіць? Чушка, ты намыла п свае лойны і надзела чысьцінькая.* Моханава В.-Дзв.
ЧХАЦЬ *незак.* Шугаць (пра полымя). *Полань чхая дужа, аш страшна, кап не загарэлася сажа.* Якубова Рас.
ЧЫБУРА'ХНУЦЬ *зак. іран.* Добра лупцануць. *Злавіў яго ў яблаках і добра яму чыбурахнуў па сьпіне.* Моханава В.-Дзв.
ЧЫГУ'НКА *ж.* Поезд. *Набрала чыгунка пэску і повэзла. Чэловэк сідіт у чыгунцы, дай крутіт.* Бастынь Лун.
ЧЫ'КАЛАДКА (чы'колодка) *ж.* Каленца (у сцябле). *У соломіне е чыколодка, і нэ одна, а несколько.* Азарычы Пін.
ЧЫКРЫ'ЖЫЦЬ *незак.* Рэзаць на кавалкі. *Я буду чыкрыжыць сала і склыдаць у дзежачку, і саліць.* Моханава В.-Дзв.
ЧЫНАВА'ТНЫ *прым.* Вытканы ў чатыры панажы (пра палагно). *Із чыноватного полотна пошыла собэ попуца. Чыноватнэ полотно выткала у штыры поножэ.* Горск Бяроз.
ЧЫНІ'ЦЬ *незак.* Вымятаць калоссе з абмалочанага збожжа. *Возьмі метлу і ідзі чыніць жыто, бо трэ іссунуць у ворах, а тоды буду его веіць.* Бобрыкі Петр.
ЧЫНО'ЎКІ *мн.* Дзве перавязаныя тонкія дошчачкі, якія служаць для таго, каб не блыталіся ніткі асновы ў кроснах. *Адсунь да задняга навоя чыноўкі, кап было добрае зева.* Моханава В.-Дзв.
ЧЫНЫ' (чынэ') *толькі мн.* Месца перакрыжавання нітак асновы ў кроснах пры тканні. *Дошчачкі закладаім у чынэ. Розачкі ў чынах, кап ня спуталіся ніткі асновы.* Паляцкішкі Вор.
ЧЫ'СЛІНА (чы'сьліна) *ж.* Тры ніткі, якія ўваходзяць у пасму. *Снавала кросна ў трынаццаць чыслін. У адной пасьме дзесяць чысьлін.* Паляцкішкі Вор.
ЧЫ'СЛІНКА (чы'сьлінка) *ж.* Памянш. ад чысліна. *Чысьлінкі падлічыла ў чынах.* Паляцкішкі Вор.
ЧЫ'СНІЦА (чы'сьніца) *ж.* Тое, што і чысліна. *У чысьніцы тры ніткі. Дзесяць чысьніц, то пасмо.* Азарычы Пін.
ЧЫ'СЦІЦЬ I (чы'стіті) *незак.* Кастрыраваць, накладаць. *Надо мэркіцуна чыстіті.* Бастынь Лун.
ЧЫ'СЦІЦЬ II *незак.* Скрэбці. *Пайду чысьціць бульбу на вячэру. Дрэнна чысьціш бульбу.* Заазер'е Віл.
ЧЫ'ХАВІЦА (чы'ховіца) *ж.* Чых. *Напала на мэнэ чыховіца.* Бастынь Лун.
ЧЫ'ХАТКА (чы'хотка) *ж.* Тое, што і чыхавіца. *У його сільная чыхотка, вэн дужэ простудывса.* Азарычы Пін.
ЧЫ'ХАЎКА *ж.* Тое, што і чыхавіца. *Чыхаўка як нападзець, дак я аш пітнаццаць разоў чыхну.* Моханава В.-Дзв.



ЧЫШЧЭ'ЙШЫ *прым.* Чысцейшы. *Дай рушнік яму чышчэйшы.* Шкураты Браг.
ЧЭ'ЛЕПЫ *толькі мн.* Сківіцы. *Зубу вурвау, аж чэлепы баляць.* Тульгавічы Хойн.
ЧЭ'ЛЮСЦІ (чэ'люсьці) *толькі мн.* Чалеснікі. *Оля', полымя б'е аш у чэлюсьці, дровы сухія.* Навасёлкі Свісл. *Вываліліся чэлюсьці ў печы.* Барыскі Лаг.
ЧЭ'НБАР (чэ'нбэр) *м.* Чабор. *Чэнбэр росте по борэх і по горэх.* Бастынь Лун.
ЧЭ'ПЧЫК *м.* Сала каля кішок. *Ты адарвала чэпчык ат кішок кабана ці не?* Барыскі Лаг. *Одорві чэпчык ад кішок.* Бобрыкі Петр.
ЧЭРАВІ'НА *ж.* Чэрава. *У чэравіне мучацца, а як вурасьцеш — навучасься.* Шкураты Браг.
ЧЭ'РАДА *ж.* Чарада, статак. *Прывялі стадніка ў чэ'раду.* Шкураты Браг.
ЧЭ'РАНЬ *м.* Вожаг. *Паламаўсё ў вілох чэрань. Зрабі бярозавы чэрань, трэбо насадзіць вілкі.* Навасёлкі Свісл.
ЧЭ'РВЕЦ *м.* Чэрвень. *Прышоў чэрвец, много чарвей.* Паляцкішкі Вор.
ЧЭ'РКАЦЦА *незак.* Ківацца. *Чэркаецца зуб, чэркаюцца зубы.* Бастынь Лун.

# Ш

ШАДУ'ХА *ж.* Сівец. *Шадуха такая густая: яе ні скаціна, ні каса ні бярэць.* Якубова Рас.
ШАЛА'ЦЦА (шыла'цца) *незак. іран.* Бадзяцца. *Дзе гэта ты цэлы дзень шылайся?* Моханава В.-Дзв.
ШАЛЕ'ПАЎКА (шоле'повка) *ж. абразл.* Расцяпа. *Посодыла бульбу пуд ліпою, а вона у травэ постэкала, от шолеповка баба.* Горск Бяроз.
ШАЛЕСТУНЫ' (шэлестуны', шалястуны') *толькі мн.* Шамкі. *На коня накладают шэлестуны, ак едут у сваты.* Азарычы Пін. *Малады паехаў да шлюбу пат шалястунамі. Шалястуны зьвіняць, малады едзе да маладой пат шалястунамі.* Навасёлкі Свісл.
ШАЛІНО'ЎКА (шаляно'ўка) *ж.* Шарсцяная хустка без узораў. *Шаліноўка гладка, у яе німа цьвятой, як у тараноўкі, екая мае цьветы.* Бобрыкі Петр. *Купіла сабе шаляноўку. Добрая шаляноўка красівая, добра на галаву завязаць.* Вострава Маст.
ШАЛО'ТАЦЬ (шоло'тыты) *незак.* Балбатаць. *Што ты шолотыш обы-шчо, пэрэстань шолотыты.* Горск Бяроз.
ШАЛУ'ПКА *ж.* Шкарлупіна яйца. *У яйцы тоненькая шалупка.* Стайкі Барыс.
ШАЛУХА' I (шэлуха') *ж.* Луска. *Рыба нэ свэжа, шэлуха нэ облазэ.* Горск Бяроз.
ШАЛУХА' II *ж.* Адходы пры апаланні круп, зерня. *Палола крупы, а шалуха ляцела.* Заазер'е Віл.
ШАЛЬБАБО'НЫ *мн.* Фасоля. *Пасадзіла шальбабоны, будзіць на ўсю зіму варыць суп.* Ністалішкі Смарг.
ША'ЛЯ *ж.* Шалік. *Купіла шалю на шыю.* Бастынь Лун.
ШАЛЯХТА'ЦЬ (шэлехта'ті) *незак.* Казытаць. *Я боюс шэлехту. Я не буду шэлехтаті.* Бастынь Лун.

ШАМЯШЫ'НА *ж.* Перхаць. *От у галаве багата завялося шамяшыны, аж косы белыя сталі.* Шкураты Браг.

ШАПАРНУ'ЦЬ (шыпарну'ць) *зак.* Шапнуць. *Пычыкай, я табе хачу нештычка на вушка шапарнуць.* Касталомава В.-Дзв. *Мама мне шыпарнула на вуха, што возьміць міне с сабой.* Моханава В.-Дзв.

ША'ПАЧКА *ж.* Пладаножка жолуда. *Жолуць сядзіць пяткай у шапацца.* Барыскі Лаг. *У шапаццэ лежыць жолуд.* Бобрыкі Петр. *Жалудкі шчэ ня сыпаліся і шчэ ў шапачках сідзяць.* Шкураты Браг.

ША'ПКА I *ж.* 1. Перакладзіна над вушакамі (у вокнах, дзвярах). *На спода'к ставят два стоекы, а на стоекы клодэцца шапка, гэто усэ зовэцца яшчэком.* Горск Бяроз. *Паставіў вушакі ў дзвярах, а на верх палажыў шапку.* Альхоўка Навагр. *Поставів вушакі у дзверах і накрыв шапкой.* Бастынь Лун. *У ушаку шапка, на версе на ушакох ляжыць шапка.* Паляцкішкі Вор. *У вокнах пыставіў аўшакі і наверх палажыў шапку.* Сяляўшчына Рас. 2. Верхні сноп, якім накрываюць бабку. *Ідзі пыскідай шапкі з бабак, хай жыта сохніць.* Моханава В.-Дзв. *Састаў снапы жыта ў мэтлікі і накрый шапкай.* Барыскі Лаг.

ША'ПКА II *ж.* Брус у калёсах, які служыць асновай для драбін і ляжыць на восі. *Шапка ляжыць на вузалаваку. Вузалавак і шапка скрапляюцца шворанам.* Навасёлкі Свісл.

ШАРАФА'Н *м.* Сарафан. *На цябе добра будзіць мой шарафан.* Ністанішкі Смарг.

ШАРГАЛО'М (шарголо'м) *м.* Вялікі вецер. *Колі бувае большая бура, тоды бувае і большы шарголом. Шарголом дуе сільно.* Бастынь Лун.

ШАРСЦІ'НЕ (шарсьці'ння) *н. зборн.* Доўгая шэрсць на карку свіней. *Забіла кыбына, вырвала шарсьціння і буду дзелаць шчэтку.* Даўгабор'е Рас.

ШАРШО'К *м.* Слабы гук у вуллі зімой. *Хадзіў пчол слухаць, шаршок чувацъ, пчолкі жывуць.* Касталомава В.-Дзв.

ШАРШУ'БЕЛЬ *м.* Спуск. *Перш-наперш ачышчаюць дошку шаршубелем.* Навасёлкі Свісл.

ШАРШЭ'ПКА *ж.* Тое, што і шаршубель. *Шаршэпкай посьле сокэры гэблеваты дэрэвыну. Посьле шаршэпкі трэбо гэблеваты гэбліком.* Горск Бяроз.

ШАСНА'СТКА (шэсна'стка) *ж.* Пасудзіна як мера вагі ў паўтара пуда. *Зроблена шэснастка жыто мэраты.* Горск Бяроз.

ШАСТА'К *м. устар.* Чалавек, які меў шостую частку зямлі ад надзела. *Я паўгрунта, ці шостую частку, дастаў зямлі, і міне называлі шастаком.* Міратычы Кар.

ШАСТО'К *м.* 1. Жэрдка, падвешаная ўверсе перад печчу. *Павесь кулёк на шасток.* Моханава В.-Дзв. 2. Насціл у асеці для сушкі снапоў. *На шасткі ставілі снапы сушыць.* Вароніна Рас.

ШАСТУ'Н (шэсту'н) *м.* Сяннік, набіты саломай. *Трэба на пэл напхаці шэстуна, коб добрэ було спаті.* Бобрыкі Петр.

ШАСТУНЫ' *толькі мн.* Шамкі. *Пазыч мне шастуны, поеду ў сваты.* Азарычы Пін.

ШАСТУ'ХА (шэсту'ха) *ж. устар.* Шостая частка зямлі ад надзела. *У его зэмны шэстуха ад участка.* Горск Бяроз.

ШАСЦЁРНЫ (шасьцёрны) *прым.* Вытканы ў шэсць нітоў (пра палатно). *Шасьцёрныя радзюшкі ткуць у шэсьць панажоў і шэсьць нічальніц.* Міратычы Кар.



ШАСЦІ'НЫ (шасьці'ны) *мн.* Памінкі праз шэсць тыдняў пасля смерці. *Нада па дачушцы спрыўляць шасьціны, бо ўжо шэсьць нядзель споўнілася.* Вадва В.-Дзв.

ШАТА'ЦЦА *незак.* Упраўляцца па гаспадарцы. *Я ўжо пайду шатацца каля скаціны. А вы ўжо шаталіся каля сваёй?* Ністанішкі Смарг.

ША'ТКА (ща'тко) *прысл.* Хутка. *От чэловек шатко ідзе, што ні догнаць.* Бобрыкі Петр.

ША'ТЫ-ЛА'ТЫ *толькі мн. іран.* Усё нажытае ў гаспадарцы, маёмасць. *Кідаяш ты шаты-латы і выбірайсё с сваe хаты.* Міратычы Кар.

ШАЦЬ *ж.* Іней. *От за ноч напала шаць на дзерава, стаяць белыя-белыя ат шаці.* Паляцкішкі Вор.

ШАШУ'К *м.* Шашаль. *Шашук чысто поеў усе уперэчкі ў столе.* Бобрыкі Петр.

ШВА'ЙКА *ж.* 1. Спіца. *Возьмі швайку і пудплеты постолы.* Горск Бяроз. 2. Шыла. *Швайка проколоваты дырочкі, шчоб захвотыты гоздямі.* 3. Шыла, якім колюць свіней. *Позыч мне швайку, буду колоті свіныю.* Бастынь Лун.

ШВА'Я *ж.* Паля. *Зыгыняюць швaі, кап мост не абярнуўся.* Сяляўшчына Рас.

ШВЕ'ДЫ (швэ'ды) *мн.* Скваркі. *Я спэкла сало, юшку выліла, а швэды аставіла. Мамо, одрэж сала і напэчы швэдэй.* Азарычы Пін.

ШВЕ'ЛІ *мн.* Тоўстае бервяно, якое кладзецца на падмурак. *На падмуроўку кладуць швелі, а на швелі кладуць вянец адзін, другі.* Паляцкішкі Вор.

ШВО'РКА *ж.* Ланцуг, прывязка. *Прывяжы сабаку на шворку за оброжак, а то ён кусаяцца. Дзе шворка? Трэбо цялё навізаць.* Навасёлкі Свісл.

ШВЫРХА'ЦЬ (швырха'ты) *незак.* Варушыць. *Я сплю і ніколі нэ швырхаю рукамы і ногамы.* Горск Бяроз.

ШКАРАЛУ'ПІНА *ж.* Шкарлупіна яйца. *У яйцу такая тоўстая шкаралупіна.* Навасёлкі Свісл.

ШКАРЛУПА'ЙКА *ж.* Тое, што і шкаралупіна. *Лупіла яйцо і шкарлупайку выкінула курам.* Тульгавічы Хойн.

ШКАРЛУПА'ЙКІ *мн.* Шалупінне. *Лупіла нажом картоплю і налупіла багато шкарлупаяк.* Тульгавічы Хойн.

ШКАРЛУ'ШКА *ж.* Шкарлупіна яйца. *Курыца выліла яйцо, і шкарлушка дужа тоненькая.* Якубова Рас.

ШКАРНІ' *мн.* Старыя боты з адрэзанымі халявамі. *Былі старыя боты, я атрэзаў галянішчы, а засталіся шкарні.* Моханава В.-Дзв.

ШКВА'РКА *ж.* Скварка. *З'ела шкварку і пышла на поля.* Моханава В.-Дзв.

ШКВА'РЫЦЬ *незак.* Скварыць. *Шкварыць шкваркі на скаварадзе.* Сяляўшчына Рас.

ШКВЯРЧА'ЦЬ (шквэрча'ты) *незак.* Квакаць. *Жабы моцно шквэрчат, мусыт будэ тэпло.* Горск Бяроз.

ШКІЛЕ́НДА (шкылёнда) *ж.* Каўбаса з вантробаў. *Узаўтра спэчы шкілёнду з вэнтробэй. Зарэзав паршука, і зробыла с крові і мукі шкілёнды, смачныя.* Горск Бяроз.

ШКІР *выкл.* Ужываецца, калі адганяюць авечак. Вадва В.-Дзв.

ШКЛЮД *м.* Склюд. *Шклюдом шклюдуе дэрэвіну на хату.* Бастынь Лун.

ШКЛЮДАВА'ЦЬ (шклюдова'ті) *незак.* Склюдаваць. *Шклюдом буду шклюдоваті дэрэвіну на хату.* Бастынь Лун.

ШКО′РНІ *мн.* Тое, што і шкарні. *Булі старые чобаты, я адрэзаў галяніщчы і нашу шкорні.* Тульгавічы Хойн.
ШКРАБУНЫ′ (шкрэбуны′) *мн.* Тое, што і шкарні. *Пуд ложком стоят шкрэбуны, возьмі і наклодай іх. Булі старыя чоботы, а я адрэзов голеніщчы і зробів шкрабуны.* Бастынь Лун.
ШКРЭ′БЛА (шкрэ′бло) *н.* Конская шчотка. *Кэнь гразны, трэбо почыстіті шкрэблом.* Азарычы Пін.
ШКУРА′Т *м.* Скурат. *Ні выкідайце шкураты, яны нам прыгадзяцца.* Сяляўшчына Рас.
ШКУ′РНЯ *ж.* Майстэрня па вырабу скур. *Шкурняк мэв собэ шкурню і там выробляв шкуры.* Бастынь Лун.
ШКУРНЯ′К *м.* Чалавек, які апрацоўвае скуры. *Шкурня′к добрэ вырабляў шкуры ў шкурні.* Бастынь Лун.
ШЛЕМАВА′ЦЬ (шлімува′ць) *незак.* Чысціць. *Нада шлімуваць кішкі на кілбасы.* Якубова Рас.
ШЛЁГНУЦЬ *зак.* Ударыць. *Каня шлёгнуць, ён і пойдзя.* Барыскі Лаг.
ШЛІПО′ТА (шлюпо′та) *ж.* Слота. *Рыхлы снег, ногі праваліваюцца, такая шлюпота.* Бастынь Лун.
ШЛІ′ФКА *ж.* Жалезнае кольца з кручком для прымацавання ворчыка да плуга. *Кальцо с кручком у ворчыку, якім цапляюць за плух, мы завём шліфка.* Вострава Маст.
ШЛЮ′ПАЦЬ *незак.* Шлёпаць. *Перастань ты шлюпаць па вадзе.* Навасёлкі Свісл.
ШЛЮ′ПІЦА *ж.* Паліца (у плузе). *У плугу шлюпіца ўстаўляецца ў падашву.* Вострава Маст.
ШЛЯ′КАЦЬ *ж.* Непагадзь. *Йікая шлякаць на дварэ: сьнех, дошч і вецер.* Моханава В.-Дзв.
ШЛЯПО′ЦЦЕ (шляпо′цця) *н.* Тое, што і шлякаць. *Ой, якое шляпоцця: ідзець і сьнех, і дошч.* Сяляўшчына Рас.
ШЛЯЦЬ *ж.* Тое, што і шлякаць. *На дварэ шляць, ідзець і дошч і сьнех, цэла шляпоцця.* Сяляўшчына Рас.
ШМАРГО′НКІ (шморго′нкі) *мн.* Грыбы, якія растуць на выжарынах. *Шморгонкі ростут по пожарэх.* Бастынь Лун.
ШМЕЛЬ *м.* Чмель. *Касіў і напаройся на шмяля, ён вылес с шмялінага гнязда.* Барыскі Лаг.
ШМУЛІ′ЦЬ (шмулі′ть) *незак.* Ссоўваць. *Кэт дотэль будэ головое шмуліть, покэле скінэ тэ, што лежыць на вэкі.* Бастынь Лун.
ШМУРЫГА′ТЫЙ *прым. абразл.* Смаркаты. *Якэй вон шмурыгатый.* Горск Бяроз.
ШМУРЫГА′ЦЬ (шмурыга′ты) *незак.* Смаркаць. Горск Бяроз.
ШМЯЛІ′НЫ *прым.* Чмяліны. *Я нашоў шмялінае гняздо.* Барыскі Лаг.
ШНАР *м.* Шрам. *Шчэ на памятку шнар палажыла на твар.* Навасёлкі Свісл.
ШНУРАВА′ЦЬ І *незак.* Хадзіць узад і ўперад. *Што ты ўсё шнуруіш пы хаці? Сяць і пасядзі, а не шнуруй.* Моханава В.-Дзв.
ШНУРАВА′ЦЬ ІІ *незак.* Размячаць шнуром бервяно для пілавання. *Бяры шнур і шнуруй штуку і будзям пілаваць дошкі. Я вечарам шнураваў іх.* Навасёлкі Свісл.
ШНУРО′ЎКА *ж.* Камізэлька са шнуроўкай. *Шнуройка — гэта тое самае, што і жалетка бес рукавоў, но на ваці. Шнуройка зашнуроўваецца на перадзі.* Якубова Рас.



ШНУРЫ′ЦЬ *незак.* Тое, што і шнураваць ІІ. *Я буду шнуры′ць балькі для распілоўкі на дошкі.* Якубова Рас.
ШНЮК *м.* Лыч. *Сьвіння шнюкам усё гумно парыла.* Ністанішкі Смарг.
ШО′ПА І *ж.* Прыбудова да хлява ці гумна для розных гаспадарчых рэчаў. *У нас есть шопа, алі мы сено у ее не клодем. У шопу кладем дрова і ставімо воза.* Бастынь Лун. *Пры боку, каля току, была прыстроіна шопа.* Сяляўшчына Рас.
ШО′ПА ІІ *ж.* Рухомая стрэшка на слупках, пад якую кладуць сена. *У шопі сьцен нет, а толькі стрыха зьверху на слупах.* Сяляўшчына Рас.
ШО′ПКА (шэ′пка) *ж.* Тое, што і шопа І. *Прыклунак і шэпка — однэ самэ, гэ! Шэпка — гэта прыклуннік, куда ставімо і вэз, і плуга, і борону, і сэно накладэм.* Азарычы Пін.
ШО′РАН (шэрэн) *м.* Шарпак. *Була одліга, а зарэ такэй шэрэн по снегу.* Бастынь Лун.
ШОСТ *м.* 1. Вочап. *У зямлю ўбіваецца рагатка, а на рагатку кладзецца асьвер, а да асьвера прывязваецца шост.* Барыскі Лаг. 2. Жэрдка, падвешаная ўверсе перад печчу. *Павесь лойны на шост, хай сохнуць.* Ваўкавічы Тал.
ШПАР *м.* Паз. *У бервене трэ высечы шпар, коб лепей було імшыць хату.* Бобрыкі Петр. *Добры шпар зробіў у дошцы, плотна выступ зайшоў.* Моханава В.-Дзв.
ШПАРО′ЎКА *ж.* Выемка пазоў. *Я яшчэ не рабіў шпаройку ў цэбары.* Вострава Маст.
ШПА′РЫ *мн.* Прамежнасць паміж пальцамі на нагах. *Попрэлі шпары на ногэх.* Бастынь Лун.
ШПА′РЫЦЬ *незак.* Хутка ісці. *Тодар от шпарыць, што ніяк ні дыгнаць яго.* Моханава В.-Дзв.
ШПІ′ЛЬКІ *мн.* Ігліца. *На сасонцы і на ёлцы зялёныя шпількі. Ідзі награбі шпількаў, трэба падаслаць карові.* Ніастанішкі Смарг.
ШПІНЬ *м.* 1. Драўляны пруток у сукале, на які надзяваецца цэўка пры суканні. *Пылымайся шпінь і німа як цэўкі сучыць.* Вадва В.-Дзв. 2. Дэталь калаўрота — жалезны шпень, на які надзяваецца шпулька. *На шпінь надзела шпульку і прыкруціла лютэркай.* Вадва В.-Дзв.
ШПО′РАК *м.* Карак. *От кошка ўзела коціка за шпорак дай да долу кінула.* Бобрыкі Петр.
ШПО′РЫ *мн.* Нараст на назе пеўня. *У пеўня на нагах ззадзі е шпоры.* Навасёлкі Свісл. *Уго, якіе большые шпоры на нагах у пеўня.* Бобрыкі Петр.
ШПУ′ГА *ж.* 1. Папярочная планка ва ўслоне, у якую ўбіваюць ножкі. *У слону е шпугі, у шпугу убівают ножкі.* Азарычы Пін. 2. Клінападобны папярочны драўляны брусок для змацоўвання дзвярных дошак. *Зробів шпугу, а тэпэр буду уганять дошкі і скрэплять дзверы.* Азарычы Пін.
ШПУ′ЛІНА *ж.* Шпулька. *Прыкруціць нада рэпку ў вілках, кап ні зваліласе шпуліна.* Стайкі Барыс.
ШПУ′ЛЬКА *ж.* Шпілька. *Вазьмі шпульку зашпілі грудзі, а не хадзі расхрэстаным.* Шкураты Браг.
ШПУЛЬНУ′ЦЬ *зак.* Шпурнуць. *Ён шпульнуў кулёк і пабех на вуліцу.* Моханава В.-Дзв.
ШРА′М *м.* Круглы знак на розе (у каровы). *У каройкі маей аш тры шрамы на рагу, якія абызнычаюць, што йіна прывіла траіх ці-*

*лят.* Якубова Рас. *Калі ў каровы дзесіць шрамоў, апрыдзіляюць — дзесіць цілят прывіла.* Ваўкавічы Тал.

ШТАКА'Н *м.* Шклянка. *Дайней мы звалі штакан, а тэпэр зовом стакан.* Бастынь Лун.

ШТАКА'НІЦЦА *незак.* Клапаціцца. *Трэбо штаканіцца ж вам аб нас. Ні штаканьцісе ап ім.* Навасёлкі Свісл.

ШТАМАДЗЮ'К *м. асудж.* Неахайны чалавек. *Штамадзюк ты, ня можаш сябе апратаць, ходзіш нірахай, гразный.* Шкураты Браг.

ШТАНДА'РА (штэнда'ра) *ж.* Падстаўка, укапаная пад вугал будыніны. *На штандары кладом пудваліны. Яму копаюць і ставяць штандары.* Бобрыкі Петр. *Зробів штэндары і укопав ў землю.* Бастынь Лун. *Трэбо штандары пуд хату пудвесці.* Тульгавічы Хойн.

ШТОР *м.* Жалезны шпянёк у рагатцы калаўрота. *У рагульцы есь штор, у штору есь горлышка, куды ўдзіваюць нітку.* Сляяўшчына Рас.

ШТУ'ЦІК *м.* Кручок для вязання. *Галоўка тонкая ў штуціку, дрэнна рабіць карункі.* Ністанішкі Смарг.

ШТЫ'БНА *прысл.* Кепска. *От пошыла штыбна платье. Поштыбола-поштыбола платье, аж нельга гледеті.* Бастынь Лун.

ШТЫ'КЛЯ *ж. іран.* Худая жанчына, худая жывёла. *Карова наша штыкля, колькі за яе дадуць? Штыкля ты, кармлю-кармлю, а ты ўсё худая, і плацця на табе, як на калу.* Навасёлкі Свісл.

ШТЭ'МПАЛІ (штэ'мполі) *мн.* Тое, што і штандара. *Накопав ямэй, наставів штэмполей ровно і положыв пудвалкы, а потым кладэмо стэны.* Горск Бяроз.

ШУБА'ЦЬ *незак.* Калыхаць. *Шубала-шубала дзіця, а яно ня сьпіць.* Касталомава В.-Дзв.

ШУГА'ЦЬ *незак.* Тое, што і шубаць. *Ні шугай дзяцёнка, а то ён прывыкніць, і будзіш яго шугаць усё урэмя.* Моханава В.-Дзв.

ШУ'МА *ж.* Пена, якая выступае ў каня пасля цяжкай работы. *Кэнь зашумев — гэта спотэв кэнь. Кэнь став белы ад шумы. Вэн его гнав крэпко, што аж шума выступіла.* Бастынь Лун.

ШУМАВІ'ННЕ (шумовы'нне) *н.* Смецце, якое прыбіваецца вадой да берага. *О тут нэ можно купатыса, бо мнэго шумовыння.* Горск Бяроз.

ШУМЕ'ТНІК *м.* Сметнік. *На шуметнік высыпалі сьмяццё.* Ваўкавічы Тал. *Нясі шуму на шуметнік і высыпай там.* Моханава В.-Дзв.

ШУМЁЛЫ *толькі мн.* Шамкі. *Шумёлы чуваць, ужо сваты едуць.* Моханава В.-Дзв.

ШУПУ'ЛЬ *м.* Шышка. *О, акі грубы ву прынесьлі шупуль.* Бобрыкі Петр.

ШУПУ'ЛЬНІК *м. зборн.* Шышкі. *На хвоі богато шупульніку. Му его собераемо і тоўчом у ступі і сем'е вубіваем.* Бобрыкі Петр.

ШУ'РЫК *м.* Павець. *Зробыв коло хаты шурык, коб було куды дрова ложыты.* Горск Бяроз.

ШУ'СТВА *ж. зборн.* 1. Адходы пры апаланні круп, зерня. *Кутью ополаемо, летіт шуства і пух.* Бастынь Лун. 2. Астаткі пасля прасейвання мукі. *Прасеела авсянку на сіто, і так много шуствы засталоса.* Бастынь Лун.

ШУ'ТА-ШУ'ТА-ШУ'ТА *выкл.* Ужываецца, калі падзываюць авечак. Міратычы Кар.



ШУТ-ШУТ-ШУТ *выкл.* Ужываецца, калі падзываюць авечак. Лешня Кап.

ШЧАВЕ'ЦЬ (шчовэ'ты) *незак.* Кіснуць. *Молоко почало шчовэты.* Горск Бяроз.

ШЧАДРАВА'ЦЬ (шчыдравацъ) *незак.* Спяваць песні пад вокнамі перад Новым годам. *Пайдзём пы хатах шчыдрываць.* Моханава В.-Дзв.

ШЧАКА' (шчэка') *ж.* Месца за чалеснікамі ў печы. *Постаў горшка ў печ за шчэку.* Бобрыкі Петр.

ШЧАЛА'К *м.* Суп з бульбы. *Сёня на вячэру зварыла з адной картофлі шчалака. Налей мне шчалаку.* Навасёлкі Свісл.

ШЧАЛАЧО'К (шчолочо'к) *м.* Тое, што і шчалак. *Наліла одного шчолочку, ты подлый гушчы.* Горск Бяроз.

ШЧАЛГА'ЦЬ *незак.* Лушчыць. *Ідзі, будзім шчалгаць боп.* Ністанішкі Смарг.

ШЧАЛКО'ТА (шчэлко'та) *ж.* Шчыкотка. *Нэ гыдзыгай мэнэ, бо я боюс шчэлкоты.* Горск Бяроз.

ШЧАМЕ'ЛЬ *м.* Чмель. *Укусіў зы палец шчамель.* Моханава В.-Дзв.

ШЧА'НІК *м.* Бочачка. *Пасаліла гуркоў цэлы шчанік.* Бобрыкі Петр.

ШЧАНЬ *м.* Дзяжа. *На зіму наложыла поўнюсенькі шчань варыва.* Бобрыкі Петр.

ШЧАЎЧО'К *м.* Пстрычка. *Ты мне ў карты прыйграў тры шчаўчкі.* Моханава В.-Дзв.

ШЧАЧЫ'ННЕ (шчачы'ння) *н. зборн.* Шчацінне. *Раней сьвіней кармілі мякінай, дык у іх расло шчачыння.* Ваўкавічы Тал.

ШЧО'САК *м.* Жменя чэсанага лёну. *Палуйка дзеліцца на шчоскі. Шчосак накручваюць на пальцы і чэшуць шарсцяной шчоткаю.* Міратычы Кар.

ШЧО'ТКА I (шчэ'тка) *ж.* Доўгая шэрсць над капытамі (у каня). *Ззаду ў коня коло копытэв е шчэтка.* Азарычы Пін. *У коня над копытом есь шчотка.* Бобрыкі Петр. *На ногэ вышай копыта есть шчотка. Густые шчоткы на ногах у коня.* Горск Бяроз.

ШЧО'ТКА II (шчэ'тка) *ж.* Стрыхоўка. *Лепей шчоткаю раўнуйце салому, а то стрэха кепская будзя.* Навасёлкі Свісл. *Пат шчотку хату крылі.* Ваўкавічы Тал. *Вазьмі шчэтку і ровняй солому, каб красіва была стрэха.* Бастынь Лун.

ШЧО'ТКА III (шчэ'тка) *ж.* Сівец. *От пошов косіті, а там одна шчэтка, шчо моя коса нэ бэрэ.* Азарычы Пін.

ШЧО'ТНІК (шчо'тнэк) *м.* Сівец. *Шчотнэк твэрды, ёго коса нэ бэрэ.* Горск Бяроз.

ШЧО'ЎКАЦЬ *незак.* Пстрыкаць. *Пірыстань ты шчоўкаць шчаўчкі, а то я табе шчоўкну.* Моханава В.-Дзв.

ШЧО'ЧКА (шчэ'чка) *ж.* Бакавая частка ў церніцы. *У тэрніцы двэ шчэчкі і одэн по сэрэдынэ язычок.* Азарычы Пін.

ШЧУБО'КНУЦЬ *зак.* Кінуцца ў ваду. *Ён шчубокнуўся з берага ў ваду і паплыў.* Моханава В.-Дзв.

ШЧУПУ'ЛЬКА *ж.* Жаўлак. *На шыі була шчупулька малая, а тэпэр вэліка выросла.* Бастынь Лун.

ШЧУР *м.* Пацук. *Дужэ мнэго завэлоса шчурэв.* Азарычы Пін.

ШЧЫК *м.* 1. Верхавіна. *Гэ, ёрка аж на самуй шчык залезла.* Бобрыкі Петр. *Зрэзалі хвою, одрэзалі калоду, а шчык пакінулі.*

Жахавічы Маз. 2. Макаўка (галавы). *Так даў по голове, па самум шчыку.* Бобрыкі Петр. 3. Плеш. *Ён ужэ сторык: у его на голове е шчык.* Бобрыкі Петр.

ШЧЫНЯ'ЦЬ I (шчыня'ті) *незак.* Зганяць, змятаць, вымятаць калоссе з абмалочанага жыта. *Жыто по току рассыплем, тогды шчыняем вэніком і граблямі.* Азарычы Пін.

ШЧЫНЯ'ЦЬ II (шчэня'тэ) *незак.* Пластаваць сена. *Ідэмо сыно шчэнятэ. Я буду шчэнятэ сыно.* Дзмітравічы Кам.

ШЧЫРАВА'ЦЬ *незак.* Зраўноўваць з берагамі (меркі). *Раней ніколі ня веслі, а толькі шчыравалі.* Шкураты Браг.

ШЧЫ'РЫЦЬ *незак.* Тое, што і шчыраваць. *Бувала насыпалі палумерачак поўный, а тады браў дошчачку і шчырый, кеб було роўна із краямі полумерачка.* Шкураты Браг.

ШЧЫТ *м.* Тое, што і шчык у 1-м знач. *У шчыту ў самум сядзіць вавіёрка.* Ізрэзаў сасну, адрубіў ад яе шчыт. Шкураты Браг.

ШЧЫ'ТНІК *м.* Сівец. *Шчытнік ні каса ні бярэ, ні каровы ні ядуць.* Сімакава Кар.

ШЧЫТО'ЧАК *м.* Кончык пальца. *От падрэзала ногці аж за жывоя, аж шчыточак баліць.* Шкураты Браг.

ШЧЫШЧА'ЦЬ (шчышча'ті) *незак.* Зганяць, змятаць, вымятаць калоссе з абмалочанага жыта. *Жыто змолотілі, а тэпэра буду шчышчаць мэтлой колосы.* Бастынь Лун.

ШЧЭ'БЛА *н.* Лёстка ў лесвіцы. *Зрабіў драбіны, алі шчэбла далёка адно ат другога, кепска лесьці.* Паляцкішкі Вор.

ШЧЭ'ЛЕПЫ (шчэ'лепу) *толькі мн.* Сківіца. *Як пачаў ірваць зубу, дак чуць шчэлепу не развярнуў.* Шкураты Браг. *Так усох, што толькі осталіса сухіе шчэлепу.* Бобрыкі Петр. *Ён як рассердзіццэ, дак шчэлепу так і іграюць.* Тульгавічы Хойн.

ШЧЭ'ЛКА *ж.* Шчыліна. *Трэба зыкыныпаціць гэту шчэлку, кап вецер ня дуў.* Моханава В.-Дзв.

ШЧЭ'НАК (шчэ'нок) *м.* Пласт сена. *Трэбо шчэнок шчэнятэ.* Дзмітравічы Кам.

ШЧЭ'РБА *ж.* Шчарбіна. *Вырваў наперадзі зуп, а цяпер шчэрба і некрасіва.* Моханава В.-Дзв.

ШЫБАДА' *ж. зборн.* Ігліца. *Дужо мнэго насыпалос шыбады пыд хвэйкэй.* Горск Бяроз.

ШЫ'ЙКА I *ж.* Прамежак паміж комінам і сценкай. *Глядзі, там макацёрчык стаіць на шыйцы ля коміна.* Шкураты Браг. *У шыйцы ля коміна лежыць лучына.* Бобрыкі Петр.

ШЫ'ЙКА II *ж.* Верхняя вузкая частка ў збанку. *Шыйка ў збанковы гузкая, рука нэ улазыт.* Горск Бяроз.

ШЫ'ЙКА III (шэ'йка) *ж.* Шчыкалатка. *Конь зьвіхнуў нагу ў шэйкі. Шэйка находзіцца вышы капыта.* Барыскі Лаг.

ШЫЛЛЁ (шыльлё) *н. зборн.* Ігліца. *Вазьмі граблі і ідзі награбі шыльля, карове падаслаць. Трэба ш ісьці ў пасатку награпсьці шыльля, а то німа чаго ў хлеў пасьцяліць.* Заазер'е Віл.

ШЫ'ЛЬНІК *м. зборн.* Тое, што і шыллё. *Я разгроп шыльнік, аш гляжу, там баравічок расьце.* Альхоўка Навагр.

ШЫП I *м.* Драўляны гвозд. *Узяў дошкі і пызбіваў шыпамі. Гэты шып тоўсты.* Моханава В.-Дзв.

ШЫП II *м.* Гронка (арэхаў). *От орэхо'ў, а шыпоў-шыпоў богато. У шыпу аж шэсь орэхоў.* Бобрыкі Петр.

ШЫПЕ'Х I *м.* Шышак пчол. *На калодзі сягодні пчолы цэлымі шыпехамі седзяць.* Тульгавічы Хойн.



ШЫПЕ'Х II *м.* Гронка арэхаў. *Нарваў арахо'ў цэлу торбачку, бо яны цэлымі шыпехамі растуць.* Тульгавічы Хойн.

ШЫПУЛЁК *м.* Кіёк. *Маленькі шыпулёк укладваяцца ў разьвіўку і матаюць ніткі на рагошку.* Навасёлкі Свісл.

ШЫХАВА'ЦЦА (шыхова'тыса) *незак.* Рыхтавацца. *Пайду, буду шыховатыса, узавтра поеду на ермачок.* Горск Бяроз.

ШЫХАВА'ЦЬ (шыхова'ті, шыховаты) *незак.* Гатаваць. *Пайду сьвінням шыховаті, а то вонэ проголодаліса.* Азарычы Пін. *Тады ідыь мамо, шыховаты обэд.* Горск Бяроз.

ШЫ'ШКА I *ж.* Гронка (арэхаў). *На ляшчыне вісяць бальшыя шышкі арэхаў. У шышцы многа арэхаў. Па дзесяць штук у кожнай шышцы.* Барыскі Лаг. *Арахі' шышкамі сядзяць.* Шкураты Браг. *Цэлу шышку купіў вінограду.* Азарычы Пін.

ШЫ'ШКА II *ж.* Грэбень (у курыцы). *Яшчэ кура ня квокча, шышка красная.* Шкураты Браг.

ШЫ'ШКА III *ж.* Пладаносная частка проса. *Шышка ў просі ўмалотная. Шышкі ў просі малоцім палкай ны плахі, рукам аббівалі.* Сяляўшчына Рас.

ШЫ'ШКІ *мн.* Аздоба на вясельным каравае. *На вяселя пяклі шышкі с крута замешанага цэста і раздавалі дзецям на вяселі, кап помнілі дзеці вяселя.* Навасёлкі Свісл.

ШЫ'Я *ж.* Тое, што і шыйка I. *Там ля коміна, у шые, лежаць запалкі і пудпалкі дрова пудпальваць.* Бобрыкі Петр. *Соль стаіць на шыі, ля коміна. Ву пастаўце макацёрчык у шыю.* Шкураты Браг.

ШЫЯ'НКА *ж.* 1. Маленькая скрыначка, сплеценая з саломы і лазы. *Із соломы лозою вышыла шыянку. У шыянку бабы кладут клубкы, цэвкы, ніткы.* Горск Бяроз. 2. Вялікая пасудзіна для збожжа, сплеценая з саломы і лазы. *Шыянка ісплетэна із соломы. Шыянкы булі вэлікые і малые, на 5—10 пудоў. Шыянку шыют із соломы і драчкамы із лозы.* Горск Бяроз.

ШЭ'ПКА *ж.* Ігліца. *Прывэзэтэ шэпкі свэнкі подослатэ.* Дзмітравічы Кам.

ШЭ'ХВА *ж.* Малярыя. *Хвора на шэхву.* Бастынь Лун.

## Ю

ЮР *м.* Вір. *Ні плыві далей, там юр, утопісса.* Бастынь Лун.

ЮРО'К *м.* Невялікая палачка з засечкамі на канцах для звівання нітак. *Узялі юрок і трыстіте ніткі, іх трэбо сукаті.* Бастынь Лун. *Юрком намотав чашку на клубковы.* Горск Бяроз. *Пазыч мне юрка, буду трысьціць ніткі на клубок.* Казлы Міёр, *Уцягні нітку ў юрок і трысьці на клубок ніткі, а тады будзім сучыць.* Моханава В.-Дзв. *Юрком мыталі ніткі на даропку.* Вароніна Рас.

ЮСЬ *выкл.* Ужываецца, калі адганяюць свіней. Моханава В.-Дзв.

ЮХА' I *ж.* Кроў. *Так даў по голове, аж по самум шчыку, што аж юха поліласа.* Бобрыкі Петр.

ЮХА' II *ж.* Квашаніна. *Наварыла юхі із анных ног.* Жахавічы Маз.

Ю'ХЦІНА *ж.* Юшка (у печы). *Вазьмі юхціну і закрый комін.* Вароніна Рас.

ЮʹШКА *ж.* 1. Тлушч ад пераскваранага сала. *Я спэкла сало, юшку выліла, а швэды оставіла.* Азарычы Пін. 2. Вадкая частка страʹвы. *Наліла мне однэй юшкі, а кому гушча?* Бастынь Лун.

# Я

ЯʹБЛЫЧКА (яʹблычко) *н.* Каленны сустаў, рэпка. *Ударыла колено, ды в само яблычко. Ой, боліт.* Азарычы Пін.

ЯʹВАРНІК (яʹвэрнік) *м.* Асіннік. *Мы зовэм осіннік і явэрнік, де ростеть осіна.* Бастынь Лун.

ЯВЁРКА (евёрка) *ж.* Вавёрка. *На хвэйцы сыдыт евёрка.* Горск Бяроз.

ЯГАНЁ *н.* Ягня. *Авечка акацілася і прывяла адно яганё. Трэба ўзяць ягня ў хату.* Ністанішкі Смарг.

ЯГНЮʹК *м.* Тое, што яганё. *Малы ягнюк, шчэ дзве нядзелі.* Паляцкішкі Вор.

ЯГОʹДКА *ж.* Кончык пальца. *Болят мнэ ягодкы у пальцэх. Ягодка находыцца коло позура, на кончыку пальца.* Горск Бяроз.

ЯГОʹДКІ *мн.* Чырвоныя плямы на твары. *У его часто выступають ягодкі, колі вэн говорыт.* Бастынь Лун.

ЯГРЭʹСТ *м.* Агрэст. *Ягрэст дужэ кіслый.* Бобрыкі Петр.

ЯʹДЗЕРКА-ПЯʹДЗЕРКА *ж.* Божая кароўка. *Ядзерка-пядзерка, што будзе: ці дошч, ці пагода? Як пагода, то пучшу, як дошч, ўтоплю.* Старае Сяло Зэльв.

ЯʹДЗЕРКА-СОʹНЕЙКА (яʹдзерко-соʹнейко) *н.* Тое, што ядзерка-пядзерка. *Ядзерко-сонейко, паляці на непко, прынясі мне хлепко!* Лукі Кар.

ЯДЛАВЕʹЦ *м.* Ядловец. *Ядлавец тут не расце.* Навасёлкі Свісл.

ЯʹДРАНЫ *прым.* Звонкі (пра голас). *От у яе дзеўкі ядраны голас.* Тульгавічы Хойн.

ЯДУʹШЛІВЫЙ *прым.* Удушлівы. *О, гэ, які вэн ядушлівый, ніяк нэ дышыцца, ідэт і сопэт.* Азарычы Пін.

ЯЕʹРНІК *м.* Аер. *Ідзі ў пелю і нарві яерніку.* Бобрыкі Петр.

ЯЁРКА (еёрка) *ж.* Вавёрка. *Гэ, еёрка аж на самуй шчыт залезла.* Бобрыкі Петр. *На хвойцы сядзела яёрка.* Міратычы Кар. *Яёрка прыгае па хвойцы.* Старае Сяло Зэльв.

ЯʹЖДЖАР *м.* Асака, якая пачынае расці ранняй вясной. *Яшчэ сьнех ляжыць, а яжджар ужо расцець, яго ядуць каровы вясной.* Сяляўшчына Рас.

ЯЗЫʹК (езыʹк) *м.* Верхняя рухомая частка церніцы. *Езыком мы зовэм вэрхнюю часть мялкі.* Бастынь Лун.

ЯЗЫЧОʹК (езычоʹк) *м.* 1. Тое, што і язык. *У тэрніцы две шчэчкі і по сэрэдэне язычок тэрті лён.* Азарычы Пін. 2. Вузкая скураная палоска ў чаравіках пад шнуроўкай. *Одорвавса язычок у чэрэвіку.* Азарычы Пін. 3. Жалезная пласцінка, пры дапамозе якой падымаецца і апускаецца клямка ў дзвярах. *У дзвярах е западня. Западня лежыць на язычку, а язычок пуднімае западню.* Бобрыкі Петр. *У клямцы язычок падымае западеньку.* Бастынь Лун. *Нажмі на язычок, клямка падыміцца.* Моханава В.-Дзв.

ЯКАНОʹМКА *ж.* Аканомка. *Була у пана і яканомка.* Бастынь Вор.

ЯКГОʹЦЬ *прысл.* Чуць, ледзь. *Во налажыў сена на вос, конь якгоць валачэ. Цяжка, конь якгоць вязе.* Навасёлкі Свісл.

ЯʹМКА I *ж.* Упадзіна ў верхняй пярэдняй частцы грудной клеткі. *Дзярэ кашаль у ямцы.* Міратычы Кар.

ЯʹМКА II *ж.* Пячурка. *Азьмі кіveню і заграбі жар у ямку.* Бобрыкі Петр.

ЯРГІʹНЯ (ергіʹня) *ж.* Вяргіня. *Я у гэтым году насаділа много ергіні.* Бастынь Лун.

ЯРОʹТ (ероʹт) *м.* Ярмо. *Ерот лежыць на шыі ў волоў, а кульбака пуд шыей. У ероце дзірочка і ў кульбацы.* Бобрыкі Петр.

ЯРЭʹМЕЦ (ерэʹмец) *м.* Тое, што і ярот. *Волы ў пару золыгаті і ў ерэмец запрэгаті.* Бастынь Лун.

ЯʹСЕЧКА *ж.* Невялічкая падушачка. *Вазьміце ясечку і прыляшце, аддахніце.* Ністанішкі Смарг.

ЯʹСІК *м.* Тое, што і ясечка. *Мама, дай ясік, я палажу сабе пад галаву.* Ністанішкі Смарг.

ЯʹСЛА *ж.* Дзясна. *Зуба вырвала, і ясла распухла і боліт.* Горск Бяроз.

ЯʹСНА *ж.* Тое, што і ясла. *Зубы сідят у яснах. Заболелі ясны. Зубы вырваслі ў мэнэ, і ясны нэ болелі.* Азарычы Пін.

ЯʹТКА *ж.* Пячурка. *Выграбі жар із печы ў ятку.* Шкураты Браг.

ЯЧАʹЙ *м.* Дзірка ў верхнім камені жорнаў для засыпкі збожжа. *У верхнім камені ячай, у ячай мы сыпім зерне і мелім.* Сяляўшчына Рас.

ЯʹЧАННЕ (яʹчання) *н.* Ячнішча. *Ячмень жжалі, а ячання асталося.* Барыскі Лаг. *Каровы ны ячанні ходзюць.* Ваўкавічы Тал.

ЯЧАЯʹ (ечыʹя) *ж.* Тое, што і ячай. *Ечыя есть у жорнах у верхнім камені.* Бастынь Лун.

ЯЧМЕʹНІСКА (ячмеʹніско, ечмэʹныско) *н.* Тое, што і ячанне. *Рос ячмень, а ак жжалі, засталосё ячменіско.* Міратычы Кар. *Трэба ўзараць ячменіска.* Навасёлкі Свісл. *Жані овзчкыʹ на ечмэныско.* Горск Бяроз.

ЯЧМЕʹНІШЧА (ячмеʹнішчо) *н.* Тое, што і ячанне. *Гані авечак на ячменішча, ячмень ужо убралі.* Альхоўка Навагр. *Ячмень скасілі, асталося ячменішчо.* Старае Сяло Зэльв.

ЯЧМЕʹНКА *ж.* Ячная салома. *Ідзі прынясі ячменкі і падкінь карове.* Ністанішкі Смарг.

ЯЧМЯʹНІШЧА *н.* Тое, што і ячанне. *Пасвіў авечак на ячмянішчы.* Ністанішкі Смарг.

ЯʹЧНІСКА (яʹчніско) *н.* Тое, што і ячанне. *Ячмень убралі, остолосо ячніско.* Азарычы Пін.

ЯЧНЯʹНКА *ж.* Тое, што і ячанне. *Пасвіў карову на ячнянцы.* Паляцкішкі Вор.

ЯЧЭʹЙКА *ж.* Тое, што і ячай. *У верхнім камяні ёсць ячэйка сыпаць збожжа, калі мелюць.* Якубова Рас.

ЯʹШЧЫК *м.* 1. Драўляная пасудзіна для масла. *Узялі ў яшчык масло на полудзнь. Яшчыкы булі чэтвэрть- і повлітровые.* Горск Бяроз. 2. Дашчаны насціл у жорнах, на якім ляжыць ніжні камень. *Зрабіў у жорны яшчык, а ў яшчыку зрабіў акно для ссыпу мукі.* Барыскі Лаг. 3. Аконная шуфляда. *У вокновы, у яшчыковы есть штыры часті. Сподняя часть — сподак. На сподак ставят два стоякы, а на стоякы кладэцца шапка, гэто усэ зовэцца яшчэком.* Горск Бяроз.

# ЗМЕСТ




ЛЮБОВЬ ФЕДОРОВНА ШАТАЛОВА. **БЕЛОРУССКОЕ ДИАЛЕКТНОЕ СЛОВО.** На белорусском языке. Издательство «Наука и техника». Минск, Ленинский проспект, 68.

Рэдактар *Л. Н. Зайцава.* Мастак *А. А. Чугункін.* Мастацкі рэдактар *Л. І. Усачоў.* Тэхнічны рэдактар *І. П. Ціханава.* Карэктар *Н. Г. Баранава.* Друкуецца па пастанове РВС АН БССР. АТ 11323. Здадзена ў набор 19.VIII 1975 г. Падпісана да друку 26.XI 1975 г. Фармат 84×108[1]/32. Папера друк. № 2. Друк. арк. 6,5. Ум. друк. арк. 10,92. Уч.-выд. арк. 13,2. Выд. зак. 20. Друк. зак 1598. Тыраж 1100 экз. Цана 49 к. Друкарня імя Францыска (Георгія) Скарыны выдавецтва «Навука і тэхніка» АН БССР і Дзяржкамітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Ленінскі праспект, 68.